Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1941 гг.

Ігар Мельнікаў



Бібліятэчка
«НОВАГА ЧАСУ»

Ігар Мельнікаў

# ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ АТЛАНТЫДА 1921–1941 гг.



Ігар Мельнікаў

# Заходнебеларуская Атлантыда
## 1921–1941 гг.

2-е выданне, дапрацаванае

Мінск
«Галіяфы»
2015

УДК 94(476)"1921/1941"
ББК 63.3(4Беи)6
М48

**Мельнікаў І.**

М48 Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1941 гг. / І. Мельнікаў. — Мінск : Галіяфы, 2015. — 428 с.: іл.
ISBN 978-985-7021-75-8.

Кніга прысвечаная малавядомым старонкам гісторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны час. У савецкія гады мінулае заходнебеларускіх тэрыторый вывучалася досыць аднабакова, а шмат якія гістарычныя сюжэты заставаліся па-за ўвагай даследчыкаў. З цягам часу гісторыя гэтых тэрыторый ператварылася ў «Атлантыду», пра якую сучаснае беларускае грамадства амаль нічога не ведае. Дадзеная кніга і звяртае ўвагу чытача на невядомыя аспекты мінуўшчыны Заходняй Беларусі ў 1920–1940-я гады.

**УДК 94(476)"1921/1941"**
**ББК 63.3(4Беи)6**

**ISBN 978-985-7021-75-8**

*Прысвячаю сваім бацькам*
*Алене Юр'еўне*
*і Вячаславу Харытонавічу*
*Мельнікавым*

# З кагорты свабодных

Гісторыю пішуць пераможцы. Але насуперак палітычнаму дыктату пераможцаў, заўсёды знаходзяцца гісторыкі, якія імкнуцца пісаць аб'ектыўную гісторыю.

Найбольшы ўзровень аб'ектыўнасці — у дэмакратычна арганізаваным грамадстве. Найменшы — да нулявога і адмоўнага — у таталітарным. Між гэтымі палярнымі магчымасцямі дысбаланс гістарычнай праўды-няпраўды і, адпаведна, свабоды навуковага пошуку і думкі гісторыка вызначаецца ўзроўнем жорсткасці аўтарытарнага рэжыму.

Савецкая гістарыяграфія — гэта наскрозь палітычна кантралюемая, ідэалагічна прасякнутая, паслядоўна сфальсіфікаваная карціна мінуўшчыны. Штучныя белыя плямы і чорныя дзіры гісторыі, камуфляж гістарычных міфаў закрываюць цэлыя стагоддзі і кантыненты.

Беларуская сучасная гістарыяграфія падзеленая на два лагеры — афіцыйны і незалежны. Афіцыйны ўтрымліваецца ў палоне савецкіх міфаў і забаронаў. Незалежны спавядае свабоду думкі і аб'ектыўнае даследаванне. Сёння гэта ўжо дастаткова заўважная ў Беларусі плынь са сваім важкім набыткам бадай што па кожнаму з гістарычных перыядаў.

Ігар Мельнікаў належыць да гэтай слаўнай незалежніцкай кагорты беларускіх гісторыкаў — адраджэнцаў гістарычнай праўды. З ім рэдакцыя пазнаёмілася ў лютым 2012 года і запрасіла да супрацоўніцтва. Творчае сяброўства наша аказалася плённым. Аўтар пісаў — мы друкавалі, паступова адкрываючы чытачу заходнебеларускую Атлантыду міжваеннага перыяду і не толькі. Так нарыс за нарысам і скла́ліся ў кнігу, дзве трэці з якіх друкаваліся на старонках нашай газеты і сайта.

Гэта другая кніга ў бібліятэчцы «Новага часу». Мы зычым аўтару новых творчых поспехаў. Таму што справа пошуку гістарычнай праўды ў Беларусі па-ранейшаму далёка не простая і не зусім бяспечная. Яна патрабуе грамадзянскай смеласці. Дастаткова ўзгадаць, што падрыхтаваная Ігарам у верасні 2014 года выстава «Заходнебеларуская Атлантыда» ў музейна-выставачным комплексе ДУ «Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе» была зачынена па патрабаванні абласнога ідэолага.

Наш вопыт супрацоўніцтва з Ігарам Мельнікавым, іншымі беларускім гісторыкамі пацвярджае даўно вядомую ісціну — гістарычную праўду навечна не схаваеш.

*Аляксей Кароль,*
*галоўны рэдактар «Новага часу»,*
*кандыдат гістарычных навук*

# Ад аўтара

Доўгі час гісторыя заходніх абласцей Беларусі ў міжваеннае дваццацігоддзе разглядалася вельмі абмежавана. На гэта ўплывала палітычная кан'юнктура савецкага перыяду, якая рабіла акцэнт на тэматыцы класавай барацьбы і ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Між тым, гісторыя Заходняй Беларусі ў міжваенны час значна больш багатая і цікавая. Так, жыццё тут было не надта багатым, але жыхары мелі розныя магчымасці, каб зарабіць грошы. Адны ціха працавалі на пана, другія вырашалі паехаць на заробкі ў Латвію, Эстонію ці далёкую Аргенціну.

Заробленыя грошы людзі неслі ў банкі, якіх было досыць шмат на тэрыторыі Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводства. Калі сродкаў хапала — ішлі ў крамы і куплялі адзенне вядомых на той час брэндаў. Пазней, у верасні 1939 года, чырвонаармейцаў, якія прыйдуць «вызваляць» гэтыя землі ад «панскага прыгнёту», вельмі здзівіць еўрапейскі выгляд звычайных жыхароў Заходняй Беларусі. Як і ў кожнай краіне, у II Рэчы Паспалітай былі свае геніі злачыннага свету, махляры, жорсткія забойцы, а ў Вільні існавала нават свая мафія.

Пасля нападу Германіі на Польшчу ў верасні 1939 года значная колькасць беларусаў апранула на сябе мундзіры Войска Польскага і разам з палякамі ўдзельнічала ў шматлікіх бітвах Вераснёўскай кампаніі. 17 верасня 1939 года пачаўся «вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну», у выніку якога гэтыя тэрыторыі апынуліся ў складзе Савецкага Саюза. На працягу амаль двух гадоў (да нападу Германіі на СССР у чэрвені 1941-га)

на захадзе БССР прайшло некалькі хваляў дэпартацый і рэпрэсій, ахвярамі якіх сталі дзясяткі тысяч беларусаў. Шмат хто быў расстраляны, іншыя апынуліся ў ГУЛАГу.

Пра гэта і яшчэ пра шмат іншых сюжэтах гісторыі Заходняй Беларусі — мая кніга. На яе старонках чытач пазнаёміцца з лёсамі звычайных беларусаў, якім выпала жыць у няпростыя гады. Менавіта з гэтых людскіх лёсаў і складаецца гісторыя нашай Беларусі.

Акрамя гэтага ў кнізе апублікаваны артыкулы, прысвечаныя малавядомым сюжэтам мінулага Беларусі — Касцюшку і Міцкевічу, Бабруйску і Вільні, Каліноўскаму і Мураўёву. Падаецца, што і гэтая частка кнігі, якую спадарства трымае ў руцэ, таксама вас зацікавіць.

# Юзаф Пілсудскі і Беларусь. Нешаблонны погляд

Постаць «начальніка польскай дзяржавы» да сённяшняга дня неадназначна ўспрымаецца ў беларускім грамадстве. Савецкая дактрына разглядала Пілсудскага як аднаго з галоўных ворагаў «краіны рабочых і сялян», называючы маршала «ланцуговым сабакам імперыялізму і капіталізму». Беларуская дзяржаўная ідэалогія таксама паўтарае гэтыя замшэлыя пастулаты. Паспрабуем разабрацца ў тым, якой хацеў бачыць нашу частку еўрапейскага кантыненту Юзаф Пілсудскі.

У 1918 годзе Польшча стала незалежнай. Пілсудскі імкнуўся аднавіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 года, гэта значыць, з беларускімі, украінскімі і літоўскімі землямі. Сам маршал любіў паўтараць фразу: «Польшча — як бублік. Пасярэдзіне дзірка, а самае смачнае па краях, на крэсах». Народжаны на Віленшчыне, Пілсудскі меў сантыменты да ўсходніх тэрыторый І Рэчы Паспалітай. Менавіта гэтым тлумачыцца і яго эмацыянальная адозва «Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага», якую ён выдаў 22 красавіка 1919 года ў Вільні. У ёй у прыватнасці адзначалася: *«Я хачу даць вам магчымасць вырашэння спраў унутраных, нацыянальных і рэлігійных так, як вы самі гэтага пажадаеце, без гвалту альбо ціску з боку Польшчы»*.

Віленская адозва аказала вялікае ўражанне на беларускіх нацыянальных дзеячаў. Беларускі друк у Мінску і Вільні пісаў аб гістарычнай супольнасці палякаў і беларусаў, дзякаваў за вызваленне з-пад расійскага імперыялізму, выказваў спадзяванне на дапамогу Пілсудскага ў пабудове

незалежнай беларускай дзяржавы. 19 верасня Пілсудскі ў Мінску прыняў дэлегацыю беларускіх нацыянальных дзеячаў на чале са старшынёй Рады БНР Язэпам Лёсікам. Маршал заверыў беларусаў, што ён з'яўляецца прыхільнікам беларускай справы.

Аднак не трэба думаць, што Юзаф Пілсудскі ва ўсходнім пытанні (і ў беларускім яго кантэксце ў прыватнасці) быў бязмежным альтруістам. Маршал быў глыбокім і цвярозым прагматыкам. Паводле яго меркаванняў, у выніку савецка-польскай вайны павінны былі паўстаць незалежныя беларуская, літоўская і ўкраінская дзяржавы, звязаныя з Польшчай на правах федэрацыі. Польскі гісторык Марэк Корнат лічыць, што Пілсудскі быў не столькі федэралістам, колькі прыхільнікам ідэй «рэальнай палітыкі». Паводле даследчыка, маршал рабіў моцную стаўку на стварэнне незалежнай украінскай дзяржавы, якая пад уплывам небяспекі з усходу будзе цягнуцца да Польшчы. Пілсудскі быў скептычна настроены ў дачыненні да перспектыў стварэння беларускай незалежнай дзяржавы. Па меркаванні «начальніка польскай дзяржавы», лягчэй было б стварыць сумесную літоўска-беларускую дзяржаву, якая па сваёй сутнасці стала б новым ВКЛ. Стратэгічнай мэтай федэралістычнай палітыкі маршала было стварэнне памежнага буфера, які б засцерагаў Польшчу ад небяспечнага суседа на ўсходзе.

Пілсудскі лічыў, што яго федэралізм можа прывесці да геапалітычных зменаў ва Усходняй Еўропе, у выніку якіх польская дзяржава атрымае магчымасць устаць на ногі ў палітычным і эканамічным сэнсах, а ўсходнія суседзі будуць вернымі хаўруснікамі і «памежнай аховай». Маршал быў упэўнены, што Польшча павінна выкарыстаць свае «пяць хвілін», каб у будучым забяспечыць стабільнасць у гэтым рэгіёне.

Аднак усё пайшло не так, як планаваў «бацька» ІІ Рэчы Паспалітай. 18 сакавіка 1921 года ў Рызе была падпісана мірная дамова, якая скончыла савецка-польскую вайну. У яе выніку ў склад Польшчы ўвайшлі Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна. Гэтых тэрыторый, безумоўна, не хапала для стварэння буферных дзяржаў Беларусі і Украіны. Да таго ж,

трэба было ўлічваць антыпольскія настроі ў Літве, якая не жадала ісці на саюз з Польшчай. Такім чынам, перамагла «інкарпарацыйная канцэпцыя» Рамана Дмоўскага, паводле якой Польшча павінна была ўключыць у свой склад тэрыторыі, якія ўваходзілі ў склад І Рэчы Паспалітай да другога падзелу ў 1793 года. Дмоўскі быў перакананы, што нацыянальная самасвядомасць беларускага і ўкраінскага народаў не развітая, і дзякуючы гэтаму дадзеныя этнічныя групы лёгка ўдасца паланізаваць. Лідар нацыянал-дэмакратычнай партыі не падзяляў ідэю Пілсудскага аб Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Ён выказваўся за далучэння да польскай дзяржавы Вільні і Львова і той часткі ўсходніх тэрыторый, дзе, па яго меркаванню, *«дамінаваў польскі нацыянальны элемент»*.

Выйграўшы вайну з бальшавікамі, Пілсудскі прайграў унутрыпалітычную барацьбу. У выніку савецка-польскай вайны Польшча атрымала не толькі тэрыторыі на ўсходзе, але і даволі працяглую мяжу з небяспечнай Савецкай Расіяй, якая не магла дараваць Пілсудскаму тое, што ён не пусціў палкі Будзённага і Тухачэўскага ў Еўропу. У той час, як савецкія дыверсанты ў Заходняй Беларусі грамілі польскую адміністрацыю і забівалі паліцыянтаў, спрабуючы выклікаць у гэтым рэгіёне «рэвалюцыйную сітуацыю», савецкая прэса пісала аб тым, што Польшча рыхтуе новую вайну супраць СССР. Бальшавіцкія газеты стракацелі карыкатурамі кшталту «Пілсудскі точыць зубы на СССР». Аднак сам маршал добра разумеў, што Савецкая Расія ўзору другой паловы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў — гэта моцны і небяспечны праціўнік. Новая вайна з бальшавікамі магла дорага каштаваць Польшчы.

Мала хто ведае, што ў чэрвені 1926 года міністр замежных спраў Польшчы Аўгуст Залескі арганізаваў сустрэчу Пілсудскага з савецкім паслом у Варшаве Пятром Войкавым. Падчас размовы з дыпламатам маршал сказаў: «*Я ведаю, што ў вашай краіне многія лічаць, нібыта я рыхтую новую вайну супраць Расіі. Які інтарэс Польшча можа мець у новай вайне? Наша галоўная мэта — гэта рэканструкцыя польскай эканомікі. Мы не маем аніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да Расіі і не збіраемся звяргаць камуністычную ўладу*

*ў вас. Чаму? Таму што любая іншая палітычная сістэма будзе больш небяспечнай для Польшчы, чым існуючая зараз. Я асабіста, у выпадку вайны, таксама панясу страты. Зараз я пераможца, а ў выпадку новай вайны рызыкую страціць гэтую пазіцыю».*

Гэтыя словы Пілсудскага падаюцца шчырымі. Маршал разумеў, што яго краіне трэба зрабіць даволі шмат, каб з «задворкаў Еўропы» стаць моцным гульцом на еўрапейскай палітычнай арэне. Што ж тычыцца спроб інтэграцыі Заходніх Беларусі і Украіны з Польшчай, то, як вядома, вырашэнне гэтага пытання з дапамогай палітыкі паланізацыі і каланізацыі праз асадніцтва дало адмоўны вынік. Украінцы і беларусы адкрыта сталі змагацца супраць польскіх улад, і скончылася гэта вітальнымі брамамі, якімі сустракалі жыхары «ўсходніх крэсаў» Чырвоную Армію ў верасні 1939 года.

...Гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Але мапа Усходняй Еўропы, напэўна, выглядала б інакш, калі б перамагла федэралісцкая канцэпцыя Юзафа Пілсудскага і замест «крэсаў» і марыянеткавых савецкіх рэспублік з'явіліся б незалежныя дзяржавы, няхай і звязаныя з Польшчай агульнасцю палітычных і эканамічных інтарэсаў.

Да сённяшняга дня ў беларусаў неадназначнае стаўленне да постаці «начальніка польскай дзяржавы», і ўвогуле да ІІ Рэчы Паспалітай. Але на тэрыторыі нашай краіны захаваўся самы сапраўдны помнік Юзафу Пілсудскаму. У Вілейцы на тэрыторыі адной з устаноў стаіць вялізны камень, пастаўлены ў гонар маршала ў 1935 годзе. Першапачаткова помнік стаяў каля школы ў вёсцы Буцькі. У верасні 1939-га камень быў вывезены ў поле і праляжаў там да 2004 года, калі супрацоўнікі польскай амбасады ў Мінску пажадалі размясціць яго каля будынку свайго дыппрадстаўніцтва. Палякам у гэтым адмовілі, але помнік перавезлі ў Вілейку.

Патрыёт Польшчы Юзаф Пілсудскі ў глыбіні душы захаваў вялікую павагу і любоў да былога Вялікага Княства Літоўскага і яго народаў. Аднак геапалітычныя рэаліі пачатку ХХ стагоддзя паклалі свой адбітак на дзейнасць «начальніка польскай дзяржавы» і прымусілі яго адмовіцца ад свайго бачання будучыні Усходняй Еўропы.

# Неабвешчаная вайна 1920-х гадоў у Заходняй Беларусі

Амаль адразу пасля заканчэння савецка-польскай вайны Разведвальнае ўпраўленне РСЧА (далей Разведупр РСЧА) пачало стварэнне і перакідку на тэрыторыю ўсходніх ваяводстваў Польшчы атрадаў баевікоў для арганізацыі там масавага ўзброенага супраціву польскім уладам. Разлік быў просты: прафесійныя чэкісты ўскалыхнуць масы, і ў выніку рэвалюцыйнага выступу бальшавікі вернуць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ў склад краіны Саветаў. Дзейнасць такіх партызанскіх атрадаў атрымала назву «актыўная выведка».

На тэрыторыі савецкай Беларусі фармаваліся так званыя «паўстанцкія групы». Для іх вельмі старанна падбіраўся камандны склад. Каля дзяржаўнай мяжы ствараліся спецыяльныя вокны для перакідвання дыверсантаў. Ва ўсходняй частцы Палескага і паўднёвай частцы Навагрудскага і Віленскага ваяводстваў Польшчы дзейнічалі савецкія партызанскія атрады пад камандаваннем Кірыла Арлоўскага і Станіслава Ваўпшасава.

Ужо летам 1922 года пра савецкіх партызанаў гаварылі ва ўсёй Польшчы. Менавіта тады атрад Арлоўскага ў раёне Белавежскай пушчы знішчыў паліцэйскі ўчастак, а таксама захапіў і спаліў маёнтак «Добрае дрэва» ў Грудніцкім павеце. Усяго з 15 чэрвеня па 6 жніўня 1922 года на тэрыторыі Гродзенскага і Іліцкага паветаў было праведзена 9 баявых аперацый, у выніку якіх партызаны разгромілі 3 маёнткі буйных землеўласнікаў, спалілі палац князя Друцкага-Любецкага, узарвалі 2 паравозы на вузкакалейнай дарозе, якія належалі французскай фірме.

Акрамя гэтага, на чыгуначнай лініі Вільня–Ліда быў знішчаны чыгуначны мост, а таксама значная частка дарожнага палатна. У ходзе аднаго з баёў баевікі Арлоўскага знішчылі атрад польскіх улан. 14 кастрычніка 1922 года партызаны напалі на маёнтак «Струга» ў Столінскім павеце, у выніку чаго была забіта вялікая колькасць польскіх паліцэйскіх.

У 1923 годзе партызанскі рух узмацніўся. У ноч з 19 на 20 мая атрад у складзе 30 партызан здзейсніў налёт на паліцэйскі ўчастак і будынак гміны ў Чучэвічах (Лунінецкі павет). 27 жніўня баевікі правялі аперацыю ў мястэчку Целяханы Косаўскага павета, у выніку чаго былі забітыя два паліцыянта і войт. 29 жніўня партызаны напалі на маёнтак «Моладава» Драгічынскага павету.

Кульмінацыя «актыўнай выведкі» прыпадае на 1924 год, калі напады на памешчыцкія маёнткі, паліцэйскія пасты і асабліва на цягнікі сталі больш дзёрзкімі і частымі. У ноч з 18 на 19 ліпеня 1924 года партызанскі атрад, узброены станковым кулямётам, здзейсніў налёт на мястэчка Вішнева ў Валожынскім павеце. У баі быў забіты камендант павятовай паліцыі, камісар Уладзімір Лапацінскі.

На ўчастку Пінск–Лунінец атрад пад камандаваннем Кірыла Арлоўскага ажыццявіў паспяховы напад на спеццягнік, які перавозіў палескага ваяводу Станіслава Даўнаровіча. На станцыі Лоўчы была арганізавана засада. Цягнік з высокапастаўленымі чыноўнікамі быў спынены сігналам чырвонага сцяжка. Партызаны ўзарвалі чыгуначныя шляхі, адчапілі паравоз і абяззброілі нешматлікую ахову. Акрамя ваяводы ў цягніку ехалі камендант 14-й акругі паліцыі Юзаф Менсовіч, біскуп Лазінскі і сенатар Баляслаў Віславух. Забіваць нікога не сталі. Але, як паведамляла савецкая газета «Ленінградская праўда» за 1924 год, Даўнаровіча высеклі бізуном. Забраўшы грошы, каштоўнасці і зброю, «лясныя браты» рэціраваліся. За гэты інцыдэнт ваявода быў звольнены са сваёй пасады.

У лістападзе ўсё таго ж 1924 года іншы партызанскі атрад, які дзейнічаў па лініі «актыўнай выведкі» ў Баранавіцкім павеце, здзейсніў напад на цягнік каля станцыі Лясная. Пасажыры цягніку пазбавіліся сваіх грошай і каштоўнасцяў. Усяго з красавіка па лістапад 1924 года бальшавіцкія партызанскія атрады правялі больш за 80 буйнамаштабных баявых аперацый. Паводле падлікаў аналітыкаў Другога (разведвальнага) аддзела Генштаба Войска Польскага, на тэрыторыі Віленшчыны, у лясах Палесся, у Налібоцкай, Белавежскай і Гродзенскай пушчах дзейнічала 5–6 тысяч пар-

тызан. За перыяд з красавіка 1921 па красавік 1924 года на польска-савецкай мяжы было зафіксавана 259 пераходаў мяжы, учыненых баевікамі Разведупра РЧСА.

Польскія ўлады з усёй сур'ёзнасцю ўсведамлялі небяспеку «актыўнай выведкі», якую праводзілі савецкія партызанскія атрады ва ўсходніх ваяводствах ІІ Рэчы Паспалітай. У 1922 годзе на тэрыторыі «крэсаў» былі ўведзены ваенна-палявыя суды. Першапачаткова асноўны цяжар барацьбы з камуністычным падполлем лёг на польскую памежную паліцыю. Але паліцыянты не спраўляліся з гэтай складанай місіяй. З камісарыятаў Віленскага, Навагрудскага, Палескага ваяводстваў у Варшаву пастаянна ішлі тэлеграмы з просьбай аб накіраванні «на крэсы» воінскіх падраздзяленняў для барацьбы з «камуністычнымі бандамі».

У жніўні 1924 года Рада міністраў пад старшынствам прэзідэнта Станіслава Вайцехоўскага прыняла рашэнне аб стварэнні новага ваенізаванага органа для аховы польскай усходняй мяжы. 12 верасня Міністэрства абароны выдала загад аб стварэнні Корпуса памежнай аховы (КАП). Гэта падраздзяленне стваралася як своеасаблівыя войскі спецыяльнага прызначэння. У Варшаве разумелі, што ў беларускіх лясах хаваюцца не збунтаваныя сяляне, а добра падрыхтаваныя вайсковыя разведчыкі, якія цудоўна ведаюць тактыку вядзення партызанскага бою.

1 лістапада 1924 года КАП прыняў пад ахову ўчастак савецка-польскай мяжы на тэрыторыі Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. З красавіка 1925 года да іх дадалося і Палескае ваяводства. У 1924 годзе салдаты КАП удзельнічалі ў 89 сутыкненнях з савецкімі партызанамі. Акрамя гэтага, у Заходняй Беларусі ўзмацнілі воінскія гарнізоны польскай арміі. Усё гэта паўплывала на паступовае зніжэнне актыўнасці савецкіх партызан.

А неўзабаве адбылася падзея, якая паставіла крыж на дзейнасці савецкіх дыверсійных атрадаў на тэрыторыі Усходняй Польшчы. У ноч з 7 на 8 студзеня 1925 года атрад партызан, прыціснуты да мяжы, з боем прарваўся на тэрыторыю СССР, разграміўшы пры гэтым савецкую памежную заставу ў мястэчку Ямполь. Сітуацыя пагаршалася тым, што

партызаны былі апранутыя ў польскую вайсковую форму, і савецкія памежнікі вырашылі, нібыта напад здзейснілі рэгулярныя часткі Войска Польскага. Трывожнае паведамленне пра бой на мяжы прыйшло ў Харкаў, а адтуль у Маскву. 8 студзеня 1925 года адбылося экстранае пасяджэнне Палітбюро. У выніку была створана спецыяльная камісія для расследавання «Ямпольскага інцыдэнту». Палякам, у сваю чаргу, перадалі ноту, у якой адзначалася, што *«савецкі бок гатовы да ўладжвання інцыдэнту мірным шляхам»*.

У выніку «актыўная выведка» ва Усходняй Польшчы да зыходу 1925 года была згорнутая. У чэрвені 1925 года быў расфармаваны атрад С. Ваўпшасава. У гэтым жа годзе ў СССР вярнуўся і К. Арлоўскі. Скарыстаўшыся разгубленасцю ў шэрагах партызан, польскія ўлады пачалі актыўную барацьбу з імі. На тэрыторыі Заходняй Беларусі праводзіліся карныя акцыі і масавыя арышты.

Кропка ў барацьбе за Заходнюю Беларусь была пастаўлена ў верасні 1939 года, калі ў выніку паходу Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 года значная тэрыторыя былых Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў Польшчы былі ўключаныя ў склад БССР.

# Напад на Стоўбцы

У ноч з 3 на 4 жніўня 1924 года каля 100 (па іншых дадзеных, 150) савецкіх дыверсантаў атачылі заходнебеларускі горад з усіх бакоў. Адразу была знішчана тэлеграфная і тэлефонная сувязь, а ўсе выхады з мястэчка ўзяты пад кантроль партызанскімі патрулямі.

Асноўная частка дыверсантаў, узброеных карабінамі, ручнымі гранатамі і кулямётамі, увайшла ў Стоўбцы і падзялілася на тры групы. Першая павінна была атакаваць будынак староства, другая — павятовую камендатуру паліцыі, трэцяя — чыгуначную станцыю.

Будынак гарадской адміністрацыі ахоўваў паліцыянт Леон Пікера.

Яго абстралялі, але Пікеры ўдалося схавацца ў старостве, адкуль ён і яшчэ некалькі ўзброеных людзей вялі агонь з пісталетаў. На вуліцы Шпітальнай была атакавана камендатура паліцыі. Будынак закідалі гранатамі, аднак увайсці ў яго партызаны не змаглі. Камісар паліцыі Хлудзінскі з вінтоўкі абстраляў уваход і параніў некалькіх нападаючых. Тады дыверсанты паспрабавалі абыйсці будынак камендатуры з тылу. Ім удалося захапіць аднаго з паліцыянтаў, якога адразу забілі.

Нарэшце, трэцяя група атакавала будынак чыгуначнай станцыі. Там былі забіты паліцыянты Люцыян Ростэк і Станіслаў Вайдэра, яшчэ двое іх калег былі смяротна параненыя. Затым нападаючыя знішчылі будынак пошты і захапілі там некалькі тысяч злотых і каштоўныя паперы. Падчас бою за тэлеграф былі забітыя яшчэ тры польскія паліцыянты. Аднак галоўнай мэтай нападу на Стоўбцы быў захоп гарадской турмы. У ёй знаходзілася некалькі высокапастаўленых членаў КПЗБ і камуністычнай партыі Польшчы, якія ўрэшце былі вызвалены.

Каля 2.20 ночы партызаны пакінулі Стоўбцы. Польскія ўлады выслалі пагоню. У горад былі накіраваны часткі 27-га палка ўланаў імя караля Стэфана Баторыя з Нясвіжу. Кавалерысты нагналі савецкіх дыверсантаў ужо каля дзяржаўнай мяжы. Было ўзята ў палон тры чалавекі: Мікалай Гарачка, Эдвард Сапінскі і Пётр Ёда. 25 жніўня 1924 года ў Навагрудку адбыўся суд над гэтымі людзьмі. Арыштаваныя прызналіся, што на тэрыторыі БССР у Мінску прайшлі 6-месячны спецкурс па падрыхтоўцы да партызанскай і дыверсійнай дзейнасці, а таксама падкрэслілі, што камандавалі нападам на Стоўбцы савецкія разведчыкі Ваўпшасаў і Барышкевіч. Арыштаваных дыверсантаў прысудзілі да расстрэлу, але прэзідэнт Польшчы памілаваў Петра Ёду, які не прымаў удзел у забойствах.

Аб нападзе на Стоўбцы напісалі амаль усе польскія і еўрапейскія газеты. Напрыклад, у газеце «Dziennik Białostocki» падкрэслівалася, што падчас нападу было абрабавана некалькі крам. Выданне «Światowid» адзначала, што ў Стоўбцах адбылася сапраўдная масакра. У савецкіх газетах

таксама падкрэслівалася, што *«паўстанцы знішчылі будынак паліцыі, чыгуначную станцыю і забралі грошы з паштовай касы».*

Усё гэта прымусіла польскія ўлады да ўзмацнення сваіх межаў. На пасяджэнні камітэта Рады міністраў з удзелам прэзідэнта Польшчы Станіслава Вайцэхоўскага было прынята рашэнне аб стварэнні новага фармавання — Корпуса аховы памежжа, які спалучаў вайсковыя і паліцэйскія функцыі.

6 жніўня 1924 года ў Стоўбцах пахавалі паліцыянтаў, што загінулі падчас нападу. На магіле быў пастаўлены вялікі помнік. Але пасля верасня 1939 года помнік і магіла былі знішчаны. Засталіся толькі парэшткі.

## Мяжа была пад Мінскам

Няшмат цяперашніх беларусаў ведае адказ на пытанне, чаму чыгуначная станцыя ў Заслаўі называецца «Беларусь». Каб даць адказ на гэта пытанне, вернемся ў мінулае.

У сакавіку 1921 года скончылася польска-савецкая вайна і быў заключаны Рыжскі мірны дагавор, па якім заходняя частка Беларусі была ўключана ў склад толькі што адроджанай польскай дзяржавы, а ўсходняя засталася за бальшавікамі. У выніку мяжа паміж дзвюма дзяржавамі прайшла ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад Мінска. Старажытнае Заслаўе засталося на савецкім баку, а размешчаная там чыгуначная станцыя неўзабаве атрымала назву «Беларусь», бо з'яўлялася апошняй буйной беларускай станцыяй перад Польшчай.

### *Заслаўе–Хмелеўка*

Першыя савецкія памежныя часткі сталі прыбываць ужо ў 1921 годзе. У Беларусі былі створаны 6-я, 10-я і 21-я асобныя памежныя брыгады. На мяжы ствараліся заслоны ў выглядзе пастоў, якія, у сваю чаргу, аб'ядноўваліся ў памежныя ўчасткі. Мяжа разбівалася на раёны. Штабы дзвюх памежных дывізій знаходзіліся ў Мінску і Віцебску. У 1922 годзе

ахова межаў была перададзена Дзяржаўнаму палітычнаму ўпраўленню (ДПУ).

На заходняй мяжы поўнай хадой сталі будавацца памежныя заставы. Адна з такіх з'явілася і ў Заслаўі. Неўзабаве (у 1924 годзе) была створана Заходняя памежная акруга, якая складалася з сямі атрадаў. У Заслаўі знаходзіўся штаб 15-га Заслаўскага памежнага атрада. Адным з першых яго начальнікаў быў выхадзец з беларускага мястэчка Чэрыкаў, будучы начальнік памежных войскаў НКУС СССР Аляксандр Кавалёў.

На памежных тэрыторыях, у тым ліку і ў Заслаўі, сталі высяляць так званых «памешчыкаў», уладальнікаў зямлі. Мала хто ведае, што мікрараён Заслаўя Хмелеўка калісьці быў фальваркам. Хтосьці з землеўладальнікаў збег за мяжу, іншыя з памежнай зоны былі выселены. У пачатку 1930-х гадоў памежны рэжым яшчэ больш узмацнілі. Уводзілася абмяжоўваючая сістэма правіл, мерапрыемстваў і нормаў, якія рэгулявалі парадак уезду, пражывання і працы ў памежных зонах. Уезд у памежную зону быў забаронены ўсім, акрамя сталых жыхароў.

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў павялічылася колькасць перабежчыкаў з Польшчы ў БССР. Маладыя беларускія сяляне, знаходзячыся пад уплывам прапагандыстаў з КПЗБ і бачачы дыскрымінацыйную палітыку польскіх уладаў у дачыненні да беларусаў, прымалі рашэнне бегчы ў БССР. Частымі такія выпадкі былі і на ўчастку 15-га Заслаўскага пагранатрада. Адзін з жыхароў вёскі Векшыцы Пятрышкаўскага сельсавета Мінскага раёна Віктар Мілановіч узгадваў, што ў 1935 годзе ў яго вёсцы злавілі «палякаў». Гэтых людзей абшукалі і адправілі ў камендатуру ў Заслаўі. Там сабралася некалькі дзясяткаў «уцекачоў з захаду». Даходзіла і да кур'ёзаў. Аднойчы ў раёне Пятрышак мяжу перайшло цэлае вяселле: жаніх, нявеста, баяніст, сябры маладых. Гасцей «з буржуазнай Польшчы» пад канвоем суправадзілі ў памежны атрад.

Некаторых з перабежчыкаў арыштоўвалі, здараліся і расстрэльвалі. Але большасць «палякаў» сялілі ў мясцовых вёсках. Паводле ўспамінаў заслаўчан, многія з тых, хто

спазнаў усе выгоды «бальшавіцкага раю», спрабавалі вярнуцца ў Польшчу, але атрымоўвалася гэта не ва ўсіх.

Усходнія беларусы таксама беглі ў Польшчу. Напрыклад, увосень 1930 года з вёскі Векшыцы Пятрышкаўскага сельсавета збегла сям'я беларускіх сялян Павічавых. Савецкія памежнікі спрабавалі іх пераследаваць, але каля мяжы сабака згубіў след.

Да канца 1930-х гадоў колькасць перабежчыкаў стала памяншацца. Гэта было выклікана ўзмацненнем жорсткасці да нелегальных перабежчыкаў, якіх у БССР практычна пагалоўна сталі запісваць у катэгорыю «польскіх шпіёнаў». Аднак беларускія і польскія гісторыкі падкрэсліваюць, што пераходы з польскай тэрыторыі працягваліся да жніўня 1939 года.

## *Шапавалы–Пелікшы*

Палякі таксама ўзмацнялі ахову сваіх межаў. Насельніцтва памежных з СССР паветаў насцярожана ставілася да польскай дзяржавы. У сярэдзіне 1920-х гадоў стала ясна, што польская дзяржаўная паліцыя не ў стане арганізаваць якаснае функцыянаванне памежнай інфраструктуры. У гэтай сувязі ў 1924 годзе ўрад II Рэчы Паспалітай стварыў новую ваенізаваную службу — Корпус аховы памежжа (КАП). Ужо ў верасні таго ж года была распрацавана арганізацыйная структура новага органу. Корпус адначасова падпарадкоўваўся Міністэрству абароны і Міністэрству ўнутраных спраў. Галоўнай задачай КАП была ахова памежнай тэрыторыі з Літвой, Латвіяй, СССР і Румыніяй (з лютага 1939 года). Варта ўлічваць, што заходнія рубяжы Польшчы ахоўвалі звычайныя памежныя войскі. У перыяд з 1929 па 1938 год адбылася вялікая колькасць змяненняў у арганізацыйнай структуры КАП. Мяняліся назвы падраздзяленняў, месца іх дыслакацыі.

Польскімі суседзямі 15-га Заслаўскага памежнага атрада былі часткі 1-й роты батальёна КАП «Івянец». Гэта падраздзяленне ўваходзіла ў склад 2-й брыгады памежнай аховы «Навагрудак». На польскіх і савецкіх ваенных мапах таго часу выразна відаць, што насупраць Заслаўя і фальварку

Хмелеўка знаходзіліся польскія памежныя стражніцы Пелікшы і Шапавалы, іх асабісты склад — узвод салдат, якімі камандаваў унтэр-афіцэр. Штаб батальёна знаходзіўся ў Івянцы. Паміж польскімі заставамі і штабам была вельмі добра адладжаная тэлефонная сувязь, чым, да прыкладу, доўгі час не маглі пахваліцца савецкія памежнікі.

Асноўнай апорай «капістаў» былі асаднікі — былыя польскія вайскоўцы, якім даваліся зямельныя надзелы ў заходнебеларускіх ваяводствах. Тыя, каму пашанцавала атрымаць зямлю ля мяжы з Саветамі, па сутнасці, станавіліся польскім памежнікамі.

«Капісты» часта ладзілі дабрачынныя абеды для мясцовых жыхароў. Многія стражніцы дапамагалі школам. Сем'і афіцэраў КАП займаліся зборам адзення для сялян. Разам з тым польскія памежнікі жорстка змагаліся з любой антыдзяржаўнай дзейнасцю і часта выконвалі паліцэйскія функцыі па барацьбе з камуністычным і нацыянальным беларускім падполлем.

## *Загад — перайсці мяжу*

З пачаткам вайны з Германіяй большасць баяздольных частак польскай арміі, у тым ліку і некаторыя падраздзяленні Корпуса аховы памежжа, былі перакінутыя на заходні фронт. Ва ўсходніх ваяводствах засталіся толькі аслабленыя гарнізоны памежных застаў ды штабное камандаванне.

Каля 8 гадзін раніцы жыхары Івянца пачулі гул матораў цяжкіх самалётаў. На крылах самалётаў яны ўбачылі чырвоныя зоркі. Апоўдні да будынка ваеннага шпіталя пад'ехаў грузавік. З яго вынеслі насілкі з цяжка параненым польскім памежнікам. Ён і расказаў, што савецкія войскі перайшлі мяжу.

Гарнізоны польскіх стражніц спрабавалі арганізаваць супраціў, але сілы былі няроўнымі. Памежнікі з заставы Шапавалы (знаходзілася насупраць фальварка Хмелеўка) пад камандаваннем капрала Нядзельскага аказалі актыўны супраціў савецкім кавалерыстам, якія спрабавалі праравацца на польскую тэрыторыю. Неўзабаве супраціў «капістаў» быў падаўлены. Памежнікі з Пелікш паспелі адысці ўглыб

польскай тэрыторыі і, злучыўшыся з іншымі часткамі батальёна «Івянец», пайшлі ў бок Ліды. Пазней гэта падраздзяленне КАП было атакавана чырвонаармейцамі 145-га кавалерыйскага палка і амаль цалкам знішчана.

На працягу двух тыдняў Чырвоная Армія «вызваліла» Заходнюю Беларусь, а 28–30 кастрычніка 1939 года ў Беластоку адбыўся Народны сход, на якім былі прыняты Дэкларацыі аб дзяржаўнай уладзе і аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР. 2 лістапада пазачарговая 5-я сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла Закон аб уключэнні ў склад СССР Заходняй Беларусі і яе ўз'яднанні з БССР, а 14 лістапада 1939 года 3-я сесія Вярхоўнага Савета БССР пастанавіла прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР. У выніку тэрыторыя БССР павялічылася з 125,6 да 225,6 тысячы квадратных кіламетраў, а насельніцтва — з 5,6 да 10,3 мільёна чалавек.

Новая савецкая мяжа праходзіла цяпер па Бугу. Разам з гэтым не знікла і старая «рыжская мяжа». У мэтах «унутранай бяспекі» савецкія памежнікі ахоўвалі яе аж да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, а дзеля яе перасячэння патрабаваўся адмысловы пропуск. У 1940 годзе 15-ы Заслаўскі памежны атрад быў расфармаваны, а яго асабісты склад быў перададзены ў распараджэнне 16-га Дзяржынскага памежнага атрада. Канчаткова заходняя мяжа Беларусі вызначылася ў 1945 годзе.

## Коласава.
## Мястэчка на мяжы цывілізацый

Коласава — адна з найбольш вядомых памежных станцый на былой савецка-польскай мяжы, якая існавала з 1921 па 1939 гады. Праз яе прaязджалі нешматлікія савецкія грамадзяне, што накіроўваліся ў Еўропу, і замежныя пасажыры, якія ехалі на Усход. І нават зараз у гэтай мясцовасці без цяжкасці можна знайсці сляды «рыжскай мяжы».

З пачатку 1920-х гадоў станцыі Стоўбцы, Коласава, Негарэлае сталі галоўнымі транзітнымі пунктамі паміж СССР і Польшчай.

Пры гэтым тут не толькі адбывалася перасадка пасажыраў. Частай з'явай былі абмены шпіёнамі, палітычнымі зняволенымі. Менавіта тут у 1933 годзе адбыўся сумнавядомы абмен Браніслава Тарашкевіча на Францішка Аляхновіча. Аляхновіч пазней напіша: *«Ён з астрогу пойдзе туды, дзе ўвесь вялізарны край — гэта адзін вялікі астрог, дзе думка чалавечая сцісненая ў абцугах савецкага абсурду, дзе не толькі рабіць і гаварыць, але і думаць, і дыхаць трэба паводле аднаго, для ўсіх абавязковага шаблону. Ён пойдзе ў край белага нявольніцтва, голаду, беднасці, людаедства, а я — кіруюся на Захад, да «капіталістычных» гаспадарстваў, дзе буду прынамсі спаць спакойна, ведаючы, што ўначы госці з ДПУ не пастукаюцца да мяне»*.

Коласава было першай польскай станцыяй і для тых рэпатрыянтаў, якія вырашылі пакінуць СССР і накіравацца ў II Рэч Паспалітую.

Усё гэта адбывалася на вачах мясцовых жыхароў. У Коласава жыве 88-гадовая Сцепаніда Яўсейчык. *«Памятаю і польскую стражніцу, і казарму. Мы памежнікам ягады насілі прадаваць. Збіралі ля мяжы, з сабой бралі пашпарты, бо польскія салдаты правяралі. «Капісты» ладзілі абеды для дзяцей са шмадзетных сямей»*, — успамінае жанчына.

Коласаўскія сяляне ўвесь час працавалі на пана. Звалі яго Ян Крупскі. Бацька Сцепаніды атрымаў ад яго зямельны надзел — 14 гектараў. Пачатак 1930-х гадоў выдаўся вельмі цяжкім для ўсходніх ускраін Польшчы. Неўраджай, праблемы ў эканоміцы краіны прывялі да праблем з харчаваннем. *«Тады ў Польшчы цяжка было, але людзі, як у Савецкім Саюзе, не паміралі. Той жа пан дапамагаў — калі жытам, калі бульбай. Мы потым за гэта ў яго адпрацоўвалі. Дык ён і тады нам плаціў за працу па адным злотым. А той злоты дарагі быў, не тое што сённяшнія грошы,* — працягвае Сцепаніда Яўсейчык. — *Канешне, з працай беларусам цяжка было. На высокія пасады бралі палякаў. А нам толькі на зямлі дазвалялася працаваць. І адукацыю цяжка было атрымаць. Але неяк жылі, працавалі»*.

Успамінаючы тое, як беларусы спрабавалі перасекчы «рыжскую мяжу», жыхарка Коласава падкрэслівае: *«У нас*

*аднойчы некалькі маладых хлопцаў збеглі «ў Расію». Казалі, тут жа няма дзе вучыцца, а там, у БССР, свабода. Вось так і згінулі. Аказалася, што ўсе атрымалі па 25 гадоў за шпіянаж. Іх маці потым, калі Чырвоная Армія прыйшла, пыталася салдат, ці можа яны бачылі яе сыноў. А хто там што бачыў... Пасля вайны толькі адзін з іх вярнуўся і расказаў, што ў Сібіры сядзеў. Беглі і з Саветаў у Польшчу. Напярэдадні вайны, у 1939 годзе, да нас у хату пастукаў чалавек. Аказалася, ён збег з БССР і таямніча перайшоў мяжу. Бацька спужаўся і не хацеў яго пускаць у хату. А той толькі есці прасіў. Мы тады здзівіліся. Лічылася ж, што на ўсходзе добра жывуць, а ён нам кажа: «Там Бога няма, і хлеба няма». Мы яму нешта далі, і ён пайшоў».*

Падзеі паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь Сцепаніда Яўсейчык апісвае так: *«Польскіх памежнікаў тут няшмат было. 15–18 чалавек. Яны мяжу пільнавалі, ды хадзілі там па 2–3 чалавекі. Ля мяжы была паласа баранаваная. Шмат дроту, слупоў. А 17 верасня 1939 года сюды прыйшлі бальшавікі. Мне 14 гадоў было, але я памятаю, як палякі, памежнікі, бегалі напярэдадні і ў біноклі назіралі за тым бокам. Там ужо была бачна савецкая тэхніка, войскі. Бальшавікі рыхтаваліся да паходу ў Заходнюю Беларусь. На вышцы памежнай з польскага боку памежнік быў. Дык ён пытаў бальшавікоў, што адбываецца на іх баку. Тыя гаварылі, што «Сталін дамовіўся з польскім урадам, і Чырвоная Армія рыхтуецца ісці на дапамогу Польшчы». 17 верасня таго «капіста» на вышцы забілі і закапалі недалёка ад чыгункі. З раніцы была страляніна, а пазней польскія памежнікі разбегліся.*

*Калі ўжо саветы прыйшлі, у верасні 1939 года, дык у памяшканні былой польскай стражніцы жылі вязні, якія рамантавалі дарогу. Гэтых людзей прыгналі з усходу. Нас нібы «вызвалілі», але мяжа засталася, і ў БССР нас не пускалі без пропуску. У маці была сястра стрыечная ў БССР, дык маці праз былую мяжу да яе не пусцілі. Бацьку аднойчы, мусіць у 1940 годзе, адправілі ў Негарэлае на працу. Ён калі вярнуўся адтуль, дык казаў, што ў Саветах жывуць вельмі бедна, а мы ж тады таксама ўжо былі савецкімі, аднак тое, што «за польскім часам» назапасілі, з таго і жылі. У калгас забралі і карову*

*і коней, і праца толькі за «палачкі-працадні». А пана гэтага Крупскага і яго сям'ю вывезлі на Усход».*

Аднак новая вайна не прымусіла чакаць на сябе. Ужо ў чэрвені 1941 года Трэці Рэйх напаў на былога хаўрусніка — Савецкі Саюз. Хутка фронт дакаціўся і да «рыжскай мяжы». «*Немцы, як прыйшлі, дык прыгналі савецкіх палонных і загадалі ім разбіраць савецкую заставу і польскую стражніцу. Нам, мясцовым, потым патлумачылі, што робяць гэта, каб партызаны не карысталіся з гэтых будынкаў. Польскія памежныя слупы яшчэ бальшавікі паздымалі, а вось савецкія амаль два гады пасля верасня 1939 года тут стаялі. Іх знішчылі менавіта немцы*», — успамінае тыя страшныя часы Сцепаніда Яўсейчык.

Як толькі трапляеш на былую «рыжскую мяжу», якая праходзіла па старажытнаму «Кацярыненскаму тракту», кідаецца ў вочы вялікая колькасць пагоркаў. Памежная інфраструктура, магілы, акопы — усё гэта сляды нялёгкай гісторыі Коласава.

Каля чыгуначных шляхоў можна ўбачыць падмурак савецкай памежнай заставы. Тут знаходзілася брама з надпісам «Прывітанне працоўным Захаду». Яшчэ нядаўна ля гэтага месца былі падмуркі памежных слупоў, аднак зараз іх ужо знішчылі.

Трошкі далей ад савецкай заставы можна ўбачыць падмурак польскай памежнай стражніцы. Ад некалі магутнага і вялікага будынку засталіся толькі некалькі масіўных пліт. Ля стражніцы ляжыць іржавы дрот. Калісьці ён знаходзіўся на польскіх памежных умацаваннях. На «Кацярыненскім тракце» дакладна бачны бетонныя падмуркі польскіх і савецкіх памежных знакаў.

Прайшло ўжо шмат дзесяцігоддзяў, аднак старая мяжа да сённяшняга дня захоўвае шмат напамінаў пра той перыяд, калі Беларусь была падзелена паміж Польшчай і СССР. Сёння гэта такі ж цікавы гістарычны аб'ект беларускай гісторыі, як і шматлікія замкі і сядзібы, крэпасці і ўмацаваныя лініі. Тут варта было б зрабіць цікавы турыстычны аб'ект, прапаноўваючы наведвальнікам акунуцца ў атмасферу тых часоў.

# Забытая місія Корпусу аховы памежжа

Як вядома, усходнюю мяжу II Рэчы Паспалітай ахоўвалі падраздзяленні Корпуса аховы памежжа. Аднак мала хто ведае, што акрамя асноўнай задачы (абароны дзяржаўных межаў) гэтай службе даводзілася займацца і іншымі, часцяком не звязанымі з вайсковай службай, абавязкамі.

Акрамя аховы межаў і барацьбы з дыверсантамі і кантрабандыстамі памежнікі павінны былі абараняць маёмасць і жыццё жыхароў памежных тэрыторый.

Са з'яўленнем КАП на ўсходніх межах сітуацыя стабілізавалася, аднак, аж да 1939 года, заходнебеларускія і заходнеўкраінскія ваяводствы міжваеннай Польшчы працягвалі заставацца неспакойным рэгіёнам.

На думку тагачаснага польскага ваеннага кіраўніцтва, памежнікам КАП трэба было хутчэй нармалізаваць адносіны з мясцовым няпольскім насельніцтвам. Пры гэтым у Варшаве разумелі, што вялікі ўплыў на гэта аказвае павышэнне ўзроўню жыцця беларускага сялянства. У 1937 годзе ў артыкуле «Аб належным стаўленні гарнізона стражніцы КАП да мясцовага насельніцтва», апублікаванай у часопісе «Варус», адзначалася: *«Прычынай усіх непаразуменняў, якія ўзнікаюць паміж памежнікамі і мясцовымі жыхарамі, з'яўляецца нетактоўныя паводзіны «капістаў». Класічным прыкладам з'яўляецца неабгрунтаванае выхвальства сваёй, нібыта высокай культурай, і высмейванне мясцовых звычаяў. Як толькі такі «Ясь» (адпавядае рускаму «Ваньку») пачынае гутарыць з мясцовым селянінам, то адразу, пачынае распавядаць, як людзі жывуць там, адкуль ён прыехаў, г. зн. ва ўнутранай Польшчы. Як яны прыгожа апранутыя, якія ў іх шыкоўныя хаты. Скончыўшы хваліцца, гэты балбатун пачынае высмейваць умовы жыцця мясцовага селяніна. А той наслухаецца «капіста» і скажа: «Што ж пан, цёмны ў нас народ, нічога мы не ўмеем». Але застаўшыся сам-насам, гэты чалавек адчуе глыбокую крыўду за тое, што ён, такі ж грамадзянін, як і тыя «паны» з іншых ваяводстваў, плаціць падаткі, служыць у войску, але*

*жыццё яго карэнным чынам адрозніваецца ад тых, пра якіх гаварыў памежнік. Таму камандзір стражніцы (памежнай заставы) павінен жорстка караць такіх балбатуноў. Салдат КАП павінен дапамагаць мясцовым жыхарам, дзяліцца з імі сваімі ведамі. Трэба сачыць, каб памежнікі не звярталіся да сялян на «ты» і не выкарыстоўвалі непаважлівае, прынятае яшчэ ў часы Расійскай імперыі, слова «хозяин».*

Першыя гады свайго існавання КАП сканцэнтраваў увагу на ўдасканаленні дарожнай інфраструктуры і мастоў, а ў пачатку 1930-х гадоў памежнікі актыўна ўключыліся ў будаўніцтва школ, народных дамоў і клубаў. У гэтых памяшканнях ажыццяўляліся ўрачыстыя мерапрыемствы, лекцыі і нават народныя гулянні. Да прыкладу, у сакавіку 1934 года ў Стоўбцах салдацкі тэатр КАП паставіў міні-спектакль, які карыстаўся вялікім поспехам у мясцовых жыхароў і вайскоўцаў гарнізона Войска Польскага.

У сваю чаргу, тэатральны гурток батальёна КАП «Сянкевічы» таксама часта песціў мясцовых жыхароў рознымі тэатральнымі прадстаўленнямі. А 26 сакавіка 1938 года на Віленшчыне салдацкі тэатр прадставіў мясцовым жыхарам спектакль, які апавядаў пра жыццё польскіх памежнікаў. Як адзначалі тагачасныя мясцовыя газеты, мерапрыемства карысталася вялікім поспехам.

Таксама ў сталовых КАП сілкаваліся дзеці з бедных сялянскіх сем'яў, а сярод афіцэраў арганізоўваўся збор сродкаў на адзенне для найменш заможных жыхароў Заходняй Беларусі.

У канцы 1937 года афіцэры КАП з Глыбокага да навагодняга свята сабралі 150 злотых і перадалі іх на арганізацыю абедаў для дзяцей. А 1 лютага 1938 года ў Глыбокім прайшоў баль для малодшых афіцэраў памежнай аховы. Атрыманыя ў выніку ўрачыстасці сродкі пайшлі на будаўніцтва агульнаадукацыйнай школы.

Пры Корпусе аховы памежжа адкрываліся медыцынскія пункты, у якіх ваенныя ўрачы абслугоўвалі і жыхароў бліжэйшых мясцовасцяў. Афіцэр батальёна «Слабодка» (уваходзіў у склад палка «Браслаў») Вітольд Гарліцкі ў 1935 годзе пісаў: *«Медыцынскі пункт КАП у Слабодцы абслугоўвае*

*значную колькасць мясцовых жыхароў. Лекары пункта праводзяць вялікую працу па барацьбе з сіфілісам, гэтак распаўсюджаным сярод старавераў і беларусаў».*

Велізарнай праблемай для жыхароў заходнебеларускіх ваяводстваў (перш за ўсё Віленскага) была эпідэмія захворвання вачэй — трахомы. Вось як апісваў гэтую праблему супрацоўнік медыцынскай службы КАП, капітан Юзаф Кабылянскі: *«Сітуацыя з трахомай «на крэсах» крытычная. Тут цэлыя вёскі заражаныя гэтым захворваннем. У кожнай сям'і ёсць хоць адзін хворы. Многія з іх ужо страцілі зрок».*

Найважнейшую ролю ў барацьбе з трахомой адыгрывалі прызыўныя камісіі Войска Польскага, а таксама спецыяльныя медыцынскія роты, у якія ўваходзілі і медыкі КАП. Праца гэтых спецыялістаў дазваляла выявіць захворванне на ранняй стадыі і эфектыўна змагацца з ім.

Урачам Корпуса аховы памежжа, якія служылі ў Заходняй Беларусі, давялося супрацьстаяць розным хваробам, сярод якіх варта адзначыць склерому (захворванне дыхальных шляхоў, распаўсюджанае ў паўночна-ўсходніх ваяводствах), малярыю (выпадкі захворвання найбольш частымі былі на Палессі) і дыфтэрыю. У кожным з 30 медыцынскіх пунктаў КАП меліся па 10 ампул супрацьслупняковай сыроваткі, якія ўжываліся як для вайскоўцаў, так і для мясцовага насельніцтва. Таксама ажыццяўляліся медыцынскія агляды і праводзіліся лекцыі.

У выдадзеным у жніўні 1937 года дадатку да Інструкцыі службы КАП у прыватнасці адзначалася, што *«памежнікі павінны былі аказваць па меры сіл і магчымасцяў дапамогу жыхарам прыгранічных тэрыторый, а таксама садзейнічаць у вырашэнні іх пытанняў у дзяржаўных установах».*

Важным складнікам працы польскіх памежнікаў была барацьба з беспрацоўем. Да працы ў структурах КАП часта прыцягваліся жыхары заходнебеларускіх ваяводстваў. Акрамя таго, па ініцыятыве афіцэраў на сустрэчу з сялянамі запрашаліся аграномы і спецыялісты па сельскай гаспадарцы, якія знаёмілі мясцовых жыхароў з новымі тэхналогіямі работ у гэтай сферы. Да таго ж, звязаныя з КАП прыватныя сельскія гаспадаркі атрымлівалі танныя крэдыты на развіццё.

У адным з тагачасных польскіх перыядычных выданняў у прыватнасці адзначалася, што *«найважнейшай задачай корпуса было навучанне насельніцтва ўсходніх ускраін новым спосабам вядзення сельскай гаспадаркі, павышэнне ўраджайнасці надзелаў праз выкарыстанне сучасных прылад працы».*

Польская пісьменніца Ванда Дабашэўская так апісвала дзейнасць КАП: *«Цяжка недаацаніць тую працу, якую вядуць памежнікі Корпуса для паляпшэння жыцця сялян памежных тэрыторый. Па-першае, «капісты» арганізуюць розныя сельскагаспадарчыя курсы, а таксама курсы плавання, стральбы, язды на лыжах. У 1937 годзе падраздзяленне Корпуса з Вілейкі пяць разоў арганізоўвала сельскагаспадарчыя курсы для мясцовага насельніцтва. Салдаты КАП арганізуюць бясплатныя абеды для сялянскіх дзяцей. Так, памежнікі сістэматычна кормяць 250 дзяцей з агульнаадукацыйных школ у Слабодцы, Друі, Алковіч, Чырвоным. У Дзісенскім павеце батальён КАП з Беразвечча арганізуе абеды для вучняў шасці школ, а таксама забяспечвае навучэнцаў падручнікамі і сшыткамі. 134 дзіцяці атрымалі ад «капістаў» вопратку. Акрамя гэтага, батальён штомесяц выплачвае школе па 50 злотых. Батальён КАП у Падсвіллі таксама ладзіць абеды для школьнікаў, а на яго сродкі былі пабудаваны дзве школы і два касцёлы.*

*У 1938 годзе КАП зладзіў вялікую сельскагаспадарчую выставу ў Вілейскім павеце, а таксама кірмаш у Будславе. Акрамя гэтага, памежнікі даглядаюць за магіламі паўстанцаў 1863 года ў Плябані. У Віленска-Трокскім павеце корпус праводзіў канцэрты і музычна-вакальныя выступы для мясцовых жыхароў. Гэтая акцыя ахапіла Трокі, Ландвараў, Рудзішкі, Рыконты і Няменчын».*

З красавіка 1937 года па верасень 1938 года з Грамадскага фонду салдат КАП было выплачана: 24 тысячы злотых на будаўніцтва і рамонт клубаў і дамоў культуры, 21 тысяча злотых на будаўніцтва школ. Яшчэ 8 тысяч злотых пайшло на ўзвядзенне касцёлаў. Акрамя гэтага, 22,5 тысячы злотых КАП вылучыў на набыццё насення, медыцынскія патрэбы для мясцовага насельніцтва, а таксама куплю радыёпрыёмнікаў для школ.

Улады II Рэчы Паспалітай вымушаны былі на працягу ўсяго міжваеннага дваццацігоддзя прадпрымаць намаганні для нівелявання адрозненняў, якія існавалі паміж «крэсамі» і этнічна польскімі тэрыторыямі. Найважнейшую ролю ў гэтай справе адыгрываў Корпус аховы памежжа. Але не варта забываць, што рабілася гэта для палягчэння і паскарэння інкарпарацыі гэтых тэрыторый у склад польскай дзяржавы.

## Закладнікі пашпартызацыі

У міжваеннай Польшчы, як і ў любой іншай краіне, дзейнічаў спецыяльны збор законаў і адміністрацыйных прадпісанняў, які вызначае правілы атрыманні грамадзянства, яго страты, змянення прозвішча і да т. п. Пасля Рыжскай мірнай дамовы па гэтых законах і прадпісаннях давялося жыць і беларусам, якія сталі падданымі Польшчы.

Парадак атрымання грамадзянства II Рэчы Паспалітай вызначаўся не толькі ўнутранымі законамі, але і шэрагам міжнародных дамоваў. Акрамя Рыжскай мірнай дамовы, падпісанай 18 сакавіка 1921 года паміж Савецкай Расіяй і Украінай з аднаго боку і Польшчай — з другога, правілы атрымання польскага грамадзянства вызначаліся Версальскай дамовай, заключанай паміж дзяржавамі-пераможцамі ў Першай сусветнай вайне і Польшчай у 1919 годзе (Збор законаў II Рэчы Паспалітай № 110, пазіцыя 728, артыкулы 3–6), а таксама Венскай канвенцыяй, заключанай паміж Польшчай і Германіяй.

Пры атрыманні польскага грамадзянства беларусамі і ўкраінцамі польскія ўлады інфармавалі іх, што, у адпаведнасці з Цыркулярам № 23 Міністэрства ўнутраных спраў, польскі ўрад не гарантуе абарону гэтым грамадзянам на тэрыторыі Савецкай Расіі і Украіны. Акрамя гэтага, пры атрыманні польскага грамадзянства жыхары заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх ваяводстваў павінны былі напісаць пісьмовую заяву аб тым, што яны адмаўляюцца ад таго грамадзянства, якое яны мелі да гэтага. У большасці выпадкаў гутарка ішла аб падданстве Расійскай імперыі.

Акрамя гэтага, беларусы, украінцы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, якія пражывалі на «крэсах», для атрымання польскага грамадзянства былі абавязаны прадставіць выпіскі з метрычных кніг. Калі тыя адсутнічалі, прадстаўнікі польскіх уладаў павінны былі запатрабаваць ад заяўніка любыя іншыя афіцыйныя дакументы, якія тычацца інфармацыі пра дату і месца нараджэння чалавека. Так званае «вуснае дэклараванне», па прычыне адсутнасці дакументаў, дапускалася толькі ў выключных выпадках. Аўтаматычна польскае грамадзянства атрымлівалі асобы няпольскага паходжання, якія служылі ў Войску Польскім і ўдзельнічалі ў вайне за незалежнасць.

У пачатку 1920-х гадоў на тэрыторыю заходнебеларускіх ваяводстваў ІІ Рэчы Паспалітай пачалі вяртацца былыя жыхары гэтых тэрыторый, якія ў выніку Першай сусветнай вайны вымушаныя былі пакінуць свае дамы і ператварыліся ў бежанцаў. Польскі ўрад у 1924 годзе выдаў распараджэнне аб увядзенні для гэтай катэгорыяй асоб спецыяльнага ільготнага рэжыму атрымання польскага грамадзянства.

Вялікую ўвагу польскія чыноўнікі надавалі нямецкім грамадзянам. У прыватнасці, у цыркуляры № 27 Міністэрства ўнутраных спраў ад 15 лютага 1922 года пазначалася, што ў грамадзян германскага Рэйху, якія атрымалі польскае падданства, неабходна было адбіраць нямецкія замежныя пашпарты і накіроўваць іх у Консульскі аддзел Міністэрства замежных спраў Польшчы. Усе іншыя дакументы, выдадзеныя нямецкімі ўладамі, таксама падлягалі канфіскацыі і павінны былі захоўвацца ў асабістай справе чалавека, які звяртаўся за атрыманнем польскага грамадзянства. Гэта распараджэнне тычылася і асоб, якія мелі грамадзянства ЗША або від на жыхарства ў гэтай краіне. У выпадку атрымання грамадзянства ІІ Рэчы Паспалітай, заяўнік з амерыканскім пашпартам або відам на жыхарства павінен быў адправіць амерыканскія дакументы ў Генеральнае консульства ЗША ў Варшаве.

У польскіх афіцыйных дакументах неаднаразова падкрэслівалася, што, у адрозненне ад Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе любы чалавек, які нарадзіўся на тэрыторыі гэтай

краіны, мае права на амерыканскае грамадзянства, у Польшчы права на пашпарт гэтай краіны мае толькі той, хто нарадзіўся ў сям'і польскіх грамадзян. Дарэчы, пры атрыманні польскага грамадзянства заходнія беларусы былі абавязаныя здаваць у дзяржаўныя ўстановы ўсе дакументы, якія тычыліся іх папярэдняга грамадзянства. Тут гаворка ішла, перш за ўсё, аб пашпартах Расійскай імперыі. Але рабілі гэта не ўсё. Да сённяшняга дня ў многіх беларускіх сем'ях захоўваюцца разам з польскімі паперамі і пашпартамі дакументы з двухгаловым расійскім арлом, выдадзеныя яшчэ да рэвалюцыі царскімі чыноўнікамі.

У адным з цыркуляраў польскага МУС асобна агаворваліся правы праваслаўных святароў. Так, польскім дзяржслужачым не дазвалялася надзяляць іх статусам «пасяленцаў» і прадпісвалася арганізоўваць атрыманне праваслаўнымі святарамі польскага грамадзянства ў звычайным парадку.

Былыя супрацоўнікі расійскіх, нямецкіх і аўтра-венгерскіх дзяржаўных устаноў, якія выйшлі на пенсію, мелі права атрымліваць пенсію ад польскай дзяржавы, але пры гэтым яны былі абавязаныя пацвердзіць факт атрымання польскага грамадзянства. Тыя, хто не меў грамадзянства ІІ Рэчы Паспалітай, аб пенсійных выплатах павінен быў забыцца. Падобныя ўмовы атрымання пенсіі былі ва ўдоў і сірот кадравых вайскоўцаў былых дзяржаў, у складзе якіх да 1918 года знаходзіліся польскія землі. Толькі ў выпадку наяўнасці польскага грамадзянства ў членаў сем'яў памерлага або загінулага ім належала атрыманне пенсіі ад польскага ўрада.

Цыркулярам МУС Польшчы ад 28 лютага 1925 года вызначаліся катэгорыі асоб, якіх адносіліся да карэннага насельніцтва. Гэта былі, перш за ўсё, тыя, хто нарадзіўся на тэрыторыі, якая ўвайшла ў склад польскай дзяржавы, хто ніколі не пакідаў раён пражывання і не выязджаў у Расію і Украіну, тыя, хто меў зямельную ўласнасць.

Падданства нямецкіх каланістаў, якія да 10 студзеня 1920 года мелі нямецкае грамадзянства, разглядалася польскімі ўладамі ў адпаведнасці з польска-нямецкай канвенцыяй, падпісанай прадстаўнікамі гэтых краін 30 жніўня 1924 года. Немцам дазвалялася захоўваць нямецкае грамадзянства

пры наяўнасці дакументаў, якія яго пацвярджалі (гаворка ішла аб нямецкай пашпарце або ваенным білеце). У выпадку, калі такіх не было, польскія ўлады абавязаны былі зрабіць запыт праз польскія консульствы ў нямецкія дзяржаўныя органы, для пацверджання нямецкага грамадзянства асобы, якая звярнулася за атрыманнем польскага пашпарта.

Дзяржаўным установам Польшчы прадпісвалася ўзмацніць праверкі асоб не польскага паходжання, якія да гэтага служылі ў Рускай імператарскай арміі, расійскіх дзяржаўных структурах, альбо валодалі зямельнай маёмасцю, канфіскаванай у мясцовай шляхты пасля паўстання 1863 года (дадзены пункт адносіўся як да тэрыторыі беларуска-літоўскага краю, так і да зямель былога Царства Польскага).

Што тычыцца габрэйскага насельніцтва, то польскія ўлады не чынілі перашкодаў для іх эміграцыі на Блізкі Усход. Так, па распараджэнні МУС ІІ Рэчы Паспалітай ад 11 верасня 1925 года польскіх грамадзян, якія сабраліся эміграваць у Палестыну, вызвалялі ад службы ў войску.

Няпростая сітуацыя была з грамадзянамі СССР, якія жадалі атрымаць польскі пашпарт. Па савецкіх законах, пазбавіцца ад пашпарта грамадзяніна СССР можна было толькі па рашэнні УЦВК РСФСР і савецкага ўрада. У гэтай сувязі заяву аб адмове ад савецкага грамадзянства трэба было накіроўваць у Консульскі аддзел Пасольства СССР у Варшаве. Пры гэтым асобна агаворвалася аплата консульскага збору за аказанне такога роду паслуг (5,5 рублёў золатам або ў эквіваленце ў любой іншай валюце).

Частымі былі выпадкі, калі метрычныя дакументы жыхароў Заходняй Беларусі знаходзіліся на тэрыторыі Савецкага Саюза. У гэтай сітуацыі польскія ўлады ішлі насустрач сваім суграмадзянам і спрабавалі праз свае консульства ў Мінску, Харкаве і пасольстве ў Маскве атрымаць неабходныя выпіскі з метрычных кніг.

Як выглядаў унутраны пашпарт грамадзяніна ІІ Рэчы Паспалітай? На другой старонцы дакумента змяшчалася фатаграфія і подпіс яго ўладальніка. Акрамя агульных дадзеных (імя, прозвішча, даты нараджэння) у дакуменце змяшчалася апісанне знешнасці грамадзяніна (рост, колер вачэй, памер

носа, колер валасоў), узровень пісьменнасці, веданне моваў, стаўленне да вайсковай службы. Асобна ў пашпарце адзначалася, на падставе якіх дакументаў чалавек атрымаў польскае грамадзянства.

На шостай старонцы пашпарта ставілася пячатка аб рэгістрацыі па месцы жыхарства. У пашпарт упісваліся малалетнія (да 14 гадоў) члены сям'і ўладальніка дакумента. У 1930-х гадах форма і памер польскага ўнутранага пашпарта былі зменены.

У верасні 1939 года Заходняя Беларусь увайшла ў склад СССР. Усе польскія законы, якія дзейнічалі на гэтай тэрыторыі, у тым ліку і аб грамадзянстве, былі адменены. Неўзабаве былыя «obywatele» сталі атрымліваць савецкія пашпарты.

У Заходняй Беларусі пашпартызацыя праводзілася ў адпаведнасці з рашэннем ЦК КП(б)Б ад 16 лютага 1940 года «Аб увядзенні пашпартнай сістэмы ў заходніх абласцях Беларусі». Да прыкладу, у Беластоцкай вобласці меркавалася пачаць пашпартызацыю 15 лютага, а скончыць да 1 мая 1940 года. Усім гаркамам і райкамам партыі прадпісвалася прыняць з гэтай нагоды спецыяльныя пастановы, а начальніку УНКУС Гладкову загадвалася *«пашпартызацыю ў першую чаргу правесці ў Беластоку, Гродна, Ломжы і памежнай паласе вобласці».*

Пашпартызацыя заходнебеларускага насельніцтва была чарговай закамуфляванай рэпрэсіўнай кампаніяй. Вынікам яе павінна была стаць высылка тых грамадзян, якія раней па той ці іншай прычыне не патрапілі ў поле зроку савецкіх спецыяльных органаў. Нявыдача пашпарта па рашэнні мясцовых органаў міліцыі аўтаматычна прыводзіла да высылкі.

Потым будзе кровапралітная вайна, акупацыя, вызваленне і чарговы прыход савецкай улады, якая зноў забяспечыць заходніх беларусаў сваімі пашпартамі. Толькі здабыццё Рэспублікай Беларусь незалежнасці ў 1991 годзе дало магчымасць грамадзянам нашай краіны карыстацца сваімі, беларускімі дакументамі. А старыя пашпарты, у тым ліку даваенныя польскія, з'яўляюцца цяпер гістарычнымі артэфактамі, якія нагадваюць пра тыя часы, калі наша кра-

на і народ праз палітычныя амбіцыі суседзяў былі падзеленыя напалам.

## Дзе трымалі грошы жыхары Заходняй Беларусі

Некалькі гадоў таму ў аэрапорце Кракава польскімі мытнікамі быў затрыманы грамадзянін Польшчы, які спрабаваў вывезці ў Вялікабрытанію чатыры рарытэтныя залатыя манеты канца XIX — пачатку XX стагоддзя наміналам у 20 долараў ЗША. Як аказалася, залатыя кругляшы 1882, 1889, 1894 і 1904 гадоў выпуску захоўваліся ў сям'і няўдалага кантрабандыста яшчэ з часоў міжваеннай Польшчы.

Тады, у 1920–1930-х гадах, залатыя долары былі надзейным сродкам захавання капіталу і для шматлікіх жыхароў заходнебеларускіх ваяводстваў ІІ Рэчы Паспалітай, а продаж гэтых каштоўных манет ажыццяўляла разгалінаваная банкаўская сетка.

Гісторыя некаторых банкаў, якія працавалі ў Заходняй Беларусі, заслугоўвае асобнай увагі.

Галоўнай крэдытна-фінансавай установай Польшчы быў акцыянерны Банк Польскі, створаны ў студзені 1924 года. Менавіта ён стаў галоўным эмісійным цэнтрам, што выпускаў новыя папяровыя банкноты, якія абапіраліся на міжнародную сістэму «Gold Exchange Standard». Гэта адзначала, што ў склад пакрыцця эмісіі ўваходзіла золата, а таксама валюты іншых еўрапейскіх дзяржаў. За выпуск манет адказвала дзяржаўнае казначэйства.

Усяго дзейнічала каля 50 аддзяленняў Банка Польскага. У Заходняй Беларусі яны знаходзіліся ў Баранавічах, Слоніме, Ваўкавыску, Вільні, Пінску, Кобрыне, Гродна і Брэсце. Галоўнай задачай Банка Польскага было крэдытаванне сельскагаспадарчых і прамысловых прадпрыемстваў, а таксама падтрымка стабільнага курсу злотага.

Акрамя гэтага, у аддзяленнях банка прадаваліся манеты з каштоўных металаў, у тым ліку і залатыя долары. У справаздачы аб дзейнасці Прамыслова-гандлёвай палаты

ў Вільні за 1930 год адзначалася, што крэдытная дзейнасць Банка Польскага спрыяла развіццю дробнага гандлю і прамысловасці ў паўночна-ўсходніх ваяводствах ІІ Рэчы Паспалітай.

Найбольш папулярным сярод жыхароў Заходняй Беларусі быў створаны ў 1919 годзе банк — Паштовая ашчадная каса (PKO). Адкрыць рахунак у ім можна было як у аддзяленнях банка, так і на пошце. За гэта банку даводзілася плаціць значныя камісійныя Міністэрству пошты і тэлеграфаў, але справа таго каштавала. Эканамічны крызіс пачатку 1930-х гадоў не аказаў вялікага ўплыву на дзейнасць PKO. Важнай сферай дзейнасці гэтага банка было страхаванне жыцця і маёмасці.

Яшчэ адным папулярным ашчадным банкам былі касы Стэфчыка. Гэтыя фінансавыя ўстановы з'явіліся ў Галіцыі яшчэ ў 1899 годзе і былі створаны па ўзору крэдытна-кааператыўных спажывецкіх кас Фрыдрыха Райфайзена. Іх асноўнай мэтай было фінансаванне прыватных сельскіх гаспадарак і прадпрымальнікаў. Некалькі такіх устаноў дзейнічала ў Навагрудскім, Палескім і Віленскім ваяводствах.

Асобнай групай банкаў былі ўстановы, якія курыравалі галіны прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Адным з такіх быў Банк вытворчасці цукру. Акрамя крэдытавання прадпрыемстваў па вытворчасці цукру, банк займаўся яго скупкай і продажам. Склады банку знаходзіліся, між іншым, у Баранавічах, Брэсце, Пінску, Вільні. Галоўнымі замежнымі партнёрамі банку былі лонданскі банк «The British Overseas Bank» і галандскі «Suikermaatschappij».

У сваю чаргу, Віленскі зямельны банк быў адным са старэйшых банкаў на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў ІІ Рэчы Паспалітай. Ён быў створаны яшчэ ў 1872 годзе і паспяхова канкураваў з расійскімі Пецярбургска-Тульскім і Маскоўскім банкамі. Галоўнай яго функцыяй было крэдытаванне землеўласнікаў. Гэтым банк працягваў займацца і ў часы міжваеннай Польшчы. Ён выпускаў закладныя вэксалі, якія наміналіся як у злотых, так і ў доларах ЗША. У 1928–1931 гадах сума дывідэндаў, якія выплачваліся па вэксалях, складала 13,5 % ад іх намінальнай каштоўнасці, што

па тагачасных еўрапейскіх мерках было досыць высокім паказальнікам. Цікавым было і тое, што Віленскі зямельны банк быў адзіным польскім банкам, які выплачваў дывідэнды на працягу ўсяго перыяду сусветнага эканамічнага крызісу пачатку 1930-х гадоў.

Нарэшце, яшчэ адным уплывовым банкам, які працаваў у паўночна-ўсходніх ваяводствах II Рэчы Паспалітай, быў Дзяржаўны сельскагаспадарчы банк. Яго заснавальнікамі лічацца знакамітыя польскія эканамісты і публіцысты Здзіслаў і Севярын Людкевічы. Галоўнай задачай гэтай фінансавай установы была падтрымка асадніцтва, прац па меліярацыі зямель, сельскагаспадарчай вытворчасці, а таксама арганізацыя крэдытных ліній для дробных і сярэдніх сялянскіх гаспадарак. Дзяржаўны сельскагаспадарчы банк падтрымліваў крэдытамі сельскагаспадарчыя ашчадныя касы і саюзы сялянскага самакіравання. Банк распараджаўся дзяржаўнымі сродкамі, выдаткаванымі на развіццё сельскай гаспадаркі.

З 1925 года банк увёў доўгатэрміновы крэдыт для сялян і асаднікаў. Акрамя гэтага, Дзяржаўны сельскагаспадарчы банк ажыццяўляў звычайныя банкаўскія аперацыі па адкрыцці ўкладаў для фізічных і юрыдычных асоб. Яго аддзяленні знаходзіліся, між іншым, у Вільні і Пінску.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Ужо напярэдадні нападу Германіі на Польшчу жыхары Заходняй Беларусі пачалі здымаць свае сродкі з рахункаў у банках. Але дзе хаваць грошы? Лепшым месцам дзеля гэтага спакон вякоў лічылася зямля. Вось і пачалі заходнія беларусы хаваць свае скарбы ў розныя закуткі ў хатах ды ў зямлю.

Тыповай з'яўляецца гісторыя, якую расказала мне дачка афіцэра Войска Польскага, беларуса, Віктара Амельянюка з Кобрына. Перад вайной яе бацька працаваў страхавым інспектарам у Брэсце і няблага зарабляў. З заробку адкладваў грошы і купляў усё тыя ж залатыя долары. На пачатак вайны ў сям'і было 6 дваццацідоларавых залатых манет. У верасні 1939-га Віктар Амельянюк быў мабілізаваны, а яго жонка вырашыла схаваць скарб. Як аказалася, назаўсёды.

Зусім нядаўна пры будаўнічых працах у Брэсце было знойдзена некалькі дзясяткаў польскіх манет на агульную суму ў 13 злотых, якія схаваў на пачатку Другой сусветнай гаспадар дома.

Год таму на месцы, дзе ў 1930-х гадах знаходзіўся маёнтак Ракавіцы, які належаў прэзідэнту Брэсцкага аддзялення крэсовага саюза шляхты Тэадору Талочку, былі знойдзены польскія манеты на агульную суму ў некалькі дзясяткаў злотых. У 1930-х гадах гэта былі немалыя грошы, таму што за 10 злотых можна было набыць парася, а за 20 — карову. Больш таго, жыхар Віленскага, Навагрудскага ці Палескага ваяводства, які меў 100 злотых, лічыўся вельмі багатым чалавекам.

17 верасня 1939 года ўладальнік маёнтка Ракавіцы разам з сям'ёй перад самым прыходам людзей з чырвонымі апаскамі на рукавах здолеў пакінуць родавы маёнтак і выехаць на Захад. А вось яго злотыя засталіся на радзіме.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза польскія банкі, якія працавалі на гэтых тэрыторыях, былі зачыненыя, а грошы, якія ў іх знаходзіліся, — нацыяналізаваныя. Хутка быў уведзены савецкі рубель. Колькі гадоў ужо мінула з тых часоў, але ў шматлікіх жыхароў заходніх абласцей сучаснай Беларусі да сённяшняга дня захоўваюцца старыя «ашчадныя кніжкі» з арлом у кароне ці папяровыя грошы «панскай» Польшчы. Здаецца, навошта яны патрэбны? Насамрэч, гэтыя дакументы з'яўляюцца важнымі крыніцамі па адным з цікавых аспектаў нашай нацыянальнай гісторыі.

# У пошуках шчасця

У міжваенны час міграцыйная палітыка польскіх уладаў была досыць ліберальнай. Грамадзяне Польшчы мелі права наведваць любыя краіны, а таксама выязджаць у іншыя дзяржавы на пастаяннае месца жыхарства ці на працу. Усяго ў перыяд з 1918 па 1939 гады II Рэч Паспалітую пакінула 1,3 мільёна чалавек. Сярод гэтых людзей было нямала і беларусаў.

Улады Польшчы разглядалі палітыку ў сферы міграцыі як спосаб рэгулявання нацыянальнай структуры насельніцтва. Гаворка, перш за ўсё, ідзе аб усходніх ваяводствах, так званых «крэсах», дзе няпольскае насельніцтва пераважала.

24 лютага 1938 года ў Варшаве прайшло пасяджэнне міжміністэрскай камісіі па эміграцыі, на якім было заяўлена пра неабходнасць падтрымкі і стымулявання эміграцыі нацыянальных меншасцяў з тэрыторый, дзе адзначалася перавага прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў над палякамі. Акрамя гэтага, удзельнікі пасяджэння выказаліся за забарону эміграцыі з гэтых тэрыторый этнічных палякаў.

Галоўнай прычынай таго, што заходнія беларусы пакідалі свае дамы і адпраўляліся за мяжу, было беспрацоўе і «зямельны голад». Буйныя зямельныя надзелы ў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах знаходзіліся ў руках багатых польскіх землеўласнікаў, а сродкаў для таго, каб выкупіць гэтую зямлю, не было.

Некаторыя жыхары Заходняй Беларусі, паддаўшыся камуністычнай прапагандзе, выбіралі «ўцёкі» ў «бальшавіцкі рай». Іншыя легальна афармлялі дакументы і з'язджалі ў Латвію, Эстонію, Францыю, Аўстрыю ці за акіян, у Паўночную ці Паўднёвую Амерыку.

Выезд ажыццяўляўся па замежных пашпартах. Першапачаткова за атрыманне такога дакумента трэба было заплаціць сімвалічную суму, аднак з 1925 года атрыманне пашпарта стала бясплатным. Для таго, каб атрымаць замежны пашпарт для выезду на сезонныя працы ў адну з еўрапейскіх краін, жадаючы павінен быў прадставіць даведку з дзяржаўнай установы па працоўным пасрэдніцтве, а ў выпадку выезду за акіян трэба было прадставіць адпаведны дакумент з эміграцыйнага агенцтва. Звычайна з афармленнем такіх папер праблем не ўзнікала.

Калі казаць пра заакіянскую працоўную міграцыю, то часцей за ўсё заходнія беларусы з'язджалі ў Аргенціну. Справа ў тым, што 17 жніўня 1932 года ў Буэнас-Айрэсе была падпісана канвенцыя, якая надзяляла польскіх грамадзян аднолькавымі з аргенцінцамі правамі ў пытанні кампенсацыі

пры няшчасных выпадках на працах. Таксама канвенцыя прадугледжвала выплату сродкаў сваякам і блізкім (без уліку іх месца пражывання) у выпадку гібелі польскіх працоўных у Аргенціне.

Акрамя гэтага, польскія ўлады паклапаціліся пра тое, каб мігранты з ІІ Рэчы Паспалітай не мелі праблем з перасылкай заробленых грашовых сродкаў на радзіму. У сакавіку 1929 года Міністэрства фінансаў Польшчы стымулявала стварэнне банка PKO SA, галоўнай задачай якога было правядзенне аперацый па пераводзе зберажэнняў польскіх гастарбайтэраў на радзіму. Адно з першых замежных аддзяленняў гэтага банка было адкрыта менавіта ў Аргенціне.

У 1920–1930-х гадах у Аргенціну з Польшчы прыехала, па розных падліках, да 20 тысяч беларусаў. Беларусы разгарнулі ў Аргенціне актыўную грамадскую дзейнасць. У 1939 годзе ў гэтай краіне адбылося аб'яднанне беларускіх культурна-асветніцкіх арганізацый у Федэрацыю беларускіх таварыстваў, дзейнасць якой насіла адкрыта прасавецкі характар. Многія заходнебеларускія перасяленцы далучаліся да прафсаюзнага руху і Кампартыі Аргенціны. У канцы 1920-х гадоў быў створаны Саюз украінскіх і беларускіх працоўных арганізацый Аргенціны, які ў 1934 годзе налічваў у сваім складзе ўжо каля 3 тысяч сябраў.

Прыехаўшыя ў Аргенціну беларусы з польскімі пашпартамі часцей за ўсё працавалі фермерамі (чакарэра) або наёмнымі рабочымі; адпраўляліся таксама на нафтаздабычу на поўдзень, у Камадора-Рывадавія. Многія адразу па прыбыцці асядалі ў гарадах, асабліва ў Буэнас-Айрэсе.

Адным з тых, хто вырашыў перабрацца ў Аргенціну, быў і жыхар Навагрудскага ваяводства Уладзімір Малько. У пачатку 1930-х гадоў ён працаваў фермерам, але перад самай вайной, у 1939 годзе, назапасіўшы грошай на куплю зямельнага ўчастка, вырашыў вярнуцца на радзіму. На жаль, нам не вядомы далейшы лёс гэтага чалавека. Хутчэй за ўсё, ён згінуў у бездані Другой сусветнай вайны або стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Адзіным прадметам, які нагадвае пра гэтага жыхара Заходняй Беларусі, з'яўляецца яго аргенцінскі пашпарт, выдадзены паліцыяй Буэнас-Айрэса.

Іншым ажыўленым напрамкам працоўнай міграцыі заходніх беларусаў былі Латвія і Эстонія. Латвійскі рынак працы ў 1930-х гадах адчуваў вялізарную нястачу працоўных рук, перш за ўсё ў сельскай гаспадарцы. У 1938 годзе польскія ўлады правялі перамовы з латышамі па пытанні заключэння Дамовы аб эміграцыі, абумовіўшы ў гэтым дакуменце правы польскіх сезонных рабочых у гэтай краіне. 29 кастрычніка 1938 года паміж урадамі Польшчы і Латвіі была падпісана дамова, якая значна спрасціла становішча польскіх рабочых у Латвіі.

Падобная сітуацыя была і ў Эстоніі. Многія беларусы працавалі ў эстонскіх марскіх партах, а таксама наймаліся работнікамі да тамтэйшых землеўласнікаў. Пасля падпісання міжурадавай дамовы аб працоўных мігрантах у 1937 годзе ў Эстонію з усходніх польскіх ваяводстваў выехала каля 700 сельскагаспадарчых рабочых. Сярод іх быў і беларус Мікалай Стадольнік з вёскі Пашэкі, Дзісненскага павета, Віленскага ваяводства.

22 лістапада 1938 года паміж Польшчай і Эстоніяй была заключана эміграцыйная дамова, якая абумоўлівала правы польскіх сезонных рабочых у Эстоніі. Гэтая навіна не магла не цешыць беларускіх працоўных мігрантаў. 27 красавіка 1939 года Мікалай у чарговы раз перасек польска-латвійскую мяжу і ў той жа дзень, праехаўшы праз памежны пункт ў Валге, аказаўся ў Эстоніі.

Але на гэты раз доўга папрацаваць не ўдалося. У верасні 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Нямецкія войскі імкліва прасоўваліся на ўсход. 17 верасня 1939 года ў Заходнюю Беларусь увайшла Чырвоная Армія...

6 лістапада 1939 года начальнік КПП у Бігосава, капітан НКУС Кашырын зрабіў запіс у пашпарце беларуса: «Прыбыў. Вяртаецца ў Заходнюю Беларусь». А незадоўга да гэтага ў консульскім аддзеле савецкага паўпрэдства ў Эстоніі ў пашпарт Стадольніка чыноўнік паставіў штамп «Вяртаецца на радзіму».

Цікава, што адчуваў Мікалай, калі перасякаў мяжу? Пра што думаў? Напэўна, пра тое, як сустрэне яго родная зямля. А між тым, радзіма была ўжо іншай. Не было ні «войта»,

які выпісваў пашпарт, ні пана, які жыў недалёка ад вёскі. Іх арыштавалі і вывезлі. У вёсцы арганізавалі калгас, і хутка Мікалай стаў называцца «калгаснікам».

А калі з рэпрадуктараў заспявалі: «Вставай, страна огромная», беларускі селянін пайшоў абараняць сваю Радзіму. У 1946 годзе чырвонаармеец Мікалай Стадольнік атрымаў медаль «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне». Потым было няпростае, але мірнае жыццё.

Многія з польскіх грамадзян, назаўсёды пакінуўшы кантынент, пройдуць праз усе цяжкасці і стануць «амерыканцамі». Іншыя, паблукаўшы на чужыне, вырашаць вярнуцца, і апынуцца ў цэнтры самага жудаснага ў гісторыі чалавецтва ўзброенага канфлікту. Пры ўсёй неадназначнасці палітыкі польскіх улад, яны давалі сваім грамадзянам шанец знайсці сябе ў іншых краінах, пры гэтым не кідалі сваіх суайчыннікаў на чужыне і імкнуліся рэгуляваць іх статус праз міжнародныя дамовы.

# Футбол на «крэсах»

У Заходняй Беларусі было нямала прафесійных футбольных каманд, некаторыя з іх нарабілі шуму ў польскім чэмпіянаце. А падчас першага пасляваеннага чэмпіянату БССР клубы з Брэста і Гродна занялі, адпаведна, 2-е і 3-е месца.

У верасні 1918 года быў створаны агульнапольскі саюз, які павінен быў заняцця развіццём спорту ў адроджанай Польшчы. Калі ў 1921 годзе ў ІІ Рэчы Паспалітай было каля 70 тысяч спартоўцаў, то праз тры гады іх было ўжо 115 тысяч. У 1927 годзе пытанні развіцця спорту ў краіне былі перададзеныя ў вядзенне Дзяржаўнага бюро фізічнага выхавання і вайсковай падрыхтоўкі. Калі казаць пра развіццё футбола, то ў снежні 1919 года ў Варшаве адбыўся з'езд польскіх футбольных клубаў, у якім удзельнічалі прадстаўнікі 31 каманды.

Па выніках пасяджэння быў створаны Польскі футбольны саюз (PZPN) са штаб-кватэрай у Кракаве (знаходзілася

там да 1928 года). Адпаведна, першым старшынёй арганізацыі быў абраны кіраўнік клуба «Краковія» Эдвард Цэтнароўскі.

Тэрыторыя краіны была падзелена на 5 футбольных акруг: кракаўскую, львоўскую, лодзьскую, познаньскую, варшаўскую. Першы чэмпіянат павінен быў прайсці ў 1920 годзе, але вайна з бальшавікамі перакрэсліла планы тагачасных польскіх футбольных функцыянераў.

Пасля заканчэння савецка-польскай вайны ў складзе II Рэчы Паспалітай аказаліся новыя тэрыторыі на ўсходзе і на захадзе. Гэты факт паўплываў і на фармаванне структуры футбольных акруг. Да ўжо пералічаных вышэй дадаліся: горнасілезская, люблінская, торуньская і віленская. У 1929 годзе да іх дадаліся палеская і беластоцкая. У апошніх трох акругах і канцэнтравалася футбольнае жыццё Заходняй Беларусі.

На першым кангрэсе FIFA ў красавіку 1923 года Польскі футбольны саюз быў прыняты ў яго структуру. У 1927 годзе была створана так званая «польская ліга» (экстраліга). У яе ўвайшлі 14 клубаў. Трапіць у эліту можна было праз рэгіянальныя спаборніцтвы, якія праводзіліся ў рэгіянальных футбольных акругах. Па сутнасці, клас А, у якім якраз і разыгрывалася званне чэмпіёна, быў другой лігай польскага чэмпіянату. Пераможца гульняў у акрузе восенню пачынаў змагацца за выхад у вышэйшую лігу. На першым этапе ў групе збіраліся суседзі, таму з года ў год пераможцы палескай, беластоцкай і віленскай акруг разыгрывалі паміж сабой адзіны білет у экстралігу.

На тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў найбольшага поспеху дасягнуў шэраг футбольных клубаў. У 1929 годзе гродзенская «Крэсовія» выйграла чэмпіянат Беластоцкай акругі, абыграўшы свайго галоўнага канкурэнта — клуб «WKS 42 PP» (спартыўны клуб арміі, што прадстаўляў 42-гі пяхотны полк з Беластока). У складзе гродзенскага клуба гуляў такі вядомы гулец, як Марыян Схалер. Дарэчы, пазней ён перайшоў у варшаўскую «Легію» і пяць разоў запрашаўся ў нацыянальную зборную Польшчы.

Іншым знакамітым гродзенскім клубам быў «WKS 76 PP» (СКА 76-га пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута). У 1930-х гадах гэты клуб проста дамінаваў у Беластоцкай футбольнай акрузе. На працягу 1930-х гадоў «WKS 76 PP» толькі аднойчы, у 1935 годзе, прапусціў іншую каманду да чэмпіёнства. Справа ў тым, што службу ў палку праходзіла шмат таленавітых гульцоў з добрым досведам. Напрыклад, нападаючы Ежы Хасельбуш, што выступаў у свой час за «Варшавянку», ці абаронца Адам Халішка, які 3 разы (у 1934–1935 гадах) выступаў за нацыянальную зборную Польшчы.

Аднак было і шмат сваіх добрых футбалістаў. Сярод іх варта вылучыць нападаючага Яўгена Адамчыка, які ў сезоне 1938 года забіў 30 (!) галоў. Яго брат Тадэвуш разам з Кастусём Мельнікавым складалі добрую звязку паўабаронцаў. Надзейна гуляў брамнік Зенка, абаронцы — Юргелевіч, Пабурэнны ды іншыя.

У 1931 годзе «WKS 76 PP», набраўшы 25 балаў, упершыню заняў першае месца ў чэмпіянаце Беластоцкай акругі. А ў наступным годзе абыграў свайго галоўнага канкурэнта, «Ягелонію» з Беластоку, з лікам 6:2. У сезоне 1938 года гродзенцы выйгралі 11 матчаў з 12 і яшчэ адзін матч скончыўся нічыёй. У наступным годзе, падчас апошняга перадваеннага чэмпіянату, разграмілі клуб «Макабі Ломжа» з лікам 13:1. Дарэчы, у 1939 годзе гродзенскі клуб згуляў таварыскі матч з літоўскім прафесійным клубам «LSGF Kaunas» і абыграў літоўцаў з лікам 4:2.

Гульні ў Гродна адбываліся на стадыёне Акруговага таварыства фізічнага выхавання, які знаходзіўся на вуліцы Сабескага, 3. Квіткі на гульню каштавалі досыць дорага — 1 злоты, але вольных месцаў на стадыёне амаль не было.

Яшчэ адным вайсковым клубам з Заходняй Беларусі быў «WKS 82 PP» (СКА 82-га пяхотнага палка) з Брэста. У 1930 годзе, падчас барацьбы за месца ў 1-й лізе, брэсцкі клуб абыграў вельмі моцны віленскі «Агніска» і беластоцкі клуб 42-га пяхотнага палка. Аднак у выніку Брэст прайграў аднаклубнікам з Седльцаў і аддаў ім адзіную пуцёўку ў вышэйшую лігу. Удала гуляў і брэсцкі клуб танкістаў 4-га танкавага ды-

візіёна. Дарэчы, у горадзе на Бугу былі і іншыя клубы («Рух Брэст», «Пагоня Брэст»), якія даволі паспяхова змагаліся ў чэмпіянаце Палесся.

Былі свае клубы і ў яўрэйскага насельніцтва заходнебеларускіх ваяводстваў Польшчы. Так, у Гродна гулялі каманды «Макабі» і «Крафт». Дарэчы, менавіта ігрок-яўрэй Юзеф Клоц забіў у 1922 годзе першы гол у гісторыі польскай зборнай па футболу. Той матч супраць Швецыі палякі выйгралі 2:1. У студзені 1938 года пад ціскам з боку кіраўніцтва Трэцяга Рэйха Польскі футбольны саюз выключыў са свайго складу ўсе яўрэйскія клубы. Пасля гэтага частка футбалістаў-яўрэяў, у тым ліку і з Заходняй Беларусі, эміגравала ў Палесціну.

У Пінску гуляў клуб «Якар». Па назве зразумела, што гэта быў марскі клуб і складаўся з вайсковых маракоў, якія служылі ў Пінскай флатыліі. Гэты клуб двойчы станавіўся чэмпіёнам Палесся, а яго галоўнай зоркай быў Караль Косак, які меў досвед гульні ў польскай зборнай.

У 1933 годзе ў Вільне быў створаны аб'яднаны вайсковы клуб «Сміглы» (WKS Śmigły Wilno). Хутка гэта каманда стала дамінаваць у спаборніцтвах у Заходняй Беларусі і нават прайшла ў экстралігу. Найбольш удалым яе гульцом быў Юліўш Балосек, які нарадзіўся пад Гродна.

Пасля пачатку Другой сусветнай вайны многія футбалісты з першых дзён прынялі ўдзел у вайсковых дзеяннях. Некаторыя з іх загінулі ў баях. Іншыя апынуліся ў нямецкім палоне. Шэраг польскіх паліцэйскіх з Познані, якія ў міжваенны час гулялі ў прафесійных і паўпрафесійных футбольных камандах, апынуліся ў руках НКУС і пазней утрымліваліся ў турмах Мінску. Іх прозвішчы могуць знаходзіцца ў Беларускім катынскім спісе.

Што ж тычыцца футбольных клубаў з Заходняй Беларусі, то пра іх добрую падрыхтоўку сведчыць той факт, што падчас першага пасляваеннага чэмпіянату БССР па футболе каманды з Брэста і Гродна занялі, адпаведна, 2-е і 3-е месца.

# «Нясвіжская казка» Альбрэхта Радзівіла

У 1935 годзе ў Варшаве памёр XVI нясвіжскі ардынат Альбрэхт Антоні Радзівіл. Мала хто ведае, што гэты чалавек зрабіў даволі шмат дзеля росквіту архітэктурнай жамчужыны зямлі беларускай — Нясвіжскага замка.

Нарадзіўся князь Аба, як называлі ардыната блізкія, у 1885 годзе ў Берліне. У 1914-м ён атрымаў у спадчыну Нясвіжскія валоданні. Неўзабаве пачалася Першая сусветная вайна. Хутка па рашэнні князя на тэрыторыі Нясвіжскага замка быў арганізаваны шпіталь на 100 чалавек, а праз год у радавым гняздзе Радзівілаў размясціўся штаб 2-й рускай арміі.

Пасля ўсталявання бальшавіцкай улады ў Нясвіжы ў кастрычніку 1917 года гаспадар замка разам з цяжарнай жонкай спешна пакінуў маёнтак і на доўгія 4 гады з'ехаў у Лондан. Справа ў тым, што ў 1910 годзе князь Альбрэхт ажаніўся з брытанкай Дораці Паркер-Дзікан, якая ў 1917 годзе нарадзіла яму дачку — Альжбету. А Альбрэхт у 1919 годзе, нягледзячы на цяжкую хваробу ног, уступіў у Войска Польскае і ў званні паручніка 10-га палка ўланаў удзельнічаў у польска-бальшавіцкай вайне. У 1921 годзе князь скасаваў шлюб з Дораці.

Пасля ад'езду Радзівілаў радавы маёнтак быў фактычна кінуты на разрабаванне. У пачатку 1919 года ў замак прыйшлі бальшавікі. Атрад чэкістаў вывез з палацу шмат каштоўных рэчаў, што нават выклікала абурэнне з боку вышэйшага кіраўніцтва. Зрэшты, бальшавіцкая ўлада ў гэтых месцах затрымалася ненадоўга.

Па выніках Рыжскай мірнай дамовы 1921 года Нясвіжскі замак і большасць беларускіх уладанняў Радзівілаў апынуліся ў складзе Польшчы. Гэта, па сутнасці, выратавала Нясвіжскі замак ад поўнага разрабавання. Неўзабаве ў Нясвіж вярнуўся і князь Радзівіл. Спачатку Альбрэхт адчуваў некаторыя фінансавыя цяжкасці, што прымусіла яго прадаць частку старадаўніх рарытэтаў. Так, у 1926 годзе на брытан-

скім аўкцыёне «Сотбіс» былі выстаўлены 130 прадметаў узбраення і рыцарскага рыштунку XV — пачатку XVII стагоддзяў, якія належалі Мікалаю Радзівілу Чорнаму і Кшыштафу Радзівілу Пяруну.

Дарэчы, з калекцыяй зброі, якая знаходзілася ў Нясвіжскім замку, звязаны цікавы і даволі пацешны эпізод. У замак быў запрошаны спецыяліст, які павінен быў навесці парадак у сховішчы зброі. Гісторык упарадкаваў калекцыю, а князь Аба запытаў у яго, колькі трэба заплаціць за працу. Госць сышоў ад адказу, падкрэсліўшы, што праца яму не ў цяжар, і ён працуе з вялікім задавальненнем. Толькі пасля таго, калі яму настойліва падкрэслілі, што ён павінен атрымаць грошы за сваю працу, работнік спытаў, ці можа ён на памяць узяць які-небудзь асобнік з калекцыі. «Ды хоць дзесяць», — адказаў князь. Спецыяліст абраў адзін з экспанатаў, а затым прадаў яго за мяжой за некалькі мільёнаў.

У 1922–1928 гадах у Нясвіжскі замак з Масквы быў вернуты шэраг рарытэтаў, якія раней упрыгожвалі старажытную рэзідэнцыю. У адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай савецкі бок пагадзіўся вярнуць Польшчы ваенныя трафеі, усе навуковыя і культурныя каштоўнасці, вывезеныя пачынаючы з 1 студзеня 1772 года, а таксама абавязаўся выплаціць Польшчы 30 мільёнаў залатых рублёў за ўнёсак Польшчы ў гаспадарчае жыццё Расійскай імперыі і перадаць польскаму боку маёмасць на суму 18 мільёнаў залатых рублёў.

Так, у 1922 годзе ў Нясвіж вярнуліся старадаўнія гарматы. Частка з іх упрыгожвала палац. Іншыя былі адпраўлены ў музеі ў Кракаве, Львове і Варшаве. Акрамя гэтага, у замак былі вернуты старадаўнія дакументы і частка карцін з княжацкай галерэі.

Нягледзячы на пачатковыя фінансавыя цяжкасці, Альбрэхт Радзівіл даў працу тым землеўласнікам, маёмасць якіх пасля 1921 года аказалася на савецкім баку. Крупскія, Аскеркі, Шалевічы, Абуховічы, Нядзведскія працавалі ў 1930-х гадах у адміністрацыі Радзівілаўскіх землеўладанняў.

26 кастрычніка 1926 года Нясвіж наведаў Юзаф Пілсудскі. Афіцыйна маршал прыехаў, каб ушанаваць памяць свайго былога ад'ютанта Станіслава Радзівіла, які загінуў пад

Кіевам падчас польска-бальшавіцкай вайны. Але ўсе разумелі, што гэты візіт звязаны з больш важнымі справамі.

23 верасня 1929 года Нясвіжскі палац наведаў прэзідэнт Польшчы Ігнацій Масціцкі. Аўтамабіль прэзідэнта сустракала ганаровая варта конных асаднікаў, а таксама прадстаўнікоў улад. Князь Альбрэхт Радзівіл прыняў прэзідэнта ў сваім замку і адзначыў, што старажытныя сцены рэзідэнцыі бачылі многіх знакамітых людзей, і яму прыемна, што сёння ў Нясвіж прыехаў сам прэзідэнт.

Візіты першых асоб польскай дзяржавы да Радзівілаў тлумачыліся жаданнем Пілсудскага і Масціцкага заручыцца падтрымкай магнатэрыі «крэсаў». Акрамя гэтага ў Нясвіж пастаянна наведваліся прадстаўнікі знакамітых еўрапейскіх дваранскіх родаў, а таксама палітыкі. У розныя гады там бывалі князь Манака Людовік II, а таксама нашчадак Неапалітанскага караля князь Мюрат. Альбрэхт Радзівіл быў заўзятым паляўнічым і часта запрашаў іншаземцаў на паляванне.

Акрамя афіцыйных прыёмаў у замку адбываліся і свецкія балі і вечарыны. Тут гасцявалі між іншых польская актрыса Ядвіга Смасарска і «Хор Дана», таленавіты польскі спявак Мячыслаў Фог.

У 1930 годзе князь Альбрэхт набыў у Варшаве дарагое чырвонае сукно і заказаў у нясвіжскіх краўцоў пашыў фракаў для сваіх гасцей. Для дам у польскай сталіцы былі набыты дарагія, зробленыя па модзе часоў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, парыкі.

Адна з відавочцаў так успамінала той баль: *«Жанчыны былі ў чорных, доўгіх сукенках з ніткай жэмчугу на шыі і белымі парыкамі на галаве, а мужчыны ў чырвоных фраках. Толькі запрошаным афіцэрам было дазволена знаходзіцца на балі-маскарадзе ў вайсковых строях. Урачыстая вячэра была па-каралеўску раскошнай. Вакол кожнага месца стаялі пяць рознага памеру крышталёвых фужэраў з гербам Радзівілаў. Гасцей частавалі рыбай, фазанамі, курапаткамі, а таксама іншымі вельмі вытанчанымі стравамі».*

Летам замкавы парк быў месцам шпацыраў маладых людзей і мам з дзецьмі, а зімой возера вакол замка Радзі-

вілаў ператваралася ў вялікі каток, на які акрамя вучняў гімназіі прыходзілі нават ксяндзы і афіцэры 27-га уланскага палка Войска Польскага.

Адным з сяброў князя Абы быў палкоўнік Уладзіслаў Абух-Вашчацінскі. Ардынат арганізаваў пышны шлюб адной з дачок ваеннага. Дарэчы, князь Альбрэхт пазнаёміў дзяўчыну з багатым землеўласнікам з Вільні, афіцэрам нясвіжскага уланскага палка. Шлюбную сукенку для дачкі палкоўніка шылі ў Вене. Маладых, якія выходзілі з касцёла, сустракала ганаровая варта афіцэраў, якія над галавой трымалі шаблі.

Між тым, цяжкая хвароба дабівала князя, і 18 снежня 1935 года яго не стала. Па загадзе міністра абароны пахавалі князя з воінскімі ўшанаваннямі. Газета «Дзённік крэсовы» пісала, што ў дні пахавання гатэлі Нясвіжа і замкавыя пакоі не змаглі змясціць усіх людзей, якія прыехалі развітацца з князем. Перад жалобным картэжам салдаты 27-га Нясвіжскага уланскага палка неслі вянкі ад былога імператара Германіі Вільгельма II, прэзідэнта Італіі і прадстаўнікоў іншых замежных дзяржаў.

Пахавалі Альбрэхта Антонія Радзівіла ў радавой крыпце касцёла Божага Цела. Паводле ўспамінаў відавочцаў, калі жалобная цырымонія накіроўвалася ў касцёл, з замкавай вежы данесліся прыгожыя гукі паляўнічых ражкоў. Так з гаспадаром замка ў Нясвіжы развітваліся яго верныя слугі-гаявыя.

17 верасня 1939 года ў Нясвіж увайшлі часткі Чырвонай Арміі. Шмат з тых, хто знаходзіўся ў замку, уключна з апошнім ардынатам, малодшым братам Альбрэхта Радзівіла князем Леонам, былі арыштаваныя НКУС. Радзівілаўскія скарбы былі нацыяналізаваныя.

## Мінскі сябар Пілсудскага

Ён быў адным з найбольш буйных памешчыкаў у Мінскай губерні, паспяховым бізнэсмэнам, сябрам Дзяржаўнай Рады Расійскай імперыі, міністрам сельскай гаспадаркі Польшчы. Гутарка ідзе пра Канстанціна (Караля) Незабытоўскага.

Нарадзіўся будучы міністр у 1865 годзе ў маёнтку Аляшэвічы на Гродзеншчыне. Яго бацька быў буйным землеўладальнікам. У 1879 годзе Канстанцін разам са старэйшым братам Стэфанам паступілі ў 4-ы клас класічнай гімназіі ў Вільні. Дарэчы, аднакласнікамі Незабытоўскіх былі браты Юзаф і Браніслаў Пілсудскі. Пасля заканчэння школы ў 1884 годзе Канстанцін Незабытоўскі паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, які скончыў з адзнакай у 1889 годзе. Праз год у Вільні ён ажаніўся з Соф'яй Ленскай. У іх нарадзілася тры дачкі: Марыя, Алена і Ірэна.

Пасля вучобы Канстанцін вырашыў вярнуцца ў Беларусь і заняцца кіраваннем зямельнай уласнасцю ў Мінскай губерні. Фамільны маёнтак перайшоў яму ў спадчыну пасля смерці бацькі. Незабытоўскі пасяліўся ў фальварку Бацэвічы ў Бабруйскім павеце. У канцы XVII стагоддзя Незабытоўскія набылі Бацэвічы ў Радзівілаў. У пачатку XX стагоддзя ў распараджэнні шляхціца былі млын, алейня, цагляны завод, фабрыка мэблі, пры якой была арганізавана бальніца для работнікаў.

У 1909 годзе замест спаленага драўлянага палаца быў пабудаваны новы каменны палац. Па ўспамінах відавочцаў, у палацы было шмат антыкварнай мэблі, багатая калекцыя гадзіннікаў і іншых дарагіх прадметаў інтэр'еру. Асаблівым гонарам уладальнікаў Бацэвічаў была калекцыя старажытнага аўстрыйскага фарфору (каля 500 элементаў). Каля палаца быў разбіты зімовы сад з флігелем. Дарэчы, зімой будынак абаграваўся сістэмай цэнтральнага ацяплення, якая была праведзена па ўказанні Незабытоўскага.

Хутка шляхціцператварыўся ў буйнога і паспяховага бізнэсмэна. Ён прымаў удзел у рабоце Мінскага сельскагаспадарчага таварыства (МСТ). Першапачаткова таварыства было звычайным адміністрацыйным праектам царскіх чыноўнікаў, але з цягам часу гэта арганізацыя стала адной з галоўных устаноў у Паўночна-Заходнім краі.

Ідэя стварэння МСТ належала піянеру рускай культуры на Міншчыне міністру ўнутраных спраў Льву Макаву. У 1876 годзе быў зацверджаны статут гэтай арганізацыі. Аднак надзеі на тое, што галоўную ролю ў гэтых арганізацы-

ях будуць гуляць рускія дваране, не апраўдаліся. Менавіта мясцовая беларуска-польская шляхта стала галоўным рухавіком эканамічнага жыцця Міншчыны. Адміністрацыя таварыства імкнулася мадэрнізаваць шляхецкую сельскую гаспадарку. Ствараліся склады сельскагаспадарчых машын, угнаенняў.

Важным фактарам было тое, што на тэрыторыі беларускіх губерняў знаходзілася значная колькасць рускіх войскаў. Гэта ўдала выкарыстала кіраўніцтва МСТ. Паспяховыя перамовы з вайсковым кіраўніцтвам прывялі да заключэння дамовы на пастаўку збожжа, мукі і кашы для вайсковай інтэндантуры. Напрыклад, у 1889 годзе МСТ атрымаў заказ на пастаўку 300 тысяч тон збожжа для войска. Мінскія памешчыкі, у тым ліку і Канстанцін Незабытоўскі, былі манапалістамі і ў пастаўцы мяса і мясной прадукцыі ў войска.

Дзякуючы актыўнай і паспяховай дзейнасці адміністрацыі МСТ 17 лютага 1900 года было створана Мінскае таварыства ўзаемнага сельскагаспадарчага страхавання. Адміністрацыя МСТ спрабавала рэалізаваць праект па стварэнні Паўночна-Заходняга сельскагаспадарчага таварыства ўзаемнага кароткатэрміновага крэдыту. Амбіцыйная ідэя, на жаль, не была рэалізавана, таму што не выклікала падтрымкі з боку прадстаўнікоў Віленскага і Ковенскага сельскагаспадарчых таварystваў.

У 1896 годзе пры таварыстве створана лесаўпарадкавальнае бюро з аддзелам ляснога гандлю, у 1897-м — камерцыйнае аддзяленне. Таварыства пастаўляла лясныя матэрыялы данецкім каменнавугальным шахтам, экспартавала лес, наладзіла гандлёвыя зносіны з Варшавай па збыце масла і малочных прадуктаў, займалася ўпарадкаваннем мінскіх конскіх кірмашоў, стварэннем узорнага кірмашу на Залатой Горцы па продажы коней і іншай жывёлы. Канстанцін Незабытоўскі адзначыўся яшчэ і тым, што падтрымліваў дробных землеўласнікаў і тых, хто распачынаў уласную справу.

У пачатку XX стагоддзя Незабытоўскі набыў яшчэ адзін маёнтак у Мінскай губерні — Ольсу. Ольса была адным з буйных землеўладанняў у Беларусі і гістарычна належала

роду Забелаў. Палац у Ольсе быў пабудаваны мінскім кашталянам, генералам-лейтэнантам войск ВКЛ Шымонам Забелам у XVIII стагоддзі. Перад палацам быў разбіты прыгожы сад. Разам з маёнткам Незабытоўскі атрымаў і 900 дзесяцін зямлі. У 1897 годзе шляхціц стаў ганаровым пакаёвым суддзёй у Бабруйску, а ў 1911 годзе — сябрам Дзяржаўнай рады Расійскай імперыі ад Мінскай губерні.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Незабытоўскі вярнуўся ў Беларусь. 30 красавіка 1918 года па загадзе камандуючага I польскім корпусам генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага Канстанцін Незабытоўскі ўвайшоў у склад маёмаснай камісіі корпуса. Акрамя гэтага, ён удзельнічаў у грамадзянскім кіраванні Бабруйскам.

У чэрвені 1918 года на з'ездзе ў Мінску землеўладальнік быў абраны сябрам Камітэта польскага савета Міншчыны. Аднак пасля пачатку наступу Чырвонай Арміі Незабытоўскі з'ехаў у Варшаву.

Знаходзячыся ў Польшчы, Незабытоўскі працягнуў цікавіцца справамі ў Мінскай губерні. І гэта не дзіўна, бо там у яго засталіся вялікія зямельныя ўладанні.

У студзені 1919 года разам з іншым буйным мінскім землеўладальнікам — Эдвардам Вайніловічам — Незабытоўскі ўдзельнічаў у перамовах з амерыканскай ваеннай дэлегацыяй на чале з лейтэнантам Фостэрам.

Увесну 1919 года шляхціц быў прызначаны паўнамоцным прадстаўніком Польскага Чырвонага Крыжа на польска-савецкім фронце ў Беларусі.

Пасля падпісання Рыжскай дамовы Незабытоўскі страціў усе свае маёнткі і зямельныя надзелы, якія знаходзіліся на Міншчыне. На польскім баку засталіся толькі маёнтак Хотаў каля Стоўбцаў, які належаў жонцы, а таксама Глыбокае і Аляшэвічы. Але ён набыў былое нямецкае землеўладанне на захадзе Польшчы ў Аркушеве пад Гнезнам.

У маі 1926 года Незабытоўскі ўпершыню пасля доўгай паўзы сустрэўся з Пілсудскім. Гутарка былых школьных таварышаў была доўгай і змястоўнай. Маршал, адчуўшы, што землеўласнік з Міншчыны разбіраецца ў сельскай гаспадарцы, прапанаваў яму пасаду міністра.

Праца новага ўрада пачалася ў кастрычніку 1926 года. Для таго, каб стабілізаваць стан сельскай гаспадаркі ў Польшчы, Незабытоўскі пачаў кампанію па павышэнні цэн на сельгаспрадукцыю. Аднак неўзабаве ён сустрэў процідзеянне з боку іншых польскіх палітыкаў. Да таго ж і сам Юзаф Пілсудскі быў не зацікаўлены ў павышэнні коштаў на прадукты для арміі.

У сакавіку 1928 года Незабытоўскі быў абраны ў сенат ад Палескага ваяводства. Летам таго ж года шляхціц наведаў Прагу і сустрэўся з чэхаславацкім прэзідэнтам Томашам Масарыкам. Палітыкі абмеркавалі магчымасці паляпшэння адносін паміж дзвюма краінамі.

Па прапанове Незабытоўскага ў 1929 годзе польскі ўрад адмяніў вывазныя мыты на зерне. У гэтым жа годзе міністр падаў у адстаўку разам з іншымі членамі ўрада.

З 1930 года Незабытоўскі цалкам адышоў ад палітыкі і пераключыўся на кіраванне сваім маёнткам Хотаў у Навагрудскім ваяводстве. Там, як і на Міншчыне, яму ўдалося стварыць узорную гаспадарку з развітой інфраструктурай і вытворчасцю.

17 верасня 1939 года Канстанцін Незабытоўскі прыняў рашэнне з'ехаць спачатку ў Францыю, а затым у Вялікабрытанію. Там ім былі напісаны ўспаміны пад назвай «З Пілсудскім са школьнай лавы».

Памёр мінскі шляхціц ў 1952 годзе ў графстве Бекенхэм у доме для састарэлых «Антаколь».

* * *

У пачатку 1990-х гадоў у беларускія Бацэвічы, дзе калісьці знаходзіўся маёнтак Незабытоўскіх, з ЗША прыязджала малодшая дачка Канстанціна Незабытоўскага Ірэна з унучкай. Жанчына паспела паказаць унучцы тыя месцы, дзе яна, будучы такой жа маленькай дзяўчынкай, правяла дзяцінства. Яны прайшлі па знаёмых вясковых вуліцах і адшукалі тое месца, дзе некалі стаяў іх радавы маёнтак.

# Палескі Джэймс Бонд

Лёс гэтага чалавека нагадвае прыгодніцкі раман. Ён нарадзіўся ў Бельгіі, вучыўся ў Англіі, ваяваў у Афрыцы, служыў у Польшчы і амаль 15 гадоў жыў на беларускім Палессі. Гаворка пра брытанскага генерала Адрыяна Картона дэ Віярта.

Нарадзіўся будучы генерал 5 мая 1880 года ў сям'і арыстакратаў у Брусэлі. Пасля смерці маці хлопчыка адправілі ў каталіцкую школу ў Англіі, скончыўшы якую Адрыян паступіў у Оксфард. Аднак займець вышэйшую адукацыю не атрымалася. У 1899 годзе пачалася англа-бурская вайна, якая прымусіла маладога бельгійца кінуць вучобу і запісацца ў брытанскую армію. У адным з першых баёў у Афрыцы Картон дэ Віярт быў цяжка паранены ў жывот.

Даведаўшыся, што сын кінуў вучобу, бацька Адрыяна быў раз'юшаны, але зрабіць нічога не змог. А між тым малады бельгіец у 1902 годзе пераехаў у Індыю. У 1904-м Картону дэ Віярту прысвоілі званне лейтэнанта і зноў перавялі ў Паўночную Афрыку. Ён быў прызначаны ад'ютантам галоўнакамандуючага брытанскіх войскаў у Афрыцы сэра Генры Хіларда.

Дзіўны факт: праслужыўшы 7 гадоў у брытанскай арміі, Адрыян увесь гэты час заставаўся грамадзянінам Бельгіі. 13 верасня 1907 года ён нарэшце прынёс прысягу на вернасць каралю Эдуарду VII і атрымаў брытанскае падданства. У лютым 1910-га Картону дэ Віярту было прысвоена званне капітана.

Малады вайсковец шмат падарожнічаў па Еўропе, бываў у Аўстра-Венгрыі, Баварыі.

Дарэчы, двое стрыечных братоў Адрыяна зрабілі бліскучую кар'еру на радзіме. Анры Картон дэ Віярт быў абраны ў Палату Прадстаўнікоў бельгійскага парламента, у 1911 годзе стаў міністрам юстыцыі, а ў 1920-м быў абраны на пасаду прэм'ер-міністра Бельгіі. Падчас Другой сусветнай вайны Анры ўзначальваў бельгійскі ўрад у выгнанні. Барон Эдмон Картон дэ Віярт быў палітычным сакратаром караля Бельгіі і дырэктарам кампаніі «Сасьетэ жэнераль Бельгія».

У 1908 годзе Адрыян ажаніўся з графіняй Фрэдэрыкай Фугер фон Бабенхаўзен. У іх нарадзіліся дзве дачкі. Пасля пачатку Першай сусветнай вайны Адрыян Картон дэ Віярт быў накіраваны на службу ў брытанскі Самалі. Мужнасці гэтага афіцэра дзівіліся нават ворагі. Падчас адной з атак на варожы форт Шымбер Бэрыс Адрыян быў цяжка паранены (куля выбіла вока і адарвала частку вуха). Але гэта не спыніла яго, і малады афіцэр усё роўна павёў сваіх людзей у атаку, выбіўшы ворага пазіцыі. За гэты подзвіг у 1915 годзе Адрыян быў узнагароджаны Ордэнам за заслугі.

У лютым таго ж года Картон дэ Віярт вярнуўся на кантынент і ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях на заходнім фронце, камандуючы пяхотнай брыгадай. У адным з баёў на Іпры яму адарвала кісць левай рукі. Падчас бітвы на Соме ён быў паранены ў плячо і галаву.

Афіцэру адно за другім прысвойвалі чарговыя званні: маёр, падпалкоўнік, палкоўнік, генерал. У сакавіку 1918 года ён быў узнагароджаны бельгійскім Ваенным крыжам, а таксама брытанскім ордэнам Св. Джорджа і Майкла. Але самай галоўнай узнагародай 36-гадовага бельгійца стаў Крыж Вікторыі, вышэйшая ўзнагарода Брытанскай імперыі, якая ўручаецца за гераізм падчас ваенных дзеянняў.

У дакуменце аб узнагароджанні, у прыватнасці, адзначалася: *«Узнагароджваецца за мужнасць і рашучасць, праяўленыя падчас кровапралітных баёў. Пасля таго, як камандзіры іншых батальёнаў былі забітыя, ён прыняў на сябе камандаванне гэтымі часткамі і ўмела імі камандаваў»*.

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны Картон дэ Віярт быў накіраваны ў толькі што адроджаную Польшчу ў якасці сябра Брытанскай вайсковай місіі. Неўзабаве ён і ўвогуле ўзначаліў гэтую місію. Варта таксама падкрэсліць, што генерал быў прадстаўніком брытанскай разведкі ў Польшчы.

Падчас знаходжання ў Варшаве Адрыян Картон дэ Віярт завязаў цесныя сяброўскія адносіны з Юзафам Пілсудскім, Ігнатам Падэрэўскім, кіраўніком французскай вайсковай місіяй Максімам Вейганам і сябрам гэтай місіі, маладым афіцэрам Шарлем дэ Голем. Вялікай заслугай брытанскага

афіцэра была арганізацыя перамоваў паміж польскімі ўладамі і прадстаўнікамі Сымона Пятлюры — у Польшчы з'явіўся яшчэ адзін хаўруснік у барацьбе з бальшавікамі.

Генерал быў адным з нешматлікіх замежных дыпламатаў і членаў замежных місій, хто адмовіўся пакінуць польскую сталіцу падчас Варшаўскай бітвы 1920 года. Аднойчы ён выехаў на фронт, але ў раёне Млавы на цягнік, у якім ехалі замежныя вайскоўцы, напаў атрад чырвоных казакоў. Брытанскі генерал не спалохаўся і ўмела арганізаваў абарону цягніка. У выніку бальшавікі вымушаны былі адступіць.

За заслугі перад Польшчай Адрыян Картон дэ Віярт быў узнагароджаны вышэйшай польскай узнагародай, Крыжам «Віртуці Мілітары». Юзаф Пілсудскі любіў гаварыць пра брытанскага генерала, што ён *«быў больш польскім, чым самі палякі»*.

Пасля заканчэння вайны ў 1921 годзе генерал працягваў кіраваць брытанскай вайсковай місіяй, а пасля завяршэння яе працы вырашыў застацца ў краіне, якая стала для яго па-сапраўднаму роднай. Тым больш, яго сябар, давідгарадзенскі ардынат Караль Мікалай Радзівіл, атрымаў у спадчыну велізарныя зямельныя ўладанні ў Заходняй Беларусі і падараваў брытанскаму генералу маёнтак Простынь на Палессі. 50-гадовы генерал з задавальненнем прыняў такі шчодры падарунак.

Маёнтак генерала знаходзіўся ў глухой палескай пушчы. Рэзідэнцыя генерала месцілася на востраве, пасярэдзіне якога быў пабудаваны невялікі фальварак, дом для прыслугі і гаспадарчыя пабудовы (у тым ліку стайня, хлеў, куратнік). У распараджэнні генерала было 4 кані, 7 кароў, 3 свінні, некалькі дзясяткаў бараноў і каля 200 курэй. Працавала на генерала 5 давераных асобаў.

Вось як Простынь апісваў польскі мастак Хенрык Узембло: *«Стары, паляўнічы, драўляны, тыповы радзівілаўскі дом, але перабудаваны ўнутры пад патрэбы сапраўднага ангельскага джэнтльмена. Перад домам зроблены тратуар, па краях якога пасаджаны пеларгоніі. Чырвоныя, такія, як ля Букінгемскага палацу. А дубы нагадваюць Рычманд ці Хэмптан Корт»*.

А так пра свой маёнтак пісаў сам генерал: «*У Простыні было ўсё, пра што я заўсёды марыў: паляванне і пачуццё аддаленасці ад цывілізацыі. Тут было ціха і спакойна. На мяне працаваў выдатны польскі повар і мой верны слуга Холмс*».

Брытанец часта ладзіў паляванні. Нягледзячы на адсутнасць кісці левай рукі і вока, Картон дэ Віярт быў выдатным стралком. Час ад часу генерал наведваў маёнтак Караля Радзівіла ў Маньковічах. Узімку Адрыян выязджаў на лячэнне ў Англію і вяртаўся, як толькі на палескіх рэках і азёрах пачынаўся крыгаход.

Па ўспамінах сучаснікаў, брытанскі генерал ненавідзеў бальшавікоў. Падчас паляванняў, якія адбываліся недалёка ад мяжы, ён гаварыў сваім калегам: «*У бальшавікоў моцнае войска, але хай толькі паспрабуюць да нас сунуцца*».

У ліпені 1939-га 60-гадоваму Картону дэ Віярту ізноў прыйшлося надзець вайсковы мундзір. Ён узначаліў Брытанскую вайсковую місію ў Варшаве. Праўда, узаемадзейнічаць генералу давялося ўжо не з Пілсудскім, а з маршалам Эдвардам Рыдз-Сміглы. У канцы жніўня 1939 года англійскі генерал спрабаваў давесці да польскага камандавання думку пра неабходнасць адводу польскіх войскаў далей ад мяжы і арганізацыі абароны на Вісле, але польскія генералы, упэўненыя ў сіле свайго войска, не слухалі старога бельгійца і працягвалі трымаць свае часткі непасрэдна ля мяжы з Трэцім Рэйхам.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Германскі бліцкрыг стаў жорсткім урокам для тых, хто не захацеў паслухаць старога інваліда, які прыехаў з палескіх балот. Брытанскаму генералу ўсё ж удалося настаяць на тым, каб польскі флот, размешчаны на Балтыцы, пакінуў сваю базу і не ўступаў у бессэнсоўныя і крывапралітныя баі з германскім флотам. У выніку, польскія караблі дабраліся да брытанскіх выспаў і ўсю вайну ваявалі супраць нацыстаў у складзе ВМФ Вялікабрытаніі.

17 верасня 1939 года Картон дэ Віярт прыняў рашэнне аб эвакуацыі брытанскай вайсковай місіі з Польшчы. На шляху да румынскай мяжы калона аўтамашын была атакаваная

самалётамі люфтвафэ, у выніку чаго загінула жонка аднаго з брытанскіх афіцэраў. Уратавалася місія і ад частак Чырвонай Арміі, якія, імкліва прасоўваліся да мяжы з Румыніяй, каб адрэзаць «польскім афіцэрскім бандам» шлях да адступлення.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР фальварак генерала быў нацыяналізаваны, а ўнікальная калекцыя паляўнічых стрэльбаў, прадметаў мэблі, прывезеных у Простынь непасрэдна з Вялікабрытаніі, была вывезена ў Мінск і перададзена ў распараджэнне музеяў сталіцы БССР. Падчас нямецкай акупацыі ўсе гэтыя найкаштоўнейшыя прадметы былі разрабаваныя і знішчаныя.

У красавіку 1940 года генерал Картон дэ Віярт прыняў удзел у баях за Тронхейм ў Нарвегіі. Затым ён камандаваў 61-й пяхотнай дывізіяй, раскватараванай у Паўночнай Ірландыі. У красавіку 1941 года генерал быў прызначаны кіраўніком брытана-югаслаўскай вайсковай місіі. Картон дэ Віярт наведаў Бялград і ўдзельнічаў у перамовах з югаслаўскім урадам. На зваротным шляху ў бамбардзіроўшчыка, на якім ляцеў генерал, адмовілі абодва рухавіка, і самалёт упаў на тэрыторыі, кантраляванай італьянцамі.

Картон дэ Віярт выжыў, але быў схоплены італьянскімі салдатамі і змешчаны ў турму для высокапастаўленых ваеннапалонных. 61-гадовы генерал пяць (!) разоў спрабаваў уцячы. У 1943 года італьянцы выкарыстоўвалі палоннага брытанца ў перамовах з саюзнікамі аб выхадзе іх краіны з вайны. У выніку, генерал быў вызвалены і апынуўся ў Вялікабрытаніі.

Але генерал не збіраўся сядзець дома. У 1943 годзе Картон дэ Віярт у складзе брытанскай дэлегацыі адправіўся ў Каір, дзе праходзіла сустрэча паміж брытанскім прэм'ер-міністрам Уінстанам Чэрчылем, амерыканскім прэзідэнтам Франклінам Рузвельтам і кітайскім лідарам Чан Кайшы. Неўзабаве пасля гэтага Чэрчыль накіраваў генерала ў якасці свайго асабістага прадстаўніка ў Кітай.

У 1945 годзе Адрыян Картон дэ Віярт быў узнагароджаны Ордэнам Брытанскай імперыі. Толькі ў 1947-м генерал нарэшце выйшаў у адстаўку. Праз два гады памерла яго

жонка, а ў 1951-м ён ажаніўся з жанчынай, якая на 23 гады была маладзейшая за яго.

Памёр генерал Адрыян Картон дэ Віярт у 1963 годзе.

Ці ўспамінаў гэты чалавек беларускія палескія краявіды, паляванне на балотах і маляўнічых азёрах Заходняй Беларусі? Безумоўна, так. У адной з гутарак з журналістамі, на пытанне, ці шкадуе ён пра скрадзеную Саветамі з Простыні калекцыю паляўнічай зброі, Картон дэ Віярт, уздыхнуўшы, сказаў: *«Бальшавікі скралі мае стрэльбы, мэблю, адзенне, але яны не змаглі скрасці мае ўспаміны, якімі я і жыву».*

## Будаўніцтва 1920-х на «крэсах»

У сярэдзіне 1920-х польскія ўлады распрацавалі планы будаўніцтва цэлых раёнаў прыватных дамоў для чыноўнікаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Некаторыя з тых даваенных польскіх камяніц захаваліся да сённяшняга дня. Яны з'яўляюцца не толькі архітэктурнымі помнікамі, але і прыкладамі таго, як трэба забудоўваць невялікія беларускія гарады.

28 мая 1924 года Міністэрства фінансаў Польшчы адчыніла крэдытную лінію для будаўніцтва дамоў для супрацоўнікаў дзяржаўнага апарату ва ўсходніх ваяводствах. Сродкі ў рамках крэдыту атрымала Міністэрства грамадскіх работ (у якім быў створаны адмысловы Аддзел дзяржаўных будынкаў) і ўжо 6 чэрвеня скіравала грошы ў сваё прадстаўніцтва ў Брэсце. 12 мая 1924 года былі створаны Ваяводскія камітэты будаўніцтва, якія ў супрацы з ваяводскімі ўладамі пачалі распрацоўваць план будаўніцтва індывідуальных дамоў у канкрэтных мясцовасцях. Хутка пасля гэтага былі створаны Павятовыя будаўнічыя камітэты, якія пад кіраўніцтвам стараст рыхтавалі неабходную інфармацыю для пачатку прац.

У чэрвені архітэктары пачалі распрацоўваць чарцяжы і праекты новых будынкаў. Паралельна ішла падрыхтоўка каштарыснай дакументацыі. Дарэчы, над распрацоўкай чарцяжоў працавалі 14 лепшых варшаўскіх архітэктараў. Хутка было прынята рашэнне аб будове тыповых дамоў.

Было распрацавана 33 тыпы будынкаў, з якіх 8 былі з дрэва і 25 каменных. Гэта былі дамы для старастаў (на дзве і чатыры кватэры), а таксама баракі для паліцыі. У дамах для стараст планавалася зрабіць 4 пакоі для сям'і і два службовых.

Пры будаўніцтве павінны былі ўлічвацца кліматычныя ўмовы Палесся. Дзеля таго, каб т. зв. калоніі гарманічна ўпісаліся ў гарадскую забудову, былі праведзеныя спецыяльныя праектныя работы на мясцовасці. Паралельна з гэтым ішла купля будаўнічых матэрыялаў. Усяго для будаўніцтва было прывезена 11 600 000 штук цэглы і 3 800 000 штук дахоўкі.

Нарэшце пачаліся працы. Будаўніцтву спрыяла добрае надвор'е: восень 1924 года была даволі цёплай. У Навагрудскім ваяводстве дамы будаваліся ў 8, у Палескім — у 11, на Віленшчыне (Віленскае ваяводства было створана толькі ў 1925 годзе) — у 16 мясцовасцях. У Навагрудскім ваяводстве ў 1925 годзе было пабудавана 43 дамы (21 каменны, 22 драўляных), у Палескім — 69 (26 каменных, 43 драўляных), на Віленшчыне — 27 (5 каменных, 22 драўляных). Чаму выкарыстоўвалі дрэва? Таму што яно было танней за цэглу, дый будаўнічы працэс ішоў хутчэй. Варта таксама падкрэсліць, што адной з галоўных праблем была кепская транспартная інфраструктура некаторых з новых мікрараёнаў. Так, напрыклад, у Нясвіжы новая калонія знаходзілася ў 14 кіламетрах ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі, у Валожыне — у 28, у Шаркаўшчыне — у 36 кіламетрах.

Катэджныя пасёлкі ўзору канца 1920-х гадоў з'явіліся ў Браславе, Шаркаўшчыне, Плісе, Глыбокім, Свянцянах, Дуніловічах, Смаргоні, Вілейцы, Ашмянах, Валожыне, Лідзе, Наваградку, Стоўбцах, Нясвіжы, Баранавічах, Слоніме, Косаве, Пружанах, Кобрыне, Драгічыне, Пінску, Брэсце, Століне. Варта падкрэсліць, што гэта акцыя адбывалася і на тэрыторыі Заходняй Украіны.

Асобнай сферай стала будаўніцтва памяшканняў для польскіх памежнікаў з Корпуса аховы памежжа (КАП). Па праграме на 1924–1925 гады планавалася 238 застаў і 111 дапаможных будынкаў. Аднак фінансавых сродкаў хапіла толькі на будаўніцтва, адпаведна, 61 і 134-х.

Рэалізацыя праграмы складалася з трох фазаў, чарговасць якіх акрэсліла камандаванне КАП. У першай фазе, на якую адводзілася 14–16 тыдняў, будаўніцтва ў 10 памежных участках Валынскага, Навагрудскага ваяводства, а таксама на Віленшчыне, у выніку чаго павінна было паўстаць 136 будынкаў. У другой фазе (з 1 сакавіка 1925 года) быў запланаваны ўвод у эксплуатацыю 63 будынкаў КАП у 4-х памежных участках Палескага ваяводства. У трэцяй фазе (з 7 мая 1925 года) — 19 будынкаў у Тарнопальскім ваяводстве. Працы на другой і трэцяй фазе павінны былі працягвацца таксама 14–16 тыдняў.

Трэба браць пад увагу, што памежныя тэрыторыі былі небяспечным рэгіёнам. Там, нягледзячы на з'яўленне ў 1924 годзе памежнікаў КАП, усё ж працягвалі дзейнічаць прабальшавіцкія атрады, якія здзяйснялі напады на дзяржустановы. Падчас першай фазы адбылася падрыхтоўка неабходнай інжынерна-тэхнічнай дакументацыі, а таксама распрацоўка чарцяжоў. Разам з тым, адбываўся завоз будаўнічых матэрыялаў (як паказваюць пазнейшыя падлікі, ва ўсходнія ваяводствы для будаўніцтва інфраструктуры КАП было завезена 7 657 578 штук цэглы). На працягу гэтай фазы ўдалося збудаваць частку застаў і нарэшце наладзіць сістэматычную ахову дзяржаўнай мяжы.

Паводле ўспамінаў сучаснікаў тых падзей, у польскіх дзяржаўных установах здараліся праблемы з набыццём тэрыторый пад будаўніцтва. Часам уласнік зямлі адсутнічаў на тэрыторыі Польшчы. Не з усімі ўдавалася дамовіцца. Не сакрэт, што для тагачаснай катэджнай забудовы выбіраліся найбольш прывабныя часткі гарадоў і мястэчак. Павятовы стараста павінен быў жыць не на выселках, а амаль у цэнтры горада. А такія прывабныя кавалкі зямлі дорага каштавалі. Цэны за гектар зямлі ваганіся ад 429 да некалькіх дзясяткаў тысяч злотых. Самая танная зямля была ў Пружанах (трошкі больш за 400 злотых), а самыя высокія цэны былі ў Брэсце (ад 50 да 60 тысяч злотых за гектар).

Памежнікам таксама даводзілася змагацца з уласнікамі ў справе атрымання права будаўніцтва інфраструктуры на тых ці іншых зямельных надзелах. Кошты зямлі для

будаўніцтва памежнай інфраструктуры вагалася ад 115 злотых да 1500 злотых за гектар. Цяжка прыйшлося з будаўніцтвам для КАП на Палессі, дзе было шмат балот.

Даволі актуальнай праблемай для польскіх уладаў, як, дарэчы, і для сённяшніх беларускіх, была адсутнасць кваліфікаваных працоўных рук. Дзеля гэтага палякам даводзілася прывозіць рабочых з Цэнтральнай і Заходняй Польшчы. Аднак варта падкрэсліць, што масавае будаўніцтва на «крэсах» стала для жыхароў Заходняй Беларусі добрай магчымасцю зарабіць грошы. Шмат палешукоў тады ўладкавалася на будаўніцтва ў якасці працоўных.

Працэс будаўніцтва польскіх мікрараёнаў на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў працягваўся на працягу ўсяго міжваеннага дваццацігоддзя. Таксама ўдалося стварыць і добрую памежную інфраструктуру. Калі глядзіш на праекты тых будынкаў і калоній, становіцца зразумела, што над імі працавалі сапраўды лепшыя з лепшых.

# Заходнебеларускі фэшн

Калі давядзецца разглядаць даваенныя здымкі з Заходняй Беларусі, звярніце ўвагу на вопратку звычайных жыхароў беларускіх гарадоў і мястэчак. Шыкоўныя паліто, капелюшы ды сукенкі еўрапейскіх модных трэндаў вельмі дысанавалі з казкамі савецкай прапаганды пра беднасць і забітасць заходніх беларусаў і ўкраінцаў.

У 1920–1930-х гадах вышэйшы і сярэдні клас насельніцтва ІІ Рэчы Паспалітай знаходзіўся пад уплывам заходнееўрапейскай моды. Прадстаўнікі сялянства ў асноўным карысталіся тыповай для гэтай групы вопраткай, аднак, мяркуючы па ўспамінах і здымках, што захаваліся, нават небагатыя беларускія сяляне любілі пафарсіць.

У міжваенныя гады заходнебеларускія моднікі і модніцы, акрамя замежных часопісаў «Gazette du Bon Ton», «Les Journal des Dames et des Modes», «Vougue», маглі чытаць і шэраг польскіх часопісаў, якія спецыялізаваліся на модзе.

Напрыклад, адным з найбольш салідных быў штотыднёвік «Bluszcz» («Плюшч»). Аднак сваёй кансерватыўнасцю ён адштурхнуў ад сябе малодшае пакаленне.

У 1922–1925 гадах друкаваўся часопіс «Pani». Яго выданне фінансаваў уласнік варшаўскай крамы дамскага адзення і бялізны Густаў Змігрыдэр. У часопісе было шмат здымкаў і малюнкаў у стылі арт-дэко. Выданне спецыялізавалася на новых тэндэнцыях у жаночай, мужчынскай, а таксама спартыўнай модзе. Напрыклад, аўтары часопісу часта капіравалі фасоны мужчынскіх касцюмаў для гульні ў гольф з адмысловых брытанскіх выданняў.

У 1927–1932 гадах у Польшчы выдаваўся часопіс «Teatr i życie wytworne». Ён у асноўным спецыялізаваўся на рэкламе адзення, зробленага ў Заходняй Еўропе.

Больш таннымі і таму больш даступнымі былі часопісы «Kobieta w świecie i w domu», «Świat kobiecy», «To, co najmodnejsze». У іх было значна менш малюнкаў і больш фотаздымкаў.

Лідарам сярод гэтай групы выданняў быў выдаваны ў Кракаве «Ilustrowany Kurjer Codzienny», у якім публікаваліся не толькі здымкі вядучых тагачасных палітыкаў, але і свецкая хроніка з партрэтамі тагачасных зорак тэатру і кіно. Дарэчы, «Кур'ер» з Кракава яшчэ і сёння можна знайсці ў шматлікіх закінутых дамах у Заходняй Беларусі. Тэкстаў і артыкулаў там было мінімум, а вось здымкаў багата.

У Варшаве, Львове, Вільні, Брэсце, Навагрудку адбываліся выступленні кабарэ і знакамітых тагачасных артыстаў, падчас якіх зоркі дэманстравалі модныя навінкі. У ваяводскіх цэнтрах адбываліся паказы мод, у якіх удзельнічалі як прафесійныя мадэлі, так і малавядомыя акторы і актрысы.

Асаблівай формай рэкламы тагачаснай моды быў кінематограф. У 1920-х гадах сапраўднымі іконамі стылю былі амерыканскія акторы. Тады панаваў стыль жанчын-вамп (Клара Боўл, Пола Негры), і мужчын-стыляг (Рудольф Валенціна). У 1930-х гадах з'явіліся новыя зоркі (Грэта Гарба, Марлен Дзітрых, Кларк Гэйбл). Дарэчы, былі ў II Рэчы Паспалітай і свае зоркі (Ханка Арданувна, Ядвіга Смосарска, Францішак Брадневіч, Эўгеніюш Бода).

Значны ўплыў на выгляд жанчын у міжваеннай Польшчы аказалі працэсы эмансіпацыі. Прадстаўніцы слабага полу пачалі насіць кароткія прычоскі, рабіць манікюр і педыкюр, выкарыстоўваць ярка-чырвоную памаду, падкрэсліваць вочы цёмна-чорнымі ценямі.

Тады ж у моду ўвайшлі новыя капелюшы, якія нагадвалі форму вайсковай каскі. Жанчыны з Заходняй Беларусі замаўлялі сябе гэтыя прадметы гардэробу з Варшавы ці Вільні. Напрыклад, настаўніца з Кобрына Ларыса Амельянюк любіла шыкаваць у капелюшы, набытым менавіта ў польскай сталіцы.

Жанчыны насілі скураныя пальчаткі з шырокімі «мушкецёрскімі» манжэтамі, а ногі хавалі пад шаўковымі панчохамі. Негалосны тагачасны дрэс-код патрабаваў насіць панчохі нават у спякотнае надвор'е. Гэты прадмет дамскага гардэробу каштаваў досыць дарага. Кошт французскіх панчох быў каля 50 злотых, а польскіх — каля 20.

У сувязі з сусветным эканамічным крызісам пачатку 1930-х гадоў польскім жанчынам прыйшлося перайсці з дарагіх замежных тканін на танныя мясцовай вытворчасці, якія выпускаліся ў Лодзі. Тады ж пачало распаўсюджвацца адзенне з лёну. Лён у асноўным выкарыстоўвалі для шыцця кашуль, бялізны і дзіцячага адзення.

Мужчыны хадзілі ў капелюшах тыпу «барсаліна» ці «хомбург», летам насілі «панамы». Сяляне і менш багатыя гаражане хадзілі ў кепках. Разам са строгімі касцюмамі прадстаўнікі моцнага полу апраналі пінжакі і світары, а таксама кашулі з запанкамі. Восенню і вясной мужчыны насілі дэмісезонныя паліто, зімой — футра.

Развіццё папулярнасці зімніх відаў спорту прывяло да таго, што сфарміраваўся пэўны трэнд, звязаны з распаўсюджваннем спартыўнага адзення. Катаючыся, напрыклад, на лыжах, тагачасныя жыхары Польшчы апраналі ваўняныя курткі-блузы, світары, штаны-панталоны (ніжэй калена), ваўняныя шкарпэткі, лыжныя чаравікі. Жаночы камплект быў ідэнтычным. На галаве і мужчыны, і жанчыны насілі вязаныя шапкі.

Асаблівым напрамкам моды было адзенне для турызму. У 1930-я гады польскі ўрад зрабіў пэўныя крокі да развіцця турыстычнай інфраструктуры краіны.

У гэтым сэнсе, адным з найбольш прывабных месцаў на мапе Польшчы было беларускае Палессе. У тагачасных польскіх кнігарнях прадаваліся дзясяткі кніг, што расказвалі пра турыстычныя маршруты. Рэкламныя буклеты заклікалі наведаць беларускія вёскі і ўбачыць абрады мясцовага насельніцтва, запрашалі ў Пінск на Палескі кірмаш і біялагічную станцыю. Шмат расказвалася пра знакамітыя балоты і Канал Агінскага. А каб падарожжа было зручным, прапаноўваліся спецыяльная турыстычная лінія вопраткі.

Асаблівым відам моды было адзенне для балу. У Варшаўскім Еўрапейскім гатэлі адбываліся свецкія раўты з удзелам тагачаснай польскай багемы. На гэтых балах выбіраліся «Каралева моды» і «Кароль моды».

Падобныя мерапрыемствы, але, безумоўна, у меншым маштабе, адбываліся і ў Заходняй Беларусі (напрыклад, у пінскім кафэ-рэстаране «Парадзіс», які знаходзіўся на вуліцы Касцюшкі, 2).

Распаўсюджанай тады з'явай былі так званыя «Балы прэсы», рэпартажы з якіх пазней друкаваліся ў найбольш уплывовых тагачасных глянцавых часопісах. У Каралеўскім замку ў Варшаве адбываліся прыёмы ў прэзідэнта II Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масціцкага і міністра замежных спраў Юзафа Бека.

У міжваеннай Польшчы працавалі і ўласныя фірмы па вытворчасці адзежы і аксесуараў. Яшчэ ў 1860-х гадах у Варшаве з'явіўся Дом моды «Багуслаў Герсе», які славіўся тым, што прадаваў рэчы, прывезеныя з Парыжу, а таксама зробленыя ў Польшчы паводле французскіх узораў. Гэта фірма працавала і ў 1930-х гадах. Аднак большасць яе кліентаў былі прадстаўнікамі вышэйшых пластоў польскага грамадства. Тлумачылася гэта, безумоўна, вельмі высокімі коштамі тавараў. Арпад Хаваньчык быў гаспадаром знакамітай крамы футра ў Варшаве.

Адным з найбольш папулярных крам мужчынскага адзення быў «Гандлёвы дом Братоў Яблонскіх», які акрамя

галоўнай сядзібы ў Варшаве меў прадстаўніцтва ў неафіцыйнай сталіцы Заходняй Беларусі Вільні.

...Ужо з пачатку 1939 года польскае грамадства жыло ў прадчуванні надыходзячай вайны. Мужчынскае насельніцтва краіны вымушана было змяніць прыгожыя капелюшы і піджакі на вайсковыя мундзіры і «рагатыўкі». Аднак нават Другая сусветная вайна і выпрабаванні, якія разам з усёй ІІ Рэччу Паспалітай падзяліла і Заходняя Беларусь, не змянілі прыгожы выгляд адзення жыхароў гэтых тэрыторый.

Такімі заходніх беларусаў убачылі байцы Чырвонай Арміі, якія 17 верасня 1939 года перайшлі савецка-польскую мяжу. Яшчэ да чэрвеня 1941-га, на мінскіх кірмашах і рынках можна было ўбачыць трафейныя паліто, касцюмы, капелюшы, сукенкі, шоўкавыя панчохі ды іншыя «буржуазныя штучкі», якія «адказным» таварышам удалося вывезці з «прыгнечанай панамі» Заходняй Беларусі.

## «Нёман». Гісторыя матацыкла

Матацыкл «Нёман», які выпускалі ў Гродна ў міжваеннае дваццацігоддзе, быў, бадай, адным з лепшых на той час польскіх матацыклаў. Захавалася толькі некалькі аўтэнтычных экземпляраў. Адзін з іх знаходзіцца ў Музеі тэхнікі ў Варшаве.

У другой палове 1930-х гадоў у Польшчы пачалі набіраць папулярнасць малалітражныя матацыклы, якія ў народзе называліся «соткамі» (з-за аб'ёму рухавіка ў 100 кубічных сантыметраў). Зразумела, што такія матацыклы каштавалі танней за сваіх больш магутных братоў. Але была і яшчэ адна акалічнасць, якая гуляла на карысць такіх матацыклаў. Для іх кіравання не трэба было мець вадзіцельскае пасведчанне. Таксама варта дадаць, што, набываючы польскі матацыкл, яго ўласнік пазбаўляўся праблем з набыццём дарагіх запчастак, якія патрабавалі замежныя мадэлі.

Такія матацыклы выпускалі ў Кельцах (фірма «SHL»), у Варшаве («Perkun»), у Быдгашчы («Tornedo») і, нарэшце, у Беластоцкім ваяводстве — у Гродна («Niemen»). Частка

з гэтых матацыклаў была копіяй замежных брэндаў, іншыя ж былі арыгінальнай польскай прадукцыяй.

Варта адзначыць, што амаль уся дакументацыя фірмы «Нёман» была знішчана падчас Другой сусветнай вайны, таму гісторыю калісьці знакамітага завода мы можам аднавіць толькі па матэрыялах тагачаснай прэсы і іншых нешматлікіх крыніцах, якія ў сваёй большасці захаваліся ў Польшчы.

У 1894 годзе сям'я Старавольскіх адчыніла ў Гродна на вуліцы Брыгіцкай, 20 фабрыку металапрадукцыі. Паступова акрамя швейных машынак і іншых вырабаў з металу прадпрыемства пераключылася на вытворчасць веласіпедаў.

Нават эканамічны крызіс 1929–1933 гадоў не перашкодзіў гродзенскай фірме рэалізаваць свае амбіцыйныя планы. У другой палове 1930-х гадоў на «Нёмане» працавалі 100 чалавек. Пра маштаб вытворчасці сведчыць той факт, што ў 1936 годзе фабрыка выпусціла 10 тысяч веласіпедаў, а таксама запчастак да іх.

Варта адзначыць, што часцей за ўсё гродзенцы капіравалі нямецкія мадэлі ровараў, але са значнымі мясцовымі дапрацоўкамі. Сядзенні замаўляліся ў Латвіі, а элементы колаў — у нямецкай фірме «Fichtel und Sachs».

У 1934 годзе завод пачаў выпускаць мотаровары. Гэта былі звычайныя ровары, на якія мантаваліся рухавікі аб'ёмам 75 кубічных сантыметраў з Германіі. Выпускалася мужчынская і жаночая мадэлі ровару.

Але ўласнікі завода Нохім і Ларар Старавольскія, а таксама Ісаак Піваварскі разумелі, што на рынку пануе ўжо іншы трэнд. Людзі жадалі купляць недарагія і выгадныя матацыклы «соткі».

Бізнэсмэны пачалі з рэбрэндынгу, змяняючы назву фірмы на «Крэсовы завод па вытворчасці ровараў і матацыклаў «Нёман». Ужо ў 1936 годзе на рынку з'явіліся першыя гродзенскія матацыклы з імпартнымі рухавікамі. У 1938 годзе было выпушчана ўжо 166 матацыклаў. Новая прадукцыя ўвасобіла ў сабе лепшыя якасці найбольш вядомых тагачасных сусветных марак.

Даследчыкі да сённяшняга дня не могуць прыйсці да адзінай высновы, ці гэта быў цалкам айчынны праект,

ці таленавітыя бізнэсмэны з Гродна скапіявалі знешні выгляд матацыкла, ці, можа, яны набылі ліцэнзію ў замежных фірм. Па знешняму выгляду «Нёман» быў вельмі падобны да лёгкіх англійскіх матацыклаў «Villiers» ці «Excelsior». Дарэчы, гродзенскія матацыклы абсталёўваліся двухцыліндровымі рухавікамі брытанскай фірмы «Вікерс» з Вулверхэмптана.

Найбольш папулярным быў «Нёман» з рухавіком аб'ёмам 98 кубічных сантыметраў і троххуткаснай каробкай перадач. Таксама вельмі папулярнымі былі матацыклы з рухавіком 150 кубічных сантыметраў. Менш распаўсюджаным быў «Нёман 125».

Варта падкрэсліць, што ў матацыклах «Нёман 98» узору 1938 года, акрамя замежнага рухавіка, выкарыстоўваліся брытанскія элементы падсвятлення (пярэдняя фара фірмы «Villiers» і задняя ад «Joshep Lucas LTD»). Максімальная хуткасць матацыкла была 70 кіламетраў на гадзіну. На матацыклах «Нёман» ставіліся шыны, зробленыя ў Познані на фабрыцы «Stomil». «Нёман 98» каштаваў 900 злотых. Гэта была немалая сума, аднак, калі параўнаць кошты на іншыя маркі польскіх «сотак» з коштам гродзенскага матацыкла, дык становіцца зразумела, што апошні быў якраз бюджэтным варыянтам.

«Нёман» — матацыкл на адну асобу, аднак польскія правілы дарожнага руху таго часу не забаранялі ўстанаўліваць на матацыкл дадатковае сядзенне. Аб'ём бензабака (10 літраў) дазваляў уладальніку матацыкла праехаць да 400 кіламетраў.

Галоўны кантынгент пакупнікоў гэтага матацыкла складалі жыхары Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў. Гэты чыннік паўплываў на тое, што да сённяшняга дня захавалася вельмі мала экземпляраў матацыкла. Справа ў тым, што «Нёманамі» карысталіся вайсковыя асаднікі, вайскоўцы, паліцыянты, прадстаўнікі дзяржаўнага апарата, інтэлігенцыя.

Пасля «ўз'яднання» Заходняй Беларусі з БССР амаль усе гэтыя катэгорыі польскіх грамадзян падпалі пад сталінскія рэпрэсіі, а іх маёмасць, у тым ліку і матацыклы, была пера-

дадзена ў даход дзяржавы. Так, у снежні 1939 года кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэнка ў лісце да Іосіфа Сталіна адзначаў, што *«амаль у кожнай гаспадарцы асаднікаў было некалькі ровараў, а таксама матацыклы»*. Пасля дэпартацыі асаднікаў гэтае двухколае багацце Панамарэнка прапанаваў перадаць у распараджэнне мясцовай улады.

Напрыканцы 1930-х гадоў фірма Старавольскіх мела практычна манаполію на продаж матацыклаў у Заходняй Беларусі. Справа ў тым, што іншыя польскія фірмы, займаючыся вытворчасцю матацыклаў, амаль не мелі сваіх крамаў у заходнебеларускіх ваяводствах. Ды і сервісныя цэнтры адсутнічалі. А вось у гродзенскай фірмы было сваё прадстаўніцтва ў Варшаве на вуліцы Сенаторскай, 28, а таксама ў Кракаве. Акрамя гэтага, у сталіцы быў вялікі склад запчастак і аксесуараў да матацыклу «Нёман».

Гродзенскія матацыклы былі прэзентаваныя падчас вялікага польскага кірмашу ў Познані. У красавіку 1939 года «Нёманы» першы раз прынялі ўдзел у гонках, арганізаваных вайсковым спартыўным клубам «Легія» па маршруце Варшава — Мінск Мазавецкі — Атвоцк — Варшава. Партыю ровараў і матацыклаў «Нёман» закупіла для ўласных патрэб Войска Польскае. Гэтая тэхніка была зручнай у эксплуатацыі.

У 1984 годзе ля польскага мястэчка Студзінек пад Радамам быў знойдзены закапаны ў зямлю гродзенскі матаровар «Нёман». Ён выкарыстоўваўся польскімі жаўнерамі падчас вераснёўскай кампаніі і быў схаваны разам з іншымі вайсковымі прыладамі пасля адступлення польскіх войскаў.

Усяго да пачатку Другой сусветнай вайны ў Гродна было зроблена да 500 матацыклаў «Нёман». На другую палову 1939 года кіраўніцтва «Крэсовага завода па вытворчасці ровараў і матацыклаў «Нёман» планавала павялічыць вытворчасць сваёй прадукцыі ў разы, аднак рэалізацыі гэтых планаў перашкодзіла вайна. Гатовая прадукцыя, якая знаходзілася на складах завода, была рэквізавана савецкай уладай, а лёс гаспадароў завода не вядомы. Хутчэй за ўсё, яны сталі ахвярамі савецкіх рэпрэсій.

# Польскае радыё ў Заходняй Беларусі

Ужо ў пачатку 1920-х гадоў польскія ўлады зрабілі стаўку на развіццё радыёвяшчальнай інфраструктуры. У красавіку 1926 года адбыўся першы эфір Польскага радыё, а ўжо праз год палякі прапанавалі замежным калегам наладзіць абмен радыёпраграмамі, ці, кажучы сучаснай мовай, кантэнтам.

У 1931 годзе была пабудавана адна з найбольш моцных радыёперадаючых станцый у Еўропе ў Рашыне, якая пакрывала амаль усю тэрыторыю. Часопіс «Антэна» ў 1936 годзе пісаў: *«Радыё з'яўляецца адным з найлепшых вынаходніцтваў чалавецтва. Гэта вялікая сіла, галоўнай мэтай якой з'яўляецца ўз'яднанне народаў».*

Першапачаткова польскія слухачы маглі пачуць усяго некалькі перадач увечары, але ўжо ў 1930-х гадах вяшчанне вялося на працягу ўсяго дня. Вялікая ўвага надавалася развіццю радыёстанцый ва ўсходніх ваяводствах Польшчы, у тым ліку і ў Заходняй Беларусі. Пры гэтым у Варшаве разумелі, што там пераважае менавіта вясковае насельніцтва, і таму ў эфірнай сетцы павінен быў быць падзел на праграмы для горада і сяла. Усё тая ж «Антэна» пісала: *«Хутка знікне са слоўніка выраз «глухая вёска», і ў кожным закутку краіны можна будзе пачуць радыё».*

У 1927 годзе было вырашана стварыць аддзяленне Польскага радыё ў Вільні. Тады ж у старажытным горадзе з'явіліся дзве радыёмачты. Першым дырэктарам радыёстанцыі стаў Вітальд Гулевіч. Якія ж праграмы прапанавала новая хваля сваім слухачам? Перш за ўсё, безумоўна, музычныя. Адным з найбольш папулярных прадуктаў радыёстанцыі быў канцэрт па заяўках. Кожны жадаючы за 1 злоты мог замовіць любімую песню і пачуць яе ў эфіры. Хваля перадавала канцэрты Варшаўскай філармоніі. Шмат часу выдзялялася на трансляцыю камернай музыкі, у тым ліку з тэатру «Ла Скала» ў Мілане.

Для вясковай аўдыторыі радыё ў Вільні рыхтавала перадачы «Гісторыя танца», «Вячоркі ля мікрафона», «У музычным доме». У іх удзельнічалі між іншым музычныя ансамблі

«Каскада» і «Уцеха» (якія спявалі на так званай «крэсовай пальшчызне» — польскай мове са значным уплывам іншых славянскіх моў). Пры гэтым для такіх перадач радыё заклікала да супрацы выканаўцаў народных песень, у тым ліку і беларускіх.

Важнае месца займалі гумарыстычныя перадачы (напрыклад, «Віленская зязюля»). Не менш увагі надавалася і літаратурным творам, якія ў эфіры агучвалі дыктары радыё. Перш за ўсё, тут гаворка ідзе пра перадачу «Несмяротныя кнігі». У сярэдзіне 1930-х гадоў віленскае радыё пачало трансляваць перадачы, у якіх рабіўся ўхіл на гістарычную тэматыку. Дарэчы, гісторыя была ключавой тэмай для многіх перадач Польскага радыё. Асабліва гэта назіраецца ў канцы 1930-х гадоў, калі ІІ Рэч Паспалітая знаходзілася на парозе вайны з Трэцім Рэйхам. У гэты перыяд пашыралася колькасць патрыятычных перадач, дзе распавядалі пра барацьбу Польскага каралеўства і І Рэчы Паспалітай за сваю незалежнасць («Рэха мінулага», «Старая і новая Вільня»).

Вялікая ўвага надавалася выхаванню маладога пакалення. Тут варта падкрэсліць, што калі ў гарадах Заходняй Беларусі дзеці маглі чуць радыё дома, то ў вёсках радыёпрыёмнікі былі ў асноўным у школах, і таму віленскае радыё рабіла сетку вяшчання так, каб пускаць дзіцячыя праграмы ўдзень, і каб яны супадалі з часам школьных заняткаў.

Так, напрыклад, вельмі папулярнай была дыскусійная перадача віленскага радыё «Старыя і маладыя», падчас якой адбываўся дыялог прадстаўнікоў маладога і старэйшага пакалення па розных, актуальных для грамадства тэмах. Акрамя гэтага, віленскае радыё шукала таленавітых вядучых сярод звычайных слухачоў. Так, у праграме «Самі сябе» людзі маглі агучыць свае думкі, прапановы, павіншаваць блізкіх ці знаёмых. Акрамя гэтага, сумесна з Міністэрствам адукацыі Польшчы і Школьным куратарствам рабіліся адукацыйныя праграмы.

Паўночна-ўсходнія ваяводствы (Віленскае, Навагрудскае і Палескае) былі ў асноўным сельскагаспадарчым краем, гэта знайшло сваё адлюстраванне ў эфіры Польскага радыё ў Вільні. У прыватнасці, рабіліся перадачы, прысвечаныя

аналізу агульнапольскага рынку сельскагаспадарчай прадукцыі. Кожную пятніцу сумесна з Віленскай сельскагаспадарчай палатай журналісты рыхтавалі перадачу для буйных землеўласнікаў.

Папулярнымі былі перадачы, прысвечаныя гігіене і здароўю. Улічвалася і тое, што гэта памежны рэгіён. Кожную апошнюю суботу месяца на Польскім радыё з Вільні выходзіла перадача «Субота КАПу», у якой агучваліся апошнія навіны з савецка-польскага памежжа, а таксама расказвалася пра жыццё польскіх памежнікаў на «крэсах». Нарэшце, варта адзначыць, што вільняне вялі трансляцыі царкоўных службаў з касцёлаў.

У маі 1938 года, з нагоды 10-годдзя вяшчання Польскага радыё ў Вільні, у часопісе «Антэна» было надрукавана вялікае інтэрв'ю з яго праграмным дырэктарам Тадэвушам Лапалеўскім, у якім той адзначаў, што *«ў новым сезоне віленскае радыё планавала запусціць перадачу «Фартэпіяна і кніга», у якой планавалася спалучыць класічную музыку і літаратурныя творы»*. Акрамя гэтага, Лапалеўскі адзначаў, што з 1 красавіка 1938 года ў Польскага радыё ў Вільні з'явіўся свой асабісты аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіслава Шчэпаньскага, які два разы на тыдзень павінен быў выступаць у эфіры, іграючы папулярную музыку, а ў выходныя даваць канцэрты ў межах праграмы «Музычны ўікэнд».

Дарэчы, Лапалеўскі адзначаў, што працы ў віленскага радыё будзе больш пасля таго, калі ў рэгіёне з'явіцца канкурэнт — радыёстанцыя ў Баранавічах.

Сапраўды, у 1937 годзе ў палескім горадзе распачалося будаўніцтва і мантаванне неабходнага абсталявання для радыёстанцыі. Хутка ў Баранавічах былі ўзведзены дзве мачты, а 1 ліпеня 1938 года пачалося вяшчанне. Моц прыёмніка давала магчымасць трансляваць перадачы на тэрыторыі Навагрудскага і Палескага ваяводстваў, і нават на памежжа.

Першым і апошнім дырэктарам Баранавіцкай радыёстанцыі быў Збігнеў Цыс-Банкевіч. На Польскім радыё ў Баранавічах працавалі два дыктары: Марыля Канзалуўна і Стэфан Саецкі. Сярод праграм баранавіцкага радыё вылучаліся «Сельскагаспадарчыя навіны», падчас якіх вядучыя

падрабязна разглядалі падзеі ў гэтай сферы на тэрыторыі трох заходнебеларускіх ваяводстваў. Цікавымі былі перадачы з серыі «Нашы вёскі і мястэчкі», у якіх расказвалася гісторыя розных населеных пунктаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Для моладзі рабіліся прыродазнаўчыя перадачы.

Хутка пачалася Другая сусветная вайна. Нямецкая вайсковая авіяцыя атрымала загад знішчаць, сярод іншых стратэгічных аб'ектаў на польскай тэрыторыі, радыёстанцыі. 15 верасня самалёты люфтвафэ ажыццявілі налёт на Баранавічы, і ў тым ліку атакавалі будынак баранавіцкага радыё, аднак не знішчылі яго.

А пасля 17 верасня 1939 года радыёстанцыі ў Вільні і Баранавічах сталі савецкімі, аднак ненадоўга. Адступаючы ў 1944 годзе з Баранавічаў, немцы ўзарвалі радыёмачты, аднак будынак станцыі ацалеў і захаваўся да нашых дзён. Пасля вайны ўлады Польскай Народнай Рэспублікі дамагліся ад кіраўніцтва БССР вяртання абсталявання Польскага радыё ў Баранавічах і размясцілі яго ў Рашыне.

Дарэчы, у «Антэне» друкавалася падрабязная праграма не толькі польскага, але і замежнага радыё. Слухачы ў Заходняй Беларусі дакладна ведалі, якія праграмы гучаць на хвалях Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Чэхаславакіі, Італіі і шматлікіх іншых краін. Безумоўна, былі і тыя, хто жадаў пачуць музыкальныя творы Чайкоўскага на Ленінградскім радыё ці літаратурныя чытанні на «Радыё Камінтэрн». Праграма савецкіх радыёстанцый таксама друкавалася.

## Шляхецкі маёнтак у люстэрку часу

У міжваеннае дваццацігоддзе ў Заходняй Беларусі дваранскія палацы і сядзібы былі цэнтрам грамадскага і культурнага жыцця. А як жылі ў 1920–1930-я гады нашчадкі магнатэрыі некалі магутных Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай і якія парадкі панавалі ў іх радавых сядзібах?

Як вядома, у ІІ Рэчы Паспалітай былі адмененыя саслоўныя прывілеі. Але дзякуючы сваім буйным зямельным уладанням (у тым ліку і ардынацыям), развітай гаспадарцы, прадстаўнікі дваранства беларускіх зямель працягвалі заставацца вельмі ўплывовай групай тагачаснага польскага грамадства.

Аднак былі і менш багатыя шляхецкія роды. Сярэдні дваранскі зямельны маёнтак у паўночна-ўсходніх ваяводствах складаў ад 50 да 150 гектараў зямлі. У адпаведнасці з зямельнай рэформай, у Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах дапускалася мець ва ўласнасці да 400 гектараў зямлі. Частка дваран у 1920-я гады не вытрымала эканамічных і палітычных выпрабаванняў і паступова збяднела, а іх маёнткі былі выстаўлены на продаж на аўкцыёнах.

Яшчэ з часоў Расійскай імперыі беларуская шляхта імкнулася ўкараняць новыя, замежныя спосабы развіцця жывёлагадоўлі і раслінаводства. Варта падкрэсліць, што прадстаўнікі шляхецкіх родаў замаўлялі спецыялізаваную літаратуру з Еўропы. Нярэдка з Захаду прыязджалі і аграномы. Падобная сітуацыя назіралася і ў міжваенны час. Пры гэтым акцэнт рабіўся на апрацоўцы мясцовай сыравіны. Калі ля маёнтку знаходзіліся сажалка ці рака, гаспадары рабілі ўсё, каб наладзіць адлоў рыбы, ракаў.

Дарэчы, рыбныя тавары, апрацаваныя ў прыватных шляхецкіх прадпрыемствах Заходняй Беларусі, экспартаваліся ў Еўропу, у тым ліку ў Бельгію і Францыю. Такім жа поспехам карысталіся і мясцовыя вяндліны. Распаўсюджанай была прадукцыя сыроў. Дзеля гэтага са Швейцарыі замаўляліся спецыяльныя інгрэдыенты.

На Палессі і на Нёмане ў шляхецкіх маёнтках быў распаўсюджаны агратурызм, які падтрымліваўся з боку польскай дзяржавы. Такая разнастайнасць гаспадарчай дзейнасці тлумачылася тым, што ў 1920–1930-я гады эканамічная сітуацыя Польшчы была нестабільнай, і дваранства ўсходніх ваяводстваў спрабавала рабіць шматфункцыянальныя гаспадаркі, якія б маглі хутка перапрафілявацца.

Тыповы шляхецкі маёнтак у Заходняй Беларусі складаўся з дзвюх частак: двара, які быў аточаны паркам, а таксама

гаспадарчых пабудоў, побач з якімі знаходзіліся зямельныя надзелы, лясы і лугі. У маёнтку жыў шляхціц разам з жонкай і дзецьмі, а таксама прыслугай. Акрамя гэтага, у доме маглі жыць бацькі гаспадара і іншыя сямейнікі.

Добрай традыцыяй і адметнай рысай даваенных заходнебеларускіх фальваркаў была гасціннасць. Для гасцей у доме заўсёды трымаўся асобны пакой з прыгатаваным ложкам, а ў сталовай гатавалася дадатковая ежа. На стол выслаўляліся лепшыя стравы і гатункі спіртнога. Візіт гасцей быў сваістым выпрабаваннем для жонкі гаспадара, якая павінна была прасачыць, каб прыслуга ўсё зрабіла і не было аніякіх накладак.

Шляхціцам міжваеннага ўзору не трэба было карыстацца з гарадскіх ці мястэчковых крам. Усім іх забяспечвала ўласная гаспадарка. Яшчэ са старажытных часоў у фальварках існавала асобная культура харчавання. Амаль адразу за познім сняданкам ішоў абед. Праз некалькі гадзін быў падвячорак, а за ім неўзабаве і вячэра. І падчас кожнага з гэтых «ланч-таймаў» стол проста ламіўся ад страў. Не дазвалялася спазняцца на калектыўную сямейную трапезу. Калі ў доме былі госці, пасля абеду ў сталовай ці ў «салоне» падавалі гарбату ці каву, мужчыны курылі сігары і пілі кан'як. Для гаспадароў маёнтку гатаваўся так званы «першы стол», а для слуг і працоўных — «другі». Часамі блюда з гаспадарскага стала даставаліся і прыслузе.

Колькасць слуг у маёнтку залежала ад таго, наколькі багатай была дваранская сям'я. У сярэдзіне 1930-х гадоў у шляхецкіх сядзібах на Заходняй Беларусі звычайна было некалькі чалавек прыслугі — кухар, пакаёўка і пара слуг. Уладары маёнткаў на працягу дня займаліся вырашэннем гаспадарчых пытанняў, а больш дробныя шляхціцы працавалі разам з наёмнай працоўнай сілай на полі, млыне ці маслабойні.

Пры гэтым правай рукой гаспадара быў кіраўнік маёнтку, які арганізоўваў працу наёмных рабочых і сачыў за станам гаспадаркі. Што ж тычыцца наёмнай працоўнай сілы, то частка гэтых людзей працавала «на пана» на пастаяннай аснове і жыла ў доме для чэлядзі. Разам з тым шляхціц

наймаў і так званых «падзёншчыкаў», якія атрымлівалі грошы за кожны дзень працы. Акрамя грашовага ўзнагароджання пан павінен быў карміць парабкаў, пры гэтым, паводле ўспамінаў жыхароў Заходняй Беларусі, якім давялося папрацаваць на паншчыне, харчаванне там было на вельмі высокім узроўні.

Падчас жніва работнікі не пакідалі поле, а харчаванне прывозілася непасрэдна на месца працы. У галодныя гады шляхціцы імкнуліся падтрымаць сваіх работнікаў, выдаючы збожжа і насенне з уласных сховішчаў. Летам за гэта сяляне павінны былі адпрацаваць у панскай гаспадарцы.

Вялікім святам для гаспадара шляхецкага фальварка былі «Дажынкі». У гэты дзень багатыя землеўласнікі рабілі для сваіх сялян святочны абед і запрашалі аркестр. Свята ўраджаю, якое прыйшло з глыбіні стагоддзяў, шанавалася шляхтай, у чым праяўлялася павага да працы звычайных беларускіх сялян-палешукоў.

У вольны час вясной і летам шляхта заходнебеларускіх ваяводстваў рабіла пікнікі на прыродзе, пры гэтым гаявыя ці леснікі спецыяльна шукалі для гаспадароў зручныя месцы.

Падчас сямейных святаў ладзіліся балы ці карнавалы. Найбольш вядомыя з іх адбываліся ў Нясвіжскім замку падчас ардынацыі Альбрэхта Радзівіла. У дзень імянін шляхціца перад домам ці ўездам у парк будавалася часовая святочная вітальная брама. У гэты дзень гаспадары запрашалі да сябе вялікую колькасць гасцей.

Важным момантам было выхаванне моладзі. Аўтарытэт бацькі не ставіўся пад сумнеў. Моладзь вучылі шанаваць сямейныя традыцыі. Хлопцаў стараліся адпраўляць на вучобу ў горад альбо на службу ў войска. Дзяўчыны вучыліся простаму жаночаму рамяству — шыццю, уменню гатаваць і ўвогуле быць добрай гаспадыняй.

Не менш важным у жыцці шляхецкіх родаў быў шлюб дзяцей. І тут, як і ў папярэднія часы, пад увагу прымалася не толькі каханне, але і паходжанне будучага мужа ці жонкі. Шлюб у большасці шляхецкіх сямей пачынаўся блаславеннем маладых бацькамі і заканчваўся цырымоніяй у касцёле. На свяце прысутнічалі ўсе чальцы дзвюх сем'яў.

На пачатак 1939 года ў II Рэчы Паспалітай налічвалася каля 20 тысяч шляхецкіх маёнткаў і палацаў.

Другая сусветная вайна змяніла выгляд Усходняй Еўропы. У далучанай да БССР Заходняй Беларусі жорстка знішчалася ўсё, што было звязана з «панскімі маёнткамі і палацамі». Беларускаму грамадству ўнушалася, што шляхта ў Заходняй Беларусі эксплуатавала мясцовае беларускае насельніцтва. Але калі адкінуць ідэалагічную мішуру, становіцца зразумелым, што прадстаўнікі шляхты ў большасці сваёй былі проста добрымі гаспадарамі, якія ўмелі зарабляць грошы і давалі магчымасць зрабіць гэта іншым. Да таго ж, гэтая саслоўная група была носьбітам непаўторнага старажытнага духу ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

# Таямніцы Белавежскага Бельведэра

Каго толькі ні пабачыла за свой век вёска Белавежа. Каралі, князі, прэзідэнты... І ўсё дзякуючы збудаванаму ў ёй паляўнічаму палацу. У 1960-я гады руіны палацу былі разабраныя і вывезеныя ў невядомым напрамку.

Белавежская пушча з'яўляецца адным з найбольш знакамітых паляўнічых угоддзяў у Еўропе. У часы ВКЛ пушча была ўлюбёным месцам палявання князёў і магнатаў. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай гэты першабытны лес апынуўся ў складзе Расійскай імперыі. З таго часу Белавежскую пушчу пачало актыўна наведваць рускае дваранства. У 1886 годзе сюды ўпершыню прыехаў цар Аляксандр III і пасля палявання выказаў прапанову аб перадачы лесу ў маёмасць манаршай сям'і. У выніку Белавежская пушча была абменена на царскія землі ў Арлоўскай і Сімбірскай губернях.

З царскага бюджэту былі выдаткаваны вялікія грашы на развіццё папуляцыі жывёл і птушак, а таксама на будаўніцтва паляўнічага палаца ў вёсцы Белавежа. Працы пачаліся ў 1889 годзе. Праект будынку распрацаваў граф Мікалай дэ Рашфорт. Новая царская рэзідэнцыя каштавала казне 542 тысячы рублёў. Цікава, што падчас будаўніцтва значная частка сродкаў была проста скрадзена рускім чыноўніцтвам.

Аляксандр III убачыў новы палац у 1894 годзе, але ён яму не спадабаўся. Пасля смерці манарха новым гаспадаром рэзідэнцыі ў Белавежскай пушчы стаў апошні рускі цар Мікалай II. Ён даволі часта наведваўся ў пушчу і карыстаўся з паслуг палаца.

У гэты ж час адбылася частковая рэканструкцыя будынку. Рэзідэнцыя была пабудавана ў стылі сярэднявечнага замку. На адной з яго веж была выява гербу Белавежскай пушчы, на другой, зразумела, двухгаловы расійскі арол. Яшчэ адзін царскі герб аздабляў ландшафтны дызайн у выглядзе клумбы кветак, высаджаных перад галоўным уваходам. Кожны пакой палацу меў унутраны арыгінальны дызайн і нават уласную назву.

Каля палацу знаходзілася некалькі гаспадарчых пабудоў, а таксама дамы для прыслугі. Акрамя гэтага, ля палацу былі стайні, тэлефонная і электрычная станцыі. З палацу да чыгуначнай станцыі праклалі адмысловую дарогу.

У 1895 годзе на тэрыторыі, якая прылягала да царскай рэзідэнцыі, быў закладзены англійскі сад. У гэты ж час там з'явілася царква для цара і яго світы. У 1913 годзе ў Белавежы пачаліся працы па стварэнні музея пушчы.

Пасля пачатку Першай сусветнай вайны было прынята рашэнне аб эвакуацыі маёмасці царскага палацу. У жніўні 1915 года на ўсход паехала два вагоны з царскімі рэчамі. Пазней яны апынуцца ў руках бальшавікоў, і толькі частку з іх перадалі ў Дзяржхран.

З 1915 па 1918 гады ў палацы размяшчаліся нямецкія войскі, а ў сакавіку 1919 года яго новымі гаспадарамі сталі палякі. Праўда, падчас баёў пад Варшавай у 1920 годзе ў былой царскай рэзідэнцыі размясціліся бальшавікі, але хутка фронт ізноў рушыў на ўсход, і палац разам з іншымі пабудовамі зноў аказаўся пад панамі.

Рэканструкцыю ў Белавежы новыя ўлады пачалі са змены ландшафтнага дызайну. Зразумела, быў зменены знешні выгляд клумбы перад галоўным уваходам. Арол пазбавіўся адной з галоў і стаў белага колеру. Хутка царскі палац ператварыўся ў летнюю рэзідэнцыю польскага прэзідэнта Ігнація Масціцкага (прабыў на пасадзе прэзідэнта Польшчы

з 1926 па 1939 гады), а польская прэса празвала яго «другім Бельведэрам».

Падлогу ў палацы заслалі прыгожым дыванам з выявай польскага арла на чырвоным фоне. Першы раз прэзідэнт прыехаў у сваю новую рэзідэнцыю ў 1929 годзе. Пра той візіт пазней пісалі ўсе польскія газеты. А ў студзені 1930 года адбылося і першае паляванне Масціцкага ў Белавежскай пушчы. Разам з прэзідэнтам у ім удзельнічалі беластоцкі ваявода Караль Кірст і генерал Казімеж Саснкоўскі.

Праз некалькі месяцаў Ігнацій Масціцкі зноў завітаў у былы царскі палац і ўдзельнічаў у паляванні на глушцоў. Гэты выезд настолькі яму спадабаўся, што прэзідэнт распарадзіўся ўзнагародзіць ляснічага, які яму дапамагаў падчас палявання, сярэбраным партсігарам. Хутка прэзідэнт накіраваў 5 тысяч злотых на будаўніцтва касцёлу ў Белавежы, а таксама паспрыяў выдзяленню крэдыту на рэалізацыю гэтай справы.

У 1933 годзе на паляванне ў Белавежскую пушчу Ігнацій Масціцкі запрасіў прадстаўнікоў латвійскага ўраду і дэпутатаў парламенту. Праз год, у студзені 1934-га, падчас палявання ў пушчы кампанію прэзідэнту склалі міністр сельскай гаспадаркі Венгрыі Міклаш Калай, а таксама амбасадары Чэхаславакіі, Аўстрыі, Румыніі і Германіі. У лютым 1935 года ў Белавежскую пушчу Ігнацій Масціцкі запрасіў прэм'ер-міністра Прусіі Германа Герынга. Візіт высокапастаўленага нацыста польскія палітыкі хацелі выкарыстаць для правядзення палітычных перамоў. Па адной з версій, тады ў Белавежскай пушчы Герынг прапанаваў польскаму боку ўдзел у сумесным паходзе супраць СССР.

У лютым 1936 года імперскі міністр авіяцыі зноў прыехаў у Белавежскую пушчу і атрымаў з рук польскага прэзідэнта вышэйшую польскую ўзнагароду — Ордэн белага арла. Пра гэты факт у Польшчы не любяць узгадваць, аднак што было, тое было.

Варта падкрэсліць, што падчас візітаў польскага прэзідэнта ў Белавежскую пушчу тэрыторыя, якая прылягала да палаца, «замыкалася». Рух па дарогах адбываўся толькі па спецыяльных пропусках. Дзяржаўная паліцыя атрымлівала

загад ажыццяўлення пільнага нагляду за мясцовым беларускім насельніцтвам, асабліва за элементамі, якія былі заўважаны ў антыдзяржаўнай і прасавецкай дзейнасці. Па ўсім перыметры палацу выстаўлялася ахова. Дарэчы, з гэтым звязаны адзін гістарычны анекдот.

Аднойчы ў 1936 годзе жонка прэзідэнта Ігнація Масціцкага вярталася з пешай прагулкі і была затрымана ахоўнікам, які адмовіўся прапускаць яе на тэрыторыю рэзідэнцыі. Нават афіцэр-ад'ютант, які быў пры першай лэдзі, не змог вырашыць пытанне. Прыйшлося пачакаць, пакуль з канцылярыі прынясуць неабходны пропуск. Вайсковец, які затрымаў жонку прэзідэнта, атрымаў узнагароду за сумленна выкананыя абавязкі.

У чэрвені 1936 года ў прэзідэнцкім палацы ў Белавежы быў зладжаны прыём у гонар 10-годдзя прэзідэнцтва Масціцкага і адбылася ўрачыстая імша. У 1938 годзе разам з Ігнаціем Масціцкім у Белавежскай пушчы паляваў рэгент Венгерскага каралеўства, адмірал Міклаш Хорці.

Апошні візіт прэзідэнта Ігнація Масціцкага ў Белавежскую пушчу адбыўся ў студзені 1939 года. У паляванні разам з ім удзельнічаў і будучы герой вераснёўскай кампаніі генерал Францішак Клееберг. Акрамя гэтага, у лютым таго ж года ў Белавежскай пушчы палявалі спачатку Генрых Гімлер, а потым міністр замежных спраў Італіі Галецыа Чыяна. Аднак Масціцкі ў гэтых паляваннях ужо не ўдзельнічаў.

Мясцовыя жыхары, успамінаючы тыя часы, казалі: *«Мы памятаем двух вялікіх гаспод — Мікалая II і польскага прэзідэнта Масціцкага».*

У верасні 1939 года ў Белавежу ўвайшла Чырвоная Армія. Адна з пяхотных частак размясцілася ў былых царскіх казармах. Вайскоўцы атрымалі загад пільнаваць палац. У снежні Белавежская пушча была абвешчана запаведнікам. Было прынята рашэнне аб адкрыцці ў палацы навуковага цэнтра для даследавання прыроднага багацця пушчы.

Але хутка нацысцкая Германія напала на СССР, і новымі гаспадарамі палацу ў Белавежы сталі немцы. Тут знаходзіўся штаб падраздзялення абверу «Horn». Пушча была перададзена ва ўладанне Герману Герынгу. У ліпені 1944 года

ў палацы знаходзіліся венгерскія войскі. Яны і падпалілі яго перад адступленнем. Па дамове паміж Польшчай і СССР ад 16 жніўня 1945 года заходняя частка Белавежскай пушчы разам з вёскай Белавежа адышла да Польшчы. У пачатку 1960-х гадоў руіны палацу былі разабраныя і вывезеныя. Так скончылася гісторыя знакамітай царска-прэзідэнцкай рэзідэнцыі ў Белавежы.

## З гісторыі Пінскай гімназіі

У 1939 годзе НКУС пачаў арыштоўваць былых супрацоўнікаў польскай адміністрацыі і інтэлігенцыю Пінска. Да чэрвеня 1941 года было арыштавана каля 4 тысяч чалавек, сярод якіх — нямала настаўнікаў Пінскай гімназіі. Сама навучальная ўстанова была ліквідавана.

У 1793 годзе ў спісе гарадоў толькі што створанай расійскай адміністрацыяй Мінскай губерні значыўся і Пінск, у якім была школа. У 1834 годзе ў гэтым палескім горадзе было адкрыта Дваранскае пяцікласнае вучылішча, якое наведвалі 103 вучня. У 1852 годзе гэта ўстанова атрымала новы будынак. Ён быў створаны па праекце Казіміра Скірмунта, бацькі знакамітага лідара «краёвага» руху, патрыёткі ВКЛ — Канстанцыі Скірмунт. У жніўні 1858 года замест вучылішча была арганізавана гімназія.

Яна павінна была складацца з сямі класаў, але ў рэчаіснасці іх было ўсяго пяць. Сярод прадметаў, якія выкладаліся там, былі: Закон Божы, руская мова і славеснасць, геаграфія, гісторыя, матэматыка, матэматычная і фізічная геаграфія, нямецкая і французскія мовы, лацінская мова для тых, хто рыхтаваўся паступаць ва ўніверсітэт. У 1860 годзе ў гімназіі навучаліся 235 вучняў. У 1864 годзе ўстанова была перайменавана ў рэальную гімназію.

Многія вучні гімназіі былі патрыётамі. Яны ўдзельнічалі ў антыцарскіх маніфестацыях. За гэта некаторыя з гімназістаў былі выключаны з навучальнай установы. У знак пратэсту супраць гэтага заняткі перасталі наведваць і іншыя

навучэнцы. У выніку з Пінскай гімназіі быў выключаны 31 вучань. Пасля падаўлення паўстання Кастуся Каліноўскага з Пінскай гімназіі былі звольнены ўсе мясцовыя выкладчыкі, а ім на змену прыйшлі «рускія» настаўнікі. Так ажыццяўлялася палітыка Міхаіла Мураўёва, накіраваная на русіфікацыю беларускіх зямель.

У 1872 годзе навучальная ўстанова зноў атрымала назву шасцікласнае рэальнае вучылішча з дадатковым сёмым класам навучання. Пінская гімназія была адной з найбольш вядомых сярэдніх навучальных устаноў у Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі.

У 1876 годзе адміністрацыя вучылішча вырашыла набыць суседні дом, у якім размясціліся школьная канцылярыя, архіў і сталярная майстэрня. У 1912 годзе кіраўніцтва навучальнай установы на чале з дырэктарам Міхаілам Арганавым спрабавала выкупіць зямельны ўчастак, які знаходзіўся побач, аднак вырашыць гэтую праблему да пачатку Першай сусветнай вайны не ўдалося.

Адразу пасля пачатку ваенных дзеянняў у будынку гімназіі быў размешчаны рускі ваенны шпіталь. Дзяцей і настаўнікаў прытуліла ў сваім доме Канстанцыя Скірмунт. Улетку 1915 года гімназію эвакуявалі ў Ржэў. Міхаіл Арганаў забраў з сабой школьны архіў, аднак бібліятэка і іншая маёмасць навучальнай установы засталіся ў Пінску. У жніўні 1915 года горад апынуўся пад нямецкай акупацыяй. У будынку гімназіі была размешчана ваенная камендатура.

У 1919 годзе ў Пінск увайшлі польскія войскі. Канстанцыя Скірмунт звярнулася да польскага камандавання з просьбай аб арганізацыі працы гімназіі. Канстанцыя стварыла «Часовы камітэт сярэдняй школы», які неўзабаве атрымаў фінансаванне на развіццё школьнай дзейнасці ў Пінску. Новым дырэктарам гімназіі стаў матэматык Апалінар Кланоўскі.

У снежні 1919 года навучальная ўстанова атрымала імя Св. Андрэя Баболі, святара, які прапагандаваў ідэі Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года ў Вільні, Бабруйску, Полацку, Ломжы і Пінску. Пры гімназіі быў арганізаваны гаспадарчы камітэт, у які ўваходзілі не толькі прадстаўнікі школьнай адміністрацыі, але і бацькі вучняў. Фінансавую падтрымку на-

вучальнай установе аказвалі Канстанцыя Скірмунт, будучы генерал Войска Польскага Уладзіслаў Сікорскі і іншыя.

Пасля пачатку наступу Чырвонай Арміі гімназія была зачыненая, а адміністрацыя эвакуявалася на захад. У верасні 1920 года польскія часткі зноў увайшлі ў Пінск. Ваенныя ўлады перадалі будынак Пінскай гімназіі ў распараджэнне грамадзянскай адміністрацыі.

Для таго, каб трапіць на вучобу ў гэтую ўстанову, школьнікам даводзілася здаваць уступныя экзамены. Неўзабаве за парты селі 211 вучняў: 126 хлопчыкаў і 85 дзяўчынак. У жніўні 1921 года дырэктарам гімназіі стаў Феліцыян Слівінскі. Ён ініцыяваў набор новага выкладчыцкага складу. Тады ж гімназія стала дзяржаўнай.

Пінск быў прэстыжны на той час польскі горад. У лютым 1921 года было створана найбольш буйное з усіх ваяводстваў ІІ Рэчы Паспалітай — Палескае, якраз з цэнтрам у Пінску. Але ў жніўні таго ж года ў горадзе адбыўся страшны пажар, які знішчыў траціну гарадскіх пабудоў. Пасля гэтага польскія ўлады часова перавялі ваяводскую адміністрацыю ў Брэст. Такое становішча працягвалася да верасня 1939 года, а Пінск атрымаў статус павятовага цэнтра. Дарэчы, падчас згаданага пажару быў знішчаны адзін з будынкаў, які належаў Пінскай гімназіі, — дом дырэктара, у якім таксама размяшчалася канцылярыя школы.

У 1921 годзе ў Пінску жылі 23,5 тысячы чалавек, а праз 10 гадоў, у 1931-м — ужо 33,5 тысячы. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны насельніцтва горада дасягнула амаль 36 тысяч чалавек. Дзве траціны насельніцтва Пінска складалі габрэі, якія займаліся гандлем і рамеснай вытворчасцю.

Адкрыццё Пінскай дзяржаўнай гімназіі адбылося 5 верасня 1921 года. У кастрычніку таго ж года школа атрымала ад урада на бягучыя выдаткі 100 тысяч польскіх марак. У 1925 годзе гімназія была падзеленая на мужчынскую і жаночую. Адміністрацыя школы ўсведамляла, што вучнямі гімназіі будуць не толькі палякі, але і прадстаўнікі іншых народаў (перш за ўсё, беларусы і габрэі), і ў сувязі з гэтым адукацыйны працэс трэба было пабудаваць з улікам рэгіянальных асаблівасцяў і гістарычнага мінулага палескага рэгіёну.

Спецыфікай заняткаў у гімназіі стаў высокі ўзровень выкладання агульнаадукацыйных прадметаў. Асобная ўвага надавалася заняткам фізічнай культурай. У перыяд з 1926 па 1929 гады Пінская гімназія была адзінай навучальнай установай у ваяводстве, якая мела ўласную спартыўную залу. У ліпені 1929 года Міністэрства адукацыі Польшчы вылучыла Пінскай гімназіі 5000 злотых на будаўніцтва асобнай гімнастычнай залы для дзяўчынак. Гэты праект быў рэалізаваны ў верасні таго ж года.

Акрамя гэтага, адміністрацыя школы звярнулася да гарадскіх уладаў па дазвол на набыццё прылеглай тэрыторыі, на якой вучні праводзілі заняткі фізкультуры вясной і ўвосень. Гаворка ішла пра той участак, які перад Першай сусветнай вайной хацеў набыць апошні рускі дырэктар гімназіі Міхаіл Арганаў.

Вялікая ўвага ў Пінскай гімназіі надавалася таксама вайсковай падрыхтоўцы вучняў. Восенню 1923 года пры школе быў створаны адзін з першых у Заходняй Беларусі атрадаў па падрыхтоўцы школьнай моладзі да вайсковай службы. У яго запісваліся вучні IV–VIII класаў.

Таксама вырашалася пытанне аб капітальным рамонце будынка навучальнай установы. У 1928 годзе быў нанова перакрыты дах будынка. Некаторыя з класаў былі абсталяваны дадатковымі печкамі. У перспектыве планавалася правесці ў будынак цэнтральнае ацяпленне.

Сур'ёзнай праблемай для адміністрацыі навучальнай установы была кадравая. У сувязі з недастатковай колькасцю кваліфікаваных выкладчыкаў у пачатку 1920-х гадоў школьнаму кіраўніцтву даводзілася перакройваць школьную праграму і ўціскаць некаторыя прадметы. Аднак з часам сітуацыя змянілася ў лепшы бок. Калі ў 1921 годзе ў гімназіі працавала 11 настаўнікаў, то ў 1929 годзе іх было ўжо 35. Акрамя працы ў школе, настаўнікі арганізоўвалі публічныя курсы для супрацоўнікаў Дзяржаўнай паліцыі па гісторыі, літаратуры, геаграфіі, прыродазнаўству. Асветніцкая дзейнасць настаўнікаў Пінскай гімназіі не раз была ўганаравана падзякамі прэзідэнта Пінска і павятовага старасты.

Навучэнцаў гімназіі абслугоўвалі ўрачы медпункта, які знаходзіўся ў будынку жаночай гімназіі. Перыядычна рабіўся медыцынскі агляд вучняў усіх класаў. У перыяд з 1921 па 1925 год сярод гімназістаў было адзначана 55 выпадкаў малярыі і 8 выпадкаў тыфу. У 1922 годзе ўсім вучням гімназіі былі зроблены прышчэпкі ад воспы, а ў 1927 годзе — ад балотнай ліхаманкі.

Пінская гімназія валодала цудоўнай бібліятэкай, у якой былі як кнігі, якія дасталіся ў спадчыну ад рускай школы, так і новыя польскія выданні. У 1922 годзе гімназія атрымала ад Міністэрства адукацыі 1000 асобнікаў навуковай і папулярнай літаратуры. У наступныя гады гімназія сама закупляла літаратуру і неабходныя навучальныя матэрыялы. У 1927 годзе Міністэрства адукацыі Польшчы вылучае Пінскай гімназіі крэдыт на куплю вучэбнай літаратуры. У выніку, гімназічная бібліятэка папаўняецца яшчэ 1475 асобнікамі кніг рознай тэматыкі. У 1931 годзе ў распараджэнні школьнай бібліятэкі было 3766 кніг на польскай, рускай, нямецкай і французскай мовах.

У 1930 годзе ў Роўна прайшоў з'езд настаўнікаў замежных моваў. Вярнуўшыся дадому, выкладчыкі Пінскай гімназіі ўнеслі кіраўніцтву прапанову аб стварэнні ў школе асобнай бібліятэкі для вучняў, якія вывучаюць замежныя мовы. Неўзабаве гэта прапанова была ўхваленая, і ў распараджэнні гімназістаў апынуліся як самыя сучасныя слоўнікі і падручнікі, так і акадэмічныя выданні, накшталт «Размоў французска-руска-нямецкіх», выдадзеных у Санкт-Пецярбургу ў 1858 годзе.

Дарэчы, цалкам магчыма, што менавіта з дапамогай гэтай кнігі вывучаў замежныя мовы будучы першы прэзідэнт Ізраіля, ураджэнец вёскі Моталь Хаім Вейцман. Іншымі знакамітымі выпускнікамі Пінскай гімназіі былі, напрыклад, савецкі архітэктар Іван Жалтоўскі, а таксама адзін з заснавальнікаў савецкай фармакалогіі Іван Машкоўскі.

Сярод выкладчыкаў школы былі не толькі палякі, але і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Напрыклад, настаўнікам праваслаўнай рэлігіі быў ураджэнец Піншчыны, выпускнік духоўнай семінарыі ў Мінску Фёдар Дружылоўскі.

Да рэвалюцыі ён выкладаў у розных школах Мінскай губерні. З 1921 па 1927 год працаваў у Пінскай гімназіі, а ў 1928 годзе стаў праводзіць заняткі ў дзяржаўнай гімназіі і Тэхнічнай школе ў Лунінцы.

Французскую мову выкладала ўраджэнка Дынабургу, выпускніца філалагічнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта Наталля Рэйсмілер. Да рэвалюцыі яна выкладала французскую мову ў гімназіях Мінска і Вільні. У 1907–1917 гадах была дырэктарам прыватнай жаночай гімназіі ў Вільні. Затым пераехала ў горад на Піне і з 1923 года стала настаўніцай Пінскай гімназіі. Яшчэ адной выкладчыцай французскай мовы была ўраджэнка Пінска Валерыя Траяноўская. Пасля заканчэння Пінскай гімназіі яна паехала ў Парыж і паступіла на філалагічны факультэт аднаго з французскіх універсітэтаў.

Выкладчыкам прыродазнаўства ў гімназіі быў Зміцер Георгіеўскі. Ураджэнец Пінска, ён у 1916 годзе скончыў прыродазнаўчы факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, пасля гэтага працаваў у розных школах Крыма і Пінска. З 1922 года працаваў у Пінскай гімназіі, таксама быў вучоным сакратаром Палескага музея ў Пінску.

Выяўленчае мастацтва выкладала ўраджэнка Вільні Марыя Чыркова. Пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі і Варшаўскага ўніверсітэта, яна працавала ў школах у Лідзе і Гродне, а з 1926 года стала выкладчыцай Пінскай гімназіі.

Фізіцы гімназістаў навучаў ураджэнец Пінска Аляксандр Літвінаў. У 1908 годзе ён скончыў рэальную школу ў Пінску, затым паступіў у лясны інстытут у Пецярбургу. З 1923 года выкладаў у Пінскай гімназіі.

Настаўнікам рускай мовы быў выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта Андрэй Цыбрук. Юдаізм выкладаў ураджэнец Пінска, па сумяшчальніцтву віцэ-прэзідэнт Габрэйскага эміграцыйнага таварыства Якуб Айзенберг.

Сёння ў будынку былой гімназіі размяшчаецца Аддзел адукацыі пінскага гарвыканкама.

# Дзённік «філосафа» Рыбалтоўскага

Успаміны звычайных жыхароў Заходняй Беларусі з'яўляюцца каштоўнымі дакументамі па гісторыі гэтага рэгіёну. Адзін з такіх дакументаў — дзённік Юзафа Антонавіча Рыбалтоўскага з вёскі Ішкалдзь Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці.

Дзённік напісаны ў ліпені 1931 года і ахоплівае ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў XX стагоддзя, аднак яго матэрыялы з'яўляюцца яскравай ілюстрацыяй тых нялёгкіх для жыхароў Заходняй Беларусі часоў.

Дакладна не вядома, калі Юзаф Рыбалтоўскі нарадзіўся. Адзін з яго братоў Жыгімонт у 1899 годзе з'ехаў з Ішкалдзі ў Пецярбург і хутка ўладкаваўся на службу ў горны дэпартамент у якасці дзяржаўнага чыноўніка. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года ён пераехаў у Маскву, а пасля кастрычніцкага перавароту (Юзаф Рыбалтоўскі выкарыстоўвае менавіта гэтае акрэсленне. — *І. М.*) Жыгімонт вярнуўся на радзіму. Другі брат Кастусь увесь час заставаўся дома, і калі ў 1902 годзе памёр іх бацька Антоній, менавіта Канстанціну прыйшлося займацца пахаваннем. Справа ў тым, што сам Юзаф у гэты час быў на службе ў Рускай імператарскай арміі.

«*Пасля смерці бацькі ўсёй маёмасцю распараджаўся Канстанцін, бо я вярнуўся з войска толькі ў лютым 1906 года. З маёмасці бацькі мне засталося 7 дзесяцін зямлі і лугу, а яшчэ дзве дзесяціны я набыў з дапамогай крэдыту Сельскагаспадарчага сялянскага банку, які я павінен быў выплачваць да 1914 года*», — пісаў у сваім дзённіку Юзаф Рыбалтоўскі.

У красавіку 1907 года ў Ішкалдзь прыехаў сталічны франт Жыгімонт, які, не жадаючы займацца сялянскай працай, аддае свой кавалак зямлі братам, папярэджваючы іх, што зараз зямля яму не патрэбна, аднак, магчыма, прыйдзе час, калі ён забярэ сваю частку спадчыны. Браты Юзаф і Кастусь падзялілі зямлю і жывёлу пароўну і спакойна займаліся сялянскай працай.

Юзаф займаўся яшчэ і настаўніцтвам. У сябе ў хаце ён арганізоўваў заняткі для вясковых дзяцей па рускай і польскай мовах. Ужо тады ў гэтага чалавека з'явіліся першыя

кнігі па гісторыі і літаратуры (у 1920–1930-я гады Юзафу Рыбалтоўскаму ўдалося сабраць багатую і цікавую бібліятэку па гуманітарных навуках. — *І. М.*). Хутка Юзаф вырашыў папрацаваць у вялікім горадзе і паехаў да брата ў Пецярбург, дзе ўладкаваўся на працу ў Галоўпаштамт сталіцы Расійскай імперыі. *«Папрацаваўшы там 8 месяцаў, прыйшлося мне звольніцца. Кіраўніцтву не падабаліся мае «польскія» карані. У 1912 годзе я вырашыў вярнуцца ў Ішкалдзь»*, — адзначае Рыбалтоўскі ў дзённіку.

У 1914 годзе пачалася Першая сусветная вайна. Юзаф Антонавіч ізноў паступіў на службу ў Рускую імператарскую армію. Дома засталіся жонка і трое сыноў, якім было 7, 5 і 2 гады. У 1916 годзе Рыбалтоўскага накіравалі на Румынскі фронт у артылерыю, дзе ён удзельнічаў у баявых дзеяннях на рацэ Сірэт. Падчас баявых дзеянняў Юзаф Антонавіч быў паранены ў нагу, і гэтая рана пазней часта нагадвала пра сябе.

Расійская імперыя дажывала апошнія дні. Пад уплывам паразаў на франтах і пад уздзеяннем бальшавіцкай агітацыі разлагалася руская армія. У траўні 1917 года бамбардзір 23-га артылерыйскага дывізіёна Юзаф Рыбалтоўскі быў накіраваны дэпутатам у Адэсу для ўдзелу ў Абласным і Франтавым з'ездзе Саветаў рабочых, салдацкіх і афіцэрскіх дэпутатаў Румынскага фронту. Хутка ў яго кішэні ўжо ляжала пасведчанне нумар 1755. Для селяніна з Заходняй Беларусі ідэі бальшавікоў былі чужымі, і як толькі прадставілася магчымасць, Рыбалтоўскі вярнуўся дадому.

*«Усё было разбурана вайной і нямецкай акупацыяй. А як інакш, калі наша хата знаходзілася ў 16 вёрстах ад фронту. Але жонцы ўдалося зберагчы гаспадарку»*, — пісаў у дзённіку Рыбалтоўскі. Напрыканцы 1918 года з Масквы разам з жонкай і дзецьмі прыехаў Жыгімонт Антонавіч. Браты Кастусь і Юзаф размясцілі яго ў сябе.

Хутка Заходняя Беларусь апынулася пад бальшавікамі. У польскай гістарыяграфіі існуе паняцце «Першыя Саветы», пад якім разумеецца перыяд з верасня 1939 па чэрвень 1941 гадоў, калі Заходняя Беларусь апынулася ў складзе СССР. Атрымоўваецца, што той кароткі перыяд у 1919–1920 гадах,

калі заходнебеларускія тэрыторыі знаходзіліся пад савецкай уладай, можна назваць «Нулявымі Саветамі». Часу пагаспадарыць на гэтых землях у бальшавікоў было няшмат, але крывавых спраў яны паспелі нарабіць багата.

*«16 сакавіка 1919 года бальшавікі зачынілі наш, ужо аднавіўшы сваю працу пасля забароны царскіх улад, касцёл, а ксёндз Латарэвіч быў арыштаваны і адпраўлены ў Мір»,* — успамінаў сведка часу Юзаф Рыбалтоўскі.

Разам з братам Жыгімонтам ён пайшоў да бальшавікоў, каб дамовіцца пра вызваленне святара. «Хадакоў» арыштавалі як контррэвалюцыянераў і разам з ксяндзом адправілі ў Навагрудак. Там іх трымалі тры дні. Уночы з 18 на 19 сакавіка Рыбалтоўскіх адправілі ў распараджэнне Надзвычайнай камісіі ў Мінск, а ксяндза з Ішкалдзі і яшчэ аднаго чалавека па прозвішчы Карнутоўскі адвезлі ў Мірскі замак і расстралялі.

У турме ў Мінску браты Рыбалтоўскія знаходзіліся 10 тыдняў. Пасля гэтага іх нечакана адпусцілі. Жыгімонт адразу збег у Баранавічы, таму што там знаходзіліся падраздзяленні Войска Польскага, а яго сям'я працягвала жыць у дамах Кастуся і Юзафа.

Сам Юзаф Антонавіч баяўся вяртацца дахаты. Бальшавіцкія ўлады не аднойчы заходзілі да яго жонкі і пыталі, дзе муж, таму ён вымушаны быў хавацца ў лесе. *«Калі польскія войскі ў 1919 годзе вызвалілі нашу вёску ад бальшавікоў, брат Жыгімонт стаў сакратаром раённай управы ў Міры і забраў сваю сям'ю ад нас»,* — адзначаў Юзаф Антонавіч ва ўспамінах.

Хутка бальшавікі пачалі наступленне ў кірунку Варшавы — і ўлада зноў змянілася. Жыгімонт з'ехаў на захад у Познанскае ваяводства. У сваю чаргу, Юзаф быў мабілізаваны бальшавікамі ў абоз і накіраваны ў Слонім. Аднак па дарозе да мястэчка на абоз наляцела польская кавалерыя. Бальшавікоў расстрэлялі, а сялян адпусцілі. Праўда, коней і падводы палякі забралі. Так, па прызнанні Юзафа Антонавіча, ён пазбавіўся адной з галоўных сваіх прылад працы.

Пасля Рыжскай мірнай дамовы ў 1921 годзе Заходняя Беларусь увайшла ў склад II Рэчы Паспалітай. У гэтым жа

годзе на радзіму вярнуўся Жыгімонт Рыбалтоўскі і заняў высокую пасаду ў кіраўніцтве гмінай Мір. Нарэшце ў сям'і Рыбалтоўскіх пачалося мірнае жыццё.

Паміж братамі (асабліва Жыгімонтам і Юзафам. — *І. М.*) адбываліся маёмасныя спрэчкі, аднак іх удавалася выраšыць на сямейным савеце. У 1929 годзе са службы ў Войску Польскім вярнуўся старэйшы сын Юзафа Антонавіча. Бацька выдаў яму 30 злотых і адправіў у Варшаву. Маўляў, у сталіцы заўсёды больш магчымасцяў.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, а праз 17 дзён на тэрыторыю Заходняй Беларусі прыйшла Чырвоная Армія, і пачаліся «Першыя Саветы». Аднак ужо праз два гады яшчэ не паспеўшая стаць савецкай Заходняя Беларусь апынулася пад нямецкай акупацыяй. Юзаф Рыбалтоўскі працягваў жыць як звычайны селянін. Працаваў на сваёй зямлі, плаціў падаткі.

Сын Рыбалтоўскага Юзаф Юзафавіч ледзь не трапіў на службу ў Беларускую Краёвую абарону. Пра гэта сведчыць пасведчанне аб адтэрміноўцы ад службы, выдадзенае 11 сакавіка 1944 года мабілізацыйнай камісіяй у мястэчку Гарадзішча. Апрануць чорны паліцэйскі мундзір Рыбалтоўскі-малодшы не паспеў. Хутка тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад немцаў, а хлопец трапіў на службу ў Народнае Войска Польскае і з ім дайшоў да Берліна. На гэтым, на жаль, нашы веды пра сям'ю Рыбалтоўскіх абрываюцца.

# Гісторыя каваля, які стаў «капаўцам»

Язэп Іванавіч Варанецкі нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Душкава пад Ракавам у сялянскай сям'і. Яго бацька загінуў падчас Грамадзянскай вайны, а маці працавала аканомкай у мясцовага памешчыка па прозвішчы Булгак. Да 1935 года Язэп працаваў кавалём.

Паступова сям'і Варанецкіх удалося збудаваць моцную гаспадарку, у якой у 1937 годзе было ўжо чатыры каровы і два коні. Перад самай вайной цесць Язэпа набыў у мясцо-

вага асадніка 20 гектараў зямлі, заплаціўшы за гэта царскімі залатымі чырвонцамі.

Вёска, у якой жыла сям'я Варанецкіх, знаходзілася ў кіламетры ад савецка-польскай мяжы, а Ракаў, як вядома, быў сталіцай кантрабандыстаў. Мясцовыя спрабавалі пранесці на савецкі бок усё, што магчыма, і польскія памежнікі гэтаму асабліва не перашкаджалі. Аднойчы ў Варанецкіх скралі кароў і перавялі іх на савецкі бок. Цесць Язэпа нават хацеў перайсці мяжу. Ён дакладна ведаў, дзе яго каровы. Аднак польскія памежнікі параілі старому не выпрабоўваць лёс: *«Як трапіш да бальшавікоў, то можаш не вярнуцца»,* — папярэдзіў беларуса афіцэр Корпуса аховы памежжа (КАП).

Жыхары Душкава таксама ведалі, што савецкія ўлады рэпрэсіруюць усіх, хто мае сувязь са сваякамі ў Польшчы. Такія выпадкі былі ў вёсках Траскоўшчына і Вялікае Сяло. НКУС арыштоўвала цэлыя сем'і і вывозіла іх углыб СССР.

Калі Язэпу споўніўся 21 год, ён быў прызваны ў Войска Польскае, служыў у 69-м палку пяхоты ў Гнезна. Пасля службы ў польскай арміі малады беларус трапіў у Корпус аховы памежжа.

Батальён КАП «Стоўбцы» складаўся з 5 памежных ротаў і ахоўваў 95-кіламетровы прамежак савецка-польскай мяжы. Усяго ў склад гэтай вайсковай адзінкі ўваходзіла 16 стражніц (памежных застаў). Язэп быў незвычайным памежнікам. Ён іграў у вайсковым аркестры.

«*Бацька музыцы не вучыўся. Сам неяк авалодаў ігрой на музычных інструментах, прычым на высокім узроўні*», — распавёў Вячаслаў Варанецкі, сын нашага героя. — *Шмат разоў ён удзельнічаў у так званых «дэфіладах» — вайсковых парадах, якія арганізоўваў батальён памежнікаў*».

Напярэдадні Другой сусветнай вайны, у жніўні 1939 года, батальён КАП «Стоўбцы» быў адмабілізаваны і ўвайшоў у склад рэзервовай 38-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага ў якасці 1-га батальёна 96-га пяхотнага палка арміі «Малапольшча». Пасля адпраўкі асноўных частак на захад, камандаванне папоўніла шэрагі памежнікаў за кошт маладых рэзервістаў, а новы батальён «Стоўбцы» стаў часткай палка КАП «Баранавічы».

На досвітку 17 верасня 1939 года польскія памежныя заставы былі атакаваны часткамі Чырвонай Арміі. «*Колькі іх там было, тых польскіх «капаўцаў». Усяго 5–6 на адну стражніцу. Асноўная частка батальёна была адпраўлена на Захад і змагалася з немцамі. А тут, у Заходняй Беларусі, засталася невялікая частка некалі магутнага памежнага батальёна. «Капаўцы» хадзілі па вёсках, сачылі за захаваннем святломаскіроўкі падчас налётаў нямецкай авіяцыі і з небяспекай пазіралі на ўсход*», — успамінае Вячаслаў Язэпавіч.

Пасля таго, як савецкія часткі перайшлі мяжу, рэшткі батальёна КАП «Стоўбцы» адступілі ў напрамку Навагрудку, дзе 20 верасня 1939 года ля Міру былі аточаны часткамі савецкай 6-й стралковай дывізіі і ўзяты ў палон. Хутка пасля гэтага Язэп Варанецкі вярнуўся дадому. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР старая мяжа намінальна захоўвалася, аднак жыхары памежных вёсак усё роўна спрабавалі наведваць адзін аднаго.

Аднойчы жонка Язэпа пайшла на савецкі бок да цёткі. Яна жахнулася ад той галечы, якую ўбачыла ў вёсцы Траскоўшчына, што знаходзілася зусім побач ад Душкава. У савецкіх беларусаў не было нават бульбы, каб пачаставаць заходніх сваякоў. Варанецкія вярнуліся дадому, узялі мяшок з мукой і ноччу панеслі гэта сваякам на савецкі бок. Аднойчы маладыя дзяўчыны «з Польшчы», сярод якіх была і жонка Язэпа, пайшлі на вечарыну «да Саветаў». А калі вярталіся, то трапілі на савецкі патруль. «*Хто такія? Вопратка ў вас багатая. Вы напэўна дочкі памешчыкаў*», — накінуліся савецкія памежнікі на дзяўчат. Але тым удалося даказаць, што яны звычайныя сялянкі і вяртаюцца да дому.

У чэрвені 1941 года Германія напала на Савецкі Саюз, і хутка Беларусь апынулася пад нацысцкай акупацыяй. Аднойчы, у канцы 1941 года, у вёсцы нечакана з'явіўся былы асаднік па прозвішчы Заграйскі. Да 1939 года ён валодаў асадай пад Ракавам, аднак, калі пачалася Другая сусветная вайна, прадаў зямлю і эміграваў. Былы асаднік прыехаў паглядзець, што стала з яго маёнткам, і быў вельмі ўражаны, убачыўшы, што ўсё разрабавана. Сабраўшы вакол сябе

сялян, Заграйскі сказаў: «*Panowie, komunizm przejdzie po całemu świato, ale zginie nazawsze*» (Камунізм пройдзе па ўсім свеце, але згіне назаўсёды). Хто мог тады ведаць, што гэтыя словы будуць прароцкімі.

У лясах з'явіліся партызаны. «Лясныя мсціўцы» забілі роднага брата Язэпа толькі за тое, што ўбачылі ў хаце яго здымак у польскай форме. У 1944 годзе, калі тэрыторыя Беларусі была вызвалена з-пад нямецка-фашысцкай акупацыі, пачаўся прызыў беларускай моладзі ў Савецкую Армію. Аднак на тэрыторыі заходніх абласцей БССР у маладых хлопцаў была магчымасць трапіць і ў Народнае Войска Польскае (НВП). Варанецкі і два яго браты запісаліся ў польскую армію, аднак хлопцы былі адпраўлены на ўсход, у Горкаўскую вобласць. Замест вайсковай падрыхтоўкі беларусам давялося валіць лес. Пазней іх усё ж адправілі на фронт.

У 1945 годзе Язэпу Варанецкаму прапанавалі застацца ў Польшчы і не вяртацца ў СССР. «*Бацька распавядаў, што польскі афіцэр, відаць, з былых, сабраў іх і запытаў: «Czy chcecie iść do kolchozu?»* (Жадаеце ісці ў калгас?) *Язэп напісаў ліст цесцю і запытаўся, што яму рабіць. Той, безумоўна, не мог напісаць праўду, і вырашыў зашыфраваць свой «мэсыдж» да зяця. Былому настаўніку вясковай школы, які недалюбліваў савецкую ўладу, хапіла розуму напісаць усяго толькі адну фразу: «Калі жадаеш ісці да Вінцуся, дык вяртайся»*. Язэп адразу зразумеў сэнс паслання.

Старшыню калгаса ў вёсцы, дзе жылі Варанецкія, звалі Вінцэнт. Зразумела, што «ісці да Вінцуся» азначала ісці ў калгас. У выніку Язэп вырашыў застацца ў Польшчы, у Гданьску. Туды павінна была выехаць і яго сям'я. Ужо былі падрыхтаваныя дакументы на рэпатрыяцыю, аднак свёкар у апошні момант прыняў рашэнне застацца ў БССР. Так сям'я падзялілася.

Пазней Язэп Варанецкі працаўладкаваўся ў Гданьскую палітэхніку і працаваў там майстрам вытворчага навучання да самай смерці.

Кожны год на Дзяды Вячаслаў Язэпавіч ездзіць у Польшчу, на магілу свайго бацькі.

# Салдат дзвюх армій

Сярод жыхароў Заходняй Беларусі было шмат тых, хто падчас Другой сусветнай вайны паспеў пазмагаецца з нацыстамі ў войсках розных дзяржаў. Адным з такіх быў ураджэнец Віцебскай вобласці, беларус Юльян Бартко.

Нарадзіўся Юльян у Дзісенскім павеце Віленскай губерні 26 ліпеня 1915 года. Праз некалькі гадоў імперыя Раманавых спыніла існаванне, а на беларускіх землях запанавала спачатку нямецкая, затым польская і бальшавіцкая акупацыі. У сакавіку 1921 года, пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны, Заходняя Беларусь, а разам з ёй і родная для Юльяна Юльянавіча вёска Забор'е, апынулася ў складзе II Рэчы Паспалітай.

Юльян займаўся сялянскай працай (гаспадарка ў яго бацькоў была вялікая), скончыў 4 класы школы. У 1935 годзе Бартко прызвалі на службу ў Войска Польскае. У міжваеннай Польшчы выхадцаў з заходніх ваяводстваў накіроўвалі служыць «на крэсы», а жыхары ўсходніх ускраін часцей за ўсё праходзілі службу ва «ўнутранай» Польшчы.

Вось і беларус Юльян адправіўся ў 16-ы пяхотны полк Войска Польскага, раскватараваны ў Малапольскім Тарнаве. На базе гэтага вайсковага злучэння ажыццяўлялася падрыхтоўка салдат для службы ў Корпусе аховы памежжа (КАП). Пасля заканчэння падрыхтоўкі, у званні капрала Бартко вярнуўся ў Заходнюю Беларусь і далейшую службу праходзіў у стралковай роце «Друя» батальёна КАП «Слабодка». Гэта падраздзяленне было раскватаравана ў паўночнай частцы Віленскага ваяводства на мяжы з Латвійскай рэспублікай.

Праз польска-латвійскую мяжу ў 1920–1930 гады ажыццяўляўся ажыўлены рух працоўных мігрантаў з Польшчы ў Латвію. Гаворка ідзе, перш за ўсё, аб сельскагаспадарчых рабочых з Заходняй Беларусі, якія накіроўваліся ў суседнюю краіну «за доўгім латам».

Складанай была і сітуацыя з кантрабандай. Да прыкладу, у 1936 годзе салдаты КАП канфіскавалі 8000 кілаграмаў

паваранай і харчовай солі, велізарную колькасць запалак, 80 фунтаў цукру і іншыя тавары, якія сезонныя рабочыя спрабавалі вывезці з Латвіі. Частымі былі і перастрэлкі з кантрабандыстамі. Сітуацыю пагаршала тое, што злачынцы былі ўзброеныя пісталетамі і вінтоўкамі і аказвалі ўзброены супраціў як латвійскім памежнікам, так і польскім «капістам». Час ад часу мяжу даводзілася закрываць. Так, падчас масавага мору жывёлы на тэрыторыі Польшчы ў 1938-м і 1939-м на латвійскім баку стаў больш жорсткім ветэрынарны кантроль і было абмежавана перамяшчэнне прыватных асоб праз памежныя пераходы.

Падчас службы на мяжы з Латвіяй капрал КАП Юльян Бартко неаднаразова ўдзельнічаў у затрыманні кантрабандыстаў. За выдатную службу 11 ліпеня 1938 года беларус быў узнагароджаны бронзавым крыжам «За заслугі». Дакумент аб узнагароджанні, які цудам захаваўся ў сваякоў Юльяна, быў асабіста падпісаны тагачасным прэм'ер-міністрам Польшчы Феліцыянам Славоем-Складкоўскім. Неўзабаве пасля гэтай знамянальнай падзеі Юльян дэмабілізаваўся і вярнуўшыся дадому, заняўся сялянскай працай. Але мірнае жыццё працягвалася нядоўга. 1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна.

Юльян Юльянавіч быў мабілізаваны ў 5-ы пяхотны полк легіёнаў, які ўваходзіў у склад 1-й дывізіі пяхоты легіёнаў (аператыўная група «Вышкаў»). Мабілізацыя палка, у якім служыў Юльян, пачалася яшчэ ў канцы жніўня 1939 года. Ноччу 27 жніўня пяхотнікі пагрузіліся ў вагоны і накіраваліся ў бок Гродна. У пачатку верасні 1939 года падраздзяленні палка вялі жорсткія баі з вермахтам і часткамі палка СС «Deutschland» на рацэ Нараў у раёне мястэчка Гнойна. Затым была гераічная абарона на лініі ракі Буг каля горада Вышкаў, у ходзе якой 5-ы полк страціў каля 35 працэнтаў асабовага складу. Пасля гэтага «вільнянам» давялося змагацца з нацыстамі пад Водыням, і Алесніцай. Там палякам удалося захапіць вялікія трафеі і палонных.

Неўзабаве полк апынуўся ў акружэнні. Частка 1-й пяхотнай дывізіі легіёнаў спрабавала прабіцца на поўдзень і злучыцца з Аператыўнай групай «Палессе» генерала

Францішка Клееберга. Іншыя падраздзяленні змагаліся пад Гарвалінам, прарываючыся да Варшавы.

У другой групе быў і капрал Юльян Бартко. Паводле яго ўспамінаў, галоўнай праблемай было тое, што салдатам Войска Польскага бракавала зброі і боепрыпасаў. Да таго ж 17 верасня 1939 года ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ўвайшла Чырвоная Армія. У гэтых умовах далейшы супраціў польскіх войскаў быў бессэнсоўны. Тым жаўнерам 5-га палку, хто застаўся ў жывых, афіцэры загадалі скласці зброю. Сам Юльян прадбачліва зрэзаў з мундзіра пагоны, зняў узнагароды і схаваў усё гэта ў адной з вясковых хат.

Палонных салдат з Віленшчыны накіравалі ў лагер на тэрыторыі Усходняй Прусіі. *«Там не было баракаў. Вялікае поле, агароджанае з усіх бакоў калючым дротам, і вышкі аховы. Каб не замерзнуць, спалі адзін на адным, утвараючы жывыя курганы. На раніцу тыя, хто быў знізу, паміралі, задыхнуўшыся. Замест ежы давалі бульбяныя ачысткі»*, — распавядаў сваякам пасля вайны Юльян Юльянавіч.

Затым польскіх ваеннапалонных перавялі ў горад Рысэн, дзе Бартко прызначылі на працу ў краме, якая гандлявала вугалем. Там умовы былі адносна нармальнымі. Па выхадных ім дазвалялі гуляць па горадзе. Але ўсё роўна былыя салдаты Войска Польскага спрабавалі пакінуць няволю.

Ураджэнец Віцебшчыны ўцякаў двойчы. Лавілі, цкавалі сабакамі. Сляды ад ірваных ранаў гаіліся вельмі доўга, але Юльян не здаваўся. У 1943 годзе групу польскіх палонных, у складзе якіх быў і Бартко, у якасці працоўнага батальёна перакінулі ва Украіну, пад Кіеў. Там, на Дняпры, нацысты ўзводзілі ўмацаванні, з дапамогай якіх мелі намер стрымаць савецкі наступ.

Былы памежнік здзейсніў трэцюю і на гэты раз паспяховую спробу ўцёкаў. Дабраўшыся да Беларусі, Юльян трапіў да савецкіх партызанаў, якія неўзабаве злучыліся з часткамі савецкай арміі. Беларуса доўга дапытвалі ў асобым аддзеле. Цікавіліся яго даваеннай службай у «панскай войску», знаходжаннем у нямецкім палоне. У выніку Бартко «паверылі» і далі магчымасць працягнуць барацьбу з нацыстамі.

*«Я хацеў ваяваць у польскай арміі, якую стварылі ў СССР, але мне цвёрда далі зразумець, што я — ураджэнец Заходняй Беларусі, і гэта савецкая тэрыторыя, а, такім чынам, служыць я павінен у Чырвонай Арміі»,* — успамінаў Юльян Юльянавіч. У выніку, у канцы сакавіка 1945 года Бартко трапіў шарагоўцам у 67-ы стралковы полк 20-й дывізіі 1-га Беларускага фронту.

Баі ішлі ўжо на подступах да сталіцы нацысцкай Германіі. Немцы біліся з апошніх сіл, ператварыўшы кожны дом і вуліцу ў непрыступную крэпасць. У канцы красавіка 1945 года ў некалькіх кварталах ад Рэйхстагу падраздзяленне, у якім ваяваў Юльян, наткнулася на групу эсэсаўцаў. Завязаўся жорсткі бой, у выніку якога Бартко быў цяжка паранены. Куля зачапіла суставу левай рукі, а аскепак гранаты трапіў у грудзі і спыніўся ў міліметры ад сэрца.

9 мая 1945 года Юльян Юльянавіч сустракаў у шпіталі. Ваенныя ўрачы выратавалі жыццё салдату, але левую руку давялося ампутаваць.

У ліпені 1945 года параненага салдата прадставілі да заслужанай узнагароды — Ордэну Славы 3-й ступені, аднак камандаванне Беларускай ваеннай акругі перагледзела гэтае рашэнне, і ўзнагародзіла беларуса Ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені.

Пасля вайны Юльян Бартко працаваў на спіртзаводзе ў Азярцах і на торфараспрацоўцы пад Глыбокім.

Калі на пачатку 1990-х гадоў польскі ўрад пачаў узнагароджваць беларусаў, якія ваявалі ў Войску Польскім, медалём «За ўдзел у Вераснёўскай кампаніі 1939 года» Бартко таксама хацеў заявіць пра тое, што ён ваяваў з нацыстамі з першага дня Другой сусветнай вайны, але калі даведаўся, што на гэты медаль прэтэндуюць людзі, якія нават не ўдзельнічалі ў той вайне (нехта з суседняй вёскі), то адмовіўся адпраўляць свае дакументы. *«Я ваяваў не за медалі, а за Радзіму»,* — скажа тады Юльян Юльянавіч.

У 2000 годзе Юльян Бартко памёр. Але памяць пра яго жыве. Родныя захавалі ўзнагароды, атрыманыя Юльянам Бартко пры «панскай» Польшчы, а таксама савецкі ордэн «Айчыннай вайны», які беларус атрымаў за ўдзел у штурме Берліна.

# Золата гаспадароў Баркоўшыны

Паводле адных звестак, прадстаўнікі сям'і Печанко, што жылі на хутары Баркоўшына ў 70-х гадах XIX стагоддзя, знайшлі пад Мірам вялікі клад, які схавалі пры адступленні з Расіі напалеонаўскія войскі. Паводле іншых — нехта з роду Печанко з'ехаў у ЗША і здолеў зарабіць вялікія грошы, якія дазволілі стаць у Беларусі буйным землеўласнікам.

ЗША далі магчымасць прадстаўнікам роду Печанко зарабіць вялікія грошы, аднак смутак па радзіме перамог, і былы селянін вярнуўся ў Беларусь.

Спачатку ён купіў фальварак Асінаўка ў Мінскім павеце, у склад якога ўваходзілі буйныя лясныя масівы, ворныя землі, а таксама вялікі млын, які прыносіў прыбытак 200 рублёў серабром на год. Гэта былі велізарныя на той час грошы. Пра што казаць, калі на пачатак XX стагоддзя батон чорнага хлеба каштаваў 3 капейкі, белага — 7 капеек, а літр добрай гарэлкі — 12 капеек. У гэты ж час зарплата ўрачоў і настаўнікаў была 10–15 рублёў на месяц. І гэта лічылася добрым заробкам.

Потым у памешчыка Крупскага Печанко набыў фальварак Баркоўшына разам з вялікім зямельным надзелам, лесам і яшчэ адным млынам. Паступова сям'я Печанко ператварылася ў паспяховых прадстаўнікоў тагачаснага сярэдняга класу. Яны гандлявалі мукой, лесам, наймалі на працу мясцовых сялян.

У 1919 годзе пачалася польска-бальшавіцкая вайна. Фронт рухаўся то на ўсход, то на захад. Нарэшце, у сакавіку 1921 года была падпісана Рыжская мірная дамова, якая зацвердзіла падзел Беларусі. Хутка пачалося вызначэнне дзяржаўнай мяжы. Адмысловая польская памежная камісія з'явілася і ў раёне Рубяжэвічы–Коласава. Галава сям'і Панцеляймон Печанко, які да пачатку Першай сусветнай вайны здолеў стварыць паспяховую гаспадарку, безумоўна, разумеў, што ад бальшавікоў не варта чакаць дабрабыту і парадку. За часы кароткіх «нулявых саветаў» у 1919–1920 гадах ён пабачыў і камісараў, і расстрэлы «польскіх» паноў. А зараз

пачуў, што яго фальваркі Баркоўшына і Асінаўка адыходзяць да Саветаў.

Дзяржаўная мяжа паміж СССР і Польшчай павінна была прайсці якраз на захад ад Баркоўшыны.

Для вырашэння гэтай праблемы Печанко выкарыстаў вялікія грашовыя сродкі, якія ўдалося схаваць ад бальшавікоў. Панцеляймон прапанаваў прадстаўнікам памежнай камісіі правесці лінію дзяржаўнай мяжы так, каб Баркоўшына, а разам з ёй і вялікія лясныя ўгоддзі і ворныя землі засталіся на польскім баку. Наўзамен беларускі памешчык прапанаваў палякам значную суму грошай у золаце.

Памежныя камісары доўга не ваагаліся, і дзяржаўную мяжу адцягнулі на ўсход, тым больш, што савецкі бок не выказваў ніякіх прэтэнзій. Ад Асінаўкі і млыну, што знаходзіўся там, Печанко давялося адмовіцца.

На савецкім баку засталася і частка сваякоў. Адзін з іх, Кастусь Печанко, пазней будзе працаваць эканамістам у адной з сельскагаспадарчых арганізацый БССР. Апошнім яго месцам жыхарства быў Мінск. У верасні 1937 года Кастусь быў арыштаваны НКУС і, у адпаведнасці з прысудам «тройкі», за антысавецкую агітацыю быў расстраляны. Пра сумны лёс свайго сваяка Панцеляймон Печанко так ніколі і не даведаецца.

У Заходняй Беларусі сям'я Печанко зноў ператварылася ў прадстаўнікоў багатага сярэдняга класа. Адзін з сыноў Панцеляймона працаваў школьным настаўнікам, другі быў журналістам польскай газеты ў Нясвіжы. Яго дачка Валянціна вывучылася на акуліста і працавала спачатку ў Кракаве, а потым у мястэчку Хшанаў у Малапольшчы. Іншая дачка Лідзія скончыла настаўніцкія курсы ў Нясвіжы і працавала настаўніцай.

Яшчэ двое сыноў Панцеляймона да службы ў Войску Польскім займаліся гаспадаркай у радавым фальварку Баркоўшына. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, гэтыя людзі *«не трымалі парабкаў»* (не мелі пастаянных працоўных), а наймалі работнікаў з мясцовых вёсак. Да сялян прадстаўнікі сям'і Печанко ставіліся з павагай. За выкананую працу плацілі золатам.

Мясцовыя жыхары з зайздрасцю пазіралі на гэтую сям'ю, якая зрабіла хуткі скачок з адной сацыяльнай групы ў іншую. Тады, магчыма, і з'явілася легенда пра «напалеонаўскі скарб», нібыта знойдзены старым Печанко пад Мірам. Аднак мне падаецца, што залог поспеху беларускага селяніна палягаў у цяжкай працы ў ЗША, а пазней і ў Беларусі. А нават калі і было знойдзена нейкае золата, дык трэба было мець добры розум і працаздольнасць, каб прымножыць багацце.

У хаце Печанко заўсёды была зброя. Амаль за ваколіцай фальварка Баркоўшына ішла дзяржаўная мяжа. У 1920-х гадах з савецкага боку ў Польшчу часта наведваліся рознага кшталту «партызаны», якія нападалі на польскія дзяржаўныя ўстановы, паліцыю, памешчыкаў.

З 1924 года зусім побач з фальваркам была збудавана памежная застава КАП. Печанко таксама ўдзельнічалі ў фінансаванні будаўніцтва казармы для польскіх памежнікаў. Стражніца Баркоўшына ўваходзіла ў чацвёртую памежную роту (Рубяжэвічы) палка КАП «Сноў». Такое суседства ішло на карысць і памежнікам, і сям'і Печанко. З аднаго боку, палякі мелі падтрымку ў выглядзе антыбальшавіцкі настроеных беларусаў, з іншага — гаспадары Баркоўшыны мелі своеасаблівую ахову.

Цікавы, што сярод дакументаў сям'і Печанко захаваўся здымак маладога польскага памежніка, які заляцаўся за адной з прадстаўніц гэтай сям'і. Аднак, мы, на жаль не ведаем, чым скончылася гэтая «love story». Пра паспяховасць і багацце сям'і Печанко ў міжваеннае дваццацігоддзе сведчаць шматлікія нататкі ў Вільне і Навагрудку ў польскіх выданнях эканамічнай скіраванасці. Аднак у верасні 1939 года ўлада ў Заходняй Беларусі зноў змянілася.

17 верасня 1939 года часткі савецкай Дзяржынскай конна-механізаванай групы атакавалі польскія памежныя стражніцы на ўчастку палка КАП «Сноў». З-за колькаснай перавагі атакуючага боку польскія памежнікі вымушаны былі адступіць. Усталяванне савецкай улады ў Заходняй Беларусі прынесла вялікія змяненні ў жыцці сям'і Печанко. Амаль уся іх зямельная маёмасць была рэквізаваная, аднак саміх «па-

мешчыкаў» не кранулі. У вакольных вёсках пагаворвалі, што сітуацыю зноў ўратавала прыхаванае золата.

У чэрвені 1941 года на СССР напала Германія, і хутка Беларусь апынулася пад нямецкай акупацыяй. Адзін з сыноў Панцеляймона і пры немцах працягваў працаваць настаўнікам. Аднойчы ў яго хату завіталі савецкія партызаны. «Давай польскія афіцэрскія боты і іншую цёплую вопратку. Мы ведаем, у цябе ёсць», — сказаў адзін з народных мсціўцаў. Аднак замест вопраткі настаўнік дастаў пісталет і перастраляў гасцей з лесу. Пазней, у 1944-м, за гэты ўчынак савецкія ўлады асудзяць былога настаўніка на дваццаць пяць гадоў лагераў за «супрацу з ворагам».

Дачка Панцеляймона Лідзія была замужам за протаіерэем з Рубяжэвічаў. У пачатку 1950-х гадоў яна разам з мужам была сасланая на пасяленне ў Вяцкую вобласць РСФСР. На жаль, мы дакладна не ведаем пра лёс іншых сямейнікаў Печанко.

Мясцовыя старажылы расказвалі, што залатыя і сярэбраныя манеты, якімі расплачваліся памешчыкі Печанко са сваімі работнікамі, хадзілі па руках да 1960-х гадоў і былі галоўнай валютай у гэтай мясцовасці. Зараз ля Баркоўшыны можна сустрэць людзей з металашукальнікамі. Яны вераць у тое, што змогуць знайсці гаршчочак з залатымі чырвонцамі, схаваны Печанко.

## Лёс беларускага селяніна

Гісторыя жыцця Веньяміна Тоўсціка адлюстроўвае тую трагедыю, праз якую ў XX стагоддзі давялося прайсці беларускаму сялянству: цяжкая праца, вайна, палон, акупацыя, НКУС, лагер у Нарыльску.

Нарадзіўся Веньямін Тоўсцік у мястэчку Пліса, Дзісненскага павету, Віленскага ваяводства ў сялянскай сям'і. З малога ўзросту дапамагаў бацькам у працы, а ў 1920 годзе пайшоў у Народную школу, дзе скончыў 7 класаў. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі малады беларус заняўся звыклай

сялянскай працай. У лістападзе 1934 года Веньяміна прызывалі ў Войска Польскае, ён праходзіў службу ў 32-м пяхотным палку, які дыслакаваўся ў Крэпасці Модлін.

У 1930-я гады польскія вайскоўцы тэставалі ў Модліне новыя, на той момант, тэхналогіі арганізацыі крапасной абароны. Тут мантаваліся жалезабетонныя ДАКі з металічнымі купаламі і новая зброя. У 1936 годзе, улічваючы магчымасць баявых дзеянняў з Германіяй, польскае камандаванне зрабіла акцэнт на павелічэнні колькасці супрацьтанкавай артылерыі на заходнім і паўночным участках абароны Модлінскай крэпасці. Што ж тычылася 32-га палку, то варта пазначыць, што падчас польска-бальшавіцкай вайны 1920 года гэтая вайсковая адзінка ўваходзіла ў склад літоўска-беларускай дывізіі польскай арміі і прымала ўдзел у баявых дзеяннях ва Украіне і Беларусі. У 1930-я гады ў складзе палку служыла шмат заходніх беларусаў.

У верасні 1936 года Веньямін Тоўсцік дэмабілізаваўся і вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Аднак звычайная сялянская праца не давала магчымасці зарабіць дастаткова грошаў для набыцця ўласнай зямлі і пабудовы добрай гаспадаркі. Таму ў 1938 годзе селянін з Віцебшчыны вырашыў паехаць на працу ў Эстонію. Улады гэтай краіны з вялікай радасцю прымалі сельскагаспадарчых працоўных з ІІ Рэчы Паспалітай. Пры гэтым працаўладкаванне адбывалася на падставе спецыяльных дакументаў — Дамоваў аб працы, заключаных у Эстонскай сельскагаспадарчай палаце ў Таліне.

26 сакавіка 1938 года такую дамову падпісаў і беларус Веньямін Тоўсцік. Працаваць у Эстоніі ён мог на працягу года. У дакуменце, у прыватнасці, адзначалася, што час працы рэгулюецца эстонскім заканадаўствам і не можа быць большым, чым для мясцовых працоўных.

«*У нядзелю і падчас святаў працоўны абавязаны выконваць толькі неабходныя работы па дому і кармленню жывёлы і вызваляецца ад неабходнасці выканання іншых сельскагаспадарчых прац. Калі з заробку наёмнага працоўнага вылічалася нейкая сума, то працадаўца павінен у зарплатным рахунку падрабязна пазначыць, чаму адбыліся гэтыя вылічэнні*», — падкрэслівалася ў дамове.

Што ж тычыцца заробку, то польскі сельскагаспадарчы працоўны ў Эстоніі ў перыяд з 15 лістапада 1938 года па 15 красавіка 1939 года атрымліваў не менш за 17 эстонскіх крон (каля 24 польскіх злотых) у месяц. Працадаўца меў права павышаць заробак, але плаціць менш за 14 крон не дазвалялася. Пры гэтым заробленыя грошы не абкладаліся падаткамі. Таксама Эстонская сельскагаспадарчая палата гарантавала, што працадаўца забяспечвае сваіх працоўных «*цёплым жыллём (асобным для мужчын і жанчын) і добрым харчаваннем*». Пры гэтым жыллёвыя ўмовы павінны былі быць не горшымі, чым для эстонскіх грамадзян.

Эстонскі бок гарантаваў, што гастарбайтэры атрымаюць 10 эстонскіх крон на пакрыццё коштаў падарожжа дадому. Таксама працадаўца купляў польскаму працоўнаму зваротны білет у выпадку хваробы апошняга ці няшчаснага выпадку, з-за якога працоўны стаў інвалідам. Дарэчы, у выпадку захворвання грамадзяніна Польшчы, які знаходзіўся на працы ў Эстоніі, лячылі ў мясцовых шпіталях за кошт працадаўцы. Усе спрэчкі паміж польскімі грамадзянамі і іх мясцовымі працадаўцамі вырашаліся ў эстонскіх судах з абавязковым удзелам прадстаўнікоў Амбасады Польшчы ў Таліне, а таксама супрацоўнікаў Эстонскай сельскагаспадарчай палаты.

Скончыўшы працу ўвесну 1939 года, Веньямін Тоўсцік вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Праз некалькі месяцаў, у жніўні 1939-га, яго мабілізавалі ў Войска Польскае і накіравалі зноў у Модлінскую крэпасць. З 14 па 29 верасня 1939 года гэтая цытадэль мужна змагалася з наступаючымі часткамі вермахта. Камандаваў умацаваным лагерам «Модлін» генерал Віктар Томі. У склад гарнізона ўваходзіла каля 20 тысяч жаўнераў Войска Польскага, каля 96 гармат, 7 танкетак ТК–3. 16 верасня 1939 года на польскую крэпасць распачала наступленне 228-я пяхотная дывізія вермахта.

Веньямін Тоўсцік удзельнічаў у некалькіх штыкавых атаках. Цытадэль падвяргалася жорсткай бамбардзіроўцы нямецкай авіяцыі. З кожным днём сітуацыя для польскіх абаронцаў пагаршалася. 29 верасня 1939 года камандаванне крэпасці вырашыла капітуляваць. Сярод іншых абаронцаў Модліна ў палон трапіў і Веньямін Тоўсцік. Беларусаў

немцы адпускалі і дазвалялі вярнуцца дадому. А дом ужо знаходзіўся ў іншай краіне. Заходняя Беларусь была далучаная да СССР.

Ужо ў кастрычніку 1939 года былы польскі пяхотнік уладкаваўся на працу ў Райкантору сувязі ў Плісе на пасаду «райарганізатара» «Саюздруку». У 1941 годзе здольнага супрацоўніка накіравалі на Рэспубліканскія курсы павышэння кваліфікацыі ў Стоўбцы. Але хутка зноў пачалася вайна.

Падчас нямецкай акупацыі Веньямін Тоўсцік працаваў памочнікам сакратара Пліскай валасной управы і займаўся звычайнай папяровай працай. У паліцыю не ўступаў, у карных акцыях не ўдзельнічаў. Пасля вызвалення гэтай тэрыторыі ад фашысцкіх захопнікаў беларус ізноў заняўся распаўсюджваннем савецкіх газет. Але ўжо ўвосень 1944 года ў дом служачага прыйшлі супрацоўнікі НКУС.

Вось вытрымка з пратаколуператрусу, праведзенага асабіста начальнікам Пліскага Раённага аддзелу НКДБ лейтэнантам дзяржбяспекі Навасадавым: «*У грамадзяніна Тоўсціка В. А., якога абвінавачваюць у супрацы з акупантам, канфіскаваныя:*

*Залаты гадзіннік наручны — 1;*

*Залатая манета царскай чаканкі ў 5 рублёў — 1;*

*Два залатых кальца;*

*Срэбныя нажы, лыжкі, відэльцы*».

Праз некаторы час пасляператрусу Веньяміна Аляксандравіча арыштавалі. Яму ўспомнілі працу ў акупацыйнай адміністрацыі і, абвінаваціўшы па 65-м артыкуле («Дапамаганне») Крымінальнага кодэксу БССР, прысудзілі да 10 гадоў лагераў. Пры гэтым уся яго маёмасць была рэквізаваная. У Акце ад 20 верасня 1945 года, складзеным у адпаведнасці з прысудам Вайсковага трыбунала, пазначалася: «*Складзены акт вопісу і ацэнка кошту маёмасці асуджанага Веньяміна Аляксандравіча Тоўсціка.*

*Дом новы двухпакаёвы (адзін) — кошт 15 000 рублёў;*

*Аўца (адна) — 500 рублёў;*

*Парася (адно) — 600 рублёў;*

*Шафа (адна) — 2000 рублёў;*

*Касцюм мужчынскі (два) — 2000 рублёў;*

*Дываны (тры) — 350 рублёў;*
*Швейная машына (адна) — 5000 рублёў;*
*Паліто мужчынскае (адно) — 2000 рублёў;*
*Гадзіннік настольны (адзін) — 200 рублёў».*

Са жніўня 1945 па май 1953 года Веньямін Тоўсцік знаходзіўся ў адным з лагераў у Нарыльску і працаваў тэхнікам канторы «Спецбуд». Пасля берыеўскай амністыі беларусу дазволілі вярнуцца на радзіму ў Плісу. Пазней ён працаваў на розных мясцовых прадпрыемствах.

Ужо пасля смерці Веньяміна Тоўсціка ў 1990-х гадах яго блізкія спрабавалі атрымаць кампенсацыю за рэквізаваныя сямейныя каштоўнасці, аднак беспаспяхова.

## Вялікія камбінатары Заходняй Беларусі

Адноўленая ў 1918 годзе польская дзяржава сутыкнулася з вялізнымі праблемамі ў фінансавай сферы. Яшчэ падчас нямецкай акупацыі Польшчы на яе тэрыторыі была створана Польская краёвая крэдытная каса, якая выпускала так званыя «польскія маркі». Гэтыя грошы сталі першым плацежным сродкам у незалежнай Польшчы.

Аднак інфляцыя літаральна штодня абясцэньвала польскую марку. Калі ў 1919 годзе за 1 паўночна-амерыканскі долар давалі 9 марак, то праз год — ужо 110, праз два — 3000, а ў 1924-м — каля 6,5 мільёна марак. Інфляцыя знішчала капіталы банкаў і прыватных асоб. Зрэшты, гэтая сітуацыя спраўакавала з'яўленне вялікай колькасці банкаў-аднадзёнак, якія ў асноўным зараблялі валютнымі спекуляцыямі.

Адным з такіх банкаў-фантомаў быў Віленскі сельскагаспадарча-прамысловы банк, які меў філіялы ў Гродна, Глыбокім, Даўгінаве, Свянцянах і Дзісне. У снежні 1925 года партнёрам гэтай крэдытна-фінансавай установы стала латвійская фінансавая група. Аднак праз год кіраўніцтва банка заявіла аб банкруцтве. Значны ўплыў на гэта аказала ўвядзенне ў 1924 годзе новай польскай валюты — злотага,

што прывяло да стабілізацыі фінансавага рынку. У дзейнасці банка не абышлося і без афёр. Яго кіраўніцтва абвінавацілі ў махінацыях з вэксалямі, з-за якіх пацярпелі такія гіганты, як Банк польскі і Банк краёвай гаспадаркі.

У сакавіку 1926 года былі арыштаваныя супрацоўнікі віленскага аддзела Гандлёвага банка. Следства паказала, што яны праводзілі банкаўскія аперацыі па «шэрых схемах». Страты банка склалі больш за 50 тысяч злотых. На гэтыя сродкі былыя банкіры паспелі набыць нерухомасць і аўтамабілі.

У 1933 годзе Заходнюю Беларусь абляцела навіна пра самагубства Станіслава Рушкевіча, дырэктара віленскага філіяла банка, які курыраваў сферу вытворчасці цукру. Да гэтага ўчынку дырэктара падштурхнуў страх пакарання за махінацыі. Пасля праведзенай рэвізіі на складах была выяўлена адсутнасць 300 мяшкоў цукру агульным коштам 20 тысяч злотых. Аказалася, што Рушкевіч іх прадаў, а прыбытак паклаў у кішэню.

У сакавіку 1935 года ў Вілейку прыехала група прадпрымальных людзей. Неўзабаве яны стварылі «Крэдытную касу», якую пазіцыянавалі як фірму з паспяховай гісторыяй. Дзейнасць «касы» працягвалася ўсяго некалькі месяцаў, аднак за гэты час яе ахвярамі сталі мноства фірмаў.

Найбольш вядомай банкаўскай афёрай у Заходняй Беларусі была падробка ашчадных кніжак банка РКО (Паштовай ашчаднай касы). Аддзяленні гэтай крэдытна-фінансавай установы былі ў Вільні, Ашмянах і Свянцянах. Усплёск злачынстваў, звязаных са спробай атрымання грошай па падробленых ашчадкніжках, прыйшоўся на 1932–1934 гады. Аферысты альбо падраблялі сам бланк дакумента, альбо дапісвалі пару нулёў да сумы, указанай у кніжцы.

У 1933 годзе ў Вільні паліцыяй быў арыштаваны Марцін Невяроўскі, у якога была выяўлена вялікая колькасць ашчадкніжак, адчыненых у Ашмянах на падстаўных асоб. Аферыст падрабляў сумы ашчаджэнняў і подпісы ўладальнікаў і такім чынам атрымліваў грошы ў касах. Больш таго, у падробцы банкаўскіх дакументаў былі абвінавачаны двое яго сыноў і дачка.

У маі 1931 года ў Лідзе была арыштавана банда мудрагелістых фальшываманетчыкаў на чале са Шломам Тэненбаўмам. Ён у свой час усталяваў кантакт з супрацоўнікамі хімічнай лабараторыі ў Роўна, дзякуючы чаму наладзіў працэс «гальванізацыі» залатых царскіх чырвонцаў, які заключаўся ў «вымыванні» з манет золата і памяншэнні іх вагі на 10–15 %. Варта адзначыць, што залатыя чырвонцы з выявай апошняга рускага цара Мікалая II былі канверсоўнай валютай у Польшчы і служылі адным з галоўных сродкаў захавання і назапашвання капіталаў.

Апрацаваныя чырвонцы знешне нічым не адрозніваліся ад арыгінальных. На атрыманыя з продажу залатых дзясятак грошы аферысты куплялі новыя манеты і адпраўлялі іх у Роўна. Паводле падлікаў паліцыі, злачынцы здолелі перапрацаваць каля 20 тысяч залатых пяці- і дзесяцірублёвак.

Выйшлі на след ашуканцаў польскія служыцелі парадку выпадкова. Адзін з лідскіх стаматолагаў, які набыў чырвонцы, вызначыў, што манеты важаць менш, чым патрэбна, і выклікаў паліцыю. Следства паказала, што ў выніку дзейнасці банды Тэненбаўма пацярпелі не толькі прыватныя асобы, але і шэраг банкаў.

У 1937 годзе на тэрыторыі Навагрудскага ваяводства была арыштавана банда, якая зарабляла на вырабе фальшывых сярэбраных манет наміналам у 10 злотых. У якасці зыходнага матэрыялу фальшываманетчыкі выкарыстоўвалі царскія сярэбраныя рублі.

Было шмат афёр і ў сферы іпатэчнага крэдытавання. У верасні 1931 года ў камунальную ашчадную касу Вільні звярнуўся чалавек з просьбай аб выдачы пазыкі на будаўніцтва дома. У якасці закладу ён прапанаваў сваю кватэру, прадставіўшы на яе дакументы. Пасля падпісання гарантыйных вэксаляў ён атрымаў 5 тысяч долараў (паўночна-амерыканская валюта і тады была ў пашане). А неўзабаве аказалася, што крэдыт па падробленых дакументах аформіў аферыст, беларус па нацыянальнасці, Станіслаў Валейша. За ім цягнуўся шлейф падобных злачынстваў яшчэ з царскіх часоў. Аднак на гэты раз Валейша быў арыштаваны і ў 1932 годзе асуджаны польскім судом да 5 гадоў турэмнага зняволення.

Сустракаліся, аднак, і высакародныя аферысты. У кастрычніку 1933 года жыхар Заходняй Беларусі Якаў Грылін збіраўся эміграваць у ЗША. Дзеля гэтага ён пазнаёміўся з чалавекам, які абяцаў дапамагчы з выездам за мяжу. За арганізацыю ад'езду Грылін заплаціў 100 долараў. Аднак неўзабаве пасярэднік знік. Зрэшты, праз некалькі тыдняў Якаў атрымаў ліст з Палесціны, у якім аферыст, які ўзяў у яго салідную суму, прасіў прабачэння і абяцаў пераслаць праз польскі банк РКО ўзятыя грошы разам з працэнтамі. І сапраўды, хутка Грылін атрымаў з Тэль-Авіву свае грошы. Але такія выпадкі былі, хутчэй, выключэннем.

У 1936 годзе ў Вільні з'явіўся чалавек, які выдаваў сябе за капітана англійскага войска Ласмана. Капітан нібыта шукаў добраахвотнікаў для адпраўкі на Грамадзянскую вайну ў Іспанію. За паслугі ён браў камісійныя. Ласманам зацікавілася польская паліцыя. У выніку следства высветлілася, што за англійскага падданага выдаваў сябе ўраджэнец Заходняй Беларусі па прозвішчы Бернюкевіч. Ён у дасканаласці валодаў 13 замежнымі мовамі, што ў свой час дапамагло яму адкрыць школу замежных моў. Аднак пасля атрымання грошай за вучобу, ён збег і займаўся падобнымі злачынствамі ў іншых польскіх гарадах.

*«Калі ў краіне курсуюць грашовыя знакі, значыць, ёсць людзі, у якіх іх вельмі шмат»*, — так, мабыць, разважаў не толькі Астап Бэндэр, але і шматлікія аматары лёгкіх грошай з Заходняй Беларусі. Але Другая сусветная вайна, якая пачалася ў верасні 1939-га, змяніла ўклад жыцця, які склаўся за мірнае дваццацігоддзе. На змену «панскай Польшчы» прыйшла «рабоча-сялянская савецкая ўлада», якая ўстанавіла свае правілы гульні на фінансавым рынку. Так сышла ў мінулае эра «вялікіх камбінатараў» з Заходняй Беларусі.

## Заходнебеларуская мафія

Вільня была адным з найбольш небяспечных крыміпагенных месцаў II Рэчы Паспалітай. У 1920–1930-я гады злачынцы са старажытнай сталіцы былога ВКЛ прыму-

шалі літаральна хадзіць на вушах польскую дзяржаўную паліцыю.

Пачыналася гісторыя заходнебеларускай мафіі яшчэ ў Расійскай імперыі, калі ў студзені 1911 года два сябра Сашка Ліхтштэйн і Арон Войцік стварылі арганізацыю, кшталту прафсаюза злачынцаў. Планавалася, што гэтая структура будзе дапамагаць сябрам груповак у цяжкіх сітуацыях. Але ўжо ў 1913 годзе «Bruderferajn» (братэрскі саюз — ідыш), як называлася таямнічая арганізацыя, ператварылася ў моцную мафіёзную структуру, якая кантралявала дзейнасць злачынцаў не толькі ў Вільні, але і ў іншых гарадах і мястэчках Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі.

Грошы мафіёзі атрымлівалі не толькі з нападаў на крамы і рэстараны, але і з выкупаў за скрадзеных людзей. Дзеля дасягнення сваіх мэтаў віленскія злачынцы не спыняліся ні перад чым, выкарыстоўваючы не толькі агнястрэльную зброю, але і выбухоўку.

Пасля пачатку Першай сусветнай вайны з Вільні пачалі з'язджаць багатыя прадпрымальнікі. Ад аднаго з іх злачынцы пачалі вымагаць тры тысячы залатых рублёў. Такім, па іх меркаванні, быў кошт магчымасці выехаць далей ад фронту. Але прадпрымальнік не пажадаў плаціць і заявіў у паліцыю. Праца органаў расійскага правапарадку ў гэты час была паралізаваная. Затрымаць злачынцаў не ўдалося. Але тыя замініравалі дом прадпрымальніка, які не жадаў плаціць, і ўзарвалі яго. Бізнэсовец і яго сын былі цяжка параненыя. Убачыўшы гэта, іншыя заможныя жыхары Вільні не спрачаліся з «Bruderferajn» і плацілі столькі, колькі ад іх патрабавала віленская мафія.

З 1915 па 1918 гады Вільня знаходзілася пад нямецкай акупацыяй. Пазней улада ў горадзе змянялася некалькі разоў, пакуль у 1922 годзе старажытная сталіца ВКЛ не ўвайшла ў склад II Рэчы Паспалітай. У 1925 годзе было створана Віленскае ваяводства. Увесь гэты час мафіёзі з Вільні займаліся звыклай для іх дзейнасцю. У гэты момант у «Bruderferajn» уваходзіла каля 1000 злачынцаў з усёй Заходняй Беларусі. Менавіта ў гэты час у польскі крымінальны лексікон з рускай мовы перайшлі паняцці «блатны» і «злодзей у законе», якіх

да гэтага ў Еўропе не было. Польскія каранаваныя злодзеі, хоць і жылі ўжо ў іншай дзяржаве, працягвалі карыстацца паняццямі, распаўсюджанымі ў Расійскай імперыі. Адзінай адметнасцю было тое, што, у адрозненні ад калег з усходу, польскія злодзеі маглі працаваць і мець свой бізнэс.

Хутка была створана канцылярыя «Bruderferajn», якую ўзначальваў усё той жа Сашка Ліхтштэйн, які зараз карыстаўся псеўданімам Хана Бобкес. У распараджэнні віленскіх мафіёзі была падрабязная картатэка ўсіх багатых прадпрымальнікаў ваяводства, вяліся бухгалтарскія кнігі. Грашовыя сродкі трымаліся ў спецыяльным сейфе. У «абшчак» ішлі не толькі грошы ад выкупаў, але і працэнт ад кожнага ўдалага злачынства. Гаворка ішла пра фантастычныя сумы.

З гэтых сродкаў у выпадку арышту чальцоў груповак іх сем'ям выплачвалася грашовая дапамога. Акрамя гэтага, з «абшчака» браліся грошы на хабары для паліцыі і прадстаўнікоў юстыцыі, а таксама падтрымліваліся вязні ў турмах.

У сярэдзіне 1920-х гадоў адмысловы мафіёзны суд, які дзейнічаў у нетрах «Bruderferajn», прысудзіў да смерці аднаго са злодзеяў, якога звалі Элька Гурвіч. Элька адмовіўся гуляць па правілах і за гэта быў забіты. Паплечнікі забітага вырашылі адпомсціць віленскай мафіі і злілі інфармацыю пра яе супрацоўнікам дзяржаўнай паліцыі.

У ананімных лістах, дасланых у органы правапарадку, апісвалася структура злачыннай арганізацыі, а галоўнае — яе планы. Хутка ўсё кіраўніцтва «Bruderferajn» было арыштавана. У 1924 годзе адбыўся суд, аднак Сашка Ліхтштэйн і Арон Войцік атрымалі ўсяго па некалькі гадоў зняволення. У ход пайшоў прыхаваны «абшчак», на грошы з якога ўдалося наняць добрых адвакатаў.

Выйшаўшы на волю ў пачатку 1930-х гадоў, Сашка Ліхтштэйн і Арон Войцік пачалі помсціць тым, хто іх здаў паліцыі.

У лютым 1932 года на чале новай банды «Залаты штандар», якая з'явілася на руінах «Bruderferajn», стаў выхадзец з Валожына Зеліг Левінсан. Злачынцы ажыццяўлялі напады на польскія банкі, Касы Стэфчыка, паштовыя вагоны польскай чыгункі на тэрыторыі ўсёй Заходняй Беларусі.

Нарэшце, «Залаты штандар» выкраў 8-гадовага сына аднаго з найбольш багатых жыхароў Вільні, уласніка ламбарду «Крэсовія» па прозвішчы Лейбовіч. Зеліг Левінсан запатрабаваў за жыццё хлопца 14 тысяч злотых. Гэта была вельмі значная сума, але бацька скрадзенага сабраў грошы. Навіна пра кіднэпінг паставіла на вушы ўсю Польшчу. Паліцыя працавала і днём і ноччу. І тут зноў важную ролю згуляла канкурэнцыя сярод злачынцаў. Паліцыя атрымала ананімны ліст, у якім пазначалася, хто адказвае за кіднэпінг. Хутка групоўка была разбітая, а яе чальцы арыштаваныя.

Ужо падчас следства высветліліся вельмі цікавыя падрабязнасці. Аказалася, што ідэю скрасці сына багатага бізнэсоўца падкінуў Бэрэк Кравец, што прыехаў са Злучаных Штатаў. У свой час Бэрэк быў членам «Bruderferajn». Пазней эміграваў у Чыкага і хутка ўступіў у мафію знакамітага Аль Капонэ. Легенда амерыканскіх гангстэраў адразу разгледзеў у маладым чалавеку, які прыехаў з Заходняй Беларусі, сапраўднага генія, здольнага да распрацоўкі вельмі ўдалых злачынных схем.

Калі паліцыя ЗША трапіла на след банды Аль Капонэ, Кравец вырашыў вярнуцца ў Вільню. Досвед, атрыманы за акіянам, злачынца паспрабаваў прымяніць дома. Аднак банда, якую кансультаваў «амерыканец», была разбітая, а самога эмігранта абвясцілі ў вышук. Спачатку Кравец хаваўся ў вёсцы пад Пінскам, пазней перабраўся ў Заходнюю Украіну. Там ён пераапрануўся ў парадны мундзір ротмістра 12-га палка падольскіх уланаў Войска Польскага і такім чынам ураташаваўся падчас праверкі дакументаў.

Супрацоўнікі дзяржаўнай паліцыі пастаянна рабілі аблавы і дзяжурылі ў партах і на чыгуначных вакзалах. Пра Бэрэка Краўца быў праінфармаваны Корпус аховы памежжа і «Страж памежны». У Роўна «амерыканец» пераапрануўся ў рамізніка і спакойна ездзіў на двухколцы, нягледзячы на тое, што паліцыя правярала дакументы амаль у кожнага мужчыны на вуліцы.

Кравец разумеў, што яму трэба хутчэй пакінуць тэрыторыю Польшчы. У Крамянцы госць з ЗША апрануўся

ў скрадзены мундзір старшага патрэрунковага дзяржаўнай паліцыі і нават удзельнічаў у аблаве на самога сябе.

Нарэшце ў Станіслававе паліцыя атрымала інфармацыю пра тое, у якім раёне знаходзіцца злачынца, і блакіравала ўсе выхады з яго. Але і гэта не дапамагло. Кравец схаваўся ў адной з трунаў, якія перавозілі са сталярнай майстэрні, і праехаў незаўважаны праз паліцэйскае ачапленне. Праз Карпаты гангстэр перабраўся ў Румынію, а адтуль у ЗША. На гэтым сляды Берэка Краўца губляюцца.

Другая сусветная вайна перакроіла мапу Еўропы і змяніла лёсы яе жыхароў. Шмат з былых польскіх злачынцаў змагаліся супраць нацыстаў у партызанскіх атрадах. Іншыя, як, напрыклад, Зеліг Левінсан, сталі ахвярамі Халакосту. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, шмат з польскіх злачынцаў былі пераведзены з былых польскіх турмаў у распараджэнне Мінскага НКУС і ўтрымліваліся ў Валадарцы. У рускай блатной іерархіі нават з'явілася катэгорыя «польскі здодзей», але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

## «Боні і Клайд» з «крэсаў»

Адным з наступстваў польска-бальшавіцкай вайны быў разгул злачыннасці на тэрыторыі ІІ Рэчы Паспалітай. Новая польская ўлада на пачатку свайго станаўлення не была ў стане эфектыўна змагацца з крыміналам. Адным з неспакойных рэгіёнаў доўгі час заставалася Заходняя Беларусь, эканамічна слаба развітая і спустошаная войнамі. Нарэшце, тут актыўна дзейнічалі савецкія агенты, галоўнай задачай якіх было «стварэнне рэвалюцыйнай сітуацыі» ў гэтым краі лясоў і балот.

Гэтай блытанінай актыўна карысталіся «ліхія людзі», сярод якіх асаблівае месца займае крымінальны дуэт Станіслава Збаінскага і Яніны Шымковіч. На працягу 1919–1924 гадоў яны здзейснілі 51 забойства. Агульная ж колькасць іх злачынстваў да сённяшняга дня не падлічана.

Падчас Першай сусветнай вайны варшавянін Збаінскі працаваў краўцом. У 1918 годзе ён быў прызваны ў Войска

Польскае і накіраваны на службу ў авіяцыйны полк, расквараваны ў Вільні. Там ён і пазнаёміўся з маладой і прывабнай жанчынай Янінай, якая ўжо была замужам за адным з мясцовых крымінальных аўтарытэтаў.

Для таго, каб заваяваць красуню, Станіслаў падробліваў прадуктовыя карткі і атрымліваў на вайсковым складзе для яе прадукты. Зрэшты, хутка палявая жандармерыя выйшла на след махляра, і Збаінскі вымушаны быў дэзерціраваць. Грошы, атрыманыя ад продажу харчавання і адзення, скончыліся вельмі хутка, што прымусіла былога краўца перакваліфікавацца ў злодзея-кішэнніка і канакрада. Але Яніне гэтага было мала, і яна прымусіла палюбоўніка здзейсніць забойства яе мужа. Наступнай іх ахвярай стаў брат Яніны, які шантажаваў дзяўчыну, што калі тая не расстанецца са Станіславам, ён паведаміць у паліцыю. Мужчыну забілі ў Гродне, у яго ўласнай кватэры.

Адчуўшы смак крыві, злачынцы ўжо не маглі спыніцца. У тым жа горадзе на Нёмане Яніна Шымковіч спакусіла маладога падхарунжага. Падчас адной з сяброўскіх папоек, у якой удзельнічаў і «брат» Яніны (так прадставіўся Станіслаў Збаінскі), афіцэра забілі ўдарам нажа ў сэрца. Кажучы мовай пратаколу, забойства было здзейснена з мэтай завалодання дакументамі і ўніформай вайсковага.

Пасля гэтага яны вярнуліся ў Вільню, дзе пераапрануты «харунжы», уціраючыся ў давер да мясцовых абывацеляў, здзейсніў шэраг дзёрзкіх рабаванняў. Зрэшты, жандары ўсё ж выйшлі на след злачынцаў і арыштавалі Збаінскага. Але яго выратавала савецкая ўлада.

Неўзабаве ў Вільню ўвайшла Чырвоная Армія, і вязняў польскай турмы выпусцілі на волю. Былы кравец і прафесійны злачынец пайшоў да бальшавіцкага каменданта і, прадставіўшыся прыдуманым імем Ілля Гетманаў, уладкаваўся на працу ў палкавую вайсковую канцылярыю. Тут Станіслаў надоўга не затрымаўся. Выкраўшы бланкі чырвонаармейскіх кніжак, ён выгадна іх прадаў і сышоў у падполле.

Пасля таго, як у 1920 годзе ў Вільню ўвайшлі часткі Войска Польскага, жандармерыя зладзіла сапраўднае паляванне на Збаінскага і яго саўдзельніцу. Яніна ўгаварыла

Станіслава забіць гаспадыню «маліны», у якой абодва хаваліся. Зрабіўшы гэта і прадаўшы нарабаванае, забойцы накіраваліся ў Варшаву.

У Варшаве на вуліцы Хмельнай Станіслаў адкрыў атэлье, дзе шылі адзенне. Яму ўдалося займець дакументы на прозвішча Карасінскі. Аднак папрацаваць па спецыяльнасці не атрымалася. Ён захварэў жаўтухай і апынуўся на бальнічным ложку.

У гэты ж час Яніна займалася дробнымі крадзяжамі. Хутка яна пазнаёмілася з багатым гандляром з Познані, які любіў смеціць доларамі і злотымі ў дарагіх варшаўскіх рэстаранах. Прыгажосць і абаяльнасць Шымковіч зрабілі сваю справу: бізнэсмэн страціў галаву і закахаўся без памяці ў небяспечную красуню.

Пасля таго, як Збаінскі падлячыўся, Яніна прадставіла яго свайму новаму багатаму знаёмаму як «брата» і прапанавала сумесную паездку да стрыечнай сястры ў Сахачаў. У гэты раз забойцы вырашылі сябе падстрахаваць. Адчуўшы, што ім не справіцца з бізнэсмэнам, яны пачаставалі яго шакаладам са снатворным. Калі ахвяра заснула, Станіслаў ударыў мужчыну нажом у сэрца. Раздзеўшы няшчаснага і забраўшы ўсе яго каштоўныя рэчы, парачка збегла з месца злачынства. Па дакументах ахвяры супрацоўнікі Дзяржаўнай паліцыі II Рэчы Паспалітай хутка ўстанавілі асобу забітага і неўзабаве выйшлі на след Яніны.

Адчуваючы, што па іх слядах ідуць сышчыкі, Збаінскі і Шымковіч з'ехалі ў Гродна, а адтуль — у Брэст. Па дарозе ў горад на Бугу пара пазнаёмілася з маладой настаўніцай, якая ехала купляць літаратуру для школы. Пасля на судзе Яніна прызналася, што ёй вельмі спадабаліся завушніцы і каралі, якія былі на дзяўчыне. Забойцы прапанавалі ахвяры выйсці раней і спыніцца ў маёнтку, якім нібыта валодаў Станіслаў. У лесе яны застрэлілі жанчыну і забралі ўсё, што было каштоўнае, пасля чаго адправіліся да аднаго са сваякоў Яніны, які жыў у Драгічыне.

Выкрадзеныя ў гандляра з Познані долары дазволілі парачцы выдаваць сябе за былых працоўных мігрантаў, якія вярнуліся з ЗША. Маўляў, зарабілі грошай за акіянам і пры-

ехалі ў Заходнюю Беларусь, каб абзавесціся зямлёй, гаспадаркай, увогуле, жыць, як паны.

Стрыечны брат Яніны параіў звярнуцца да сваякоў яго жонкі, якія маглі паспрыяць у куплі зямлі. Па дарозе бандыты забілі гаспадара брычкі, у якой ехалі. Пасля гэтага прадалі фурманку. У злачынцаў хапіла нахабства прыехаць у дом забітага фурмана. Не знайшоўшы там грошай і каштоўнасцяў, яны сілком павезлі з сабой у Гродна дачку забітага. У адным з гатэляў горада на Нёмане Станіслаў паспрабаваў згвалціць дзяўчыну, але той удалося збегчы і паведаміць пра ўсё ў паліцыю.

Па гарачых слядах паліцэйскія схапілі Станіслава Збаінскага, але той настолькі праўдападобна імітаваў засмучэнне розуму, што паліцыянтам нічога не заставалася, як накіраваць бандыта ў псіхіятрычную лякарню, адкуль той хутка збег пры дапамозе Яніны. Апынуўшыся на волі, Станіслаў высачыў дзяўчыну, якая яго выдала, і застрэліў яе. Такім чынам, ён расправіўся з адным з ключавых сведак па сваёй справе.

Пасля гэтага парачка вандравала па заходнебеларускіх вёсках і мястэчках і высочвала тых, хто вярнуўся з эміграцыі, выйграў у латарэю, атрымаў багатую спадчыну. Акрамя гэтага, яны прабаўляліся крадзяжамі ў цягніках на лініях Брэст-Львоў, Львоў-Познань, Познань-Баранавічы. Неўзабаве злачынцы зноў прыехалі ў Варшаву і сталі рабаваць людзей, якія прыходзілі на могілкі ў Павонзках. Ахвяраў нападаў злачынцы забівалі, а іх целы хавалі ў фамільным склепе. Некалькі жанчын Станіслаў Збаінскі згвалціў і забіў.

Сярод тых, хто тады загінуў ад рук Збаінскага і Шымковіч, быў адзін з кіраўнікоў украінскага эміграцкага ўраду ў Польшчы гетман Данчанка. Яму не пашчасціла пазнаёміцца з князёўнай Варанцовай, за якую выдавала сябе Яніна. Менавіта яна і арганізавала забойства ўкраінца, цела якога схавалі ў адным са скляпоў.

Забойцы паставіла на вушы ўсю сталічную паліцыю. У Варшаве сталі пагаворваць аб серыйным маньяку. Гэтай справай заняліся лепшыя сышчыкі II Рэчы Паспалітай.

Каб зноў не патрапіць у рукі паліцыі, Збаінскі з'ехаў у Баранавічы, а Шымковіч — у Вільню. Але неўзабаве абодва

апынуліся ў руках правасуддзя. Хутчэй за ўсё, іх выдалі паліцыі члены віленскай мафіі.

Першапачаткова следчыя абвінавацілі арыштаваных у некалькіх злачынствах, аднак, неўзабаве ім удалося атрымаць прызнальныя паказанні ў тым, што Збаінскі і Шымковіч забілі... 51 чалавека. На працягу ўсяго 1925 года абодвух вазілі па гарадах Заходняй Беларусі і ладзілі вочныя стаўкі са сведкамі.

Суд, які адбыўся ў Ваўкавыску, прысудзіў 25-гадовага Станіслава Збаінскага і 22-гадовую Яніну Шымковіч да смяротнага пакарання. Прысуд Збаінскаму выканалі, а вось яго саўдзельніцы далі адтэрміноўку на выкананне прысуду. У красавіку 1927 года Шымковіч была памілаваная. Далейшы яе лёс невядомы.

## Мамзэлі і сутэнёры міжваеннай Польшчы

У 1930-я гады ў Варшаве працавала каля 25 тысяч прастытутак, сярод якіх было нямала жыхарак Заходняй Беларусі. Найбольш танных дзяўчат называлі «мамзелямі». Тых, хто паляваў на мужчын ля казарм, — «ваўчыцамі».

Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны сталіца ІІ Рэчы Паспалітай — Варшава — стала сапраўдным цэнтрам вольнага кахання. Гэта было вынікам таго, што ў горадзе на Вісле знаходзіўся вялікі гарнізон кайзераўскіх войскаў. Здымаць стрэс франтавых выпрабаванняў жаўнеры прызвычаіліся ў тылавых варшаўскіх бардэлях. Варшаўскія публічныя дамы размяшчаліся на вуліцах Пенкнай, Маршалкоўскай, Хмельнай, Жэлязнай.

Хутка ў гэты бізнэс прыйшлі новыя людзі, якія паставілі яго на паток.

Яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя яўрэйскія эмігранты з польскіх тэрыторый стварылі ў Аргенціне арганізацыю «Civ Migdal», праз якую ажыццяўлялі вываз на працу маладых дзяўчат яўрэйскай нацыянальнасці з тэрыторы

Расійскай імперыі, у тым ліку і з беларускіх губерняў. Тады ў публічных дамах Буэнас-Айрэса апынулася каля 30 тысяч жанчын «з Расіі». Актыўнасць сутэнёраў з Еўропы выклікала супраціў мясцовага крыміналітэту, аднак скінуць прышлых гандляроў прастытуткамі ў іх не атрымалася. Больш таго, з цягам часу «польскія» бізнэсмэны адкрылі свае бардэлі ў Рыа-дэ-Жанейра, Сан-Паўлу, Нью-Ёрку і іншых гарадах. Паводле падлікаў паліцыі, даход ад публічных дамоў прынёс «Civ Migdal» каля 50 мільёнаў тагачасных амерыканскіх долараў.

Пасля атрымання Польшчай незалежнасці бізнэсмэны працягвалі вывозіць маладых дзяўчат у «Новы свет». Яны бязлітасна распраўляліся з канкурэнтамі. Так, гаспадар аднаго з варшаўскіх публічных дамоў паспрабаваў наладзіць адпраўку жывога тавару ў бардэлі Мексікі. Дзяўчат ён атрымліваў пераважна з ваколіц Наваградку. Калі пра гэта даведаліся сутэнёры з Аргенціны, яны хутка злілі канкурэнта польскай крымінальнай паліцыі.

Зрэшты, у 1930 годзе правасуддзе дабралася і да «Civ Migdal». Інспектар федэральнай паліцыі Буэнас-Айрэса Хуліа Алсагарай накрыў усю вярхушку гэтай арганізацыі. У верасні таго ж года аргенцінскі суд прысудзіў 108 чалавек да вялікіх тэрмінаў зняволення.

На пачатку 1930 гадоў у адным з варшаўскіх гатэляў паліцэйскія арыштавалі грамадзяніна ЗША Маўрыцыя Баскіра. Прыператрусе ў яго нумары былі знойдзены дзясяткі лістоў ад жанчын, да якіх былі далучаны здымкі ў негліжэ. Брэст, Вільня, Львоў, Познань, Лодзь — па адрасах гэтых пасланняў можна было вывучаць геаграфію міжваеннай Польшчы.

Але не паспелі паліцэйскія завезці Баскіра ў следчы ізалятар, як на стале начальніка паліцыі ўжо ляжаў ліст ад віцэ-консула Злучаных Штатаў Гары Хола, у якім той патрабаваў вызваліць арыштаванага і пагражаў дыпламатычным скандалам. Аднак пракурор з Нясвіжу, адкуль паходзіў арыштаваны амерыканец, не толькі не спужаўся пагроз з боку дыпламата, але і запатрабаваў выдаць з консульства пашпарты трох жыхарак Навагрудскага ваяводства, якім Баскір дапамагаў аформіць візы для выезду ў ЗША.

Хутка на адным з допытаў арыштаваны прызнаўся, што ён афармляў фіктыўныя шлюбы з маладымі грамадзянкамі II Рэчы Паспалітай і вывозіў іх за акіян для працы ў публічных дамах. Паліцэйскім удалося выявіць, што амерыканец паспеў ажаніцца з 200 дзяўчатамі.

Праз некаторы час дзяржаўная паліцыя затрымала злачынцу, пры якім было некалькі пашпартоў з амерыканскімі візамі за подпісам консула Гары Хола. За ім усталявалі нагляд. Аказалася, што ў Польшчу той прыехаў у 1920 годзе з місіяй Чырвонага Крыжа, пазней працаваў консулам ЗША ў Рызе. Там ён пазнаёміўся з будучым кампаньёнам па крымінальным бізнэсе Маўрыцыем Баскірам.

З таго часу яны пачалі зарабляць адпраўкай дзяўчат у сэксуальнае рабства за акіян. Дарэчы, амерыканскі дыпламат падрабіў дакументы, дапамог падзельніку збегчы з польскай турмы і выехаць у Злучаныя Штаты. Пасля гэтага сам Хол таксама з'ехаў. Аднак польскія ўлады перадалі назбіраны супраць злачынцаў матэрыял амерыканскай паліцыі, і праз некаторы час абодва апынуліся ўжо ў амерыканскай турме.

Для барацьбы з прастытуцыяй у Варшаве была створана спецыяльная брыгада Следчага аддзялення Дзяржаўнай паліцыі. Узначальвала брыгаду лейтэнант Станіслава Палеалог.

Брыгадзе ўдалося знішчыць 19 публічных дамоў, арыштаваць 55 буйных сутэнёраў. Адным з іх быў гаспадар двух буйных варшаўскіх бардэляў Ізраіль Мосак. Спачатку ён ездзіў па розных мястэчках Заходняй Беларусі і шукаў дзяўчат «для працы ў сталіцы». Справы пайшлі ўгару, і ён стаў пастаўляць прастытутак у публічныя дамы Пінска і Навагрудка. Гэта яго і згубіла. Калі з гораду на Піне ў Варшаву прыехаў чарговы кур'ер за новым таварам, паліцыя арыштавала ўсіх на месцы злачынства.

Яшчэ адным буйным варшаўскім сутэнёрам быў Архіп Калашнікаў. Акрамя гандлю дзяўчатамі, ён падпрацоўваў вышыбалам у адным з бардэляў. Пасля таго, калі ён на кароткі час трапіў пад следства, яго дзяўчаты паспрабавалі вызваліцца з няволі. Адна нават выйшла замуж. Але калі

Архіп выйшаў з турмы, то жорстка збіў былую прастытутку, за што зноў на тры гады апынуўся ў за кратамі.

Працу польскіх бардэляў кантраляваў так званы «сутэнёрскі суд», на чале якога стаяў Іцэк Кіфер. Гэта быў вельмі багаты чалавек, якому належаў рэстаран і дарагая кватэра ў цэнтры Варшавы. Два яго сыны таксама займаліся сутэнёрствам. Прастытуткі мелі права звярнуцца са скаргай у гэты суд, які прымаў рашэнне пакараць сутэнёра, якому належала жанчына, ці перадаць прастытутку іншаму гаспадару. Да таго ж суд змагаўся супраць канкурэнтаў, якіх проста здавалі паліцыі. Усяго ў 1930-я гады ў Варшаве працавала каля 25 тысяч прастытутак, сярод якіх было нямала і ўраджэнак Заходняй Беларусі. Іх працу кантралявала сем тысяч сутэнёраў.

Большасць з прастытутак былі з бедных сямей, часта непісьменныя. Аднак былі і выключэнні. У 1936 годзе ў Варшаве за злачынства судзілі княжну Ірыну Трубяцкую, якая была... гаспадыняй аднаго з варшаўскіх бардэляў. У яе «доме цярпімасці» працавалі дзяўчыны з багатых польскіх сямей. Гэта былі тыя, каму было сумна, яны шукалі нечага новага, якіх-небудзь прыгод, хаця б сэксуальных. Урэшце элітны бардэль закрыла паліцыя, а руская графіня атрымала два гады турмы.

Звычайна кар'ера путаны пачыналася ў 16 гадоў, праз пяць-восем год яе выцяснялі больш маладыя. Пасля гэтага жанчыны або змянялі сферу дзейнасці, або іх прадавалі ў бардэлі на перыферыі.

Кошт гадзіны працы прастытуткі складаў каля 1,5 злотага (за гэтыя грошы можна было набыць пяць кілаграмаў селядца, тры кілаграмы цыбулі, кілаграм ялавічыны з косткай, або двойчы паабедаць у танным рэстаране). З гэтай сумы злоты ішоў сутэнёру, астатняе — жанчыне. Большая частка прастытутак хварэла на сіфіліс і іншыя венерычныя захворванні, шмат з іх скончалі жыццё самагубствам. Дапамагаць путанам спрабавалі розныя рэлігійныя і дабрачынныя арганізацыі, але сітуацыі гэта не змяніла.

У Варшаве існавала некалькі падпольных фотаатэлье, якія выраблялі порнапрадукцыю, якую распаўсюджваліся

па ўсёй тэрыторыі II Рэчы Паспалітай. Так, у 1936 годзе вучняў адной з гімназій Гродна схапілі ў той момант, калі тыя разглядалі фатаздымкі, прывезеныя са сталіцы, для канспірацыі ўклееныя ў афіцыйны маладзёвы часопіс. Дарэчы, гэтыя фатаздымкі сёння можна сустрэць на шматлікіх інтэрнэт-аўкцыёнах.

У верасні 1939 года НКУС і міліцыя, акрамя іншага, узяліся і за барацьбу з прастытуцыяй на далучаных тэрыторыях. Жанчыны лёгкіх паводзін падлягалі вывазу ў аддаленыя раёны Савецкага Саюза. Пасля 1945 года новыя камуністычныя ўлады Польшчы таксама ўзяліся за ліквідацыю прастытуцыі, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

## Кантрабанда

Праблема кантрабанды была і застаецца адной з найважнейшых у ахове знешніх межаў кожнай дзяржавы. II Рэч Паспалітая ў гэтым сэнсе не была выключэннем.

Восенню 1920 года паміж Савецкай Расіяй і Польшчай мяжы яшчэ не было. Службу па абароне дэмаркацыйнай лініі несла польская Дзяржаўная паліцыя. 3 верасня 1921 года кабінетам міністраў была выдадзена інструкцыя па ўстанаўленні кантролю на ўсходніх межах Польшчы (у тым ліку ў Навагрудскім і Палескім ваяводствах). На падставе гэтага дакумента ахову дзяржаўных межаў павінны былі ўзяць на сябе так званыя мытныя батальёны і падраздзяленні паліцыі. Іх галоўнай задачай быў кантроль за перамяшчэннем грамадзянскіх асоб, а таксама прадухіленне пераходу на польскі бок бальшавіцкіх агітатараў і дыверсантаў.

Меркавалася, што на адным кіламетры мяжы службу будуць несці 7 пешых і 2 конных паліцэйскіх, але людзей, да таго ж, з вопытам памежнай службы, было вельмі мала. Не хапала і мытных пастоў. У 1925 годзе па ўсім перыметры дзяржаўнай мяжы II Рэчы Паспалітай дзейнічала ўсяго 24 інспектарата і 100 камісарыятаў Мытнай аховы (каля 7 тысяч служачых). Усё гэта спрыяла росту памежных злачын-

стваў. Праз слаба абароненыя ўчасткі мяжы хадзілі дыверсанты, бандыты, кантрабандысты.

Цяжкая сітуацыя на ўсходняй мяжы прымусіла польскае кіраўніцтва змяніць сістэму яе аховы. З 1924 года абарону ўсходніх рубяжоў II Рэчы Паспалітай (з Літвой, Латвіяй, СССР, Германіяй (у раёне Сувалак), Румыніяй (на Днястры) ажыццяўляў Корпус аховы памежжа (КАП). У сваю чаргу, з 1928 года заходнія межы міжваеннай Польшчы (чэхаславацкі, нямецкі і ўсходнепрускі ўчастак мяжы) ахоўвала Памежная ахова (Straż Graniczna). Тэрыторыя II Рэчы Паспалітай была падзелена на тры зоны: памежную, унутраную і зону адказнасці КАП.

Як ішла барацьба з кантрабандыстамі? Па сваёй структуры банды «пшэмытнікаў» нагадвалі ланцужок, кожнае са звёнаў якой выконвала пэўную ролю. Шараговыя выканаўцы займаліся пераносам тавараў праз мяжу. Далей ішлі «аптавікі», якія трымалі на падпольных складах дэфіцытныя замежныя тавары. Дылеры, у сваю чаргу, займаліся распаўсюджваннем кантрабанды па крамах, рынках, кірмашах і рэстаранах. Верхавіну злачыннай піраміды складалі босы.

Са справаздач польскіх памежнікаў вынікала, што найбольш распаўсюджанымі кантрабанднымі таварамі на польска-літоўскай мяжы з'яўляліся тытунь, тытунёвыя вырабы, цукар, наркотыкі. На румынскай — вінаград, віно, гарэлка, на мяжы з СССР — тытунь, ікра, тытунёвыя вырабы. У сваю чаргу, памежная ахова II Рэчы Паспалітай паведамляла ў Варшаву, што з Германіі найбольш часта вывозяць футра, галантарэю, ровары, шоўк, сахарын, наркотыкі і касметыку, з Чэхаславакіі — карыцу, цукар, наркотыкі.

Польскія сілавыя структуры ішлі на ўсё, каб супрацьстаяць тым, хто «жыў з мяжы». Так, напярэдадні велікодных святаў у 1936 годзе ў Навагрудскім ваяводстве сілавікі рыхтаваліся да правядзення незвычайнай і складанай спецаперацыі. Зводны атрад польскай паліцыі, падатковай службы і прадстаўнікоў мясцовых органаў улады адправіўся ўглыб памежных лясоў, дзе мясцовае насельніцтва ладзіла тайнікі кантрабандных тавараў, а таксама «арганізоўвала вокны ў мяжы».

Выявіць гэтыя мядзведжыя куты было вельмі складана, бо практычна ўся тэрыторыя была забалочаная. Зрэшты, баяцца польскім чыноўнікам даводзілася не толькі прыроды, але і саміх, узброеных да зубоў, кантрабандыстаў. Аднак у 1936 годзе на Навагрудчыне да кровапраліцця не дайшло. Паліцыянты ціха блакавалі лагер мясцовых жыхароў і без адзінага стрэлу раззброілі іх. Здабычай улад сталі 29 першакласна абсталяваныя самагонныя апараты. Акрамя гэтага, у рукі падаткавікоў патрапілі 306 кг перцу і 39 кг карыцы.

Кантрабандай займаліся не толькі польскія, але і савецкія грамадзяне. Тут гаворка ідзе, перш за ўсё, пра сярэдзіну 1920-х гадоў, калі НЭП прывёў да парушэння адпаведнасці цэн на прамысловыя вырабы, тавары народнага спажывання з аднаго боку і прадукты сельскай гаспадаркі з другога. Любы тавар у дзяржаўных крамах на тэрыторыі БССР каштаваў вельмі дорага. Сітуацыю ратаваў камерцыйны гандаль (у тым ліку і кантрабанднымі таварамі). Для барацьбы з гэтымі праявамі ў траўні 1922 года на тэрыторыі савецкай Беларусі была створана Заходняя мытная акруга. У сакавіку 1923 года пачала працу Беларуская раённая камісія па барацьбе з кантрабандай. У перыяд са студзеня па кастрычнік 1923 года савецкім спецыяльным органам на тэрыторыі БССР удалося абясшкодзіць 3187 кантрабандыстаў і канфіскаваць тавараў на суму 445 тысяч залатых рублёў.

У 1924 годзе Польшча і Латвія таксама ўзмацнілі ахову сваіх межаў. А ў 1926 годзе Прэзідыум ЦВК СССР надаў асаблівай нарадзе пры АДПУ права пазасудовага вынясення прысуду, аж да расстрэлу, у адносінах да асоб, абвінавачаных у кантрабандзе. Усё гэта паўплывала на зніжэнне колькасці злачынстваў на савецка-польскай і савецка-латвійскай мяжы.

Усім вядома, што неафіцыйнай сталіцай кантрабандыстаў у Заходняй Беларусі быў Ракаў. Аднак у міжваеннай Польшчы кантрабандысты дзейнічалі практычна па ўсёй працягласці дзяржаўнай мяжы II Рэчы Паспалітай. Так, складаная сітуацыя была на мяжы з Усходняй Прусіяй. У пачатку 1930-х гадоў у раёне Млавы дзейнічала банда кантрабандыстаў пад кіраўніцтвам нейкага Кеслінга. Доўгі час яму

ўдавалася сыходзіць ад аблаў памежнікаў і паліцэйскіх. На след злачынцы ўладам удалося выйсці ў Варшаве, куды кантрабандыст збываў свой тавар. Падчас аперацыі па захопу Кеслінг быў паранены і неўзабаве затрыманы. Следству ўдалося ўсталяваць гіганцкія маштабы злачыннай дзейнасці млаўскіх бандытаў.

Часта для барацьбы з кантрабандыстамі польскія памежнікі і паліцыя вымушаныя былі карыстацца хітрасцю. У Чэнстахове, напрыклад, супрацоўнікі памежнай аховы, каб злавіць кантрабандыстаў, хаваліся ў бочках кузаве фургона, які ім жа і належаў.

Польскім уладам даводзілася змагацца з кантрабандыстамі і на воднай мяжы. Найбольш гучным быў выпадак затрымання ў 1936 годзе памежным караблём «Баторый» хуткаходнай маторнай лодкі, на якой спрабавалі нелегальна ўвезці ў Польшчу некалькі скрынь з пісталетамі.

Вялікую дапамогу ў пошуку кіраўнікоў банд кантрабандыстаў аказвалі польскія СМІ. Паліцыя, супрацоўнікі КАП і памежнай аховы адсочвалі публікацыі ў мясцовым друку (у тым ліку і ў заходнебеларускіх ваяводствах) і, перш за ўсё, свецкую хроніку. Гэта дапамагала высачыць тых, хто жыў «на шырокую нагу» і пры гэтым не з'яўляўся прадпрымальнікам або багатым землеўладальнікам.

Нарэшце, для барацьбы з сялянамі-кантрабандыстамі, а таксама самагоншчыкамі паліцыя, КАП і памежная ахова звярталіся па дапамогу платных інфарматараў, якімі часцей за ўсё былі сяляне. Гуляючы на пачуцці зайздрасці, якое мелі адны вясковыя жыхары да другіх, улады з лёгкасцю даведваліся пра месца размяшчэння схованак з кантрабандным таварам.

Не абыходзілася і без карупцыйных скандалаў. Гучны выпадак адбыўся ў Варшаве восенню 1932 года, калі пад арышт быў узяты інспектар памежнай аховы ўчастка ў Лешне Ян Седлецкі. Спецыяльныя органы зацікавіліся тым, што іх калега занадта часта выкарыстоўваў службовы тэлефон для званкоў на розныя варшаўскія нумары. Расследаванне паказала, што маёр з Лешна такім чынам выходзіў на сувязь з буйнымі сталічнымі кантрабандыстамі.

Пасля таго, як былі арыштаваныя змоўшчыкі, аказалася, што менавіта памежнік стаяў ля руля разгалінаванай сеткі кантрабандыстаў, якая займалася дастаўкай лекаў з Германіі. Інспектар аформіў злачынцам замежныя пашпарты і асабіста «даглядаў» іх машыну на ўездзе і выездзе з краіны.

Падобнае здарэнне мела месца і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, праўда, тут не абышлося без чэкістаў. У 1930 годзе савецкім памежнікам з Цімкавіцкага пагранатрада ўдалося справакаваць польскіх аптавікоў на буйную здзелку. Бальшавіцкі афіцэр пагранаховы змог дамовіцца з палякамі аб буйной угодзе. У выніку ў раёне мястэчка Морач была затрымана вялікая партыя сахарына, гадзіннікаў, французскіх панчохаў, парфумы і пудры фірмы «Кацi» на агульную суму каля 100 тысяч рублёў. З доказамі злачынства былі арыштаваныя і кантрабандысты, сярод якіх было два буйных варшаўскіх камерсанта, а таксама чыноўнік міністэрства фінансаў і афіцэр КАП. У задачу апошніх уваходзіла забеспячэнне бесперашкоднага праходжання грузу па тэрыторыі Польшчы.

Аднак калі вярхушка кантрабандыстаў мела багатыя барышы, ездзіла ў дарагіх аўто і абедала ў фешэнебельных рэстаранах, звычайныя жыхары памежжа, у тым ліку і ў Заходняй Беларусі, не маглі пахваліцца багатым жыццём і часта былі вымушаны ісці на цяжкія, у прамым сэнсе слова выпрабаванні. Для праносу кантрабандных тавараў сяляне прыдумлялі розныя хітрыкі. Імі шыліся спецыяльныя камізэлькі, падвойным дном абсталёўваліся вазы, фурманкі, сані. Часта кантрабандны тавар закладваўся ствaламі ссечаных дрэў.

Адзін з жыхароў Койданаўскага (цяпер Дзяржынскага раёна) так успамінаў тыя падзеі: «*Тады з Польшчы насілі сюды тавары. Там дамовяцца з мясцовымі і сустракаюцца ва ўмоўленым месцы. Цукру не было — сахарын ішоў. Потым чаравікі жаночыя, матэрыял на спадніцы, сукенкі, кашулі*».

У передваеннай польскай вёсцы быў развіты натуральны абмен, а наяўныя грошы выкарыстоўваліся вельмі рэдка. Адной з магчымасцяў іх атрымаць была менавіта кантрабанда. Пазней жыхары Заходняй Беларусі маглі выкарыстоў-

ваць грошы пры пакупках у мястэчку, а таксама аплачваючы медыцынскае абслугоўванне. Акрамя гэтага грошы патрабаваліся для пакупкі школьных падручнікаў і для аплаты пошлін пры афармленні розных дакументаў.

У канцы 1930-х гадоў на заходніх і ўсходніх межах Польшчы сітуацыя пагоршылася. Пытанне барацьбы з кантрабандай адышло на другі план. Польскай памежнай ахове на мяжы з Трэцім Рэйхам пастаянна даводзілася супрацьстаяць дыверсійным атрадам нацыстаў. У выніку гэтых боесутыкненняў загінула некалькі дзясяткаў польскіх памежнікаў. З першых дзён Другой сусветнай вайны вартавыя мяжы мужна адбівалі атакі вермахта, а 17 верасня 1939 года час выпрабаванняў наступіў і для КАП.

## Трагічны лёс рарытэтаў

У адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай, савецкі бок абавязаўся вярнуць Польшчы гісторыка-культурныя каштоўнасці, якія вывозіліся ў часы Расійскай імперыі. У верасні 1939 года частка гэтых скарбаў вярнулася ў СССР.

Згодна з артыкулам XI Рыжскай мірнай дамовай ад 18 сакавіка 1921 года, Расія і Украіна павінны былі вярнуць Польшчы прадметы, вывезеныя расійскімі ўладамі з польскай тэрыторыі пачынаючы з 1 студзеня 1772 года.

Гаворка ішла пра ўсе вайсковыя трафеі (сцягі, харугвы, вайсковыя ўзнагароды, гарматы, палкавыя рэгаліі). Акрамя гэтага, вяртанню падлягалі бібліятэкі, архіўныя зборы, прадметы мастацтва. Паводле Рыжскай дамовы, не вярталіся ў Польшчу прадметы, звязаныя з беларускай і ўкраінскай культурай. У дамове таксама адзначалася, што рэчы, якія ўваходзілі ў склад калекцый (напрыклад, кнігазборы ці зборы рукапісаў) падлягалі абмену на эквівалентныя па каштоўнасці прадметы.

Для рэалізацыі прац па рэстытуцыі каштоўнасцяў з Савецкай Расіі ў Польшчу паляки стварылі адпаведную камісію. 7 кастрычніка 1921 года яе сябры на чале з Антоніем Альшэўскім пачалі працу ў Маскве. У складзе музейнай

падкамісіі працавалі дырэктары музеяў у Львове і Кракаве Аляксандр Чалоўскі і Фелікс Капера. Бібліятэчнай справай займаліся Эдвард Кунцэ з Кракава, Стэфан Рыгель з Варшавы і Эдвард Хвалевік з Познані. З архівамі працаваў Вітальд Сухадольскі. Акрамя галоўнай сядзібы ў Маскве, камісія мела прадстаўніцтва ў Петраградзе, а таксама ў іншых гарадах Саўдэпіі.

У выніку працы камісіі да мая 1922 года ў Польшчу вярнуліся, між іншым, прадметы інтэр'еру Каралеўскага дварца ў Лазенках, вывезеныя з Варшавы падчас Першай сусветнай вайны, карціна «Бітва пад Грунвальдам» Яна Матэйкі, каля 40 іншых карцін і габеленаў (у тым ліку 15 з серыі «Патоп»), якія ў свой час упрыгожвалі кракаўскі Вавель, помнік князю Юзафу Панятоўскаму, вывезены пасля Лістападаўскага паўстання 1831 года генералам Іванам Паскевічам у беларускі Гомель.

Дарэчы, для таго, каб перавезці манумент у Польшчу, у Гомель прыехала адмысловая польская камісія, якая сачыла за працамі па дэмантажу і транспарціроўцы. У тым жа 1922 годзе ў Польшчу вярнуўся 21 малюнак Варшавы пэндзля Бярнарда Канатэля.

Калі казаць пра архівы, то бальшавікі вярнулі палякам дакументы Таварыства ўзаемнага страхавання і губернскіх устаноў, больш за 7 тысяч рукапісаў з бібліятэкі Залускіх, а таксама вялікую колькасць кніг з бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. На Захад паехалі сеймавыя дыярыўшы, дакументы Тадэвуша Касцюшкі і Іаахіма Лялевеля.

Са старажытнымі дакументамі справа рэстытуцыі ішла не так лёгка, і тут сваё слова сказаў беларускі бок. У прыватнасці, адзін з кіраўнікоў Галоўнага ўпраўлення архіўнай справы Наркамасветы РСФСР Уладзімір Пічэта яшчэ на стадыі падрыхтоўкі мірнай дамовы з Польшчай адстойваў ідэю аб тым, што ў дакуменце трэба было пазначыць пра *«вяртанне дакументаў, забраных з этнічна польскіх тэрыторый»*, да якіх, безумоўна, не адносілася ВКЛ.

Аднак Варшава імкнулася вярнуць не толькі «каронныя» дакументы, але і «Літоўскую метрыку», якая з канца XIX стагоддзя знаходзілася ў Маскве. У сакавіку 1922 года Уладзімір

Іванавіч Пічэта, рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, настойваў на тым, што дакументы ВКЛ з'яўляюцца важнейшымі крыніцамі па гісторыі беларускага народа і ўяўляюць сабой здабытак сусветнай культуры.

Акрамя «беларускіх» архіваў, савецкі бок таксама адмовіўся аддаваць палякам валынскую частку «Кароннай метрыкі», якая датычылася этнічна ўкраінскіх тэрыторый. Не ўдалося палякам забраць некалькі тысяч польскіх рукапісаў з Публічнай бібліятэкі ў Петраградзе. У адной з размоў з польскімі дыпламатамі старшыня савецкай камісіі па кантролі за выкананнем умоў Рыжскай дамовы Пётр Войкаў адкрыта заявіў, што *«тэхнічнае выкананне ўмовы па справе петраградскай бібліятэкі залежыць ад стабільнасці ў палітычных адносінах паміж Савецкай Расіяй і Польшчай»*.

16 лістапада 1927 года ў Варшаве была падпісана генеральная дамова паміж Польшчай і СССР па справе вяртання «польскай» культурнай спадчыны, вывезенай царскімі ўладамі. Дзякуючы гэтай дамове ў ІІ Рэч Паспалітую вярнуліся карціны Філіпса Увермана, Жана Антуана Вато, Рэмбрандта, Барталамеа ван дэр Хельста. З «польскіх рэчаў» у Варшаву з Эрмітажу вярнуўся каранацыйны меч «Шчэрбец», меч і вялікая каронная харугва Жыгімонта ІІ Аўгуста, некалькі габеленаў з Вавеля, адзначэнні ордэну Святога Духа (у тым ліку багата аздоблены золатам і выявамі бурбонскіх лілій плашч) і тумбачка, падараваныя польскаму каралю Яну ІІІ Сабескаму папам Інакенціем XI і каралём Францыі Людовікам XIV Бурбонам за перамогу пад Венай. Таксама Польшча атрымала бібліятэку Браніцкіх і архіў уніяцкага мітрапаліта з Львова, вывезеныя ў 1914–1915 гадах рускімі войскамі.

У 1928 годзе ў беларускі Нясвіж і ўкраінскую Алыку, дзе знаходзіліся буйнейшыя радзівілаўскія ардынацыі, з СССР вярнуліся рарытэты, якія належалі гэтай сям'і. Нарэшце, у 1929 годзе Польшча атрымала апошнія культурныя каштоўнасці з савецкіх музеяў, і на гэтым працэс рэстытуцыі скончыўся. Хутка ў Варшаве была арганізавана выстава некаторых найбольш цікавых прадметаў даўніны, якія ўдалося вярнуць з Саўдэпіі.

Ужо ўвесну 1939 года ў Польшчы пачалі думаць пра магчымасці эвакуацыі культурных каштоўнасцяў. Першымі вывазу падлягалі адміністратыўныя, судовыя і вайсковыя архівы. Багатыя польскія шляхецкія роды самі арганізоўвалі эвакуацыю сваіх калекцый. Напрыклад, князь Аўгусцін Чартарыйскі загадаў вывезці 5 тысяч карцін (у тым ліку работ Дзюрэра) са сваёй рэзідэнцыі пад Познанню і Кракавам у рэзідэнцыю ў Сеняве, што знаходзілася на Поўначы. Яшчэ 28 скрыняў былі накіраваны ў падвалы дома Чартарыйскіх у Варшаве. Прадстаўнік знакамітага беларускага княжацкага роду, ураджэнец беларускага Парахоньска, князь Канстанцін Друцкі-Любецкі перад выездам на фронт (у якасці палкоўніка князь камандаваў Віленскай брыгадай кавалерыі Войска Польскага) вымушаны быў схаваць калекцыю фамільнага срэбра.

Вялікая колькасць культурных артэфактаў з малых музеяў была накіравана ў Нацыянальны музей Варшавы. Ніхто нават падумаць не мог, што вайна вельмі хутка прыйдзе і сюды. А 17 верасня 1939 года «рыжскую мяжу» перайшлі часткі Чырвонай Арміі. Найбольш каштоўныя рарытэты ў Заходняй Беларусі бальшавікоў чакалі ў Нясвіжскім замку.

Кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэнка ў лісце да Сталіна пісаў: *«У Нясвіжы я наведаў замак князёў Радзівілаў. Ён прадстаўляе вялікую гісторыка-культурную каштоўнасць, а калі казаць пра бібліятэку, то яна проста бясцэнная»*. Усё ў тым жа 1939 годзе ў Мінск з замку Радзівілаў было перавезена 154 карціны, у тым ліку працы Ёана Конрада Бланка, Ёана дэ Фулчы, Даніэля Шульца, Барталамея Стробля. 22 снежня 1939 года Савет народных камісараў БССР забараніў знішчэнне шляхецкіх сядзіб, крадзеж польскіх архіваў, вываз каштоўных прадметаў без дазволу з Мінска.

Але на тэрыторыі Віленшчыны ў першыя месяцы савецкай улады былі знішчаны калекцыі жывапісу і іншых культурных рарытэтаў, якія належалі Аляксандру Хамінскаму, Казіміру Дзяконьскаму, Уладзіславу Карчэўскаму, Людвігу Мінэйку, Францішку Аскерку, сем'ям Солтанаў і Тышкевічаў. З Пінскай каталіцкай семінарыі на ўсход было вывезена 2 вагоны рарытэтных кніг, у тым ліку прыжыццёвае выданне

Вальтэра. Шмат з гэтых прадметаў у 1920-х гадах былі прывезены ў Польшчу менавіта з СССР.

Спрэчка наконт спраў рэстытуцыі паміж Варшавай і Масквой працягваецца да сённяшняга дня. У расійскіх музейных сховішчах знаходзіцца значная колькасць рарытэтаў, вывезеных з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, а пазней і Польшчы. Датычыцца гэтая праблема і Беларусі, бо сляды шматлікіх артэфактаў часоў ВКЛ таксама губляюцца на ўсходзе.

## Паўстанне Каліноўскага — нагода для гонару

У міжваеннай Польшчы быў зроблены вялікі акцэнт на захаванне памяці пра падзеі Паўстання 1863–1864 гадоў. Дзяржава не толькі арганізоўвала дагляд і ўшанаванне ветэранаў-паўстанцаў, выплачвала ім пенсію, але і сачыла за захаваннем месцаў, звязаных з тымі падзеямі.

18 снежня 1919 года польскі Сейм прыняў закон аб прысваенні ўдзельнікам паўстанняў 1831, 1848, 1863 гадоў, якія дажылі да моманту незалежнасці Польшчы, афіцэрскіх званняў. Пры гэтым ветэраны атрымалі права нашэння спецыяльнага вайсковага мундзіру (рагатоўкі, кіцеля-сурдута, шыняля цёмна-сіняга колеру), а загадам ад 7 лістапада 1922 года ўводзілася сістэма, па якой шараговыя і афіцэры Войска Польскага павінны былі салютаваць двума пальцамі, паднесенымі да казырка галаўнога ўбора, кожнаму ветэрану-паўстанцу.

Удзельнік паўстання 1863 года ці яго ўдава мелі права бясплатнага карыстання медыцынскімі паслугамі. У сваю чаргу, асоба, якая фінансавала пахаванне ветэрана, магла разлічваць на атрыманне ад дзяржавы грашовай дапамогі ў памеры адной пенсіі, якую атрымліваў памерлы.

2 жніўня 1919 года польскі Сейм надзяліў ветэранаў і ўдоваў былых паўстанцаў правам на атрыманне пенсіі. Першапачаткова гэтыя людзі атрымлівалі 27 500 польскіх

марак, а пасля рэформы 1924 года памер грашовага ўзнагароджання склаў 125 злотых. У 1938 годзе ветэранская пенсія складала ўжо 200 злотых. Удовы атрымлівалі 50 працэнтаў ад гэтых сум.

Дзяржаўныя ўзнагароды, атрыманыя ветэранамі, таксама давалі права на льготы. Напрыклад, узнагароджаныя Крыжам Незалежнасці мелі права бясплатнага праезду на цягніках РКР. Для былых удзельнікаў Паўстання 1863–1864 гадоў ствараліся Дамы ветэрана, якія фінансавала не толькі дзяржава, але і грамадскія арганізацыі (Таварыства сяброў ветэранаў 1863 года ў Варшаве).

Акрамя гэтага, у II Рэчы Паспалітай дзейнічаў Фонд Таварыства ўзаемнай дапамогі ўдзельнікам паўстання 1863 года, які атрымліваў фінансавыя сродкі ад розных грамадскіх арганізацый. Дарэчы, Таварыства ветэранаў паўстання 1863–1864 гадоў мела свае прадстаўніцтвы ў Варшаве, Кракаве, Тарнаве, Львове, Любліне, Кельцах і Седльцах.

Першая рэгістрацыя ўдзельнікаў Паўстання 1863–1864 гадоў адбылася ў 1919 годзе. Па яе выніках аказалася, што на тэрыторыі II Рэчы Паспалітай жыве 4500 састарэлых паўстанцаў і 1500 удоў. Аднак ужо праз некалькі гадоў (у 1923 годзе) гэтая лічба паменшылася ўдвая і склала 2012 ветэранаў. У 1933-м у Польшчы жыло 230 ветэранаў, у 1937 годзе — 75, у 1938-м — 53, а ў пачатку 1939 года іх засталося толькі 36 чалавек. Кожны з гэтых людзей у перыяд міжваеннага дваццацігоддзя быў вельмі паважанай асобай.

Ветэраны Паўстання 1863–1864 гадоў у жыцці польскага грамадства выконвалі амаль тую ж ролю, што сёння адыгрываюць ветэраны Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі. Іх запрашалі на ўсе дзяржаўныя святы, урачыстасці, у школы.

Урад II Рэчы Паспалітай разумеў, што гісторыя Паўстання 1863–1864 гадоў мела фундаментальнае значэнне для фармавання нацыянальнай свядомасці тагачаснага польскага грамадства. У 1922 годзе ў Польшчы выйшаў фільм «Год 1863», створаны паводле аповесці Стэфана Жыромскага, прысвечанай падзеям 1863–1864 гадоў.

Тут варта ўспомніць, што на хвалі беларусізацыі ў БССР адбываліся працэсы абуджэння цікавасці жыхароў Савецкай

Беларусі да «антыцарскага паўстання» другой паловы XIX стагоддзя. 14 жніўня 1928 года на экраны кінатэатраў БССР выйшаў фільм «Кастусь Каліноўскі», у якім лідар паўстання на Беларусі паказаны ў вобразе народнага мсціўца.

Польская дзяржава спрабавала рознымі спосабамі захаваць памяць пра паўстанне. Так, у 1933 годзе ў грашовы зварот была ўведзена манета наміналам 10 злотых з выявай дыктатара Паўстання 1863–1864 гадоў Рамуальда Траўгута. Праз 5 гадоў ужо Польская Пошта ў так званай «гістарычнай серыі» надрукавала марку, прысвечаную Студзеньскаму паўстанню, на якой была выява групы паўстанцаў на чале з усё тым жа Рамуальдам Траўгутам. Акрамя гэтага, прыватныя ювелірныя майстэрні выпускалі розныя памятныя знакі і «патрыятычную біжутэрыю» з выявамі сімвалаў Паўстання 1863–1864 гадоў. У польскіх гарадах, у тым ліку і на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай, з'явіліся вуліцы ў гонар герояў Паўстання 1863–1864 гадоў.

Важным момантам захавання памяці пра паўстанне з'яўляліся дагляд пахаванняў і месцаў, звязаных з паўстанцкімі падзеямі. Гутарка перш за ўсё ішла пра магілкі паўстанцаў. Праблема была ў тым, што за той час, які прайшоў з моманту паўстання, за паўстанцкімі пахаваннямі (асабліва на Усходзе) не было належнага дагляду. Восенню 1927 года пачалася агульнапольская акцыя па пошуку магіл і помнікаў, звязаных з нацыянальнымі войнамі і паўстаннямі. У рамках гэтай ініцыятывы павятовыя старасты павінны былі збіраць неабходную інфармацыю, што мела дачыненне да гэтай тэматыкі.

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў праца ў гэтым накірунку адбывалася і ў Заходняй Беларусі. Так, у 1928 годзе ў мястэчку Косава на могілках быў пастаўлены крыж на магіле паўстанцаў, загінулых у баі з царскімі войскамі. На 70-я ўгодкі Студзеньскага паўстання ў мястэчку Мілавіды на месцы бою паўстанцаў з царскімі войскамі была ўзведзена капліца. Варта нагадаць, што ў сярэдзіне мая 1863 года пад Мілавідамі сканцэнтраваліся атрады са Слонімшчыны, Ваўкавышчыны, Гродзеншчыны, Навагрудчыны

і Пружаншчыны (усяго каля 800 паўстанцаў). У канцы траўня 1863 года гэтыя атрады інспектаваў Кастусь Каліноўскі. 22 мая 1863 года да Мілавідаў падышлі рускія войскі на чале з падпалкоўнікам Булгарыным. У выніку бою рускім пяхотнікам так і не ўдалося знішчыць паўстанцаў, якія ўдала абараняліся і своечасова адышлі. У вёсцы Пацэвічы на Мастоўшчыне ў 1933 годзе быў узведзены помнік 12 паўстанцам, загінулым у баі з дзвюма ротамі 1-га фінляндскага палка Рускай імператарскай арміі. У савецкі час памятны знак быў знішчаны. На старых каталіцкіх могілках у Лідзе каля касцёла айцоў піяраў у 1938 годзе была ўстаноўлена табліца ў гонар Людвіка Нарбута.

Сваістым сімвалам захавання памяці пра Паўстанне 1863 года ў Заходняй Беларусі стала ўсталяванне помніку Рамуальду Траўгуту ў Свіслачы. Яшчэ ў маі 1923 года ў мястэчку быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы мемарыялу, на чале якога стаяў дырэктар настаўніцкай семінарыі Баляслаў Борыс. У выніку, у 1928 годзе, на 10-ю гадавіну аднаўлення незалежнасці Польшчы, помнік быў пастаўлены. Яго аўтарамі былі настаўнік свіслацкай семінарыі Павел Бялка і варшаўскі архітэктар Збароўскі. У верасні 1939 года мясцовыя камуністы знішчылі гэты «польскі» сімвал. Помнік быў адноўлены ў 1988 годзе па даваенных эскізах гродзенскім скульптарам Аляксандрам Анціпіным.

Безумоўна, найбольш увагі да падзей Паўстання 1863–1864 гадоў з боку польскіх улад надавалася ў «юбілейныя» гады. Так, у 1933 годзе ў Варшаве адбыліся вялікія ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя Студзеньскага паўстання. Дэлегацыі ветэранаў і апякунчых таварыстваў былі запрошаныя на прыём да маршала Юзафа Пілсудскага і прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага. У ваяводскіх цэнтрах (у тым ліку ў Брэсце на Бугу, Наваградку і Вільні) адбыліся прыёмы ў ваявод і прэзідэнтаў гарадоў. Спецыяльна да гэтай даты быў уведзены памятны ўзнагародны Крыж Сямідзесяцігоддзя, зроблены па праекце мастака Юзафа Свірыш-Рышкевіча. Крыж 70-годдзя паўстання выдаваўся кожнаму ветэрану-паўстанцу, а таксама асобам, якія дапамагалі ветэранам. У 1933 годзе гэтую ўзнагароду атрымалі 258 чалавек.

У 1938 годзе ў Варшаве адбыўся з'езд ветэранаў-паўстанцаў. Тады на сустрэчу з прэзідэнтам Польшчы Ігнаціем Масціцкім у Каралеўскі замак прыехала некалькі дзясяткаў пажылых паўстанцаў. Усіх жывых на той момант удзельнікаў Паўстання ўзнагародзілі афіцэрскім Крыжам адраджэння Польшчы. Ля Магілы невядомага жаўнера адбылося ўрачыстае ўскладанне кветак, а пазней — памінальная малітва ў гонар загінулых у баі і памерлых у Сібіры. У гэты час у краіне праводзіліся выставы і сустрэчы з ветэранамі.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у верасні 1939 года новыя ўлады знішчылі шмат помнікаў, звязаных з Паўстаннем 1863–1864 гадоў. Іх аднаўленне, як і выхаванне ў беларусаў павагі да гісторыі ўзброенага выступлення нашых продкаў супраць царскай тыраніі, працягваецца да сённяшняга дня.

# Польскія каланіяльныя мары

У 1918 годзе ў польскіх палітычных колах былі агучаны думкі пра неабходнасць здабыцця тэрыторый на іншых кантынентах. Вайна з бальшавіцкай Расіяй прымусіла палякаў заняцца абаронай уласнай тэрыторыі. Але мара пра калоніі засталася.

У 1920-я гады ў ІІ Рэчы Паспалітай з'явіўся шэраг арганізацый, якія актыўна займаліся прапагандай польскіх каланізацыйных планаў. Так, у 1926 годзе быў створаны Навуковы інстытут па вывучэнні эміграцыі і каланізацыі, а ў 1928-м — Саюз каланіяльных піянераў. Аднак найбольш важнай арганізацыяй у гэтай сферы была Марская і каланіяльная ліга (МКЛ), створаная на базе Марской і рачной лігі. 8 лістапада 1930 года старшынёй яе праўлення стаў генерал Войска Польскага Густаў Орліч-Дрэшар (трагічна загінуў у 1936 годзе).

Менавіта гэты чалавек ператварыў звычайную рэгіянальную арганізацыю ў паспяховы нацыянальны праект, лейтматывам дзейнасці якога стала ідэя пра тое, што

Польшча — гэта не краіна другога свету і не задворкі Еўропы, а моцны гулец на міжнароднай геапалітычнай арэне.

У статуце МКЛ, у прыватнасці, адзначалася, што арганізацыя імкнулася да распаўсюджвання ведаў па марской, рачной і эміграцыйна-каланіяльнай тэматыцы. Акрамя гэтага Марская і каланіяльная ліга імкнулася да развіцця польскага гандлёвага і вайсковага флоту. Важным момантам у яе дзейнасці была падтрымка кантактаў з польскімі эмігрантамі ў іншых краінах. Нарэшце, самым галоўным быў пошук новых тэрыторый для польскай нацыянальнай і гаспадарчай экспансіі. Калі ў 1933 годзе колькасць сяброў МКЛ была 70 630 чалавек, то ў 1937 годзе ў складзе арганізацыі было ўжо 535 237 сяброў, а на 1 чэрвеня 1939 года сяброўскія пасведчанні МКЛ мелі 992 780 чалавек.

Акрамя гэтага, Марская і каланіяльная ліга была і вельмі багатай арганізацыяй. Напрыклад, у канцы верасня 1937 года бюджэт МКЛ у Віленскім ваяводстве складаў 8 мільёнаў злотых, у Навагрудскім — 2 200 мільёнаў злотых і ў Палескім — 2 300 мільёнаў злотых. І гэта ў небагатай Заходняй Беларусі. Атрыманыя грошы МКЛ накіроўвала на фінансаванне ВМФ, а таксама... на вырашэнне каланіяльных патрэб сваёй дзяржавы.

У пачатку 1930-х гадоў у Германіі набіралі моц заклікі да вяртанне тэрыторый, якія пасля Першай сусветнай вайны аказаліся ў складзе Польшчы. У адказ польскі бок пачаў раскручваць кампанію па перагляду права на былыя нямецкія калоніі ў Афрыцы. Акрамя гэтага, у 1934 годзе МКЛ выкупіла частку бразільскага штата Парана і стварыла там паселішча польскіх каланістаў «Марская Воля». Палякі збіраліся набыць 2 мільёны гектараў на будаўніцтва жылля і гаспадарчых пабудоў, а таксама мелі намер пабудаваць чыгуначную лінію Рыазін'ё-Гуарапува працягласцю 138 кіламетраў, якая павінна была звязаць польскія пасяленні з бразільскімі гарадамі. «Марская Воля» падзялялася на дзве часткі: гарадскую і вясковую. У 1936 годзе там жылі 75 польскіх сямей.

Хутка МКЛ набыла яшчэ адзін участак у штаце Парана. Пазней ад будаўніцтва чыгункі давялося адмовіцца. Больш

таго, урад Бразіліі зразумеў, што такія гульні з зямельнай маёмасцю могуць прывесці да страты гэтых тэрыторый на карысць Польшчы. Краіны знаходзіліся на парозе вайны, аднак «маёмасныя спрэчкі» ўдалося вырашыць мірным шляхам. Падчас Другой сусветнай вайны польскія паселішчы прыйшлі ў заняпад, а бразільскія ўлады забаранілі ўсе праявы польскасці на гэтых тэрыторыях.

Акрамя таго кіраўніцтва МКЛ правяло перамовы з Ліберыяй, якія скончыліся падпісаннем дамовы пра двухбаковае супрацоўніцтва. Некаторыя польскія даследчыкі лічаць, што ў гэтага дакумента была тайная частка, якая дазваляла палякам не толькі развіццё сваіх паселішчаў, але і давала магчымасць польскаму ўраду арганізоўваць мабілізацыю грамадзян Ліберыі ў Войска Польскае.

Пазней II Рэч Паспалітая адмовілася ад ратыфікацыі гэтай дамовы. Як кажуць, з-за таго, што ў дакуменце адсутнічала фраза пра тое, што «Ліберыя становіцца пратэктаратам Польшчы».

Польскі бок разглядаў і планы каланізацыі Анголы, якая належала Партугаліі. У красавіку 1928 года сябар звязанага з Марской і рачной лігай Саюза каланіяльных піянераў Казімеж Глухоўскі накіраваўся ў Лісабон і сустрэўся з прадстаўнікамі партугальскага ўраду. У снежні таго ж года ў Анголу накіравалася польская навуковая экспедыцыя пад кіраўніцтвам Францішка Лыпа. Галоўнай мэтай паездкі было даследаванне тэрыторыі афрыканскай краіны і пошук месцаў, якія б падыходзілі для польскіх паселішчаў.

Па выніках экспедыцыі палякам стала зразумела, што Ангола не вельмі падыходзіць для масавай каланізацыі, але там можна было развіваць буйныя сельскагаспадарчыя плантацыі. Ужо ў 1929 годзе пачынаюцца перамовы з урадам Партугаліі наконт заключэння гандлёвай дамовы і атрымання дазволу для польскіх грамадзян сяліцца ў Анголе.

Паралельна ў Польшчы была створана арганізацыя «Полангола», якая павінна была курыраваць гандлёвыя адносіны паміж Польшчай і Партугаліяй. У снежні 1929 года ў гэтай афрыканскай краіне з'яўляецца плантацыя графа Адама Замойскага. Пазней да яго далучыўся яшчэ дзясятак багатых

палякаў. Плантатары вырошчвалі каву, какаву, збожжавыя культуры. У Анголу пачалі прыязджаць польскія турысты. Паралельна палякі спрабавалі «ўкараніцца» ў партугальскім Мазамбіку.

Актыўнасць Польшчы напалохала ўрад Партугаліі, і Лісабон адмовіўся ад пункта дамовы наконт дазволу масавага перасялення польскіх грамадзян у партугальскія калоніі ў Афрыцы.

Багатая і ўплывовая Марская і каланіяльная ліга праводзіла актыўную работу з польскім грамадствам. У 1932 годзе было праведзена свята мора ў Гдыні. Арганізацыя ўклала значныя фінансавыя сродкі на будаўніцтва інфраструктуры порту ў гэтым горадзе. У 1937 годзе адбылася буйная выстава малюнкаў марской тэматыкі ў Варшаве, а ў наступным годзе такое ж мерапрыемства адбылася і ў Кракаве.

Актыўна дзейнічала МКЛ і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. На возеры Нарач у Віленскім ваяводстве знаходзілася галоўная рачная база лігі, дзе праводзіліся розныя масавыя мерапрыемствы. Арганізацыя збірала сродкі ў Фонд марской абароны. Адным з вынікаў гэтай працы было фінансаванне будаўніцтва для польскага ВМФ крэйсера «Арол». У красавіку 1938 года ў Польшчы прайшоў так званы «Дзень калоній», падчас якога ў розных польскіх гарадах адбыліся святочныя шэсці і парады.

Галоўнымі друкаванымі органамі МКЛ былі штомесячны часопіс «Мора» і квартальнік «Марскія і каланіяльныя справы». Гэтыя выданні распаўсюджваліся перш за ўсё ў школах і грамадскіх установах. Львіная доля публікацый у іх была прысвечана каланіяльнай тэматыцы.

У адным з нумароў часопіса «Мора» за 1935 год журналіст пісаў: «*Мы, палякі, як і італьянцы, стаім перад вялікай праблемай размяшчэння і выкарыстання насельніцтва, што хутка павялічваецца. Мы, палякі, як і італьянцы, маем права патрабаваць, каб для нас былі адчыненыя рынкі экспарту і рэгіёны для пасялення, каб мы маглі атрымліваць сыравіну, неабходную для нацыянальнай эканомікі на ўмовах, на якіх гэта робяць іншыя каланіяльныя дзяржавы*». У адным з нумароў гэтага ж часопіса за 1937 год аўтар адзначаў, што

*«ІІ Рэч Паспалітая з'яўляецца моцнай еўрапейскай дзяржавай, якой неабходна мець заморскія калоніі для вырашэння сваіх унутраных і знешніх праблем».*

Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў польскіх палітычных колах вельмі сур'ёзна абмяркоўвалася магчымасць адпраўкі габрэйскага насельніцтва Польшчы ў заморскія калоніі. На адным з пасяджэнняў польскага сейма ў лістападзе 1938 года было заяўлена пра неабходнасць памяншэння колькасці гэтай катэгорыі польскіх грамадзян за кошт эміграцыі на новыя тэрыторыі, у прыватнасці, на Мадагаскар.

Відавочна, што на гэтую справу аказвала ўплыў складанае міжнароднае становішча і антыгабрэйская палітыка ў Трэцім Рэйху. Рэалізаваць гэтую небяспрэчную ідэю палякі не паспелі. 1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, якая паставіла канчатковы крыж на польскіх каланіяльных праектах.

## Як з беларусаў рабілі палякаў

Падчас усеагульнага перапісу насельніцтва ў Польшчы ў 1921 годзе вялікая колькасць «палешукоў» не змагла акрэсліць сваю нацыянальнасць. Праз 10 гадоў, у 1931-м, падчас чарговага перапісу амаль 707 тысяч жыхароў Палескага ваяводства сваёй мовай назвалі «тутэйшую».

Такая сітуацыя была на карысць Варшаве. У адным са сваіх выступленняў у кастрычніку 1923 года мэр Гродна Станіслаў Вайцэхоўскі адзначаў, што *«роля Польшчы і палякаў заключаецца ў прасоўванні на Усход святла еўрапейскай цывілізацыі»*. Галоўны цяжар асіміляцыйнай палітыкі прыпадаў на беларусаў і ўкраінцаў. Што тычыцца яўрэяў, то польскі ўрад стымуляваў эміграцыю гэтай групы насельніцтва з тэрыторыі Польшчы ў іншыя краіны.

У варшаўскіх афіцыйных колах разумелі, што, нават улічваючы слабасць нацыянальнай свядомасці сярод насельніцтва паўночна-ўсходніх ваяводстваў, у бліжэйшай перспектыве не атрымаецца цалкам ліквідаваць нацыянальную

ідэнтычнасць беларусаў на «крэсах». Пра гэта ў сваіх працах пісалі не толькі афіцыйныя чыноўнікі (напрыклад, супрацоўнік польскага МЗС Міраслаў Арцішэўскі), але і навукоўцы.

У выдадзенай у 1924 годзе працы «Нацыянальныя справы на крэсах усходніх» Канстанты Скаракоўскі абвінавачваў польскія ўлады ў тым, што *«Варшава праводзіць жорсткую асіміляцыйную палітыку, але нічога не робіць для паляпшэння эканамічнага становішча нацыянальных меншасцяў, якія пражываюць на ўсходзе краіны»*. Даследчык адзначаў: было б няправільным сцвярджаць, што беларускі народ не меў пачуцця сваёй нацыянальнай агульнасці. Наадварот, паўсюль сярод беларусаў можна было ўбачыць высокі ўзровень рэлігійных і сацыяльна-класавых ведаў.

Разам з тым, большасць тагачасных польскіх даследчыкаў і публіцыстаў адзначала небяспеку радыкалізацыі беларускага нацыянальнага руху і пазначала неабходнасць захавання кантролю над працэсам нацыянальнай эмансіпацыі беларусаў. Католікаў польская вертыкаль паўсюдна залічвала да палякаў, а вось праваслаўных беларусаў трэба было скіраваць у пажаданым для Варшавы накірунку.

Пры гэтым кіраўніцтва II Рэчы Паспалітай разумела неабходнасць недапушчэння беларусізацыі нефармальнай сталіцы Заходняй Беларусі Вільні. У сваю чаргу, дзейнасць беларускіх дзеячаў Віленшчыны, а таксама беларускіх дэпутатаў Сейма павінна была знаходзіцца пад татальным кантролем. Апошніх Варшава абвінавачвала ў выкарыстанні праблем у польскай эканоміцы для атрымання палітычных дывідэндаў і антыдзяржаўнай прапаганды.

Была і іншая плынь. Палескі ваявода Станіслаў Даўнаровіч у сярэдзіне 1920-х гадоў адстойваў ідэю стварэння на Палессі своеасаблівай памежнай тэрыторыі, якая аддзяліць украінскі этнас ад беларусаў. Паводле меркавання чыноўніка, «беларускімі» былі Віленскае і Навагрудскае ваяводства, але ў Палескім ваяводстве дамінавалі «тутэйшыя», якіх немагчыма было аднесці да якога-небудзь народу, таму польскія ўлады павінны былі выкарыстаць гэтую сітуацыю на сваю карысць, а менавіта завяршыць паланізацыю гэтых людзей.

Значную ролю ў працэсе выхавання лаяльных польскіх грамадзян адыгрывала польская школа. З моманту заканчэння вайны з савецкай Расіяй кіруючыя колы ІІ Рэчы Паспалітай зрабілі акцэнт на развіццё школ ва ўсходніх ваяводствах. Галоўнай задачай гэтых устаноў было выхаванне ў беларускіх, яўрэйскіх, украінскіх дзяцей польскай нацыянальнай свядомасці.

Разам з тым, у канцы 1920-х гадоў цыркулярам міністра веравызнанняў і адукацыі настаўнікам прадпісвалася ведаць мову мясцовага насельніцтва і карыстацца ёй у размове з дзецьмі. На жаль, з цягам часу паланізацыйныя працэсы канчаткова знішчылі рэгіянальныя асаблівасці ў польскай школе, а настаўнікі ці супрацоўнікі лясной аховы, якія карысталіся на працы мясцовымі дыялектамі, часцей за ўсё звальняліся з працы.

Да таго ж варта падкрэсліць, што дзяцей няпольскага паходжання абмяжоўвалі ў магчымасці атрымання далейшай адукацыі. Адказам на гэта былі ўцёкі заходніх беларусаў у БССР.

У выхаванні польскіх грамадзян з жыхароў Заходняй Беларусі важную ролю адыгрывалі і вайсковыя арганізацыі. Тут варта вылучыць Корпус аховы памежжа (КАП), у задачы якога ўваходзіў не толькі кантроль за памежнай дыстанцыяй, але і правядзенне розных культурна-выхаваўчых мерапрыемстваў для мясцовага насельніцтва. Да памежнікаў далучаліся і супрацоўнікі дзяржаўнай паліцыі, якія з дапамогай сваіх структур (напрыклад, Таварыства «Паліцэйская сям'я») спрабавалі арганізоўваць культурна-масавыя мерапрыемствы ва ўсходніх ваяводствах. Важную ролю адыгрывалі і іншыя арганізацыя («Саюз польскага харцэрства», «Стралецкі саюз» ды іншыя).

Адну з галоўных роляў у падрыхтоўцы з беларусаў годных грамадзян ІІ Рэчы Паспалітай адыгрывала войска. У шматлікіх штабных справаздачах захаваліся ўспаміны пра неабходнасць ідэалагічнай працы сярод беларусаў.

Нарэшце, важную ролю адыгрывала польскае вайсковае асадніцтва, якое было адным з галоўных цэнтраў польскасці сярод грамадства паўночна-ўсходніх ваяводстваў.

Дарэчы, пытанне павялічэння колькасці этнічных палякаў на ўсходніх ускраінах асабліва актуальнае стала ў другой палове 1930-х гадоў. У 1936 годзе камандуючы IX карпуснай акругай брыгадны генерал Чэслаў Ярнушкевіч адзначаў, што ў Навагрудскім, Баранавіцкім і Слонімскім паветах назіраецца «*небяспечная экспансія няпольскіх этнічных элементаў*». Гэта, паводле меркавання генерала, магло прывесці да абвастрэння сітуацыі ў выпадку вайны з СССР.

У 1938 годзе, пасля далучэння Цешынскай Сілезіі да Польшчы, сярод жыхароў Палескага ваяводства пачалі хадзіць чуткі, што хутка Савецкі Саюз далучыць да сябе Палессе. Аднак напярэдадні нападзення Германіі на Польшчу, большасць жыхароў Заходняй Беларусі прадэманстравала патрыятычны настрой у дачыненні да польскай дзяржавы. Яскравым прыкладам было тое, што, калі ў некаторых мясцовасцях Пінскага павету мабілізацыйныя карты атрымалі толькі рэзервісты каталіцкага веравызнання, вялікая колькасць праваслаўных беларусаў выказалася, каб у Войска Польскае заклікалі не толькі «палякаў», але і іх, бо яны таксама жадаюць бараніць сваю Айчыну.

Пасля майскага перавароту 1926 года ўсю ўладу ў Польшчы зноў сканцэнтраваў у сваіх руках Юзаф Пілсудскі. Шмат хто з прадстаўнікоў нацменшасцяў спадзяваўся на вяртанне да федэрацыйнай канцэпцыі «начальніка дзяржавы», аднак гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся. У вачах санацыйных уладаў беларусы былі нацыянальным элементам, праз які ўсходні сусед прасоўвае ў Польшчу камуністычныя ідэі.

Варшава нават не разважала наконт магчымасці ўвядзення нейкай аўтаноміі ў Заходняй Беларусі, але скіравала ўвагу на паляпшэнне эканамічнага становішча ў гэтым рэгіёне. Перш за ўсё, планавалася арганізаваць збыт сельскагаспадарчых прадуктаў і стымуляваць развіццё прыватных сельскіх гаспадарак. Аднак сусветны эканамічны крызіс пачатку 1930-х гадоў вельмі балюча ўдарыў па эканоміцы Польшчы і аказаў негатыўны ўплыў на жыццё ў тым ліку і заходнебеларускіх ваяводстваў.

З дапамогай газет польскія ўлады спрабавалі пераканаць, што за мяжой, у СССР, яшчэ горш, але заходнія бела-

русы ўспрымалі гэта як звычайную «панскую» прапаганду. Яны працягвалі верыць, што ў БССР сяляне і працоўныя жывуць лепей. Акрамя перыядычных выданняў, польская адміністрацыя рабіла стаўку на выкарыстанне радыё ў якасці сродку захавання насельніцтва Заходняй Беларусі пад сваім уплывам. У 1938 годзе адбылася зачыненая канферэнцыя з удзелам камандавання Карпусной акругі IX, кіраўніцтва Палескага ваяводства, прадстаўнікоў адукацыйных установ, на якой абмяркоўваліся перспектывы развіцця новай радыёстанцыі ў Баранавічах.

Аднак без перагібаў не абышлося і тут. Чыноўнікі выступілі за тое, каб у перадачах выкарыстоўвалася толькі польская мова, таму што, нібы, «тутэйшая» мова незразумелая для беларусаў на Навагрудчыне, а беларуская, наадварот, выклікае праблемы з разуменнем у палешукоў. Такое рашэнне было скіравана на паступовую паланізацыю насельніцтва заходнебеларускіх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай.

Вынікі перапісу насельніцтва 1931 года на Палессі дазволілі польскай адміністрацыі (ваяводам у той час быў Вацлаў Костэк-Бярнацкі) падзяліць Палескае ваяводства на ўчасткі, якія засялялі беларусы і «тутэйшыя». Апошнія ва ўспрыняцці Варшавы былі той масай, якую паступова можна было б асіміляваць і ператварыць у «сумленных польскіх грамадзян». Разам з гэтым, адміністрацыя ваяводства была вельмі занепакоеная «экспансіяй украінскага нацыяналізму ў беларускім Палессі».

Варта разумець, што гэта адбывалася дзякуючы папушчальніцтву саміх палякаў. На пачатку 1920-х гадоў яны дазволілі пачаць лагодную «ўкраінізацыю левага берагу Прыпяці», звязаную з распаўсюджваннем украінскай мовы ў мясцовых школах, у тым ліку ў Столінскім і Лунінецкім паветах.

Паступова ўкраінскія ўплывы распаўсюджваліся і на іншыя бакі жыцця. Напрыклад, у 1925 годзе ў Кобрыне быў адчынены Украінскі акцыянерны банк. Праз некаторы час, з ініцыятывы ўкраінскай грамадска-адукацыйнай арганізацыі «Прасвіта», украінскі банк з’явіўся ў Брэсце.

На тэрыторыі беларускага Палесся сталі развівацца ўкраінскія кааператывы, якія акрамя эканамічных спраў

займаліся і грамадска-культурнай праблематыкай. Паступова на гэтыя арганізацыі пачаў аказваць уплыў украінскі нацыяналістычны рух, што выклікала рэпрэсіі з боку польскіх улад. З асцярогай Варшава пазірала і на распаўсюджванне грэка-каталіцкай царквы ў Заходняй Беларусі. У дзейнасці ўніятаў палякі бачылі небяспечны інструмент украінізацыі насельніцтва Палесся. Апагеем барацьбы палякаў з украінскім уплывам у Заходняй Беларусі была ліквідацыя ў 1938 годзе, паводле рашэння палескага ваяводы, прадстаўніцтва таварыства «Прасвіта» ў Брэсце.

У 1935 годзе пры Савеце Міністраў ІІ Рэчы Паспалітай быў створаны Камітэт па нацыянальных справах, які, аднак, не надаваў вялікай увагі «беларускаму пытанню». У тым жа годзе ў Міністэрстве ўнутраных спраў была падрыхтавана справаздача, у якой пазначалася, што неабходнасці выпрацавання спецыяльнай стратэгіі дзеля збліжэння паўночна-ўсходніх ваяводстваў з дзяржавай не існавала. Варшава спадзявалася на мясцовую адміністрацыю і працэсы асіміляцыі і паланізацыі, якія адбываліся ў гэтым рэгіёне. Маўляў, два–тры пакаленні — і з «тутэйшых» будуць выхаваны сапраўдныя палякі.

У канцы 1930-х гадоў польскі ўрад перастрахаваўся і адмовіўся ад распаўсюджвання дзейнасці Таварыства заградовай шляхты ў паўночна-ўсходніх ваяводствах, каб дадаткова не падкрэсліваць падзел у заходнебеларускім грамадстве на палякаў-шляхту і беларусаў-сялян.

Аднак праблем усё роўна хапала. Выхадцаў з Заходняй Беларусі стараліся не дапускаць да пасад у мясцовай вертыкалі. Тлумачылася гэта тым, што «сярод беларускага этнасу» былі вельмі распаўсюджаныя камуністычныя ідэі. У Палескім ваяводстве адбывалася паланізацыя праваслаўнай царквы. Пры падтрымцы архіепіскапа Пінска-Палескага Аляксандра ваявода Вацлаў Костэк-Бернацкі ўвёў забарону на выкарыстанне іншых моваў, акрамя польскай, у царкоўных набажэнствах, а ў метрыкальных кнігах загадаў запісваць людзей на польскі манер.

* * *

З-за курса на асіміляцыю і паланізацыю насельніцтва паўночна-ўсходніх ваяводстваў палякі ва ўсведамленні звычайных беларусаў заставаліся «расай гаспадароў». Сітуацыю пагаршалі не толькі памылкі Варшавы, але і савецкая прапаганда, якая ўводзіла бальшавіцкія ідэалагемы і прымушала верыць, што ў БССР для беларусаў створаны рай. Верасень 1939 года ўсё расставіў на свае месцы. Вызваленне для заходніх беларусаў абярнулася новымі выпрабаваннямі, а польская грамадскасць, ужо ў пасляваенны час, была вымушана пераглядзець сваё стаўленне да былых усходніх абшараў міжваеннай польскай рэспублікі.

# «Лом» — дыверсійная аперацыя польскай выведкі

Паводле рашэння канферэнцыі ў бельгійскім горадзе Спа, 28 ліпеня 1920 года Чэхаславакія атрымала больш 50-ці працэнтаў Цешынскай вобласці, на якой пераважала польскае насельніцтва. Аднак гэта была не адзіная тэрыторыя, якая цікавіла Варшаву. Закарпацкая Русь таксама прыцягвала ўвагу генеральнага штаба Войска Польскага.

Падчас Першай сусветнай вайны ў Закарпацкай Русі былі распаўсюджаныя панславісцкія ідэі. У 1917 годзе на кангрэсе русафільскіх арганізацый, які праходзіў у Нью-Ёрку, нават гучалі заклікі наконт аб'яднання Галіцыі, Букавіны і Закарпацкай Русі і далучэння гэтых тэрыторый да Расіі. У сваю чаргу, пра свае прэтэнзіі на гэтыя землі заяўлялі і ўкраінцы. У лістападзе 1918 года ў Спішу была створана «Руская народная рада», якая стала першым урадам Закарпацкай Русі. (Пазней Рада пераехала ў Прэшаў.) У пачатку 1919 года гэты орган абвясціў аб'яднанне Русі з Чэхаславакіяй. Рэспубліканскі ўрад Венгрыі спрабаваў далучыць гэтыя тэрыторыі да сваёй дзяржавы, але ў 1919 годзе чэхаславацкія войскі занялі амаль усю Русь. У мясцовасці Ясіна была спроба ўзняць украінскае паўстанне, якое хутка падавілі.

На Парыжскай мірнай канферэнцыі ні венграм, ні ўкраінцам, ні тым больш рускім эмігрантам не ўдалося перашкодзіць чэхаславакам абгрунтаваць іх правы на закарпацкія тэрыторыі. Рада міністраў замежных спраў краін Антанты падтрымала прапановы Прагі аб аўтаноміі Русі ў складзе Чэхаславакіі. Паводле Трыянонскай мірнай дамовы,

заключанай 4 чэрвеня 1920 года, Будапешт адмовіўся ад правоў на Славакію і Закарпацкую Русь.

Менавіта ў гэты час Венгрыя пачала супрацоўнічаць з Польшчай на міжнароднай арэне. Найважнейшым момантам, які звязаў гэтыя краіны, былі менавіта тэрытарыяльныя спрэчкі з Чэхаславакіяй. Для II Рэчы Паспалітай праблема Закарпацкай Русі была звязана яшчэ і з «украінскай праблемай» у самой Польшчы, а таксама савецкімі ўплывамі ў гэтым рэгіёне. Палякі небеспадстаўна лічылі, што ў будучым праз Закарпацкую Русь можа быць усталяваны савецка-чэхаславацкі «вайсковы калідор», накіраваны супраць Польшчы. Таму ў Варшаве падтрымлівалі права Венгрыі на гэтыя тэрыторыі. Дзякуючы гэтаму, падчас польска-бальшавіцкай вайны венгры даслалі палякам некалькі транспартаў са зброяй.

У міжваенны час чэхаславакі не пайшлі на стварэнне шырокай аўтаноміі ў Закарпацкай Русі. У 1923 годзе яе губернатарам стаў русафіл Антоній Бескід. Аднак яго намеснікам быў чэх Антанін Разсыпал, які валодаў фактычнай уладай. У 1927 годзе тэрыторыя правінцыі была падзелена на 12 паветаў, на чале якіх стаялі чыноўнікі, дасланыя з Прагі. Чэшская мова паступова выцясняла русінскую са школ і дзяржаўных устаноў. Усё гэта спрыяла развіццю апазіцыйных настрояў у грамадстве гэтага небагатага аграрнага рэгіёну.

У Варшаве Чэхаславакію называлі «штучнай дзяржавай». Але і Прага не разглядала Варшаву як сур'ёзнага суперніка, называючы Польшчу «Балканамі Поўначы». Усё гэта не спрыяла заключэнню вайсковага саюза гэтых дзяржаў супраць набіраючай моц Германіі. Пасля нармалізацыі польска-нямецкіх адносін Варшава пачала ціснуць на Прагу, нагадваючы пра «цяжкае» становішча палякаў у Цешынскай Сілезіі.

У 1934–1935 гадах на гэтай тэрыторыі склалася вельмі напружаная сітуацыя, і чэхаславацкія ўлады вымушаны былі прымяняць рэпрэсіі супраць мясцовых палякаў. Да таго ж Варшава абвінавачвала Прагу ў прасавецкіх настроях. З трывогай палякі назіралі і за ростам праўкраінскіх настрояў у Закарпацкай Русі.

У 1934 годзе ў Варшаву з афіцыйным візітам прыехаў прэм'ер-міністр Венгрыі Д'юла Гёмбеш, які абмеркаваў з Юзафам Пілсудскім справу... агульнай польска-венгерскай мяжы. Падчас гэтага візіту палітыкі гаварылі і аб падтрымцы антычэхаславацкага руху ў Закарпацкай Русі. У лютым 1938 года на сумесным паляванні ў Белавежскай пушчы, якое арганізавалі ў гонар венгерскага рэгента Міклаша Хорці, польскія і венгерскія палітыкі гаварылі акрамя ўсяго і пра будучы лёс Чэхаславакіі.

22 верасня 1938 года падрыхтаваныя польскімі спецслужбамі агенты пачалі дыверсійную дзейнасць у Цешынскай Сілезіі. Гэта павінна было справакаваць узброенае паўстанне польскага насельніцтва, якое пражывала там. 30 верасня Варшава накіравала ў Прагу ўльтыматум з патрабаваннем вярнуць Польшчы Заользе. Ужо на наступны дзень чэхаславакі пагадзіліся на гэта.

Наступнай была праблема Закарпацкай Русі. Венгрыя прапанавала Польшчы сумесную ўзброеную акупацыю гэтых тэрыторый, аднак Варшава адмовілася. Разам з тым, ужо 7 кастрычніка 1938 года начальнік Генеральнага штаба Войска Польскага брыгадны генерал Вацлаў Стахевіч падпісаў загад аб падрыхтоўцы польскіх дыверсійных атрадаў для дзейнасці на тэрыторыі Закарпацкай Русі. Адначасова на мяжу з Румыніяй былі перакінуты 4 батальёны Корпуса аховы памежжа. 19 кастрычніка быў выданы загад аб прыгатаванні да аперацыі «Лом». За яе арганізацыю адказваў маёр генеральнага штаба Фелікс Анкерштайн. У задачу польскіх дыверсантаў уваходзіла знішчэнне дарожнай і чыгуначнай інфраструктуры, ліній сувязі, пунктаў чэшскай жандармерыі і памежнай аховы. Напачатку гэтыя акцыі праводзілі непасрэдна ля мяжы. Дакументы польскай выведкі, якія захаваліся ў польскіх і расійскіх архівах, даюць дакладныя звесткі пра тую «невядомую дыверсійную вайну».

22–23 кастрычніка палякі знішчылі лініі сувязі на дарозе Перэцін–Свалява, а таксама ўзарвалі масты на шашы Ніжне Верэцке і рацэ Латорча. Праз дзень 22 чалавекі перайшлі мяжу і накіраваліся да чыгуначнай лініі ля Свалявы з мэтай яе знішчэння. 25 кастрычніка палякі заклалі выбухоўку

на шашы Крэцкі–Довге. 29 кастрычніка польскія «партызаны» атакавалі будынак лясной аховы ў Сінірскай Паляне. Праз дзень гэты ж аддзел атакаваў патруль чэшскай паліцыі. 31 кастрычніка польскі дыверсійны атрад знішчыў мост на шашы Крэцкі–Довге, пры гэтым забіў 4 чэшскіх жандараў і 3 сябраў АУН.

З 5 лістапада тэрыторыя дзейнасці польскіх «партызан» распаўсюдзілася ўглыб тэрыторыі Закарпацкай Русі. Было створана 7 добра ўзброеных ротаў (каля 80 чалавек). Гэтыя атрады павінны былі аб'яднацца з венгерскімі дыверсантамі.

10 лістапада палякі паспрабавалі знішчыць казармы чэшскіх войскаў у Чэрна Рыка, але пасля кароткага бою вымушаны былі адступіць. У гэты ж дзень дыверсанты захапілі ў палон 19 жандараў і адвялі іх на польскую тэрыторыю. Гэты выпадак выклікаў абурэнне з боку польскага камандавання. «*Трэба было разабрацца з імі на тэрыторыі Русі*», — такой была рэзалюцыя аднаго з афіцэраў Войска Польскага.

Хутка да вырашэння «рускага» пытання далучыўся і Трэці Рэйх, які праз сваю выведку падтрымаў украінскія арганізацыі, што дзейнічалі на гэтых тэрыторыях. 2 лістапада 1938 года адбыўся Першы венскі арбітраж, паводле якога Венгрыі была перададзена частка Славакіі і Русі. Аднак 20 лістапада 1938 года Германія і Італія заявілі рашучы пратэст супраць сілавога далучэння Закарпацця да венгерскай дзяржавы. У немцаў былі свае планы на гэтыя тэрыторыі, тым больш, што Польшча ўжо адмовілася ад нямецкіх прапаноў аб перадачы Гданьска, і Берлін больш не лічыў Варшаву магчымым хаўруснікам. Хутка II Рэч Паспалітая была вымушана адмовіцца ад дыверсій у Закарпацкай Русі, і 24 лістапада аперацыя «Лом» была скончана. Аднак некаторыя атрады працягвалі дзейнічаць да канца месяца.

У адпаведнасці са справаздачай польскага Генштаба (ад 10 снежня 1938 года) за перыяд з 20 кастрычніка па 10 лістапада ў Закарпацкай Русі было знішчана: 1 чыгуначны мост, 4 шашэйныя масты, 1 водны шлюз, 8 тэлеграфных ліній. Пры гэтым забіта 7 чэшскіх жандараў і паліцэйскіх і 5 паранена. Страты польскага боку склалі: 4 забітых і 7 параненых.

З 10 па 30 лістапада было праведзена 37 дыверсійных актаў, пры гэтым забіта 14 і паранена 10 чэшскіх паліцэйскіх, жандараў і вайскоўцаў. Страты польскіх дыверсантаў склалі 7 забітых і 7 параненых. Увогуле, аперацыю ў польскіх вайсковых колах прызналі няўдалай і кепска падрыхтаванай.

Рост праўкраінскіх настрояў у гэтым рэгіёне прымусіў Варшаву ў студзені 1939 года вярнуцца да плану дыверсійнай дзейнасці на тэрыторыі Закарпацкай Русі. Польскія дыверсанты павінны былі знішчаць камунікацыі, якія звязвалі Русь са Славакіяй і Румыніяй, і ажыццяўляць напады на прадстаўнікоў чэшскай адміністрацыі. Аднак пазней Другі аддзел Генштаба Войска Польскага падкарэктаваў гэты план, скіраваўшы яго супраць прадстаўнікоў украінскіх структур на Русі. 15 сакавіка 1939 года Трэці Рэйх пачаў акупацыю Чэхіі. Венгрыя пагадзілася аказваць Германіі эканамічную падтрымку, а ў адказ Берлін дазволіў Будапешту акупаваць Закарпацкую Русь. 18 сакавіка венгерскія войскі занялі гэтую тэрыторыю. Неабходнасць у працягу аперацыі «Лом» адпала.

Агульная польска-венгерская мяжа праіснавала ўсяго 6 месяцаў. У верасні 1939 года менавіта праз гэты калідор, як і праз суседнюю Румынію, будзе эвакуявацца разбітае Войска Польскае, дзяржаўныя структуры ІІ Рэчы Паспалітай і бежанцы. Большасць польскіх сакрэтных дакументаў, што мелі дачыненне да аперацыі «Лом», апынуцца спачатку (у 1939 годзе) у руках нацыстаў, а потым (у 1945 годзе) стануць трафеем савецкіх спецыяльных службаў. Што ж тычыцца лёсу Закарпацкай Русі, то пасля Другой сусветнай вайны яе тэрыторыя была падзелена паміж СССР, Польшчай і Славакіяй.

# Манеўры, якія затрымалі вайну

Увосень 1938 года на паўднёвым усходзе Польшчы прайшлі ваенныя вучэнні, мэтай якіх было папярэджанне дзеянняў Масквы па «чэхаславацкім пытанні». У выніку, тады Масква не адважылася напасці на Польшчу.

Супярэчнасці паміж Польшчай і Чэхаславакіяй з-за Цешынскай вобласці зарадзіліся ў пачатку XX стагоддзя. У лістападзе 1918 года польскі Нацыянальны савет Цешынскага княства заключыў дамову з чэшскім урадам аб падзеле гэтай тэрыторыі. Але ўжо ў студзеня 1919 года чэхаславацкія войскі ўвайшлі на тэрыторыю вобласці і цалкам яе акупавалі. У ліпені 1920-га ў выніку міжнароднага арбітражу рэгіён быў падзелены, а значная колькасць палякаў апынулася на тэрыторыі суседняй дзяржавы. Гэта праблема пасеяла разлад у чэхаславацка-польскіх адносінах. Варшава затаіла крыўду на паўднёвых суседзяў і стала чакаць зручнага моманту, каб вярнуць спрэчны рэгіён у склад Польшчы.

Падчас Судэцкага крызісу 1938 года, калі Гітлер запатрабаваў ад Чэхаславакіі перадаць Трэцяму Рэйху Судэцкую вобласць, дзе пераважала нямецкае насельніцтва, пра свае прэтэнзіі на Заользе (усходняя частка Цешынскай Сілезіі, якая знаходзіцца за ракой Олшэй) заявіла і Польшча.

У гэтай сітуацыі 12 мая 1938 года Савецкі Саюз заявіў пра гатоўнасць падтрымаць Чэхаславакію. Для гэтага Масква была гатова адправіць на дапамогу «чэхаславацкім рабочым і сялянам» сваё войска. Справа была за малым. Трэба было дамагчыся ад Варшавы і Бухарэста дазволу на праход Чырвонай Арміі праз іх тэрыторыю. У сваю чаргу, у Польшчы і Румыніі выдатна разумелі, чым можа скончыцца дадзены праход бальшавікоў, таму гэтыя краіны выступілі супраць «савецкай дапамогі для Чэхаславакіі».

Масква не хавала свайго незадавальнення польска-нямецкім збліжэннем. Больш таго, у планах стратэгічнага планавання РСЧА з сярэдзіны 1930-х гадоў асноўным ворагам «першай дзяржавы рабочых і сялян» разам з Германіяй разглядалася менавіта II Рэч Паспалітая. У дакладзе «Аб стратэгічным разгортванні Узброеных Сіл СССР на Захадзе і на Усходзе» ад 24 сакавіка 1938 года магчымасць ваеннага супрацоўніцтва СССР з Польшчай нават не разглядалася. Усім было ясна: Польшча для СССР — вораг.

Апошнім аргументам Польшчы сталі буйныя ваенныя манеўры, якія Войска Польскае правяло ў перыяд з 14 па 19 верасня 1938 года на Валыні, непасрэдна ля мяжы з не-

бяспечным усходнім суседам. Камандаваў вучэннямі галоўны інспектар Войска Польскага дывізіённы генерал Станіслаў Бурхарт-Букарскі.

У манеўрах прынялі ўдзел 3-я, 13-я, 21-я, 27-я і 30-я дывізіі пяхоты, 10-я брыгада кавалерыі, 5-я вучэбная кавалерыйская дывізія (у складзе Падольскай і Крэсавай кавалерыйскіх брыгад) і другая брыгада лёгкіх бамбардзіроўшчыкаў. Акрамя гэтага, у вучэннях былі задзейнічаны танкавыя часткі і падраздзяленні Корпуса аховы памежжа.

Паводле ўспамінаў удзельнікаў «вялікіх валынскіх манеўраў 1938 года», польскае камандаванне зрабіла стаўку на адпрацоўку ўзаемадзеяння танкавых войскаў з кавалерыяй і пяхотай. Пры гэтым актыўны ўдзел у вучэннях прынялі часткі, дыслакаваныя непасрэдна на «крэсах». Так, напрыклад, важную ролю ў канчатковым фазе манеўраў згуляў 84-ы полк палескіх стралкоў з Пінска, які ўваходзіў у склад 30-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага. У выніку манеўры завяршыліся поўным разгромам наступаючых з усходу «чырвоных», часткамі «сініх», што абараняліся.

Пасля вучэнняў у Луцку быў праведзены вялікі ваенны парад, які асабіста прыняў маршал Рыдз-Сміглы. Неўзабаве на чэхаславацкай мяжы палякі разгарнулі асобную аператыўную групу «Слёнск» у складзе 4-й, 21-й і 23-й пяхотных дывізій, Вялікапольскай і 10-й матарызаванай кавалерыйскіх брыгад пад камандаваннем генерала К. Бартноўскага.

19 верасня 1938 года пасля заканчэння манеўраў міністр замежных спраў Польшчы Юзаф Бек накіраваў амбасадару Польшчы ў Германіі Юзафу Ліпскаму ліст, у якім загадваў дыпламату ў гутарцы з Гітлерам прытрымлівацца наступных дырэктыў:

1. Урад Польскай Рэспублікі канстатуе, што ён, дзякуючы займаемай пазіцыі, паралізаваў магчымасць інтэрвенцыі Саветаў у чэшскім пытанні ў самым шырокім значэнні. Наш націск у Бухарэсце аказаў пажаданае дзеянне. Манеўры, якія праводзяцца намі на Валыні, Масква зразумела як перасцярогу.

2. Польшча лічыць умяшанне Саветаў у еўрапейскія справы недапушчальным.

3. Чэхаславацкую Рэспубліку мы лічым штучным утварэннем, якое не адпавядае сапраўдным патрэбам народаў Цэнтральнай Еўропы.

4. На працягу мінулага года польскі ўрад чатыры разы адхіляў міжнародныя прапановы далучыцца да міжнароднага ўмяшання ў абарону Чэхаславакіі.

5. Непасрэдныя прэтэнзіі Польшчы па гэтым пытанні абмяжоўваюцца раёнам Цешынскай Сілезіі, г. зн. крыху больш чым раёнамі Цешынскім і Фрыштацкім і доступам па чыгунцы да станцыі Багумін.

6. Прымаючы пад увагу наша непасрэднае суседства, мы зацікаўленыя ў вырашэнні чэхаславацкага крызісу. Мы ставімся пазітыўна да ідэі аб агульнай мяжы з Венгрыяй, памятаючы, што геаграфічнае размяшчэнне Чэхаславацкай Рэспублікі правільна разглядалася як мост для Расіі.

7. Па цяперашніх звестках, заходнія дзяржавы могуць спрабаваць прытрымлівацца ранейшай канцэпцыі Чэхаславакіі пры частковых саступках на карысць Германіі. Мы выступілі супраць такога вырашэння пытання. Нашы лакальныя патрабаванні мы ставім у катэгарычнай форме. Мы паведамляем канфідэнцыйна, што назіранне за мяжой узмоцнена, і мы будзем размяшчаць у паўднёвай частцы Сілезіі значныя ваенныя сілы. Заяўляем фармальна, што гэтая групоўка войскаў не накіравана супраць Германіі.

23 верасня 1938 года Масква паспрабавала націснуць на Варшаву, заявіўшы, што калі польскія войскі ўступяць у Чэхаславакію, СССР дэнансуе падпісаную ім з Польшчай у 1932 годзе дамову аб ненападзе, але палякі, адчуваючы падтрымку з боку Германіі праз каналы МЗС адказалі, што «*меры, якія прымаюцца ў сувязі з абаронай польскай дзяржавы, залежаць выключна ад урада Польскай Рэспублікі, які нікому не абавязаны даваць тлумачэнні*».

У гэты ж дзень у Маскву з Рыма паступіла асабліва сакрэтнае паведамленне, у якім, у прыватнасці, адзначалася: «*Італьянскі пасол у Варшаве па пытанні Чэхаславакіі 16 і 17 верасня тэлеграфуе:*

*1. Польскі ўрад не выключае цалкам са сваіх разлікаў магчымасць узброенага савецкага ўмяшання, але лічыць гэтую магчымасць малаверагоднай.*

*2. У колах польскага МЗС лічаць, што ў сувязі з унутраным становішчам і дэзарганізацыяй Чырвонай Арміі ў сілу апошніх чыстак, СССР не можа аказаць істотную дапамогу Чэхаславакіі і абмяжуецца пасылкай аэрапланаў і тэхнічнага персаналу.*

*3. З мэтай спынення якіх бы там ні было спроб СССР паслаць праз Польшчу войскі на дапамогу Чэхаславакіі, Польшча з мэтай дэманстрацыі рашучасці 15.09 пачала манеўры на Валыні, і пад гэтым выглядам сканцэнтравала там патрэбную колькасць войскаў.*

*4. Румынія давяла да ведама Польшчы, што чуткі аб пагадненні пра пропуск савецкіх войскаў праз Румынію ілжывыя.*

*5. Польшча думае, што нельга абсалютна разлічваць на волю Румыніі да супрацоўніцтва перад фактам канкрэтнага савецкага вайсковага націску».*

21 верасня 1938 года польскі ўрад прад'явіў ультыматум Чэхаславакіі, патрабуючы перадачы Заользя. 1 кастрычніка чэхаславацкая армія пакінула свае пазіцыі на мяжы, а ў Цешынскую Сілезію ўвайшлі часткі Войска Польскага. Стратэгічныя манеўры на Валыні, за якімі так старанна сачылі ў СССР, адыгралі сваю ролю. Масква не адважылася напасці на Польшчу ўвосень 1938 года. Савецкі кідок на Захад адбыўся толькі праз год, і пасля таго, як большасць баяздольных польскіх частак былі разбітыя ў вайне з нацысцкай Германіяй.

## План «W». Абараніць «крэсы»

У 1921 годзе паміж Польшчай і Савецкай Расіяй было заключана па сутнасці доўгачасовае перамір'е. Аднак у Варшаве разумелі, што савецкі бок рана ці позна паспрабуе вярнуць страчаныя тэрыторыі. Для іх абароны і быў распрацаваны план «W».

У пачатку 1930-х гадоў напружанне ў двухбаковых адносінах не знікла. Да таго ж пагрозліва выглядала і ўзрастанне вайсковага патэнцыялу краіны Саветаў. Калі ў 1924 годзе колькасны склад Чырвонай Арміі быў усяго 550 тысяч

чалавек, то ў 1930 годзе Чырвоная Армія ўжо налічвала 940 тысяч, а ў 1936 годзе — каля 1 мільёна 100 тысяч чалавек.

Акрамя гэтага, савецкае кіраўніцтва ўзяло накірунак на мадэрнізацыю ўласнага войска, развіццё танкавых і авіяцыйных частак. Непакоіла польскае камандаванне і тое, што бальшавікі вельмі актыўна ўзяліся за развіццё транспартнай інфраструктуры ў сваіх заходніх ускраінах. Будаваліся дарогі, масты, чыгуначныя шляхі. Толькі сляпы не мог убачыць таго, што СССР рыхтуецца да вялікага кідку на Захад.

Магчымы тэатр вайсковых дзеянняў у Заходняй Беларусі меў свае асаблівасці. Па-першае, важную ролю для боку, што абараняецца, іграў багністы і бездарожны абшар Палесся. Па-другое, тэрыторыя заходнебеларускіх ваяводстваў была багатая на лясы і пушчы, што таксама накладала свой адбітак на характар магчымай вайны. Нарэшце, па-трэцяе, варта пазначыць неразвітасць дарожнай сеці на «крэсах». Асфальтаваных дарог амаль не было, а грунтовыя моцна залежалі ад надвор'я.

Паводле меркавання польскіх вайскоўцаў, савецкі бок, у выпадку вайны з Польшчай, будзе імкнуцца нанесці два ўдары: у беларускім напрамку на Баранавічы–Беласток–Варшаву і ў украінскім — на Львоў–Кракаў. У сярэдзіне 1930-х гадоў вайсковае кіраўніцтва Польшчы зрабіла стаўку на развіццё кааліцыйнага супрацоўніцтва з заходнімі хаўруснікамі. Яшчэ з 1921 года ў Польшчы былі добрыя адносіны з Францыяй і Вялікабрытаніяй. Партнёрскія стасункі ў Польшчы былі і з Румыніяй. У 1936 годзе Варшава і Бухарэст падпісалі тайную вайсковую канвенцыю, паводле якой кожная з краін была абавязаная прыйсці на дапамогу ў выпадку агрэсіі на іх з боку СССР.

Вайсковая дактрына II Рэчы Паспалітай прадугледжвала арганізацыю на ўсходзе добра ўмацаванай абароны з перспектывай стрымаць наступленне ворага да моманту, пакуль хаўруснікі не прыйдуць на дапамогу атакаванай бальшавікамі Польшчы.

У лістападзе 1935 года генеральны інспектар узброеных сіл Польшчы Эдвард Рыдз-Сміглы вызначыў галоўныя моманты аператыўнага плану «Усход». Паводле яго,

Войска Польскае на «крэсах» павінна было арганізаваць аператыўную манеўраную абарону з мэтай скаваць сілы праціўніка. Асноўную ролю пры гэтым адыгрывала пяхота, якая контрударамі скоўвала дзеянні Чырвонай Арміі. У сваю чаргу, кавалерыя павінна была трымаць флангі польскай абароны, а артылерыя — прыкрываць пяхоту. Польская авіяцыя, у выпадку вайны з Савецкім Саюзам, забяспечвала транспартную падтрымку польскіх частак, што абараняліся, а ў задачу ВМФ уваходзіла абарона сваіх партоў і баз ад савецкіх караблёў.

Паводле плана «Усход», мабілізацыя павінна была праходзіць у два этапы: прыхаваная і ўсеагульная. Апошняя таксама падзялялася на дзве фазы: вайсковыя адзінкі першага кідка павінны былі быць гатовыя на працягу 6 дзён, а рэзервісты другога кідка павінны былі дасягнуць ступені гатоўнасці на 12-ы дзень мабілізацыі.

Польскае камандаванне мела намер выставіць супраць Чырвонай Арміі пяць аператыўных злучэнняў: «Вільня», «Баранавічы», «Палессе», «Валынь», «Падолле». Першыя тры з іх павінны былі змагацца ў Заходняй Беларусі. У склад арміі «Вільня» ўваходзілі ўсе вайсковыя часткі III Корпуснай акругі (1-я пяхотная дывізія легіёнаў, 19-я і 29-я пяхотныя дывізіі, Віленская, Сувальская і Падляская брыгады кавалерыі, палкі Корпусу аховы памежжа «Глыбокае», «Вілейка» і «Валожын» і паўбрыгада нацыянальнай абароны «Дзісна»).

Гэтыя часткі павінны былі абараняць Віленскі ўмацаваны ўчастак — лінію пабудаваных яшчэ немцамі ў Першую сусветную вайну і мадэрнізаваных палякамі ўмацаванняў. Найбольш моцнай групоўкай Арміі «Вільня» павінна была стаць Аператыўная група кавалерыі № 1 «Паставы». У яе задачу ўваходзіла затрымаць 5-ю савецкую армію ў накірунку Глыбокае–Паставы.

У сваю чаргу, Армія «Баранавічы» павінна былі перашкодзіць Чырвонай Арміі адрэзаць сканцэнтраваныя на Поўначы часткі Арміі «Вільня» і абараніць шляхі на Гродна, Беласток і Брэст. У склад гэтай групоўкі войскаў уваходзіла 9-я, 20-я, 8-я, 28-я пяхотныя дывізіі, Навагрудская і Мазавецкая брыгады кавалерыі і полк КАП.

Цалкам мабілізаваная Армія «Баранавічы» налічвала каля 100 тысяч салдат, пры падтрымцы 48 цяжкіх, 256 лёгкіх, 154 супрацьтанкавых гармат і 102 мінамётаў. Галоўную ролю ў абароне павінны былі адыграць 127 доўгатэрміновых абарончых кропак (ДАКаў) Баранавіцкага ўмацаванага ўчастка. У раёне Дарэва і Слуцкай шашы былі пабудаваны новыя польскія ўмацаванні, у задачу якіх уваходзіла затрыманне руху савецкіх механізаваных частак. Гарнізон ДАКаў складаўся з палка 20-й дывізіі пяхоты, спецыяльна падрыхтаванай да вядзення баявых дзеянняў у фартыфікацыйных умацаваннях.

У раёне мястэчка Цырын была лінія абароны Навагрудскай брыгада кавалерыі, а дарогу са Стоўбцаў на Навагрудак пільнавала Мазавецкая брыгада кавалерыі. У выпадку неабходнасці польскае камандаванне дапускала магчымасць адступлення сваіх войскаў на гэтым участку да 50 кіламетраў на захад. Пры гэтым, важную ролю павінны былі адыграць збудаваныя на Шчары і Сервечы шлюзы, якія давалі магчымасць хутка затапіць частку тэрыторыі і затрымаць наступленне праціўніка.

Што тычыцца авіяцыі, то польскае камандаванне на гэтым участку магло разлічваць на 64 самалёты знішчальнай і выведвальнай авіяцыі. Значную праблему складаў недахоп сродкаў супрацьпаветранай абароны. Найбольш добра забяспечанай 75-міліметровымі зянітнымі гарматамі была толькі чыгуначная станцыя ў Ваўкавыску. Паводле меркавання польскіх генералаў, трэба было ўзмацніць супрацьпаветраную абарону баранавіцкага чыгуначнага вузла.

Палессе павінна была абараняць аднайменная самастойная аператыўная група (САГ). Падраздзяленні КАП і матросы Пінскай рачной флатыліі, што ўваходзілі ў яе склад, першымі ўступалі ў бой супраць агрэсара з Усходу. Пазней, у другім кідку, на дапамогу гэтым фармаванням павінны былі прыйсці часткі 30-й пяхотнай дывізіі, а таксама яшчэ адной рэзервовай дывізіі.

У распараджэнні САГ «Палессе» было 16 цяжкіх гармат, 100 лёгкіх, 39 супрацьтанкавых гармат і 48 мінамётаў. Улічваючы, што наступаючая Чырвоная Армія не мела магчы-

масці манеўраваць на забалочаных тэрыторыях палескага рэгіёну, польскіх сіл павінна было хапіць дзеля таго, каб першапачаткова затрымаць армію ўварвання. У сваю чаргу, у задачу Пінскай рачной флатыліі ўваходзіла скоўванне дзеянняў савецкай Дняпроўскай флатыліі і забеспячэнне агнявой падтрымкі сухапутных частак Войска Польскага.

* * *

На пачатку 1939 года Варшава зразумела, што вайна прыйдзе з Захаду. Войска Польскае пачало рыхтавацца да баявых дзеянняў з нацысцкай Германіяй, і большасць баяздольных частак польскай арміі была перакінута з заходнебеларускіх ваяводстваў у цэнтральную Польшчу. 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу і атакавала ў Заходняй Беларусі невялікія па колькасці падраздзяленні польскіх памежнікаў і зводныя атрады польскай арміі, адступіўшыя з захаду. Гэтыя падраздзяленні здолелі нанесці ўрон савецкім войскам у Гродна, пад Кадзёўцамі і Шацкам.

## Бітва пад Млавай

У сакавіку 1939 года ў Польшчы былі праведзены мабілізацыйныя мерапрыемствы, у выніку якіх у армію была прызвана значная колькасць заходніх беларусаў. Пасля ўсеагульнай мабілізацыі, якая была праведзеная ў канцы жніўня 1939-га, у шэрагі Войска Польскага былі залічаныя каля 70 тысяч салдат беларускай нацыянальнасці.

Мабілізацыйныя цэнтры на тэрыторыі Заходняй Беларусі знаходзіліся ў Гродна (штаб ваеннага акругі DOK III) і Брэсце над Бугам (штаб акругі DOK IX). Большасць нашых суайчыннікаў апынуліся ў 79-м пяхотным палку імя Льва Сапегі, 80-м палку навагрудскіх стралкоў (абодва да вайны былі раскватараваныя ў Слоніме) і 78-м пяхотным палку з Баранавічаў. Усе гэтыя вайсковыя адзінкі ўваходзілі ў склад 20-й дывізіі пяхоты Войска Польскага. У польскіх вайсковых колах яе неафіцыйна называлі «беларускай».

Дакументальныя крыніцы сведчаць, што мабілізацыя на тэрыторыі, дзе жылі беларусы, праходзіла вельмі паспяхова, і не выклікала ўскладненняў. Так, капітан палка «Глыбокае» Корпуса аховы памежжа Ян Віткоўскі ўспамінаў, што беларускія рэзервісты ішлі ў полк з энтузіязмам. І гэта ва ўмовах, калі антыпольская агітацыя савецкіх агентаў, якія дзейнічалі ў заходнебеларускіх ваяводствах ІІ Рэчы Паспалітай, дасягнула свайго піку.

Неўзабаве пасля заканчэння фармавання 20-я дывізія пяхоты (камандуючы дыпламаваны палкоўнік Вільгельм Лішка-Лавіч) была накіравана ў раён польскага горада Млава, на мяжу з Усходняй Прусіяй. Палякі не без падстаў лічылі, што ў выпадку вайны менавіта з поўначы прыйдзецца чакаць найбольш моцны ўдар у напрамку Варшавы (Млава знаходзіцца ў 120 кіламетрах ад польскай сталіцы). Там жа быў раскватараваны і 20-ы полк артылерыі з Пружанаў. Польскія ўмацаванні ўяўлялі сабой дзве лініі бетонных ДАКаў (даўгатэрміновых агнявых кропак), а таксама супрацьтанкавыя загароды.

1 верасня 1939 года на Млаўскі ўмацаваны раён абрынуўся град снарадаў і бомбаў. «Беларускай» дывізіі Войска Польскага прыйшлося стрымліваць удар шматкроць праўзыходзячай яе 3-й арміі вермахта (камандуючы генерал Георг фон Кюхлер), якая складалася з 11-й і 61-й пяхотных дывізій, а таксама танкавай дывізіяй «Kempf».

Нямецкая артылерыя нанесла масіраваны ўдар па чыгуначнай станцыі ў Млаве і мастам праз раку Млаўку. Ужо ў 4.40 1 верасня з перадавых польскіх пазіцый у раёне населеных пунктаў Бялуты і Нажымы прыйшла дэпеша, што польскія падраздзяленні ўступілі ў бой з нямецкімі бранятанкавымі часткамі і мотапяхотай. Камандаванне дывізіі загадала знішчыць усе масты ў гэтым раёне, што было зроблена неадкладна.

У 5.45 нямецкая артылерыя пачала двухгадзінную артпадрыхтоўку. Паводле ўспамінаў відавочцаў, шчыльнасць артылерыйскага агню была такой, што польскія акопы першай лініі на некаторых участках былі практычна цалкам знішчаныя. Але беларусы трымаліся. Артылерысты з Пру-

жанаў адкрылі агонь у адказ, накрываючы нямецкія штурмавыя групы, якія спрабавалі прабіць праходы для сваіх танкаў і пяхоты. Неўзабаве часткі 11-й нямецкай пяхотнай дывізіі атакавалі пазіцыі 80-га пяхотнага палка польскага войска.

10 нямецкіх батальёнаў пры падтрымцы 45 танкаў пайшлі ў лабавую атаку на падраздзяленні Войска Польскага. Але, нягледзячы на відавочную колькасную перавагу праціўніка, беларускія жаўнеры некалькі разоў пераходзілі ў контратакі і адкідвалі немцаў, пры гэтым было падбіта 6 нямецкіх танкаў. У хуткім часе была адбітая і другая атака гітлераўцаў.

Гэтак жа беспаспяхова фашысты штурмавалі і пазіцыі 78-га і 79-га пяхотных палкоў. Аднак на ўсходнім крыле нямецкай 12-й пяхотнай дывізіі (камандуючы генерал-лейтэнант Альберт Водрыг) атрымалася зламаць супраціў польскай Мазавецкай брыгады кавалерыі. Дыпламаваны палкоўнік Ян Карч, які камандаваў гэтай часткай, без дазволу камандавання самавольна адвёў свае войскі на другую лінію абароны. Падраздзяленні Войска Польскага з Заходняй Беларусі не адступілі ні на крок.

2 верасня нямецкія пехацінцы працягвалі беспаспяхова атакаваць пазіцыі 80-га пяхотнага палка Войска Польскага. Жаўнераў са Слоніма абстрэльвалі з артылерыі і танкаў. Увесь час на польскія пазіцыі пікіравалі нямецкія бамбардзіроўшчыкі «Штукі». Увечары немцы пайшлі на рашучы штурм пазіцый 78-га пяхотнага палка, але ім насустрач, у штыкавую, пайшлі беларускія хлопцы. Нямецкая атака ў чарговы раз была адкінутая.

На наступны дзень часткі 1-й і 12-й дывізіі пяхоты вермахта паспрабавалі прарваць абарону польскай арміі ў раёне Жагнова і абысці Млаўскі ўмацаваны ўчастак з усходу. Немцы змаглі пацясніць падраздзяленні 79-га пяхотнага палка і захапіць польскія пазіцыі на Гуры Каменскай. Увечары рэшткі польскага палка адступілі на другую лінію ўмацаванняў. У ноч з 2 на 3 верасня нямецкія часткі адціснулі польскую Мазавецкую брыгаду кавалерыі далей на Поўдзень.

3 верасня немцы змаглі толькі нязначна прасунуцца на ўсходнім крыле абароны палякаў. 8-я дывізія пяхоты Войска Польскага спрабавала контратакаваць немцаў, але гэта не прынесла поспеху. У прарыў немцы кінулі танкі. З'явілася пагроза акружэння асноўных частак 20-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага, якія абараняліся пад Млавай. У ноч з 3 на 4 верасня 1939 года камандуючы арміяй «Модлін», у склад якой уваходзіла «беларуская» дывізія, аддаў загад аб пачатку адступлення польскіх частак у бок Варшавы.

На працягу 4 верасня ў ДАКах Млаўскага ўмацаванага ўчастку адступленне польскіх частак прыкрывалі падраздзяленні, выдзеленыя з «беларускіх» палкоў. Усе яны гераічна загінулі, але затрымалі надыходзячыя нямецкія войскі і далі магчымасць часткам 20-й дывізіі адысці. За час бітвы пад Млавай немцы страцілі забітымі 1800 чалавек, а параненыя былі 4 тысячы. Страты Войска Польскага склалі 1200 забітых і 1500 параненых. Немцы, нягледзячы на перавагу ў жывой сіле і тэхніцы, так і не змаглі адразу ўзяць пазіцыі 20-й «беларускай» дывізіі Войска Польскага. Нямецкія афіцэры ў сваіх мемуарах прысвояць гэтай баявой адзінцы польскай арміі эпітэт «жалезная».

## Верасень 1939-га. Забытая абарона Брэсцкай крэпасці

Брэсцкая крэпасць абаранялася ад наступаючых нацысцкіх войскаў не толькі ў 1941-м. У верасні 1939 года ў цытадэлі мужна змагаліся з нацыстамі жаўнеры Войска Польскага, сярод якіх было шмат жыхароў Заходняй Беларусі.

У 1922 годзе тэрыторыя II Рэчы Паспалітай была падзеленая на 10 вайсковых карпусных акруг. У склад IX акругі ўваходзіла частка Беластоцкага, Навагрудскага, Люблінскага і амаль усё Палескае ваяводства. На гэтай тэрыторыі дыслакаваліся 9-я, 20-я, 30-я пяхотныя дывізіі, 9-я брыгада кавалерыі, Пінская рачная флатылія, брыгада Корпусу аховы памежжа «Палессе». Цэнтрам акругі была Брэсцкая крэ-

пасць, якая ў вайсковых дакументах называлася *«ўмацаваным лагерам Брэст»*.

Польскія вайсковыя ўлады правялі частковую рэканструкцыю крэпасці. На тэрыторыі цэнтральнага вострава размяшчаліся будынкі камандавання. Паўночны востраў, на якім знаходзіліся Валынскія ўмацаванні, атрымаў назву Шпітальнага. Тут знаходзіўся акруговы шпіталь. Заходні востраў быў названы Лётным. У 1938 годзе сюды з Пінску планавалася перавесці галоўную базу Пінскай флатыліі. У былым форце «Граф Берг», які палякі перайменавалі ў «Форт Сікорскага», дыслакаваўся дывізіён 9-га палка цяжкай артылерыі. У Кобрынскіх умацаваннях у 1921 годзе быў створаны вайсковы следчы ізалятар.

Менавіта тут у 1930 годзе знаходзіліся некалькі дзясяткаў польскіх апазіцыйных палітыкаў, арыштаваных па загадзе Юзафа Пілсудскага. На вуліцы 3 мая (зараз Пушкінская), размяшчаліся казармы танкістаў, а таксама тэхнічныя майстэрні 4-га танкавага батальёну і 9-га аўтамабільнага дывізіёну. У сярэдзіне 1930-х гадоў у каля Брэста быў створаны Цэнтр падрыхтоўкі жаўнераў супрацьпаветранай абароны Траўгутава. Тут дыслакаваўся 9-ы дывізіён СПА і школа падхарунжых.

У 1938 годзе польскія ўлады стварылі Музей крэпасці, у якім экспанаваліся артэфакты, знойдзеныя на тэрыторыі крэпасці. Сярод экспанатаў быў і стол, за якім падпісвалася Брэсцкая мірная дамова ў сакавіку 1918 года. Сувязь з горадам адбывалася пры дапамозе вузкакалейнай чыгункі. Рэйкі праходзілі па вуліцы Люблінскай уніі (зараз Леніна) ад будынка ваяводскай управы (зараз гарвыканкам) да вуліцы Ягелонскай, а адтуль — да станцыі ў цытадэлі.

У канцы 1930-х гадоў найбольш верагодным праціўнікам Чырвонай Арміі ў будучай вайне Крэмль разглядваў менавіта Войска Польскае, і ў гэтым сэнсе пад увагу бралася і Брэсцкая крэпасць. У сваю чаргу, у II Рэчы Паспалітай таксама рыхтавалі абарончы план на выпадак вайны з усходнім суседам, аднак цытадэль на Бугу ў ім ужо не адыгрывала вялікай стратэгічнай ролі. У Варшаве разумелі, што Брэсцкая крэпасць — гэта перш за ўсё вялікі вайсковы гарнізон. А для

стратэгічнай абароны больш прыдатным, па меркаванні польскіх генералаў, быў Баранавіцкі ўмацаваны ўчастак.

Увесну 1939 года, падчас прыхаванай мабілізацыі, камандуючы IX карпусной акругай, брыгадны генерал Францішак Клееберг атрымаў загад падрыхтаваць і накіраваць на захад асноўныя вайсковыя часткі, якія дыслакаваліся ў акрузе. 23 жніўня ў Польшчы пачалася ўсеагульная мабілізацыя, а камандаванне IX акругі атрымала загад забяспечыць мабілізацыйны працэс і рыхтаваць рэзервы для дзеючай арміі.

З першага дня Другой сусветнай вайны на горад і крэпасць пасыпаліся бомбы. «Люфтвафэ» бамбіла чыгуначны вузел, масты праз Буг і Мухавец, казармы 35-га і 82-га пяхотных палкоў у Граеўцы. Хутка быў выдадзены загад аб эвакуацыі з крэпасці сямей вайскоўцаў і цывільнага персаналу. 7 верасня 1939 года на Брэст і крэпасць адбыўся адзін з самых моцных авіяналётаў, у якім удзельнічала 15 нямецкіх самалётаў.

Найбольш людзей загінула на брэсцкіх вуліцах Міцкевіча, Дамброўскага і 3-га мая. У гэты ж дзень у крэпасць прыбыла стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага маршала Эдварда Рыдз-Сміглы. Не выключана, што авіяналёт быў звязаны менавіта з гэтым. Праўда, ужо ў ноч з 11 на 12 верасня галоўнакамандуючы эвакуяваўся з Брэста ва Уладзімір-Валынскі. Разам з vip-калонай Брэст пакінула і частка батарэі 9-га дывізіёну артылерыі СПА. 13 верасня штаб генерала Клееберга быў перанесены ў Пінск.

Брэсцкая крэпасць была выключаная са складу тылавых раёнаў і стала раёнам баявых дзеянняў. Камандаванне карпусной акругі IX атрымала загад аб стварэнні заслоны на лініі Брэст–Пінск. Клееберг неадкладна прыступіў да арганізацыі абароны і пачаў збіраць усе наяўныя сілы ў адзін кулак. Так была створана аператыўная група «Палессе». Камандуючым абаронай Брэсцкай крэпасці быў прызначаны брыгадны генерал Канстанты Плісоўскі.

Да 12 верасня ў цытадэлі на Бугу знаходзіліся, у асноўным, маршавыя часткі пяхотных палкоў, ахоўныя падраздзяленні, а таксама вялікая колькасць рэзервістаў, якія чакалі адпраўкі на фронт. Усяго ў крэпасці налічвалася ад 2 да 4 тысяч жаўнераў і афіцэраў. Пацверджанне таму, што ў ве-

расні 1939-га асноўную частку гарнізона Брэсцкай крэпасці складалі беларусы і ўкраінцы, мы знаходзім у працы польскага гісторыка Юліўша Тыма, які адзначае, што абвяшчэнне ўсеагульнай мабілізацыі прывяло да таго, што гарнізон Брэсцкай крэпасці быў папоўнены значнай колькасцю рэзервістаў са складу мясцовых жыхароў. А ўсеагульная мабілізацыя ў жніўні прывяла да яшчэ большага прытоку мясцовых рэзервістаў.

У выпадку страты перадавых пазіцый, гарнізону крэпасці прадпісвалася падарваць усе масты і заняць абарону ў цытадэлі.

Па стане на 14 верасня 1939 года гарнізон крэпасці складаўся з:

1) маршавага батальёна 33-га палка пяхоты з Ломжы (няпоўнага складу) пад камандаваннем капітана запасу Юзафа Шчупака;

2) маршавага батальёна 34-га палка пяхоты з Бяла-Падляскі пад камандаваннем капітана Тадэвуша Радзішэўскага;

3) маршавага батальёна 35-га палка пяхоты з Брэста пад камандаваннем капітана Здзіслава Бачынскага;

4) маршавага батальёна 82-га палка пяхоты з Брэста пад камандаваннем Вацлава Радзішэўскага;

5) 49-га дывізіёна палявой артылерыі пад камандаваннем маёра Станіслава Камарніцкага;

6) 3-й артылерыйскай батарэі СПА, сфарміраванай у 9-м артылерыйскім дывізіёне СПА ў Траўгутава;

7) 56-га сапёрнага батальёна;

8) 112-й і 113-й танкавых рот (танкі Рэно ФТ–17, танкеткі ТКС);

9) 9-га аўтамабільнага дывізіёна з Брэста пад камандаваннем маёра Уладзіслава Яскульскага;

10) роты сувязі пад камандаваннем падпаручніка рэзерву Люцыяна Слівінскага;

11) 81-га і 82-га ахоўных батальёнаў.

У распараджэнні абаронцаў крэпасці было 12–16 старых танкаў «Рэно», 18 палявых гармат, 8 зенітных гармат, 16 станковых кулямётаў. Гарнізон Брэста меў 2,5 мільёна штук боепрыпасаў для стралковай зброі, 7632 штук ручных гранат,

1920 супрацьтанкавых снарадаў калібру 37 мм, 400 штук снарадаў для зенітных гармат, 16 200 штук снарадаў калібру 75 мм, 4800 штук снарадаў калібру 100 мм, 3034 снарады калібру 105 мм і, нарэшце, 574 снарады калібру 155 мм. Крыху пазней абарону крэпасці ўзмацнілі два бронецягнікі — «Смелы» і «Барташ Главацкі».

На паўночным участку каля Брэсцкіх варот абарону заняў маршавы батальён 33-га пяхотнага палка і часткі аховы, на ўсходнім — маршавы батальён 82-га палка. Заходні ўчастак, ля Тэрэспальскіх варот, абараняў батальён 34-га палка пяхоты і рота аховы. На поўдні, каля шпітальнай брамы, абарону трымаў маршавы батальён 35-га палка. Галоўныя сілы артылерыі засяродзілі на паўночным участку абароны. У раёне следчага ізалятара «Брыгідкі» размясцілі ўмацаваны артылерыйскі пункт 3-й батарэі СПА. На валах былі створаныя акопы і размешчаныя кулямёты. Танкі «Рэно» ўкапалі, ператварыўшы іх у доўгачасовыя агнявыя кропкі. Некалькімі танкамі забарыкадавалі ўязныя брамы.

Наступ на Брэст вёў XIX танкавы корпус Хайнца Гудэрыяна. Яго мэтай было авалоданне горадам і крэпасцю Брэст з наступным развіццём наступу ў кірунку Ковеля. Гэтыя дзеянні павінны былі прывесці да поўнага акружэння польскай арміі на лініі Буга паміж Брэстам і Холмам. Каб скаваць манеўр немцаў, генерал Плісоўскі накіраваў на ўсход бронецягнік № 55 «Барташ Главацкі», які ў раёне Жабінкі выгрузіў танкеткі ТКС. Тыя, у сваю чаргу, правялі выведку ў раёне мосту праз Мухавец, аднак хутка сутыкнуліся з нямецкімі танкамі з 3-й танкавай дывізіі.

Падчас бою тры ТКС былі знішчаныя, а дзве змаглі адысці. Немцы спрабавалі пераследаваць, аднак напароліся на загараджальны агонь «Барташа Главацкага». У гэты ж час другі бронецягнік «Смелы» пад камандаваннем беларуса, капітана Мечыслава Маліноўскага праводзіў выведку ў накірунку Высокага і сутыкнуўся там з танкамі 10-й нямецкай танкавай дывізіі. Экіпаж бронецягніка адкрыў ураганны агонь па немцах і прымусіў іх адступіць. Аднак хутка немцы захапілі Брэсцкі чыгуначны вакзал, і генерал Плісоўскі аддаў загад бронецягнікам адступіць у кірунку Ковеля.

Увечары 13 верасня з боку Відамля да Брэста пад'ехалі чатыры нямецкія танкі. Супраціву не было, і Гудэрыян зразумеў, што абарону па лініі знешніх фартоў крэпасці не зладзілі. 14 верасні нямецкія часткі авалодалі Брэстам і пачалі хуткае прасоўванне ўглыб. На падыходзе да цытадэлі палякі зрабілі засаду з замаскіраваных гармат капітана Тадэвуша Янішэўскага. Калі нямецкія танкі апынуліся на адлегласці 80 метраў ад агнявых пазіцый палякаў, тыя адкрылі агонь.

Вось як гэты бой апісваў адзін з салдат нямецкай 10-й танкавай арміі:

*«Мы рушылі далей на Брэст. 20 км. Гэта як скачок ката. Капітана распірае ад захаплення. Раніцай ён сказаў сапёрам, што хоча заняць крэпасць. Рашучыя дзеянні, на яго думку, могуць зламаць нават колькасную перавагу праціўніка. Натуральна, сапёры лепей за ўсіх падыходзілі для рэалізацыі гэтага плана. Яны чортавы мужыкі, вопытныя майстры ў абыходжанні з выбухоўкай і знаёмыя з усялякімі тэхнічнымі фокусамі. Абвешаныя мяшкамі, поўнымі ручных гранат, яны занялі па двое месцы на танках. Сядзелі на брані. Гэтыя салдаты годныя павагі, яны хацелі быць сярод першых заваёўнікаў Брэста.*

*Нарэшце мы былі ў горадзе. Дзе да чорта гэтая крэпасць? Цытадэль было цяжка пазнаць, звонку яна аточаная дрэвамі і была акружана паркамі і плошчамі. Вось і галоўная дарога. Адно было дрэнна ў ёй. Яна прамая, як свечка. На ёй было ўсё відаць здалёк, задоўга да таго, як сам каго-небудзь убачыш. Толькі гэтая думка ўзнікла ў галаве, а ўжо загрымела польская гармата. Снарад ударыў у вежу камандзірскага танка. Яго дэтанацыя абсыпала градам аскепкаў абодвух сапёраў. Яны былі забітыя і ўпалі на дарогу. Другі стрэл з польскай гарматы, якая, хутчэй за ўсё, была добра прыстраляная, слізгануў па вежы другога танка. Абодва сапёры, якія сядзелі там, таксама былі забітыя, а іх гранаты здэтанавалі. Гарматы палякаў стралялі па вельмі нізкай траекторыі, пад дрэвамі. Наш танк стрэліў у бок крэпасці, але траекторыя снарада была занадта крутой. Снарады зрывалі лісце з дрэў і разрываліся сярод галін. У бакавым завулку капітан і фельдфебель выбеглі з танка, заляглі і праз бінокль хацелі вызначыць*

*пазіцыю польскіх гармат. Але неўзабаве каля іх сталі рвацца снарады. Палякі так добра прыстраляліся, што адразу пасылалі снарад туды, дзе нехта спрабаваў высунуцца. Адзін матацыкліст, якога не паспелі папярэдзіць, нёсся па дарозе. Яму крычалі. Ён быццам бы чуў, але чарговым снарадам матацыкл быў разбіты. Нам давялося шукаць новы напрамак для наступу».*

А так тыя падзеі апісваў камандзір кулямётнага ўзвода, капрал Войска Польскага, беларус Міхаіл Семянюк:

*«Першы раз германец ударыў ноччу. З боку горада пайшлі танкі і пяхота. Яны скінулі нашых са знешніх валоў крэпасці, але далей прасунуцца не змаглі. Раніцай пачаўся артылерыйскі абстрэл. Гэта быў існы кашмар. Фугасы проста пераворвалі цытадэль. Потым немцы зноў пайшлі ў атаку. Нашы кулямёты выгадна стаялі на абсталяваных пазіцыях і «рэзалі» нямецкую пяхоту кінжальны агнём. Аднак і ў крэпасці рваліся снарады. Ад абстрэлу загінула шмат нашых людзей. Шкада, баявыя былі хлопцы, як адзін, уставалі ў атаку. Уначы я разам з таварышамі падбіраў і вёз забітых за раку, на Тэрэспаль. Тэрэспальскім мост мы ўтрымлівалі да апошняга».*

14 верасня 1939 года 3-я нямецкая танкавая дывізія захапіла Жабінку і ўступіла ў боесутыкненне з абаронцамі Кобрына. 20-я матарызаваная дывізія вермахта рухалася ад Воўчына ў накірунку Брэсцкай крэпасці. 10-я танкавая дывізія наступала ўздоўж шашы Чарнаўчыцы–Брэст. Супраць 154 танкаў і 57 браневікоў немцаў польскія абаронцы цытадэлі на Бугу маглі супрацьпаставіць 57 супрацьтанкавых ружжаў, 18 палявых і 8 супрацьпаветраных гармат. Галоўны штурм немцы распачалі 15 верасня. Салдатам 20-й пяхотнай дывізіі вермахта ўдалося прарвацца ў цытадэль з боку Брэсцкіх варот. Абаронцы крэпасці выкацілі гарматы і зеніткі на прамую наводку і спрабавалі стрымаць наступаючых гітлераўцаў.

Лейтэнант вермахту Фрам прыгадаў той бой:

*«Палякі спрабавалі пад прыкрыццём кулямётнага агню расстаўляць свае гарматы, але наш кулямёт расстрэльваў усе іх разлікі, адзін за другім. Аднак усё новыя і новыя жаўнеры ў аліўкавых мундзірах выходзілі з казематаў і беглі ў бок*

*гармат. Калі мы выкарысталі ўсе патроны і гранаты, нам трэба было адысці. І тут з лініі польскіх акопаў, якая засталася ў нас за спінамі, зноў пачаўся смяротны абстрэл. Вораг дабраўся туды праз нейкія, не вядомыя нам, пераходы. Тады мы страцілі шмат добрых жаўнераў».*

Цытадэль гарэла, не было сувязі, колькасць параненых і забітых кожную хвіліну павялічвалася. Параненых размяшчалі ў будынку шпіталя, а таксама эвакуявалі ў Тэрэспаль. 16 верасня ў небе над крэпасцю з'явіліся нямецкія бамбардзіроўшчыкі «Штука». Бамбёжка была жудаснай.

Вось як гэтыя падзеі апісвае Міхаіл Семянюк:

*«У нас засталося толькі пяць ствалоў артылерыі, казематы і падвалы былі перапоўнены паранёнымі. Каля 10-ці раніцы пачаўся новы штурм. Два нямецкія батальёны, узмоцненыя танкамі, атакавалі ўмацаванні паблізу Брэсцкіх варот. Частка валоў была страчана. Адчайныя спробы адбіць іх поспеху не мелі».*

Жорсткі бой у той дзень адбыўся ля Брэсцкай брамы. Менавіта там польскі снайпер забіў ад'ютанта камандуючага 19-м корпусам падпалкоўніка Браўбаха. 69-ы пяхотны полк вермахта падчас гэтых баёў панёс значныя страты.

За час баёў з 14 па 16 верасня абаронцам Брэсцкай крэпасці давялося адбіць 7 нямецкіх атак. У гэтых баях загінула да 40 працэнтаў гарнізона. Каля 18.00 16 верасня генерал Плісоўскі аддаў загад аб прарыве з крэпасці ў бок Тэрэспаля, які яшчэ не быў захоплены немцамі. Праз Сапёрную браму і Лётны востраў цытадэль пакінулі парэшткі маршавых батальёнаў 33-га, 34-га, 35-га пяхотных палкоў, ахоўныя батальёны, артылерысты, 1-я рота сапёраў. Каля 2000 жаўнераў, якім удалося вырвацца з атачэння, пад камандаваннем палкоўніка Алоіза Хорака, працягнулі баявыя дзеянні супраць нацыстаў на Любліншчыне і змагаліся да кастрычніка 1939 года.

У 8.30 17 верасня 1939 года пасля артпадрыхтоўкі немцы пайшлі на чарговы штурм цытадэлі. Параненыя вайскоўцы, якія знаходзіліся ў крэпасці, а таксама персанал шпіталя былі ўзятыя ў палон. Усяго пасля заканчэння штурму цытадэлі ў руках нацыстаў апынулася каля 1300 жаўнераў Войска

Польскага. Але здаліся не ўсе. У адным з фортаў камандзір маршавага батальёна 82-га палка капітан Вацлаў Радзішэўскі са сваімі людзьмі вырашыў да канца абараняць цытадэль.

Батальён Радзішэўскага складаўся ў тым ліку і з рэзервістаў-беларусаў, ні адзін з якіх не пажадаў пакінуць свайго камандзіра — яны змагаліся за сваю зямлю. Рэшткі гэтай вайсковай адзінкі ў перыяд з 17 па 26 верасня 1939 года аказалі ўпартае супраціўленне немцам, а затым і часткам Чырвонай Арміі. У ноч з 26 на 27 верасня капітан з невялікай групай абаронцаў пакінуў крэпасць і накіраваўся да вёскі Муравец. Неўзабаве пасля гэтага Вацлаў Радзішэўскі быў арыштаваны НКУС і ў красавіку 1940 года расстраляны ў Катыні. Такі ж лёс нападкаў і камандуючага абаронай Брэсцкай крэпасці генерала Канстанту Плісоўскага. Пасля адыходу з Брэста ён трапіў у савецкі палон і апынуўся ў Старабельскім лагеры. У красавіку 1940 года Плісоўскага расстралялі ў будынку харкаўскага ўпраўлення НКУС.

17 верасня 1939 года савецка-польскую мяжу перайшлі часткі Чырвонай Арміі. Ужо ўвечары таго ж дня танкі з чырвонымі зоркамі ўвайшлі ў Баранавічы, а праз два дні 29-я танкавая брыгада заняла Пружаны.

22 верасня савецкія падраздзяленні ўвайшлі ў Брэст. Камандзір 29-й брыгады Чырвонай Арміі Сямён Крывашэін прыгадваў: «*У цэнтры Брэста, у будынку ваяводскай адміністрацыі, знаходзіўся штаб Гудэрыяна. Камендант горада пайшоў далажыць аб маім прыбыцці. Я чакаў каля 10 хвілін у зале з прыгожымі партрэтамі польскіх гетманаў. З'явілася група афіцэраў, сярод якіх быў малы, сухі генерал. Ён стаў у трох кроках перад мной і сказаў, што ў маёй асобе вітае Чырвоную Армію. Пазней Гудэрыян прапанаваў арганізацыю парада, сумеснага. Мы былі стомленыя і брудныя пасля доўгага маршу, і я адмовіўся. Але нарэшце дамовіліся аб тым, што я вылучу для ўдзелу ў сумесным парадзе аркестр і батальён танкаў Т–26. Гудэрыян прасіў, каб мы разам стаялі на трыбуне. Мы так і зрабілі*».

А 16-й гадзіне 22 верасня 1939 года на вуліцы Люблінскай уніі адбыўся парад «пераможцаў». Перад трыбунай, на якой стаялі генерал Хайнц Гудэрыян і камбрыг Сямён Кры-

вашэін, прамаршыравалі спачатку нямецкія часткі (полк 20-й матарызаванай дывізіі вермахту, узвод матацыклістаў, два дывізіёны артылерыі), а пазней савецкія (аркестр, пяхота, артылерыя і некалькі танкаў).

Адзін з жыхароў Брэста, апісваючы, гэтую падзею, успамінаў: «*Спачатку прайшлі немцы. Вайсковы аркестр граў невядомы марш. Затым у небе з'явіліся нямецкія самалёты. Чырвонаармейцы ішлі ўслед за немцамі. Яны вельмі адрозніваліся ад германцаў: ішлі не ў нагу, рамяні мелі брызентавыя. Коні, якія цягнулі іх гарматы, былі малымі і з кепскай вупражжу. За савецкай артылерыяй ехалі гусенічныя трактары, якія цягнулі гарматы большага калібру, а далей ехалі танкі*».

У СССР пра гісторыю гэтай абароны Брэсцкай крэпасці не любілі згадваць. У Беларусі доўгі час пра тыя падзеі памяталі толькі жыхары горада на Бугу. Зараз гістарычная праўда пра абарону 1939 года вяртаецца з небыцця. Беларусам варта памятаць, што вялікую ролю ў той бітве адыгралі менавіта нашы суайчыннікі, ураджэнцы Заходняй Беларусі. Гэтыя жаўнеры да канца абаранялі сваю зямлю.

## Кобрын. Невядомая абарона 1939-га

Нават у маштабных даследаваннях гісторыкаў перыяду 1918–1939 гадоў практычна няма згадак пра бітву пад Кобрынам. А між тым гераізм салдат Войска Польскага, праяўлены ў той бітве, і іх трагічны лёс заслугоўваюць асаблівай увагі.

У сакавіку 1939 года 30-я Палеская дывізія пяхоты Войска Польскага, у склад якой уваходзіў 83-ці полк палескіх стралкоў імя Рамуальда Траўгута з Кобрына, была перадыслакаваная на рубеж ракі Варта і ўвайшла ў склад арміі «Лодзь» пад камандаваннем генерала Ю. Румеля.

Але і «ўсходнія ўскраіны» пакідаць безабароннымі польскае вайсковае кіраўніцтва не хацела, і ў гэтай сувязі на базе кожнага з перадыслакаваных пяхотных палкоў пачалі фармавацца рэзервовыя падраздзяленні з навабранцаў. Не выключэннем быў і полк з Кобрына.

Гісторыя гэтага злучэння бярэ свой пачатак яшчэ з часоў Грамадзянскай вайны ў Расіі, калі з аўстра-венгерскіх і нямецкіх палонных, якія мелі польскае паходжанне, быў створаны 2-гі стралковы полк Сібірскай дывізіі. У 1920 годзе гэта фарміраванне было перапраўлена ў Польшчу, дзе атрымала новую нумарацыю і перадыслакавалася ў Кобрын. 14 жніўня 1923 года палявы біскуп Войска Польскага Станіслаў Гал уручыў камандаванню палка сцяг. Паводле ўспамінаў ураджэнкі Кобрына Ангеліны Амельянюк, асабісты склад палка ў асноўным складаўся з мясцовых жыхароў, большасць з якіх былі па нацыянальнасці беларусамі, украінцамі і рускімі.

У верасні 1939 года частка рэзервістаў з Кобрына была адпраўлена ў Брэст, дзе знаходзіўся штаб IX карпуснай акругі. Крэпасць на Бугу рыхтавалася даць адпор нацысцкім захопнікам. Але да абароны рыхтаваўся і Кобрын. 8 верасня 1939 года камандуючы акругай брыгадны генерал Францішак Клееберг атрымаў ад галоўнакамандуючага польскай арміі маршала Рыдз-Сміглы загад сфармаваць пяхотную дывізію з падраздзяленняў, якія знаходзіліся ў запасных пунктах.

Так пачалося фармаванне пяхотнай дывізіі «Кобрын» пад камандаваннем палкоўніка Адама Эплера. У яе склад увайшлі: выведвальная рота, узвод веласіпедыстаў, узвод кавалерыі, амаль роўны па колькасці эскадрону, рота цяжкіх кулямётаў, тры конных абозы (збройны, транспартны, санітарны), палявы шпіталь, два батальёны 82-га пяхотнага палка (камандзір падпалкоўнік Ф. Таргоўскі), рэзервовыя часткі 83-га пяхотнага палка (падпалкоўнік В. Севярын), падраздзяленні 84-га пяхотнага палка (маёр Ю. Жылеўскі).

У Залессі, пад Кобрынам, быў сфармаваны 5-ы дывізіён лёгкай артылерыі, які складаўся з чатырох 75-міліметровых гармат і шасці 100-міліметровых гаўбіц. Акрамя гэтага, у склад дывізіі ўліліся часткі народнага апалчэння. Пазней дывізію «Кобрын» перайменавалі ў 60-ю рэзервовую дывізію пяхоты. Арганізацыйнай гатоўнасці гэта злучэнне дасягнула 14 верасні 1939 года.

Стратэгічнае значэнне Кобрына заключалася ў тым, што горад быў другім па значнасці чыгуначным вузлом Пале-

скага ваяводства. Тут праходзіла чыгуначная ветка Брэст–Пінск–Лунінец, а таксама важныя аўтамабільныя дарогі на Баранавічы і Ковель.

У ноч з 13 на 14 верасня генерал Клееберг перанёс штаб абароны Палесся ў Пінск у сувязі з набліжэннем нямецкіх войскаў да Брэсту. Дывізія «Кобрын» атрымала заданне арганізаваць абарону на захадзе ў раёне Відамлі, на ўсходзе ў раёнах Пружанаў і Гарадца. Пры гэтым асаблівая ўвага надавалася пераправам на Канале каралевы Боны і каля ракі Мухавец, у раёне чыгуначнага моста.

Хутка на шашы Брэст–Кобрын разведгрупа польскіх войскаў знішчыла адно з падраздзяленняў нямецкай 2-й матарызаванай дывізіі. Быў захоплены ў палон нямецкі афіцэр, а таксама карты і дакументы, дзякуючы якім штаб палкоўніка Эплера атрымаў найкаштоўнейшую інфармацыю аб планах вермахта па штурме Кобрына.

15 верасня па загадзе камандуючага аператыўнай групай «Палессе» (у склад якой уваходзіла дывізія «Кобрын») часткі 84-га пяхотнага палка Войска Польскага былі адпраўленыя на перакрыжаванне дарог Влодава–Кобрын і Брэст–Ковель, падраздзяленні 82-га палка занялі пазіцыі ад Каралеўскага канала да Кобрына, 83-ці полк абараняў Кобрын (раёны Губерня І і ІІ) і пераправы праз Канал каралевы Боны, батальён 79-га палка «абкапаўся» каля Гародлі.

У гэты ж дзень другі батальён 83-га палка, узмоцнены некалькімі 100-міліметровымі гаўбіцамі, высунуўся з Кобрына па брэсцкай шашы ў бок Трасцянка і заняў там пазіцыі на сухіх незабалочаных месцах. Астатняя артылерыя была размешчаная на іншых танканебяспечных участках. Камандны пункт дывізіі знаходзіўся ў Залессі.

Палкоўнік Эплер разумеў, што ў яго не хопіць сіл для арганізацыі пазіцыйнай абароны супраць наступаючых танкавых частак вермахта, і таму адзіным выхадам бачыў стварэнне рухомых атрадаў і максімальнае выкарыстанне натуральных прыродных перашкодаў. Так, дзякуючы таму, што своечасова былі перакрытыя шлюзы на каналах, штучна падняўся ўзровень вады ў рэках і балотах, што значна скавала магчымасць манеўру надыходзячых нямецкіх войскаў.

У самім Кобрыне праходзіла эвакуацыя дзяржаўных устаноў і мірнага насельніцтва. Зрэшты, бургамістр горада, адстаўны афіцэр Войска Польскага З. Зялкоўскі застаўся ў магістраце і падтрымліваў сувязь з часткамі польскай арміі, якія абаранялі Палессе. Авіяцыя люфтвафэ пастаянна ажыццяўляла налёты на горад. Асабліва моцныя бамбаванні зазнаў чыгуначны мост на Каралеўскім канале. У адзін з дзён на гэта інжынернае збудаванне было скінута больш за сотню авіябомбаў.

16 верасня 2-гі батальён 84-га пяхотнага палка польскага войска атакаваў батальён 3-й танкавай дывізіі вермахта, які спрабаваў фарсіраваць Мухавец. Немцы былі прыціснутыя да ракі і адступілі.

На наступны дзень 5-ы полк другой нямецкай матарызаванай пяхотнай дывізіі пад камандаваннем палкоўніка Хельмута Шлёмера ў раёне Жабінкі пераправіўся праз Мухавец і па шашы рушыў у бок Кобрына. Падпусціўшы непрыяцеля бліжэй, жаўнеры Войска Польскага абрынулі на немцаў град снарадаў. Ім удалося падбіць тры фашысцкія браневікі.

Вось як тыя гераічныя падзеі ўзгадвае жыхар Кобрына Н. Мурын:

*«16 верасня я ўбачыў узвод польскіх салдат. Яны з цяжкасцю цягнулі за сабой кулямёты на колах. Я ведаў іх камандзіра — ім быў афіцэр Карпінскі. Мне запомніліся яго словы: «Далей Кобрына не пайду. Мабілізуем мясцовае насельніцтва, будзем біцца. Тут і загіну». Стральба пачалася раніцай 17 верасня. Прагучалі адзінкавыя стрэлы карабінаў, застрачылі кулямёты, цяжка ляскатала артылерыя. Немцы занялі пазіцыі на старажытным Канале каралевы Боны. Іх артылерыя вяла інтэнсіўны агонь. Гляджу, ідуць гуськом польскія салдаты, паранены афіцэр наперадзе. Чую каманду: «Наперад!» Стала відавочна, што немцы імкнуліся выціснуць палякаў з ляску на адкрытае поле і перастраляць прамым агнём з браневікоў і танкаў. Каля шасці вечара салдаты Войска Польскага зноў пайшлі ў атаку. Бой працягваўся да глыбокай ночы».*

А вось як той жа бой апісваў камандзір аднаго з нямецкіх падраздзяленняў:

*«Мы апынуліся пад шчыльным агнём, практычна на адкрытым полі. Праціўнік бачыў усе нашы перамяшчэнні. Артылерысты з другога артылерыйскага палка пад камандаваннем лейтэнанта фон дэр Хейдта паспрабавалі разгарнуць гармату, але неўзабаве ўсе яны былі забітыя».*

Іншы салдат 5-га пяхотнага палка вермахта так успамінаў тую бітву:

*«Наша падраздзяленне ішло па правым баку дарогі, але было затрымана шчыльным кулямётным агнём палякаў. Мой камандзір паспрабаваў прыўстаць, каб паглядзець у бінокль, і тут жа атрымаў кулю ў галаву. Камандаванне прыняў сяржант Гротцэ, але неўзабаве і ён быў цяжка паранены. Застаўшыся без камандзіра, салдаты хаатычна сталі адступаць. На полі бою было пекла».*

Цэлы дзень другі батальён 83-га пяхотнага палка Войска Польскага трымаў абарону ў раёне вёсак Пяркі, Сухоўчыцы і Пяскі. Познім вечарам нямецкі штурмавы атрад уброд фарсіраваў раку Трасцянка каля вёскі Рыковічы і ўклініўся ў абарону польскага батальёна.

У вёсцы Пяркі камбат капітан Сціслоўскі разгарнуў частку сіл батальёна і контратакаваў. Стрэламі з гаўбіц салдатам Войска Польскага ўдалося падбіць некалькі бронемашын праціўніка. Ля вёскі Яголкі палякам таксама ўдалося спыніць нямецкі наступ. Пасля гэтых няўдач часткі вермахта вымушаныя былі адступіць да Жабінкі.

Палкоўнік Эплер разлічваў, што на поўдзень ад Кобрына знаходзяцца польскія войскі, якія змогуць спыніць наступ немцаў у гэтым кірунку. Але неўзабаве з Пружанаў прыйшло паведамленне, што, акрамя абозаў і рэшткаў разбітай немцамі аператыўнай групы «Нараў», больш польскіх частак там няма. Эплер зразумеў, што дывізія «Кобрын» павінна разлічваць толькі на ўласныя сілы. Ён аддаў загад перакінуць батальён 79-га пяхотнага палка на самы небяспечны — заходні — участак абароны.

Неўзабаве пасля моцнай артпадрыхтоўкі (немцы падцягнулі батарэі цяжкіх 150-міліметровых гаўбіц) 2-я нямецкая матарызаваная дывізія зноў пачала наступ на горад. Кобрын гарэў. З'явілася і авіяцыя люфтвафэ. Здавалася, што

пасля такіх налётаў у польскіх акопах не можа застацца ні адной жывой душы, але якое было здзіўленне немцаў, калі ля Канала каралевы Боны і фальваркаў Губерня І і ІІ яны зноў сустрэлі адчайны супраціў байцоў 83-га пяхотнага палка.

Польскія артылерысты падбілі некалькі нямецкіх танкаў і бронемашын. Сярод салдат Войска Польскага было шмат беларусаў, смеласці якіх дзівіліся як ворагі, так і іх польскія камандзіры. Жаўнеры некалькі разоў падымаліся ў адчайныя штыкавая атакі.

Палкоўнік Адам Эплер прыгадваў тую бітву: «*Наш салдат змагаецца адважна. Пяхотнікі раз-пораз падымаюцца ў контратакі і выбіваюць праціўніка з іх пазіцый*».

У бітве за Кобрын гераізм праявілі не толькі салдаты, але і добраахвотная рота, сфармаваная з навучэнцаў кобрынскай гімназіі, якія прайшлі дапрызыўную падрыхтоўку, а таксама салдат Акадэмічнага легіёна. Многія з гэтых юнакоў і дзяўчат назаўсёды засталіся на палях пад Кобрынам.

Не вытрымаўшы настолькі жорсткага супраціву, немцы адступілі. Адзін з салдат вермахта, якія засталіся жывымі ў баі за Кобрын, пазней запіша ў сваім дзённіку: «*З нас, мабыць, няма ні аднаго, хто б не аддаў належнае мужнасці і адвазе жаўнераў, якія абаранялі гэты горад*».

У сваіх мемуарах «Запіскі салдата» геній танкавых атак Хайнц Гудэрыян напіша пра тое, што яго часткам «*давялося весці цяжкія баі пад Кобрынам*». У гэтай бітве немцы панеслі значныя страты: некалькі сотняў забітых, велізарная колькасць параненых і мноства падбітай тэхнікі. Зыход бітвы за палескі горад прадвызначыў распачаты 17 верасня 1939 года «вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь». Неўзабаве абаронцы горада атрымалі загад пакінуць пазіцыі і эвакуявацца ў паўднёвым кірунку.

Страты польскіх войскаў склалі, па розных дадзеных, каля 150 забітых і дзве разбітыя гарматы. Загінулых абаронцаў Кобрына мясцовыя жыхары пахавалі ў брацкіх магілах на тэрыторыі горада. Адзін з відавочцаў Фёдар Козел успамінаў, што гукі бою і дым пажараў даходзілі да вёскі Зосіны, што знаходзілася амаль у 11 кіламетрах ад Кобрына. Сярод забітых на польскіх пазіцыях было шмат грама-

дзянскіх асоб, нават у касцюмах і пры гальштуках. Каля іх ляжалі вінтоўкі. У гарадскім парку, дзе была сядзіба Тадэвуша Зялінскага, ляжалі абгарэлыя чалавечыя целы. Загінуў і сам гаспадар сядзібы. Калі немцы ўвайшлі ў яго дом, Зялінскі адкрыў агонь па іх з паляўнічай стрэльбы, забіў афіцэра, але тут жа быў застрэлены.

Адразу ж пасля баёў ксёндз-дэкан мясцовага касцёла Вольскі склаў спіс загінулых пры абароне Кобрына салдат Войска Польскага. Гэты дакумент захаваўся да нашых дзён. Сярод абаронцаў палескага горада было шмат ураджэнцаў Заходняй Беларусі: Рыгор Бутэнін, Станіслаў Міранчук, Аляксей Налівайка, Віктар Базеў, Дзмітрый Багамар, Максім Брудскі, Васіль Дзеранчук, Павел Хілько, Барыс Карабко, Павел Панасюк і многія іншыя. Усе гэтыя людзі да канца абаранялі сваю зямлю.

* * *

Падчас пошукавых работ, праведзеных у 2008 годзе салдатамі 52-га пошукавага батальёна беларускай арміі ў Кобрыне, на тэрыторыі могілак ля Петра-Паўлаўскай царквы, у неабазначанай брацкай магіле былі знойдзены парэшткі абаронцаў горада, якія загінулі ў верасні 1939 года ў баях з вермахтам. Байцы Войска Польскага былі пахаваныя ў поўным абмундзіраванні, касках. Па знойдзеных салдацкіх жэтонах былі ўстаноўлены імёны некаторых салдат, пахаваных там. Адным з іх з'яўляўся Эварыст Зайкоўскі. У 1939 годзе яму было 28 гадоў. Малады настаўнік, прыгожая жонка, дачка, заможныя бацькі. Усю гэтую ідылію разбурыла вайна. Бацька прапаноўваў яму пакінуць краіну, але Эварыст адказаў: «*Калі ўсе вось так паедуць, хто ж будзе бараніць Радзіму?*»

Вестку пра гібель Эварыста Зайкоўскага яго жонка атрымала толькі 15 лютага 1941 года. Ксёндз з Кобрына напісаў ліст, у якім паведаміў, што яе муж загінуў 17 верасня 1939 года і пахаваны ў брацкай магіле. Пры ім было знойдзена пасведчанне настаўніка.

На перапахаванні астанкаў прысутнічала дачка і ўнучка Эварыста Зайкоўскага. Жанчыны не маглі стрымаць слёз.

Яны дзякавалі беларусам за тое, што тыя вярнулі з небыцця іх бацьку і дзеда. 13 верасня 2008 года знойдзеныя парэшткі польскіх вайскоўцаў, якія загінулі пры абароне горада, былі ўрачыста перапахаваныя ў Кобрыне.

## Гераізм асуджаных

Неўзабаве пасля пераходу савецкімі часткамі польскай мяжы 17 верасня 1939 года быў выдадзены загад галоўнакамандуючага маршала Рыдз-Сміглы, які прадпісваў польскім войскам не аказваць супраціў Чырвонай Арміі і адступаць у напрамку мяжы з Румыніяй і Венгрыяй. Але савецкае камандаванне не збіралася адпускаць баяздольныя польскія падраздзяленні, і пры любой магчымасці чырвонаармейцы бралі іх у палон, а пры аказанні супраціву — знішчалі.

Ужо 18 верасня 1939 года камандуючы польскім Корпусам аховы памежжа (КАП) брыгадны генерал Вільгельм Орлік-Рукеман выдаў загад, у якім вызначыў шляхі адступлення польскіх памежнікаў з Заходняй Беларусі. Так, брыгада КАП «Палессе» павінна была адыходзіць у кірунку Сянкевічы — Лунінец — Масты Валанскія — Плотніца, батальён КАП «Давыдгарадок» і камандаванне корпуса ў кірунку Столін–Морачна, нарэшце, полк КАП «Сарны» — у накірунку Сарны — Перыкалы — Кухецка Воля.

Прасоўваючыся да месца канцэнтрацыі, памежнікам пастаянна даводзілася весці баі з часткамі Чырвонай Арміі. Актыўнасць праяўляла і савецкая авіяцыя. Да 21 верасня 1939 года большасць частак КАП прабіліся ў названыя ўчасткі. Паводле розных падлікаў, у распараджэнні генерала Орліка-Рукемана апынулася каля 8 тысяч салдат. У ноч з 22 на 23 верасня быў аддадзены загад, які прадпісваў польскім часткам рухацца ў бок Уладавы. Перамяшчэнне дазвалялася толькі ноччу.

Тым часам 15-ы савецкі стралковы корпус 5-й арміі Украінскага фронту фарсіраваў Буг у напрамку горада Холм,

а 23-ці стралковы корпус 4-й арміі Беларускага фронту пераправіўся праз гэтую раку ў раёне Брэста. У сваю чаргу, 52-я стралковая дывізія палкоўніка Івана Русіянава атрымала загад сканцэнтравацца ў раёне Уладава. 27 верасня 1939 года ў вёсцы Шацк (цяпер знаходзіцца на мяжы Беларусі і Украіны) часткі 411-га асобнага танкавага батальёна і 54-га дывізіёна супрацьтанкавай артылерыі Чырвонай Арміі ўзялі ў палон невялікае польскае падраздзяленне.

Кальцо, у якім знаходзіліся польскія часткі, сціскалася. Неўзабаве ў Маларыту, дзе разам са штабам знаходзіўся палкоўнік Русіянаў, прыйшоў загад: «*Знішчыць банду польскіх афіцэраў, якая рухалася з усходу*».

Зводная група войскаў, сфармаваная генералам Орлікам-Рукеманам, дасягнула вёскі Шацк у ноч з 27 на 28 верасня. З-за палону, дэзерцірства і баявых стратаў колькасць вайскоўцаў, якія ўваходзілі ў групу, зменшылася ўдвая. Тэрыторыя вакол Шацка была забалочаная, усё гэта ўскладняла перамяшчэнне буйных вайсковых злучэнняў палякаў. З іншага боку, багністыя раўніны не дазвалялі і камандаванню Чырвонай Арміі эфектыўна выкарыстоўваць танкі. Паводле ацэнкі савецкай разведкі, сілы палякаў складаліся ўсяго з палка пяхоты, 300 кавалерыстаў і дывізіёна артылерыі. Палякі, сфармаваўшы ўдарны кулак з батальёнаў КАП «Бярэзна», «Роўна», «Тышыцы» і батальёна Войска Польскага маёра Бальцажака, былі гатовыя атакаваць Шацк. На чале наступаючых польскіх частак стаяў падпалкоўнік Нікадзім Сулік.

Савецкае камандаванне апярэдзіла польскія падраздзяленні і вырашыла контратакаваць іх танкамі. Вось як апісваў падзеі адзін з удзельнікаў таго бою маёр Войска Польскага Журоўскі: «*Быў ясны сонечны дзень. Раптам з боку Шацка пачуўся шум рухавікоў. Неўзабаве на дарозе з'явіліся варожыя танкі. Нашы артылерысты сталі наводзіць гарматы. Камандзіры разлікаў не спяшаюцца. Шум матораў узмацняецца. Перад намі вялікая колькасць танкаў і браневікоў. Едуць, думаючы, што наша лінія абароны трэсне толькі ад аднаго іх выгляду. У люках танкаў бачныя фігуры камандзіраў. Нашы кулямётчыкі таксама гатовыя і чакаюць загад*

*адкрыць агонь. Калі з Шацка выехаў апошні танк і грузавік з пяхотай, раздаюцца першыя стрэлы з нашых гармат. Танкі ахопленыя агнём. Гарыць бензін. Узлятае на паветра грузавік з савецкай пяхотай. Бальшавікоў ахапіла паніка. З танкаў выскокваюць танкісты, некаторыя з іх, зняўшы рамяні, стаяць з паднятымі ўверх рукамі каля сваіх знішчаных машын. Чуюцца крыкі параненых».*

А вось што пра тыя падзеі ўспамінаў іншы іх відавочца, падпаручнік рэзерву С. Лукасевіч: «*Бальшавіцкія танкі аказвалі на нас жахліва панурае ўражанне. Але пад Шацкам мы разграмілі атрад Чырвонай Арміі. У нашых руках апынуліся вялікія трафеі*». У выніку бою было знішчана 8 танкаў Т–26. Смяротнае раненне атрымаў камандзір 411-га асобнага танкавага батальёна капітан Цімафей Несянюк. Тады ж загінуў і палітрук падраздзялення Фёдар Варона. Танкісты былі пахаваныя на гарадскіх могілках Маларыты. Знішчыўшы савецкія танкі, польская пяхота перайшла ў наступ. За батальёнам маёра Бальцажака, у атаку пайшлі памежнікі з батальёна КАП «Бярэзна». Чырвонаармейцы адкрылі па наступаючых шчыльны ружэйна-кулямётны і артылерыйскі агонь.

Але гэта не спыніла польскія часткі, і неўзабаве яны ўварваліся ў вёску. «Капісты» і байцы Войска Польскага кінуліся ў штыкавую на чырвонаармейцаў. Тыя пачалі адступаць. Да 12-й гадзіны дня дарога на захад была адкрыта. У польскім палоне апынулася 6 афіцэраў і каля 150 шараговых Чырвонай Арміі. У 13 гадзін дня ў Шацк разам са сваім штабам прыбыў брыгадны генерал Орлік-Рукеман і аддаў далейшыя загады, якія тычыліся руху войскаў. Камандзір роты «Тышыца» маёр Грот атрымаў распараджэнне пра стварэнне агнявых пазіцый на ўскраіне Шацка.

Каля 14 гадзін дня Шацк атакавалі савецкія бамбардзіроўшчыкі. Тым часам камандаванне Чырвонай Арміі падцягнула ў гэты раён свежыя сілы, а артылерыя пачала абстрэл польскіх пазіцый у Шацку. Неўзабаве з боку шашы Шацк–Пішча ў атаку пайшоў 3-ці батальён савецкага 58-га стралковага палка. Палякі сустрэлі чырвонаармейцаў агнём кулямётаў і артылерыі, пасля чаго гэтая атака захлынулася.

Неўзабаве сілы наступаючых папоўніліся ротай сапёраў. Да вечара Русіянаў падцягнуў да Шацка гаўбічную артылерыю.

Генерал Орлік-Рукеман, разумеючы, што Шацк можа быць акружаны, аддаў загад палкоўніку Ружыцкаму-Каладзечыку ажыццявіць удар па лініі дарогі Мельнікі–Шацк. Рэалізацыя гэтага загаду была даручана батальёну КАП «Давыд-Гарадок». Аднак гэты манеўр не атрымаўся, батальён наткнуўся на пераўзыходзячыя яго падраздзяленні 58-га палка Чырвонай Арміі і быў разбіты. У адным з тых баёў быў цяжка паранены камдзіў палкоўнік Русіянаў. Вось як ён апісваў тыя падзеі: «*Пад Шацкам нас абстралялі з лесу. Я быў паранены ў руку аскепкам снарада, упаў з каня і страціў прытомнасць. Ардынарац, як умеў, перавязаў руку, і я працягваў кіраваць часткамі дывізіі. У Мінскім акруговым шпіталі лекары сказалі, што рана ў мяне даволі цяжкая, аскепкам перабітыя вена і нерв*».

Пасля ранення Русіянава камандаванне дывізіяй на сябе прыняў начальнік штаба палкоўнік Кузьмін.

З надыходам цемры пачаўся адыход польскіх войскаў з Шацка ў кірунку пераправы праз Буг. Першымі пачалі перапраўляцца падраздзялення пад камандаваннем падпалкоўніка Суліка. Затым на другі бераг пайшлі часткі брыгады КАП «Палессе». Польскім часткам давялося пакінуць у Шацку значную колькасць тэхнікі і правіянту, каб не ўскладняць рух. Падчас пераправы «капістам» увесь час даводзілася адбіваць атакі чырвонаармейцаў. На золку над пераправай з'явіліся савецкія выведвальныя самалёты. Аднак да гэтага часу амаль усе польскія падраздзяленні былі ўжо на процілеглым беразе і рушылі на захад.

У ходзе баявых дзеянняў у раёне Шацка палякі страцілі каля 500 салдат і афіцэраў (у гэты лік уваходзяць не толькі забітыя і параненыя, але і ўзятыя ў палон). Савецкая 52-я дывізія страціла 82 чалавекі забітымі і 185 параненымі. Было знішчана каля 10 савецкіх танкаў і бронемашын, а таксама значная колькасць іншых відаў тэхнікі. За невыкананне загаду («банда польскіх афіцэраў» не толькі не была разбітая, але яшчэ і нанесла Чырвонай Арміі адчувальныя страты) кіраўніцтва 52-й дывізіі было знятае са сваіх пасадаў.

# Кодзеўцы. Кавалерысты супраць танкаў

Доўгі час лічылася, што «вызвольны паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года» быў для Савецкага Саюза бяскроўнай «міратворчай аперацыяй». Між тым, Чырвонай Арміі давялося весці актыўныя баявыя дзеянні супраць Войска Польскага. Адна з малавядомых бітваў той вайны адбылася каля беларускай вёскі Кодзеўцы на мяжы з Літвой.

У перыяд з 20 па 22 верасня 1939 года часткі Чырвонай Арміі вялі жорсткія баі за Гродна. Дрэнна ўзброеныя польскія падраздзяленні, а таксама мясцовыя жыхары, не маючы дастатковага ўзбраення, усё ж здолелі нанесці бальшавікам значны ўрон. Аднак сілы былі няроўныя, і неўзабаве польскае камандаванне прыняло рашэнне пачаць адступленне з Гродна ў бок мяжы з Літоўскай рэспублікай. Да таго ж польскім часткам трэба было паспець эвакуявацца да таго моманту, пакуль Чырвоная Армія не адрэзала шляхі адыходу на поўнач.

Адзін з удзельнікаў эвакуацыі з Гродна пасля так апісваў тыя падзеі: *«На дарозе была вялікая колькасць людзей і павозак. Усё перамяшалася. Ваенныя абозы, паліцыянты, грамадзянскія. Савецкая артылерыя б'е па нас з боку віленскай шашы. Нас даганяе некалькі ўланаў. «А ну варушыцеся хутчэй, на плошчы за мостам рускія танкі»*.

Большасць частак, якія адступілі з Гродна, дасягнулі вёскі Гожа позным вечарам 21 верасня. За гэтым населеным пунктам польскія падраздзяленні пераправіліся праз Нёман. Першымі гэта зрабілі кавалерысты з Рэзервовай брыгады «Ваўкавыск». Яна была сфармаваная ўжо ў ходзе вераснёўскай кампаніі з запасных падраздзяленняў Сувальскай і Падляшскай кавалерыйскіх брыгад, а таксама 14-га дывізіёна коннай артылерыі, дыслакаванага ў раёне Беластока і Ваўкавыска.

У склад Рэзервовай брыгады «Ваўкавыск» уваходзілі: 110-ы уланскі полк, сфармаваны ў Ізабеліне пад Ваўкавы-

скам; 101-ы ўланскі полк, сфармаваны ў Беластоку; 102-гі ўланскі полк. Пазней у склад брыгады ўвайшоў 103-ці пяхотны полк швалежэраў.

16 верасня 1939 года 110-ы полк удзельнічаў у баях з нямецкімі войскамі на Беласточчыне. Пасля пачатку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі» камандаванне брыгады «Ваўкавыск» прыняло рашэнне перадыслакавацца на поўнач, у бок мяжы з Літвой. Дайшоўшы да Гродна, польскія кавалерысты прынялі ўдзел у абароне горада. Але, усведамляючы, што сілы няроўныя, камандаванне брыгады прыняло рашэнне адступіць.

101-ы ўланскі полк, скончыўшы пераправу праз Нёман, спыніўся на пастой у вёсцы Кодзеўцы, у 7 кіламетрах на ўсход ад мястэчка Сапоцкін. Камандаванне Чырвонай Арміі не збіралася адпускаць у Літву польскія войскі. 21 верасня камандзір 15-га танкавага корпуса РККА Пятроў сфармаваў пад камандаваннем маёра Ф. Чувакіна механізаваную групу ў складзе батальёна танкаў БТ–7 (34 танка), 3 браневікоў БА–10, і двух пяхотных рот на грузавіках і загадаў ёй *«ачысціць ад польскіх банд»* дарогу на Сейны і Аўгустаў. У 15 гадзін зводны атрад накіраваўся ў адзначанае месца. Для правядзення разведкі маёр Чувакін выслаў наперад 4 танка, два браневікі і стралковы ўзвод. У раёне вёскі Белічаны зводная група была падзелена. Адна яе частка рушыла ў бок вёскі Кодзеўцы, другая — у напрамку Сапоцкіна.

У гэты час польскае камандаванне рыхтавалася да абароны. На паўночным баку Кодзеўцаў былі ўсталяваныя два буйнакаліберныя кулямёты. На паўднёвым участку пастаўлены ўзмоцнены дазор. У сваю чаргу, абедзве ўскраіны вёскі замініравалі супрацьтанкавымі мінамі. У 21.00 польскі дазор паведаміў камандаванню, што з боку Нёмана рухаецца бронетэхніка. Камандзір 101-га ўланскага палка Станіслаў Жукоўскі аб'явіў трывогу. Але, як аказалася, у бок Кодзеўцаў, ехала калона польскіх машын, якая эвакуявалася з Гродна.

Але ўжо праз дзве гадзіны ўланы былі пабуджаны моцнай ружэйна-кулямётнай стральбой. Аказалася, што разведвальная група, адпраўленая маёрам Чувакіным,

«напаролася» на польскую ахову і ў выніку бою панесла адчувальныя страты. Хутка да Кодзеўцаў падцягнуліся і асноўныя сілы зводнай чырвонаармейскай механізаванай групы. Каля 2 гадзін ночы 7 савецкіх танкаў, падавіўшы супраціў уланаў на ўездзе ў населены пункт, накіраваліся ў вёску. Экіпажы БТ-7 уключылі фары і, адкрыўшы агонь з усіх відаў узбраення, пранесліся па галоўнай вуліцы вёскі.

Адзін з відавочцаў так апісваў тыя падзеі: «*Каля дзвюх гадзін я прачнуўся ад крыку «савецкія танкі ў вёсцы». Неўзабаве я ўбачыў савецкія танкі з уключанымі фарамі. Іх экіпажы стралялі з гармат і кулямётаў ва ўсе бакі. Праз секунду ўсё сціхла*».

Камандзір польскага 101-га палка маёр Жукоўскі прыняў рашэнне аб арганізацыі кругавой абароны населенага пункту. Для гэтага ён падзяліў сілы, якія былі ў яго распараджэнні, на дзве часткі. Камандаванне адной з іх маёр узяў на сябе. А другую ўзначаліў ротмістр Нарцыс Лапяноўскі. Да вайны Лапяноўскі служыў у 1-м палку ўланаў Крэхавецкіх. На пачатку Другой сусветнай вайны быў накіраваны ў 101-ы полк і стаў камандзірам аднаго з яго эскадронаў.

У распараджэнні абаронцаў была ўсяго адна процітанкавая гармата. Але польскія кавалерысты ўжо навучыліся змагацца з савецкімі танкамі пры дапамозе падручных сродкаў. Падчас баёў у Гродна вялікая колькасць савецкай ваеннай тэхнікі была знішчаная з дапамогай бутэлек з запальнай сумессю. Кінуты ў танк «кактэйль Молатава» вельмі хутка ператвараў грозную баявую машыну ў факел.

Адпраўленыя маёрам Жукоўскім разведчыкі паведамілі, што на ўсход ад вёскі знаходзіцца падраздзяленне савецкай пяхоты. Камандзір палка тут жа вырашыў атакаваць ворага. Але калі польскія кавалерысты сышліся з чырвонаармейцамі, заходнюю ўскраіну вёскі атакавалі 12 савецкіх танкаў пры падтрымцы пяхоты.

Тут абарону трымала падраздзяленне пад камандаваннем ротмістра Лапяноўскага. Уланы змаглі з дапамогай ручных гранат падбіць адзін савецкі танк, але іншыя машыны, праехаўшы праз польскія пазіцыі, накіраваліся ў вёску. Пры гэтым польскія кулямётчыкі ўсё ж змаглі адсекчы савецкую

пяхоту, пакінуўшы танкі без падтрымкі. Неўзабаве вёска стала нагадваць танкавыя могілкі. Калі скончыліся бутэлькі з бензінам, уланы сталі кідаць газавыя лямпы. Акрамя гэтага, польскія кавалерысты выкарыстоўвалі супрацьтанкавыя міны, кідаючы іх пад гусеніцы танкаў.

Вось як апісвае тыя падзеі адзін з відавочцаў: «*Выбухі снарадаў абсыпалі людзей і коней градам аскепкаў. Нехта крыкнуў: «Іх паліць трэба». Бензін быў, але не хапала бутэлек. Тады бралі газавыя лямпы і кідалі ў танкі. Была вялікая радасць, калі ўдавалася падпаліць танк. Праехаўшы трохі, той спыняўся, і з люкаў выскоквалі танкісты, з якімі разбіраліся нашы салдаты*».

Савецкія войскі каля 12 разоў спрабавалі атакаваць вёску, але кожны раз павінны былі адыходзіць. Раніцай 22 верасня на дапамогу атакуючым з Гродна прыбылі падраздзяленні 27-й танкавай брыгады РСЧА і рота 101-га стралковага палка. У 8.30 бой скончыўся.

Страты савецкага боку склалі: каля 20 знішчаных і пашкоджаных танкаў і іншых відаў тэхнікі і некалькі сотняў параненых і забітых. Але і польскія страты былі значнымі. 101-ы уланскі полк згубіў 70 працэнтаў асабовага складу і коней. Быў смяротна паранены маёр Станіслаў Жукоўскі. Ён памёр па дарозе ў шпіталь, ужо на тэрыторыі Літвы.

Ротмістр Нарцыс Лапяноўскі падчас абароны Кодзеўцаў атрымаў цяжкае раненне, але разам з рэшткамі свайго палка ўсё ж змог эвакуявацца ў Літву і знаходзіўся там у лагеры для інтэрнаваных салдат Войска Польскага. Пасля таго, як Літва ўвайшла ў склад СССР, у ліпені 1940 года разам з іншымі польскімі афіцэрамі ротмістр быў адпраўлены ў лагер у Казельску. 11 кастрычніка ён быў пераведзены ў турму на Лубянцы. Савецкае кіраўніцтва ведала пра подзвіг польскага кавалерыста ў Кодзеўцах. Неўзабаве Лапяноўскага, разам з іншымі польскімі афіцэрамі, перавялі на дачу НКУС у Малахаўцы, дзе з ім пачалі працаваць, спрабуючы ўгаварыць удзельнічаць у стварэнні польскага войска ў СССР.

У сакавіку 1941 года героя бітвы ў Кодзеўцах перавялі ў Бутырку, а затым ва ўкраінскі Пуціўль. Аднак у ліпені таго ж года вызвалілі і накіравалі ў распараджэнне генерала

Андэрса. У 1942 годзе Лапяноўскі разам з польскай арміяй пакінуў СССР. Праз два гады ён быў таемна закінуты ў акупаваную польскую сталіцу і ўдзельнічаў у Варшаўскім паўстанні. Пасля паразы паўстання знаходзіўся ў нямецкім палоне, выжыў і пасля вайны з'ехаў у Вялікабрытанію, а затым у ЗША.

## Вытычна. Апошні бой памежнікаў

Вераснёўская кампанія Чырвонай Арміі прывяла ў замяшанне польскія вайсковыя і цывільныя ўлады. Сітуацыя пагаршалася яшчэ і тым, што савецкі бок доўгі час запэўніваў палякаў у тым, што канцэнтрацыя падраздзяленняў Чырвонай Арміі на савецка-польскай мяжы выкліканая тым, што ў Польшчы ідзе вайна.

17 верасня 1939 года першымі «вызваліцеляў» сустрэлі менавіта салдаты і афіцэры КАП. Сілы былі няроўныя: танкам і браневікам «капісты» маглі супрацьпаставіць толькі карабіны і асабістую мужнасць. Ужо 18 верасня камандуючы КАП брыгадны генерал Вільгельм Орлік-Рукеман аддаў загад аб адступленні даручаных яму частак.

21 верасня з памежнікаў і частак Войска Польскага генерал сфармаваў імправізаваную Групоўку КАП, у склад якой увайшлі: брыгада КАП «Палессе» пад камандаваннем дыпламаванага палкоўніка Тадэвуша Ражыцкага-Каладзейчыка, полк КАП «Сарны» пад камандаваннем падпалкоўніка Нікадзіма Суліка, маршавы батальён 76-га Лідскага пяхотнага палка пад камандаваннем маёра Юзафа Бальцажака. Усяго — каля 9 тысяч чалавек.

Пасля кровапралітных баёў супраць Чырвонай Арміі ў раёне Шацка 28 верасня 1939 года гэтая група польскіх войскаў пераправілася праз Буг і сканцэнтравалася ў раёне Касіна на поўнач ад Холма. У 10 кіламетрах на поўнач заняла пазіцыі брыгада «Палессе», якая з-за цяжкіх стратаў была пераразфарміраваная ў батальён, камандзірам якога стаў падпалкоўнік Ян Дышкевіч.

У Цэнтральным ваенным архіве Польшчы сярод іншых дакументаў захоўваюцца ўспаміны камандзіра батальёна

КАП «Людвікава» капітана Анджэя Шумлінскага, якія распавядаюць аб баявых дзеяннях брыгады КАП «Палессе». Афіцэр, у прыватнасці, піша: «*З 20 верасня па 1 кастрычніка мы двойчы знаходзіліся ў савецкім акружэнні і двойчы нам удавалася прарвацца праз бальшавіцкія парадкі. У баях мы неслі цяжкія страты. Урэшце з трох памежных батальёнаў быў сфармаваны адзін. Параненых нам даводзілася пакідаць у вясковых школах. Яны пад апекай санітараў чакалі савецкія войскі*».

30 верасня Групоўка КАП высунулася ў бок Вытычна для наступнага злучэння з Асобнай аператыўнай групай Войска Польскага «Палессе» пад камандаваннем генерала Францішка Клееберга. Адзін з удзельнікаў тых падзей пісаў: «*Мы не думалі пра тое, наколькі доўга яшчэ хопіць нашых сіл. Ведалі, што ідзем на злучэнне з групай генерала Клееберга. Мы, сувязісты, ужо ведалі, што Варшава пала. Змагаўся толькі Хель. Марш працягваўся некалькі гадзін. На чале калоны ў гэты раз ішоў не падпалкоўнік Сулік, а не вядомы мне палкоўнік у гарнізоннай фуражцы. У пэўны момант наперадзе калоны пачалося ажыўленне, і нехта з камандзіраў скамандаваў: «Артылерыя наперад!» Неўзабаве гарматы праехалі міма нас, і мы працягнулі рух да шашы Уладава–Траўнікі*».

Рух групы ажыццяўлялася без затрымак. Толькі батальён КАП «Бярэжна», які ішоў у ар'ергардзе, наткнуўся на савецкую пяхотную частку, узмоцненую двума танкамі. Выкарыстоўваючы 37-міліметровыя гарматы, польскія памежнікі падбілі абодва непрыяцельскіх танкі і прымусілі чырвонаармейцаў адступіць. Да ночы 1 кастрычніка 1939 года групоўка КАП дасягнула населенага пункта Вытычна.

Аслабленая ў баях з часткамі Войска Польскага, 52-я стралковая дывізія РСЧА 29 верасня знаходзілася каля ракі Буг. Неўзабаве ёй быў аддадзены загад праследаваць палякаў, якія адыходзілі на захад. На дапамогу гэтаму злучэнню накіроўваўся 16-ы стралковы полк з 87-й дывізіі і 253-ці стралковы полк з 45-й дывізіі Чырвонай Арміі, узмоцненыя танкавым батальёнам.

Аднак 52-я дывізія праз Буг так і не пераправілася, да таго ж 16-ы полк РСЧА выйшаў з Хелма толькі 30 верасня,

і да пачатку бітвы пад Вытычна падысці не паспеў. Таму асноўнай савецкай ударнай сілай стаў менавіта 253-ці полк.

Напярэдадні бітвы памежнікі КАП «Сарны» занялі абарончыя пазіцыі каля мястэчка Вулька Вытыцка, а батальён «Палессе» размясціўся ў Вытычна. 1 кастрычніка 1939 года каля 3 гадзін ночы «капісты» ўбачылі савецкія танкі. Палякі абстралялі іх з процітанкавых гармат і знішчылі два танкі Т–37. Праз некаторы час ўсходнюю ўскраіну мястэчка атакаваў эскадрон кавалерыі РСЧА. Аднак і гэтая атака была адбітая.

На досвітку савецкае камандаванне вырашыла кінуць у бой пяхоту. 1-ы батальён наступаў у раёне ўсходняй ускраіны Вытычна, другі — уздоўж шашы паміж Вытыцкім возерам і населеным пунктам. Танкавы батальён таксама наступаў уздоўж шашы і падтрымліваў наступ пяхотнікаў. 1-ы дывізіён 45-га артылерыйскага палка павінен быў весці агонь па агнявых кропках палякаў. Да 8-й гадзіны раніцы чырвонаармейцы з 1-га батальёна пры падтрымцы кавалерыі змаглі выбіць польскія часткі з Вытычна і захапіць горад. Але атака 2-га батальёна захлынулася, наткнуўшыся на моцны агонь з кулямётаў і гармат. Пры гэтым батальён, страціўшы 15 чалавек забітымі і 60 параненымі, быў вымушаны адступіць.

І тут у справу ўступіла ВПС РСЧА. Савецкія самалёты расстрэльвалі польскія артылерыйскія пазіцыі з кулямётаў, а таксама карэктавалі агонь сваёй артылерыі. Каля 9 гадзін раніцы генерал Вільгельм Орлік-Рукеман загадаў батальёну «Палессе» нанесці ўдар у фланг надыходзячага 1-га батальёна Чырвонай Арміі. Такі манеўр, хутчэй за ўсё, прынёс бы поспех памежнікам, але падраздзяленне ў атаку не пайшло. У гэтай катастрафічнай сітуацыі польскі генерал прыняў рашэнне распусціць Групоўку КАП «Палессе», а жаўнерам загадаў рухацца ў бок Сасновіцкіх лясоў.

Вільгельм Орлік-Рукеман запісаў у сваёй справаздачы: «*Усе мы разумелі, што ў любую хвіліну наша лінія абароны можа быць прарваная. Мы знаходзімся пад пагрозай акружэння з заходняга напрамку, які абараняць ужо няма каму. Засталося ўсяго 20 снарадаў на абедзве артылерыйскія батарэі. Мы б'емся з сіламі, якія нас пераўзыходзяць, і да-*

*лейшыя баявыя дзеянні могуць прывесці да поўнага знішчэння нашай групоўкі».*

1-ы батальён РСЧА працягваў наступ, але ў раёне мястэчка Мяцёлка яго контратакавала і адкінула назад рота батальёна КАП «Бярэжна». Праўда, для развіцця наступлення ў польскіх памежнікаў ужо не было сіл. Адступіўшы ў раён Сасновіц, частка падраздзяленняў КАП перайшла да партызанскіх дзеянняў.

Вось як тыя падзеі апісваў адзін з відавочцаў: «*Мы вырашылі працягнуць баявыя дзеянні ў складзе войскаў пад камандаваннем генерала Клееберга. Хуткім маршам мы рухаліся на захад, у напрамку да Парчава. Тут мы даведаліся, што нашы войскі рухаюцца да Коцка. 2 кастрычніка мы былі на месцы. Мы зноў былі сярод сваіх. Была кавалерыя, артылерыя, пяхота. І галоўнае, ва ўсіх было жаданне змагацца*».

Усяго ў ходзе баёў пад Вытычна польскі бок страціў 93 чалавекі забітымі і некалькі сотняў параненымі. 253-ці стралковы полк РСЧА, паводле савецкіх крыніц, страціў 36 чалавек забітымі і больш за 100 параненымі. Акрамя гэтага, польскай артылерыяй было знішчана тры танка Т–37 і тры трактары «Камсамолец».

## Вялікія дні малога флоту

Адным з найбольш баяздольных вайсковых фармаванняў на тэрыторыі Заходняй Беларусі была Пінская рачная ваенна-марская флатылія. У верасні 1939 года на лёс яе маракоў выпалі цяжкія выпрабаванні.

Пінская флатылія была створана 19 красавіка 1919 года, калі польскія вайсковыя ўлады арганізавалі ў складзе трох катэраў марскі патруль на Прыпяці. Менавіта ён прыняў удзел у бойцы з савецкімі катэрамі пад Гарадзішчам у ліпені 1919 года. Пазней часткі Войска Польскага пры ўдзеле рачнога флоту ажыццявілі ўдалы дэсант, які дазволіў выбіць бальшавікоў з Лунінца. У сакавіку 1920 года флатылія ўдзельнічала ў баях пад Мазыром і ў наступленні на Кіеў, дзе пад Чарнобылем удала атакавала бальшавіцкія падраздзяленні.

Аднак пасля таго, як Чырвоная Армія распачала наступленне на захад і захапіла міжрэчча Прыпяці, матросы затапілі свае караблі пад Пінскам і адступілі.

Адраджэнне флатыліі на Палессі пачалося ў 1922 годзе, пасля заключэння Рыжскай мірнай дамовы, якая завяршыла савецка-польскую вайну. Галоўная базай флатыліі стаў Пінск. Там была збудавана камендатура вайсковага порту, казармы, склады і ангары для авіяцыі. Галоўнай задачай Пінскай флатыліі была дазорная служба на палескіх рэках. У адпаведнасці з абарончым планам «Усход», у выпадку вайны з Савецкім Саюзам польскі флот павінен быў удзельнічаць у арганізацыі манеўранай абароны.

Да таго ж важным быў і транспартны аспект. На Палессі дарожная сістэма ў 1920–1930-х гадах была развіта вельмі слаба, таму менавіта водныя шляхі адыгрывалі ролю важнейшых транспартных артэрый. І ў гэтым сэнсе важная роля належала мабільнай Пінскай флатыліі. У 1930-х гадах яе галоўнай сілай былі 6 маніtoраў, узброеных 100-міліметровымі гаўбіцамі і 75-міліметровымі гарматамі, 3 кананерскія лодкі, 2 караблі супрацьпаветранай абароны і 2 патрульных катэры. Акрамя гэтага, 7 тральшчыкаў павінны былі арганізаваць пастаноўку мінных загарод.

З 1927 года камандуючым Пінскай флатыліяй быў камандор Вітольд Заянчкоўскі. Ён зрабіў стаўку на адпрацоўку ўзаемадзеяння і падтрымкі караблямі флатыліі дзеянняў сухапутных войскаў. У пачатку 1930-х гадоў вайсковым камандаваннем ІІ Рэчы Паспалітай абмяркоўвалася праграма развіцця Пінскай флатыліі, аднак у сувязі з тым, што яна патрабавала значных фінансавых затрат, было вырашана расцягнуць яе рэалізацыю ў часе.

Пасля абвяшчэння скрытай мабілізацыі ў сакавіку 1939 года на вайсковыя рэйкі перайшла і Пінская флатылія. Была створана баявая група «Вісла», у задачы якой уваходзіла арганізацыя абароны ўзбярэжжа. А таксама баявая група «Прыпяць», якая павінна была несці патрульную службу на польска-савецкай мяжы. Браніраваныя польскія «маніторы» былі асноўнай баявой сілай у рэгіёне, якія, пасля адпраўкі галоўных частак Войска Польскага на захад, засталіся амаль




Аркестр батальёну КАП Стоўбцы, ліпень 1939 г.



Польскія афіцэры з дзецьмі ў Брэсце




Жаўнеры Войска Польскага на чыгуначным вакзале Брэста, 1933 г.
*З сямейнага альбома Д. Няміра-Канецкай*




Савецкі памежны пераход ля станцыі Аляхновічы.
На браме надпіс: «Вітаем працоўных Захаду»



Танк «Рэно ФТ17» на палігоне ля Брэста.
*З сямейнага альбома Д. Няміра-Канецкай*



Парад Войска Польскага ў Брэсце.
*З сямейнага альбома Д. Няміра-Канецкай*



Жаўнеры 82-га пяхотнага палка Войска Польскага ў Брэсцкай крэпасці



Герой абароны Брэсцкай крэпасці Віктар Амельянюк з жонкай, верасень 1939 г.



Жаўнеры Войска Польскага з Пружан



Начальнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі
ўзнагароджвае венгерскіх афіцэраў, канец 1920-х гадоў



Здымак Юзафа Пілсудскага ў саркафагу
перад пахаваннем, 1935 г.



Паручнік 78-га пяхотнага палку Войска Польскага з Баранавіч.
У складзе 20-й пяхотнай дывізіі гэты полк удзельнічаў
у абароне Млавы



Прэзідэнт ІІ Рэчы Паспалітай Ігнацій Масціцкі з жонкай, 1938 г.



Жаўнеры Войска Польскага ў Кобрыне, пачатак 1930-х гадоў



Венгерскі рэгент, адмірал М. Хорці разам з польскім прэзідэнтам Ігнаціем Масціцкім на паляванні ў Белавежскай пушчы, 1938 г.



Чыноўнікі Віленскага ваяводства на ўзвышшы «Маяк» разглядаюць Мінск, 1934 г.



Жаўнер Войска Польскага
з Наваградку з жонкай, 1937 г.



Народны міліцыянер у трафейным польскім рыштунку, Заходняя Беларусь, верасень 1939 г.



Жаўнер РСЧА, Заходняя
Беларусь, кастрычнік 1939 г.



Невядомы капітан Войска
Польскага з дачкой, Заходняя
Беларусь, жнівень 1939 г.

без абароны. Караблі паветранай абароны неслі дзяжурства каля галоўных пераправаў і мастоў. Акрамя гэтага, важнейшай задачай Пінскай флатыліі была абарона шляхоў з Вільна на Львоў і з Лунінца на Сарны.

Адразу пасля пачатку Другой сусветнай вайны караблям флатыліі давялося змагацца з авіяцыяй люфтвафэ. Польскай супрацьпаветранай абароне ўдалося знішчыць каля дзесяці нямецкіх самалётаў. Аднак, як успамінаюць відавочцы, нямецкім самалётам часцей за ўсё ўдавалася паспяхова прайсці польскую зенітную заслону і скінуць бомбы на пераправы. Немцы таксама жорстка бамбілі жылыя раёны Пінска. Аднак ніводнай бомбы не было скінута на пінскі порт. Хутчэй за ўсё, нацысты разумелі будучае стратэгічнае значэнне гэтага транспартнага вузла.

10–14 верасня 1939 года на базе марскога запаснога батальёну было створана два батальёны марской пяхоты. Камандзірамі батальёнаў сталі камандор Паўлоўскі і капітан Фольтын. Маракоў пераапранулі ў палявыя мундзіры Войска Польскага, аднак афіцэрам дазволілі пакінуць марскія галаўныя ўборы, а матросам перачапіць марскія какарды на палявыя пяхотныя рагатыўкі.

15 верасня 1939 года Пінская флатылія перайшла пад кіраўніцтва камандуючага Аператыўнай групай «Палессе» генерала Францішка Клееберга. Праз два дні пачаўся «вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь». Караблі, якія знаходзіліся на мяжы, з баямі паспрабавалі прарвацца на захад, аднак супраць польскіх маракоў згуляла прырода. Цёплае лета прывяло да абмялення Прыпяці, і шматлікія польскія караблі траплялі на мель. Хутка было прынята рашэнне затапіць флатылію.

17 верасня каля марской базы Нырча быў затоплены флагманскі «манітор» і іншыя буйныя караблі. У Пінску знаходзіўся карабель «Генерал Шэптыцкі», які змагаўся супраць нямецкай і савецкай авіяцыі. Камандаванне прыняло рашэнне спаліць гэтае судна, калі з'явілася пагроза яго захопу Чырвонай Арміяй.

20 верасня пачалася эвакуацыя Пінска. 21 верасня на Каралеўскім канале пад Кузлічынам дарогу польскім судам

заблакаваў узарваны мост. Камандаванне вырашыла затапіць караблі, але так, каб у будучым іх лёгка можна было падняць і хутка запусціць у строй.

Караблі тапілі па-рознаму. Напрыклад, матросы аднаго з «манітораў», які знаходзіўся пад вёскай Гарадзішча, аблілі бензінам боекамплект да 100-міліметровай гаўбіцы і ўзарвалі карабель. Далей матросы затопленых судоў рухаліся альбо на вазах, альбо пешшу. Пры гэтым яны цягнулі на сабе ўсё тое, што ўдалося зняць з караблёў: зброю, абсталяванне, дакументацыю. Усяго на прытоках Піны і на Каралеўскім канале на дно пайшло больш за 100 розных караблёў некалі магутнай Пінскай флатыліі.

23 верасня ў порт Пінска ўвайшла савецкая Дняпроўская флатылія. Генерал Клееберг выдаў загад усім часткам Самастойнай аператыўнай групы «Палессе» рухацца ў бок Любешова–Владавы, а далей у бок мяжы з Румыніяй, аднак праз два дні Клееберг прыняў рашэнне рухацца на дапамогу акружанай Варшаве.

28 верасня 1939 года адбылася рэарганізацыя батальёнаў марской пяхоты, і яны ўвайшлі ў склад 182-га пяхотнага палка 60-й дывізіі пяхоты. Матросы-палешукі ўдзельнічалі ў баях пад Ліпінамі, Коцкам, Воляй Гулоўскай. Яны працягвалі змагацца з ворагам да 5 кастрычніка 1939 года.

Частка маракоў, разам з афіцэрамі пад камандаваннем спачатку камандора Эйбела, а пазней капітана Бончака адыходзіла разам з падраздзяленнямі Корпуса аховы памежжа. Матросы выконвалі ролю ар'ергарда польскіх частак. 25–26 верасня 1939 года гэтае падраздзяленне было аточана савецкімі танкамі і пасля кароткага бою трапіла ў савецкі палон.

Ваеннапалонных накіравалі ў Маларыту, дзе падзялілі іх на дзве групы. У адной апынулася каля 30 афіцэраў, у другой — шарагоўцы. Першую групу накіравалі ў вёску Макраны, дзе афіцэрам загадалі распрануцца, і 19 з іх былі расстраляныя. Іншых афіцэраў накіравалі ў лагер для ваеннапалонных у Жытомір. У 1940 годзе частка польскіх маракоў была адпраўлена ў Германію і апынулася ў нямецкім лагеры для ваеннапалонных Мосбург у Баварыі. Некаторыя з гэтых людзей скончылі сваё жыццё ў Асвенцыме.

Савецкія ўлады пачалі праводзіць працы па пад'ёму і рамонту затопленых польскіх суднаў. У прыватнасці, паднятыя і адрамантаваныя польскія «маніторы» «Пінск» і «Торунь», акрамя новых назваў (адпаведна, «Віцебск» і «Смаленск»), атрымалі яшчэ і новае ўзбраенне: дзве 122-міліметровыя гаўбіцы і дзве 45-міліметровыя гарматы. Тры лёгкіх «маніторы» перайменавалі ў «Вінніцу», «Жытомір» і «Бабруйск». Разам з іншымі караблямі савецкай дняпроўскай флатыліі гэтыя караблі ўдзельнічалі ў пачатковай фазе Вялікай Айчыннай вайны. Яны ажыццяўлялі артылерыйскую падтрымку сухапутных частак Чырвонай Арміі, абаранялі свае і знішчалі варожыя пераправы.

16 ліпеня 1941 года загінуў «манітор» «Вінніца». Праз два месяцы экіпаж «манітора» «Віцебск» быў вымушаны ўзарваць свой карабель, які да гэтага прыкрываў адыход 37-й савецкай арміі.

«Манітор» «Кракаў» быў затоплены польскімі маракамі 21 верасня 1939 года на рацэ Піне, аднак хутка быў падняты і пасля рамонту і пераўзбраення ўжо ў кастрычніку 1939 года пад назвай «Смаленск» увайшоў у склад Дняпроўскай вайсковай флатыліі. У чэрвені 1941 года гэты карабель удзельнічаў у контрудары савецкіх войскаў пад Бабруйскам, а пазней — у знішчэнні нямецкай пераправы ля Парычаў. У канцы ліпеня «Смаленск» адплыў у Кіеў, дзе быў адрамантаваны. Пазней удзельнічаў у баях, аднак у верасні 1941 года трапіў у акружэнне і быў знішчаны камандай.

* * *

Рыхтуючыся да абароны ўсходніх ускраін у магчымай вайне з СССР, кіраўніцтва II Рэчы Паспалітай рабіла вялікую стаўку на Пінскую флатылію. Яе караблі павінны былі эфектыўна ўзаемадзейнічаць з сухапутнымі войскамі і дапамагчы ў арганізацыі манеўранай абароны ў Палессі. Аднак Польшчы прыйшлося весці вайну з нацысцкай Германіяй, а Пінская флатылія не была ў стане супрацьстаяць пераўзыходзячым сілам Чырвонай Арміі, якія перайшлі савецка-польскую мяжу 17 верасня 1939 года. Шматлікія матросы і афіцэры трапілі ў савецкі палон і сталі ахвярамі бальшавікоў.

# Прыгоды падводнай лодкі «Арол»

У 2013 годзе ў Паўночным моры былі знойдзены парэштĸі судна, якія, хутчэй за ўсё, належаць польскай падводнай лодцы часоў Другой сусветнай вайны «Orzeł». Субмарына прапала без вестак 8 чэрвеня 1940 года.

Вайсковае кіраўніцтва II Рэчы Паспалітай вельмі ганарылася падводнай лодкай «Арол». Яе пачалі будаваць на галандскай верфі Дэ Шэльдэ 14 жніўня 1936 года, а на ваду спусцілі 2 лютага 1939 года. У адпаведнасці з абарончым планам «Усход», падлодка павінна была стаць асноўнай зброяй палякаў у барацьбе супраць савецкіх крэйсераў і браняносцаў у Балтыйскім моры.

Падлодка мела класічную кампаноўку і была збудаваная паводле апошняга слова тэхнікі. Яе экіпаж складаўся з 60 чалавек. «Арол» быў узброены 12 тарпедамі, адной спаранай зенітнай гарматай і адным зенітным кулямётам. 10 лютага 1939 года падлодка прыняла ўдзел у парадзе ў Гдыні ў гонар Дня ВМФ Польшчы. Напярэдадні Другой сусветнай вайны на «Арле» была праведзена праверка механізмаў і вузлоў.

Вось што пра лодку пісаў польскі часопіс «Малады грамадзянін» у сакавіку 1939 года: «*Польскі ваенна-марскі флот узбагаціўся двума новымі, моцнымі баявымі падводнымі караблямі, якія Міністэрства вайсковых спраў назвала «Orzeł» і «Sęp». Яны пабудаваныя на галандскай верфі, але ў значнай ступені з польскіх матэрыялаў. Наша прамысловасць імкнецца да таго, каб будаваць такія выдатныя караблі ўжо на радзіме. Новыя падводныя лодкі акрамя гармат маюць большую колькасць тарпедных апратаў, а таксама большы раён дзейнасці. Досвед, атрыманы падчас апошняга сутыкнення дзвюх палітычных сістэм, двух грамадскіх укладаў на тэрыторыі няшчаснай Іспаніі, вучыць нас, што падводныя караблі, ужо праз сам факт свайго існавання, абмяжоўваюць дзейнасць праціўніка, прымушаючы яго да асцярожнасці*».

З першага дня нацысцкай агрэсіі на Польшчу падлодка знаходзілася на баявым дзяжурстве ў Балтыйскім моры.

Аднак неўзабаве захварэў капітан лодкі Хенрык Клачкоўскі. Да таго ж у выніку нямецкай атакі глыбіннымі бомбамі судна атрымала пашкоджанні. Камандаванне «Арла» атрымала загад ісці ў нейтральны порт у Швецыю, аднак капітан судна вырашыў рухацца ў Эстонію.

У ноч з 14 на 15 верасня 1939 года польская падлодка ўвайшла ў бухту Таліна. Германская амбасада адразу запатрабавала ад уладаў Эстоніі арыштаваць экіпаж польскага судна. Хутка на «Арле» з'явіліся эстонскія вайскоўцы і рэквізавалі ўсю зброю і навігацыйныя мапы. Пасля гэтага пачалася выгрузка тарпед.

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. Праз прадстаўнікоў брытанскай амбасады ў Таліне пра гэта даведаліся і польскія маракі з «Арла». Новы камандзір падлодкі Ян Грудзінскі загадаў камандзе рыхтавацца да ўцёкаў з Эстоніі. Палякі арыштавалі эстонскіх салдат, якія ахоўвалі падлодку, і пачалі адыходзіць з бухты. Берагавая батарэя адкрыла папераджальны агонь, але падлодка пагрузілася і здолела пакінуць бухту.

20 верасня 1939 года з-за інцыдэнту з польскай падлодкай са сваіх пасад былі звольненыя камандуючы ВМФ Эстоніі Валеў Мэрэ і начальнік штаба ВМФ Рудольф Лінустэ.

21 верасня палякі высадзілі на шведскім востраве Готланд захопленых падчас уцёкаў эстонскіх салдат. Пасля гэтага падлодка «Арол» накіравалася да берагоў Вялікабрытаніі.

Уцёкі польскай субмарыны занепакоілі СССР. 19 верасня 1939 года ў «Праўдзе» была надрукавана заява ТАСС, у якой, у прыватнасці, адзначалася: «*Польскія падлодкі хаваюцца ў партах прыбалтыйскіх краін, знаходзячы падтрымку ва ўрадавых колах. Мяркуецца, што ўлады Эстоніі 18 верасня наўмысна далі збегчы польскай падводнай лодцы. Чырвонасцяжны Балтыйскі флот прыме неабходныя меры супраць падводных лодак, што хаваюцца ў водах Балтыкі*».

19 верасня наркам замежных спраў СССР Вячаслаў Молатаў выклікаў да сябе пасла Эстоніі Аўгуста Рэя і прыгразіў, што савецкія баявыя караблі ўвойдуць у эстонскія тэрытарыяльныя воды на пошукі польскай падлодкі.

Хутка дзесяць савецкіх самалётаў дэманстратыўна праляцелі над Талінам, а савецкія караблі пачалі патруляваць акваторыю ля эстонскіх астравоў. 27 і 28 верасня з'явілася інфармацыя ТАСС пра атаку невядомай падлодкай савецкіх параходаў «Металіст» і «Піянер». Гэтыя караблі былі тарпедаваныя і патопленыя. Аднак нідзе не ўказвалася, што атакі здзейсніў «Арол».

14 кастрычніка 1939 года польская падлодка прыйшла ў англійскі порт Росайт. Шэсць тарпед (менавіта столькі не паспелі выгрузіць эстонцы) так і не былі выкарыстаны. У 1980-х гадах фінскія даследчыкі, вывучаючы гісторыю атакі на савецкія караблі ў 1939 годзе, даказалі, што гэта была правакацыя, падрыхтаваная Андрэем Ждановым. Выканаўцам атак быў камандзір савецкай падлодкі «Щ–303» капітан Восіпаў.

Падводная лодка «Арол» была адрамантавана, перабсталявана і ўвайшла ў склад 2-й падводнай флатыліі Каралеўскага ВМФ. 8 красавіка 1940 года каля паўночнага ўзбярэжжа Нарвегіі палякі знішчылі свой першы нямецкі транспарт «Рыа-дэ-Жанэйра», які перавазіў салдат вермахта.

Да мая 1940 года падлодка паспела паўдзельнічаць у 7 баявых паходах. 1 і 2 чэрвеня камандзіру лодкі быў адпраўлены загад аб перадыслакацыі ў раён праліва Скагерак, аднак адказу на паведамленне брытанцы не атрымалі. Далейшыя спробы выйсці на сувязь з палякамі нічога не далі, і з 8 чэрвеня 1940 года ORP «Orzeł» лічыцца зніклай без вестак. Па адной з версій, судна загінула, трапіўшы на міну.

* * *

У 2008 годзе з Гдыні на месца меркаванай гібелі польскай падводнай лодкі адправілася пошукавая экспедыцыя. Дайверы 17 дзён шукалі ў Паўночным моры парэшткі лодкі, аднак тады карабель так і не быў знойдзены.

31 мая 2013 года польскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі пра сенсацыйную знаходку корпусу падводнай лодкі «Арол». Польскім спецыялістам удалося на глыбіні 70 метраў вызначыць парэшткі невядомай падлодкі. Большасць з вайсковых спецыялістаў упэўнена, што гэта менавіта ORP «Orzeł».

# Трагедыя сцяга з «Пагоняй»

25 верасня 1936 года ў Пінску міністр абароны Польшчы брыгадны генерал Тадэвуш Каспшыцкі ўручыў камандаванню 84-га палка палескіх стралкоў новы сцяг. Гэты сцяг з «Пагоняй» праз 3 гады стаў трафеем бальшавікоў.

84-ы полк палескіх стралкоў бярэ свой пачатак у 1920 годзе, калі ў Остраве Мазавецкім быў сфармаваны 101-ы рэзервовы пяхотны полк, які летам таго ж года заняў баявыя пазіцыі на польска-бальшавіцкім фронце на рацэ Случ. Аднак пасля ўдару Першай коннай арміі чырвоных польскія жаўнеры вымушаны былі хутка адступіць. Пазней часткі палка прынялі ўдзел у абароне Ломжы і Пултуска. Пасля «цуда на Віслє» пехацінцы 101-га ўдзельнічалі ў бітве за Гродна, а напрыканцы вайны жаўнеры неслі службу на польска-літоўскай дэмаркацыйнай памежнай лініі.

За ўдзел у вайне з бальшавікамі 32 жаўнеры палка былі ўзнагароджаны Крыжам «Віртуці Мілітары» пятай ступені, 122 жаўнеры атрымалі Крыж мужных. У мірны час назва гэтай вайсковай адзінкі змянялася некалькі разоў, пакуль у 1934 годзе загадам міністра вайсковых спраў яна не стала называцца 84-м палком палескіх стралкоў.

Як адзначалася ў загадзе камандзіра палка дыпламаванага палкоўніка Станіслава Штарэйкі, «*выраб палкавога сцяга фінансавалі прадстаўнікі ўсіх груп насельніцтва, якія пражывалі на Палессі, незалежна ад іх веравызнання*». Сам штандар быў зроблены з белага шоўку: палотнішча памерам 100 на 100 сантыметраў было абабіта залатымі махрамі з трох бакоў. Правы бок (з гербам Польшчы) быў выкананы ў адпаведнасці са Статутам ад 1927 года. На левым баку, па кутах, былі размешчаны выявы герба Пінска, герба Ломжы, герб «Пагоня» і малюнак заступніцы Палесся Божай Маці Кодэнскай. У промнях крыжа былі надпісы: Пултуск, Гродна, Звягель, Ломжа, якія сімвалізавалі баявую гісторыю палка. Пасярэдзіне ў лаўровым вянку змяшчаўся надпіс «Гонар і Радзіма».

Напярэдадні ўручэння сцяга на вуліцах Пінска быў арганізаваны парад. Стралковая рота пад камандаваннем

Станіслава Матусяка ў суправаджэнні аркестра прамаршыравала па вуліцах Альбрэхтоўскай, Агінскага, Касцюшкі, Жвіркі і Вігуры, Надбярэжнай да пінскага староства. Камандаваў урачыстасцю маёр Людвік Улазенка.

Пасля выступлення палкоўніка Станіслава Штарэйкі, быў агучаны спіс палеглых у польска-бальшавіцкай вайне жаўнераў палка. Пазней «палешукі» развіталіся са старым сцягам. Старшы сяржант Вацлаў Вацінскі ўспамінаў, што падчас урачыстай цырымоніі капелан палка ксёндз Генрых Антановіч *«адзначыў гераізм жаўнераў і афіцэраў палка ў абароне Айчыны»*.

Новы сцяг з рук міністра вайсковых спраў, дывізійнага генерала Тадэвуша Каспшыцкага атрымаў кавалер Крыжа «Віртуці Мілітары» харунжы Пётр Турэк. Падчас урачыстага мерапрыемства пінскі стараста падарыў камандзіру палка памятны фотаальбом, а таксама зачытаў рашэнне аб перайменаванні вуліцы Альбрэхтоўскай у вуліцу імя 84-га палка палескіх стралкоў. Акрамя гэтага, палку былі перададзены два буйнакаліберныя кулямёты.

Да пачатку схаванай мабілізацыі ў сакавіку 1939 года сцяг знаходзіўся ў спецыяльнай шкляной вітрыне ў кабінеце камандзіра палка. Падчас мабілізацыйных мерапрыемстваў ганаровая варта выносіла сцяг з «Пагоняй» для прысягі навабранцаў, а затым разам з палком штандар адправіўся да месца новай дыслакацыі, на поўдзень Польшчы.

*«Наш транспарт з Пінска праз Брэст, Лукаў, Радам прыехаў на станцыю Семкавічы. Адразу пачалася выгрузка нашых частак, якія хутка накіраваліся ў Хабеліцы. Камандаванне палка заняло асобны будынак. Палкавы сцяг знаходзіўся ў чахле і быў размешчаны ў мясцовай школе. Ён выдаваўся жаўнерам толькі на вялікія святы (напрыклад, Божага Цела). Для яго атрымання ў штаб прыбывала сцяжная група»*, — пісаў у сваіх успамінах узгаданы раней Вацлаў Вацінскі.

З моманту пачатку баявых дзеянняў у верасні 1939-га палкавая святыня знаходзілася пад апекай ад'ютантаў: капітана Яраслава Добрскага і падпаручніка рэзерву Яна Казлоўскага. Падчас бітвы на Варце з першага батальёну палка быў выдзелены ўзвод для аховы сцяга. Пазней штандар зна-

ходзіўся ў абозе гаспадарчай роты, і за яго адказвалі капітан Францішак Фільзэк і паручнік Рышард Обер-Піхлер.

Падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года 84-ы полк прымаў удзел у баявых дзеяннях 30-й палескай дывізіі, якая ўваходзіла ў склад Арміі «Лодзь» і змагалася пад Трыбунальскім, Дзялошынам, Бабpoўнікамі. 10 верасня 1939 года палешукі вымушаныя былі адступіць — спачатку ў накірунку Варшавы, а пазней Модліна, дзе часткі Войска Польскага з Заходняй Беларусі, заняўшы ўчастак абароны «Крэпасць», змагаліся да 29 верасня. У сваю чаргу, чацвёрты батальён 84-га палка, у складзе Валынскай брыгады кавалерыі, 1 верасня 1939 года змагаўся ў кровапралітнай бітве пад Мокрай, падчас якой польскім жаўнерам удалося знішчыць 100 нямецкіх танкаў і браневікоў. Дзеянні польскіх войскаў на некалькі дзён затрымалі наступленне 4-й танкавай дывізіі вермахта.

10 верасня 1939 года падпаручнік Мажэйка разам з некалькімі салдатамі палка прывезлі сцяг у Пінск. У будынку штаба знаходзіўся дзяжурны афіцэр, паручнік Казімір Сасноўскі, якому і была перададзена палкавая святыня з вывай «Пагоні». У гэты час у горадзе на Піне таксама ішло фармаванне польскіх вайсковых падраздзяленняў са складу надыходзячых з фронту разбітых частак, а таксама маракоў Пінскай рачной флатыліі ВМФ II Рэчы Паспалітай.

17 верасня 1939 года пачаўся паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Польскія часткі, якія знаходзіліся ў Пінску, пакінулі горад. Сцяг палескага палка, як і штабную дакументацыю, жаўнеры Войска Польскага забралі з сабой.

*«Я павінен быў выконваць абавязкі камандзіра першай роты. Рэзервовы батальён 84-га палка палескіх стралкоў налічваў 350 жаўнераў. Усе былі ўзброеныя карабінамі, ручнымі кулямётамі, меліся таксама і мінамёты. Камандзірам батальёна быў прызначаны паручнік Шымчак. Пазней генерал Францішак Клееберг здзейсніў агляд батальёну і камандзірам падраздзялення прызначыў невядомага капітана, які меў досвед удзелу ў Першай сусветнай вайне. Пад яго камандаваннем батальён пакінуў Пінск і цягніком паехаў у Янаў Палескі, а адтуль на Любешаў, дзе хутка спалучыўся*

*з маршавай калонай маракоў пінскай флатыліі»,* — пісаў пасля вайны ва ўспамінах паручнік рэзерву Анджэй Сіўка.

29 верасня 1939 года польскім часткам (у тым ліку і жаўнерам з Пінску) прыйшлося весці баі супраць падраздзяленняў Чырвонай Арміі ў раёне Шацка. 1 кастрычніка 1939 года палешукі ў бітве пад Вытычна сышліся з часткамі 253-га стралковага палка 45-й дывізіі Чырвонай Арміі. Пры гэтым камандаваў батальёнам Казімір Сасноўскі. Паранены афіцэр быў схоплены жаўнерамі Чырвонай Арміі і накіраваны ў лагер у Старабельску, а пазней — расстраляны НКУС у Харкаве ў 1940 годзе. Сцяг 84-га пяхотнага палка палескіх стралкоў стаў бальшавіцкім трафеем.

Увесну 1940 года ў адной з савецкіх газет была апублікавана фатаграфія чырвонаармейца, які трымаў у руках той самы сцяг з Пінска. Пад здымкам быў подпіс: «*Сцяг 84-га польскага стралковага палка, захоплены байцамі Чырвонай Арміі*». Таксама паведамлялася, што трафейны сцяг быў перададзены ў Музей Чырвонай Арміі ў Маскве. А да гэтага штандар пабываў на выставе савецкіх трафеяў Вераснёўскай кампаніі 1939 года, арганізаванай у Кіеве. У Маскве сцяг 84-га палка палескіх стралкоў знаходзіўся да 1992 года. Падчас візіту прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы ў Маскву ў пачатку 1990-х гадоў, расійскі бок перадаў яму некалькі рарытэтаў, у тым ліку і шматпакутны сцяг з «Пагоняй». Сёння штандар палескіх стралкоў знаходзіцца ў Музеі Войска Польскага ў Варшаве.

## Паляванне на крылатых «Ласёў»

Адной з «белых плям» падзей 1939 года з'яўляецца гісторыя захопу савецкім бокам 13 верасня 1939 года двух польскіх бамбардзіроўшчыкаў «PZL–37 Łoś» на тэрыторыі БССР, у раёне Мазыра.

У перыяд міжваеннага дваццацігоддзя польская ваенная авіяцыя прайшла значны шлях у сваім развіцці. Да пачатку Другой сусветнай вайны камандаванню Войска Польскага ўдалося абсталяваць свае ВПС сучаснымі на той

момант знішчальнікамі «PZL P-7» і «PZL P-11» а таксама бамбардзіроўшчыкі «PZL P-23 Karaś». Па тэхнічных характарыстыках гэтыя машыны не саступалі самалётам сумежных дзяржаў (у тым ліку СССР і Германіі).

У савецкім выданні «Даведачныя звесткі па паветраных сілах», якое ўбачыла свет у 1935 годзе, у прыватнасці, адзначалася, што «*польская прамысловасць выпускала выдатныя знішчальнікі айчыннай канструкцыі, а таксама іншыя тыпы самалётаў*». Зрэшты, як пакажа пачатковы перыяд баявых дзеянняў супраць нацысцкай Германіі, колькасць сучасных баявых машын у польскай арміі была недастатковай для эфектыўнага вядзення абарончай вайны.

Сапраўднай жамчужынай польскага перадваеннага авіяпраму стаў найноўшы бамбардзіроўшчык «PZL-37 Łoś». Гэты самалёт павінен быў замяніць састарэлыя французскі «Галіяф» і галандскі «Фокер». Як адзначаюць гісторыкі авіяцыі, «Лось» належаў да сямейства бамбардзіроўшчыкаў новага тыпу. Адметнай рысай гэтых самалётаў у плане тактычнага выкарыстання была большая, чым раней, хуткасць палёту.

На авіяцыйных выставах у Бялградзе і Парыжы гэтая машына зрабіла сапраўдны фурор, здзівіўшы ваенных спецыялістаў розных краін хуткасцю 445 кіламетраў на гадзіну і бомбавай нагрузкай у 2,5 тоны. Неўзабаве ў Варшаву пасыпаліся прапановы аб закупцы новага перспектыўнага самалёта. Вясной 1939 года Югаславія падпісала кантракт на пастаўку 10 машын гэтага тыпу. Затым Балгарыя пажадала купіць 15 самалётаў. Больш за тое, балгары адправілі сваіх ваенных пілотаў на стажыроўку ў Польшчу. Планавалася прадаць бамбардзіроўшчыкі ў Турцыю і Румынію, а ліцэнзійную зборку у сябе пажадалі арганізаваць Бельгія, Данія, Эстонія і Фінляндыя.

Пасля нападу Германіі на Польшчу планавалася прыцягнуць «PZL-37 Łoś» для масіраванай бамбёжкі Кёнігсберга і нямецкіх ваенных аэрадромаў ва Усходняй Прусіі. Аднак ад гэтай ідэі давялося адмовіцца.

Першым баявым заданнем для «Ласёў» стала атака частак вермахта ў раёне Лодзі. Паводле польскіх гісторыкаў,

за два тыдні Вераснёўскай кампаніі польскія бамбардзіроўшчыкі здзейснілі 100 баявых вылетаў. Аднак фронт рухаўся занадта хутка. У такіх умовах ужыванне бамбардзіровачнай авіяцыі было неэфектыўным. Акрамя таго, існавала небяспека нанясення ўдару па сваіх частках.

Пачынаючы з 1 верасня 1939 года савецкі бок пільна сачыў за тым, што адбывалася ў суседняй дзяржаве. Сталін рыхтаваўся да «кідку на Захад» і чакаў для гэтага зручны момант. На савецка-польскай мяжы былі ўзмоцненыя патрулі. Да зыходу другога тыдня баявых дзеянняў у Польшчы Штаб ВПС Беларускай асобай ваеннай акругі ўсё часцей тэлеграфаваў у Маскву пра выпадкі парушэння паветранай прасторы СССР польскімі ваеннымі самалётамі.

Так, 12 верасня 1939 года ў раёне Шапятоўкі мяжу парушыў польскі трохматорны самалёт. Паглыбіўшыся на 9 кіламетраў на савецкую тэрыторыю, ён вярнуў назад. 15 верасня 1939 года ТАСС паведаміла, што двума днямі раней польскія бамбардзіроўшчыкі парушылі савецкую мяжу ў раёне Крывіна і Ямпаля. Двухматорны польскі самалёт быў акружаны савецкай знішчальнай авіяцыяй і прымушаны да пасадкі. Польскія пілоты — падхарунжы Хенрык Удык, капрал-пілот Юзаф Бідык і шараговы Станіслаў Хоньда — былі арыштаваныя.

Вось што адзначалася ў даведцы начальніка Першага аддзела штаба ВПС РСЧА палкоўніка Пенцюкова аб парушэннях заходняй мяжы СССР польскімі ваеннымі самалётамі: *«У 16.30 13 верасня 1939 года ў раёне Жыткавічы (100 км на паўночны захад ад Мазыра) тры польскія самалёты тыпу «Лось» (PZL–37) пераляцелі нашу мяжу і паглыбіліся на тэрыторыю Савецкага Саюза на 130 км. Адзін польскі самалёт у раёне Васілевіч (44 км на паўночны ўсход ад Мазыра) пацярпеў катастрофу. Экіпаж загінуў. Нашы знішчальнікі нагналі два іншых польскіх самалёта, якія былі і пасаджаныя на поле ў раёне Давыдавічы. Экіпажы не пацярпелі, самалёты тыпу ПЗЛ–37 спраўныя»*. У паведамленні ТАСС аб гэтым здарэнні казалася, што польскія пілоты ў складзе 12 чалавек былі затрыманыя.

А вось што адбылося на самай справе. З аэрадрома ў Пружанах узляцела звяно (3 самалёты) са складу 213-й

вучэбна-бамбардзіровачнай эскадрыллі Войска Польскага пад камандаваннем паручніка-пілота Эдварда Багдановіча. Самалёты накіроўваліся на польскі аэрадром Хутнікі пад Бродамі, але ў пэўны момант з-за дрэннага надвор'я лётчыкі збіліся з курсу і, пераляцеўшы савецка-польскую мяжу, паглыбіліся на 130 кіламетраў углыб тэрыторыі БССР. На перахоп самалётаў былі паднятыя савецкія знішчальнікі, якія хацелі прымусіць палякаў да пасадкі, але тыя паспрабавалі вярнуцца назад. Мабыць, адзін з бамбардзіроўшчыкаў (той, які разбіўся пад Васілевічамі) уступіў у бой з савецкімі самалётамі і быў збіты. А вось дзве іншыя машыны патрапілі ў рукі савецкіх уладаў.

Экіпажы гэтых самалётаў былі арыштаваныя. Неўзабаве пілотаў перавезлі ў Мінск на допыты, пасля чаго адправілі ў лагеры для ваеннапалонных. Праз два гады, 5 кастрычніка 1941 года, камандзір аднаго з самалётаў, паручнік Эдмунд Руй памёр ад знясілення на лесапавале ў лагеры Каргаполь у Архангельскай вобласці. У адным з лагераў ГУЛАГа загінуў і паручнік-назіральнік Збігнеў Вуйчык. Жах савецкага палону перажылі паручнік Эдвард Багдановіч, сяржант-пілот Ян Бардыга і адзін з механікаў Станіслаў Новік. Усе трое пазней уступілі ў войска Андэрса і пакінулі Савецкі Саюз у 1942 годзе. Эдвард Багдановіч, які атрымаў званне капітана, ваяваў з нацыстамі ў небе над Атлантыкай і быў узнагароджаны шматлікімі брытанскімі і польскімі ўзнагародамі.

Самалётам, які разбіўся пад Васілевічамі, кіраваў паручнік-назіральнік Юзаф Каўка. Членамі яго экіпажа былі механік Чэслаў Чарномскі і капрал Стэфан Петжак. На жаль, нам не вядома, што стала з целамі пілотаў. Хутчэй за ўсё, польскія лётчыкі былі пахаваныя дзесьці непадалёк ад месца катастрофы.

Інфармацыя пра трафейныя бамбардзіроўшчыкі, захопленыя ў палякаў, зацікавіла 5-е выведвальнае ўпраўленне штаба РСЧА. Да месца высадкі была накіравана група спецыялістаў НДІ ВПС на чале з начальнікам аддзела самалётаў І. Ф. Пятровым. Пілатаваць захопленыя польскія бамбардзіроўшчыкі павінны былі лепшыя савецкія лётчыкі-выпрабавальнікі: К. А. Калілец, М. А. Нюхцікоў і П. М. Сцефаноўскі.

Агляд польскіх самалётаў паказаў, што яны спраўныя і гатовыя да пералёту.

Зрэшты, паводле ўспамінаў савецкіх пілотаў, якія ўдзельнічалі ў той спецаперацыі, сістэма кіравання «Ласёў» значна адрознівалася ад той, што была ў савецкіх машынах. Баючыся праблем з гідрасістэмай, лётчыкі вылецелі з выпушчанымі шасі і ўзялі курс на Бабруйск. Аперацыя па транспарціроўцы трафейных самалётаў была засакрэчанай, пра яе ніхто не паведаміў камандаванню частак СПА РСЧА, якія былі ў горадзе на Бярэзіне. Таму, калі над Бабруйскам з'явіліся «чужыя» самалёты з чырвона-белымі квадратамі (польскай «шахаўніцай») на крылах, камандзіры разлікаў зенітнай артылерыі скамандавалі: «Агонь!» Савецкім лётчыкам давялося дэманстраваць цуды пілатажу, каб не патрапіць пад агонь і пасадзіць «PZL–37 Łoś» на аэрадроме Бабруйска.

На наступны дзень самалёты вылецелі да месца прызначэння. Ужо ў Маскве з трафейнай тэхнікай азнаёміліся прадстаўнікі савецкага ўрада і камандавання Чырвонай Арміі. Кажуць, што на цуд польскай інжынернай думкі прыязджаў паглядзець і Сталін.

Самалёты былі рознай мадыфікацыі. Адзін з іх — «PZL–37 B» — быў выпушчаны ў 1939 годзе. Другі бамбардзіроўшчык быў больш ранняй мадыфікацыі «PZL–37A bis» і ўваходзіў у 2-ю серыю, зробленую ў сярэдзіне 1938 года. Гэтая машына адмыслова дапрацоўвалася для навучальных мэтаў. За асноўным, штатным, месцам пілота было створана другое, прызначанае для інструктара. Там мелася дадатковая прыборная дошка. На абодвух польскіх бамбардзіроўшчыках цалкам адсутнічала бомбавае ўзбраенне, а са стралковага на адным «Лосі» меўся кулямёт. Не хапала і некаторага абсталявання. Напрыклад, на «PZL–37A bis» адсутнічалі радыёстанцыя і штурманскі компас.

4 кастрычніка 1939 года самалёт «PZL–37 B» сутыкнуўся са знішчальнікам «I–15 біс». Маленькі савецкі знішчальнік-біплан трапіў пад прапелер «паляка» і быў цалкам рассечаны. У бамбардзіроўшчыка была пашкоджана кансоль правага крыла і пагнуты прапелер. Маёр В. У. Лісіцын, які пілатаваў польскі самалёт, не пацярпеў, а вось пілот біплана інжынер

3-га рангу Б. П. Кашаўцаў загінуў на месцы. Падчас «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ў верасні 1939 года» ў распараджэнні камандавання савецкіх ВПС апынулася вялікая колькасць розных польскіх самалётаў, у тым ліку і «Ласёў», але запчастак да іх не хапала.

Савецкія ваенныя спецыялісты займаліся аблётам другога самалёта — «PZL–37A bis». Машыну тэставалі досыць актыўна: у перыяд з кастрычніка па снежань 1939 года было здзейснена 39 палётаў. Вядучым інжынерам па трафейнай польскай авіятэхніцы быў прызначаны вайсковы інжынер 2-га рангу Панюшкін. Пілатавалі самалёт маёр Нюхцікоў і капітан Хрыпкоў, але некалькі палётаў здзейснілі таксама маёры Сцефаноўскі, Кабанаў і капітан Дацко. Штурманамі былі маёры Перавалаў, Нікіцін і Цвяткоў. Асаблівых здарэнняў у ходзе палётаў не было. Толькі адзін раз, 21 кастрычніка 1939 года, у паветры лопнула трубка сілавога цыліндру шасі. Лётчык своечасова зрэагаваў, і аварыі не адбылося. Аказалася, што «Лось» да моманту свайго «палону» пад Мазыром ужо прабыў у паветры больш за 100 гадзін і здзейсніў 558 пасадак (што характэрна для вучэбнай машыны). У ходзе выпрабаванняў часта ўзнікалі адмовы вінтаматорнай групы, якая ўжо знаходзілася на мяжы сваіх магчымасцяў. А вось баявы «PZL–37 B» быў з больш магутнымі маторамі «Пегас» XX, і таму больш хуткі.

Савецкія лётчыкі адзначалі, што «Лось» вызначаўся добрай устойлівасцю на ўсіх рэжымах палёту, а тэхніка пілатавання на ім была прасцей, чым на савецкіх машынах аналагічнага класа. Таксама былі адзначаныя зручнасць эксплуатацыі бамбардзіроўшчыка і добры доступ да яго вузлоў і агрэгатаў. Высокую ацэнку з боку савецкіх інжынераў і пілотаў атрымала праца польскага авіяцыйнага завода ў Океньце.

Гаворка ішла аб высокай якасці зборкі і дбайнасці мантажу абсталявання. З канструктыўнага пункту гледжання, цікавасць савецкіх спецыялістаў у першую чаргу выклікала шасі з незвычайнымі для таго часу двухколавымі каляскамі. Пры малых габарытах каляскі забяспечвалі самалёту добрую праходнасць на палявых аэрадромах.

Савецкія інжынеры былі здзіўленыя адсутнасцю ў польскага самалёта пры вялікай бомбавай нагрузцы (да 2580 кг) вонкавай падвескі бомбаў. Унутранае ж іх размяшчэнне прызналі вельмі ўдалым. Пасля завяршэння выпрабаванняў 5 студзеня 1940 года «PZL–37 Łoś» быў перададзены для вывучэння на маскоўскі завод № 156. Да гэтага часу там ужо знаходзіўся самалёт, пашкоджаны падчас выпрабаванняў у кастрычніку 1939-га. Польскія бамбардзіроўшчыкі разабралі на асобныя вузлы, якія старанна абмералі і ўзважылі. Спецыялісты завода выканалі чарцяжы машыны ў цэлым, яе асноўных вузлоў і важнейшых дэталяў. Самалёты па меры разборкі пастаянна фатаграфаваліся. Канструкцыя аналізавалася з пункту гледжання магчымага запазычання ўдалых інжынерных рашэнняў. У цэлым працу калегаў з канструктарскага бюро «Polskich Zakładów Lotniczych» (Польскіх авіяцыйных прадпрыемстваў) савецкія спецыялісты ацанілі дастаткова высока, падкрэсліваючы, што канструкцыя самалёта «PZL–37» з'яўляецца сучаснай як у дачыненні да аэрадынамікі, так і ў дачыненні да тэхналогіі і эксплуатацыі.

## «Чырвоныя Зоркі» над Заходняй Беларуссю

17 верасня 1939 года стаў днём дэбюту савецкай авіяцыі ў Другой сусветнай вайне. Напярэдадні пачатку «вызвольнага паходу» ў складзе Беларускай і Кіеўскай асаблівых ваенных акругаў, якія сталі неўзабаве Беларускім і Украінскім франтамі, былі створаны магутныя авіяцыйныя групоўкі. Так, у прыгранічных з Заходняй Беларуссю тэрыторыях БССР былі сканцэнтраваны 13 авіяцыйных палкоў і тры асобныя авіяцыйныя эскадрыллі.

Магутнае знішчальнае прыкрыццё складалася з сямі авіяпалкоў. Акрамя авіяцыі, прымацаванай да наземных войскаў, былі падраздзяленні франтавога падпарадкавання. Камандаваў авіяцыяй Беларускага фронту камдзіў Канстанцін Гусеў. Для ўдзелу ў баявых дзеяннях у Заходняй

Беларусі савецкае камандаванне планавала прыцягнуць сваіх лепшых лётчыкаў. З плацдарма на Халхін-Голе, дзе ішлі кровапралітныя баі з японцамі, адклікалі пілотаў Лакеева, Асіпенку, Смушкевіча, Краўчанку, Душкіна, Гусева, Грыцаўца. Апошні з іх, двойчы Герой Савецкага Саюза Сяргей Іванавіч Грыцавец, трагічна загінуў у авіякатастрофе на аэрадроме Балбасава пад Оршай за дзень да пачатку «вызвольнага паходу ў Заходнюю Беларусь».

У 1939 годзе асноўнымі савецкімі знішчальнікамі былі выпрабаваныя ў Грамадзянскай вайне ў Іспаніі і ў баях з японцамі на Далёкім Усходзе знішчальнік «І–16» (які савецкія лётчыкамі празвалі «Ішачком», а пілоты люфтвафэ падчас баёў у Іспаніі — «Пацуком») і знішчальнік-біплан «І–15 біс». Абедзве машыны былі створаныя ў КБ Палікарпава. Асновай бамбавальнай авіяцыі былі самалёты «СБ». У Беларусі яны ў асноўным канцэнтраваліся ў палках 16-й, 18-й і 70-й авіябрыгад. Цяжкія бамбардзіроўшчыкі «ТБ–3» павінны былі выкарыстоўвацца ў якасці транспартнай авіяцыі.

Паводле польскіх гісторыкаў, на 1 верасня 1939 года ў складзе польскіх ВПС было крыху больш за 400 баявых самалётаў. У савецкім выданні «Даведачныя звесткі па паветраных сілах», надрукаваным у 1935 годзе, пазначалася, што польскія ВПС складаліся з 39 эскадрылляў з асабістым складам амаль у 11 тысяч чалавек.

Асноўным знішчальнікам польскай арміі лічыўся «PZL P–11». Гэта машына была распрацавана канструктарам Усеваладам Якімюком і паступіла на ўзбраенне ў пачатку 1930-х гадоў. «P–11» выраблялася не толькі для польскага войска, але таксама ішоў на экспарт. Асноўнымі польскімі бамбардзіроўшчыкамі былі «PZL R–23» («Карась») і «PZL P–37» («Лось»).

У ходзе ваенных дзеянняў з нацысцкай Германіяй значная частка польскай ваеннай авіяцыі была знішчаная. Тыя самалёты, што засталіся, давялося перагрупіраваць і падрыхтаваць да эвакуацыі ў нейтральныя краіны.

Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу ў 4 гадзіны раніцы 17 верасня 1939 года. Савецкай авіяцыі была пастаўлена задача выяўлення польскіх ваенных аэрадромаў, ліній умацаванняў і абарончых пунктаў. Акрамя

гэтага, бальшавіцкім пілотам быў аддадзены найстражэйшы загад не атакаваць самалёты «Люфтвафэ».

У «Дзённіку баявых дзеянняў Беларускага фронту» 17 верасня было запісана: *«Авіяцыя 3-й арміі ажыццяўляла палёты ў раёнах Пастаўскага ўмацаванага раёна, возера Свір, возера Нарач, возера Мядзел, Глыбокага, Свянцян, Лынтупаў, Вілейкі з мэтай вызначэння месцаў размяшчэння польскіх ваенных аэрадромаў, месцаў дыслакацыі польскіх войскаў у раёнах старых нямецкіх умацаванняў. У раёне Вілейкі была выяўленая зенітная батарэя. У раёне возера Нарач былі сустрэтыя польскія самалёты PZL–24. У раёне Відзаў звяно нашых бамбардзіроўшчыкаў было атакавана звяном польскіх знішчальнікаў. У раёне Варапаева нашымі самалётамі быў атакаваны польскі воінскі эшалон»*.

Неўзабаве, «сталінскія сокалы» атрымалі загад выведаць раён Свянцяны–Вільня–Гродна–Ліда–Ашмяны і атакаваць польскія часткі, якія накіроўваліся ў бок мяжы з Літвой. Польская армія была дэзарыентаваная паводзінамі савецкага боку. Савецкі Саюз не абвясціў вайны Польшчы, але чаму тады Чырвоная Армія атакуе Войска Польскае? Адно з падраздзяленняў польскіх ВПС у складзе трох бамбардзіроўшчыкаў «Лось» пераляцела савецка-польскую мяжу і скінула бомбы ў раёне Слуцка. Але гэты выпадак быў хутчэй выключэннем з правілаў. Паветраных баёў у небе Заходняй Беларусі, акрамя адзначанага вышэй боекантакту ў раёне Відзаў, не зафіксавана.

А вось у небе Заходняй Украінай такія сутычкі здараліся. Напрыклад, 17 верасня 1939 года пасля атрымання паведамлення аб савецкім уварванні з аэрадрома Петлякоўцы пад Тарнополем быў узняты самалёт пілота Станіслава Заторскага, які павінен быў правесці паветраную выведку польска-савецкай мяжы. Падчас палёту ён быў атакаваны звяном савецкіх знішчальнікаў, але не спалохаўся і даў бой. У ходзе таго бою былі пашкоджаныя два савецкіх самалёта, якія паляцелі на ўсход, пакідаючы дымны след. Польскі самалёт быў таксама падбіты, але змог прызямліцца пад Пінскам. Станіслаў Заторскі быў смяротна паранены і памёр па дарозе ў шпіталь.

18 верасня 1939 савецкія самалёты з'явіліся над размешчанай пад Гродна польскай авіяцыйнай базай ля Караліна. Гарнізон базы забяспечваў дзеянні 5-га польскага авіяпалка з Ліды. База ахоўвалася трыма зенітнымі гарматамі і кулямётамі. Увечары таго ж дня савецкія самалёты здзейснілі налёт на Каралін. Тады быў узарваны авіяцыйны ангар. У выніку нападу з'явіліся забітыя сярод шарагоўцаў і афіцэраў Войска Польскага. Дзіўна, але польскія вайскоўцы агонь у адказ не адкрылі. Мабыць, камандаванне базы ўсё яшчэ верыла, што Чырвоная Армія прыйшла «на дапамогу» Польшчы ў вайне з Германіяй. Але на наступны дзень налёт паўтарыўся, і гэтым разам польскія сродкі СПА адкрылі агонь у адказ і збілі тры савецкія самалёты.

20 верасня было прынята рашэнне аб перадыслакацыі савецкіх самалётаў на аэрадромы, размешчаныя ў Заходняй Беларусі. З гэтай акалічнасцю звязана загадкавая гібель чатырох знішчальнікаў І–15 у раёне Баранавічаў. Расійскі даследчык Канстанцін Стральбіцкі ў свой час выявіў у архіве дакладную запіску начальніка штаба ВПС 4-й арміі падпалкоўніка Глухава, адрасаваную камандуючаму ВПС Беларускага фронту.

Вось што было ў гэтым дакуменце: «*Інфармую з нагоды гібелі чатырох экіпажаў лейтэнантаў Танічкіна, Дзянісава, Маргунова, Зіноўева на самалётах І–15. 21 верасня 1939 года камандуючым ВПС 4-й арміі палкоўнікам Гушчыным было загадана камандзіру 35-га знішчальнага авіяцыйнага палка маёру Палуніну перагнаць 2 звяна лепшых экіпажаў І–15 на аэрадром Баранавічы. Прычым маёр Рыбакоў, які прысутнічаў пры гэтым, загадаў маёру Палуніну, каб ён асабіста прывёў шасцёрку І–15 на аэрадром Баранавічы. 22 верасня 1939 года ў 7.00 шэсць І–15 і адзін І–16 вылецелі з аэрадрома Набушава (пад Слуцкім) на аэрадром Баранавічы.*

*З апытання экіпажаў, што вярнуліся, устаноўлена, што пры ўзлёце з аэрадрома Набушава вышыня воблачнасці была 300 метраў, у той час як у Баранавічах вышыня была 50–100 метраў пры бачнасці да 2-х кіламетраў.*

*Дайшоўшы да мястэчка Сіняўка, група ўвайшла ў суцэльны туман. Вядучы групы прыняў рашэнне вярнуцца, для чаго*

*зрабіў левы разварот. Падчас развароту 4 экіпажа адарваліся ад вядучага звяна і не вярнуліся на аэрадром Набушава. Мяркую, што экіпажы лейтэнантаў Панічкіна, Дзянісава, Маргунова і Зіноўева, здзяйсняючы разварот у суцэльным тумане па-за бачнасці зямлі, урэзаліся з зямлю і загінулі. Звесткі, што былі дадзеныя намеснікам камандзіра авіяцыйнага атрада, нібы самалёты былі абстраляныя з зямлі, сумніўныя».*

Стральбіцкі, спасылаючыся на гэта данясенне, сцвярджаў, што савецкія самалёты разбіліся ў тумане. Аднак ёсць пэўныя падставы сцвярджаць, што савецкія біпланы І–15 пад Сіняўкай былі збітыя. Справа ў тым, што якраз у гэтыя ж дні з Кобрына ў раён, дзе пазней разбіліся савецкія самалёты, адыходзілі часткі польскай арміі. Сустракаючыся з падраздзяленнямі Чырвонай Арміі, польскія вайскоўцы аказвалі ім жорсткі супраціў.

Камандаваў гэтымі падраздзяленнямі палкоўнік Войска Польскага Адам Эплер. Ён выдаў загад сваім падначаленым змагацца з чырвонаармейцамі, а таксама са спачуваючымі ім мясцовымі партызанамі. У мястэчку Антопаль польскім салдатам удалося падбіць савецкі танк і знішчыць невялікі атрад чырвонаармейцаў. Цалкам можна дапусціць, што, убачыўшы савецкія самалёты, якія ляцелі вельмі нізка (з вышэйпрыведзенага данясення становіцца ясна, што воблачнасць прымусіла савецкіх лётчыкаў прыціскацца да зямлі), польскія вайскоўцы адкрылі па іх агонь.

Дарэчы, паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, перад падзеннем самалётаў было чуваць моцную ружэйна-кулямётную стральбу. Пілоты І–15, хутчэй за ўсё, нават не паспелі зразумець, хто і адкуль іх абстрэльвае. На карысць версіі аб тым, што савецкія самалёты ўсё ж былі збітыя палякамі, кажа і той факт, што на магіле аднаго з пілотаў была ўсталяваная шыльда з надпісам: *«Загінуў ад бандыцкай рукі»*. Трактоўка гэтай падзеі як недарэчнай выпадковасці, выкарыстаная ў данясенні падпалкоўніка Глухава, мабыць, тлумачыцца жаданнем не пагаршаць сітуацыю. Усё ж баявыя страты і страты ў выніку няшчаснага выпадку — гэта розныя рэчы.

За смерць сваіх таварышаў савецкія лётчыкі помсцілі. У адным з нумароў газеты «Праўда» за 1939 год мне ўдалося знайсці артыкул, у якім пілоты Беларускага фронту апісвалі баявыя дзеянні ў раёне Пінск–Кобрын: «*Савецкія войскі падыходзілі да горада Кобрын з боку станцыі Баранавічы. Палякі вырашылі перашкодзіць нашаму прасоўванню і адправілі з Пінска ў Кобрын буйныя падмацаванні. Мы толькі што прыляцелі ў Баранавічы, паабедалі і размясціліся ля самалётаў. Нам даручылі выведаць раён Кобрын–Пінск. Звяно знішчальнікаў вырулiла на старт. Узляцелі. Надвор'е было кепскае. Камандзір ішоў першым. Ля станцыі Гарадзец з саду, што паблізу вакзала, па ім адкрылі агонь з зенітнага кулямёта.*

*Таварыш Козыраў працягваў палёт па маршруце, а мы з Мардвіненкам спікіравалі і, вырваўшыся з-за станцыйнага будынка, на брыючым палёце абстралялі варожы кулямёт. Неўзабаве мы выявілі дзевяць варожых эшалонаў, якія накіроўваліся ў Кобрын, і павярнулі назад. Аблокі прыціскалі нас усё бліжэй да зямлі.*

*Неўзабаве было атрымана заданне — атакаваць варожыя эшалоны і не дапусціць іх да Кобрыну. Наша звяно ішло першым. Перад станцыяй Гарадзец камандзір паківаў крыламі сваёй машыны. Гэта азначала: «прыгатавацца». Я перазарадзіў кулямёт, адкрыў прыцэл і спікіраваў на вайсковы цягнік, які стаяў на станцыі. Не паспелі абстраляць адзін эшалон, як сустрэлі іншы, і з вышыні 400 метраў навaліліся на яго. З дахаў і з вокнаў вагонаў праціўнік адкрыў па нас агонь. Мы зайшлі ад паравоза і прайшлі брыючым палётам да хваста цягніка, паліваючы яго свінцовым дажджом.*

*Я ішоў апошнім і бачыў, як ад нашых стрэлаў выбухнуў паравоз. Станцыя Драгічын. На рэйках 6 вайсковых эшалонаў. На пероне мітусяцца людзі. Зноў абстрэльваем эшалоны, затым бярэм курс на Баранавічы. Абстраляныя намі эшалоны гараць, людзі разбягаюцца*».

23 верасня 1939 года савецкія бамбардзіроўшчыкі некалькі разоў атакавалі караблі Пінскай рачной флатыліі ВМФ Польшчы. На паўднёвым флангу Беларускага фронту часткі 4-й савецкай арміі спрабавалі адрэзаць шляхі адыходу

польскай аператыўнай групе «Палессе», якой камандаваў брыгадны генерал Францішак Клееберг.

Вось як апісваў адзін з паветраных налётаў на гэтыя польскія часткі савецкі пілот: «*Самалёт ішоў у аблоках. Атрымаўшы дадзеныя выведкі, камандаванне загадала нашай часціцы разбамбіць рэшткі войскаў праціўніка. Зніжаемся. Праціўнік заўважыў нас і адкрыў агонь. Вакол самалётаў рваліся снарады зенітнай артылерыі. На дарозе рухаліся часткі польскай арміі. У гэты момант на галаву ворагу пасыпаліся бомбы. З кожных дзесяці бомбаў сем дакладна патрапілі ў цэль. Палякі перасталі страляць. Ацалелыя ўрассыпную беглі ў лес*».

А вось як тую ж атаку ўспамінаў адзін з ацалелых польскіх жаўнераў: «*Мы былі ўжо некалькі гадзін на маршы. Раптам пачуўся роў матораў. Неўзабаве з-за лесу паказаліся самалёты з чырвонымі зоркамі. Далей было сапраўднае пекла. Пачулася кулямётная стральба. Людзі пабеглі ў розныя бакі, спрабуючы схавацца ў лесе. Я бачыў, як падаюць на зямлю забітыя аскепкамі людзі і коні. Некаторыя нашы салдаты стралялі па самалётах. Нарэшце налёт скончыўся, а вачам адкрылася страшная карціна. Ад нашай калоны практычна нічога не засталося. У нос біў ванітны пах... смажанага мяса і крыві. Да самага вечара мы збіралі параненых і забітых. Каля ста забітых мы пахавалі на старых сельскіх могілках. Параненых было каля трох сотняў*».

Падчас аднаго з такіх налётаў польскім артылерыстам удалося збіць савецкі самалёт з процітанкавай гарматы. Савецкі лётчык, заўважыўшы польскую калону, спікіраваў на яе. Забыўшыся аб усіх мерах засцярогі, ён занадта знізіўся. Польскія артылерысты, падняўшы дула гарматы на максімальна магчымую вышыню, стрэлілі і патрапілі прама ў матор самалёта.

25 верасня 1939 года штаб авіяцыі Беларускага фронту быў перанесены ў Ваўкавыск. Дасягнуўшы дэмаркацыйнай лініі і ўступіўшы ў кантакт з нямецкай арміяй у раёне Брэста, часткі Чырвонай Арміі спынілі прасоўванне на захад. Авіяцыі Беларускага фронту забаранялася залятаць за лінію, акрэсленую Пактам Рыбентропа–Молатава.

# Крэпасці, якіх баяўся Сталін

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза Камандаванне Чырвонай Арміі пільна вывучала польскія фартыфікацыйныя ўмацаванні.

23 мая 1940 года намеснік народнага камісара абароны СССР, маршал Рыгор Кулік падпісаў сакрэтную дырэктыву аб стварэнні адмысловай камісіі па вывучэнні фартыфікацыйных канструкцый, створаных у Польшчы напярэдадні Другой сусветнай вайны.

У чэрвені 1941 года, за некалькі дзён да нападу нацысцкай Германіі на Савецкі Саюз, савецкае камандаванне атрымала падрабязную аналітычную запіску, прысвечаную аналізу польскай фартыфікацыі па лініі ракі Нараў, мадэрнізаванай у 1931–1932 гадах крэпасці Асавец, умацаванняў ля Аўгустоўскага каналу і Баранавіцкага ўмацаванага раёну ля мястэчак Сталовічы і Крошын. Праца савецкай камісіі адбывалася не толькі на тэрыторыі, далучанай да СССР у верасні 1939 года, але таксама і на тэрыторыі Польшчы, акупаванай нацыстамі. У гэты час паміж Сталінам і Гітлерам быў «мядовы месяц», які праяўляўся ў тым ліку і ў супрацоўніцтве камандавання вермахта і Чырвонай Арміі.

Савецкія інжынеры адзначалі, што сярод польскіх умацаванняў, узведзеных адразу пасля Першай сусветнай вайны (у тэксце справаздачы выкарыстоўваўся тэрмін «імперыялістычнай»), сустракаліся канструкцыі старога тыпу з металічнай абаронай, зробленай з бэлек ці рэек. Ва ўмацаваннях больш позняга тыпу выкарыстоўваліся жалезабетонныя ўмацаванні з французскай сістэмай арміравання.

Аналізуючы мадэрнізацыю ўмацаванняў у крэпасці Асавец, савецкія вайсковыя аналітыкі адзначалі, што асабліва баяздольным быў форт Зарэчны (пабудаваны ў 1880-я гады і мадэрнізаваны ў 1931–1932 гадах), а таксама форты Цэнтральны і Шведскі. Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў крэпасці былі збудаваныя два моцныя артылерыйскія паўкапаніры, якія дазвалялі прастрэльваць даліну ракі Бобр. Акрамя гэтага ля мястэчка Вулька Пясэчна і ля ракі Бобр

знаходзілася група жалезабетонных капаніраў-блакгаузаў. У форце Зарэчны ўсе адкрытыя капаніры старой канструкцыі ў 1930-х гадах былі замененыя на бетонныя капаніры з бронекаўпакамі.

Што ж тычыцца ўмацаванняў ля Візны, Аўгустова, Вулькі Пясэчнай, то там палякі ў асноўным будавалі кулямётныя ДАКі, якія павінны былі сустрэць наступаючага праціўніка «сцяной кулямётнага агню». Але значнай хібай было тое, што ў гэтых раёнах Войска Польскае не мела глыбока эшаланіраванай абароны. Польскія агнявыя кропкі маглі весці не толькі франтальны, але і фланкіруючы кулямётны агонь, забяспечваючы эфектыўную абарону ўмацаванага ўчастка. Акрамя гэтага, ля агнявых кропак меліся акопы для пяхоты.

Аналізуючы падзеі вераснёўскай кампаніі 1939 года, аўтары дакладу адзначалі, што немцы для прарыву польскіх умацаванняў не выкарыстоўвалі дальнабойнай артылерыі. Значную ролю пры прарыве польскай лініі абароны адыгралі штурмавыя групы вермахта, якія мініравалі ўваходы ДАКаў і амбразуры. Вялізарнай хібай такіх абарончых умацаванняў была адсутнасць артылерыйскай, супрацьтанкавай падтрымкі. Сапраўды, пры выкарыстанні вялікай колькасці танкаў (як гэта рабілі нацысты падчас бліцкрыгу супраць Польшчы. — *І. М.*) лінія кулямётных ДАКаў і паўкапаніраў не ствара ла вялікую перашкоду для наступаючага агрэсара. Танкі проста праходзілі праз польскія ўмацаванні і ішлі наперад, а ўмацаваныя кропкі, што заставаліся ў тыле, знішчалі штурмавыя групы сапёраў і пяхоты.

На жаль, савецкія аналітыкі не пазначылі эфектыўнасць дзейнасці спецыяльна падрыхтаваных нямецкіх сапёраў, якія, нібы костачкі ў кампоце, знішчалі польскія ДАКі. Між тым, у чэрвені 1941 года штурмавыя групы вермахта, як і ў Польшчы, будуць эфектыўна змагацца ўжо супраць савецкіх умацаванняў.

17 красавіка 1936 года генеральны інспектар узброеных сіл ІІ Рэчы Паспалітай выдаў распараджэнне аб арганізацыі працы па будаўніцтву фартыфікацыйных умацаванняў на мяжы з Савецкім Саюзам. У гэтым сэнсе важнейшую ролю

адыгрываў Баранавіцкі ўмацаваны ўчастак, галоўнай задачай якога была арганізацыя абароны так званых «Смаленскіх варот» — лініі дарог, што вялі праз Брэст і Беласток да Варшавы. Пры гэтым стрымліваючыя баі павінны былі адбывацца на лініі рэк Нёман, Уша, Сэрвач, Верхняя і Ніжняя Шчара.

Польскае камандаванне разумела, што ў выпадку вайны з СССР Чырвоная Армія будзе наступаць у кірунку польскай сталіцы па найбольш кароткім шляху, праз Заходнюю Беларусь. Абарончы ўчастак «Баранавічы» быў падзелены на пяць падучасткаў. «Нёман» — ахопліваў тэрыторыю Налібоцкай пушчы. «Сэрвач» — па ўсёй лініі ракі Сэрвач. «Брама Гарадзішча» — ахопліваў тэрыторыю водападзелу паміж рэкамі Шчара і Сэрвач. «Цэнтр» — уздоўж ракі Шчара, па абодвух баках дарогі Мінск–Баранавічы. «Слуцкая шаша» — уздоўж шашы Слуцк–Брэст.

Пры гэтым польскае камандаванне актыўна выкарыстоўвала нямецкія і аўстрыйскія ўмацаванні перыяду Першай сусветнай вайны, а таксама будавала новыя ўмацаваныя кропкі. Усяго з 1931 па 1938 гады пад Баранавічамі было пабудавана і мадэрнізавана 350 ДАКаў. Акрамя гэтага былі збудаваны плаціны і дамбы на рэках Сэрвач, Верхняя і Ніжняя Шчара.

Аналізуючы польскую фартыфікацыю ля Баранавічаў, савецкія інжынеры падкрэслівалі, што тут былі розныя тыпы ўмацаванняў і канструкцый. Ля мястэчка Сталовічы палякі пабудавалі і мадэрнізавалі значную колькасць франтальных аднапавярховых і двухпавярховых агнявых збудаванняў. Ля мястэчка Крошын пераважалі жалезабетонныя кулямётныя паўкапаніры і капаніры, што мелі бронекаўпакі для вядзення франтальнага агню. Пры гэтым аўтары аналітычнага дакладу падкрэслівалі, што глыбіня паласы абароны стваралася некалькімі паслядоўнымі лініямі ўмацаванняў.

Цікавым было адзначэнне таго, што дзеля маскіроўкі сваіх ДАКаў палякі засаджвалі іх маладымі дрэвамі, аднак у некаторых выпадках гэтыя зялёныя аазісы па сярэдзіне поля па просту выдавалі ДАКі і дазвалялі праціўніку зарыентавацца, што перад ім знаходзіцца польскі апорны пункт.

У тым жа 1941 годзе Выдавецтва Ваенна-інжынернай акадэміі Чырвонай Арміі публікуе працу «Жалезабетонныя фартыфікацыйныя збудаванні Польшчы», у якой даволі падрабязна разглядалася сістэма пабудовы польскіх ДАКаў. У выданні, у прыватнасці, адзначалася, што польская Вышэйшая школа інжынераў у Варшаве, што «выдала ў 1938 годзе працу «Асновы праектавання доўгатэрміновых фартыфікацыйных збудаванняў», зрабіла карэнныя змены ў сістэме фартыфікацыі. Зроблена гэта было пад уплывам ідэй французскіх вайсковых інжынераў. Як падкрэслівалася ў савецкім выданні, пры будаўніцтве ўмацаваных раёнаў, у тым ліку і ля Баранавіч, практыкавалася будаўніцтва па індывідуальных праектах, пры гэтым пазбягалася ўсялякая стандартнасць іх формы. Таксама характэрнай рысай польскіх умацаваных кропак было масавае выкарыстанне бранявых каўпакоў.

* * *

У сакавіку 1940 года Панцеляймон Панамарэнка накіраваў у Крэмль дакладную запіску, у якой, у прыватнасці, падкрэсліваў, што ў былым Баранавіцкім умацаваным раёне польскай арміі захаваліся бронекаўпакі з выдатнай нямецкай сталі. Ён таксама адзначаў неабходнасць дэмантаваць абсталяванне вузкакалейнай чыгункі, якая была пабудавана для арганізацыі транспартнай сувязі паміж пунктамі абароны. 9 чэрвеня 1941 года Панамарэнка накіраваў на імя Іосіфа Сталіна дакладную запіску, у якой зноў адзначыў небяспеку з боку ДАКаў пад Баранавічамі і падкрэсліў неабходнасць знішчэння ўсіх польскіх умацаванняў, якія накіраваны на Усход.

# Забойствы жыхароў Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года

Першыя тыдні верасня 1939-га сталі сапраўднай трагедыяй для жыхароў Заходняй Беларусі. Яшчэ ўчора беларусы, палякі, яўрэі, украінцы жылі мірна, але прыход бальшавікоў прывёў да грамадзянскай вайны.

У міжваеннае дваццацігоддзе адносіны паміж мясцовым насельніцтвам Заходняй Беларусі і прыезджымі палякамі былі далёкімі ад ідэальных. Афіцыйная Варшава лічыла ўсходнія ўскраіны «Польшчай катэгорыі В». Бедны аграрны рэгіён без развітай дарожнай інфраструктуры патрабаваў значных фінансавых уліванняў, якіх у II Рэчы Паспалітай не было.

Аднак у канцы 1930-х гадоў эканамічная сітуацыя ў Польшчы палепшылася, і ў снежні 1938 года міністрам прамысловасці і гандлю Эўгеніюшам Кляткоўскім быў прадстаўлены праект 15-гадовага інвестыцыйнага плану, які, у тым ліку, павінен быў палепшыць сітуацыю ў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах, ператварыўшы іх у развітыя ў эканамічным сэнсе рэгіёны.

Так, у перыяд з 1939 па 1942 год планавалася пабудаваць моцную вайсковую прамысловасць, на працягу наступных трох гадоў працы павінны былі ісці ў накірунку развіцця транспартнай інфраструктуры (перш за ўсё на ўсходзе), у 1945–1948 гадах планавалася мадэрнізаваць сельскую гаспадарку, у 1948–1951 гадах павінен быў наступіць урбанізацыйны ўсплёск, які б суправаджаўся развіццём гарадоў. Нарэшце, да 1954 года планавалася дабіцца ліквідацыі

розніцы паміж захадам і ўсходам Польшчы. Гэты праект выклікаў значную падтрымку ў польскага грамадства, у тым ліку і ў жыхароў усходніх ваяводстваў.

Але паланізацыйная палітыка ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў, якую ў 1930-х гадах праводзілі польскія ўлады, не спрыяла фармаванню добрых адносінаў паміж карэнным насельніцтвам усходніх ваяводстваў і палякамі. Як пазначае польскі даследчык Марэк Вежбіцкі, у паўночна-ўсходніх ваяводствах этнічны падзел супадаў з грамадскім. Эканамічныя (землеўласнікі і асаднікі) і грамадска-палітычныя (чыноўнікі, войска, касцёл) эліты мелі польскі характар. Да таго ж сярод мясцовага беларускага насельніцтва не быў развіты сярэдні клас і інтэлігенцыя.

Разам з гэтым, варта ўлічваць, што вялікі ўплыў на фармаванне адносін паміж мясцовым насельніцтвам і палякамі аказаў развіты дзяржаўны нацыяналізм апошніх і камуністычная агітацыя падпольных прасавецкіх арганізацый, якія падтрымліваў Савецкі Саюз.

Да падзей 17 верасня 1939 года грамадства Заходняй Беларусі паставілася па-рознаму. Не толькі палякі, але і некаторая частка заможных беларусаў абгрунтавана бачыла ў іх небяспеку для свайго будучага існавання на гэтых тэрыторыях. Трэба таксама ўлічваць, што на гэтых землях было досыць шмат бежанцаў з этнічна польскіх тэрыторый, якія спрабавалі на ўсходзе ўратавацца ад вайны. Разам з гэтым, значная частка сялянскай беднаты станоўча ставілася да факту пераходу Чырвонай Арміяй савецка-польскай мяжы. У гэтым яны бачылі не толькі вызваленне з-пад «панскай улады», але і выратаванне ад магчымай нямецкай акупацыі.

Да пачатку савецкага «вызвольнага паходу» польскі дзяржаўны апарат у Заходняй Беларусі, нягледзячы на тое, што польска-нямецкі фронт рухаўся на ўсход, функцыяніраваў досыць эфектыўна. Дзейнічалі мабілізацыйныя цэнтры Войска Польскага, а паліцыя і дапаможныя фармацыі сачылі за парадкам.

Як адзначае польскі гісторык Чэслаў Гжэляк, яшчэ да падзей 17 верасня дзеячы былой Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі пачалі складаць спісы антысавецкіх эле-

ментаў, якія падлягалі ліквідацыі. У Скідзелі такія дакументы рыхтаваліся яшчэ з 1938 года. Для ілюстрацыі тых жудасных падзей прывядзем шэраг прыкладаў.

У вёсцы Каленікі на Гродзеншчыне была створана прасавецкая група падпольшчыкаў, на чале якой стаялі былыя ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі. Яны атакавалі фальварак Уладысін і разрабавалі там некалькі дамоў. Пазней падпольшчыкі накіраваліся ў фальварак Бергелі. Па дарозе сустрэлі некалькі чалавек, якія ехалі з Ваўкавыска ў Гродна. Даведаўшыся, што гэта настаўнікі, людзі з чырвонымі апаскамі расстралялі іх, а рэчы разрабавалі.

У маёнтку Баяры ля Індуры 17 верасня 1939 года прасавецкія элементы, сярод якіх былі асобы, якія сядзелі да вайны ў польскіх турмах за крымінальныя злачынствы, прысудзілі да смерці графа Міхала Красінскага, а таксама яго эканома і кіраўніка маёнтку, і расстралялі гэтых людзей.

Такі ж лёс чакаў і арыштаванага 26 верасня ўласніка маёнтку Мандзін, афіцэра Войска Польскага, Тадэвуша Урсын-Нямцэвіча. Звярніце ўвагу, амаль усе атрады «народных мсціўцаў», якія дзейнічалі ў раёне Індуры, былі добра ўзброеныя. Дакладна вядома, што падраздзяленняў Войска Польскага ці паліцыі, якіх можна было раззброіць, у гэты час там не было. Вайсковыя склады таксама адсутнічалі. Гэты значыць, што «антыпанская акцыя» рыхтавалася загадзя і пры падтрымцы савецкага боку.

У Малой Бераставіцы 19 верасня былі забітыя сям'я графа Валкавіцкага, войт гміны, яго сакратар, паштальён і настаўнік. Усіх іх абвінавацілі ў антысавецкай дзейнасці і расстралялі на месцы.

У вёсцы Данілкі дзейнічаў атрад на чале з былым верхаводам банды рабаўнікоў Іосіфам Гаўрылюком. За крымінальныя злачынствы апошні адбываў зняволенне ў турме ў Гродна, аднак на пачатку Другой сусветнай вайны збег адтуль і вярнуўся дадому. Першай яго ахвярай стаў солтыс і яго сын. Пазней Гаўрылюк і яго людзі забілі інжынера, італьянца па паходжанні, Вітаўта Бярэцці. Пасля ўстанаўлення савецкай улады былы злачынца з Данілак зрабіў кар'еру і стаў старшынёй калгаса.

У мястэчку Красналеск Кобрынскага павета рэўкамаўцы забілі бязногага інваліда толькі за тое, што той быў капітанам Войска Польскага ў адстаўцы. У вёсцы Снітава асобы з чырвонымі апаскамі ўкрыжавалі мясцовага праваслаўнага святара па прозвішчы Жураўлёў. Яго абвінавацілі ў «польскім патрыятызме». У гміне Асоўцы група падпольшчыкаў забіла супрацоўніка паліцыі і некалькіх асаднікаў.

У вёсцы Валавель дзейнічаў атрад «партызан», які нападаў на разрозненыя часткі польскага войска. На яго чале стаяў нейкі Васіль Голуб. Мясцовыя жыхары ўспаміналі, як людзі Голуба фасонілі ў польскіх трафейных мундзірах і ботах-афіцэрках. Адной з ахвяр гэтай банды быў невядомы палкоўнік Войска Польскага. У кастрычніку 1939 года Васіль Голуб быў абраны дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі.

Пад вёскай Сяхновічы дзейнічала банда, што нападала на малыя групы польскіх салдат, якія адступалі з Кобрына. Злачынцы рабавалі вайскоўцаў, забіраючы ўсё, нават вайсковыя пасы і торбы-хлебакі. У Пружанах 19 верасня натоўп людзей напаў на паліцэйскага і капітана Войска Польскага і забіў іх прама на вуліцы. У Косаўскім павеце быў па-зверску забіты супрацоўнік паліцыі Станіслаў Муха. Забойцы з чырвонымі апаскамі разрэзалі яго жывот і развесілі вантробы па дрэвах. У адной з вёсак Лунінецкага павету камендант народнай міліцыі Уладзімір Страх у сядзібе міліцыі асабіста павесіў гаявога (лесніка) Артура Рылко. За што? Зараз ужо ніхто не адкажа.

У гміне Шчорсы Навагрудскага ваяводства адразу пасля з'яўлення першых частак Чырвонай Арміі былі створаны сялянскія камітэты, на чале якіх сталі былыя палітвязні. Першае, што зрабілі камуністы, гэта арыштавалі 84 селяніна і пачалі іх судзіць. На самай справе, гэта быў не суд, а звядзенне рахункаў. У выніку 12 сялян было расстраляна, пры гэтым ахвярам адразалі вушы.

Аднак распаўсюджанымі былі і факты, калі беларусы ратавалі сваіх былых паноў ці знаёмых. Напрыклад, працоўныя маёнтку князёў Мірскіх адправілі дэлегацыю ў Баранавічы з просьбай вызваліць арыштаваных гаспадароў

старажытнага замку. Беларусы ўратавалі сем'і шматлікіх польскіх асаднікаў у мястэчку Лерыполь падчас расправы, якую ўчынілі мясцовыя рэўкамаўцы.

У вёсцы Малыя Жуковічы беларуская моладзь уступілася за настаўніцу і паліцыянта, якіх арыштавала народная міліцыя. Хлопцы нават паехалі ў аддзяленне НКУС у Індуры і настаялі на тым, каб арыштаваных вызвалілі. На жаль, такія шчаслівыя выратаванні былі рэдкасцю.

Прыкладаў жудасных забойстваў вельмі шмат. Чытаеш архіўныя дакументы, справаздачы, слухаеш успаміны сведкаў — і з'яўляецца ўражанне, што заходняя частка Беларусі ў тыя дні зноў перажыла жудасць «нулявых саветаў» 1920 года, калі бальшавікі ішлі заваёўваць Еўропу, знішчаючы пры гэтым усё на сваім шляху. Безумоўна, нацыянальныя супярэчнасці і памылкі польскай палітыкі ў міжваеннае дваццацігоддзе аказалі свой уплыў на фармаванне антыпольскіх настрояў сярод жыхароў Заходняй Беларусі. Разам з тым, цалкам верагодна, што гэтая вераснёўская масакра 1939 года была запланавана яшчэ да пачатку «ўз'яднання». Рукамі злачынцаў, крымінальнікаў, заблытаўшыхся сялян бальшавікі праводзілі зачыстку новых тэрыторый і стваралі спрыяльныя ўмовы для іх саветызацыі.

## Нясвіжскія трагедыі

Другая сусветная вайна прыйшла ў Беларусь у верасні 1939 года. Жыхары Заходняй Беларусі апынуліся паміж молатам і кавадлам. Сведчаннем таму — лёсы жыхароў Нясвіжа.

**Сям'я Красінскіх.** Яе галава Андрэй Красінскі быў капельмайстрам аркестра 27-га ўланскага палка Войска Польскага імя Стэфана Баторыя. Яго жонка Ганна Логвін-Астроўская паходзіла з багатай шляхецкай сям'і. У 1933 годзе ў Красінскіх нарадзілася дачка Ірэна.

З успамінаў Ірэны мы ведаем, што яе бабуля размаўляла на т. зв. «крэсовай пальшчызне», але тая мова была больш падобная на беларускую, чым на польскую. Акрамя гэтага бабуля вучыла ўнучку беларускай мове.

Сям'я афіцэра жыла ў доме, які знаходзіўся каля праваслаўнай царквы. Маленькая Ірэна любіла слухаць праваслаўныя царкоўныя службы. Адзін раз яна нават трапіла на шлюб. У царкве было шмат людзей. Усе трымалі свечкі і спявалі малітвы. Гэтае відовішча, якое адрознівалася ад таго, што адбываецца ў касцёле, вельмі ўразіла дзяўчынку.

У Нясвіжы часта ладзіліся палкавыя святы, калі афіцэрскія сем'і збіраліся ў клубе. Аднак усё скончылася восенню 1939 года. 27-ы уланскі полк у складзе Навагрудскай брыгады кавалерыі быў накіраваны на захад Польшчы. Уланы з Нясвіжу змагаліся пад Мінскам Мазавецкім, а 13 верасня вызвалілі мястэчка Малішэў. Падчас гэтага бою 27-ы уланскі полк супрацьстаяў часткам 11-й пяхотнай дывізіі вермахта. Знаходзячыся пад абстрэлам нямецкіх кулямётаў, уланы вымушаныя былі спешыцца і пайсці ў атаку. У выніку штыкавой атакі польскім кавалерыстам удалося выбіць ворага з населенага пункта. Падчас таго бою Андрэй Красінскі быў паранены і знаходзіўся ў шпіталі ў Варшаве. Пазней яму ўдалося вярнуцца дадому.

Раніцай 17 верасня 1939 года над Нясвіжам праляцелі самалёты з чырвонымі зоркамі. Была аб'яўлена паветраная трывога. Хутка ў горадзе з'явіліся салдаты з тымі ж чырвонымі зоркамі на фуражках. У адзін з вераснёўскіх дзён Андрэй Красінскі прыбег у хату і пачаў нешта шукаць. Аказалася, што ён шукаў дзве скрыні з порахам, каб іх знішчыць. Новыя ўлады загадалі здаць зброю, а калі нешта будзе знойдзена, дык уся сям'я будзе арыштавана. Знайшоўшы скрыні, Андрэй паставіў іх на стол. Ён не заўважыў, як дачка ўзяла адну са скрыняў і высыпала порах на выцягнутыя з каміна вуглі. Адбыўся выбух. Дзяўчынка атрымала апёкі.

Красінскія ўсім казалі, што ўзарваўся прымус. Аднойчы ў Нясвіж па сваіх справах прыехалі ўрачы з Масквы. Андрэй змог паказаць ім дачку. Тыя здзівіліся, што дзяўчынка выжыла пасля такога выбуху. Правільнае лячэнне дапамагло паставіць Ірэну на ногі, а пазней і амаль пазбавіць ад слядоў апёкаў.

Падчас навагодніх святаў 1940 года былога малодшага афіцэра уланскага палка выклікалі ў НКУС для паўторнай

рэгістрацыі. Усе чакалі найгоршага. У сям'і ўжо ведалі, што былых польскіх вайскоўцаў, паліцыянтаў, супрацоўнікаў дзяржаўнага апарату бальшавікі арыштоўваюць. Ірэна ўспаміналa, што бацька апрануў на сябе ўсе цёплыя рэчы: дзве пары кальсонаў, некалькі шкарпэтак, цёплы швэдар. Да самай ночы родныя чакалі Андрэя... і ён вярнуўся. Магчыма, таму, што быў толькі музыкам.

Жыццё змянілася. На вуліцы чулася руская мова. Было шмат чырвоных сцягоў, лозунгаў. А хутка пачалася іншая вайна. Адна акупацыя змянілася другой. Немцы стварылі ў Нясвіжы гета. Людзей жандары і паліцэйскія расстрэльвалі прама на вуліцы. Андрэй Красінскі працаваў у аркестры, з якім ездзіў у Баранавічы і ў Мінск. У 1942 годзе ў гета адбылося паўстанне. Ірэна ўспамінае, што ў гэты час полымем былі ахоплены ўсе будынкі, у якіх жылі яўрэі, і паўсюдна чуліся крыкі і стрэлы. Аднойчы на яе вачах нямецкі салдат застрэліў яўрэйскую дзяўчыну.

Нясвіж часта бамбілі. У адзін з дзён бомба трапіла ў агарод сям'і Красінскіх, але выбух не адбыўся. Сям'я з'ехала з той хаты.

А ўжо пасля вызвалення горада ад немцаў сям'я Красінскіх вырашыла выехаць у Польшчу. Незадоўга да гэтага Ірэна гуляла па парку ля Нясвіжскага замку і ўбачыла шмат выкінутых кніг. Старыя фаліянты ў скураным пераплёце проста ляжалі на зямлі. А побач з імі ляжала жаночая сумка. Ірэна ўзяла яе і пайшла да дому. Аказалася, што ў сумцы пашпарт перадапошняга Нясвіжскага ардыната Альбрэхта Радзівіла. Гэты сувенір Ірэна забрала з сабой у Польшчу як успамін пра горад, дзе прайшло яе дзяцінства.

**Сям'я Ксяневіч.** Недалёка ад шашы Варшава–Масква, у вёсцы Каранеўшчына жыла сям'я Ядвігі Ксяневіч. Пачынаючы з 1915 года праз тыя тэрыторыі бесперапынна хадзіла войска. То рускае, то нямецкае. Потым палякі, бальшавікі — і зноў палякі. Пасля Рыжскага міру мяжа паміж ІІ Рэччу Паспалітай і Савецкай Расіяй прайшла якраз непадалёк ад поля, якое належала сям'і Ксяневіч.

Жыццё на мяжы было няпростым. Да 1924 года з савецкага боку на тэрыторыю Польшчы часта пераходзілі

бальшавіцкія дыверсанты. Бацькі Ядвігі трымалі ў доме кавалерыйскі карабін, наган і вялікую колькасць патронаў. Неаднаразова сялянам прыходзілася ўступаць ва ўзброеныя сутычкі з гасцямі з усходу. Але ў 1924 годзе на мяжы з'явіўся Корпус аховы памежжа (КАП).

У міжваенны час сям'я Ксяневіч мела 25 га зямлі, 4 га лугоў і 1,5 га саду і вялікую пасеку. На польскіх вайсковых мапах гэтую гаспадарку пазначалі як фальварак. Старшы брат Ядвігі скончыў Гуманітарны факультэт Віленскага ўніверсітэта, сястра — Настаўніцкія курсы.

17 верасня 1939 года, як успамінае Ядвіга, у вёсцы знянацку з'явіліся людзі ў зялёных фуражках з чырвонымі зоркамі. Паміж сабой яны размаўлялі па-руску. Сяляне зразумелі: гэта савецкія памежнікі. А дзе ж КАП? Аказалася, што польская стражніца ўжо знішчана. Хутка ў вёсцы з'явіліся рэгулярныя часткі РСЧА. Па ўспамінах Ядвігі Ксяневіч, для яе бацькі з'яўленне бальшавікоў было шокам. Ён ненавідзеў камунізм, бо памятаў рэвалюцыю 1917-га і кароткі перыяд 1920 года, калі бальшавіцкая навала ішла на Варшаву.

У Каранеўшчыне з'явіліся новыя ўлады ў выглядзе «сельсавета», што адразу запісалі заможных і працавітых Ксяневічаў у кулакі. Хутка з суседніх вёсак, якія знаходзіліся на савецкім баку, сталі прыходзіць беларускія сяляне, каб купіць «у паноў» нешта з прадуктаў. Пры гэтым яны казалі, што Ксяневічы «кулакі», і іх усё роўна хутка сашлюць у Сібір, таму грошы ім будуць больш патрэбныя, чым прадукты. У студзені 1940 года ў хату Ксяневічаў прыйшлі два чырвонаармейцы. Яны проста хацелі есці. А калі паелі і выпілі, то пачалі распавядаць, як бедна жывецца ў БССР, і былі здзіўленыя, што ў Польшчы сяляне так багата жывуць.

У лютым 1940 года з памежных вёсак пачалі дэпартаваць заможнае насельніцтва. Але Ксяневічам пашчасціла. У 1920 годзе бацька Ядвігі ўратаваў жыццё мясцоваму камуністу Дзям'яну Саўчуку. Пасля 1939 года Саўчук зрабіў добрую кар'еру і ўратаваў Ксяневічаў ад дэпартацыі.

Аднак на гэтым выпрабаванні не скончыліся. Вясной 1940 года сям'ю Ксяневічаў разам з аднавяскоўцамі накіравалі на будаўніцтва аўтастрады каля Снова. А восенню

таго ж года ім давялося ўдзельнічаць у будаўніцтве чыгуначнай лініі Баранавічы–Бабруйск.

Нарэшце, увесну 1941 года ўсю зямельную маёмасць Ксяневічаў забралі ў калгас. Новае выпрабаванне прыйшло ўжо летам. Ядвіга ўспамінала, як ужо ўвечары 22 чэрвеня 1941 года па дарозе Варшава–Масква ехалі вялікія калоны нямецкай тэхнікі. Падчас нямецкай акупацыі Ксяневічы займаліся звычайнай сялянскай працай. Да іх часта заходзілі партызаны з Усходняй Беларусі. Рабавалі. Аднойчы немцы зрабілі ў садзе, які належаў Ксяневічам, засаду, у якую трапілі «госці з лесу». Шмат каго забілі і паранілі. Усё адбывалася на вачах Ядвігі.

Летам 1944 года ў вёску ўвайшлі першыя савецкія часткі, а ўжо восенню паўсюдна віселі транспаранты з надпісам: «Всё для фронта, всё для Победы!» Мясцовыя савецкія ўлады патрабавалі здаваць усе лішкі прадуктаў для Чырвонай Арміі. А якія тады ў сялян былі лішкі?! У 1945 годзе ў Каранеўшчыну пачалі прыязджаць беларусы з Гайнаўкі, якіх перасялялі з Польшчы. Яны займалі як пустуючыя дамы, так і тыя, у якіх жылі людзі. Хутка з'явіліся новыя гаспадары і ў доме Ксяневічаў.

У жніўні 1945 года праз Клецк, Баранавічы і Брэст Ксяневічы паехалі ў Польшчу. Іх новы дом знаходзіўся пад Познанню, на тэрыторыях, якія Польшча атрымала пасля Другой сусветнай вайны. Сярод іх суседзяў было шмат жыхароў былога Віленскага ваяводства, але на новым месцы кожны быў сам за сябе.

У 1967 годзе ў Польшчы быў зняты камедыйны серыял «Sami swoje» («Толькі нашыя»), які распавядае пра лёс дзвюх сямей, што прыехалі з «крэсаў» на новыя польскія землі на захадзе. Нягледзячы на агульны жартаўлівы фон фільма, ён дэманстраваў тыя цяжкасці, з якімі прыйшлося сустрэцца людзям пасля Другой сусветнай вайны. З усёй упэўненасцю можна казаць, што аднымі з прататыпаў герояў гэтага выдатнага фільма з'яўлялася і сям'я Ксяневічаў з-пад Нясвіжа.

**Сям'я Držaль.** Тэрэза Држаль нарадзілася ў Нясвіжы, але ў сярэдзіне 1930-х гадоў, калі дзяўчынцы было 9 гадоў, яе бацькі пераехалі ў Варшаву. Аднак кожнае лета дзеці

разам з мамай прыязджалі ў Нясвіж на канікулы. У жніўні 1939 года бацька Тэрэзы даслаў жонцы ліст, у якім пісаў, каб сям'я засталася ў Нясвіжы. Хутка пачалася вайна.

Сям'я жыла ў дзеда. Яго дом знаходзіўся ў лесе, недалёка ад Нясвіжу. У нядзелю 17 верасня 1939 года Тэрэза прачнулася ў 5 гадзін раніцы ад гуку самалётаў, якія ляцелі вельмі нізка. Усе прыгатаваліся бегчы да спецыяльнага бамбасховішча, але хутка ўсе адчулі іншы гук. Дарога перад домам была ўся ў пылу, а скрозь яго дзяўчынка ўбачыла людзей у дзіўных шапках з адным рогам (тады яна яшчэ не ведала, што гэта будзёнаўка). Тэрэза адразу ўспомніла казку пра людзей з адным вокам і адным рогам, якія жывуць на другім канцы свету. Аднак, прыглядзеўшыся, яна ўбачыла, што ў гэтых людзей два вокі.

Дзед Тэрэзы стаяў і моўчкі глядзеў на салдат, якія ішлі па дарозе. «О, Езус, Марыя, Матка Боска. Што вы тут робіце?» — запытаў дзед аднаго з афіцэраў. Той з пагардай паглядзеў на старога, дзяўчынку і скрозь зубы прамовіў: «Ваш Рыдз-Смиглы попросил о помощи, идем защищать вас от немцев». Тут на дарозе паказаліся танкі. Іх было вельмі шмат. Дзед адвярнуўся і пайшоў да хаты. Увайшоўшы ў дом, ён прамовіў: «Гэта бальшавікі. Гэта канец».

Хутка ў лесе пачуліся стрэлы. Усе, хто быў у хаце, выбеглі на задні двор і ўбачылі там некалькі польскіх афіцэраў КАП. Адзін з іх быў паранены ў руку. Дзед Тэрэзы махнуў рукой і сказаў: «Панове, хутчэй на Поўнач, у кірунку Вільні. Хутчэй. Тут бальшавікі». Так, па ўспамінах Тэрэзы Држаль, у Нясвіж прыйшла савецкая ўлада. Хутка пачаліся арышты. Дзед дзяўчынкі чакаў, што і яго арыштуюць, аднак падчас «першых саветаў» яму пашчасціла. Арыштавалі 75-гадовага старога ўжо ў 1944 годзе і саслалі ў Сібір.

Тэрэза ўспамінала, што ўвесь Нясвіж быў аздоблены чырвонымі сцягамі і лозунгамі. Аднак нехта з жыхароў горада пусціў на рынак абстрыжаную казу і прычапіў да яе таблічку з надпісам на рускай мове: «Извините, что я голая. Я из колхоза. У вас поживу и обрасту». Аднак хутка жарты скончыліся.

У лютым 1940 года пачаліся дэпартацыі сем'яў супрацоўнікаў лясной аховы, дзяржаўных установ, вайсковых

асаднікаў. У красавіку ў Казахстан паехалі сем'і афіцэраў Войска Польскага і супрацоўнікаў дзяржаўнай паліцыі. А ў чэрвені 1940 года прыйшоў час і на бежанцаў. Савецкія спецыяльныя органы загадалі ўсім, хто жадае вярнуцца ў акупаваную Германіяй частку Польшчы, зарэгістравацца ў спецыяльных бюро. Усіх, хто прайшоў рэгістрацыю, пазней пагрузілі ў грузавікі і прывезлі на чыгуначную станцую, дзе іх чакалі эшалоны. Цягнікі, аднак, паехалі не на Захад, а за Урал.

У Польшчу сям'я Тэрэзы вернецца толькі ў 1946 годзе.

# НКУС супраць Радзівілаў

18 снежня 1935 года памёр перадапошні XVI Нясвіжскі ардынат Альбрэхт Антоні Радзівіл. Замак і радавыя зямельныя ўладанні атрымаў у спадчыну яго малодшы брат Леон Уладзіслаў Радзівіл. Біяграфія гэтага чалавека, на жаль, не дастаткова вывучаная. Аднак яна заслугоўвае ўвагі.

Леон Уладзіслаў Радзівіл нарадзіўся ў 1888 годзе ў Патсдаме. З адзнакай скончыў Імператарскі Пажаскі корпус у Пецярбургу ў 1909-м і паступіў на службу ў лейб-гвардыі Прэабражэнскі полк. З пачаткам Першай сусветнай вайны будучы апошні ўладальнік Нясвіжскага замка, які дасканала валодаў польскай, рускай, нямецкай і італьянскай мовамі, паступіў на службу ў Аддзел замежных спраў генеральнага штаба Рускай імператарскай арміі і праслужыў там да кастрычніцкай рэвалюцыі. 5 ліпеня 1917 года за службу ён быў узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 3 ступені.

Праз некалькі гадоў, у маі 1919 года, Леон Радзівіл уступіў у польскую армію. Улічваючы вопыт службы ў рускім генеральным штабе, маладога князя накіравалі ў палітычны аддзел Галоўнага камандавання польскай арміі. Праз некалькі месяцаў князь перайшоў у Другі (выведвальны) аддзел Генеральнага штаба польскага войска. Нарэшце, у 1920 годзе князя Радзівіла накіравалі ў распараджэнне французскай вайсковай місіі, дзе ён атрымаў званне капітана французскай арміі.

Радзівіл адразу ж адправіўся ў Італію, дзе арганізаваў адпраўку ваеннапалонных палякаў, якія раней служылі ў аўстра-венгерскай арміі, на тэрыторыю Францыі для арганізацыі з іх польскага ваеннага легіёна ў складзе арміі генерала Юзафа Галера. У асабістай справе князя, якая захоўваецца ў Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы, у прыватнасці пазначана, што на працягу 7 месяцаў Леон Радзівіл арганізаваў адпраўку ў Францыю 30 тысяч салдат і 3 тысяч афіцэраў польскага паходжання. Усе гэтыя вайскоўцы пасля ўступілі ў польскую армію. За паспяховае выкананне задання французскага камандавання князь Радзівіл быў узнагароджаны ордэнам ганаровага легіёна. А ўжо ў Польшчы ў 1922 годзе за выкананне гэтай місіі Леону ўручылі польскі крыж «Віртуці Мілітары» 5-й ступені.

Пасля савецка-польскай вайны князь Леон звольніўся з войска і заняўся мецэнацтвам. З 1935 года ён практычна ўвесь час жыў у Нясвіжскім замку. Там жа яго заспела і Другая сусветная вайна. Старадаўняя рэзідэнцыя беларускіх князёў стала прытулкам для многіх бежанцаў блакітных крывей з Варшавы. Генералы, афіцэры, прадстаўнікі грамадскай і палітычнай эліты — усе гэтыя людзі разлічвалі на тое, што старажытныя муры Нясвіжскага палацу абароняць іх ад вар'яцтва вайны.

17 верасня 1939 года ў кабінеце князя зазваніў тэлефон. Чалавек на тым канцы дроту назваўся камісарам Сіроткай. Князь палічыў, што нехта дрэнна пажартаваў, назваўшы сябе імем яго знакамітага продка, і паклаў трубку. Але тут жа пачуўся паўторны званок, і суразмоўца паведаміў, што ў горадзе Чырвоная Армія і хутка ў замак прыедуць упаўнаважаныя.

Адным з тых, хто прыйшоў за князем, быў і карэспандэнт газеты «Праўда». Вось як ён апісваў арышт Радзівіла: *«Марш савецкіх войскаў быў настолькі імклівым, што многія польскія паны і памешчыкі не паспелі збегчы. У цэнтры горада мы занялі будынак, дзе раней знаходзілася кіраванне маёнткамі князя Радзівіла. Той, хто бачыў прыходныя кнігі князя, можа ўявіць сабе велізарныя багацці, якімі ён валодаў. Гэтаму чалавеку належалі дзясяткі тысяч гектараў зямлі, і вялікая колькасць жывёлы. [...]*

*У селяніна-беларуса мы спыталі, дзе замак князя. Селянін сеў у наш аўтамабіль і ўпершыню ў жыцці як гаспадар заехаў у княжацкі парк. Мы з маёрам Грыднёвым, мякка ступаючы па дыванах, разасланых па лесвіцах, падняліся на другі паверх замка. У гасцінай нас сустрэў нейкі польскі журналіст, уцякач з Варшавы. [...] З розных пакояў пачалі выходзіць у гасцёўню важныя чыноўнікі былой польскай дзяржавы. На грудзях у іх былі ордэны і медалі. [...] У гасціную выйшла жонка польскага генерала, якая збегла з Варшавы. Нарэшце з'явіўся князь Леў (так у тэксце артыкула. —* І. М.*) Радзівіл. Мы папрасілі здаць зброю. З розных пакояў прынеслі браўнінгі, маўзеры, паляўнічыя ружжы. [...] У замку Радзівіла — вялізныя багацці. Тут маецца вялікая бібліятэка, калекцыя разнастайнай зброі, карціны знакамітых еўрапейскіх майстроў жывапісу».* Па ўспамінах відавочцаў, падчас арышту абураны князь павярнууся да слуг і сказаў: «*Усё, што зараз адбываецца, — гэта велізарная памылка*».

Арышт князя праводзіў маёр дзяржбяспекі Вячаслаў Грыднёў. Ён зрабіў паспяховую кар'еру ў савецкіх спецыяльных органах, прайшоўшы шлях ад упаўнаважанага ЧК да начальніка вышэйшай разведвальнай школы МГБ СССР. Падчас вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года Грыднёў быў накіраваны «на захад» у якасці начальніка аператыўнай групы НКУС БССР. За арганізацыю аперацыі па арышце князя Леона Радзівіла, а таксама іншых высокапастаўленых польскіх чыноўнікаў у Нясвіжскім замку маёр дзяржбяспекі быў узнагароджаны ордэнам «Баявога Чырвонага Сцяга». Пазней Грыднёў быў прызначаны начальнікам Ваўкавыскага гараддзела НКУС. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны займаўся фармаваннем разведвальна-дыверсійных атрадаў для закіду ў тыл германскіх войскаў.

Князя Леона Радзівіла з сям'ёй і іншых арыштаваных у замку мужчын вывезлі спачатку ў Мінск, у турму НКУС, а затым на Лубянку. Хутчэй за ўсё, у савецкіх спецслужбаў быў план выкарыстання ўплывовага беларускага магната ў сваіх мэтах. Берыя і яго падручныя добра ведалі аб той ролі, якую адыгрывалі Радзівілы ў перадваеннай Польшчы.

Сам князь таксама разумеў, што выбар у яго невялікі: альбо ён ідзе на супрацоўніцтва з савецкай выведкай, альбо...

Апошняга нясвіжскага ардыната выратавала знаёмства яго маці Марыі Ружы з Браніцкіх з сям'ёй італьянскага манарха. У маладосці княгіня Браніцкая вяла актыўнае свецкае жыццё. Дыпламаты, мастакі, інтэлектуалы, прадстаўнікі манаршых родаў — маладая дваранка тады і не ўяўляла, што гэтыя знаёмства выратуюць ёй і яе родным жыццё. Пра тое, што сям'я Леона Радзівіла знаходзіцца на Лубянцы, стала вядома каралеве Італіі Алене Чарнагорскай, і тая звярнулася за дапамогай да міністра замежных спраў Італіі Галіяца Чыяна. Урэшце да вырашэння лёсу Радзівілаў падключыўся прэм'ер-міністр Італіі Беніта Мусаліні. У выніку разыгранай камбінацыі Радзівіла ўдалося абмяняць на італьянскіх камуністаў, якія ўтрымліваліся ў турмах фашысцкай Італіі. Пагаворвалі, што сярод вызваленых тады камуністаў быў і знакаміты Пальміра Тальяці.

Апошні нясвіжскі ардынат князь Леон Радзівіл разам з роднымі выехаў спачатку ў Італію, а затым у Англію. Знаходзячыся ў Еўропе, ён цалкам адышоў ад актыўнага грамадскага жыцця і ўсю Другую сусветную вайну правёў на туманным Альбіёне. Пасля вайны Радзівіл пераехаў у Парыж, дзе ціха памёр вясной 1959 года. Нясвіж і радавы замак ён так больш і не ўбачыў.

## Гісторыя Януша Радзівіла

Вераснёўскія падзеі 1939 года аказалі ўплыў на жыццё яшчэ аднаго прадстаўніка знакамітага беларуска-польскага шляхецкага роду, XIII алыцкага ардыната, знакамітага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча міжваеннай Польшчы, Януша Францішка Радзівіла.

Гэты чалавек адыграў важную ролю ў працы Рэгенцкай рады, створанай акупацыйнай нямецкай адміністрацыяй у Варшаве ў 1917 годзе. Менавіта Януш Радзівіл у 1918 годзе правёў паспяховыя перамовы з камандаваннем Першага

польскага корпусу, які знаходзіўся ў Бабруйску, і дамогся таго, каб гэтая вайсковая адзінка прысягнула Рэгенцкай радзе. Падчас савецка-польскай вайны князь уступіў у Войска Польскае і ў якасці афіцэра штаба кавалерыйскай дывізіі ўдзельнічаў у абароне Варшавы ад войскаў Чырвонай Арміі.

Чарговым дыпламатычным поспехам Януша Радзівіла стала ўстанаўленне дыпламатычных адносін з Ватыканам. Па запрашэнні князя Варшаву наведаў папскі нунцый Рацці, які быў заўзятым антыкамуністам, і падтрымаў Польшчу ў вайне з савецкай Расіяй. У лютым 1925 годзе Пій XI падпісаў з Польшчай канкардат — дагавор аб прызнанні і супрацоўніцтве, тым самым выказваючы сваю падтрымку польскім уладам. У 1922 годзе Радзівіл узначаліў польскую дэлегацыю на перамовах па раззбраенні ў Маскве.

З цягам часу князь Януш стаў уплывовым палітыкам. Пасля «майскага перавароту» ў 1926 годзе менавіта ён быў адным з ініцыятараў правядзення так званага «Нясвіжскага з'езду». Юзафу Пілсудскаму, які вярнуў сабе ўладу, была неабходна падтрымка багатай беларускай шляхты. За гэтым таямнічым спатканнем сачыла ўся Еўропа. Зрэшты, замежная прэса з-за адсутнасці дакладнай інфармацыі пусціла слых, што ў Нясвіжы польская вярхушка абмяркоўвала магчымасць вяртання манархіі.

Дзякуючы ўменню ісці на кампраміс Януш Радзівіл здолеў дасягнуць значных поспехаў на палітычнай ніве, стаўшы спачатку дэпутатам сейма, а затым і сенатарам. Да канца 1930-х гадоў князь быў уплывовай фігурай не толькі ва ўнутрыпалітычным жыцці Польшчы. Януш Радзівіл меў шырокія сувязі ў кіруючых колах многіх краін. На думку сучаснікаў, гэты арыстакрат лёгка мог вырашыць шматлікія знешнепалітычныя праблемы Польшчы. Вядомы тагачасны польскі публіцыст Юзаф Мацкевіч адзначаў, што «*князь Януш лічыўся сярод эліты польскага грамадства лепшым кандыдатам на пасаду міністра замежных спраў. Калі б прэзідэнт Польшчы Масціцкі прызначыў яго міністрам яшчэ ў сакавіку 1939-га, то Польшча першай не ўступіла б у вайну, а Англія і Амерыка не прадалі б нас за бясцэнак*».

Пасля нападу нацысцкай Германіі на Польшчу князь Януш пераехаў у свой замак у Алыцы. 7 верасня 1939 года туды прыехаў прэзідэнт Польшчы, а праз два дні — міністр замежных спраў Юзаф Бек і вярхоўны галоўнакамандуючы, маршал Эдвард Рыдз-Сміглы. У палацы прайшла важная нарада, на якой абмяркоўвалі эвакуацыю дзяржаўнага апарату з Варшавы, стварэнне абарончых рубяжоў на Вісле і сакрэтную місію, звязаную з эвакуацыяй залатога запасу Польшчы.

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. Праз некалькі дзён у двор маёнтка Радзівілаў заехалі ваенныя машыны. Князь Януш і яго сын Эдмунд былі арыштаваныя НКУС. За гэтую аперацыю лейтэнанта дзяржбяспекі Івана Мурашкіна ўзнагародзілі ордэнам «Знак Пашаны».

Пасля няўдалага «народнага суда», на якім вясковыя жыхары прагаласавалі супраць павешання Радзівілаў, супрацоўнікі НКУС вывезлі князёў у Роўна. Эдмунд хутка аказаўся ў лагеры для польскіх ваеннапалонных у Казельску. А яго бацька праз Кіеў быў дастаўлены ў Маскву, на Лубянку. Там Радзівіла кожны дзень дапытвалі, цікавячыся ацэнкай эканамічнага патэнцыялу Польшчы, які апынуўся ў руках нацыстаў. Асаблівая ўвага надавалася асобе аднаго з вышэйшых кіраўнікоў Трэцяга Рэйха — Германа Герынга. Справа ў тым, што ў верасні 1935 года разам з польскім амбасадарам Ліпскім і генералам Войска Польскага Фабрыцам Януш Радзівіл наведаў валоданні «нацы № 2» ва Усходняй Прусіі. Афіцыйна, каб папаляваць. На самай справе, у час той сустрэчы абмяркоўваліся пытанні знешняй палітыкі.

Праз два тыдні знаходжання на Лубянцы змучанага князя абудзілі сярод ночы і прывялі ў кабінет, у якім сядзеў чалавек у пенснэ. У пакоі таксама знаходзіліся начальнік турмы Міронаў і яго намеснік. «Лаўрэнцій Паўлавіч Берыя», — прадставіўся чалавек, які сядзеў за масіўным дубовым сталом. «Я прачытаў вашы паказанні, князь. Нічога не маю супраць вас. Думаю, што няма падстаў трымаць пана тут. Якія ў вас планы на будучыню?» — пачаў размову наркам. Радзівіл спытаў, што з яго сям'ёй, на што атрымаў адказ,

што родныя князя ў бяспецы. Радзівіл сказаў, што хацеў бы вярнуцца на радзіму, у Польшчу, на што Берыя падкрэсліў, што Польшча цяпер акупавана Германіяй. Але Януш Радзівіл стаяў на сваім. І тады Берыя павярнуўся да Міронава і вымавіў: «Такія людзі, як Радзівілы, нам вельмі патрэбны. Мы б знайшлі для іх добрую працу».

Праз некалькі дзён адбылася яшчэ адна сустрэча Радзівіла з Берыям. Падчас яе Берыя запытаў, ці ведае Радзівіл Яўстафія Сапегу, дадаўшы, што ён таксама знаходзіцца ў руках НКУС. «Мы арыштавалі яго ў Гродна», — падкрэсліў Берыя. Князь Януш, безумоўна, ведаў былога міністра замежных спраў Польшчы і дэпутата сейма, і не доўга думаючы спытаў, ці адпусцяць яго разам з ім. «Мяркую, мы яго вызвалім пазней. Няхай яшчэ пасядзіць», — адказаў наркам. Пад канец размовы Берыя сказаў, што савецкі бок хацеў бы атрымліваць ад князя агентурную інфармацыю з акупаванай Польшчы. Пры гэтым асабліва падкрэсліўшы, што гэта не загад, а просьба, і князь вольны адмовіцца.

Януша Радзівіла і яго родных вызвалілі з савецкай турмы пасля ўмяшання італьянскага каралеўскага двара, з якім Радзівілы знаходзіліся ў сваяцтве. Неўзабаве на чыгуначным вакзале ў Брэсце Радзівіл сустрэўся са сваёй сям'ёй. Палкоўнік дзяржбяспекі Міронаў, які праводзіў князя, на развітанне сказаў: «Ну што ж, князь, да пабачэння». На што Радзівіл, усміхнуўшыся, вымавіў: «Бывайце». Начальнік Лубянскай турмы, адышоўшы ад цягніка, пра сябе сказаў: «Хто ведае, хто ведае». І гэтыя словы былі прароцкімі. Аднак пра ўсё па чарзе.

Апынуўшыся ў Генерал-губернатарстве (так называлася частка Польшчы, акупаваная Трэцім Рэйхам), Януш Радзівіл пасяліўся ў замку ў Небарове. Ён адразу адмовіўся ад нямецкіх прапаноў узначаліць марыянеткавы польскі ўрад. Адначасова князь уступіў у сувязь з прадстаўнікамі польскага падполля.

Пачынаючы з 1940-га ад сваіх рэзідэнтаў у сталіцы нацысцкай Германіі Масква атрымала звесткі аб тым, што Януш Радзівіл некалькі разоў бываў у Берліне і сустракаўся з вышэйшым нацысцкім кіраўніцтвам, у тым ліку з Германам

Герынгам. У акупаванай Варшаве Януш Радзівіл удзельнічаў у працы польскіх грамадскіх арганізацый. Падчас паўстання 1944-га князь быў арыштаваны нацыстамі і змешчаны ў турму ў Берліне. Аднак выжыў і вярнуўся дадому, у замак у Небарове.

Начальнік турмы на Лубянцы меў рацыю, калі ў 1939-м казаў князю: «Да пабачэння». У студзені 1945 года Януш Радзівіл разам з іншымі прадстаўнікамі вядомых польскіх шляхецкіх родаў быў арыштаваны НКУС. Спачатку Радзівілаў перавезлі ў Маскву, а пазней — у Красногорск. Шляхту трымалі ў спецлагеры № 47 для нямецкіх ваеннапалонных.

У 1947 годзе памерла жонка князя Ганна, а неўзабаве змучанага Радзівіла адпусцілі ў Варшаву. Праз некалькі гадоў князь звярнуўся да савецкіх улад з просьбай дазволіць яму эксгумаваць і перавезці парэшткі каханай жонкі ў Польшчу. Але... магілу княгіні не знайшлі. Наступныя 20 гадоў князь пражыў у сціплай двухпакаёвай кватэры ў польскай сталіцы. Памёр Януш Радзівіл у 1967 годзе.

...Малодшы сын Януша Радзівіла Станіслаў ажаніўся з Каралінай Лі Бууе, роднай сястрой жонкі прэзідэнта ЗША Жаклін Кенэдзі. У 1967 годзе былая першая лэдзі ЗША прыляцела ў Варшаву на пахаванне князя Януша Радзівіла.

Адпускаючы князя ў 1947-м, Лаўрэнцій Берыя не пакідаў надзею выкарыстаць яго ў сваіх шпіёнскіх гульнях. Па некаторых дадзеных, у 1953 годзе «чалавек у пенснэ» хацеў прадаць Усходнюю Германію Захаду за 10 мільярдаў долараў, а пасярэднікам у гэтай справе павінен быў стаць князь Януш Радзівіл.

# Трагедыя апошніх гаспадароў Ружан

У верасні 1939 года яны адчулі на сабе жахі сталінскай рэпрэсіўнай машыны. Сёння прадстаўнікі гэтага княжацкага роду жывуць па ўсім свеце, яны захавалі духоўную сувязь з гістарычнай радзімай і шануюць свайго знакамітага беларускага продка — канцлера Льва Сапегу.

Сапегі зрабілі вельмі шмат для старажытнай беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага. Самым знакамітым прадстаўніком гэтай сям'і быў канцлер ВКЛ Леў Сапега. Таленавіты дзяржаўнік, дальнабачны палітык, князь Леў стаў аўтарам першай еўрапейскай канстытуцыі — Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Дарэчы, гэты збор законаў дзейнічаў на беларускіх землях амаль два з паловай стагоддзі.

Ружаны ў валоданні Сапегаў апынуліся ў 1598 годзе, калі Леў Сапега набыў гэты маёнтак разам з суседнімі фальваркамі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у Ружанаў некалькі разоў змяняліся гаспадары. За тое, што Сапегі падтрымалі інсургентаў падчас паўстання 1830–1831 гг., усе «сапежынскія ўладанні» былі рэквізаваны расійскімі ўладамі.

У ХХ стагоддзі Ружаны апынуліся ў складзе адроджанай Польшчы. Спачатку 1920-х гадоў свае правы на Ружанскі палац заявіў міністр замежных спраў Польшчы Яўстафій Каэтан Сапега. Пра яго варта расказаць больш падрабязна. Князь нарадзіўся ў 1881 годзе ў Заходняй Украіне, але пасля вучобы перабраўся на Гродзеншчыну. З 1916 года актыўна заняўся палітыкай. Цесна ўзаемадзейнічаў з Юзафам Пілсудскім. У лістападзе 1918 года Сапега ўзначаліў Камітэт абароны ўсходніх крэсаў. Удзельнічаў у савецка-польскай вайне. Аднак доўга паваяваць не ўдалося. Хутка князя Сапегу накіравалі ў Лондан у якасці польскага амбасадара ў Вялікабрытаніі.

4 чэрвеня 1920 года Яўстафій Сапега ўдзельнічаў у падпісанні Трыанонскага трактату — мірнай дамовы паміж краінамі Антанты і Венгрыяй, а літаральна праз пару тыдняў князь быў прызначаны міністрам замежных спраў Польшчы. Дзякуючы яго дыпламатычнай актыўнасці Польшчы ўдалося заключыць саюзніцкія дамовы з Францыяй і Румыніяй.

У 1921 годзе Сапега прадстаўляў інтарэсы Польшчы на мірных перамовах з Літвой. Аднак неўзабаве, у сувязі з крытыкай з боку нацыянал-дэмакратаў, князь вымушаны быў пакінуць пасаду міністра. Зрэшты, з палітыкі Сапега не сышоў. У 1920-я гады ён абіраўся дэпутатам польскага сейма.

Дзякуючы яго намаганням, у адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай ад 1921 года, з савецкай Расіі атрымалася

вярнуць вялікую колькасць «сапежынскіх» багаццяў, выкрадзеных Расійскай імперыяй у XIX стагоддзі. Сын міністра Ян Анджэй Сапега, будучы па адукацыі інжынерам, пачаў прыводзіць у парадак маёнтак. Разам з малодшым Сапегам у Ружаны прыехала і яго жонка Марыя. Гэтая жанчына нарадзілася ў 1914 годзе пад Замосцем, але Ружаны сталі для яе другой радзімай. Неўзабаве ў гэтай пары з'явіліся нашчадкі: у 1935 годзе нарадзіўся сын Ян, а праз два гады яшчэ адзін хлопчык, якога назвалі Ежы.

Ян Анджэй Сапега ў 1929–1930 гадах скончыў Кавалерыйскую школу падхарунжых рэзерву і адслужыў у 1-м уланскім Крэхавецкім палку. У 1933-м маладому князю было прысвоена званне падпаручніка. Будучы прафесійным інжынерам лясной прамысловасці, Ян Анджэй актыўна займаўся развіццём Ружанскай пушчы. Маладая князёўна Марыя арганізавала ў Ружанах школу для мясцовых жанчын, якую наведвалі і беларускія сялянкі.

Паводле ўспамінаў відавочцаў, багацце Сапегаў у вочы не кідалася. Князі жылі ў вялікім двухпавярховым драўляным доме, у якім было 14 пакояў. На сценах дома віселі паляўнічыя трафеі, а на падлозе ляжалі шкуры мядзведзяў. Каля параднага ўваходу была разбіта вялікая круглая клумба з жоўтай пясочнай дарожкай вакол. За домам знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы і лядоўня.

Сапраўднай гаспадыняй дома была князёўна Марыя Сапега. Яна любіла ладзіць прыёмы, на якія прыязджалі не толькі прадстаўнікі знатных польскіх сем'яў, але і госці з іншых еўрапейскіх дзяржаў. Частымі ў Ружанах былі княжацкія палявання, пасля якіх Сапегі частавалі гасцей вытанчанымі стравамі. Усё як у часы Вялікага Княства Літоўскага. Для княжацкага стала ў асноўным выкарыстоўвалі прадукты мясцовай вытворчасці, аднак каву і сметанковае масла заказвалі са Швейцарыі.

Цікава, што ў міністра Яўстафія Сапегі асабістым кухарам быў жыхар Скідзеля Ян Цыдзік. Гэта быў высокаадукаваны і добра выхаваны чалавек. Па ўспамінах яго дачкі, працаваць Цыдзіку даводзілася шмат, князі любілі добра прыгатаваную ежу, але затое шчодра аплачвалі працу кухара.

Акрамя гэтага, Сапегі аплачвалі і арэнду дома, у якім жыў з сям'ёй іх асабісты кухар. На святы, Каляды і Новы год Ян атрымліваў прэмію і падарункі.

Дарэчы, Сапегі часта наймалі сялян на розныя працы і шчодра плацілі ім за выкананую працу. Выплаты праводзіліся па суботах і без затрымак.

Пасля нападу Германіі на Польшчу Ян Анджэй Сапега быў прызваны ў армію і з першага дня ўдзельнічаў у вайне супраць нацыстаў. У Ружанах засталася яго жонка з маленькімі дзецьмі. Пасля 17 верасня мірныя некалі Ружаны ператварыліся ў бурлівы кацёл. На вуліцах раптам з'явіліся людзі з чырвонымі апаскамі на рукавах. Яны агітавалі сялян, заклікаючы іх расправіцца з «памешчыкамі» да прыходу Чырвонай Арміі.

Марыя Сапега не ўсведамляла, у якой небяспецы знаходзілася яна і яе дзеці. У любы момант у дом маглі ўварвацца узброеныя «рэўкамаўцы» і ўчыніць самасуд. Князёўну выратаваў кухар Ян Цыдзік. Ён літаральна сілай пасадзіў жанчыну ў машыну, абклаў дзверы падушкамі і прымусіў з'ехаць з Ружан. Але неўзабаве машыну абстралялі. Кіроўца спалохаўся і ўцёк. Тады князёўна сама села за руль і паехала. Машына была пасечана кулямі, але, на шчасце, ніхто з яе пасажыраў не пацярпеў. Марыя і яе дзеці даехалі да Слоніма, а адтуль у нейтральную Літву. Уратаваўшыся ад бальшавікоў, жанчына праз Швецыю перабралася ў Францыю.

А тым часам 22 верасня 1939 года ў Ружанах НКУС арыштаваў былога міністра замежных спраў Польшчы Яўстафія Сапегу. Афіцэры ў васільковых фуражках, якія праводзілі арышт, ужо ў думках «свідравалі» дзірачкі на гімнасцёрках для новых ордэнаў. Ім у рукі трапіў былы паплечнік Пілсудскага, адзін з вядучых палітыкаў «панскай Польшчы». Міністра даставілі ў турму НКУС у Гродна, а затым адправілі ў Маскву.

На Лубянцы Сапегу актыўна дапытвалі, спрабуючы выдзіць з яго як мага больш інфармацыі аб дзяржаўных сакрэтах Польшчы. Усвядоміўшы, што Сапега не ідзе «на кантакт са следствам», бальшавікі арганізавалі судовы працэс, на якім Яўстафія Сапегу прысудзілі да смяротнага пакарання.

Аднак праз некаторы час прысуд быў заменены: Яўстафія Сапегу асудзілі на 10 гадоў папраўчых работ у ГУЛАГу. Хутчэй за ўсё, не абышлося без умяшання з-за мяжы, як гэта было ў выпадку з Леонам і Янушам Радзівіламі.

Захаваліся ўспаміны аднаго з вязняў Бутырак Юрыя Юркевіча, у якіх ён апісвае сваю выпадковую сустрэчу з князем. *«Гэта быў высокі, плячысты і худы чалавек, з арліным носам, гадоў за 60. Нага ў яго не згіналася, як казалі, ад будзёнаўскай кулі ў калене. Размаўлялі мы з князям у этапнай зале Бутырак перад адпраўкай у лагер. Прывялі яго туды прама з камеры смяротнікаў пасля замены расстрэлу на лагер. Ён апынуўся ў вялізным натоўпе побач са мной. Селі мы пад сценкай на свае вузельчыкі. Ён папросту прыняў ад мяне кавалак хлеба. Мы запалілі. У камеры смяротнікаў Сапегу амаль не кармілі і не давалі паліць. Разгаварыліся. Рускай мовай ён хоць і валодаў, але гаварыў з цяжкасцю, і мы перайшлі на англійскую. Глядзеў ён на сваё становішча спакойна і нават з некаторай доляй гумару. Спытаў, хто я. Адказваю: інжынер. Ён: добра, будзеш заняты ў лагеры, а вось я без спецыяльнасці.*

*— А як жа вы, прабачце, жылі? — пытаюся Сапегу.*

*— Памешчык, — кажа.*

*— А можна спытаць, прабачце, колькі было зямлі?*

*— 170 тысяч гектараў, — адказвае.*

*Мы з Сапегам з'ехалі адным этапам і апынуліся на адным і тым жа лагпункце».*

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз, у адпаведнасці з савецка-польскай дамовай ад 1941 года, з савецкіх турмаў і лагераў сталі вызваляць польскіх грамадзян. Выйшаў на свабоду і былы міністр Сапега. Неўзабаве князь эвакуяваўся ў Тэгеран, а адтуль — у Найробі ў Кеніі. У Афрыцы князь працаваў па лініі Польскага Чырвонага Крыжа. За тысячы кіламетраў ад дома Сапега часта ўспамінаў Ружаны і радавы маёнтак, але ўбачыць родныя мясціны былому міністру было ўжо не наканавана. Памёр Яўстафій Сапега ў Найробі ў 1963 годзе.

Не менш складаным быў лёс і ў князёўны Марыі Сапегі. Падчас акупацыі Францыі нацысцкімі войскамі яна дапамагала французскаму супраціву, але хутка жанчыну

арыштавалі і кінулі ў турму. Па ўспамінах князёўны, яна сядзела ў адзіночнай камеры, але праз сцяну перагаворвалася з дзяўчынай, што гаварыла па-руску. Хто была тая незнаёмка, навучыўшая князёўну рускім песням, мы ужо не даведаемся. Неўзабаве Марыю Сапегу выпусцілі з турмы і пры спрыянні князёў Любамірскіх дазволілі выехаць у Вялікабрытанію. Казалі, што за прадстаўніцу знакамітага беларуска-польскага роду заступіліся высокапастаўленыя чыны Ватыкана.

У Лондане Марыя сустрэлася з мужам, які быў афіцэрам Брытанскіх каралеўскіх ваенна-паветраных сіл. Неўзабаве ў іх нарадзілася трэцяе дзіця.

Князь Ян Анджэй Сапега прайшоў усю вайну і быў узнагароджаны шматлікімі польскімі і брытанскімі ўзнагародамі. Ён памёр у Лондане ў 1989 годзе. Князёўна Марыя пражыла на Туманным Альбіёне да 1992 года, а затым вырашыла вярнуцца ў Польшчу. У 2003 годзе Марыя Сапега ўпершыню з 1939 года наведала беларускія Ружаны. Яна аказала дапамогу ў аднаўленні касцёла Святой Тройцы. Да самай смерці ў 2009 годзе князёўна займалася дабрачыннасцю: дапамагала дзецям, хворым на анкалогію.

Улетку 2008 годзе ў Ружанскім палацы былі пачаты археалагічныя і рэстаўрацыйныя працы.

## Галоўны ляснічы Рэчы Паспалітай

У 1939 годзе пад Валожынам быў забіты кіраўнік Дзяржаўнай дырэкцыі лясоў ІІ Рэчы Паспалітай Адам Ларэт. Абставіны гэтага забойства дасюль малавядомыя.

16 студзеня 1919 года быў прыняты дэкрэт Юзафа Пілсудскага аб арганізацыі ўстаноў па ахове лесу. Праз год былі створаны чатыры акругі Дзяржаўнай лясной гаспадаркі з цэнтрамі ў Варшаве, Радаме, Седльцах і Львове, якія курыравала Міністэрства сельскай гаспадаркі і дзяржаўнай маёмасці.

Аднак ужо ў 1924 годзе па распараджэнні прэзідэнта ІІ Рэчы Паспалітай Станіслава Вайцехоўскага было створана

прадпрыемства «Польскія дзяржаўныя лясы», якое павінна было стаць адным з галоўных флагманаў эканомікі Польшчы. У гэтым сэнсе вялікая ўвага надавалася менавіта тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзе меліся багатыя лясныя масівы.

У 1925 годзе Варшаўскую дырэкцыю ўзгаданай арганізацыі ўзначаліў Адам Ларэт, які ў 1933 годзе стаў генеральным дырэктарам «Польскіх дзяржаўных лясоў».

Адам Ларэт нарадзіўся ў 1884 годзе. Вучыўся ў Вышэйшай лясной акадэміі ў Львове, а таксама аналагічнай навучальнай установе ў Саксоніі. У перыяд з 1910 па 1920 гады працаваў тэхнікам у маёнтку князя Браніцкага. Пасля адраджэння незалежнасці польскай дзяржавы Адам Ларэт пайшоў на дзяржаўную службу.

Адам актыўна ўдзельнічаў у працы Прафсаюзу леснікоў і гаявых. Па яго ініцыятыве ў 1928 годзе была праведзена рэформа лясной гаспадаркі. Павышаліся заробкі службы лясной аховы, а «Польскія дзяржаўныя лясы» павінны былі стаць сапраўдным узорам для іншых еўрапейскіх краін. Усе лясныя масівы павінны былі мець дакладныя інвестыцыйныя планы, а таксама меліярацыйныя праекты. Апошняе датычылася, перш за ўсё, заходнебеларускіх ваяводстваў міжваеннай Польшчы. Таксама прадпрыемства пад кіраўніцтвам Ларэта павінна было ўласнаручна арганізаваць апрацоўку лесу ў лесапілках і продаж кругляка і будаўнічых матэрыялаў як унутры краіны, так і за мяжу.

У перыяд, калі Адам Ларэт быў «галоўным леснікам» Польшчы, у краіне было пабудавана некалькі дзясяткаў новых лесапільных прадпрыемстваў, у тым ліку адно з буйных — у Гайнаўцы. Былі наладжаны лагістыка і транспарт лесаматэрыялаў у заходнееўрапейскія краіны праз польскую фірму «Paged», а таксама порт у Гдыні.

Па ініцыятыве дырэктара быў створаны Навукова-даследчы інстытут Дзяржаўных лясоў, а ў ім аддзел запаведнікаў. У жніўні 1932 годзе быў створаны Белавежскі нацыянальны парк (4693,24 гектара).

У 1923 годзе II Рэч Паспалітую накрыла хваля інфляцыі: кошт долара скокнуў з 18 тысяч польскіх марак да 2 мільёнаў. Гэта прывяло да павялічэння колькасці забастовак

у розных сферах прамысловасці. Таксама адзначаўся і рост крымінальных злачынстваў. Новы прэм'ер-міністр Уладзіслаў Грабскі пачаў з грашовай рэформы і ўвядзення злотага, а затым звярнуўся да вырашэння праблемы развіцця экспарту з Польшчы. Тут галоўную ролю адыгрывала менавіта дрэва, даход ад продажу якога павінен быў складаць 1/3 бюджэту краіны. Тады эканамічную сітуацыю ў Польшчы фактычна выратавалі лясы ў раёне Слоніма і Гродна, дзесяцігадовую канцэсію на высечку якіх атрымала брытанская фірма «The Century European Timber corporation». Аднак у 1929 годзе з падачы Адама Ларэта (ён быў супраць кантракту з замежнікамі, якія, па яго меркаванні, займаліся рабаўніцкай эксплуатацыяй лясоў, і асабліва Белавежскай пушчы) польскія ўлады разарвалі кантракт з заходнімі контрагентамі, за што вымушаны былі заплаціць няўстойку ў 525 тысяч фунтаў стэрлінгаў.

На працягу 1930-х гадоў Адам Ларэт са звычайнага дзяржаўнага служачага ператварыўся ў бізнэсмэна, а яго «Дзяржаўныя лясы» — у паспяховае прадпрыемства, якое фармавала значную частку бюджэту краіны. Акрамя прафсаюзных арганізацый леснікоў, у міжваенны час актыўна дзейнічалі і іншыя структуры гэтай арганізацыі.

Вялікую папулярнасць набылі атрады Грамадзянскай абароны, якія ствараліся з гаявых (PWL). Напярэдадні Другой сусветнай вайны была паменшана лічба дырэкцый «Дзяржаўных лясоў», а колькасць надлясніцтваў склала 434. Усяго ў валоданні дзяржавы на тэрыторыі Польшчы было 3,3 мільёна гектараў лясных угоддзяў. Дарэчы, закладзеная Адамам Ларэтам сістэма арганізацыі дзяржаўнай лясной гаспадаркі з невялікімі зменамі захавалася да сённяшняга дня.

Пасля нападу Германіі на Польшчу Адам Ларэт разам з іншымі супрацоўнікамі дырэкцыі, а таксама архівам арганізацыі выехаў на Віленшчыну, дзе размясціўся ў сядзібе Надлясніцтва Налібокі ў Навагрудскім ваяводстве. 16 верасня 1939 года чыноўніку прапанавалі выехаць за межы краіны, аднак ён адмовіўся.

На наступны дзень Чырвоная Армія перайшла «Рыжскую мяжу». Галоўны ляснічы II Рэчы Паспалітай вырашыў

рухацца на поўдзень, аднак на скрыжаванні дарогі Налібокі–Навагрудак у раёне Смалярні калона машын, у якой ехаў генеральны дырэктар, была затрымана чырвонаармейцамі.

Адзін з відавочцаў арышту Адама Ларэта так апісваў тыя падзеі: «*17 верасня мы ехалі праз лес. Ля адной з палян спыніліся. З машыны выйшлі пан Ларэт, яго жонка і супрацоўнікі сакратарыяту. Хутка на дарозе з'явіліся жаўнеры з чырвонымі зоркамі на фуражках*».

Ужо праз некалькі дзён на стол Лаўрэнція Берыі лягла справаздача, у якой адзначалася, што ў рукі НКУС трапіў кіраўнік «Дзяржаўных лясоў Польшчы» Адам Ларэт. Доўгі час лічылася, што польскі чыноўнік у рангу міністра трапіў у распараджэнне НКУС у Мінску і быў расстраляны савецкімі спецыяльнымі органамі ў Курапатах увесну 1940 года.

Аднак у 2003 годзе ў сямейным архіве сяброўкі сям'і Ларэтаў былі знойдзеныя надрукаваныя на машынцы ўспаміны былога гаявога Францішка Дубіцкага з Белага Берагу на Віленшчыне, якога арыштавалі і трымалі разам з кіраўніком лясной гаспадаркі міжваеннай Польшчы. У гэтым дакуменце апісваюцца абставіны гібелі польскага чыноўніка.

Пасля арышту Адама Ларэта накіравалі ў турму ў Валожын. У адзін з дзён кастрычніка, ці пачатку лістапада 1939 года, Дубіцкага разам з яго шэфам і яшчэ некалькімі арыштаванымі вывелі з камеры і павезлі на працу.

Звернемся да ўспамінаў лесніка Дубіцкага: «*На двары турмы было яшчэ шэсць вязняў, сем вазоў з гаспадарамі і каля 15 нкусаўцаў. Вязням сказалі, што яны едуць у лес на працу па нарыхтоўцы лесу для турмы. Праз нейкі час арыштаваныя апынуліся на месцы працы ля ракі Свіслач, у 10 кіламетрах ад Валожына. Гэта былі лясы маёнтку Пяршаі, якія да вайны належалі графу Бенедыкту Тышкевічу. Пасля таго, як вязні апынуліся ў лесе, канвой НКУС папярэдзіў, што пры спробе збегчы будзе распачаты агонь на паражэнне. Арыштаваныя пачалі разбіраць бярвенні і класці іх у вазы. Дырэктар Ларэт працаваў як і ўсе. У пэўны момант раздаўся стрэл. Пан Адам упаў на зямлю. Смерць наступіла імгненна. Пасля забойства нку-*

*саўцы сцягнулі з цела піджак і штаны, а таксама элегантныя туфлі. Яны абшукалі кішэні і знайшлі гадзіннік і заручальны пярсцёнак. Канвойныя ледзь не пабіліся з-за гэтых трафеяў. Вязні працягвалі працу. А калі вазы былі запоўненыя бярвёнамі, нехта запытаў: «А што з целам рабіць?» Адзін з канвіраў крыкнуў па-руску: «Пусть гниет». Тады адзін з найбольш смелых сялян звярнуўся да нкусаўцаў па-беларуску: «Таварышы, гэта толькі парэшткі. Трэба іх дзесьці па дарозе закапаць». Нкусаўцы загадалі пагрузіць цела ў адзін з вазоў. Калі калона заехала ў Валожын, на скрыжаванні вуліцы Віленскай і дарогі да станцыі Харудкі адзін з нкусаўцаў дастаў рыдлёўку і загадаў капаць магілу. Ля помніку Незалежнасці вязні выкапалі яму і пахавалі Адама Ларэта».*

Гаявы Францішак Дубіцкі ўспамінаў таксама, што калі закопвалі, ён адарваў кавалак кашулі і накрыў ім твар нябожчыка.

Сёння на тым месцы, дзе ўвосень 1939 года быў пахаваны дырэктар «Дзяржаўных лясоў» ІІ Рэчы Паспалітай, знаходзіцца аўтобусны прыпынак. Вядома таксама, што праз гэта месца праводзілася каналізацыя. Сучаснае кіраўніцтва Дзяржаўных лясоў Польшчы звярталася ў Міністэрства замежных спраў Беларусі з просьбай перадаць архіўныя матэрыялы, якія датычацца арышту Адама Ларэта, аднак беларускі бок паінфармаваў, што ніякіх дакументаў у архівах не знойдзена. У 2008 годзе ля будынку пошты ў Белавежы былому галоўнаму ляснічаму Польшчы быў пастаўлены помнік.

## Катынь. Беларускі спіс

Падзеі, звязаныя з «вызвольным паходам Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ў верасні 1939 года», да сённяшняга дня неадназначна ацэньваюцца гісторыкамі розных краін.

Польскія даследчыкі, у большасці сваёй, называюць іх «савецкай агрэсіяй» або «чацвёртым падзелам Польшчы». У сваю чаргу, частка беларускіх і расійскіх гісторыкаў характарызуюць гэты гістарычны сюжэт як «вызваленчы паход»

ці «акт гістарычнай справядлівасці» з боку Савецкага Саюза, які «прыйшоў на дапамогу адзінакроўным братам — беларусам і ўкраінцам».

Як бы там ні было, але ў выніку «вызвольнага паходу» ў савецкім палоне аказалася значная колькасць не толькі вайскоўцаў Войска Польскага і паліцыянтаў, але і супрацоўнікаў польскага дзяржаўнага апарату і грамадзянскіх асоб. Арышты гэтых катэгорый польскіх грамадзян адбываліся на працягу ўсіх так званых «першых саветаў» (перыяд з 17 верасня 1939 года па 22 чэрвеня 1941 года).

Частка арыштаваных папаўняла шэрагі зняволеных ГУЛАГа, а іх сем'і бязлітасна дэпартаваліся. Іншыя па рашэнні Палітбюро ад 5 сакавіка 1940 года былі прысуджаныя да расстрэлу і пакараныя ў Катыні, Асташкаве, Медным, Харкаве, Кіеве, Мінску, а таксама ў турмах Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. У 1994 годзе Службай бяспекі Украіны быў знойдзены і перададзены Польшчы т. зв. «Украінскі катынскі спіс» — дакумент, у якім указваліся прозвішчы 3435 польскіх грамадзян, расстраляных НКУС на тэрыторыі УССР. Большасць польскіх і беларускіх даследчыкаў сталінскіх злачынстваў лічаць, што павінен быць і аналагічны «Беларускі катынскі спіс».

У дакладной запісцы старшыні КДБ СССР А. Шалепіна ад 3 сакавіка 1959 года ў прыватнасці адзначалася, што ў распараджэнні КДБ на той час знаходзіліся ўліковыя справы на 7305 польскіх грамадзян, расстраляных у лагерах і турмах Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Калі адмінусаваць ад гэтай лічбы колькасць людзей з «Украінскага катынскага спісу», то атрымліваецца, што на тэрыторыі БССР было расстраляна 3870 грамадзян Польшчы.

У дырэктыве камісара дзяржбяспекі 3-га рангу Усевалада Мяркулава ад 22 лютага 1940 года, адрасаванай кіраўнікам абласных упраўленняў НКУС, загадвалася ўсіх супрацоўнікаў польскай дзяржаўнай паліцыі, турэмшчыкаў, разведчыкаў, правакатараў, асаднікаў, а таксама судовых работнікаў, што знаходзіліся ў Старабельскім, Казельскім і Асташкоўскім лагерах, перавесці ў турмы ў распараджэнне мясцовых органаў НКУС.

У выніку выканання гэтай дырэктывы ў Мінск, акрамя палонных польскіх вайскоўцаў, было этапавана і каля 2 тысяч супрацоўнікаў польскай дзяржаўнай паліцыі. Літаральна праз месяц, 22 сакавіка 1940 года, Лаўрэнцій Берыя падпісвае загад № 00350 «Аб разгрузцы турмаў НКУС УССР і БССР». У гэтым дакуменце, у прыватнасці, прадпісвалася з турмаў заходніх абласцей Беларускай ССР перавезці ў Мінскую турму 3000 арыштаваных. З іх: з Брэсцкай турмы — 1500 чалавек; з Вілейскай турмы — 550 чалавек; з Пінскай турмы — 500 чалавек; з Баранавіцкай турмы — 150 чалавек.

Для аказання дапамогі НКУС БССР у арганізацыі перавозак арыштаваных прадпісвалася адкамандзіраваць начальніка аддзялення Галоўнага турэмнага кіравання НКУС СССР, капітана дзяржбяспекі Чэчава. Наркаму ўнутраных спраў БССР, камісару дзяржаўнай бяспекі трэцяга рангу Л. Цанаве прадпісвалася працу па перавозцы арыштаваных з турмаў заходніх абласцей БССР у Мінскую турму скончыць у дэкадны тэрмін. Акрамя гэтага, намесніку наркама ўнутраных спраў СССР камкору Масленікаву і начальніку Галоўнага ўпраўлення канвойных войскаў, камбрыгу Шаранаву прадпісвалася вылучыць неабходную колькасць канвою і забяспечыць усе ўмовы для недапушчэння ўцёкаў прадстаўнікоў «польскага кантынгенту».

У адпаведнасці з гэтым загадам, адказнасць за забеспячэння парадку пры транспарціроўцы ўскладалася на камандзіра 15-й брыгады канвойных войскаў НКУС, палкоўніка П. Папова. Варта адзначыць, што дадзенае падраздзяленне ўнутраных войскаў было створана 13 красавіка 1939 года загадам НКУС СССР № 00206. У склад 15-й асобнай брыгады ўваходзілі: 226-ы канвойны полк (Мінск), 131-ы (Гродна) і 136-ы (Смаленск ). Крыху пазней у склад брыгады ўвайшлі 132-гі (Брэст) і 137-ы (Баранавічы) асобныя батальёны канвойных войскаў НКУС СССР.

У гэты ж час на імя народнага камісара шляхоў зносін СССР Кагановіча прыходзіць сакрэтнае паведамленне. Прывядзем тую частку, якая тычыцца Беларусі: «*Неабходна вывезці ў дзесяцідзённы тэрмін зняволеных з заходніх абласцей БССР у горад Мінск — 3000 чалавек. Для гэтай мэты НКУС*

*СССР просіць Вашага распараджэння вылучыць па заяўках НКУС УССР і БССР абсталяваныя вагоны пад людскія перавозкі з наступных дарог: Брэст-Літоўскай чыгункі — 100 вагонаў; Беластоцкай — 23 вагоны; Заходняй — 32 вагоны. Прызначэннем у горад Мінск. Аб Вашым распараджэнні прашу паведаміць Наркамунусправ Саюза ССР.*

Пра тое, як выглядала працэдура вывазу польскіх грамадзян з турмаў, размешчаных на тэрыторыі Заходняй Беларусі, мы можам даведацца з успамінаў палкоўніка Войска Польскага Уладзіслава Худога, які ўтрымліваўся ў 1939–1940 гадах у турме ў Брэсце.

*«У канцы сакавіка з камеры пачалі вывозіць маіх калег. Адбывалася ўсё без якога-небудзь судовага працэсу. Ніхто не агучваў прысудаў або рашэнняў. У камеру ўваходзіў афіцэр НКУС і па паперцы называў два — чатыры прозвішчы. Больш гэтых людзей мы не бачылі»*, — пісаў афіцэр.

Паводле інфармацыі польскага даследчыка, былога вязня лагера ў Казельску, Здзіслава Пяшкоўскага, праз мінскія турмы прайшло 5150 польскіх грамадзян, з якіх каля 4 тысяч было расстраляна. Сярод іх была вялікая колькасць дыпламаваных спецыялістаў па розных галінах ведаў, дактароў навук, дацэнтаў, інжынераў, лекараў, адвакатаў. Каля 35 працэнтаў вязняў мінскай «Амерыканкі» складалі выхадцы з Сілезскага ваяводства; 7,9 % — з Варшаўскага; 7,7 % — з Познаньскага; 5,7 % — з Львоўскага; 5,6 % — з Беластоцкага; 4,9 % — з Палескага; 4,4 % — з Віленскага; 3,9 % — з Лудскага; па 3,7 % — з Навагрудскага і Паморскага; па 3 % — з Кракаўскага, Валынскага, Келецкага, Люблінскага і Тарнопальскага.

Пра некаторых з ахвяраў сталінскіх рэпрэсій варта распавесці падрабязней. 13 снежня 1939 года ў Брэсце быў арыштаваны ваенны лекар, хірург, былы камендант Акруговага шпіталя, палкоўнік рэзерву Войска Польскага, уладальнік фальварка Перавілкі Леанард Шмурло. Да сакавіка 1940-га ён утрымліваўся ў брэсцкай турме, а затым, у красавіку 1940 года, быў пераведзены ў Мінск, пасля чаго яго сляды губляюцца.

Такі ж лёс быў і ў капітана 33-га пяхотнага палка Войска Польскага Эдварда Навоткі. 7 кастрычніка 1939 года ён быў

арыштаваны НКУС і адпраўлены ў Мінск. Далей пра лёс Навоткі нічога не вядома. Яго сям'я ў красавіку 1940 года была дэпартаваная ў Казахстан.

У верасні 1939 года ў шпіталі Нясвіжа быў арыштаваны падпалкоўнік Корпуса аховы памежжа Казімір Нядвецкі. У свой час ён служыў у 86-м Мінскім пяхотным палку Войска Польскага ў Маладзечне. Пазней камандаваў батальёнам польскай памежнай аховы КАП «Івянец». У верасні 1939 года вайна прымусіла «ваеннага пенсіянера» Нядвецкага зноў апрануць мундзір. Пасля пачатку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь» падпалкоўнік быў арыштаваны савецкімі рэпрэсіўнымі органамі. На гэтым сляды Нядвецкага губляюцца.

У Ваўкавыску быў арыштаваны землеўладальнік Хенрык Бутаўт-Анджэйкавіч. Вось як тыя падзеі апісвала яго дачка Галіна: «*У ноч з 17 на 18 верасня 1939 года, пасля таго, як мы па радыё пачулі навіну аб пераходзе ўсходняй польскай мяжы савецкімі войскамі, мой бацька разам з сям'ёй пакінуў свой маёнтак у Гарнастаевічах і выехаў у Ваўкавыск, размешчаны ад нас у 25 кіламетраў. Ужо на другі ці трэці дзень пасля нашага прыбыцця ў Ваўкавыск, апоўдні да нас прыйшлі двое маладых габрэяў «у грамадзянскім». На іх рукавах былі чырвоныя павязкі. Нічога не паведаміўшы, яны забралі бацьку, як высветлілася потым, у турму. У гэты ж час у турму было кінута мноства жыхароў як з Ваўкавыска, так і з ваколіц. 25 сакавіка 1940 года ўсіх вязняў вывезлі ў невядомым накірунку. Трыма тыднямі пазней, 13 красавіка, нашу сям'ю пагрузілі ў эшалон і разам з іншымі вывезлі ў Казахстан. Мы пісалі адтуль паўсюль, каб толькі даведацца пра лёс бацькі. Нарэшце атрымалі вестку, што бацька знаходзіўся ў Мінскай турме. [...] Цудам з той турмы выжылі ўсяго два чалавекі — Вацлаў Ланскі і нейкі Шыраеў, якіх з Мінска вывозілі ў Беласток у якасці сведак на нейкім судовым працэсе. Вяртанню іх назад у Мінск перашкодзіла вайна (маецца на ўвазе напад Германіі на СССР. — І. М.)*». Лёс Хенрыка Бутаўт-Анджэйкавіча да сённяшняга дня не вядомы.

Сярод ахвяр НКУС у 1940 годзе быў школьны інспектар і настаўнік польскай мовы з Косава Ваўжынец Камінскі.

У архіўнай даведцы Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці адзначана, што Камінскі з 1933 па 1938 гады быў старшынёй «Саюзу стральцоў» у Косава. Чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй не мог не трапіць у поле зроку савецкіх спецыяльных органаў. У траўні 1940 года супрацоўнікі НКУС арыштавалі Ваўжынца ў яго доме па вуліцы Вясёлай, 17 у Косава. Неўзабаве настаўнік апынуўся ў мінскай «Амерыканцы», і на гэтым яго сляды губляюцца.

Ахвярай НКУС стаў і дырэктар агульнаадукацыйнай школы ў Аўгустове Еранім Янкайціс, які быў арыштаваны 11 кастрычніка 1939 года. Янкайціс утрымліваўся ў турме ў Гродна, аднак з вясны 1940 года пра яго лёс нічога не вядома. 13 красавіка 1940 года сям'я Янкайціса была дэпартаваная з БССР.

У раней згаданых успамінах Уладзіслава Худога таксама ўтрымліваюцца прозвішчы польскіх грамадзян, якія ў сакавіку 1940 года былі адпраўленыя з Брэста ў распараджэнне мінскага НКУС. Так, 28 сакавіка 1940 года ў сталіцу БССР былі вывезены дыпламаваны палкоўнік, камандзір 18-й дывізіі пяхоты Стэфан Касэцкі, а таксама падпаручнік Шкатульнік і сяржант Концкі. Праз дзень — прафесар Пазнанскага ўніверсітэта Б. Стэльмахоўскі, суддзя Стасінскі, падпаручнік рэзерву Дыноўскі. 30 сакавіка — капітан Брэйхе, надкамісар паліцыі Чарнажыцкі і ротмістр Сікора-Сікорскі. 1 красавіка — капітан Качароўскі і падпаручнік-пілот Браварка, 2 красавіка — дыпламаваны палкоўнік Б. Цеханоўскі і мужчына, як адзначаў аўтар успамінаў, у вопратцы палешука, які, хутчэй за ўсё, быў штабным афіцэрам аднаго з «крэсовых» палкоў.

Для таго, каб зразумець, праз што даводзілася праходзіць польскім грамадзянам у турмах НКУС у Мінску, варта звярнуцца да ўспамінаў Канстанціна Рдултоўскага. Ён быў знакавай фігурай для Заходняй Беларусі. Рдултоўскі нарадзіўся ў 1880 годзе ў маёнтку Чарнігаў-Горны на Навагрудчыне. Скончыў гімназію ў Мінску і атрымаў вышэйшую адукацыю ў варшаўскай Палітэхніцы. У 1919–1920 гадах Канстанцін Рдултоўскі быў баранавіцкім і стаўбцоўскім павятовым старастам. Займаўся развіццём сельскай гаспадаркі на заходнебеларускіх землях. У 1928 годзе землеўладальнік быў

абраны дэпутатам Сейма II Рэчы Паспалітай. З 1930 па 1938 гады Рдултоўскі быў сенатарам ад Навагрудскага ваяводства ў польскім Сенаце. У гэты ж час шляхціц узначальваў Віленскую сельскагаспадарчую палату.

4 кастрычніка 1939 года Рдултоўскі быў арыштаваны НКУС і змешчаны ў баранавіцкую турму. У красавіку 1940 года, у адпаведнасці з вышэйзгаданым загадам Лаўрэнція Берыі № 00350 «Аб разгрузцы турмаў НКУС УССР і БССР», двараніна з Навагрудчыны этапавалі ў Мінск. У варшаўскім «Усходнім архіве» даследчага Цэнтра «Карта» захоўвацца дзённік Канстанціна Рдултоўскага. Вось як ён апісваў тыя падзеі:

*«1 красавіка 1940 года, каля 10 гадзін раніцы, мы прыехалі ў Мінск. Нас вывелі з вагонаў і пасадзілі ў грузавыя машыны. Праехалі міма помніка Леніну, а каля касцёла Св. Сымона і Алены, пабудаванага калісьці мінскім шляхціцам Эдвардам Вайніловічам, грузавік рэзка павярнуў налева, і неўзабаве мы апынуліся каля старой турмы. Сярод тых, хто ехаў са мной, было шмат людзей з Гродна і Ваўкавыска. Нас правялі на апошні паверх і змясцілі 120 (!) чалавек у адну камеру. Людзі думалі, што гэта не на ўвесь час. Аднак яны памыляліся. На кожнага чалавека прыходзілася прыкладна 40 см вольнага месца. Было горача, не хапала паветра. Пазней нас сталі выводзіць на прагулкі. Кармілі хлебам і вадой, з нейкай травой. Наглядчыкі называлі гэта пітво «чай». Сярод зняволеных было шмат памешчыкаў, асаднікаў, паліцэйскіх, афіцэраў Войска Польскага. Людзі казалі, што ў суседняй камеры сядзела некалькі польскіх генералаў. Пад нашай камерай знаходзіліся кабінеты следчых, дзе арыштаваных дапытвалі. Часта адтуль даносіліся чалавечыя крыкі. Некаторыя са зняволеных не вытрымлівалі збіцця і гублялі розум. Часта арыштантаў выводзілі з камеры «з рэчамі». Больш мы гэтых людзей не бачылі. На іх месца прыводзілі новых зняволеных. Праз 2 тыдні знаходжання ў мінскай турме НКУС мне зачыталі прысуд. За тое, што я быў землеўладальнікам і «эксплуатаваў» 111 чалавек, мяне асудзілі на 8 гадоў папраўчых работ».*

28 красавіка 1940 года Канстанцін Рдултоўскі быў асуджаны паводле артыкула 74 КК БССР за контррэвалюцыйную

дзейнасць і высланы ў Карагандзінскі лагер. Сенатару з Заходняй Беларусі ў нейкім сэнсе пашанцавала. У жніўні 1941 года яго вызвалілі. Неўзабаве ён з іншымі суайчыннікамі апынуўся ў Іране.

Адным з арыштаваных у Заходняй Беларусі і вывезеных на ўсход быў і шараговец батальёна нацыянальнай абароны з Пінска Хенрык Венцэк. Вось яго ўспаміны: «*Усю дарогу нам паўтаралі, што мы едзем «дадому». На кожнай станцыі цягнік атачалі вайскоўцы НКУС. Да яго пастаянна дадаваліся новыя вагоны з людзьмі. У Баранавічах нас перасадзілі ў цягнік, які стаіць на шырокіх рэйках. Мы ўсе здзівіліся, што ў Польшчы былі такія шляхі. Мабыць, гэта было зроблена для таго, каб палегчыць абмен тавараў з Савецкім Саюзам. Мяжа ў Негарэлым зрабіла на нас панурае ўражанне. Высечаная двухсотметровая паласа пасярод лесу, тунэлі пад чыгуначнымі шляхамі і дзясяткі салдат у характэрных сініх фуражках з вінтоўкамі, да якіх былі прымкнёныя штыкі. У Негарэлым, прама перад чыгуначнай станцыяй, была насыпана велізарная, вышынёй з двухпавярховы будынак, піраміда збожжа. Пшаніца была савецкім трафеем, вывезеным з Польшчы. «Што ж яны робяць? — думаў я. — Цяпер восень, дождж, холадна, збожжа згіне». Неўзабаве наш цягнік рушыў далей. Наперадзе быў Менск...*»

Большасць даследчыкаў сталінскіх рэпрэсій у Беларусі схіляюцца да думкі пра тое, што асноўным месцам, дзе сваіх ахвяр расстрэльвала мінскае НКУС, былі сумнавядомыя Курапаты. Пра гэта ў сваіх успамінах кажуць і самі каты. Вось вытрымка з паказанняў былога турэмнага наглядчыка А. Знака: «*У 1939 годзе мяне прызначылі начальнікам склада. Я прымаў рэчы ў затрыманых, а потым аддаваў іх, калі арыштаваных везлі. Я ведаў, што супрацоўнікі камендатуры расстрэльвалі зняволеных. Яны самі гэтага не хавалі. Але не казалі, каго і куды возяць. Аднойчы адзін з супрацоўнікаў камендатуры падвыпіў і распавёў, што расстрэльваюць у асноўным «заходнікаў» у лесе за горадам, недалёка ад дарогі на Лагойск*».

А вось сведчанне наглядчыка ўнутранай турмы НКУС І. Кміта: «*Прысуды прыводзілі ў выкананне супрацоўнікі ка-*

*мендатуры. Часам, калі «пацыентаў» было вельмі шмат, супрацоўнікам камендатуры ў дапамогу давалі людзей з іншых аддзелаў».*

Пра тое, што ў Курапатах маглі расстрэльваць польскіх вайскоўцаў, сведчыць і пратакол сустрэчы работнікаў польскай пракуратуры з іх беларускімі калегамі ў 1994 годзе. У дакуменце, у прыватнасці, адзначалася, што ў Курапатах былі знойдзены гузікі ад бялізны, якую выкарыстоўвалі ў польскай арміі.

Паводле ўспамінаў супрацоўнікаў НКУС, якія ўдзельнічалі ў расстрэлах рэпрэсаваных, мы можам аднавіць і тое, як ішла працэдура экзекуцыі.

Вось аповед вахцёра камендатуры НКУС БССР Сяргея Захарава: «*Па загадзе каменданта я і іншыя канваіры, прозвішчаў іх ужо не памятаю, гадзіны ў 22–23 пад'ехалі на крытай брызентам грузавой машыне да «Амерыканкі». Ахова турмы пасадзіла ў кузаў некалькі арыштаваных. Было іх не менш за 20 чалавек. Я не хадзіў туды, дзе расстрэльвалі, я сядзеў у кузаве і ахоўваў асуджаных. Не памятаю дакладна, хто — выканаўца або ахоўнік — прыйшоў, узяў аднаго чалавека і адвёў. Пачуўся стрэл. Потым прыйшлі за іншым асуджаным, вывелі яго, зноў прагучаў стрэл. Так расстралялі ўсіх. Мяркуючы па вопратцы, а асабліва па абутку, было шмат жыхароў Заходняй Беларусі. Некаторыя з іх былі апранутыя проста раскошна, іншыя сціпла. На некаторых быў вельмі дарагі абутак, выкананы на замову. Такі насілі на Захадзе. У 1937–1938 гадах на расстрэл кожную ноч вазілі. І ў сакавым, пасля далучэння Заходняй Беларусі, работы таксама было шмат*».

На адных з мінскіх могілак спачывае прах Сцяпана Рыгоравіча Кобы. У канцы 1930-х ён быў начальнікам камендатуры ўнутранай турмы НКУС («Амерыканкі») у Мінску. Менавіта ён быў адным з тых, хто асабіста ў 1940–1941 гадах прыводзіў у выкананне смяротныя прысуды вязням мінскіх турмаў, сярод якіх ільвіную долю тады складалі грамадзяне II Рэчы Паспалітай. У сакавіку 1941 года Сцяпан Коба стаў камендантам Адміністрацыйна-гаспадарча-фінансавага аддзела НКУС БССР. У лістападзе 1941 года быў адкамандзіраваны

ў Спецыяльны аддзел НКУС Рэзервовага фронту. Са снежня 1941-га Сцяпан Коба быў камендантам аддзела НКУС Заходняга фронту, з кастрычніка 1946 года — намеснікам начальніка адміністрацыйна-гаспадарчага аддзела МДБ БССР. Са жніўня 1952 года — намеснікам начальніка АГА МДБ БССР. Памёр 45-гадовы Коба ва ўласным кабінеце ў 1953 годзе, на два месяцы пераўжыўшы Сталіна.

Іншымі катамі мінскіх турмаў былі супрацоўнікі НКУС БССР Уладзімір Нікіцін, Іван Ермакоў, Іван Кміт, Іван Бачкоў. На іх руках кроў тысяч бязвінна забітых палякаў, беларусаў, рускіх, украінцаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў.

Гісторыя Беларускага катынскага спісу патрабуе далейшага глыбокага вывучэння. Прыйшоў час ушанаваць памяць бязвінна забітых тады людзей. Чым хутчэй будзе раскрытая ўся праўда пра сталінскія злачынствы, тым хутчэй мы зможам пазбавіцца ад аднаго з найбольш супярэчлівых і складаных сюжэтаў у нашай нацыянальнай гісторыі.

## Трагедыя ў Пяціхатках

У верасні 1939 года СССР не знаходзіўся ў стане вайны з Польшчай, але гэта не перашкаджала чырвонаармейцам браць у палон вайскоўцаў Войска Польскага (каля 240 тысяч), польскіх паліцыянтаў і дзяржаўных служачых. Як вядома, пасля афіцэраў накіроўвалі ў лагеры для «ваеннапалонных і інтэрніраваных» (каля 40 тысяч). А 5 сакавіка 1940 года Палітбюро ЦК ВКП(б) прыняло рашэнне расстраляць частку польскіх грамадзян. Да сённяшняга дня ўсю праўду пра гэтыя падзеі хаваюць архівы савецкіх спецслужбаў.

Адзін са спецлагераў, прызначаных для ўтрымання «польскага кантынгенту», знаходзіўся на тэрыторыі Украінскай ССР у горадзе Старабельску. Першапачаткова ён ствараўся як асноўнае месца ўтрымання вышэйшага каманднага саставу польскай арміі і высокапастаўленых чыноўнікаў ІІ Рэчы Паспалітай.

Першы чыгуначны састаў з палоннымі прыбыў у лагер 28 верасня 1939 года. Да лістапада ў Старабельску знахо-

дзілася ўжо 11 262 зняволеных. Пазней шараговых вызвалілі, пакінуўшы ў лагеры каля 4 тысяч афіцэраў (8 генералаў, 55 палкоўнікаў, 126 падпалкоўнікаў, 316 маёраў, 843 капітана, 2527 паручнікаў, 9 ваенных капеланаў і інш.). Лагер знаходзіўся ў старым манастыры, манахаў якога бальшавікі знішчылі.

Паводле ўспамінаў ацалелых вязняў Старабельскага лагеру, падчас работ на царкоўнай тэрыторыі ім часта даводзілася натыкацца на чалавечыя парэшткі, якія належалі расстраляным савецкай уладай святарам. Тады палякі і падумаць не маглі, што ў хуткім часе іх саміх чакае такая ж доля. Умовы ўтрымання ў Старабельску былі жудасныя. У некаторых памяшканнях нават не было дахаў. Харчаванне было бедным.

Паводле ўспамінаў паручніка Браніслава Млынарскага, звычайны лагерны рацыён складаўся з аўсянай кашы на сняданак, супу (часам з мясам або рыбай) на абед і шклянкі кіпеню з хлебам на вячэру. Часам палякам выдавалі цукар.

Сярод вязняў лагера быў ротмістр Юзаф Чапскі, які трапіў у савецкі палон 26 верасня 1939 года. «*Першапачаткова наш настрой быў жахлівы. Адбівалася параза ў вайне, палон, адсутнасць навін з Польшчы, жудасныя ўмовы пражывання*», — успамінаў афіцэр.

Неўзабаве зняволеным удалося стварыць свой лазарэт. Палякі арганізоўвалі культурныя гурткі, стараліся адзначаць рэлігійныя і дзяржаўныя святы. Пазней палонным дазволілі перапіску з роднымі. Зрэшты, лагерная адміністрацыя праводзіла сярод «польскага кантынгенту» актыўную прапагандысцкую працу. Акрамя гэтага, НКУС падсаджваў у лагер сваіх агентаў і інфарматараў.

5 сакавіка 1940 года Палітбюро ЦК ВКП(б) прыняла рашэнне «*разгледзець справы былых польскіх афіцэраў у адмысловым парадку з ужываннем да іх вышэйшай меры пакарання — расстрэлу*». «*Спачатку адміністрацыя лагера казала, што нас збіраюцца перадаць немцам. Затым з'явіўся слых, што нас праз Румынію і Грэцыю перакінуць у Францыю. Саветы стараліся распаўсюджваць гэтыя чуткі. Па начах нас будзілі і пыталіся, хто валодае мовамі балканскіх дзяржаў*», — адзначаў ва ўспамінах Юзаф Чапскі. Ротмістру

пашанцавала, ён быў у групе 70 польскіх афіцэраў, якіх павезлі не на расстрэл, а ў Гразавецкі лагер.

У адпаведнасці з загадам НКУС СССР ад 22 сакавіка 1940 года, палонных польскіх афіцэраў са Старабельскага лагера накіравалі ў распараджэнне Упраўлення НКУС па Харкаўскай вобласці. Пры гэтым рух ажыццяўляўся ў некалькі этапаў. Спачатку дастаўлялі з лагера на станцыю Харкаў-Сартавальная, затым перавозілі ў абласное ўпраўленне НКУС на вуліцы Дзяржынскага, дзе ў падвалах праводзіліся расстрэлы. Трупы закідвалі ў грузавікі і звозілі ў 6-ы квартал лесапарку Харкава (раён Пяціхаткі), дзе скідалі ў загадзя прыгатаваныя ямы.

Расстрэлы працягваліся з 5 красавіка да 12 мая 1940 года. Спісы асоб, якія падлягалі расстрэлу ў Харкаве, складаліся 1-м аддзелам НКУС у Маскве. У распараджэнне харкаўскага НКУС са Старабельска было перададзена каля чатырох тысяч польскіх ваеннапалонных. Сярод ахвяраў былі не толькі вайскоўцы Войска Польскага, але і афіцэры Корпуса аховы памежжа і ваеннай жандармерыі. Многія з гэтых людзей у верасні 1939 года ўдзельнічалі ў абароне Львова, Брэсцкай крэпасці, Гродна. Яны былі поўныя жадання змагацца з нацыстамі, але бальшавікі пакаралі іх смерцю.

У дзень супрацоўнікі НКУС расстрэльвалі па 100–200 чалавек. «*Прыкладна ў маі 1940 года да нас пачалі прыбываць вялікія групы польскіх вайскоўцаў. У Харкаў іх дастаўлялі па жалезнай дарозе ў спецыяльных вагонах. Як правіла, у турме яны знаходзіліся недоўга — дзень-два, а часам і некалькі гадзін, пасля чаго іх адпраўлялі ў падвал НКУС і расстрэльвалі. Працы было шмат, спалі ўсяго па тры гадзіны. Некалькі разоў мне даводзілася грузіць трупы палякаў і адвозіць на месца пахавання*», — паведамляў у сваіх паказаннях падчас следства, якое праводзілася ў 1990 годзе, былы ахоўнік унутранай турмы НКУС М. Ф. Сырамятнікаў.

За ўдзел у гэтай аперацыі каля 800 супрацоўнікаў НКУС былі адзначаныя вышэйшымі ўрадавымі ўзнагародамі. Пазней асабістым указаннем Лаўрэнція Берыі 53 чалавекі за «польскую аперацыю» былі ўзнагароджаныя яшчэ і грашовай прэміяй.

Калі пра Катынь успомнілі ў 1943 годзе, пасля таго, як на месца пахавання расстраляных НКУС палякаў наткнуліся немцы, то пра харкаўскую трагедыю забыліся надоўга. Аднак летам 1969 года сталінскія злачынствы зноў нагадалі пра сябе. З ліста старшыні КДБ пры Савеце Міністраў УССР В. Нікітчанкі сакратару Цэнтральнага камітэта кампартыі Украіны П. Шэлесту: «*УКДБ па Харкаўскай вобласці 2 чэрвеня 1969 г. быў атрыманы сігнал аб тым, што ў лесе каля пасёлка Пяціхаткі невядомымі асобамі выкрыта масавае пахаванне людзей. Пры праверцы на месцы аказалася, што ў лесе на аддаленні прыкладна 100 метраў ад шашы Харкаў–Белгарад, на плошчы радыусам прыкладна 50 м маецца мноства правалаў глебы глыбінёй да 70 см у выглядзе прастакутнікаў 3 на 6 і больш метраў. Адзін правал разрыты на глыбіню да 1 метра, дзе бачныя косткі і чарапы людзей. Частка костак раскіданая каля выкрытай ямы. Там жа маюцца рэшткі ваеннага абутку замежнай вытворчасці. Прынятымі мерамі былі знойдзены Сцёпін Дзіма, Пешкаў Сяргей, Круглых Віктар — вучні 5–6 класаў, што пражываюць у пасёлку Пяціхаткі, якія ўдзельнічалі ў раскопцы магілы і знайшлі там: заручальны пярсцёнак з ініцыяламі «А. К.» і датай 29.06.24 года; залатыя каронкі зубоў, гузікі з выявай польскага герба. Устаноўлена, што ў паказаным месцы ў 1940 годзе УНКУС па Харкаўскай вобласці была пахавана значная колькасць (некалькі тысяч) расстраляных афіцэраў і генералаў буржуазнай Польшчы, парэшткі якіх і выяўлены дзецьмі пры выпадковых абставінах. [...]*

*Лічым мэтазгодным растлумачыць насельніцтву, што ў перыяд акупацыі немцамі Харкава карныя органы Германіі ў дадзеным месцы праводзілі пахаванні без ушанаванняў расстраляных за дэзерцірства і іншыя злачынствы салдат і афіцэраў нямецкай і саюзных з імі армій. Адначасова ў гэтым жа месцы немцамі пахаваныя салдаты, якія паміралі ад розных небяспечных інфекцыйных захворванняў (тыф, халера, сіфіліс і г. д.), а таму азначанае пахаванне павінна быць прызнана органамі аховы здароўя небяспечным для наведвання. Гэта месца будзе апрацавана хлоркавай вапнай, узята на каранцін і ў наступным засыпана грунтам*».

Неўзабаве пасля гэтага паведамлення начальнік Упраўлення КДБ па Харкаўскай вобласці генерал-маёр П. Фешчанка інфармаваў Кіеў пра тое, што ліквідацыя спецаб'екта ў Пяціхатках будзе праведзена з ужываннем тэхнічнага з'едлівага натрыю. Месца пахавання было абнесена высокім плотам, і спецыяльная каманда выканала адзначаную вышэй працу.

Але ў канцы 1980-х гадоў расследаваннем абставінаў расстрэлу польскіх ваеннапалонных у 1940 годзе занялася пракуратура і ўпраўленне КДБ па Харкаўскай вобласці. Па асабістым указанні «галоўнага чэкіста» УССР Мікалая Галушкі аператыўна-следчай групай была праведзена частковая эксгумацыя і знойдзеныя парэшткі каля 200 чалавек. Аказалася, што яны належалі афіцэрам Войска Польскага, забітым не пазней за 1940 год. Быў накіраваны запыт у Маскву з просьбай прадаставіць дакументы па гэтым пытанні, аднак там адказалі, што ў распараджэнні КДБ СССР такіх дакументаў няма. Тады Кіеў сам пачаў расследаванне.

Неўзабаве ў Маскве ўдалося выявіць дакументы канвойных войск са спісамі польскіх ваеннапалонных Старабельскага лагера, у якіх утрымліваліся каля 4 тысяч прозвішчаў. У гэтых дакументах былі адзначаны прозвішча, званне і год нараджэння асуджанага. Усе гэтыя людзі ў красавіку–маі 1940 года былі перададзеныя ў распараджэнне Харкаўскага НКУС. Тут жа пракуратура завяла першыя крымінальныя справы ў дачыненні да былых «чэкістаў-катаў», датычных да масавых расстрэлаў польскіх грамадзян у 1940 годзе.

Актыўныя дзеянні ўкраінскага КДБ падтрымаў і першы сакратар ЦК Кампартыі Украіны Уладзімір Івашка. Неўзабаве атрыманыя з Масквы дакументы былі перададзены польскаму боку.

25 ліпеня 1991 года пад Харкавам пачаліся работы па эксгумацыі парэшткаў польскіх вайскоўцаў, расстраляных НКУС вясной 1940 года. На працягу пяці гадоў, пакуль вяліся раскопкі, з зямлі былі вынятыя астанкі 4302 польскіх вайскоўцаў, а таксама вялікая колькасць асабістых рэчаў, узнагарод і дакументаў. Усё гэта дазволіла дакладна ўстанавіць імёны 3820 польскіх грамадзян, расстраляных пад Харка-

вам. У чэрвені 2000 года пад Пяціхаткамі быў узведзены мемарыяльны комплекс.

## «Арганізуйце ў маім маёнтку калгас»

У студзені 1940 года былы буйны землеўласнік з Вілейшчыны граф Уладзіслаў Бжастоўскі адправіў з Парыжа ліст, у якім клапаціўся пра свой маёнтак. Ліст дайшоў нават да кіраўніцтва Савецкай Беларусі.

У сярэдзіне XIX стагоддзя маёнтак Мнюта графа Эдварда Рамуальда Бжастоўскага складаўся з вёсак Велец Дужы (65 душ), Савёнкі (53 душы), Сукліно (28 душ), Ляўкова (2 душы). Акрамя гэтага, Бжастоўскаму належаў маёнтак Катлоўшчына ў Трокскім павеце, Віленскай губерні, фальварак Ґорнава ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні, а таксама фальваркі Слабадзінец і Пераброд у Віцебскай губерні.

У 1865 годзе Эдвард Бжастоўскі быў унесены ў спіс дваран Віцебскай губерні. Паводле Спісу зямельных уласнікаў, да маёнтку Мнюта належала 1355 дзесяцін зямлі, з якіх было 422 дзесяціны ворыўнай зямлі, 269 дзесяцін лесу, а астатнюю частку складалі лугі і пашы.

Граф быў жанаты на Рахіль з дому Дзешпот-Зяновічаў. У гэтай сям'і было трое дзяцей. У 1861 годзе нарадзіўся сын Марыян Вінсэнт, у 1863-м — дачка Габрыэла Марыя і ў 1867 годзе — яшчэ адна дачка Марыя Ядвіга. Марыян Вінсэнт быў жанаты з Марыяй Тэрэзай з роду Жыжнеўскіх. У 1901 годзе ў іх нарадзіўся сын Уладзіслаў, будучы гаспадар маёнтку Мнюта.

У 1930-х гадах Уладзіславу Бжастоўскаму ўдалося збудаваць моцную, разнапланавую гаспадарку, аснову якой складаў водны Млын «Панама». Акрамя гэтага, у графа Бжастоўскага быў свой малочны завод і вельмі багаты збожжава-семянны фонд. У верасні 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. У другой палове верасня 38-гадовы граф у складзе Войска Польскага праз Румынію эвакуяваўся ў Францыю. Недалёка ад польска-румынскай мяжы ён

даведаўся, што Чырвоная Армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь і яе прыяднаі да БССР.

Знаходзячыся ў сталіцы Францыі, граф Уладзіслаў Бжастоўскі вырашыў напісаць ліст прадстаўнікам мясцовай савецкай улады ў Плісе. Ён нават і не здагадваўся, што карэспандэнцыя з Парыжа трапіць кіраўніцтву БССР.

Ліст Бжастоўскага апісваў міжнародную сітуацыю. Граф адзначаў, што, па яго меркаванню, вайна ў Еўропе будзе працягвацца 1,5–2 гады. Пры гэтым заходнія саюзнікі рыхтуюцца адпомсціць нацысцкай Германіі за Польшчу. «*Прыгатаванні да перамогі над Германіяй гіганцкія. Хаўруснікі рыхтуюць да 1941 года дзясяткі тысяч самалётаў і танкаў. Усё рыхтуецца спакойна і метадычна*», — пісаў граф Бжастоўскі.

Але галоўная частка паслання была прысвечана маёнтку Мнюта, а менавіта становішчу ў ім. З'язджаючы з родных мясцін, Бжастоўскі пакідаў гаспадарку ва ўзорным стане. Аднак інфармацыя пра бальшавіцкія пераўтварэнні ў Заходняй Беларусі праз французскія і брытанскія газеты і радыё даходзіла да графа. Аднак ён нават не дапускаў думкі, што яго маёнтак можа быць разрабаваны.

«*Пішу да вас як да прадстаўніка мясцовай улады і чалавека інтэлігентнага, які здольны глядзець у будучыню. Справа ў тым, каб не прапала мая праца, якую я праводзіў на працягу 20 гадоў, насаджаючы эканамічную культуру ў маёнтку Мнюта і яго ваколіцах, каб не згінуў сад у Мнюце*», — пісаў граф у сваім лісце. Ён папярэджваў, каб сад берагл ад жывёл і не пасвілі быдла і коней у ім. Бжастоўскі прапануе арганізаваць у Мнюце ўзорны калгас з сельскагаспадарчай школай. «*Гэта будзе ў адпаведнасці з лініяй вашай улады ў цяперашні час*», — пазначаў былы віцебскі пан.

Асабліва Бжастоўскі турбаваўся наконт багатай сельскагаспадарчай бібліятэкі, якая захоўвалася ў панскім доме. «*Там ёсць вельмі рэдкія і каштоўныя сельскагаспадарчыя кнігі, некаторыя з іх сёння не купіць нават за вельмі вялікія грошы. Асабліва літаратура па торфе і лугах*», — адзначаў Бжастоўскі.

Турбавала польскага эмігранта ў Парыжы і тое, што шмат яго ўласных рэчаў, і перш за ўсё бухгалтарская даку-

ментацыя, звязаная з гаспадаркай у Мнюце, засталася без нагляду. А ўсе гэтыя паперкі для сапраўднага гаспадара былі на вагу золата. «*Прашу ўсе важныя дакументы, лісты і квітанцыі як з майго пісьмовага стала, так і з шафы скласці ў асобную скрыню і захаваць*», — пісаў граф.

Граф турбаваўся і пра млын: «*Калі ласка, глядзіце, каб млын не працаваў без мазі. Ведаю, што з ёй у вас цяжка. Калі ласка, пагутарыце з Восіпам Мацюковым наконт таго, ці магчыма мазь замяніць шкіпідарам, які можна знайсці ў Люшыцэ, ці Баброўшчыне. Прашу вас працаваць так, каб не знішчыць таго ўзроўню сельскагаспадарчай і прамысловай культуры, якога мне ўдалося дасягнуць*».

Акрамя гэтага Бжастоўскі прасіў захаваць некалькі снапоў селекцыйнага льнянога семя, прывезенага спецыяльна з Галандыі. Гэтыя збожжавыя каштоўнасці перад сваім ад'ездам граф паклаў у гаражы.

Незадоўга да вайны Бжастоўскаму ўдалося набыць дынама-машыну, з дапамогай якой ён спадзяваўся правесці электрычнасць у вёскі Сукліно, Азеркі, Велец, Ханякова, Жаўнерчыкі, Забалоцце, Вусава, Лазіна, Дубашынкі, Якабінкі, Пратасы, Аляксандрава і Тушына. Дадзеная машына магла даць ток на 3 тысячы 25-вальтовых лямпачак. «*Не аддавайце яе, бо гэта ваша дабро. Такую машыну зараз зрабіць вельмі цяжка*», — пісаў пан.

Хвалявала Бжастоўскага і сітуацыя з жывёлагадоўляй. Ён прасіў «*упаўнаважаных таварышаў*», каб тыя не аддавалі племянную жывёлу, бо яна з'яўляецца матэрыялам, які мог бы дапамагчы павысіць узровень прадукцыі малака ў мясцовасці.

Не забыўся графа і на ахову новага моста, які быў збудаваны незадоўга да пачатку вайны: «*Трэба сабраць ля плаціны 50–60 кубаметраў вялікіх камянёў, бо ў іншым выпадку мост падмые. Я хацеў гэта зрабіць у 1940 годзе, але вайна не дазволіла*».

«*Не дазваляйце знішчыць малочны завод. Калі трэба, каб вы мелі права голасу, магу даслаць вам даверанасць з Парыжу, завераную ў савецкім консульстве. Малочны завод з'яўляецца эканамічным рычагом мясцовасці. Калі чаго*

*не будзеце ведаць, напішыце мне ў Парыж, дам параду»*, — турбуецца граф.

Напрыканцы ліста Бжастоўскі падкрэсліваў, што ён мае намер вярнуцца ў Заходнюю Беларусь, у свой маёнтак, у... снежні 1941 года: «*У сувязі з зацягнуўшайся вайной змагу вярнуцца ў нашу краіну праз год — паўтара*». Напісаўшы ў лісце свой парыжскі адрас, граф папрасіў беларускіх сялян, каб тыя дасылалі яму лісты авіяпоштай, бо так напэўна дойдзе...

* * *

У той час, калі Уладзіслаў Бжастоўскі пісаў свой ліст, яго маёмасць ужо была разрабаваная, а тое, што засталося, аддадзена ў калгас. Аднак кіраўніцтва БССР увагу на ліст з Парыжу ўсё ж звярнула, а інакш як можна патлумачыць тое, што яго пераклад захоўваецца ў тагачасных партыйных дакументах ЦК КПБ. Праўда, асаблівых высноў зроблена не было. Зямля засталася без пана.

Падчас вайны славуты млын Бжастоўскага быў спалены партызанамі. У канцы 1940-х гадоў калгас яго адбудаваў, аднак даваеннага дабрабыту гаспадарка ў Мнюце так і не дасягнула. Граф Уладзіслаў Бжастоўскі памёр у 1983 годзе. На радзіму ён так і не вярнуўся.

# Падзяляй і пануй

У міжваеннае дваццацігоддзе Віленскае, Навагрудскае і Палескае ваяводства ў эканамічным сэнсе былі не самым развітым рэгіёнам II Рэчы Паспалітай. Сельская гаспадарка ў разбуранай Першай сусветнай і польска-бальшавіцкай войнамі Заходняй Беларусі знаходзілася ў жаласным стане. Польскія ўлады праводзілі розныя рэформы і спрабавалі змяніць становішча спраў, аднак да пачатку Другой сусветнай вайны сітуацыя працягвала заставацца складанай.

Пасля далучэння заходнебеларускіх тэрыторый да СССР бальшавіцкія ўлады прыступілі не толькі да зачысткі новых абласцей ад «буржуазных» элементаў, але таксама актыўна

ўзяліся за перабудову эканамічнай сістэмы рэгіёну ў адпаведнасці з прынятымі ў краіне Саветаў нормамі.

Бедны па польскіх мерках «крэсовы» рэгіён апынуўся для вызваліцеляў сапраўдным Кландайкам.

Змены ў эканамічным жыцці былых заходнебеларускіх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай пачаліся ўжо ў час «вызвольнага паходу». Так, у адпаведнасці з Дырэктывай № 1 ваеннага савета Беларускага фронту ад 16 верасня 1939 года, палітычнае кіраўніцтва Чырвонай Арміі атрымала задачу ствараць у вызваленых павятовых і ваяводскіх цэнтрах Заходняй Беларусі органы мясцовай улады ў выглядзе часовых камітэтаў. У задачы гэтых органаў уваходзіў, у тым ліку, нагляд за гаспадарчай жыццём дадзенай тэрыторыі. «Народная ўлада» павінна была ўзяць пад кантроль усе крамы, склады з харчаваннем, прадпрыемствы. У сельскай мясцовасці, у адпаведнасці з дырэктывай, павінны былі быць створаны сялянскія камітэты, у абавязкі якіх уваходзіла экспрапрыяцыя панскіх маёнткаў і зямельнай уласнасці.

Праз два дні пасля таго, як Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу, камандуючы Беларускім фронтам Міхаіл Кавалёў выдаў распараджэнне, у якім таксама быў пазначаны працэс фармавання мясцовай гаспадарчай адміністрацыі. Па рашэнні новых уладаў усе крамы ў Заходняй Беларусі павінны былі зноў адкрыцца і прадаваць тавары па даваенных цэнах, без спекулятыўных накрутак. Першымі і, дарэчы, аптовымі пакупнікамі «панскіх» тавараў сталі байцы і камандзіры РСЧА, якія масава скуплялі амаль увесь асартымент, прадстаўлены ў мястэчковых і гарадскіх крамах.

Жыхар Навагрудка Д. Коган так апісваў тыя падзеі: «*Савецкія ўлады выдалі загад, у якім жыхароў горада абавязвалі вярнуцца да нармальнага жыцця, адчыніць крамы і майстэрні і ў будучыні строга падпарадкоўвацца загадам. Мы зноў адкрылі нашы крамы, поўныя тавару і змаглі зарабіць шмат грошай. Нашы справы квітнелі. Натоўпы пакупнікоў, галоўным чынам савецкіх вайскоўцаў, змяталі тавар з паліц амаль ушчэнт. Рускія нават не спрабавалі гандлявацца і плацілі рублямі. Попыт на наш тавар быў такім вялікім, што мы паднялі цэны, але пакупнікі працягвалі ісці. За некалькі тыдняў*

*магазін апусцеў, і не было магчымасці абнавіць асартымент тавараў. У нас дома стаялі мяшкі грошай. На жаль, мы хутка зразумелі, што іх сапраўдны кошт ніжэй за афіцыйна абвешчаны курс».*

Буйная прыватная ўласнасць у Заходняй Беларусі нацыяналізавалася, а яе гаспадары (тыя, хто не паспеў эвакуявацца з Польшчы) у большасці сваёй арыштоўваліся. Да 7 кастрычніка 1939 года ў руках савецкіх спецыяльных органаў аказалася 2708 чалавек, з якіх 241 чалавек — памешчыкі, князі, дваране і капіталісты. Да сакавіка 1940 года, г. зн. да сумна вядомых «катынскіх падзей», у турмах на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны знаходзілася каля 19 тысяч польскіх грамадзян, з якіх 456 чалавек былі прадстаўнікамі заможных класаў.

Неўзабаве новыя ўлады ўзяліся і за былыя польскія крэдытна-фінансавыя ўстановы. 1 кастрычніка 1939 года Палітбюро ВКП(б) прыняло дырэктыву, у адпаведнасці з якой у кожны польскі банк прызначаўся камісар, у абавязкі якога ўваходзіла правядзенне інвентарызацыі фінансавай установы. Працу ўсіх былых польскіх фінансавых структур у Заходняй Беларусі курыраваў прадстаўнік Дзяржбанка СССР, які знаходзіўся ў Беластоку. З гэтага моманту, звычайныя грамадзяне маглі зняць са сваіх банкаўскіх рахункаў толькі па 300 рублёў на месяц. Банкам забаранілі праводзіць фінансавыя аперацыі з замежнымі філіяламі або партнёрамі. Пазней у кожнай з заходнебеларускіх абласцей былі створаны аддзяленні Дзяржбанка СССР, а ў раённых цэнтрах адкрыты ашчадкасы. Курс польскай валюты зраўнялі з савецкім рублём (да вайны за злоты давалі 3,3 рубля).

28–30 кастрычніка 1939 года ў Беластоку адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі, на якім, акрамя ўсяго іншага, прынялі пастанову аб ліквідацыі прыватнай уласнасці на зямлю, аб нацыяналізацыі прамысловых прадпрыемстваў, чыгунак і банкаў. Усяго за кароткі прамежак часу ў заходніх абласцях БССР было нацыяналізавана 1700 розных прадпрыемстваў. Усе дробныя рамеснікі абавязаны былі спыніць індывідуальную працоўную дзейнасць. Іх чакала аб'яднанне ў працоўныя арцелі.

Калі казаць пра гандаль, то савецкія ўлады пачалі ствараць сваю дзяржаўную гандлёвую сетку, паралельна выцясняючы прыватнікаў. Апошніх душылі падаткамі, ускладнялі магчымасць аптовага набыцця тавараў і атрымання крэдытаў. Але самым адчувальным стаў дэмпінг, калі многія тавары ў дзяржаўных крамах былі значна танней, чым у прыватных крамах. Да таго ж, савецкая ўлада ўвяла жорсткае пакаранне супраць спекуляцыі.

У заходніх абласцях БССР сталі стварацца і загатканторы, якія адказвалі за забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання. Паступова новаўвядзенні савецкай улады прывялі да росту дэфіцыту тавараў у гандлёвых кропках Заходняй Беларусі, і мясцовыя жыхары ўпершыню (такога не было нават падчас Верасн ёўскай кампаніі 1939-га) сутыкнуліся з чэргамі ў крамах. Гэтая сітуацыя справакавала развіццё «чорнага рынку».

Адна з жыхарак Ваўкавыска так успамінала тыя падзеі: «*Зачыніліся прыватныя крамы. Адразу з'явіўся дэфіцыт на ўсё. Калі прывозілі мануфактуру або боты, з вечара выстройвалася чарга, якая чакала ўсю ноч да раніцы адкрыцця крамы*».

8 снежня 1939 года савецкія ўлады прынялі пастанову аб тым, што з 11 снежня 1939 года зарплата рабочым і служачым на тэрыторыі заходніх абласцей БССР павінна была выдавацца толькі савецкімі рублямі, а з 21 снежня злотыя перасталі прымаць і ў крамах.

У планах на 1940 год савецкае кіраўніцтва разлічвала на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны перасягнуць узровень прамысловай вытворчасці міжваеннай Польшчы 1938 года. Для гэтага планавалася масава ўкараняць новыя спосабы прамысловай вытворчасці. Акрамя гэтага, пачалося стварэнне т. зв. трэстаў, якія павінны былі аб'яднаць розныя прадпрыемствы, што спецыялізаваліся ў адной са сфер прамысловай вытворчасці. Так, былі створаны Аб'яднанне прадпрыемстваў гарбарнай прамысловасці ў Гродне, Аб'яднання дрэваапрацоўчых вытворчасцей у Беластоку, Лідзе, Пінску і Ваўкавыску, Аб'яднанне тэкстыльнай прамысловасці ў Беластоку. Варта таксама адзначыць, што

на рэарганізацыю і развіццё прамысловасці і вытворчасці на тэрыторыі былых «усходніх крэсаў» з бюджэту СССР у 1940 годзе было выдзелена 436 мільёнаў рублёў.

З вясны 1941 пачалася арганізацыя курсаў павышэння кваліфікацыі прамысловых рабочых з заходніх абласцей БССР і УССР. Таксама на прадпрыемствы Заходняй Беларусі накіроўваліся спецыялісты і з усходніх абласцей.

У сельскай гаспадарцы паступова пачалася калектывізацыя. Адной з яе найважнейшых фаз стала стварэнне машынна-трактарных станцый (МТС), якія павінны былі спрыяць механізацыі гэтай галіны народнай гаспадаркі. МТС звычайна ствараліся ў маёнтках памешчыкаў і асаднікаў. У другім і трэцім квартале 1940 года з БССР у Заходнюю Беларусь было накіравана 1000 трактароў, 600 трактарных плугоў, 400 трактарных сеялак.

Разам з тэхнікай прыязджалі і спецыялісты. У студзені 1940 года Савет народных камісараў БССР пастанавіў пачаць на тэрыторыі заходніх абласцей стварэнне саўгасаў. Што тычыцца калгасаў, то наконт іх не было асобнага рашэння. Калектыўныя гаспадаркі ствараліся па *«ініцыятыве мясцовай вертыкалі ўлады»*. Да 1 мая 1940 года ў Заходняй Беларусі было 430 калгасаў, да чэрвеня 1941 — ужо 1115. Ствараліся калгасы на матэрыяльнай базе маёнткаў асаднікаў, дэпартаваных з Заходняй Беларусі ў лютым 1940 года.

Жыхары заходніх абласцей БССР праціваліся ўступленню ў калгасы. Адным са спосабаў такога пратэсту быў забой жывёлы. На сталах начальнікаў абласных аддзелаў НКУС адна за адной з'яўляліся скаргі партчыноўнікаў, у якіх тыя пісалі, пра тое, што «забітыя каровы і парасяты» з'яўляюцца нічым іншым, як антысавецкай дыверсіяй. У адказ чэкісты ўжывалі рэпрэсіі супраць сялян.

У чэрвені 1940 года СНК СССР прыняў пастанову аб барацьбе з хутарызацыяй. У адпаведнасці з ёй перасяленню ў вёскі падлягалі 44 557 гаспадарак. У выніку гэты план быў перавыкананы. Таксама з гаспадаркамі аднаасобнікаў савецкія ўлады змагаліся падаткамі (план па лесанарыхтоўках, падатак на коней) і з дапамогай абмежавання колькасці зямельнай уласнасці.

Адзін з жыхароў Ваўкавыску ўспамінаў: «*Увялі падаткі так, што мець больш за 10 гектараў зямлі зрабілася нявыгадна. Аднаасобнікаў абклалі падаткамі. Бацька павінен быў здаць тры тоны збожжа, чатыры тоны бульбы, мяса, малако, ды яшчэ тры тысячы рублёў. Каб не рэзаць сваю карову, ялавічыну здавалі такім чынам: куплялі па 5 чалавек карову і вялі яе на бойню, дзе ўсім выдавалі даведкі аб здачы мяса і нават плацілі грошы. За адзін цэнтнер збожжа плацілі 12 рублёў, на якія нельга было купіць нават куфаль піва. Людзі казалі, што свет не бачыў такіх паноў, як Саветы. Сапраўдны пан накорміць і заплаціць, а бальшавікі яшчэ і скуру здымуць*».

За амаль два гады савецкая ўлада паспела правесці жорсткія рэпрэсіі супраць варожага ёй польскага элемента, які насяляў заходнебеларускі рэгіён. Пацярпелі і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, у тым ліку і беларусы.

Велізарныя змены адбыліся і ў эканоміцы краю. З аднаго боку, у заходніх абласцях БССР у 1940–1941 гадах назіраўся рост прамысловасці, з другога — цалкам была ліквідавана прыватная ўласнасць і паралізаваны гандаль. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі прывяла да таго, што многія сапраўдныя гаспадары зямлі былі рэпрэсаваныя, а ім на змену прыйшла сялянская беднота, якая складалася ў асноўным з гультаёў. Нарэшце, планавая савецкая эканоміка прывяла да зніжэння эфектыўнасці прадукцыйнасці працы. Сітуацыю не змаглі выратаваць шматлікія пастаўкі дэфіцытных тавараў, прамысловай і сельскагаспадарчай тэхнікі з СССР. Напад Германіі на Савецкі Саюз у чэрвені 1941 года на пэўны перыяд прыпыніў саветызацыю эканамічнага жыцця Заходняй Беларусі, якая працягнулася ўжо пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

# Куды зніклі грошы Банка Польскага ў Заходняй Беларусі?

Падзеі пачатку Другой сусветнай вайны да гэтага часу ўтрымліваюць у сабе вялікую колькасць недаследаваных аспектаў. У сувязі з гэтым асаблівую цікавасць выклікае гісторыя вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ў верасні 1939 года і звязаная з ім ліквідацыя крэдытна-фінансавай інфраструктуры Банка Польскага ва ўсходніх ваяводствах ІІ Рэчы Паспалітай. Акрамя гэтага, да сённяшняга дня практычна не даследаваным айчыннымі гісторыкамі застаецца эпізод, звязаны з арганізацыяй эвакуацыі польскага залатога запасу, які захоўваўся ў Банку Польскім ў Варшаве. Між тым, адзін з маршрутаў вывазу золата з ахопленай вайной Польшчы праходзіў праз заходнебеларускія тэрыторыі.

У 1924 годзе ў Польшчы была створана найбуйнейшая крэдытна-фінансавая ўстанова — Банк Польскі, які атрымаў права эмісіі новай польскай валюты — злотага. Да гэтага асноўным плацежным сродкам была польская марка. Эмісія злотага ажыццяўлялася на аснове сістэмы залатога стандарту «Gold Exchange Standard».

Статутны фонд Банка Польскага ў момант яго стварэння складаў 100 мільёнаў злотых. 15 красавіка 1924 года адбыўся сход акцыянераў, а ўжо 28 красавіка ў будынку былога Рускага дзяржаўнага банка, які знаходзіўся ў Варшаве на вул. Бялянскай, пачала працу галоўная фінансавая ўстанова Польшчы.

У наступныя гады на тэрыторыі Польшчы было створана 50 філіялаў Банка Польскага. На тэрыторыі Заходняй Беларусі яны знаходзіліся ў Лідзе, Гродне, Баранавічах, Брэсце, Ваўкавыску, Слоніме, Пінску і Кобрыне. Калі сярод галоўных задач Банка Польскага ў Варшаве былі эмісія злотага і рэгуляванне грашовага звароту ў краіне ў цэлым, то на месцах, і ў прыватнасці ў заходнебеларускіх ваяводствах, галоўны польскі банк канцэнтраваў сваю дзейнасць на крэдытаванні менш буйных банкаў і ашчадных

кас, а таксама фінансаванні дзейнасці прадстаўнікоў дзелавой сферы.

Акрамя гэтага, філіялы Банка Польскага ажыццяўлялі грашовыя пераводы, продаж замежнай валюты і каштоўных металаў у злітках і манетах. Напрыклад, у адным толькі Гродна ў 1927 годзе філіял галоўнага банка краіны ажыццявіў аперацый на 8 190 000 злотых.

Калі казаць пра сферу крэдытавання, то значныя сродкі меркавалася вылучыць на фінансаванне гарадской інфраструктуры Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў. Прадстаўнікі дзелавых колаў Вільні і Навагрудка падчас сваіх сходаў неаднаразова адзначалі неабходнасць выкарыстання доўгатэрміновых крэдытаў Банка Польскага для развіцця гарадоў рэгіёну. Важнасць гэтага ў адной са сваіх публікацый, датаванай 1934 годам, падкрэсліваў і дырэктар Гандлёва-прамысловай палаты ў Вільні Уладзіслаў Баранскі. Па дадзеных Штогадовіка статыстыкі Рэчы Паспалітай за 1929 год, сума крэдытаў, прызначаных для гарадоў Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў, складала на 31 сакавіка 1928 года 18 373 000 злотых. Варта таксама падкрэсліць, што стаўкі па крэдытах у Банку Польскім былі ніжэй, чым у іншых банках.

Па дадзеных на 1 студзеня 1939 года, актывы Банка Польскага складалі 2 млрд тагачасных злотых. Акрамя гэтага, банк меў замежныя вэксалі і закладныя паперы на суму 200 млн злотых. Нарэшце, у 1939 годзе ў сховішчах Банка Польскага ў Варшаве знаходзілася больш за 60 тон золата ў злітках і манетах. Некаторая колькасць каштоўных металаў знаходзілася ў філіялах банка, у тым ліку і ў Заходняй Беларусі.

2 верасня 1939 года, на другі дзень пасля нападу нацысцкай Германіі на Польшчу, былі ўнесены змены ў статут банка, якія дазвалялі павялічыць фінансаванне вайсковых патрэб. Але ўжо 4 верасня 1939 года было прынята рашэнне аб эвакуацыі са сталіцы гэтай установы, а таксама Міністэрства фінансаў. Першапачаткова планавалася вылучыць асобны чыгуначны састаў для перавозкі супрацоўнікаў і іх сем'яў, а таксама транспарт для перавозкі дакументацыі

і каштоўных папер са сховішчаў. Але ўжо 5 верасня план быў зменены: чыноўнікам загадалі пакінуць Варшаву самастойна і адправіцца ў Люблін, куды пераязджала кіраўніцтва Мінфіна і Банка Польскага. Зрэшты, фронт рухаўся настолькі хутка, што польскія фінансісты неўзабаве вымушаны былі пераехаць у заходнеўкраінскі Луцк.

З эвакуацыяй дакументацыі паўстала досыць шмат праблем. Адзін з відавочцаў успамінаў, што транспарту для вывазу архіваў і каштоўных папер так і не было прадстаўлена. Супрацоўнікам даводзілася бегаць па вуліцах, лавіць сялянскія брычкі і фурманкі і загружаць на іх найкаштоўнейшую дакументацыю. Не дзіва, што далей, у ваеннай завірусе, усе гэтыя дакументы бясследна зніклі.

Але галоўнай праблемай для польскага кіраўніцтва была арганізацыя вывазу залатога запасу са сховішчаў Банка Польскага. Адным з чыноўнікаў, які адказваў за эвакуацыю польскага золата за мяжу, стаў былы кіраўнік дэпартамента авіяцыі Войска Польскага Людаміл Райскі. Разам з віцэ-міністрам фінансаў і па сумяшчальніцтве экс-старшынёй праўлення Банка Польскага (1936 г.) Адамам Коцам Райскаму даручылі арганізаваць закупку ўзбраення для польскай арміі за мяжой. Аплатай за ваенныя пастаўкі павінна было стаць золата, якое захоўвалася ў Банку Польскім.

У хуткім часе Варшава стала прыфрантавым горадам. Міністр фінансаў Польшчы Эўгеніюш Квяткоўскі прапаноўваў ажыццявіць эвакуацыю золата з дапамогай самалётаў кампаніі «Лот». Паводле першапачатковага плану, злíткі хацелі вывезці ў Вільню, а адтуль — у нейтральную Швецыю. Але Райскі запрацівіўся гэтай ідэі, сцвярджаючы, што за адзін рэйс новы транспартны «Локхід» можа вывезці толькі 1,5 тоны золата, і для таго, каб вывезці ўсё золата, прыйдзецца здзейсніць больш за 50 вылетаў. І гэта ў той час, калі ў небе над Польшчай пануе германская авіяцыя.

У выніку было прынята рашэнне эвакуяваць золата ва ўсходнім кірунку па сушы. 3,5 тоны каштоўнага металу былі вывезены варшаўскімі гарадскімі аўтобусамі ў Замосце (паўднёвая Польшча) і размешчаны ў казематах крэпасці. Каля 30 тон было адпраўлена ў Брэсцкую крэпасць, пад

ахову польскага вайсковага гарнізона, які размяшчаўся там. Хутчэй за ўсё, рашэнне аб эвакуацыі золата ў заходнебеларускую цытадэль было прынята ў сувязі з тым, што 7 верасня 1939 года ў Брэст разам са сваім штабам эвакуяваўся і галоўнакамандуючы польскай арміяй маршал Эдвард Рыдз-Сміглы.

Але сітуацыя на польска-нямецкім фронце станавілася катастрафічнай. Людаміл Райскі ў жорсткай форме патрабаваў ад камандуючага гарнізонам Брэсцкай крэпасці генерала Францішка Клееберга імгненнай арганізацыі вывазу золата з Брэста. У адказ Клееберг заявіў, што ніякай эвакуацыі не будзе, пакуль не праясніцца сітуацыя на фронце. Заручыўшыся падтрымкай міністра замежных спраў Польшчы Юзафа Бека, Райскі дамогся аўдыенцыі ў Рыдз-Сміглы і распавёў маршалу пра сітуацыю з золатам. Галоўнакамандуючы прыняў рашэнне аб эвакуацыі зліткаў, загадваючы міністру Беку звязацца з польскім пасольствам у Румыніі і даручыць амбасадару арганізацыю транспартнага калідора для «залатога цягніка». Румынія пагадзілася на транзіт польскага золата праз сваю тэрыторыю, але кіраўнікі гэтай краіны прасілі палякаў паспяшацца. У Бухарэсце не без падставы асцерагаліся, што пра сакрэтную аперацыю даведаюцца немцы, бо румынскае каралеўства была літаральна нашпігаванае агентамі Абвера.

12 верасня 1939 года ў Снятын на польска-румынскую мяжу прыбыў і быў схаваны ў лесе «залаты» транспарт з Луцка. На наступны дзень да мяжы даехаў цягнік з Брэста. Заставалася дачакацца калону з Замосця, але яна затрымлівалася. Нарэшце калона дабралася да месца прызначэння. Аказалася, праўда, што ў Дубна яе начальнік, маёр Вражэя, атрымаў загад са Стаўкі маршала Рыдз-Сміглы пакінуць 70 скрынь золата на агульную суму 22,6 мільёна злотых. Гэтая частка залатога запасу павінна была паступіць у распараджэнне галоўнага камандавання на бягучыя выдаткі.

У ноч з 13 на 14 верасня 1939 года ўсё золата было перагружана ў спецыяльны чыгуначны састаў, які неўзабаве перасек польска-румынскую мяжу. Так атрымалася выратаваць ад Гітлера залаты запас II Рэчы Паспалітай. Але частка

польскіх золатавалютных рэзерваў працягвала знаходзіцца ў філіялах Банка Польскага ў рэгіёнах, у тым ліку ў Заходняй Беларусі. Іх лёс вырашыўся пасля пачатку вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь.

5 кастрычніка 1939 года ў савецкай газеце «Праўда» быў апублікаваны матэрыял «Камуністы ў баі», які распавядаў аб уступленні Чырвонай Арміі ў горад Ліда. У ліку савецкіх трафеяў, узятых там, быў чыгуначны эшалон, у складзе якога мелася два вагоны з каштоўнымі металамі, карцінамі і іншымі прадметамі мастацтва, якія раней утрымліваліся ў сховішчах Банка Польскага. Зрэшты, частку актываў банка ў Лідзе ўсё ж удалося эвакуяваць. Так, наяўную замежную валюту, якая знаходзілася ў банкаўскім сховішчы, вывезлі ваенным эшалонам, які без прыгод дабраўся да Гродна.

Віцэ-староста Навагрудка Вацлаў Чайкоўскі ў салоне службовага аўтамабіля эвакуяваў у Вільню частку сродкаў, якія захоўваліся ў аддзяленні Банка Польскага. Пасля гэтыя грошы былі перададзеныя польскаму падполлю. Іншы польскі чыноўнік з Баранавічаў Караль Ванькові таксама спрабаваў уратаваць фінансавыя сродкі, якія захоўваліся ў Банку Польскім. Аднак калі сітуацыя стала безвыходнай, значную частку тых грошай ён раздаў прадстаўнікам мясцовага дваранства, асаднікам і дзяржаўным служачым, якія спрабавалі выехаць з ахопленай вайной Польшчы.

Польскім уладам не ўдалося эвакуяваць грашовыя сродкі, якія захоўваліся ў аддзяленні Банка Польскага ў Брэсце. Усведамляючы, што транспарту для вывазу актываў няма, супрацоўнікі банка сапсавалі папяровыя банкноты, якія знаходзяцца ў сховішчы. Пра гэта ў кастрычніку 1939 года ў дакладной запісцы, накіраванай сакратару ЦК КП(б)Б Н. Г. Грэкавай, пісаў намеснік загадчыка аддзела кадраў ЦК КП(б)Б Краўцоў. Прывядзём вытрымку з гэтага дакумента. «*Калі часовае ўпраўленне прыступіла да працы, у банку не аказалася ні капейкі грошай, за выключэннем 12 млн злотых, якія палякі прабілі, г. зн. сапсавалі. Часовае кіраванне прыняло ўсе неабходныя меры да набыцця сродкаў для пакрыцця неабходных выдаткаў. Набыццё сродкаў ішло рознымі шляхамі: работнікі Часовага кіравання ездзілі*

*па памешчыцкіх маёнтках, у іншыя гарады (якія зараз адышлі да Германіі) і такім чынам назбіралі да 2 млн рублёў, якія і ўклалі ў банк. Па прыездзе таварыш Леановіч, камісар банка, спыніў усякую выдачу грошай, матывуючы тым, што грошы, якія знаходзяцца ў банку, з'яўляюцца трафейнымі і павінны ўвайсці ў бюджэт дзяржавы. У цяперашні час рахункі як абласнога, так і павятовага Часовага кіравання адкрытыя. Акрамя таго, усімі трафейнымі грашыма распараджаецца не камісар банка, а старшыня абласнога Часовага кіравання. Аднак неабходна ўказаць, што кіраўнікі Палескай вобласці слаба разгарнулі работу па спагнанні падаткаў з купцоў, гандляроў і іншых асоб».*

Палякам удалося выратаваць сродкі, якія захоўваліся ў дэпазітарыі віленскага аддзялення Банка Польскага. 20 верасня 1939 года савецкія часткі ўступілі ў Вільню. Супрацоўнікі НКУС, выявіўшы, што банкаўскае сховішча пустое, запатрабавалі ад кіраўніка філіяла Яна Асквэркі-Сераслаўскага паведаміць, дзе захоўваюцца каштоўнасці. Гутарка ішла пра амаль тону золата і значную колькасць ювелірных упрыгожванняў. Усё гэта багацце знаходзілася ў Фондзе нацыянальнай абароны (FON) і павінна было пайсці на закупку ўзбраення для польскага войска. Але перад самым уступленнем частак РККА ў Вільню ваявода Артур Марушэўскі разам з супрацоўнікамі польскай контрвыведкі схаваў каштоўнасці.

Неўзабаве пры нявысветленых абставінах дырэктар банка Я. Асквэрка-Сераслаўскі скончыў жыццё самагубствам, выскачыўшы з акна другога паверха. Супрацоўнікі НКУС шукалі «панскае золата» па ўсёй Віленшчыне, але так нічога і не знайшлі. У пачатку 1940 года, пасля таго, як Віленскі край быў перададзены Літве, польскім контрвыведнікам Лешаку Дашкевічу і Міхалу Рыбікоўскаму пры дапамозе віцэ-консула Японіі ў Коўне Чыўна Сігіхары ўдалося арганізаваць эвакуацыю каштоўнасцяў у Швецыю.

Падводзячы вынік, варта адзначыць, што крэдытна-фінансавая дзейнасць Банка Польскага аказвала значны ўплыў на развіццё як у цэлым Польшчы, так і яе ўсходніх рэгіёнаў. Праца філіялаў Банка Польскага на тэрыторыі

Заходняй Беларусі была спыненая пасля далучэння гэтых тэрыторый да СССР у верасні 1939 года. Асноўную частку актываў (перш за ўсё, залаты запас Польшчы, які захоўваўся ў Варшаве) палякам удалося паспяхова эвакуяваць. Але некаторая частка каштоўнасцяў, якія знаходзіліся ў Банку Польскім на тэрыторыі заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх ваяводстваў, апынулася пасля 17 верасня ў руках савецкіх уладаў і была імі нацыяналізавана.

## Паляванне на архіў «Двуйкі»

На пачатку Другой сусветнай вайны ў рукі савецкіх і нямецкіх спецслужбаў трапілі дакументы польскай выведкі. Большасць з іх да сённяшняга дня не вярнулася на радзіму.

*«Дакументацыя польскай даваеннай выведкі з'яўляецца найважнейшымі польскімі архіўнымі дакументамі, якія знаходзяцца ў Расіі»,* — заявіў у адным з мінулагодніх інтэрв'ю кіраўнік польскай архіўнай службы прафесар Уладзіслаў Стэмпняк. Гутарка ідзе пра матэрыялы Другога аддзелу Генштаба Войска Польскага, якія сталі савецкімі трафеямі спачатку на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1940 годзе, а пазней, на завяршальным этапе Другой сусветнай вайны, падчас вызвалення часткамі Чырвонай Арміі Усходняй Еўропы.

Стварэнне структур выведкі і контрвыведкі II Рэчы Паспалітай пачалося 13 лістапада 1918 года, калі ў сістэме Генеральнага штабу з'явіўся VI (Інфармацыйны) аддзел, які праз год быў перайменаваны ў Другі аддзел, ці «Двуйку». Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны менавіта гэтая структура стала галоўным выведвальным органам міжваеннага польскага войска. У 1921 годзе ў цэнтральнай штаб-кватэры Другога аддзела, якая размяшчалася на Саксонскай плошчы ў Варшаве, працавалі 64 афіцэры, 12 падафіцэраў, 1 харунжы і 20 грамадзянскіх служачых. Першым шэфам польскай спецслужбы быў падпалкоўнік Ігнацій Матушэўскі.

У складзе службы былі наступныя аддзелы: арганізацыйны (стварэнне і ліквідацыя ўнутраных і замежных выведвальных ячэек, падрыхтоўка выведкі на выпадак вайны); аддзел па вывучэнні перыядычных выданняў замежных дзяржаў; аддзел інфармацыі (аналітычныя даследаванні, вывучэнне нацыянальных працэсаў). Але галоўнае месца займаў выведвальны аддзел, у задачы якога ўваходзіла арганізацыя контрвыведвальных дзеянняў, а таксама правядзенне выведкі супраць іншых дзяржаў.

Паступова тут былі сфарміраваныя два асобныя рэфэраты (аддзелы): «Усход» (СССР, Літва і іншыя прыбалтыйскія дзяржавы) і «Захад» (Германія). Акрамя гэтага, існаваў «рэферат» планавання дыверсій, шыфравальны аддзел, служба забеспячэння вайсковай і дзяржаўнай таямніцы. «Двуйка» курыравала дзейнасць вайсковых аташатаў пры амбасадах II Рэчы Паспалітай.

Неабходнасць атрымання больш глыбокай інфармацыі пра небяспечных суседзяў прывяла да ўзнікнення ў складзе Адзела інфармацыі асобных рэфэратаў «Расія» і «Германія». Яны займаліся аналізам сітуацыі ў СССР і ў Веймарскай рэспубліцы, а пазней — Трэцім Рэйху. Вывучэннем сітуацыі ў іншых краінах займаўся рэферат агульных даследаванняў.

У 1930-х гадаў узрасла роля радыёвыведкі, таму ў складзе «Двуйкі» быў створаны адпаведны аддзел. Дарэчы, тут працавалі не толькі кадравыя вайскоўцы, але і навукоўцы. Таксама важным момантам дзейнасці польскай выведкі было вывучэнне структуры нацыянальных меншасцяў у складзе Войска Польскага. Тут гутарка ішла, перш за ўсё, пра жыхароў заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай (беларусаў, габрэяў, украінцаў), а таксама этнічных немцаў.

Напярэдадні Другой сусветнай вайны Аддзел правядзення дыверсій актыўна распрацоўваў аперацыі супраць Чэхаславакіі ў Цешынскай Сілезіі і Закарпацкай Русі (пра аперацыю «Лом» мы ўжо расказвалі ў адным з артыкулаў).

Перад нападам Германіі на Польшчу ў Другім аддзеле Генштабу польскай арміі працавала каля 250 афіцэраў і каля 500 цывільных супрацоўнікаў. Прадстаўніцтва «Двуйкі»

дзейнічала і ў Заходняй Беларусі. Так, у падпарадкаванні Экспазітуры № 1 у Вільні (кіраўнік — маёр Эдмунд Пятроўскі) былі выведвальныя пляцоўкі Корпусу аховы памежжа 1-6 у Гродне, Вільні, Глыбокім, Маладзечне, Стоўбцах і Лунінцы. Таксама пры Камандаванні карпусной акругі IX (Брэст) і III (Гродна) існавалі самастойныя «рэфераты» (прадстаўніцтвы) Другога адзела. Апошнімі шэфамі польскай даваеннай выведкі былі палкоўнікі Ежы Энгліхт і Юзаф Смаленскі.

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу і цягам некалькіх тыдняў далучыла Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну да СССР. Сярод багатых трафеяў «вызвольнага паходу» былі і дакументы «Двуйкі», якія польскія вайскоўцы не паспелі эвакуяваць ці знішчыць. У пачатку сакавіка 1940 года ў адзін з прыватных маёнткаў ля Беластока пад'ехала калона савецкіх вайсковых машын. З яе выйшлі людзі ў блакітных фуражках і накіраваліся ў сядзібу. Праз гадзіну жаўнеры пачалі выносіць з дому цяжкія скрыні і грузіць у грузавікі.

Так у руках НКУС аказалася 250 кілаграмаў найкаштоўнейшых дакументаў рэфэрату «Усход» Другога аддзелу Генштаба Войска Польскага. Сярод дакументаў былі персанальныя справы не толькі супрацоўнікаў польскай выведкі, але і «канфідэнтаў» — цывільных агентаў польскіх спецслужбаў, у тым ліку і жыхароў Заходняй Беларусі. Напярэдадні нападу нацыстаў на Польшчу архіў быў вывезены з Варшавы на Усход.

Ужо 20 сакавіка 1940 года ў Беласток, Баранавічы, Брэст, Пінск, Вілейку накіроўваюцца спецыяльныя групы НКУС, у задачу якіх уваходзіла выяўленне былых супрацоўнікаў польскіх дзяржаўных органаў, паліцэйскіх, вайскоўцаў і «канфідэнтаў» польскіх спецслужбаў. Можна дапусціць, што важную ролю ў дзейнасці гэтых савецкіх «айнзацгруп» адыгрывалі і дакументы польскай «Двуйкі». Гэтыя групы працавалі каля двух месяцаў, а вынікам іх працы сталі сотні расстраляных грамадзян былой II Рэчы Паспалітай.

Акрамя гэтага, захопленыя сакрэтныя дакументы дазволілі савецкім спецслужбам правесці глыбокую распрацоўку польскіх афіцэраў, якія знаходзіліся ў лагерах для

ваеннапалонных. Нарэшце, вялікая ўвага звярталася на так званую «праметэйскую» дзейнасць Другога аддзелу Генштаба Польшчы, што заключалася ў выкарыстанні ў якасці агентаў эмігрантаў з савецкіх сярэднеазіяцкіх і каўказскіх рэспублік. Напрыклад, у верасні 1939 года ў савецкі палон трапіў афіцэр Войска Польскага па прозвішчы Караеў. Аказалася, што гэты чалавек — былы эмігрант з Закаўказзя. У свой час ён супрацоўнічаў з польскай выведкай і служыў па кантракту ў польскай арміі. Выявіць гісторыю каўказца і яго братоў па няшчасці дазволілі захопленыя дакументы «Двуйкі».

Польскія сакрэтныя архівы, атрыманыя НКУС у 1940 годзе, былі не апошнім савецкім трафеем. У маі 1945 года ў Патсдаме савецкая армія захапіла дакументы Цэнтральнага вайсковага архіва Трэцяга Рэйха. Сярод нямецкіх папер увагу савецкіх афіцэраў прыцягнулі і дакументы на польскай мове. Хутка стала зразумела, што ў руках савецкіх спецслужбаў архіў Аддзелу «Захад» польскай выведкі, які ў верасні 1939 года быў захоплены нацыстамі ў адным з фортаў варшаўскай Цытадэлі.

Гутарка ідзе пра дакументы III-й экспазітуры «Двуйкі», якая знаходзілася ў Быдгашчы. Гэтае аддзяленне займалася выведвальнай дзейнасцю на тэрыторыі Усходняй Прусіі і Вольнага горада Данцыга. Аналізуючы нямецкія паштовыя адпраўленні, апрацоўваючы дадзеныя ад сваіх агентаў у штабе люфтвафэ ў Кёнігсбергу, палякам атрымалася сабраць дакладную інфармацыю наконт вайсковага патэнцыялу Трэцяга Рэйху. Пра важнасць архіва ў Быдгашчы сведчыць той факт, што ў першыя дні нападу на Польшчу за архівам палявала спецыяльная група СС. Аднак у будынку экспазітуры дакументаў ужо не было.

Толькі пасля захопу Варшавы нацыстам удалося атрымаць гэты архіў. У выніку каля 100 былых польскіх агентаў, якія працавалі на тэрыторыі Трэцяга Рэйху, былі асуджаныя і пакараныя. Напрыканцы вайны лёс закінуў і гэтую частку архіва польскіх спецслужбаў у СССР.

Большасць дакументаў «Двуйкі» да сённяшняга дня знаходзяцца ў архівах Расійскай федэрацыі. Частка матэрыялаў была скапіравана польскімі даследчыкамі ў пачатку

1990-х гадоў і зараз знаходзіцца ў Цэнтральным вайсковым архіве ў Рэмбертаве пад Варшавай. Польскі бок не спыняе працы па вяртанні дакументацыі даваеннага Другога аддзелу генштабу польскага войска на Радзіму. Аднак сёння гэтая справа ў кампетэнцыі не навукоўцаў, а палітыкаў.

## Рыжская мяжа як зона загароды

Пасля 17 верасня 1939 года на працягу амаль двух гадоў былая савецка-польская мяжа ператварылася ў так званую «зону загароды», праз якую можна было праехаць ці прайсці толькі са спецыяльным пропускам. У чэрвені 1941 года камандаванне Чырвонай Арміі паспрабавала арганізаваць у Беларусі абарону на лініі старой мяжы, аднак з гэтага нічога не атрымалася.

Напярэдадні ўварвання ў Польшчу ў верасні 1939 года сярод падраздзяленняў памежнай аховы НКУС БССР вылучаліся асобныя спецыяльныя часткі. Яны першымі павінны былі перайсці савецка-польскую мяжу і знішчыць гарнізоны стражніц Корпуса аховы памежжа. Так, у складзе 13-га Бярэзінскага памежнага атрада ў перыяд з 11 па 15 верасня 1939 года было сфармавана 9 баявых груп (ад 40 да 120 чалавек). Напярэдадні «вызвольнага паходу» асабісты склад атрада быў папоўнены курсантамі палкавых школ унутраных войскаў Асобнай мотастралковай дывізіі асаблівага прызначэння. У адпаведнасці з загадам НКУС СССР № 0001-080 ад 10 верасня 1939 года, са складу 17-га Цімкавіцкага памежнага атрада быў вылучаны спецыяльны аператыўны батальён у колькасці 300 чалавек.

Удзельнічалі ў паходзе і памежнікі 12-га Бігосаўскага, 14-га Плешчаніцкага, 15-га Заслаўскага, 16-га Дзяржынскага, 18-га Жыткавіцкага памежных атрадаў. Як дзейнічаў памежны спецназ?

Напрыклад, у паласе дзеяння Бярэзінскага памежатрада ў 5 гадзін раніцы савецкія штурмавыя групы перайшлі мяжу і атакавалі польскія стражніцы. Палякі спрабавалі паведаміць свайму камандаванню пра атаку з Усходу, аднак зра-

біць гэтага не паспелі, бо сувязь была знішчана. Добра падрыхтаваныя бальшавіцкія падраздзяленні хутка блакіравалі польскія заставы і закідалі капістаў гранатамі.

Пазней, пасля заканчэння «вайны», савецкія памежныя часткі выкарыстоўваліся ў акцыях па арыштах, канваяванні і ахове польскіх ваеннапалонных, а таксама грамадзянскіх асоб.

28–30 кастрычніка 1939 года ў Беластоку адбыўся народны сход Заходняй Беларусі, на якім была прынята дэкларацыя аб абвяшчэнні савецкай улады на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Тады ж дэпутаты пастанавілі прасіць Вярхоўны Савет СССР уключыць Заходнюю Беларусь у склад БССР.

Краіна нібы аб'ядналася, але «рыжскую мяжу» ў Маскве вырашылі пакінуць. Праўда, пасля «вызвольнага паходу» памежныя атрады НКУС БССР чакала рэарганізацыя.

Загадам ад 3 жніўня 1940 года 15-ы Заслаўскі і 17-ы Цімкавіцкі памежныя атрады былі расфармаваныя, а іх участкі і асабісты склад перададзеныя ў распараджэнне 16-га Дзяржынскага памежатрада, які, нягледзячы на «ўз'яднанне», працягваў ахоўваць участак былой дзяржаўнай мяжы па лініі Радашковічы — Заслаўе — Негарэлае — Цімкавічы — Чырвоная Слабада (260 км). У гэты час «рыжская мяжа» пачала называцца «зонай загароды». Па стане на жнівень 1940 года ў складзе Дзяржынскага атрада было 10 камендатур, 10 аддзяленняў сувязі, 42 лінейныя заставы, КПП «Радашковічы» і «Негарэлае», узвод сувязі, аўтаўзвод, гаспадарчы ўзвод.

Акрамя гэтага «рыжскую мяжу» працягвалі ахоўваць часткі 13-га Бярэзінскага памежнага атрада, у склад якога былі ўключаны суседзі з расфармаванага 14-га Плешчаніцкага атраду. Загадам № 001121 ад 20 верасня 1939 года быў сфармаваны 83-ці Маласлабоцкі памежатрад, у склад якога ўвайшлі чатыры камендатуры, 22 лінейныя заставы, КПП «Бігосава», узвод сувязі і іншыя часткі. Таксама ахову «старой мяжы» ажыццяўлялі 18-ы Жыткавіцкі памежатрад і 22-я асобная Ветрынская памежкамендатура.

У снежні 1940 года Лаўрэнцій Берыя накіраваў на імя Сталіна сакрэтную службовую запіску, у якой адзначалася:

*«Тэрыторыі заходніх абласцей Украіны і Беларусі да гэтага часу не ачышчаныя ад антысавецкіх і варожых элементаў. [...] Значная колькасць удзельнікаў антысавецкіх арганізацый, шпіёнаў, дыверсантаў і іншых варожых элементаў спрабуе пракрасціся з заходніх абласцей Украіны і Беларусі ў асноўныя раёны СССР праз існуючую сёння так званую «зону загароды» на былой савецка-польскай мяжы. За мінулы перыяд на тэрыторыі Заходняй Беларусі выкрыта і ліквідавана 162 контррэвалюцыйныя арганізацыі, арыштавана 1068 шпіёнаў.*

*Зыходзячы з гэтага НКУС СССР лічыць неабходным і далей захоўваць на лініі былой савецка-польскай мяжы зону загароды, а таксама зоны загароды на былых савецка-эстонскай, савецка-латвійскай і савецка-румынскай межах. На гэтых участках нясуць службу 10 551 памежнік, з якіх 7 тысяч пакінуты ў памежных войсках на 1 год. Дадзены тэрмін службы мінае 1.01.1941 года. Для захавання існуючай сёння зоны загароды НКУС СССР просіць вашага дазволу:*

*1. Даць НКУС СССР права затрымаць тэрмінам на 1 год у памежных войсках 7 тысяч памежнікаў з ліку тых, у каго ў студзені міне тэрмін службы.*

*2. Абавязаць Эканамічны савет пры СНК СССР разглядзець заяўку НКУС на матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне для пазначанай дадатковай колькасці памежнікаў».*

Пра тое, як дзейнічала мяжа пасля «ўз'яднання», успамінаюць шматлікія жыхары Заходняй Беларусі. Напрыклад, жыхарка мястэчка Коласава Сцепаніда Яўсейчык расказвае: *«У маці была сястра стрыечная ў БССР, дык маці праз былую мяжу да яе не пусцілі. Бацьку аднойчы, мусіць у 1940 годзе, адправілі ў Негарэлае на працу. Ён, калі вярнуўся адтуль, дык казаў, што ў Саветах жывуць вельмі бедна, а мы ж тады таксама ўжо былі савецкімі, аднак тое, што «за польскім часам» назапасілі, з таго і жылі».* На працягу 1940 года на ўчастку аднаго толькі 13-га Бярэзінскага памежатраду ў «зоне загароды» было затрымана 2935 «парушальнікаў мяжы».

Падобная сітуацыя была і на іншых участках «рыжскай мяжы». Партфункцыянеры з Мінска, атрымаўшы спецы-

яльныя дазволы на перасячэнне мяжы, ехалі на Захад па «панскае дабро». Тады ж на рынках сталіцы БССР з'явілася вопратка з брэндамі заходнееўрапейскіх фірм, прадметы мастацтва, антыкварыят і іншыя рэчы.

У мемуарах і ўспамінах шматлікіх савецкіх генералаў і маршалаў можна прачытаць, што камандаванне РСЧА ў першыя дні вайны спрабавала арганізаваць абарону на лініі старой мяжы. Тут гутарка ішла хутчэй не пра старыя, абяззброеныя ў 1940–1941 гадах ДАКі «Лініі Сталіна», а пра «памежную дыстанцыю», на якой захоўваліся вайсковыя часткі і куды планавалася сцягнуць рэзервы.

Аднак перад тым, як пачаць змагацца з наступаючым ворагам, савецкія памежнікі, пакінутыя на «рыжскай мяжы», вымушаны былі адыгрываць ролю «заградатрада», які фільтраваў бежанцаў з Заходняй Беларусі, якія спрабавалі ўратавацца ад нацыстаў.

Адным з такіх быў жыхар Навагрудка Давід Коган. Вось як ён апісваў тыя падзеі: «*На старой савецка-польскай мяжы памежнікі правяралі дакументы, і тых, хто не меў дазволу, накіроўвалі назад. Саветы атрымалі загад не прапускаць людзей, якія былі грамадзянамі Польшчы да 1 верасня 1939 года*». Ужо ўзгаданая вышэй Сцепаніда Яўсейчык пацвярджае гэты факт. «*На Усход беглі ў асноўным савецкія чыноўнікі з сем'ямі ды габрэі. Тут (у Коласава) іх шмат сабралася, а памежнікі прапускалі гэтых людзей марудна. Немцы бамбілі станцыю. Шмат хто з тых бежанцаў назаўсёды тут і застаўся*».

Што ж тычыцца баёў з немцамі на старой мяжы, то спачатку памежнікам прыйшлося змагацца з нямецкімі парашутыстамі, але хутка вайна дакацілася і сюды. Байцы 13-га Бярэзінскага памежатрада ўпершыню сутыкнуліся з наступаючымі часткамі вермахта 27 чэрвеня ля Лагойска. У вёсцы Ілья мужна змагалася 12-я застава. 29 чэрвеня ў бой у «зоне загароды» ўступіла 5-я памежкамендатура. У ліпені памежнікі з Бярэзіно ахоўвалі тылы 22-й савецкай арміі, а ў верасні на базе памежатрада быў сфармаваны 13-ы памежны полк. Таксама актыўны супраціў ворагу аказалі і часткі 18-га Жыткавіцкага і 83-га Маласлабодскага памежных атрадаў.

Цяжкія баі з немцамі вёў 16-ы Дзяржынскі памежатрад, які спачатку змагаўся супраць нямецкіх дыверсантаў, а пазней аказаў упарты супраціў наступаючаму ворагу ў Радашковічах, Заслаўі, Старобіне, Новым Полі, Філіповічах, Чырвонай Слабадзе. У раёне Стоўбцаў–Коласава разам з памежнікамі змагаліся і мотастралковыя часткі Чырвонай Арміі. На гэтым участку адбыліся жорсткія танкавыя баі. Пазней памежнікі з Дзяржынску былі зведзены ў 16-ы памежны полк, падраздзяленні якога прайшлі ўсю вайну і ў маі 1945 года ажыццяўлялі ахову будынку ў Калхорце, у якім адбывалася падпісанне акту аб капітуляцыі нацысцкай Германіі.

Толькі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ганебная «рыжская мяжа» і яе адпаведнік — «зона загароды» адышлі ў небыццё. Зараз пра іх нагадваюць толькі старыя ўмацаванні ды калючы дрот, што дзе-нідзе захаваўся з тых часоў.

## 1941 год: дэпартацыя пад бомбамі

Дэпартацыя, якая пачалася ўвесну 1941 года, павінна была канчаткова засцерагчы тылы Чырвонай Арміі ў магчымым супрацьстаянні з «капіталістычным Захадам». Тым больш, што на працягу года, які прайшоў з моманту заканчэння трэцяй хвалі (28/29 чэрвеня 1940 года), у склад СССР увайшлі новыя тэрыторыя з несавецкім насельніцтвам. Гутарка ідзе пра прыбалтыйскія краіны, Бесарабію і Паўночную Букавіну.

22 мая 1941 года часткі ўнутраных войскаў НКУС пачалі вывозіць людзей з заходніх абласцей УССР і з Малдавіі, у ноч з 12 на 13 чэрвеня аблавы прайшлі ў Літве, Латвіі і Эстоніі, 14 чэрвеня людзі ў васільковых фуражках зноў завіталі да жыхароў Заходняй Беларусі.

Значным адрозненнем гэтай аперацыі ад папярэдніх трох было тое, што вясной-летам 1941 года павялічылася колькасць катэгорый грамадзян, якія падлягалі дэпартацыі. У адпаведнасці з «Дырэктывай НКУС СССР аб высяленні са-

цыяльна чужых элементаў з рэспублік Прыбалтыкі, Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі і Малдавіі», у 1941 годзе вывазу падлягалі: удзельнікі контррэвалюцыйных партый і антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый; былыя жандары, ахоўнікі турмаў, кіруючы склад паліцыі; памешчыкі, фабрыканты, чыноўнікі буржуазных дзяржаўных апаратаў; былыя афіцэры царскага войска і белагвардзейцы; крымінальнікі; прастытуткі, зарэгістраваныя ў паліцыі; члены сямей адзначаных вышэй катэгорый грамадзян; члены сямей удзельнікаў контррэвалюцыйных і нацыяналістычных арганізацый, асуджаных да вышэйшай меры пакарання; асобы, якія ўцяклі з Польшчы і адмовіліся прымаць савецкае падданства; асобы, якія прыбылі з тэрыторыі Германіі ў парадку рэпатрыяцыі, а таксама немцы, зарэгістраваныя на выезд за мяжу, але якія адмовіліся выязджаць у Рэйх.

Былыя вайскоўцы і прадстаўнікі спецыяльных службаў буржуазных дзяржаў, а таксама немцы накіроўваліся ў лагеры для ваеннапалонных, а іншыя катэгорыі асоб, узгаданых вышэй (акрамя крымінальнікаў, якіх высылалі ў папраўча-працоўныя лагеры. — *І. М.*), высылаліся на пасяленне тэрмінам на 20 гадоў у Казахстанскую ССР, Комі АССР, Алтайскі і Краснаярскі край, Кіраўскую, Омскую і Новасібірскую вобласці.

Усе гэтыя людзі атрымлівалі статус спецпасяленцаў і мелі права выбару месца жыхарства ў адзначаных рэгіёнах. Дэпартаваныя былі абавязаныя займацца «грамадка карыснай працай», мелі права ўступаць у калгасы. Былыя грамадзяне ІІ Рэчы Паспалітай былі абавязаны ўставаць на ўлік у мясцовых райаддзелах НКУС і кожны месяц праходзіць перарэгістрацыю. За парушэнне рэжыму спецпасяленцаў каралі штрафамі, а ў некаторых выпадках і нават турэмным зняволеннем (напрыклад, за спробу пакінуць спецпасяленне).

У адпаведнасці з дакладной запіскай Лаўрэнція Цанавы сакратару ЦК КП(б) Беларусі Панцеляймону Панамарэнку ад 21 чэрвеня 1941 года, на тэрыторыі заходніх абласцей савецкай Беларусі было арыштавана 2059 удзельнікаў беларускіх, польскіх, украінскіх, рускіх, яўрэйскіх контррэвалюцыйных

арганізацый, чыноўнікаў «былой польскай дзяржавы», белагвардзейцаў і іншых контррэвалюцыйных элементаў. Усяго ж, у адпаведнасці са справаздачамі савецкіх спецыяльных органаў, падчас чацвёртай дэпартацыі ў аддаленыя раёны СССР было вывезена больш за 20 тысяч жыхароў Заходняй Беларусі, для транспарціроўкі якіх выкарыстоўвалі 20 чыгуначных эшалонаў.

Сярод тых, каго дэпартавалі летам 1941 года, была маці жыхаркі польскага горада Зялёная Гура Ірэны Петшак. «*Да Другой сусветнай вайны мой дзед Станіслаў Давыдзюк служыў у Дзяржаўнай паліцыі ў Косаве Палескім, а пазней быў пераведзены ў Мерачоўшчыну. Там ён ажаніўся з маёй бабуляй Леакадзіяй з дому Жылінскіх. У іх нарадзіліся дзве дачкі Ганна і Тэрэза. У кастрычніку 1939 года майго дзеда арыштаваў НКУС. Пазней яго накіравалі ў Мінск. З гэтага моманту мы нічога не ведаем пра лёс гэтага чалавека. Відавочна, прозвішча Станіслава Давыдзюка знаходзіцца ў Беларускім катынскім спісе. У чэрвені 1941 года савецкія ўлады прыйшлі і за маёй бабуляй і яе дочкамі*», — расказвае Ірэна.

Перад намі пратаколператрусу, што адбыўся ў доме Давыдзюкоў, які знаходзіўся на вуліцы Максіма Горкага (да вайны вуліца Касцельная. — *І. М.*) у Косава. 20 чэрвеня 1941 года ў 3 гадзіны ночы супрацоўнікі раённага адзела Косаўскага НКУС паведамілі жонцы польскага паліцыянта пра рашэнне аб яе высяленні ўглыб СССР. Пры гэтым у яе былі канфіскаваныя: польскі пашпарт за № 2509071, альбом з фотаздымкамі, і розныя, у тым ліку сярэбраныя, манеты часоў ІІ Рэчы Паспалітай. Хутка жанчына з дзвюма дочкамі апынулася ў чыгуначным вагоне, які рухаўся на ўсход.

А вось як апісваў апошнюю хвалю дэпартацый адзін з жыхароў Ваўкавыска: «*Тры гадзіны ночы. 21 чэрвеня 1941 года. Стук у дзверы і ў вокны будзіць нашу сям'ю. Мама адчыніла дзверы. У хату ўвайшлі тры жаўнеры НКУС. Яны правяраюць дакументы, але нам іх не вяртаюць. Адзін з супрацоўнікаў зачытвае нам паперу, з якой вынікае, што на падставе пастановы Вярхоўнага Савета СССР мы перасяляемся ў іншую вобласць. Пытаемся: «Куды?» Адказу няма. Даюць 20 хвілін на зборы. Бярэм трошкі рэчаў. Бабуля ляжыць у лож-*

*ку хворая. Яе таксама спрабуюць забраць, але адзін з нкусаўцаў кажа: «Старуха і так падохне. Не трэба яе браць». Развітваемся з бабуляй. Па дарозе нкусаўцы забіраюць іншыя сем'і. Хутка ўязджаем на станцыю Ваўкавыск Цэнтральны. Тут ужо шмат людзей, а вакол жаўнеры з вінтоўкамі. На першым і апошнім вагонах цягніка стаяць кулямёты. На тармазных платформах саставу ахоўнікі НКУС. Жаўнеры зачытваюць прозвішчы і загадваюць лезці ў вагоны. Нас назбіралася ў вагоне чалавек 40. Апоўдні жаўнеры зачыняюць вагоны. Становіцца горача і душна».*

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз аперацыя па дэпартацыі не спынілася. Савецкія ўлады імкнуліся здзейсніць свае злачынныя планы нават ва ўмовах нямецкай агрэсіі. Цягнік, у якім ехалі на ўсход Леакадзія Давыдзюк з дочкамі, трапіў пад моцную бамбардзіроўку ў Мінску, падчас якой загінула шмат людзей, якіх вывозілі ўглыб СССР.

Вось як адзін з відавочцаў апісваў налёт нямецкай авіяцыі на эшалон: «*Нас везлі ўсё далей і далей, без вады, свежага паветра. Перад мостам праз раку Зяльвянку рэйкі рабілі паварот, і тады я ўбачыў увесь наш эшалон. Ён складаўся з 40 таварных вагонаў з забітымі вокнамі. У сярэднім у вагоне было па 80 чалавек, а цалкам у саставе ехала каля трох тысяч дэпартаваных. Ля самага моста на цягнік наляцелі нямецкія самалёты. Адзін за другім яны скідвалі бомбы. На бамбардзіроўку заходзілі некалькі разоў, адначасова страляючы з кулямётаў. У гэты час цягнік спыніўся, і ахова пабегла ў абочыну хавацца ад налёту. Людзі ўсё гэта бачылі праз адтуліны ў вагонах. Калі кулі застукалі ў дах вагона, усе прыгатаваліся да смерці. Не ўсім давялося выжыць у тым налёце. Многія загінулі ад нямецкіх бомбаў. Іншыя спрабавалі ўцячы і загінулі ад куляў нкусаўцаў. Праз некалькі гадзін транспарт сфарміравалі зноў. Знішчаныя вагоны адчапілі, а забітых закапалі ля чыгуначных шляхоў. На дахах вагонаў было шмат савецкіх бежанцаў. Гэтыя людзі прыехалі ў Заходнюю Беларусь пасля верасня 1939 года і зараз беглі ад немцаў. У Стоўбцах, на некалі польскай памежнай станцыі, у вагоны прынеслі хлеб і дазволілі набраць вады. За Стоўбцамі нямецкія самалёты з'яўляліся часта, а савецкіх мы так і не ўбачылі*».

Са справаздачы НКУС ад 5 ліпеня 1941 года дакладна вядома, што спецорганам не ўдалося вывезці ўсіх, хто быў унесены ў спісы на дэпартацыю з Заходняй Беларусі. Нехта загінуў пад нямецкімі бомбамі, другіх расстралялі савецкія карнікі. Леакадзію Давыдзюк з дочкамі дэпартавалі ў Новасібірскую вобласць, у вёску Чугунка. Пазней яны былі вывезены ў Стаўрапольскі край, дзе жонка паліцэйскага працавала ў саўгасе № 107. У 1946 годзе гэтая сям'я вярнулася ў Польшчу.

## Таямніца савецкага «замежнага легіёну»

Да сённяшняга дня малавывучанай старонкай гісторыі застаецца той факт, што яшчэ ў канцы 1940 гадоў савецкае кіраўніцтва разглядала магчымасць стварэння польскіх і чэхаславацкіх воінскіх частак на тэрыторыі СССР.

13 верасня 1940 года ў газеце «Чырвоная Зорка» быў апублікаваны матэрыял, у якім паведамлялася, што ўсяго ў выніку вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь у савецкім палоне апынулася 181 223 польскіх малодшых афіцэры і шараговых, 10 генералаў, 52 палкоўнікі, 72 падпалкоўнікі, 5131 афіцэр дзеючай арміі і 4096 афіцэраў рэзерву.

Паводле дадзеных аўтарытэтнага польскага гісторыка Януша Заваднага, у верасні 1939 года ў рукі савецкіх уладаў патрапілі 230 672 польскіх вайскоўца — ад генерала да шараговага. Разам з тым, гісторык не ўлічваў польскіх афіцэраў рэзерву, арыштаваных органамі НКУС пасля «вызвольнага паходу», а таксама польскіх вайскоўцаў, інтэрніраваных у Літве, Латвіі і Эстоніі, якія пасля далучэння прыбалтыйскіх дзяржаў да СССР таксама апынуцца ў савецкіх турмах і лагерах.

Як піша расійскі гісторык Наталля Лебедзева, будучы не ў стане забяспечыць такую колькасць палонных харчаваннем, жыллём і вадой, сталінскае кіраўніцтва вырашыла ў пачатку кастрычніка распусціць па дамах шараговых

і ўнтэр-афіцэраў — жыхароў далучаных да СССР земляў, а ў сярэдзіне кастрычніка 1939 года перадаць Германіі гэтыя ж катэгорыі ваеннапалонных — ураджэнцаў цэнтральных польскіх ваяводстваў. Не выключана, што яшчэ ў канцы 1939 года ў вышэйшых савецкіх колах абмяркоўвалася пытанне аб выкарыстанні польскіх ваеннапалонных у інтарэсах СССР.

На думку некаторых даследчыкаў, магчымасць стварэння дружалюбнага Савецкаму Саюзу польскага ўрада, а таксама воінскіх частак мог абмяркоўваць наркам НКУС СССР Лаўрэнцій Берыя падчас допыту на Лубянцы арыштаванага ў Заходняй Украіне сенатара, прадстаўніка знатнага беларуска-польскага княжацкага роду, XIII ардыната на Алыцы Януша Францішка Радзівіла.

Хутка савецкая кіруючая вярхушка прыняла рашэнне аб фізічнай ліквідацыі часткі польскіх ваеннапалонных. Паводле рашэння Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940 года ў Катыні, Медным, Харкаве, а таксама ў турмах на тэрыторыі БССР і УССР, у тым ліку Кіеве і Мінску, было расстраляна каля 22 тысяч польскіх вайскоўцаў і паліцэйскіх.

Акрамя гэтага ва ўнутранай турме НКУС СССР у Маскве знаходзілася некалькі дзясяткаў высокапастаўленых афіцэраў польскай арміі, арыштаваных савецкімі спецорганамі за ўдзел у антысавецкіх арганізацыях на тэрыторыі заходніх абласцей БССР і УССР. У Архіве прэзідэнта Расійскай Федэрацыі захоўваецца цікавы і па-свойму сенсацыйны дакумент, датаваны 2 лістапада 1940 года. У лісце Сталіну наркам НКУС Берыя дае справаздачу аб выкананні даручэнняў у дачыненні да польскіх і чэхаславацкіх ваеннапалонных. Прывядзём скарочаны тэкст дадзенага паслання:

*«У выніку праведзенай намі фільтрацыі (шляхам азнаямлення з уліковымі і следчымі справамі, а таксама непасрэднага апытання) было адабрана 24 былых польскіх афіцэра, у тым ліку: генералаў — 3, палкоўнікаў — 1, падпалкоўнікаў — 8, маёраў і капітанаў — 6, паручнікаў і падпаручнікаў — 6.*

*З усімі адабранымі быў праведзены шэраг гутарак, у выніку якіх ўстаноўлена:*

*а) усе яны вельмі варожа ставяцца да немцаў, лічаць непазбежным у будучыні ваеннае сутыкненне паміж СССР*

*і Германіі і выказваюць жаданне ўдзельнічаць у маючай адбыцца, на іх думку, савецка-германскай вайне на баку Савецкага Саюза (на самай справе, большасць польскіх ваеннапалонных з першых дзён знаходжання ў савецкіх лагерах выказвалі жаданне працягнуць барацьбу супраць Гітлера на франтах Другой сусветнай вайны. Іншая справа, што падчас «мядовага месяца» ў адносінах СССР і Германіі савецкія ўлады, мякка кажучы, не віталі гэтыя памкненні польскіх вайскоўцаў. —* І. М.*);*

*б) частка з іх выказвае перакананне, што лёс Польшчы і адраджэнне яе як нацыянальнай дзяржавы можа вырашыць толькі Савецкі Саюз, на які яны і ўскладаюць свае надзеі; іншая частка (галоўным чынам з ліку палякаў, інтэрніраваных у Літве) усё яшчэ спадзяецца на перамогу англічан, якія, на іх думку, дапамогуць аднаўленню Польшчы;*

*в) большасць лічыць сябе вольным ад якіх-небудзь абавязкаў у адносінах да так званага ўрада Сікорскага, частка ж заяўляе, што ўдзельнічаць у вайне з Германіяй на баку СССР яны могуць толькі ў тым выпадку, калі гэта будзе ў той ці іншай форме санкцыянавана ўрадам Сікорскага. Малодшыя афіцэры заяўляюць, што яны будуць дзейнічаць у адпаведнасці з загадамі, атрыманымі ад якога-небудзь польскага генерала.*

*Канкрэтна варта спыніцца на некаторых асобах: а) генерал Янушайціс заявіў, што ён можа ўзяць на сябе кіраўніцтва польскімі часткамі, калі такія будуць арганізаваны на тэрыторыі Савецкага Саюза, для барацьбы з Германіяй, безадносна да стаўлення ў гэтым пытанні ўрада Сікорскага. Аднак лічыць мэтазгодным намеціць спецыяльную палітычную платформу і вызначэнне будучага лёсу Польшчы і адначасова з гэтым, як ён выказаўся, «змякчыць клімат» для палякаў, якія пражываюць у заходніх абласцях Украіны і Беларусі; б) генерал Борута-Спяховіч заявіў, што ён можа распачаць тыя ці іншыя крокі толькі па ўказанні ўрада Сікорскага, які, на яго думку, прадстаўляе інтарэсы польскага народа; в) генерал Пшаздзецкі зрабіў заяву, аналагічную заяве Боруты-Спяховіча; г) некалькі палкоўнікаў і падпалкоўнікаў (Берлінг, Букаемскі, Гарчынскі, Тышынскі) заявілі, што яны цалкам перадаюць*

*сябе ў распараджэнне савецкай улады і што з вялікай ахвотай возьмуць на сябе арганізацыю і кіраўніцтва якімі-небудзь ваеннымі злучэннямі з ліку ваеннапалонных палякаў, прызначанымі для барацьбы з Германіяй у інтарэсах стварэння Польшчы як нацыянальнай дзяржавы. Будучая Польшча мысліцца імі як цесна звязаная ў той ці іншай форме з Савецкім Саюзам.*

*Для аналізу настрояў астатняй масы ваеннапалонных, якія змяшчаюцца ў лагерах НКУС, на месцы былі пасланыя брыгады аператыўных работнікаў НКУС СССР з адпаведнымі заданнямі. У выніку праведзенай працы ўстаноўлена, што пераважная большасць ваеннапалонных безумоўна можа быць выкарыстана для арганізацыі польскай вайсковай часткі.*

*Для гэтай мэты нам уяўляецца мэтазгодным, не адмаўляючыся ад думкі выкарыстоўваць у якасці кіраўнікоў польскай вайсковай часткі генералаў Янушайціса і Борута-Спяховіча, імёны якіх могуць прыцягнуць пэўныя колы былых польскіх вайскоўцаў, даручыць арганізацыю на першы час дывізіі згаданай вышэй групе палкоўнікаў і падпалкоўнікаў, якія ведаюць ваенную справу. Гэтай групе варта даць магчымасць перагаварыць у канспіратыўнай форме са сваімі аднадумцамі ў лагерах для ваеннапалонных палякаў і адабраць кадравы склад будучай дывізіі. Пасля таго, як кадравы склад будзе падабраны, варта ў адным з саўгасаў на паўднёвым усходзе СССР арганізаваць штаб і месца занятkaў дывізіі.*

*Сумесна са спецыяльна вылучанымі работнікамі штаба РСЧА складаецца план фармавання дывізіі, вырашаецца пытанне аб характары дывізіі (танкавая, матарызаваная, стралковая) і забяспечваецца яе матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне. Адначасова з гэтым у лагерах для ваеннапалонных палякаў сярод шараговых і малодшага камскладу органамі НКУС павінна весціся адпаведная праца па вярбоўцы людзей у дывізію. Па меры вярбоўкі і заканчэння праверкі завербаваных, апошнія партыямі накіроўваюцца да месца размяшчэння штаба дывізіі, дзе з імі праводзяцца адпаведныя заняткі. Арганізацыя дывізіі і падрыхтоўка яе*

*праводзяцца пад кіраўніцтвам Генштаба РСЧА. Пры дывізіі арганізуецца аддзяленне НКУС СССР з задачамі забеспячэння ўнутранага асвятлення асабістага складу дывізіі».*

У лісце Берыі да Сталіна згадвалася таксама пытанне аб стварэнні чэхаславацкіх вайсковых падраздзяленняў на тэрыторыі СССР. Справа ў тым, што ў верасні 1939 года пад Баранавічамі фармаваўся чэхаславацкі легіён Войска Польскага. Спрабуючы адступіць у Румынію, чэхаславацкія вайскоўцы патрапілі ў палон Чырвонай Арміі. У лістападзе 1940 года ў лагерах НКУС змяшчалася 577 чалавек (501 чэх і 76 славакаў), у тым ліку: штабных капітанаў і капітанаў — 8 чалавек, малодшых афіцэраў — 39, малодшага камскладу — 176 чалавек і шараговых — 354.

У сваёй справаздачы Сталіну Берыя пісаў: «*У працэсе гутарак з адабранымі з іх ліку 13 афіцэрамі ўстаноўлена, што ўсе яны лічаць сваім спрадвечным ворагам Германію і хочуць «біцца» з ёй за аднаўленне Чэхаславацкай дзяржавы. Сябе яны разглядаюць як ваеннаабавязаных чэшскай арміі, сваім правадыром лічаць Бенеша, і ў выпадку, калі на тэрыторыі Савецкага Саюза будуць арганізаваныя якія-небудзь чэшскія ваенныя часткі, уступяць у іх па загадзе Бенеша (са снежня 1935 года Эдвард Бенеш быў прэзідэнтам Чэхаславакіі. Пасля таго, як пад ціскам заходніх дзяржаў 29 верасня 1938 года былі падпісаны Мюнхенскія пагадненні, Бенеш у кастрычніку 1938 года падаў у адстаўку і з'ехаў у ЗША. Чытаў лекцыі ў Чыкагскім універсітэце. У 1939 годзе ўзначаліў арганізаваны ў Парыжы Чэхаславацкі нацыянальны камітэт, на аснове якога ў 1940 годзе ў Лондане створаны ўрад Чэхаславакіі ў эміграцыі і Дзяржаўны савет. Эдвард Бенеш стаў прэзідэнтам рэспублікі ў выгнанні. — І. М.) або, як мінімум, свайго камандзіра палкоўніка Свабоды» (Людвік Свобада — чэхаславацкі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Ваенную службу гэты чалавек пачаў на палях Першай сусветнай вайны ў складзе аўстра-венгерскай арміі. Ужо ў незалежнай Чэхаславакіі будучы генерал камандаваў рознымі вайсковымі падраздзяленнямі. Пасля акупацыі краіны Германіяй у сакавіку 1939 года Свобада быў звольнены з войска і стаў актыўным удзельнікам антыфашысцкай групы, пасля раскрыцця якой, у ліпені 1939 года,*

*нелегальна збег з акупаванай немцамі Чэхаславакіі ў Польшчу. Там ён удзельнічаў у фарміраванні чэхаславацкіх вайсковых частак у складзе польскай арміі. Пасля паразы Польшчы інтэрнаваны Чырвонай Арміяй. Знаходзіўся ў некалькіх лагерах НКУС. — І. М.).*

Хто ж мог стаць на чале польскага войска, калі б яго пачалі ствараць у СССР у 1940-м? Першым у спісе Берыі значылася прозвішча дывізіённага генерала Войска Польскага Мар'яна Янушайціс-Жаготы. Падчас Першай сусветнай вайны гэты чалавек ваяваў у легіёнах Пілсудскага. З 1 лістапада 1918 года — у Войску Польскім. Удзельнічаў у польска-бальшавіцкай вайне. У 1924 годзе яму было прысвоена званне дывізіённага генерала. У гэтым жа годзе быў прызначаны на пасаду Навагрудскага ваяводы. З 1929 года — у запасе. У верасні 1939 года — адзін з удзельнікаў абароны Львова. Пасля ўстанаўлення савецкай улады быў адным з кіраўнікоў польскага ўзброенага падполля. У кастрычніку 1939-га арыштаваны органамі НКУС і неўзабаве апынуўся на Лубянцы ў Маскве.

Па просьбе Берыі генерал Янушайціс прачытаў лекцыю для 150 вышэйшых савецкіх афіцэраў. Генерала выпусцілі з турмы ў ліпені 1941 года. Праз год ён з'ехаў у Лондан у распараджэнне галоўнакамандуючага польскімі ўзброенымі сіламі ў Вялікабрытаніі.

Наступным у спісе значыўся брыгадны генерал Войска Польскага Мечыслаў Борута-Спяховіч. Гэты чалавек за ўдзел у польска-бальшавіцкай вайне быў узнагароджаны срэбным Крыжам «Віртуці Мілітары». У міжваеннае дваццацігоддзе прайшоў шлях ад слухача Ваеннай школы Генштаба Польшчы да камандуючага аператыўнай групай польскай арміі «Бельск» у складзе арміі «Кракаў». Падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года часткі Борута-Спяховіча абаранялі пазіцыі на рэках Дунаец і Сан. Пасля адступлення яму ўдалося дабрацца да Львова, дзе ён стаў намеснікам генерала Янушайціса-Жаготы ў падпольнай антысавецкай арганізацыі. У снежні 1939 года пры спробе выехаць у Францыю генерал Борута-Спяховіч быў арыштаваны НКУС і неўзабаве апынуўся на Лубянцы. У жніўні 1941 года быў выпушчаны з турмы

і прызначаны камандуючым 5-й Віленскай дывізіяй пяхоты. Разам з польскімі часткамі эвакуяваўся ў Іран.

Яшчэ адным брыгадным генералам, які, на думку Лаўрэнція Берыі, падыходзіў на ролю камандуючага польскай арміяй у СССР, быў Вацлаў Пшаздзецкі. У верасні 1939 года менавіта ён камандаваў абаронай Гродна перад надыходзячымі часткамі Чырвонай Арміі. 23 верасня 1939 года сваім жаўнерам ён загадаў адыходзіць ў бок Літвы, куды выехаў і сам. Пасля далучэння гэтай прыбалтыйскай краіны да СССР у 1940 годзе супрацоўнікі НКУС вывезлі Пшаздзецкага ў Казельскі лагер ваеннапалонных. Неўзабаве па распараджэнні Берыі генерал апынуўся на Лубянцы, дзе і атрымаў прапанову паўдзельнічаць у стварэнні польскага войска ў СССР. У 1941 годзе быў вызвалены і неўзабаве пакінуў межы Савецкага Саюза.

Аднак найбольш цікавай асобай, пра якую, зрэшты, у сваім лісце не кажа Берыя, але які цалкам мог стаць галоўнакамандуючым польскіх войскаў у СССР, быў брыгадны генерал Войска Польскага Ежы Валкавіцкі. Пра гэту легендарную асобу варта распавесці падрабязней.

Пасля заканчэння гімназіі ў Гродна, ён паступіў у Марскі корпус у Санкт-Пецярбургу. У 1904 годзе ў званні мічмана рускага імператарскага флоту Валкавіцкі служыў на браняносцы «Імператар Мікалай I» і ўдзельнічаў у Цусімскай бітве. Быў адным з тых, хто выступіў супраць капітуляцыі рускага флоту перад японцамі. Пасля Валкавіцкі быў узнагароджаны вышэйшай узнагародай Расійскай імперыі — Георгіеўскім крыжам. Падчас польска-бальшавіцкай вайны гэты чалавек камандаваў штабам 1-й літоўска-беларускай дывізіі. У 1927 годзе яму было прысвоена званне брыгаднага генерала.

Валкавіцкі ўдзельнічаў у баях Вераснёўскай кампаніі 1939 года. 28 верасня трапіў у савецкі палон. Цікава, што вышэйзгаданы «цусімскі» эпізод з біяграфіі генерала выратаваў яму жыццё ў 1940 годзе. Вядомы савецкі пісьменнік Аляксей Новікаў-Прыбой апісаў учынак Валкавіцкага ў сваёй аповесці «Цусіма», выдадзенай у 1932 годзе. Гэты твор стаў бестселерам у Савецкім Саюзе. Усе тагачасныя савецкія

хлапчукі марылі паўтарыць подзвіг рускіх маракоў, якія гераічна змагаліся з пераўзыходзячым праціўнікам.

Сярод тых, хто прачытаў кнігу Новікава-Прыбоя, быў і афіцэр НКУС, які распрацоўваў Валкавіцкага. «А вы не сваяк таго Валкавіцкага, які падчас Цусімскай бітвы адмовіўся капітуляваць перад японцамі?» — задаў пытанне капітан дзяржбяспекі, і тут жа пачуў адказ на чысцейшай рускай мове: «Гэта я тады адмовіўся капітуляваць». Праз некаторы час па асабістым распараджэнні Сталіна Ежы Валкавіцкага перавялі з Казельскага лагера ў лагер у Паўлішавам Бары, а затым у лагер у Гразёўцы (дарэчы, усіх, хто знаходзіўся ў Казельскім лагеры, неўзабаве расстралялі ў Катыні).

У Расійскім дзяржаўным вайсковым архіве захоўваецца ліст Валкавіцкага, адрасаваны старшыні Савета народных камісараў, наркаму замежных справаў СССР Вячаславу Молатаву, у якім той просіць адправіць польскіх вайскоўцаў у якасці валанцёраў у Югаславію для абароны гэтай краіны ад нямецкай агрэсіі. Такі ж ліст генерал адправіў і ў амбасаду Югаславіі ў Маскве. Але на гэтыя пасланні адказаў не было. Да югаславаў ліст не дайшоў, а савецкае кіраўніцтва жадала па іншаму разыграць польскую карту. Ужо ў ліпені 1941 года, калі немцы, прайшоўшы захад Беларусі, штурмавалі Магілёў, генерал напісаў ліст Сталіну з просьбай адправіць польскіх зняволеных Гразявецкага лагера ў Вялікабрытанію для арганізацыі там польскіх вайсковых частак для вайны з Германіяй.

У выніку дамовы Сікорскага-Майскага, падпісанай у ліпені 1941 года, і амністыі, якая пачалася пасля гэтага, Ежы Валкавіцкі быў вызвалены і прызначаны намеснікам камандуючага 6-й пяхотнай дывізіі польскіх узброеных сілаў у СССР. Неўзабаве «герой Цусімы» пакінуў СССР і выехаў у Вялікабрытанію.

А што ж праект Берыі? 4 чэрвеня 1941 года на пасяджэнні Палітбюро ЦК ВКП(б) было прынята рашэнне аб стварэнні ў складзе РСЧА адной стралковай дывізіі, укамплектаванай выхадцамі з Польшчы і людзьмі, якія валодаюць польскай мовай. Дывізія павінна была быць сфармаваная на тэрыторыі Сярэднеазіяцкай ваеннай акругі. Аднак гэтая ідэя так і засталася на паперы.

# Сібірская Галгофа салдатаў генерала Андэрса

У верасні 1939 года ў складзе ўзброеных сіл II Рэчы Паспалітай служылі каля 70 тысяч беларусаў, у асноўным жыхароў Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў. Гэтыя людзі ўдзельнічалі ў многіх бітвах Вераснёўскай кампаніі. Адыходзячы на ўсход, польскія воінскія злучэнні, у шэрагах якіх былі і нашы суайчыннікі, аказваліся ў зоне «савецкіх інтарэсаў», якую пасля 17 верасня 1939 года заняла Чырвоная Армія.

На момант нападу нацысцкай Германіі на СССР на тэрыторыі Савецкага Саюза знаходзілася каля 400 тысяч былых грамадзян II Рэчы Паспалітай (гаворка ідзе пра т. зв. «ваеннапалонных» і дэпартаваных грамадзянскіх асобаў). У ліпені 1941 года ў лагерах для польскіх ваеннапалонных было 2848 беларусаў, а сярод дэпартаваных з Заходняй Беларусі налічвалася каля 20 тысяч нашых суайчыннікаў.

30 чэрвеня 1941 года, на 8-ы дзень пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны, паміж СССР і польскім эміgranцкім урадам Уладзіслава Сікорскага былі адноўлены дыпламатычныя адносіны. 12 жніўня Прэзідыум Вярхоўнага Савета абвясціў амністыю для грамадзян міжваеннай Польшчы, якія знаходзіліся ў савецкіх турмах, лагерах і на пасяленні. 14 верасня 1941 года было заключана савецка-польскае вайсковае пагадненне. На тэрыторыі СССР пачалося фармаванне польскага войска, на чале якога стаў былы камбрыг Навагрудскай кавалерыйскай брыгады генерал Уладзіслаў Андэрс.

Вызваленыя з месцаў зняволення людзі адразу ж накіроўваліся на зборныя пункты. Сярод іх было нямала беларусаў. У час сустрэчы з польскім кіраўніцтвам у Маскве 3 снежня 1941 года Сталін заявіў: «*Навошта вам гэтыя беларусы, украінцы, габрэі? Вам патрэбны палякі. Яны лепшыя салдаты*». У адказ генерал Андэрс вымавіў фразу: «*Беларусы былі добрымі салдатамі падчас кампаніі 1939 года*».

Многія з нашых суайчыннікаў, апынуўшыся ў Арміі Андэрса, праявілі мужнасць і гераізм. За ўдзел у бітве пры

Монтэ-Касіна вялікая колькасць беларусаў узнагароджана польскімі і брытанскімі ўзнагародамі, але пасля вяртання на радзіму, у савецкую Беларусь, яны зноў сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Іх прыраўноўвалі да супрацоўнікаў спецыяльных службаў і накіроўвалі альбо ў лагеры для ваеннапалонных, альбо на прымусовыя работы.

Беларуса Івана Кляўчэню, былога памежніка КАП, ураджэнца вёскі Будча Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, прызначылі на адзін з вугальных руднікоў на тэрыторыі УССР.

У жніўні 1941 года Іван запісаўся ў Армію Андэрса. Ураджэнец Брэстчыны быў залічаны ў 3-ю дывізію карпацкіх стралкоў 2-га польскага корпуса і ў складзе гэтага фарміравання ўдзельнічаў у бітве пад Монтэ-Касіна ў Італіі. Падчас тых баёў наш суайчыннік атрымаў цяжкое раненне ў нагу. За гераізм і мужнасць былога памежніка, а цяпер пяхотніка, уганаравалі адной з галоўных польскіх узнагарод Другой сусветнай вайны — Крыжам Монтэ-Касіна. Акрамя гэтага, беларус атрымаў чатыры брытанскія ўзнагароды.

Да 1947 года Іван Аляксеевіч знаходзіўся ў шпіталі ў Шатландыі. Брытанскі ўрад не перашкаджаў таму, каб былыя польскія салдаты атрымлівалі грамадзянства Злучанага каралеўства. Аднак многія беларусы імкнуліся як мага хутчэй вярнуцца на радзіму, дзе іх чакала сям'і. Да таго ж у СССР адсочвалі лёс беларускіх салдат польскай арміі.

У 1946 годзе ў распараджэнні Упраўлення ўпаўнаважанага Савета Міністраў СССР па справах рэпатрыяцыі быў падрабязны спіс «*савецкіх грамадзян, якія знаходзяцца на службе ў 3-й польскай дывізіі карпацкіх стралкоў, дыслакаванай у графстве Амершам у Англіі*». З дакумента, які змяшчаў дадзеныя на амаль 600 салдат і афіцэраў Войска Польскага, вынікала, што значны працэнт асабістага саставу дывізіі складалі менавіта ўраджэнцы Заходняй Беларусі. Усяго на працягу 1946–1948 гадоў у СССР вырашылі вярнуцца каля 1000 «андэрсаўцаў».

Івана Кляўчэню Радзіма сустрэла насцярожана. Савецкая ўлада варожа ставілася да «прадстаўнікоў капіталістычнага свету». У заходніх абласцях БССР у гэты час праводзілася

калектывізацыя, але сям'я Івана Аляксеевіча вырашыла ў калгас не ўступаць. Гэтае рашэнне дорага каштавала былому польскаму салдату. У ноч з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951 года дом Кляўчэні быў акружаны аўтаматчыкамі. Ветэрана Другой сусветнай вайны абвінавацілі ў «здрадзе Радзіме» і разам з сям'ёй дэпартавалі ў Іркуцкую вобласць. У 1957 годзе Іван Аляксеевіч памёр у высылцы. Толькі ў 1995 годзе на падставе Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій Іван Кляўчэня быў рэабілітаваны. Пасмяротна.

Са сталінскіх лагераў у войска Андэрса трапіў і ўраджэнец вёскі Узбалаць Валожынскага раёна Язэп Жамойдзін. У студзені 1938 года ён быў мабілізаваны ў 1-ы артылерыйскі полк легіёнаў у Вільні. У канцы лета 1939 года да дэмабілізацыі з Войска Польскага беларусу заставалася некалькі дзён, але Другая сусветная вайна перакрэсліла планы на мірнае жыццё. Жамойдзін удзельнічаў у баях з гітлераўцамі пад Вышкавам. Адыходзячы на ўсход, яго падраздзяленне трапіла ў палон да чырвонаармейцаў. У верасні 1941 года Іосіф Іванавіч уступіў у польскую армію, якая фармавалася ў СССР. Быў залічаны ў 5-ы артылерыйскі полк. У 1944-м прыняў удзел у штурме Монтэ-Касіна, за што быў узнагароджаны аднайменным крыжам.

Пасля вайны Жамойдзін апынуўся ў Англіі, а затым вырашыў вярнуцца ў БССР. Вясной 1947 года Язэп прыехаў на радзіму, уладкаваўся на працу, праз год у яго нарадзіўся сын. Але ў 1950 годзе Жамойдзіна арыштавалі. Язэпа Жамойдзіна абвінавацілі ў працы на англійскую разведку і паводле артыкула 72 «б» КК БССР прысудзілі да 10 гадоў зняволення. Праз год яго жонку разам з дзецьмі выслалі ў Іркуцкую вобласць. З 1951 па 1955 гады Жамойдзін знаходзіўся на спецпасяленні, і толькі ў 1958-м вярнуўся ў Беларусь. Памёр Язэп Іванавіч у 2003 годзе ў Маладзечне.

Сярод салдат арміі Андэрса, якія прынялі ўдзел у бітве пад Монтэ-Касіна, былі і выхадцы з вёскі Сітніца Пінскай вобласці Уладзімір Несцяровіч і Васіль Танчынскі. Абодва былі ўзнагароджаныя за мужнасць польскімі і брытанскімі ваеннымі ўзнагародамі. Пасля заканчэння Другой сусвет-

най вайны «андэрсаўцы» апынуліся ў Вялікабрытаніі, а адтуль у 1947 вярнуліся ў БССР. Пры вяртанні на радзіму ўсіх былых польскіх вайскоўцаў правяралі ў спецыяльных фільтрацыйных пунктах.

1 красавіка 1951 года хаты Несцяровіча і Танчынскага акружылі аўтаматчыкі. Быў праведзеныператрус. Усе дакументы, узнагароды, частка асабістых рэчаў былі канфіскаваныя. Сем'і былых польскіх жаўнераў перавезлі ў Баранавічы і пагрузілі ў таварныя вагоны. Канчатковым пунктам руху эшалонаў была Іркуцкая вобласць. Спецпасяленцаў накіроўвалі на працу ў шахты, на будаўніцтва, на рубку лесу ў тайгу. Несцеровічы і Танчынскія патрапілі на будаўніцтва цаглянага завода. Неўзабаве сем'і парадніліся. У 1957 годзе Несцяровічам дазволілі вярнуцца ў БССР. Танчынскія такі дазвол атрымалі годам пазней. Аднак вярнуцца на радзіму дзве гэтыя сям'і змаглі толькі ў 1961 годзе, праз 10 гадоў пасля дэпартацыі. У 1968 годзе Васіль Танчынскі і Уладзімір Несцяровіч былі рэабілітаваныя.

У матэрыялах крымінальных спраў, заведзеных на гэтых людзей НКУС, у прыватнасці, значылася, што ім ставяць у віну не толькі службу ў Арміі Андэрса, але і... актыўную антысавецкую прапаганду ў інтарэсах Англіі. У прыватнасці, падставай для такога абвінавачвання з'яўлялася тое, што 2 лістапада 1949 года Васіль Танчынскі ў размове з аднавяскоўцамі заявіў: «Асабіста я там (у Вялікабрытаніі) жыў у шмат разоў лепш, чым тут. Калі б мне дазволілі зараз выехаць з сям'ёй у Англію, то з вялікім задавальненнем паехаў бы». Гэтай размовы хапіла, каб ветэрана-героя рэпрэсавалі.

Ураджэнец горада Бяроза Валянцін Амельяновіч таксама сустрэў пачатак Другой сусветнай вайны ў складзе Войска Польскага. Пасля паразы Польшчы вучыўся ў Мінску ў пажарнай школе. У эвакуацыі беларус даведаўся аб мабілізацыі ў польскую армію і ў студзені 1942 года запісаўся ў 3-ці артылерыйскі полк. За ўдзел у бітве пры Монтэ-Касіна і іншых аперацыях 2-га польскага корпуса Валянцін Амельяновіч быў узнагароджаны польскімі і брытанскімі ваеннымі ўзнагародамі. Па заканчэнні баявых дзеянняў Валянцін

Міхайлавіч знаходзіўся ў адмысловым лагеры для дэмабілізаваных польскіх салдат на тэрыторыі Францыі. Праз савецкае консульства ў Рыме беларус дамогся вяртання на Радзіму. Аднак пажыць спакойна не ўдалося. У 1951 годзе разам з сям'ёй Валянціна Амельяновіча выслалі ў Іркуцкую вобласць.

Уся маёмасць яго маёмасць, у тым ліку і «замежныя» ўзнагароды, былі апісаны і канфіскаваны. Толькі ў 1957 годзе ветэран і яго родныя змаглі вярнуцца ў БССР.

Падобны лёс і ў беларуса Язэпа Богуша. Падчас Верасьнёўскай кампаніі 1939 года ён ваяваў у польскай арміі і трапіў у савецкі палон. У 1941 годзе Іосіф Мікалаевіч запісаўся ў Армію Андэрса і ўдзельнічаў у баявых дзеяннях супраць нацыстаў у складзе 2-га польскага корпуса. Вярнуўшыся дадому, заняўся сялянскай працай, аднак у 1951 годзе па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Вялікабрытаніі быў арыштаваны і дэпартаваны ў Іркуцкую вобласць. Пасля вызвалення Іосіф Богуш вырашыў не выпрабоўваць лёс і падчас апошняй хвалі рэпатрыяцыі ў Польшчу ў канцы 1950-х вырашыў пераехаць на Захад.

Усяго ў 1951 годзе «сталінскую гасціннасць» на сабе адчулі 4520 былых салдат арміі генерала Уладзіслава Андэрса, якія прыбылі ў БССР з Вялікабрытаніі. Многія з гэтых людзей так і не дачакаліся рэабілітацыі, і толькі іх сваякі ў 1990-х гадах ужо ад уладаў незалежнай Беларусі атрымалі дакументы аб рэабілітацыі. Здаралася, што родным удавалася вярнуць напамін аб сваіх памерлых блізкіх — іх узнагароды. Так, у 2004 годзе сын былога салдата Арміі Андэрса Нікіфара Грышкаўца, асуджанага 2 снежня 1950 года за антысавецкую агітацыю і службу ў замежнай арміі, звярнуўся ва Упраўленне КДБ па Брэсцкай вобласці з просьбай аб вяртанні ўзнагарод бацькі. Аказалася, што ўвесь гэты час польскія і брытанскія ўзнагароды ветэрана Другой сусветнай вайны захоўваліся ў закрытым архіве. Праз некаторы час сямейныя рэліквіі былі перададзены родным «андэрсаўца».

# Марш смерці

З 22 чэрвеня 1941 года звязаны яшчэ адзін трагічны эпізод беларускай гісторыі. Гаворка ідзе пра эвакуацыю зняволеных з турмаў заходніх абласцей БССР, якая абярнулася страшнай трагедыяй для многіх тысяч людзей. Адзін з найбольш жорсткіх эпізодаў той драмы разгарнуўся ў беларускім горадзе Глыбокае.

Ужо ў кастрычніку 1939 года савецкія ўлады стварылі ў будынку сярэднявечнага манастыра базыльянаў у Беразвеччы турму. Асноўны кантынгент зняволеных у ёй складалі былыя грамадзяне ІІ Рэчы Паспалітай, сярод якіх было шмат афіцэраў Войска польскага, паліцэйскіх, святароў, землеўласнікаў, настаўнікаў. У Беразвецкі манастыр трапілі ў асноўным жыхары Глыбокага, Браслава, Дзісны, Плісы, Пастаў, Шаркоўшчыны ды іншых мясцовасцяў. Разам з тым, сярод зняволеных былі і польскія грамадзяне з заходніх ваяводстваў, якія спрабавалі ўратавацца ад немцаў.

Адным з вязняў Беразвецкай турмы быў ляснік Францішак Вайткевіч з Браслаўскага павету. У архіве Інстытута Нацыянальнай Памяці ў Варшаве мне ўдалося знайсці ўспаміны яго дачкі, Марыі Аўчарчук. Жанчына адзначала, што ўсю іх сям'ю арыштавалі 20 чэрвеня 1941 года і прывезлі на чыгуначную станцыю ў Глыбокім. Пад аховай унутраных войскаў НКУС там ужо знаходзілася шмат людзей. Жанчын і дзяцей пагрузілі ў вагоны, а мужчын павялі ў бок Беразвецкага манастыра. Марыя тады не ведала, што бачыць бацьку ў апошні раз.

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз частка вязняў турмы ў Беразвеччы была забітая на месцы. Адзін са сведкаў Вільгельм Жэчыцкі сцвярджаў, што пасля таго, як НКУС пакінула турму, на яе тэрыторыі былі знойдзены брацкія магілы. На некаторых ахвярах былі бачныя сляды катаванняў. Іншы відавочца Вацлаў Брынк у сваіх паказаннях адзначаў, што на тэрыторыі турмы ў 1941 годзе было выяўлена 7 або 8 брацкіх магіл. Частка трупаў знаходзілася ў камерах.

У кнізе Ю. Мацкевіча «Катынь» змешчаны пратакол допыту чалавека, які быў адным з першых, хто ўбачыў турму ў Беразвеччы пасля таго, як яе пакінуў НКУС. Вось вытрымка з гэтага дакументу: «*Я, мой бацька і яго таварыш, які пражываў у Жаўнераўшчыне Дзісненскага павету, пайшлі ў Беразвечча, дзе на ўскрайку мястэчка ў некалькіх адчыненых будынках можна было ўбачыць трупы забітых. Я быў у трох пакоях аднаго з будынкаў. У кожным з іх ляжалі трупы забітых у цывільнай вопратцы і ўніформе польскага войска. Казалі, што сярод забітых былі ў асноўным палякі і беларусы*».

Дакладная лічба ахвяр расстрэлаў у Беразвецкай турме не вядомая. Па інфармацыі Акружной камісіі вывучэння злачынства супраць польскага народа ў Лодзі, у перыяд з 17 верасня 1939 па 24 чэрвеня 1941 года на тэрыторыі Беразвецкай турмы было знішчана да 800 вязняў.

24 чэрвеня 1941 года вязняў, якія яшчэ засталіся, вырашылі эвакуяваць праз Ушачы ў Віцебск. Пешую калону зняволеных ахоўвалі вайскоўцы НКУС і міліцыі з сабакамі. Усяго, па розных дадзеных, турму пакінулі да 4 тысяч зняволеных. Калона выглядала наступным чынам: наперадзе ехаў конны раз'езд унутраных войскаў НКУС, за ім рухаўся абоз з турэмнай дакументацыяй, далей ішлі байцы ўнутраных войскаў НКУС, узброеныя аўтаматычнай зброяй, за імі — рэзервісты. Затым ішлі зняволеныя: палітычныя (мужчыны), далей жанчыны, замыкалі калону канваіры і абоз з сем'ямі супрацоўнікаў НКУС. Між кожнай групай была адлегласць у 30–40 метраў.

Адзін з вязняў глыбоцкай турмы Міхаіл Баговіч так апісваў тыя падзеі: «*Са зняволеных сфармавалі групы па 8 чалавек. Калона расцягнулася на паўтара кіламетры. Па абочынах дарог сабраліся мясцовыя жыхары, якія спрабавалі даць нам ваду, ежу. Многія шукалі сваіх родных. У майго сваяка былі афіцэрскія боты. Вельмі цесныя. Ён паспрабаваў іх зняць. Але тут жа атрымаў прыкладам у спіну і ўпаў. Да яго падышоў салдат і замахнуўся вінтоўкай са штыком. Хлопец схапіўся за штык. Я паспрабаваў падбегчы да яго на дапамогу, але таксама атрымаў прыкладам па плячы. Прагучала каманда «Кладзіся», і ўсе зняволеныя ўпалі ў прыдарожны пыл*».

Давёўшы зняволеных да бліжэйшага лесу, начальнік турмы, сяржант дзяржбяспекі Міхаіл Прыёмышаў, вырашыў «разгрузіць этап» і аддаў загад адкрыць агонь па вязнях. Ён апраўдваў свае дзеянні тым, што, нібыта, зняволеныя палякі, убачыўшы нямецкія самалёты, сталі крычаць: «Жыве Гітлер!» У выніку было забіта каля 600 зняволеных. За гэта злачынства па распараджэнні ваеннага пракурора войскаў НКУС начальнік глыбоцкай турмы быў арыштаваны. Па справе праводзілася следства, матэрыял якога трапіў у рукі сакратара ЦК КП(б) Беларусі Панцеляймона Панамарэнкі. І той прызнаў дзеянні Прыёмышава правільнымі і загадаў адпусціць яго з-пад варты.

Відавочца таго расстрэлу, Надзея Красоўская, успамінае: «*У тым пекле выжыла наша знаёмая акушэрка. Яна ішла ў адным шэрагу з мужам. Калі пачалі страляць, яе выратавала тое, што яна звалілася ў канаву каля дарогі. Сукенка гэтай жанчыны з ног да галавы была запэцкана крывёй расстраляных людзей*».

Апагеем беразвецкага «Маршу смерці» стаў расстрэл каля вёскі Мікалаева каля Улы. Вось як яго ўспамінаў Міхаіл Баговіч: «*Мы раптам пачулі страшны трэск з усіх бакоў. Аднекуль пачуўся крык: «Браты, нас расстрэльваюць!» Побач пачуліся стогны. Канваіры нешта крычалі. Лаяліся. Тым, хто застаўся жывы, салдаты загадалі збіраць трупы і скідаць іх на абочыну*».

А вось што ўбачыў іншы сведка, Павел Кажух: «*Адны зняволеныя падалі як нежывыя. Другія скакалі, падымаючы рукі ўверх, нібы маліліся аб выратаванні, трэція проста ляжалі і стагналі. Я ляжаў у рове ля дарогі. На мяне скідалі мёртвыя целы. Дыхаць было цяжка. Неўзабаве я пачуў, як канваіры падлічвалі трупы. Апошняй лічбай была 1773*».

Жыхарцы Мікалаева Разаліі Барысевіч у 1941-м было 13 гадоў. На яе вачах разгарнулася трагедыя, пра якую яна не забудзе да канца жыцця. 26 чэрвеня яна працавала ў полі і раптам убачыла вялікую калону людзей, якія ішлі праз мост на Дзвіне. Разалія пабегла да дарогі, спадзеючыся ў натоўпе зняволеных убачыць свайго бацьку, арыштаванага НКУС. Як толькі калона прайшла мост, яго ўзарвалі. Праз некалькі

хвілін у небе над Мікалаевым з'явіліся нямецкія самалёты. Зямля затрэслася, пачалася бамбёжка. А потым пачалося новае пекла. Разалія ляжала ў прыдарожнай канаве, закрыўшы вушы рукамі. Над галавой свісталі кулі, трашчалі кулямёты і аўтаматы. Паўсюдна чуліся крыкі, плач, стогны. Канваіры расстрэльвалі зняволеных. Брахалі сабакі, а ўздоўж дарогі бегалі жонкі супрацоўнікаў НКУС і крычалі, што, маўляў, мясцовым жыхарам не трэба баяцца, іх салдаты не зачэпяць, бо невінаватых яны не расстрэльваюць...

Нарэшце страляніна спынілася, і на тым месцы, дзе яшчэ нядаўна стаялі жывыя людзі, цяпер было крывавае месіва. А канваіры, нібы на бойні, хадзілі паміж трупамі і дабівалі параненых штыкамі. Боты салдат па самыя халявы былі пакрытыя чалавечай крывёю. Разалія ўспамінала, што потым целы забітых пагрузілі ў сялянскія вазы і павезлі ў лес.

Лясны масіў недалёка ад Мікалаева мясцовыя называлі «Таклінаўскі барок». Там былі выкапаныя ямы, у якіх сяляне зімой захоўвалі бульбу. У гэтыя ямы і скінулі расстраляных вязняў турмы ў Беразвеччы. Падчас нямецкай акупацыі целы былых зняволеных былі эксгумаваны і перапахаваны на ўскраіне лесу. Па розных дадзеных, там спачывае прах каля двух тысяч чалавек.

Сярэднявечны касцёл у Беразвеччы канчаткова быў знішчаны савецкімі ўладамі ў 1960–1970 гадах. У будынку манастыра базыльянаў да сённяшняга дня знаходзіцца турма. Перад галоўным уваходам у яе стаіць помнік Феліксу Дзяржынскаму, на якім, між іншых, напісаны словы: «Прайсці свой шлях да пераможнага канца». Мясцовыя жыхары распавядаюць, што ў скверы, дзе стаіць бюст галоўнага чэкіста, у 1941 годзе таксама былі пахаваны ахвяры, расстраляныя НКУС у Беразвецкай турме.

## Выехаць нельга застацца

Аднойчы ад аднаго знаёмага я пачуў гісторыю пра дзеда, які жыве дзесьці на Заходняй Украіне і ў якога ёсць аж пяць пашпартоў розных дзяржаў. За сваё жыццё ён паспеў

пабываць падданым Аўстра-Венгрыі, ІІ Рэчы Паспалітай, Закарпацкай Украіны, СССР і, нарэшце, незалежнай Украіны. Жыў сабе чалавек, а зямля, на якой стаяў яго дом, адыходзіла то да адной, то да другой дзяржавы.

Падобную гісторыю мелі і шматлікія жыхары Заходняй Беларусі, якія, нарадзіўшыся ў «панскай» Польшчы, у 1939 годзе сталі грамадзянамі Савецкага Саюза. Многія з гэтых людзей пасля заканчэння Другой сусветнай вайны пакінулі свае дамы і выехалі ў «сацыялістычную» Польшчу. Аднак здараліся выпадкі, калі частка сваякоў рэпатрыіравалася ў суседнюю дзяржаву, а другая заставалася «за жалезнай заслонай».

Аб праблеме рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з тэрыторый, далучаных да СССР у верасні 1939 года, савецкае кіраўніцтва пачало задумвацца адразу пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Ужо ў лістападзе 1945 года ў Варшаве была падпісана дамова паміж польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення і ўрадам БССР аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і перасяленні польскіх грамадзян з БССР.

Масква рабіла стаўку на «польскіх патрыётаў» з камітэту і дзеля гэтага штучна павышала статус гэтага органа. Да таго ж савецкае кіраўніцтва разумела, што палякі, якія заставаліся на тэрыторыі заходніх абласцей БССР і УССР, з'яўляліся патэнцыяльнай апорай антысавецкіх атрадаў Арміі Краёвай, байцы якой не маглі пагадзіцца з перасоўваннем усходняй польскай мяжы і працягвалі змагацца за «ІІ Рэч Паспалітую». У выніку першай хвалі рэпатрыяцыі ў 1944–1946 гадах з БССР выехала больш за 200 тысяч былых польскіх грамадзян.

Другая хваля рэпатрыяцыі прайшла ў 1955–1959 гадах і была звязаная з «хрушчоўскай адлігай». У маі 1955 года памочнік Хрушчова У. Лебедзеў з МЗС Польшчы атрымаў ліст, у якім, у прыватнасці, адзначалася, што «ў сувязі з ваеннымі і пасляваеннымі цяжкасцямі, значная колькасць асоб, якія адпавядалі крытэрыям, абумоўленым Дагаворам ад 1945 года, не змаглі скарыстацца з магчымасцяў выезду на радзіму, што прывяло да ўзнікнення праблемы падзелу сямей».

15 лістапада 1956 года У. Гамулка і Ю. Цыранкевіч асабіста паехалі ў Маскву і спрабавалі дамовіцца з савецкімі ўладамі аб дазволе грамадзянам польскага паходжання выехаць на радзіму. Палякаў можна было зразумець. Яны страцілі «крэсы» на ўсходзе, але атрымалі «крэсы» на захадзе. Нямецкае насельніцтва адтуль збегла, і яго трэба было замяняць палякамі з-за Бугу. Савецкі бок пайшоў насустрач польскім таварышам, і ў 1956 годзе з СССР выехала каля 40 тысяч палякаў. А 25 сакавіка 1957 года паміж урадамі Польскай Народнай Рэспублікі і СССР была падпісана новая дамова аб рэпатрыяцыі з тэрыторыі Савецкага Саюза насельніцтва польскай і яўрэйскай нацыянальнасці, якія да 17 верасня 1939 года мелі польскае грамадзянства.

У каментарыі да дадзенага дакумента, у прыватнасці, адзначалася, што *«асобы, якія жадаюць рэпатрыіравацца, павінны да 1 кастрычніка 1958 года звярнуцца ў раённыя ці гарадскія аддзелы міліцыі і напісаць адпаведную заяву»*. Польскую нацыянальнасць можна было пацвердзіць з дапамогай савецкіх пашпартоў, даваенных польскіх дакументаў, метрыкальных запісаў, пасведчанняў, атрыманых у гарадскіх ці сельскіх саветах. Тое ж самае датычылася і пацвярджэння польскага грамадзянства да 17 верасня 1939 года. У выпадку малалетніх пацвярджэннем былі дакументы бацькоў. У дамове таксама падкрэслівалася, што галоўнай умовай рэпатрыяцыі з'яўляецца жаданне асоб да ўз'яднання сямей.

Польскі бок, каб спрасціць справу рэпатрыяцыі, некалькі разоў спрабаваў дамовіцца з Масквой аб адкрыцці ў Мінску Генеральнага консульства ПНР (такое дзейнічала ў Кіеве), аднак савецкі бок на гэты крок не пайшоў. Менавіта таму жыхарам БССР трэба было накіроўваць свае дакументы ў Бюро паўнамоцнага прадстаўніка польскага ўраду па справах рэпатрыяцыі палякаў у Амбасадзе ПНР, якая знаходзілася на вул. А. Талстога, 30 (зараз Спірыдонаўка) у Маскве.

Адной з такіх грамадзянак БССР, што спрабавалі ў 1958 годзе выехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Польшчу, была Юзэфа Іванаўна Сапоцька з вёскі Сурынты, Маладзечанскага раёна. Яе брат Іван (Ян) Сапоцька з ліпеня 1943 года

служыў у Народным Войску Польскім у 1-й Варшаўскай танкавай брыгадзе імя Герояў Вестэрплятэ ў званні паручніка.

Пасля заканчэння баявых дзеянняў Іван вырашыў застацца ў Польшчы, і ў снежні 1945 годзе накіраваў на імя галоўнага ўпаўнаважанага польскага ўраду па справах эвакуацыі польскага насельніцтва ў Баранавічах прашэнне аб дазволе выезду ў Польшчу яго сёстрам Ірыне і Юзэфе. Праз некаторы час дзяўчыны атрымалі такі дазвол.

Захавалася пастанаўленне гарадскога суда ў г. Еленя Гура ад 30 кастрычніка 1946 годзе, якім Івану Сапоцьку было дазволена не прадстаўляць у дзяржустанову выпіску з метрыкі, таму што «*мястэчка Краснае ў Маладзечанскім павеце, Віленскага ваяводства, дзе Сапоцька быў хрышчоны, зараз знаходзіцца на тэрыторыі Савецкай Расіі (так у дакуменце. — І. М.), і паездка туды не магчымая ў сувязі з неакрэсленымі міжнароднымі адносінамі паміж краінамі*».

Хутка ў Польшчу прыехала Ірэна Сапоцька, а Юзэфа засталася ў БССР. Чаму так адбылося, зараз сказаць цяжка. Мабыць, хтосьці перашкодзіў старэйшай сястры далучыцца да сям'і. А можа, яна не паспела сабраць патрэбныя дакументы.

Хутка Ірэна атрымала грамадзянства ўжо сацыялістычнай Польшчы і выйшла замуж. А Юзэфе Іванаўне давялося чакаць амаль 10 гадоў на чарговую хвалю рэпатрыяцыі. У красавіку 1958 года Юзэфа накіравала дакументы ў Амбасаду ПНР. Здзіўляе, што ўжо праз некалькі тыдняў з польскай дыпустановы прыйшоў адказ, які напэўна расчараваў Юзэфу Сапоцька. У лісце, у прыватнасці, адзначалася, што ў адпаведнасці з умовай ад 25 сакавіка 1957 года Юзэфа Сапоцька не мае права на рэпатрыяцыю, бо з'яўляецца беларускай па нацыянальнасці. Хутчэй за ўсё, у савецкіх дакументах нацыянальнасць жанчыны была запісана як беларуская. Таму супрацоўнікі бюро па рэпатрыяцыі адмовілі Юзэфе Іванаўне ў праве на выезд на жыхарства ў Польшчу. Не дапамаглі нават дакументы з пацвярджэннем таго, што частка сям'і ўжо жыве ў Польшчы.

Сваістае тлумачэнне такіх паводзін польскага боку мы знаходзім у стэнаграме размовы тагачаснага міністра ўнутраных спраў Польшчы В. Віха з яго савецкім калегам

М. Дударавым. Паляк падкрэслівaў, што ў 1958 годзе паток перасяленцаў пачалі змяншаць, таму што польскія ўлады не спраўляліся з наплывам суайчыннікаў з-за ўсходняй мяжы і не маглі іх забяспечыць усім неабходным. У гарадах месца для рэпатрыянтаў не было, бо не хапала жылля і рабочых месцаў. Адзінае месца — гэта вёска, але і там было шмат праблем. Напрыклад, не хапала свабоднай зямлі.

Савецкі бок таксама спрабаваў кантраляваць працэс рэпатрыяцыі. У Маскве разумелі, што масавы зыход можа прывесці да апусташэння заходнебеларускіх вёсак, і хто тады будзе падымаць народную гаспадарку?! Да таго ж савецкія ўлады спрабавалі перашкодзіць асобам яўрэйскай нацыянальнасці выкарыстаць ад'езд у Польшчу як шанс пазней эміграваць у Ізраіль.

Усяго падчас другой хвалі рэпатрыяцыі з БССР у ПНР перасялілася каля 100 630 чалавек. Перасяленцы ў асноўным размяшчаліся на заходніх тэрыторыях Польшчы і былі працаўладкаваныя ў сельскай гаспадарцы. Падчас рэпатрыяцыі 1955–1959 гадоў у ПНР прыехала шмат будучых знакамітасцяў, у тым ліку і ўраджэнец Лідчыны Чэслаў Выджыцкі, больш вядомы як Чэслаў Немен.

А што ж з Юзэфай Сапоцька? У сярэдзіне 1960-х яна звярнулася ў АВІР Маладзечна з просьбай аформіць для яе сястры Ірыны запрашэння для візіту ў БССР. Ці ўбачыліся беларуска Юзэфа і полька Ірына, сёння ўжо ніхто не ведае.

# 1812 год. Выбар генерала Касцюшкі

Гісторыя жыцця Тадэвуша Касцюшкі да сённяшняга дня захоўвае вялікую колькасць недастаткова вывучаных гісторыкамі аспектаў.

Выхадзец з Беларусі, нацыянальны герой Польшчы і ЗША, Касцюшка ў пачатку XIX стагоддзя працягваў заставацца ўплывовай грамадска-палітычнай фігурай. Бясспрэчны аўтарытэт гэтага чалавека прымусіў Аляксандра I і Напалеона Банапарта задумацца пра тое, як прыцягнуць генерала на сваю службу. Кожны з імператараў разумеў, што поспех у гэтай справе абяцае значныя дывідэнды ў вырашэнні так званага «польскага пытання».

У 1798 годзе, пасля вяртання з ЗША на стары кантынент, Касцюшка пасяліўся пад Парыжам. Гэта выклікала вялікую занепакоенасць у вышэйшых палітычных колах Расійскай імперыі. Устрывожаны міністр замежных спраў Расійскай імперыі граф Варанцоў запатрабаваў тэрмінова сабраць звесткі пра тое, што мяцежны генерал робіць у Парыжы, як да яго ставяцца французскія ўлады і асабіста Напалеон. Адказ, дасланы ў Пецярбург з Парыжа, супакоіў царскага чыноўніка. У дэпешы ад 10 сакавіка 1804 года паверааны ў справах Расіі ў Парыжы П. Убры дакладаў, што польскі генерал не меў адносін з французскім урадам.

Сапраўды, Касцюшка расчараваўшыся імперскімі амбіцыямі Напалеона, яго двухсэнсоўнымі і загадкавымі заявамі наконт лёсу Рэчы Паспалітай, абыякавым стаўленнем да салдат і афіцэраў польскага легіёна, які змагаўся на баку Францыі ў Італіі і іншых краінах, вырашыў не ўмешвацца ў палітычныя працэсы ў Еўропе.

Аднак поспехі напалеонаўскай арміі ўсё больш усялялі ў палякаў надзею на адраджэнне Рэчы Паспалітай. Падчас адной з сустрэч Напалеона з генераламі ў лістападзе 1805 года хтосьці з французскіх военачальнікаў заўважыў, што Тадэвуша Касцюшку варта было б выкарыстаць для падрыхтоўкі і арганізацыі ўсеагульнага польскага паўстання. Да таго ж у французскім штабе мелі досвед наконт сучаснай тактыкі і стратэгіі вядзення бою, якую прапаведаваў былы кіраўнік паўстання 1794 года. Менавіта Касцюшка быў адным з першых у Еўропе, хто пачаў выкарыстоўваць манеўранасць пяхоты падчас бою. Гэта тактыка даказала сваю эфектыўнасць падчас вайны за незалежнасць у ЗША.

У 1806 годзе французскі імператар загадаў міністру паліцыі Ж. Фушэ прывезці кіраўніка паўстання 1794 года ў яго штаб-кватэру. Французскі чыноўнік заявіў генералу, што Напалеон збіраецца ваяваць супраць Расійскай імперыі і польскі народ павінен дапамагчы Францыі ў гэтай справе. Але Касцюшка запатрабаваў гарантый аднаўлення незалежнасці Рэчы Паспалітай, яе канстытуцыі і палітычнай роўнасці яе грамадзян.

Даведаўшыся пра патрабаванні Касцюшкі, Напалеон заявіў, што абыдзецца без яго. Аднак французы канчаткова не адмовіліся ад ідэі выкарыстаць знакамітага ўраджэнца Брэстчыны. Ж. Фушэ ад імя Касцюшкі стварыў ілжывы маніфест з заклікам да палякаў падтрымаць Напалеона. Абураны генерал запатрабаваў абвяржэння фальшыўкі і раскрыцця імя сапраўднага аўтара дадзенага дакумента.

Падчас зімовай кампаніі 1806–1807 гадоў польская тэма зноў стала актуальнай. Прычым актыўнасць у гэтым кірунку пачала праяўляць і Расійская імперыя. Так, сярод эліт былога Вялікага Княства Літоўскага адна за другой сталі з'яўляцца ідэі адраджэння Рэчы Паспалітай пад скіпетрам Аляксандра І. Аўтарамі аднаго з праектаў былі былы ўдзельнік паўстання 1794 года Томаш Ваўжэцкі і былы пасол ад Брэсцкага павета на соймы 1782, 1786, 1788–1792 гадоў Станіслаў Нямцэвіч. Менавіта Нямцэвіч прадставіў у Пецярбургу міністру замежных спраў Расійскай імперыі А. Чартарыйскаму свой план, у адпаведнасці з якім з зямель былога

ВКЛ меркавалася стварыць аўтаномную дзяржаву. На жаль, не вядома, якое месца адводзілі стваральнікі плана асобе Тадэвуша Касцюшкі, але няма сумневаў, што рэалізацыя любога дзяржаўнага праекта на землях ВКЛ і Рэчы Паспалітай не магла б абысціся без такой важнай персоны.

У гэты ж час на польскіх землях, якія знаходзіліся пад французскай акупацыяй, таксама абмяркоўваліся планы адраджэння. У прыватнасці, князь Ю. Панятоўскі прапаноўваў французскаму імператару аднавіць Польскае Каралеўства на тэрыторыях, якія адышлі пасля падзелаў да Прусіі і Расійскай імперыі. У Варшаве таксама былі чутныя заклікі аднавіць у Польшчы манархію, а каралём абвясціць Тадэвуша Касцюшку.

Сам генерал увесну 1807 года накіраваў у напалеонаўскі генштаб дакумент пад назвай «Праект наступнай вайны ў Польшчы». У адпаведнасці з ім французскаму камандаванню прапаноўвалася сфармаваць з палякаў рухомыя кавалерыйскія атрады і накіраваць іх у дыверсійныя рэйды ў Брэсцкае ваяводства, іншыя раёны гістарычнай Літвы, а таксама на Валынь. Гэтыя атрады, пазбягаючы сутычак з буйнымі атрадамі рускіх, павінны былі руйнаваць тылавую інфраструктуру непрыяцеля і скоўваць перамяшчэнне буйных злучэнняў рускай арміі. Акрамя гэтага, дыверсанты вялі б выведвальную дзейнасць і правакавалі б антырускія выступы.

Эфектыўнасць гэтай стратэгіі была даказана яшчэ падчас паўстання 1794 года. Тады атрад пад камандаваннем С. Грабоўскага ў раёне Івянца перайшоў мяжу з Расійскай імперыяй і паглыбіўся на тэрыторыю Міншчыны. Рускі гарнізон у Мінску быў досыць шматлікім, таму Грабоўскі не адважыўся атакаваць горад і рушыў у бок Койданава. Насельніцтва ўсходняй Беларусі, нягледзячы на рускую прапаганду, у сваёй большасці са спачуваннем ставілася да «ліцвінаў». Дыверсійны атрад пастаянна папаўняўся новымі добраахвотнікамі. Усё гэта дазволіла Грабоўскаму сходу захапіць добра ўмацаваны Бабруйск і знішчыць рускі гарнізон, які там знаходзіўся. Царскае камандаванне было настолькі занепакоена дзейнасцю дыверсантаў, што на барацьбу з імі

з Заходняй Беларусі адклікала 4 тысячы рускіх салдат. Факты паспяховай дзейнасці дыверсійных падраздзяленняў Касцюшкі былі, безумоўна, вядомыя французскім генералам, што прымусіла іх з усёй уважлівасцю падысці да вывучэння прапановы генерала.

Пасля пачатку руска-французскай вайны 1812 года Касцюшка працягваў чакаць і назіраць. Прадстаўнікі Генеральнай канфедэрацыі Польскага Каралеўства спрабавалі прапанаваць генералу ўзначаліць гэты орган. Угаварыць састарэлага Касцюшку павінна была княжна Ганна Сапега. Але генерал адмовіўся ад прапановы, матывуючы сваё рашэнне тым, што «*канфедэрацыя не можа гарантаваць цэласнасць межаў Польскага Каралеўства*».

Як вядома, руская кампанія Напалеона скончылася правалам, і мноства палякаў, што падтрымалі французаў, назаўсёды засталіся ляжаць на заснежаных палях «матухны Расіі». Іншыя адступілі з рэшткамі «вялікай арміі». Навіну пра тое, што рускія войскі ўвайшлі на французскую зямлю, Касцюшка сустрэў з непрыхаваным натхненнем. У лютым 1814 года ён нават прымаў у сябе рускіх казацкіх афіцэраў і забараніў жыхарам сваіх уладанняў аказваць супраціў рускім войскам.

Пасля падзення напалеонаўскай імперыі вырашэннем лёсу «польскіх земляў» заняўся Аляксандр І. Рускі манарх, як і яго французскі візаві, не мог не ўспомніць пра Касцюшку, тым больш што генерал нагадаў аб сабе сам. 9 красавіка 1814 года ён накіраваў цару ліст, у якім прасіў абвясціць для палякаў усеагульную амністыю, стварыць у Польшчы канстытуцыйную манархію і, нарэшце, праз дзесяць гадоў адмяніць прыгоннае права і надзяліць сялян зямлёй. Праз месяц Касцюшка атрымаў адказ ад Аляксандра І. У лісце цар рассыпаўся кампліментамі і запрашаў Касцюшку да супрацоўніцтва. 5 мая 1814 года генерал быў урачыста прыняты царом у Парыжы. У 1815 годзе адбыўся Венскі кангрэс, па выніках якога было створана Царства Польскае. З гэтага моманту рускі імператар ужо не цікавіўся асобай «знакамітага ліцвіна». Хутка генерал выехаў у Швейцарыю, дзе і памёр у 1817 годзе.

# Флора — каханне Адама

Здавалася б, гісторыкі і літаратуразнаўцы дасканала вывучылі біяграфію знакамітага літвіна Адама Міцкевіча. Аднак усё яшчэ застаюцца малавядомыя старонкі яго жыцця.

Будучы студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Віленскага ўніверсітэта, паэт часта шпацыраваў у ценю дрэў старадаўніх віленскіх могілак Росы. Аднойчы ён звярнуў увагу на адну з магіл, у якой была пахавана графіня Ласкарыс. У той дзень юны Адам вырашыў для сябе, што яго будучая жонка будзе прадстаўніцай менавіта гэтага старадаўняга і вельмі знатнага роду. Тады малады навагрудчанін нават і думаць не мог, што хутка пазнаёміцца з прадстаўніцай гэтай фаміліі.

Варта падкрэсліць, што Ласкарысы з'яўляліся нашчадкамі візантыйскай імператарскай дынастыі, якая кіравала Нікейскім царствам у 1206–1261 гадах. Нікея была праваслаўнай дзяржавай, якая паўстала на тэрыторыі паўночна-заходняй Анатолі пасля захопу Канстанцінопаля крыжакамі ў 1204 годзе. У І Рэчы Паспалітай Ласкарысы з'явіліся ў XVIII стагоддзі. Юры-Марыя Ласкарыс (1706–1795) у 1738 годзе пераехаў з Рыма ў Львоў. Беларускі князь Радзівіл Рыбанька надзяліў яго маёнткам у Інфлянтах. Пазней Папа Рымскі прызначыў Ласкарыса сваім экспертам па справах Рэчы Паспалітай і запрасіў у Ватыкан.

Пляменнік Юрыя-Марыі Ласкарыса Тэадор даслужыўся да звання генерал-маёра войскаў Вялікага Княства Літоўскага. За свае заслугі ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ён атрымаў маёнтак Жодзішкі ў Вілейскім павеце. Неўзабаве яго жонкай стала Ганна Забэла. Тады ўпершыню два знакамітыя дваранскіх родаў — Ласкарысы і Забэлы — параdніліся. Адзін з іх сыноў Альберт быў афіцэрам польскага легіёна французскай арміі Напалеона, удзельнічаў у вайне 1812 года і загінуў у бітве пад Лейпцыгам. Менавіта дачка Альберта і стала будучай каханай Адама Міцкевіча.

З першых дзён свайго знаёмства са шляхцянкай паэт быў зачараваны яе прыгажосцю і называў дзяўчыну «імператрыцай». Аднак Флора Ласкарыс спрабавала захоўваць дыстанцыю ў адносінах з будучым знакамітым паэтам. У 1829 годзе Адам Міцкевіч паехаў у падарожжа па Еўропе. У такое ж турнэ адправілася і Флора.

У маі 1832 года ў Дрэздэне Адам зноў сустрэўся са сваёй каханай. Іх часта бачылі разам, і многім здавалася, што жаніцьба гэтых маладых людзей — вырашаная справа. Але... У 1833 годзе Флора выйшла замуж за былога капітана войскаў ВКЛ, графа Антонія Забэлу, які жыў у маёнтку Дурынічы пад Бабруйскам. Дакладна не вядома, што прымусіла Флору зрабіць такі выбар. Магчыма, важную ролю адыгралі вядомасць і багацце роду Забэлаў.

Графскі тытул род Забэлаў атрымаў у XVII стагоддзі. У выданні 1884 года змяшчаецца вытрымка з «Гродскай кнігі», якая тычыцца прысваення ў 1683 годзе роду Забэлаў графскага тытула. Вось што там запісана: «*Пастанавілі Міхаілу Тапарчыку са Збылутаў Забэла, генерал-маёру войскаў ВКЛ, па загадзе караля Яна III Сабескага і па прывілеі імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Леапольда I прысвоіць тытул графскі. Пасля перамогі пад Венай, Богам нам дадзенай, даслаў нам, каралю Яну III Сабескаму, ліст яго імператарская Вялікасць Леапольд I разам з прывілеем, за мужнасць у бітве той, падараваным для Забела. Дадзена ў лагеры пад Парканамі 10 кастрычніка 1683 года*». У гэтым запісы гаворка ідзе пра падзеі вайны з Турцыяй, калі Міхаіл Забэла вызначыўся гераізмам і мужнасцю, за што і атрымаў графскі тытул.

Забэлы параднiліся са знакамітымі княжацкімі фаміліямі Радзівілаў, Завішаў, Незабытоўскіх, валодалі маёнткамі ў Бабруйскім павеце Мінскай губерні. Тут жылі прадстаўнікі так званай кашталянскай лініі гэтага роду. Маёнтак князёў знаходзіўся ў Дурынічах.

Родапачынальнікам кашталянскай лініі роду быў Шымон Забэла, апошні кашталян Мінскі, сын Антонія, вялікага лоўчага Літоўскага, маршалка ковенскага, генерал-лейтэнанта войскаў ВКЛ і кавалера французскага ордэна Св. Міхаіла. Дарэчы, вышэйзгаданы Антоній Забэла меў гонар у 1761 го-

дзе прымаць у сваёй рэзідэнцыі «Чырвоны Двор» пад Вільняй прынца Карла, князя Курляндскага.

Шымон Забэла нарадзіўся 14 лютага 1750 года ў рэзідэнцыі «Чырвоны Двор». У 1787 годзе ён стаў Мінскім кашталянам. Забэла валодаў маёнткамі Арэхоўна, Цэкалава, Заранава, Дурынічы ды інш. За службу айчыне Шымон быў узнагароджаны вышэйшымі ўзнагародамі Рэчы Паспалітай — ордэнамі Белага Арла і Св. Станіслава. Бабруйскаму шляхціцу было прысвоена званне брыгадзіра кавалерыі нарадовай (войска Польскага Каралеўства), а таксама генерал-лейтэнанта войскаў Вялікага Княства Літоўскага. Жонкай Шымона Забэлы была Барбара з Завішаў.

Канец XVIII стагоддзя стаў вырашальным часам для Рэчы Паспалітай. 3 мая 1791 года была прынята першая ў Еўропе Канстытуцыя. У ліку тых, хто прысягнуў на вернасць Канстытуцыі, быў і Шымон Забэла. За гэты ўчынак ён быў ушанаваны падзякай апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Вось вытрымка з ліста караля, адрасаванага Шымону Забэлу: «*Спадар кашталян і генерал-лейтэнант Другой дывізіі войскаў літоўскіх. З вялікім задавальненнем атрымаў Ваш ліст ад 21 мая 1791 года, пра тое, што Вы ў прысутнасці Галоўнага трыбунала ВКЛ прынеслі прысягу Канстытуцыі нашай. У дакуменце, якім з'яўляецца Канстытуцыя, усё тое, што ашчасліваць нашу агульную Радзіму, і Вы паказалі прыклад, як трэба любіць сваю Айчыну. Кароль Станіслаў Аўгуст*».

Аднак Рэч Паспалітая дажывала апошнія гады. Хутка беларускія землі ВКЛ увайшлі ў склад Расійскай імперыі.

Шымон Забэла памёр у 1824 годзе. Ён пакінуў пасля сябе трох сыноў. Двое з іх — Антоні і Юзаф — атрымалі ў спадчыну маёнткі ў Бабруйскім павеце. Будучы муж Флоры Ласкарыс — Антоні Забэла — нарадзіўся ў 1785 годзе. Атрымаўшы чын капітана войскаў ВКЛ, ён верна служыў Вялікаму княству і Рэчы Паспалітай.

...Даведаўшыся пра жаніцьбу сваёй каханай, Адам Міцкевіч з'ехаў у Парыж, а ў красавіку 1834 года ажаніўся з Цалінай Шыманоўскай, дачкой знакамітай польскай піяністкі і кампазітара Шыманоўскай-Валоўскай. Шлюб паэта не быў шчаслівы.

У 1834 годзе Флора нарадзіла дачку Антаніну, але праз год памерла і была пахаваная побач з маці ў радавым склепе на могілках Росы ў Вільні. Па іроніі лёсу, Антаніна Забэла стала жонкай свайго далёкага сваяка, польскага паэта Юрыя Ласкарыса. «Віленскі бусел», як называлі яго сучаснікі, не набыў славы Адама Міцкевіча. Ён вучыўся ў Віленскім і Пецярбургскім універсітэтах. Пасля вучобы супрацоўнічаў з шэрагам газет, сярод якіх «Кур'ер Віленскі» і «Тэка Віленская».

Пасля няўдалага паўстання 1863 года паэт вымушаны быў з'ехаць з Беларусі ў Парыж. Там ён і сустрэў сваю будучую жонку — Антаніну Забэла. У 1871 годзе сям'я Ласкарысаў вярнулася на радзіму. Спачатку ў Варшаву, а затым у Бабруйск. У 1888 годзе Юры Ласкарыс памёр у маёнтку Доўбар пад Радашковічамі. Праз некалькі тыдняў пасля смерці мужа памерла і Антаніна Ласкарыс-Забэла.

Эпілогам гісторыі кахання Адама Міцкевіча і Флоры Ласкарыс была апублікаваная ў 1862 годзе ў «Газеце Польскай» нататка аб тым, што ў архіве памерлай амаль 30 гадоў таму Флоры Ласкарыс-Забэла быў знойдзены невядомы раней твор знакамітага Адама Міцкевіча. «Балада пра пана Твардоўскага», перахітрыўшага д'ябла, хутчэй за ўсё, была падорана аўтарам сваёй каханай. Гэты твор у нейкім сэнсе аўтабіяграфічны. Як і пан Твардоўскі, які ўцёк ад д'ябла, Адам Міцкевіч пазбег рэпрэсій расійскіх улад, з'ехаўшы за мяжу. Але апынуўшыся там, яму, як і Твардоўскаму, які трапіў на Месяц, было больш не наканавана ўбачыць родную зямлю і... адзіную каханую.

## «Мяняю ваша каханне на жыццё гэтых дурных «палякаў»

Здаецца, гісторыя паўстання Кастуся Каліноўскага даследавана даволі глыбока і ўсебакова. Аднак людская памяць захоўвае яшчэ шмат цікавых і да сённяшняга дня не вядомых гістарычных сюжэтаў.

Адзін з іх звязаны з гісторыяй шляхецкага роду Плюта з Гродзенскай губерні. Яго прадстаўнікі былі сапраўднымі патрыётамі. Яны аднымі з першых падтрымалі паўстанне Кастуся Каліноўскага і, стварыўшы атрад, мужна змагаліся супраць царскіх акупантаў.

Нагадаю, галоўнай мэтай паўстанцаў было адраджэнне незалежнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. У 1862 годзе ў Вільні быў арганізаваны Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК), які і пачаў рыхтаваць узброенае выступленне. На пачатку лютага 1863 года ЛПК звярнуўся да насельніцтва літоўска-беларускага краю з просьбай падтрымаць паўстанне. Адным з першых гэты народны ўздым падтрымаў багаты шляхціц з Гродзенскай губерні Станіслаў Плюта.

У Беластоку ён сфармаваў атрад са сваіх сялян і мясцовай шляхты і ўдзельнічаў у некалькіх паспяховых аперацыях супраць царскіх войскаў. Трэба таксама адзначыць, што разам з бацькам ваяваў і сын Плюты — Кастусь. Пад Сямятычамі паўстанцкі аддзел Плюты разам з іншымі паўстанцкімі часткамі супрацьстаяў 7 ротам царскіх войскаў з 4 гарматамі. Тады паўстанцы прымусілі рускія войскі адступіць, пры гэтым ім удалося захапіць некалькі гармат і іншыя трафеі.

Паўстанцкі аддзел пад камандаваннем Станіслава Плюты ўдзельнічаў і ў іншых сутыкненнях з царскімі войскамі. У адным з баёў атрад быў атакаваны казакамі і амаль увесь загінуў. Рускія захапілі ў палон параненага шляхціца і яго сына. Абодва апынуліся ў гродзенскай турме. У той час у гэты астрог трапіла шмат знакамітых ураджэнцаў беларускай зямлі. За кратамі ў Гродна знаходзіўся Напалеон Орда, якога арыштавалі па абвінавачанні, што ён удзельнічаў у антыўрадавых выступленнях і падтрымліваў «польскіх злачынцаў». Акрамя гэтага ў гродзенскім астрозе тады апынуўся і муж Элізы Ажэшкі Пётр, якога абвінавацілі ў дапамозе аднаму з кіраўнікоў паўстання ў гістарычнай Літве Рамуальду Траўгуту.

Пра тое, што бацька і сын Плюты трапілі ў рускую вязніцу, хутка даведаліся іх блізкія. Малодшая дачка Станіслава Соф'я вырашыла пайсці на беспрэцэдэнтны крок. Яна накіравалася ў Вільню, каб сустрэцца з генерал-губернатарам

Міхаілам Мураўёвым і папрасіць таго аб памілаванні для бацькі і брата.

І дзяўчыне ўдалося трапіць на аўдыенцыю. Яна расказала губернатару пра тое, як любіць бацьку і брата, спрабавала растлумачыць, чаму тыя выступілі супраць Расіі.

Мураўёў глядзеў на дзяўчыну з ухмылкай і рабіў выгляд, што слухае. Аднак пасля таго, як Соф'я скончыла, губернатар падышоў да яе і ціха сказаў: «*У вас, спадарыня, ёсць адна магчымасць выратаваць сваіх блізкіх. Я мяняю ваша каханне на жыццё гэтых дурных «палякаў»*.

Соф'я глядзела на генерал-губернатара як на ўвасабленне д'ябла. Яна моўчкі павярнулася і пайшла да дзвярэй. Паводле сямейных паданнях, Мураўёў прамовіў ёй услед: «*Зараз вы падпісалі сваім блізкім смяротны прысуд*». Жанчына потым усё жыццё будзе ўспамінаць тыя словы.

Праз некалькі дзён гродзенскі шляхціц, удзельнік паўстання Кастуся Каліноўскага, Станіслаў Плюта быў павешаны. Аднак брату Соф'і Кастусю, калі так можна казаць, пашчасціла. Яго прысудзілі да высылкі ў глыбінныя губерні Расійскай імперыі. Шматлікія даследчыкі, аднак, лічаць, што гэтае «выратаванне» на самай справе было жудаснай карай для асуджаных. У судовых дакументах, якія маюць дачыненне да пакарання паўстанцаў Каліноўскага, досыць часта фігуруе фармулёўка «*выслаць у аддаленыя губерні*». Паводле афіцыйных звестак расійскіх уладаў, пасля падаўлення паўстання па прысудах ваенных судоў было выслана на катаржныя работы з пазбаўленнем правоў стану і канфіскацыяй маёмасці 972 чалавекі, 345 чалавек было адпраўлена на вайсковую службу шараговымі салдатамі, 864 — адпраўленыя ў арыштанцкія роты, 4096 (каля 800 сямей) — высланыя «*на водворение на казённых землях внутри империи*», нарэшце, паводле пастаноў судоў, 7531 чалавек быў высланы на жыхарства ва ўнутраныя губерні імперыі. Апроч таго, з месцаў свайго жыхарства былі выселены 629 сямей засцянковай шляхты. Такім чынам, агульная колькасць высланых з родных мясцінаў паўстанцаў сягала прыблізна 10 тысяч чалавек. Сярод іх большасць (57 працэнтаў) складалі жыхары Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі.

Беларускі даследчык Сяргей Токць адзначае, што высылку з родных мясцінаў у аддаленыя губерні як сродак пакарання паўстанцаў і іх прыхільнікаў улады сталі выкарыстоўваць ужо вясной 1863 года. Напрыклад, з Гродзенскай губерні ад пачатку паўстання да жніўня 1863 года былі высланыя 116 чалавек. У большасці сваёй гэта былі асобы, якія лічыліся «нядобранадзейнымі». Праўда, з іх ліку ў Сібір трапілі нямногія, паколькі большая частка высылалася ў цэнтральныя губерні імперыі і на Урал.

Летам 1863 года ўлады ўпершыню выкарысталі такі спосаб барацьбы з паўстанцамі, як высылка жыхароў цэлага паселішча разам з жанчынамі і дзецьмі. Па прапанове Міхаіла Мураўёва ад 24 ліпеня 1863 года былі высланы «*на водворение*» жыхары шляхецкай ваколіцы Шчукі ў Гродзенскім павеце. 30 верасня 1863 года гродзенскі губернатар атрымаў загад ад віленскага генерал-губернатара Мураўёва «*аб неадкладным высяленні жыхароў ваколіцы Лукавіца*». У дакуменце, у прыватнасці, прапаноўвалася выслаць 37 сямей (каля 120 чалавек) разам з малымі і старымі ў Самарскую, Кастрамскую і Астраханскую губерні.

Сын гродзенскага паўстанца Кастусь Плюта быў сасланы ў Томскую губерню, у вёску Марыінск. Варта падкрэсліць, што да сярэдзіны 1867 года ў розныя куткі Томскай губерні было выслана каля 5 тысяч паўстанцаў з тэрыторый былой Рэчы Паспалітай. Такая высылка шляхты Беларусі, Польшчы і Літвы рабілася дзеля паступовай «дэградацыі» гэтага саслоўя, таму што былых паўстанцаў залічвалі ў катэгорыю «*государевых крестьян*». У архіўных дакументах 1868 года, у прыватнасці, пазначалася, што Кастусь Плюта, шляхціц Гродзенскай губерні, 26 гадоў, не жанаты, сасланы без захавання маёмасных правоў. На радзіму Кастусь вярнуўся толькі напрыканцы жыцця.

Соф'я Плюта праз два гады пасля паўстання з'ехала ў Пецярбург і там выйшла замуж за шляхціца Андрэя Меера. Пазней сям'я вярнулася ў Паўночна-Заходні край Расійскай імперыі. Па ўспамінах родных, Соф'я Станіславаўна часта ўзгадвала сустрэчу з Мураўёвым-вешальнікам і дакарала сябе за тое, што не ўратавала брата і бацьку.

# Пад знакам «Віціса»

У 1920 годзе беларусы дапамаглі літоўцам адстаяць незалежнасць іх краіны. У выніку Першай сусветнай вайны з палітычнай карты свету зніклі імперыі, а на іх абломках пачалі стварацца новыя дзяржавы. Не выключэннем была і Беларусь, жыхары якой паспрабавалі са зброяй у руках абараніць сваю незалежнасць.

У 1917 годзе па ініцыятыве Кастуся Езавітава і Сымона Рак-Міхайлоўскага была створана Цэнтральная беларуская вайсковая рада. Ужо 24 лістапада ў Мінску пачаў фармавацца Беларускі пяхотны полк, які складаўся з трох батальёнаў (усяго каля 350 чалавек). Паступова пад бел-чырвона-белы сцяг пераходзілі і іншыя падраздзяленні былой рускай імператарскай арміі. Напрыклад, 4-ы армейскі корпус і 43-я пяхотная дывізія, што ваявалі на Румынскім фронце, заявілі аб сваёй прыналежнасці да Беларусі. На жаль, гэтыя падраздзяленні так і не здолелі вярнуцца дадому. Хутка пасля гэтага яны былі расфармаваныя нямецкімі і румынскімі акупацыйнымі ўладамі.

У студзені–лютым 1918 года Беларускі пяхотны полк прыняў удзел у баявых дзеяннях супраць бальшавікоў, падтрымаўшы Першы польскі корпус пад камандаваннем генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага. Скарыстаўшыся надыходам нямецкіх войскаў, беларусы абвясцілі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Але, на жаль, абараніць рэспубліку ад захопу не ўдалося, і пасля таго, як кайзераўскія войскі пакінулі Беларусь, частку краіны акупавалі бальшавікі. Кіраўніцтва Рады БНР, генерал К. Кандратовіч і палкоўнік К. Езавітаў эвакуяваліся ў Вільню.

Неўзабаве пра сваю незалежнасць заявіла і Літва. Тагачаснае літоўскае кіраўніцтва ўсведамляла, што ў сітуацыі, калі бальшавікі пагражаюць маладой рэспубліцы, дапамога з боку «гудасаў» (так літоўцы называюць беларусаў) была б не залішняй. Ужо ў канцы лістапада 1918 года ў склад Тарыбы (літоўскага ўрада) увайшло шэсць беларускіх дзеячаў. Таксама было сфармавана Міністэрства

беларускіх спраў, якое ўзначаліў Язэп Варонка. Нарэшце, у складзе Вайсковага міністэрства Літвы была створана беларуская секцыя.

У старажытнай сталіцы ВКЛ Вільні пачаў фармавацца 1-ы беларускі пяхотны полк. Але бальшавікі не пажадалі змірыцца з незалежнасцю Літвы. У сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі літоўскі ўрад эвакуяваўся з Вільні ў Коўна. А чатыры пяхотныя роты, грэнадзёрская каманда і кавалерыйскі эскадрон 1-га беларускага палка перадыслакаваліся ў Гродна. Беларускім камендантам горада быў прызначаны капітан Н. Дзямідаў. 5-я беларуская рота фармавалася ў Коўне. Там жа знаходзілася Беларускае вайсковае бюро пад кіраўніцтвам В. Казлова.

Беларускія часткі, якія знаходзіліся ў Літве, былі апранутыя ў форму літоўскай арміі. Праўда, беларусам дазволілі захаваць некаторыя нацыянальныя асаблівасці. Напрыклад, афіцэрам дазвалялася насіць стужку бел-чырвона-белага колеру, уведзеную яшчэ ў 1917 годзе ў якасці ўзнагароды. Акрамя гэтага, некаторыя беларускія афіцэры выкарыстоўвалі нестатутныя галаўныя ўборы.

У лютым 1919 года армія адроджанай польскай дзяржавы пачала наступ на Усход. Усведамляючы безвыходнасць становішча, беларускі кавалерыйскі эскадрон эвакуяваўся на тэрыторыю Літвы. 31 мая 1919 года палякі загадалі камандзіру беларускага палка Антонаву перавесці сваю частку ў раён Слоніма і ўліцца ў склад Войска Польскага. Беларус адмовіўся выканаць гэты загад, і ўжо ўвечары таго ж дня палякі раззброілі беларускі полк. Салдат-каталікоў прызвалі ў Войска Польскае, а праваслаўных без лішняга шуму дэмабілізавалі.

Тыя беларускія падраздзяленні (5-я рота, каменданцкі ўзвод і кавалерыйскі эскадрон), што знаходзіліся ў Літве, падвергнуліся рэарганізацыі. Так, былі сфарміраваныя 1-я і 2-я асобныя беларускія роты, а кавалерыстаў перадалі ў распараджэнне 1-га літоўскага уланскага палка.

Баявым хрышчэннем для беларускіх салдат стаў удзел (у канцы чэрвеня 1919 года) у баях з бальшавікамі ў раёне Дзвінску. 26–28 жніўня 1-я беларуская рота пад

камандаваннем маёра Аляксандра Ружанцова праявіла гераізм, за што 25 беларусаў былі ўзнагароджаны літоўскім ордэнам «Крыж Віціса».

Вось як тыя падзеі пасля апісваў відавочца: «*28 жніўня рота правяла паспяховую штыкавую атаку на чырвоных латышоў у раёне Суссекле. Выбіць ворага лабавым ударам было немагчыма. Тады беларускі камандзір Міхайлоўскі паслаў узвод праз лес і рэчку Ілукшту на правы фланг варожай абароны. Прайшоўшы ляснымі сцежкамі, пераправіўшыся праз раку ўброд, беларусы апынуліся ў 40–50 кроках ад бальшавіцкіх акопаў і раптоўнай штыкавой атакай выбілі ворага з іх пазіцый*».

З кастрычніка 1919 года ўсе беларускія падраздзяленні былі сканцэнтраваныя ў раёне літоўска-польскай дэмаркацыйнай лініі ў раёне Ліепаі. 17 лістапада гэтыя часткі былі зведзены ў Беларускі батальён літоўскай арміі. Да снежня 1919 года ў складзе батальёна было 11 афіцэраў, 3 ваенных чыноўніка і 379 байцоў.

У верасні 1920 года батальён быў перадыслацыраваны ў мястэчка Вяліковішкі. Маёр Аляксандр Ружанцоў, характарызуючы гэтую вайсковую адзінку, пісаў: «*Сёння склалася такая сітуацыя, што толькі ў Літве захавалася беларуская частка, салдаты якой яшчэ маюць гонар называцца беларусамі, у якой дзейнічае свой статут, мова, звычаі*». Сапраўды, ключавым момантам было тое, што беларуская мова адыгрывала важную ролю ў фармаванні нацыянальнай свядомасці беларускіх салдат у Літве.

Так, у адным са зваротаў да салдат адзначалася: «*Калі ты праваслаўны — не думай, што ты рускі. Калі каталік — не думай, што ты паляк. Ведай, што ты беларус, і гавары ўсюды толькі па-беларуску, таму што гэта твая родная мова, мова тваіх продкаў. Хто саромеецца сваёй роднай мовы, той не сын свайго краю, той раб у чужых і здраднік сваім. Твая мова, народ і краіна не горш за іншыя краіны, народы і мовы*».

У лістападзе 1920 года беларусы вызначыліся падчас баёў з польскімі часткамі пад камандаваннем генерала Люцыяна Жалігоўскага. З 15 сакавіка 1920 года беларусы

ахоўвалі нейтральную зону на мяжы паміж Літвой і Польшчай. Штаб беларускага батальёна знаходзіўся ў мястэчку Серэнай. Праз два гады, у сакавіку 1923 года, Беларускі батальён быў рэарганізаваны ў роту, якая ў ліпені была расфармаваная.

Акрамя беларускага батальёна, на тэрыторыі Літвы быў створаны Саюз беларускіх стралкоў, які займаўся фармаваннем партызанскіх атрадаў для барацьбы з палякамі на літоўскай і беларускай тэрыторыі. Ужо зімой 1921–1922 года беларускія партызаны прыступілі да актыўных баявых дзеянняў супраць палякаў. Разам з тым, варта падкрэсліць, што Войску Польскаму ўдалося даволі хутка справіцца са слаба ўзброенымі партызанамі.

Неўзабаве ў барацьбу за беларусаў, якія знаходзіліся ў Літве, уключыліся бальшавікі. Савецкае паўпрэдства стала весці прытоеную агітацыю сярод беларускіх вайскоўцаў, што знаходзіліся ў Літве, з мэтай схіліць іх да вяртання ў БССР. У маі 1923 года атрад з 60 беларускіх вайскоўцаў літоўскай арміі пакінуў сваё размяшчэнне ў раёне Мерачы і праз польскую тэрыторыю накіраваўся ў Беларусь. Падчас руху беларусам некалькі разоў прыйшлося ўступаць у бой з палякамі, але атрад усё ж прабіўся на радзіму.

Гэты інцыдэнт прымусіў літоўскі ўрад канчаткова адмовіцца ад беларускіх вайсковых фарміраванняў. Неўзабаве ўсе беларускія часткі былі расфармаваныя. У 1924 годзе Коўна пакінула і Рада БНР.

Але літоўцы захавалі памяць пра беларусаў, якія абаранілі незалежнасць Літоўскай рэспублікі. У сховішчах Музея Вітаўта Вялікага ў Коўне да сённяшняга дня захоўваюцца фатаграфіі і асабістыя рэчы многіх салдат і афіцэраў беларускага батальёна. На жаль, у літоўскіх архівах не захаваліся асабістыя справы беларускіх салдат і афіцэраў літоўскай арміі. «Пастараліся» савецкія ўлады. Літоўскі бок зацікаўлены ў аднаўленні біяграфічных звестак беларусаў, якія ваявалі на баку Літвы ў 1920 годзе. Думаю, што тут ёсць праца і для беларускіх даследчыкаў. Імёны тых, хто стаяў ля пачаткаў беларускай вайсковай справы ў XX стагоддзі, павінны быць вернуты з небыцця.

# Забыты корпус забытага генерала

У лютым 2013-га споўнілася 95 гадоў з пачатку баявых дзеянняў Першага польскага корпуса генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага супраць бальшавікоў. У савецкай гістарыяграфіі для апісання гэтага эпізоду гісторыі Беларусі выкарыстоўвалася вызначэнне «мяцеж».

13 красавіка 1943 года берлінскае радыё паведаміла, што ў лесе пад Смаленскам знойдзены парэшткі польскіх вайскоўцаў, расстраляных бальшавікамі. Неўзабаве ў Катынь прыбываюць эксперты, пачынаецца эксгумацыя. У адной з магіл сярод астанкаў ваенных капеланаў выяўлена цела жанчыны ў форме афіцэра польскай арміі. Пасля будзе ўстаноўлена, што гэта парэшткі Яніны Левандоўскай, дачкі славутага польскага военачальніка, генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага.

Прафесійны пілот, рэкардсменка па скачках з парашутам, 3 верасня 1939-га яна адправілася на фронт, каб абараняць сваю радзіму. Разам з іншымі членамі познаньскага аэраклуба яна запісваецца ў 3-ці лётны полк ВПС Войска Польскага.

У камбінезоне пілота, з двума бацькавымі пісталетамі, Яніна выехала цягніком на ўсход, туды, дзе фармавалася яе вайсковая частка, але 22 верасня 1939 года каля мястэчка Гусяцін група польскіх вайсковых пілотаў, у складзе якой была і дачка генерала, трапіла ў савецкі палон. У лістападзе 1939-га Левандоўскую перавялі ў Асташкаўскі лагер, а затым у Казельск. Па рашэнні савета генералаў, якія ўтрымліваліся ў лагеры, Яніне выдалі ваенны мундзір падпаручніка, мяркуючы, што ваенная форма засцеражэ дзяўчыну.

Падчас допытаў дачка генерала спрабавала схаваць праўду пра сябе: называла іншую дату нараджэння (1914 год замест 1908-га), імя бацькі (Марыян замест Юзаф), карысталася толькі прозвішчам мужа. Але чэкісты ведалі, з кім мелі справу. У красавіку 1940 года разам з іншымі польскімі афіцэрамі Яніна Левандоўская была расстраляная ў Катыні. Так бальшавікі адпомсцілі польскаму генералу Юзафу Доўбар-Мусніцкаму.

Гісторыі баявых дзеянняў Першага польскага корпуса супраць частак чырвонай гвардыі ў раёне Рагачоў–Жлобін–Бабруйск у 1918 годзе дасюль мала вывучаная. А яна заслугоўвае больш глыбокага аналізу. Ужо той факт, што Першы корпус стаў кузняй камандных кадраў будучай польскай арміі, сведчыць пра неабходнасць такога даследавання.

На момант пачатку Першай сусветнай вайны ў Рускай імператарскай арміі служылі 119 генералаў, каля 20 тысяч афіцэраў і больш за 700 тысяч салдат рымска-каталіцкага веравызнання. У 1914 годзе з палякаў быў сфармаваны Пулаўскі легіён, а таксама стралковая брыгада, разгорнутая пазней у дывізію. Баявым хрышчэннем легіёна стала бітва з германскай арміяй пад вёскай Пакослаў. 20 мая 1915 года ў штыкавой атацы легіёну ўдалося прарваць добра ўмацаваныя нямецкія пазіцыі. За гэтую бітву салдаты і афіцэры легіёна былі ўдастоеныя высокіх узнагарод — 40 крыжоў і 40 медалёў Святога Георгія.

У студзені 1916 года ў раёне Бабруйска рускае камандаванне сфармавала Брыгаду польскіх стралкоў у складзе 4 тысяч штыкоў і накіравала яе на фронт пад Баранавічы. У кровапралітным баі, коштам жыцця 140 салдат, палякі занялі нямецкія акопы ў раёне вёскі Торчыцы. Далей зноў адбылася рэарганізацыя гэтага вайсковага фарміравання і пашырэнне яго да памеру дывізіі. Пасля паспяховых баявых дзеянняў супраць аўстрыйскіх войскаў у Галіцыі дывізія ў жніўні 1917 года была перадыслакаваная ў Быхаў і ўключаная ў склад Першага польскага корпуса.

Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года камандаванне корпуса адмовілася падпарадкавацца загаду бальшавікоў аб правядзенні выбараў у палкавыя і карпусныя камітэты і прыняло рашэнне аб перадыслакацыі ў раён Рагачоў–Жлобін–Бабруйск. Першая стралковая дывізія генерала Густава Астаповіча ўжо знаходзілася ў Беларусі. Другая дывізія пад камандаваннем генерала Юзафа Шамоты, накіроўваючыся ў раён канцэнтрацыі корпуса, была атакаваная бальшавікамі і панесла значныя страты. Трэцяя дывізія пад камандаваннем генерала Вацлава Івашкевіча

рухалася з Ельні ў раён Бабруйска і праз 12 дзён дасягнула месца прызначэння.

Частка падраздзяленняў дывізіі размясцілася ў горадзе, іншыя знаходзіліся ў яго ваколіцах. Туды ж падцягнуліся 1-ы ўланскі полк і 1-ы інжынерны полк. Артылерыйскія часткі корпуса, якія фарміраваліся пад Віцебскам да канца 1917 года, таксама накіраваліся ў бок Бабруйска. Пераадолеўшы 300-кіламетровы марш-кідок па 30-градусным марозе і ў пастаянных сутычках з атрадамі бальшавікоў, яны ўсё ж дайшлі да месца дыслакацыі.

З Адэсы ў Беларусь ажыццявіў паспяховы пераход са сваім эскадронам будучы генерал і герой абароны Брэсцкай крэпасці ў верасні 1939-га Канстанцін Плісоўскі. Дарэчы, адным з афіцэраў Першага польскага корпуса быў і Уладзіслаў Андэрс, які праявіў сябе падчас вераснёўскай кампаніі 1939-га, вытрымаў усе выпрабаванні савецкага палону і стаў на чале польскіх узброеных сіл на Захадзе.

Цікавым фактам з'яўляецца тое, што ў польскіх частках Рускай імператарскай арміі назіралася вялікая колькасць афіцэраў і малодшых камандзіраў. У сувязі з гэтым у снежні 1917-га Вышэйшы савет польскіх узброеных сіл прыняў пастанову аб фарміраванні новага віду вайсковых падраздзяленняў — афіцэрскіх легіёнаў. Апошнія, на думку камандавання, павінны былі стаць рэзервам афіцэрскіх кадраў, а таксама адборнымі баявымі фарміраваннямі па тыпу ўдарных, штурмавых частак рускага войска.

7 студзеня 1918 года па загадзе Польскага ваеннага камітэта афіцыйна пачалося фарміраванне гэтых падраздзяленняў. Меркавалася стварыць кавалерыйскі, пяхотны і артылерыйскі легіёны, кожны ў складзе 192 афіцэраў, 48 салдат і 7 лекараў.

Уніформа для легіёнаў была распрацаваная пазней, а спачатку салдаты і афіцэры абавязаны былі насіць мундзіры палкоў, у якіх служылі да гэтага. Галоўным інспектарам гэтых падраздзяленняў быў генерал-паручнік Сурын, але неўзабаве яго змяніў падпалкоўнік Хабіх. Камандаванне легіёнаў адчувала значныя фінансавыя цяжкасці. 28 снежня 1917 года Хабіх звярнуўся з просьбай да землеўладальнікаў

і шляхты Беларусі аб аказанні фінансавай дапамогі польскім часткам.

У Мінску па ініцыятыве дваран каталіцкага веравызнання было створана таварыства сяброў польскага салдата. 1-ы афіцэрскі легіён пад камандаваннем палкоўніка Канажэўскага быў накіраваны ў Рагачоў, 2-гі (артылерыйскі) пад камандаваннем падпалкоўніка Хабіха — у раён Бабруйска. Кавалерыйскі легіён быў высланы ў Чырвоны Бераг.

Усяго ў складзе Першага корпуса тады налічвалася каля 24 тысяч салдат і афіцэраў. Камандаваў корпусам кадравы вайсковец, за плячыма якога была вучоба ў Акадэміі Генеральнага штаба, удзел у дзвюх кровапралітных войнах: Руска-японскай і Першай сусветнай, генерал-лейтэнант Рускай імператарскай арміі Юзаф Рамуальдавіч Доўбар-Мусніцкі.

12 студзеня 1918 года Доўбар-Мусніцкі адправіў галоўнакамандуючаму чырвонай гвардыі, прапаршчыку Крыленку ўльтыматум, у якім пазначыў, што калі бальшавікі не спыняць напады на польскія часткі, ён абвесціць вайну новым уладам. У адказ Саветы напалі на польскі артылерыйскі дывізіён у Крынках пад Віцебскам. Тады польскія часткі перайшлі да актыўных баявых дзеянняў супраць бальшавікоў. Першай маштабнай ваеннай аперацыяй польскіх вайскоўцаў стаў захоп Бабруйскай крэпасці — найважнейшага ў ваенна-стратэгічным плане апорнага пункта праціўніка, і да таго ж найбуйнейшага склада ўзбраення і тэхнікі.

Вось як ацэньвалася значэнне крэпасці на Бярэзіне ў адным з польскіх данясенняў: «*У крэпасці Бабруйск размяшчаліся значныя запасы фуражу, харчавання, адзення, сёдлаў, калючага дроту, медыцынскіх прэпаратаў. На інжынерных складах знаходзіліся аўтамабілі былых 2-й і 10-й рускіх армій, 40 тысяч пудоў пораху, мільён снарадаў і іншых выбуховых рэчываў. У крэпасці знаходзілася адна з самых магутных у Еўропе радыё-тэлеграфічных станцый, у якой можна было пачуць дэпешы з Эйфелевай вежы ў Парыжы, з Масквы, з Італьянскага фронту і г. д.*».

У ноч з 2 на 3 лютага 1918 года пачалася аперацыя па захопу горада і крэпасці польскімі часткамі. На станцыю

Ясень быў высланы ўзвод з 2-га афіцэрскага легіёну, каб затрымаць высланыя з Мінска ў Бабруйск падраздзяленні бальшавікоў. У самой жа крэпасці галоўныя падзеі разгортваліся каля Форта Вільгельма. Для яго захопу польскае камандаванне вылучыла два ўзводы з афіцэрскага легіёна і 30 салдат з 7-га стралковага палка. Камандаваў аперацыяй падпалкоўнік Хабіх.

У 4 гадзіны раніцы Форт Вільгельма быў узяты польскімі часткамі без адзінага стрэлу. Спецыяльна навучаныя афіцэрскія атрады лёгка нейтралізавалі ахову форта. У палон былі захопленыя 12 чырвонагвардзейцаў. Польскімі трафеямі сталі 5 кулямётаў, 20 вінтовак і вялікая колькасць іншай зброі. Адначасова з гэтай аперацыяй была ўзята і вежа Апермана.

Жорсткі бой паміж бальшавікамі і «легіянерамі» разгарнуўся каля дэпо пажарнай службы, але перавага сіл была ўжо на польскім баку, і хутка ўвесь горад быў у руках Першага польскага корпуса. Неўзабаве ў Бабруйск прыехала і камандаванне корпуса на чале з генералам Доўбар-Мусніцкім. Пасля заняцця горада палякам прыйшлося весці баявыя дзеянні, знаходзячыся практычна ў поўным атачэнні. Бальшавікі паставілі сваім войскам задачу: любым коштам знішчыць «польскіх легіянераў».

Была зроблена паветраная атака Бабруйскай крэпасці. Бамбардзіроўшчык «Ілля Мурамец» скінуў бомбы на форт «Фрыдрых Вільгельм». Аднак ад масіраванай бамбёжкі Бабруйска «чырвоныя» адмовіліся. Відаць, у іх штабе ўсё ж разумелі, што гэта прывядзе да вялікага пажару і гібелі шматлікіх грамадзянскіх асоб.

Бальшавікі пачалі мабілізацыю мясцовага насельніцтва ў атрады Чырвонай гвардыі. Акрамя гэтага, паўсюдна сталі фарміравацца партызанскія атрады. У адной з дэпешаў, накіраваных з Мінска камісару Слуцкага рэўкома Болатаву адзначалася: «*Неадкладна пачынайце арганізоўваць сялянскія партызанскія атрады ў паветах губерні. Зброю для іх атрымаеце на складах у Слуцку*».

Камандаванне польскага корпуса ўсведамляла, што толькі актыўнымі дзеяннямі можна пазбегнуць поўнай бла-

кады і знішчэння. Для таго, каб засцерагчы асіповіцкі кірунак, Доўбар-Мусніцкі вырашае правесці неардынарную па сваёй дзёрзкасці дыверсійную аперацыю. У ноч з 14 на 15 лютага 1918 года ў бок Асіповічаў з Бабруйска накіроўваюцца 2 дыверсійныя групы па дзесяць чалавек кожная. Камандзірам першай з іх быў падпаручнік Станкевіч.

Яго атрад складаўся з жаўнераў «рыцарскага легіёну». Гэта група мела задачу падарваць чыгуначныя шляхі за вёскай Татарка. З выкананнем загаду яна справілася, але на зваротным шляху палякі натыкнуліся на раз'езд чырвонагвардзейцаў. Легіянеры ўратаваліся, але ў палон да бальшавікоў патрапілі цяжка параненыя падкапітан Чашэйка-Сахацкі і харунжы Баркоўскі, якія былі забіты.

У сваю чаргу, другая група, якая складалася з салдат і афіцэраў інжынерных падраздзяленняў корпуса, мела задачу падарваць чыгуначныя шляхі непасрэдна ля Асіповічаў. 16 лютага гэты атрад на санях прыбыў у маёнтак графа Забелы ў вёсцы Дурынічы. Пераначаваўшы, легіянеры накіраваліся да Цялушы. У кожнага з іх быў рэчмяшок з выбухоўкай. Яшчэ ў Дурынічах палякі пераапрануліся ў чырвонаармейскую форму. Ля Асіповічаў дыверсійная група падзялілася на дзве часткі. Адна з іх пайшла ўздоўж чыгуначных шляхоў, якія вядуць у бок Мінска, іншая, на чале з камандзірам групы, падкапітанам Магнушэўскім, накіравалася ў бок Слуцка.

Літаральна праз дзесяць хвілін, пасля таго, як першая група польскіх разведчыкаў заклала выбухоўку, на гарызонце паказаўся пасажырскі цягнік, які ішоў з Мінска ў Асіповічы. Знішчэнне цягніка не ўваходзіла ў планы, таму легіянеры размініравалі чыгуначныя шляхі і заклалі зарад толькі пасля таго, як цягнік прайшоў. Падобны выпадак адбыўся і на Слуцкім напрамку, дзе падкапітан Магнушэўскі выцягнуў выбухоўку літаральна з-пад колаў надыходзячага лакаматыва ваеннага эшалона.

Пасля таго, як цягнікі прайшлі, дыверсанты прывялі ў дзеянне зарады. Выбухі выклікалі паніку на станцыі. Забегалі напалоханыя чыгуначнікі і салдаты, затрашчалі кулямёты. Некалькі польскіх вайскоўцаў прабраліся на станцыю

і крыкамі: «Браткі, ратуйцеся, польская кавалерыя нас абыходзіць!», зрабілі паніку ў шэрагах бальшавікоў. Пасля гэтага дыверсанты спакойна пакінулі Асіповічы і накіраваліся ў бок Цялушы. Заданне было выканана. Ужо ў Цялушы Магнушэўскі назваўся членам Бабруйскага рэўкама і загадаў выдаць яму сані, на якіх легіянеры дабраліся да маёнтка графа Забелы ў Дурынічах, дзе іх чакаў цёплы прыём і гарачая ежа.

Дарэчы, менавіта з Дурынічаў Магнушэўскі адправіў тэлеграму бальшавіцкаму каменданту Асіповічаў. Вось яе тэкст:

«Паважаны таварыш Някрасаў. Калі ласка, заплаціце сялянам вёскі Цялуша па 15 рублёў, за тое, што яны даставілі нас на месца прызначэння. Падчас наступнага нашага візіту мы вернем вам гэтыя грошы. Сёння вы пераканаліся, што палякам не трэба кровапраліцце. Пра гэта сведчыць тое, што мы не пусцілі пад адхон два цягнікі, і ўзарвалі шляхі толькі пасля таго, як цягнікі пакінулі месца выбуху. У вашым распараджэнні нядрэнныя салдаты, але служба іх, усё ж такі, не ідэальная. Да пабачэння. Легіянеры».

За жартаўлівым тонам і хлапечай бравадай выкрываецца ўздых палёгкі. Па распараджэнні рэўкама, кожны, заўважаны ў прыфрантавой паласе без спецыяльнага дазволу, павінен быў быць расстраляны без суда і следства. Штодня дзясяткі такіх прысудаў прыводзілася ў выкананне. Праведзеная палякамі аперацыя значна скавала сілы бальшавікоў і прымусіла іх на нейкі час адмовіцца ад актыўных наступальных дзеянняў.

19 лютага 1918 года легіянеры ажыццявілі паспяховае наступленне на Асіповічы, захапіўшы ў якасці трафеяў 7 палявых гармат, 70 кулямётаў і вялікую колькасць боепрыпасаў. Дарога на Мінск была адкрытая. Аб'яднаўшы намаганні з войскамі 1-га Мінскага беларускага пяхотнага палка, які стаў асновай узброеных фарміраванняў Выканаўчага камітэта Вялікай Беларускай рады Усебеларускага з'езда, польскія часткі выбілі бальшавікоў з Мінска і ўвайшлі ў горад. Пад Рагачовам і Жлобінам легіянерам удалося адкінуць непрыяцеля за Днепр.

27 лютага 1918 года ў крэпасці адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне афіцэраў і салдат корпуса. Узнагародай стала ўсталяваная загадам № 120 ад 17 лютага 1918-га ганаровая стужка польскіх нацыянальных колераў.

У сакавіку 1918 года падраздзяленні корпуса прынеслі прысягу Рэгенцкай радзе ў Варшаве — польскаму ўраду, створанаму немцамі на акупаваных польскіх землях, якія раней уваходзілі ў склад Расійскай імперыі. На тэрыторыі, якую кантраляваў корпус, стваралася мясцовая адміністрацыя, дзейнічалі суды. У красавіку 1918-га ў корпусе была ўведзена новая ўніформа. Напрыклад, чыны рыцарскіх легіёнаў насілі агульны паходны мундзір, але з чорнымі пятліцамі французскага ўзору, якія мелі малінавую выпушку і накладзеныя адзін на адну літары «L» і «R». Знакі адрознення на левым рукаве і лампасы на шараварах былі малінавыя, на касках у легіянераў мелася чорная палоска.

Увесь корпус насіў французскія «адрыянаўскія» каскі з намаляваным на іх ці зробленым з металу белым арлом. У такой форме салдаты і афіцэры корпуса ўдзельнічалі ва ўрачыстым парадзе 3 мая 1918 года, прымеркаваным да святкавання польскага дзяржаўнага свята — Дня Канстытуцыі.

Разам з тым, не варта думаць, што знаходжанне палякаў у Бабруйску было мірным і спакойным. Корпусу прыходзілася весці жорсткія баі з чырвонымі партызанамі. Пра маштабы партызанскага руху можна меркаваць па тэксце адной з тэлеграм Рэўваенсавета Заходняга фронту, у якой выказвалася просьба аб накіраванні 700 вінтовак і карабінаў у Старыя Дарогі для «ўзбраення партызан, якія змагаліся супраць польскіх акупантаў». Сяляне нападалі на раскіданыя па навакольных вёсках гарнізоны палякаў. У адказ легіянеры праводзілі карныя аперацыі, ахвярамі якіх сталі жыхары дзясяткаў вёсак Бабруйскага павета (Вялікія і Малыя Бортнікі, Жылічы і інш.).

Генерал Доўбар-Мусніцкі ўсведамляў, што гэтая братазабойчая вайна прыводзіць да гібелі мірных жыхароў. Ён разумеў, што беларусы і палякі стагоддзямі жылі на гэтых землях, і ім няма чаго дзяліць. Але палітыка ўмяшалася

ў гэты ўклад жыцця. Штаб корпуса і сам генерал выдавалі дзясяткі зваротаў да беларускіх сялян. У адным з іх, у прыватнасці, адзначалася:

«*Браты Беларусы!*

*Польская армія сфарміраваная на аснове права народаў на самавызначэнне. Нашы ваенныя транспарты падвергліся нападу. [...] Мы не адчуваем нянавісці да вас за тое, што вы ўдзельнічалі ў гэтых нападах. [...] Палякі ўжо больш за сто гадоў, пачынаючы з універсалу Тадэвуша Касцюшкі, ліквідавалі паншчыну. Яе зноў вярнуў царскі ўрад.*

*У 1861 г. шляхта літоўскіх і беларускіх губерняў першая ў Расіі звярталася з петыцыяй да Аляксандра II з прашэннем аб ліквідацыі прыгону. Ніколі палякі — народ, які ставіць свабоду вышэй за жыццё і пралівае за яе на працягу апошніх 150 гадоў сваю кроў, — не будуць імкнуцца да пазбаўлення волі сваіх братоў, з якімі жылі на адной зямлі. [...]*

*Мы гатовы дазволіць вам стварыць Беларускую раду ў Бабруйску. Мы просім ад вас толькі харчаванне і коней, якіх пазбавіў нас Крыленка.*

*Няхай жыве незалежная Беларусь!*»

Але баі працягваліся, і страты корпуса былі адчувальнымі. 25 студзеня 1918 года ў цэнтры крэпасці, каля пляца, па загадзе камандавання корпуса былі арганізаваны вайсковыя могілкі. У маі генерал Доўбар-Мусніцкі загадаў стварыць мемарыял на месцы могілак. Праектаваў яго палкоўнік інжынерных войск, будучы міністр узброеных сіл Польшчы Ян Врачынскі. Помнік уяўляў з сябе курган, узнесены да неба, які знешне нагадваў егіпецкую піраміду. У цэнтры размяшчаўся крыж, перавязаны жалезным цярновых вянком.

Польскія часткі знаходзіліся на падкантрольнай немцам тэрыторыі. Камандаванне корпуса ўступіла ў перамовы з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Генералу Юзафу Доўбар-Мусніцкаму быў пастаўлены ўльтыматум: альбо палякі эвакуіруюцца з крэпасці, пакінуўшы ўсю зброю, альбо немцы пачынаюць супраць іх баявыя дзеянні, у якіх польскі корпус, што саступае па колькасці і ваеннай моцы, будзе знішчаны. У раён Бабруйска спешна сталі сцягвацца часткі 10-й нямецкай арміі (тры корпуса).

Свой адказ на нямецкі ўльтыматум генерал агучыў перад усім гарнізонам 22 мая 1918 года. Вось яго тэкст:

*«Калі б я загадаў вам змагацца з немцамі, ведаю, што вы б усе, як адзін, пайшлі ў гэты смяротны бой, абараняючы салдацкі і афіцэрскі гонар. Немцам дорага б каштаваў гэты ўльтыматум, але і мы заплацілі б самую высокую цану. Гэтая бітва была б бессэнсоўнай прыгожай гібеллю Першага польскага корпуса. Я, як камандуючы корпусам, аддаўшы загад даць бой немцам, набыў бы славу адважнага салдата. Але за гэтую славу я не буду плаціць тысячамі вашых жыццяў. Выхадам з гэтай сітуацыі будзе не гераічная гібель корпуса, а яго эвакуацыя ў Польшчу. Хутка мы зноў збяромся разам, каб заплаціць за прычыненую ганьбу».*

Частка вайскоўцаў Першага польскага корпуса пад уплывам агітатараў Польскай Вайсковай Арганізацыі (POW) і эндэкаў не пагадзілася з рашэннем капітуляваць. Некалькі сотняў салдат і афіцэраў адправіліся на Украіну, Кубань і ў Мурманск. Туды, дзе фарміраваліся польскія часткі. Але большасць салдат і афіцэраў падпарадкаваліся загаду аб эвакуацыі. У канцы мая 1918-га часткі корпуса пакінулі тэрыторыю Беларусі.

Ужо 11 лістапада 1918 года вайскоўцы былога Першага корпуса ўрачыста сустракалі ў Варшаве Юзафа Пілсудскага. У гісторыі Польшчы пачынаўся новы перыяд, перыяд II Рэчы Паспалітай. Польшча аднаўляла свае войска. Неўзабаве пачалася польска-бальшавіцкая вайна, і ў 1919 годзе палякі вярнуліся ў Бабруйск. У бітве за горад на Бярэзіне асабліва адзначыўся 3-ці полк Велькапольскіх стральцоў, створаны па загаду Ю. Доўбар-Мусніцкага. Загінулых у 1919 годзе «велькапалян» пахавалі каля кургана «даўбурчыкаў» на тэрыторыі Бабруйскай крэпасці.

Пасля заканчэння вайны савецкія ўлады ліквідавалі «польскі» курган. Магіла класавага ворага не магла знаходзіцца там, дзе размяшчаліся часткі Чырвонай Арміі. Аднак ён не адышоў у небыццё. 1 лістапада 1932 года ў польскай сталіцы па рашэнні ветэранаў Першага польскага корпуса на Вайсковых могілках у варшаўскім раёне Павонзкі была створана паменшаная копія Бабруйскага кургана.

На гранітным надмагіллі можна прачытаць: «*Гэты помнік з'яўляецца мініяцюрай кургана, насыпанага ў Бабруйскай крэпасці на месцы агульнай магілы салдат і афіцэраў Першага польскага корпуса, якія загінулі ў баях за свабоду Радзімы ў 1917–1918 гг.*».

* * *

Прайшлі гады, змяніліся палітычныя лідары, змяніліся межы дзяржаў. Але гісторыя жыве вакол нас. Шчыра спадзяюся, што калі-небудзь у Бабруйскім краязнаўчым музеі з'явіцца асобная экспазіцыя, прысвечаная гісторыі Першага польскага корпуса. «Даўбурчыкі» гэта заслужылі.

## Польска-французскі бліцкрыг пад Бабруйскам

Першая сусветная вайна стала цяжкім выпрабаваннем для еўрапейскага кантыненту. Ваюючыя бакі спаборнічалі ў распрацоўцы зброі і ў спосабах знішчэння ворагаў. Адным з найбольш знакавых вынаходніцтваў гэтага крывавага канфлікту сталі танкі. 15 верасня 1916 года гэтыя гусенічныя монстры ўпершыню былі выкарыстаны ў баявых дзеяннях на заходнім фронце. Тады англійская танкавая атака пад Сомай выклікала страшэнную паніку ў немцаў.

Мала хто ведае, што першае выкарыстанне танкавых войскаў адбылося ў Беларусі падчас польска-бальшавіцкай вайны. Як гэта ні дзіўна гучыць, але на пачатак канфлікту з савецкай Расіяй танкавы патэнцыял польскай дзяржавы быў адным з найбольш моцных у Еўропе.

Вясной 1919 года па ініцыятыве камандуючага польскай арміяй у Францыі генерала Ю. Галера на базе французскага 505-га танкавага палка быў сфарміраваны 1-ы танкавы полк Войска Польскага. Паводле загаду ад 15 сакавіка 1919 года, вайсковая адзінка складалася з 5 ротаў, а афіцэрскія і камандзірскія пасады павінны былі заняць французскія танкісты. У чэрвені 1919 года полк прыбыў у Польшчу і раскватараваўся ў Лодзі. У склад гэтай вайсковай адзінкі ўвайшло

120 суперсучасных на той час танкаў «Рэно ФТ–17» (Renault FT–17), з якіх 75 былі з гарматным, а 45 — з кулямётным узбраеннем. Камандаваў палком маёр Жуль Марэ.

У жніўні 1919 года польска-бальшавіцкі фронт хутка рухаўся на ўсход. Пасля захопу палякамі Мінска Чырвоная Армія рыхтавалася да абароны на лініі Барысаў–Бабруйск–Шацк. Савецкая 16-я армія пад камандаваннем М. Салагуба атрымала загад трымаць населеныя пункты Даўгінаў, Валокі, Докшыцы. Бальшавікі рыхтаваліся да працяглай абароны, і нават не маглі сабе ўявіць, якую зброю супраць іх выкарыстае праціўнік. Польская другая дывізія легіёнаў займала пазіцыі на лініі Пліса–Лужкі, а на поўнач ад яе дзейнічала камбінаваная вялікапольская дывізія пад камандаваннем генерала Д. Канажэўскага.

24 жніўня 1919 года камандуючы Літоўска-Беларускім фронтам генерал-паручнік С. Шэптыцкі выдаў загад пачаць наступленне на Бабруйск 27 жніўня. Аднак з-за таго, што ў склад дывізіі Канажэўскага была аддадзена другая рота 1-га танкавага палку, якой патрабаваўся час, каб дабрацца да месца баявых дзеянняў, дата пачатку наступлення была перанесена на суткі. Ужо 18 жніўня 1919 года транспарт з танкамі пад камандаваннем капітана Жана Дзюфура выехаў са станцыі Лодзь у бок Ліды. У Ясень танкі прыбылі 27 жніўня ў 20.30.

Наступленне на Бабруйск павінна было адбывацца ў трох накірунках. Першая група войск падпалкоўніка Арнольда Шылінга павінна была фарсіраваць раку Ваўчанку і ўдарыць на Бабруйск праз вёску Панюшкавічы. Другая група пад камандаваннем палкоўніка Брызана павінна была наступаць у цэнтры праз Кісілевічы і Багушэўкі. Трэцяя група падпалкоўніка Уладзіслава Андэрса (таго самага, які ў 1941 годзе ўзначаліць польскае войска ў СССР), паводле плану, наступала на правым крыле і павінна была захапіць бабруйскія масты.

Бабруйск абаранялі 67-ы і 68-ы стралковыя палкі 8-й пяхотнай дывізіі Чырвонай Арміі, два батальёны маракоў, 3 бронецягнікі, 4 гарматы, некалькі браневікоў, 25 кулямётаў. Усяго ў горадзе на Бярэзіне знаходзіліся

2500 чырвонаармейцаў, якія занялі акопы на старых рускіх абарончых пазіцыях каля ракі Ваўчанкі.

Танкі рушылі з Ясеня а 23-й гадзіне. Марш атрымаўся даволі цяжкі, таму што тэрыторыя баявых дзеянняў была багністай. Значная колькасць меліярацыйных равоў стварала цяжкасці для французскіх танкістаў. Беларускія сяляне масава выходзілі на дарогі, каб уласнымі вачыма ўбачыць новы від зброі.

З Баранавічаў танкі рушылі ў накірунку Кісялевічаў. Калона «Рэно» наблізілася да ракі Ваўчанкі. І тут па ёй пачалі страляць гарматы з бальшавіцкага бронецягніку, які знаходзіўся каля вёскі Бібкаўшына. Адначасова французаў атакавалі чырвонаармейцы, абстрэльваючы танкі з кулямётаў. На падтрымку танкам ішла польская пяхота з 4-га палка Вялікапольскіх стралкоў.

Першы танкавы ўзвод рушыў у напрамку на поўнач ад дарогі Баранавічы–Валожын, а два іншых накіраваліся на поўдзень. Танкі, узброеныя гарматамі, абстрэльвалі пазіцыі савецкай артылерыі, а кулямётныя — сканцэнтравалі агонь па акопах, у якіх заселі спалоханыя чырвонаармейцы. Хутка ФТ–17 дайшлі да ракі Ваўчанкі, аднак абрывісты бераг не дазволіў адразу фарсіраваць водную перашкоду. «Рэно» развярнуліся і пачалі абстрэльваць адступаючых бальшавікоў.

Адзін з танкавых узводаў усё ж знайшоў зручнае для пераправы месца і, аказаўшыся на іншым беразе, пачаў флангавы абстрэл савецкіх пазіцый. Пры гэтым французскія танкі прарвалі пяць шэрагаў ліній калючага дроту і зрабілі праход для пяхоты. Чырвонаармейцы пачалі здавацца ў палон. Палякі працягвалі пераслед адступаючых, аднак танкі вымушаны былі спыніцца. Аказалася, што два з іх моцна пашкоджаныя, а дзве другія машыны пайшлі пад ваду па самую вежу.

Пакуль танкісты разбіраліся з пашкоджанымі машынамі і спрабавалі выцягнуць затопленыя танкі, польскія сапёры рамантавалі мост праз Ваўчанку. Аднак тут палякаў атакавалі савецкія бронеаўтамабілі. Яны з кулямётаў абстралялі сапёраў. Палякі накіравалі да моста некалькі танкаў. Адзін з іх, пад'ехаўшы да моста, стрэліў па браневіку. Снарад тра-

піў дакладна ў цэль. Савецкі бронеаўтамабіль выбухнуў. Другая машына адступіла. Хутка мост быў адрамантаваны, і «Рэно» рушылі даганяць пяхоту.

Пад Семкавым польскую пяхоту затрымаў агонь савецкіх кулямётаў. Здавалася, што польскае наступленне было затрымана, але з'яўленне танкаў вырашыла сітуацыю на карысць палякаў. Другі ўзвод лейтэнанта Фарэ атакаваў савецкія акопы і выбіў адтуль чырвонаармейцаў. У 5 кіламетрах ад Бабруйска танкі вымушаны былі затрымацца ў сувязі з вычарпаннем палівам. Хутка ў размяшчэнне французаў палякі накіравалі два грузавікі з палівам і харчаваннем.

У той час, калі французскія танкісты адпачывалі, польская вайсковая група палкоўніка Брэзана наблізілася да горада, хуткім ударам захапіла чыгуначную станцыю «Бабруйск» і атакавала савецкі гарнізон у крэпасці. У атацы польскім салдатам дапамагала рота танкаў «Рэно». Група падпалкоўніка Шылінга пасля цяжкай пераправы праз Ваўчанку прарвала бальшавіцкую лінію абароны і ўварвалася ў горад з іншага накірунку. Нарэшце, група падпалкоўніка Андэрса ўвайшла ў Бабруйск з боку фальварку Варновічы, захопліваючы чыгуначную станцыю «Беразіна». Канчаткова горад аказаўся ў руках палякаў 28 жніўня 1919 года.

Адступаючы ў кірунку Жлобіна і Рагачова, чырвонаармейцы знішчылі масты, што змусіла палякаў адмовіцца ад далейшага пераследу праціўніка. Польскія трафеі падчас баёў за Бабруйск былі значнымі: 500 ваеннапалонных, дзве гарматы, 35 чыгуначных вагонаў, шмат кулямётаў і вінтовак. Аднак у баях пад Бабруйскам і самі палякі панеслі адчувальныя страты. Падчас адной з контратак чырвонаармейцы здолелі захапіць два французскія танкі. Лёс іх экіпажаў і зараз не вядомы.

За ўдзел у баях за Бабруйск камандзір 1-га танкавага батальёну маёр Альбер Маршан, камандзір танкавай роты капітан Жан Дзюфур і камандзір узвода падпаручнік Фердынанд Браке былі ўзнагароджаны Крыжамі мужных. Пасля баёў на Бярэзіне французы ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях пад Дынабургам. Хутка пасля гэтага французскія экіпажы вярнуліся на радзіму, перадаўшы свае машыны палякам.

...У 2013 годзе Польшча атрымала ў дар ад Афганістана стары танк «Рэно ФТ–17», які доўгі час знаходзіўся каля будынку Міністэрства абароны ў Кабуле. Пасля дакладнага аналізу баявой машыны, амерыканскія гісторыкі адзначылі, што, хутчэй за ўсё, гэты танк быў адным з тых, якія Францыя накіравала ў Польшчу ў 1919 годзе. Некалькі гэтых машын трапіла ў рукі бальшавікоў пад Бабруйскам у жніўні 1919-га. У 1920-я гады маладая дзяржава Саветаў мела добрыя палітычныя адносіны з Афганістанам. Хутчэй за ўсё, французскія танкі сталі падарункам для афганскага шаха.

## Янкі супраць конніцы Будзённага

Падчас польска-бальшавіцкай вайны 1920 года на баку ІІ Рэчы Паспалітай ваявалі амерыканскія пілоты. Адзін з іх потым стаў заснавальнікам «Pan American Airways» і рэжысёрам фільму «Кінг-Конг».

У 1919 годзе ў Парыж прыбыла польская вайсковая місія на чале з генералам Тадэвушам Развадоўскім. Ён правёў перамовы з камандуючым Амерыканскіх экспедыцыйных сіл у Францыі генералам Джонам Першынгам і атрымаў папярэднюю згоду на ўдзел амерыканскіх добраахвотнікаў у вайне супраць бальшавікоў. Аднак супраць гэтага выступала кіраўніцтва Міністэрства вайсковых спраў Польшчы на чале з генералам Казімірам Саснкоўскім. У Варшаве спасылаліся на фінансавыя цяжкасці ў краіне і псіхалагічныя асаблівасці амерыканскіх салдат.

Капітан Мэрыян Купер, які знаходзіўся ў Польшчы ў якасці вайсковаганазіральніка, прадставіў праект стварэння амерыканскай авіяэскадрыллі ў складзе Войска Польскага. Нягледзячы на ўзрост (у 1919 годзе капітану Куперу было толькі 25 гадоў) амерыканец быў прафесійным вайскоўцам. Ён ужо паспеў паўдзельнічаць у баявых дзеяннях супраць Панча Вілі ў Мексіцы, а з 1917 года змагаўся супраць немцаў у Еўропе ў складзе 20-га бамбавальнага дывізіёну. У верасні 1918 года самалёт Купера збілі, ён трапіў у нямецкі палон і быў адпушчаны пасля заканчэння вайсковых дзеянняў.

Нарэшце, пасля размовы з вайсковым аташэ ЗША Хэтры Хоўландам і амбасадарам Польшчы ў ЗША Казімірам Любамірскім у жніўні 1919 года ў гатэлі «Рыц» у Парыжы 8 амерыканскіх пілотаў падпісалі кантракты аб службе ў Войску Польскім. Гэта былі: маёр Сэдрык Фонт ле Рой, капітан Мэрыян Купер, паручнік Джордж Гроўфард, паручнік Эдвард Корсі, паручнік Карл Кларк, падпаручнік Эдвін Ноўбл, паручнік Кенет Шрусберы і капітан-назіральнік Артур Кэлі. Кантракты прадугледжвалі, што амерыканцы атрымліваюць усе правы і прывілеі афіцэраў польскай арміі.

10 верасня 1919 года Міністэрства вайсковых спраў Польшчы пагадзілася на стварэнне амерыканскай малой паветранай эскадрыллі пад камандаваннем маёра Фонт ле Роя. Янкі дабіраліся да месца новай дыслакацыі тайна, за ўласны кошт, каб не прыцягваць залішнюю ўвагу. Ужо ў кастрычніку да першапачатковай групы далучыліся прыбыўшыя з Лондану паручнік Эдмунд Пайк Грэйвс і паручнік Эліат Уільям Чэс.

14 кастрычніка 1919 года амерыканцы былі прыняты ў Бельведэры начальнікам польскай дзяржавы Юзафам Пілсудскім, а праз тры дні былі накіраваны ў Львоў, дзе ўвайшлі ў склад 7-й авіяэскадрыллі пад камандаваннем паручніка Людаміла Райскага, будучага камандуючага вайсковай авіяцыяй II Рэчы Паспалітай. Разам з амерыканцамі ў паветраную эскадрыллю ўваходзілі і польскія пілоты. Ужо 18 кастрычніка Людаміл Райскі перадаў паўнамоцтвы камандзіра маёру Сэдрыку Фонт ле Рою. Хутка баявая адзінка стала называцца 7-я баявая эскадрылля імя Тадэвуша Касцюшкі.

Новае камандаванне распачало трэніровачныя палёты. Асноўнымі самалётамі былі «Альбатрос D III» і «Ансальдо А. 1 Баліла». Эскадрылля была падзелена на два звяны, адным з якіх камандаваў Эдвард Корсі, а другім — Мэрыян Купер. Паручнік Эліат Чэс спраектаваў эмблему эскадрыллі, якая спалучала амерыканскія і польскія сімвалы. У сакавіку 1920 года вайсковыя эскадрыллі былі далучаны да наземных пяхотных частак. Так амерыканскія пілоты апынуліся ў распараджэнні камандавання 6-й пяхотнай арміі Войска Польскага.

У красавіку 1920 года самалёты 7-й авіяэскадрыллі пачалі ажыццяўляць выведвальныя вылеты на блізкія і далёкія (глыбокія) дыстанцыі. Галоўнай мэтай выведкі было назіранне за чыгуначнымі шляхамі і перамяшчэннем буйных савецкіх вайсковых адзінак. Акрамя гэтага, амерыканцы выконвалі функцыю сувязных паміж штабам і франтавымі часткамі.

Першай маштабнай баявой аперацыяй для «касцюшкаўцаў» была бамбардзіроўка чыгуначнай станцыі Цуднаў. Амерыканцы падляцелі да цэлі вельмі нізка. Бальшавікі іх заўважылі толькі ў апошні момант, аднак было ўжо позна, і польскія бомбы трапілі ў цэль.

Падчас баёў за Жытомір амерыканскія пілоты паспяхова атакавалі часткі Чырвонай Арміі, якія адыходзілі з горада. 26 красавіка «сямёрка» бамбіла бальшавікоў у Бердычаве. У адным з баёў падчас атакі на бронецягнік цяжка быў паранены падпаручнік Ноўбл, а паручнік Кларк быў паранены падчас жорсткай пасадкі.

У маі «касцюшкаўцы» былі перадыслакаваныя ў Белую Царкву, дзе знаходзіліся ў распараджэнні камандавання 13-й пяхотнай дывізіі. 10 мая паручнік Джордж Гроўфард у раёне Чаркас атакаваў групу савецкіх судоў.

Хутка распачалося савецкае наступленне. Часткі Чырвонай Арміі падышлі да Белай Царквы, што прымусіла амерыканцаў эвакуявацца на захад. Войска Польскае трымалася з апошніх сіл, аднак перавага была на баку чырвоных. У гэтай цяжкай для польскіх частак сітуацыю вялікую падтрымку ім аказвалі амерыканскія пілоты.

У адным з данясенняў камандуючага 13-й польскай пяхотнай дывізіі было запісана: «*Амерыканцы змагаюцца як чэрці. Нядаўна іх камандзір атакаваў бальшавікоў з тылу і агнём кулямётаў рассеяў. Без дапамогі амерыканскіх пілотаў «чырвоныя» даўно б нас пабілі*».

Аднак 5 чэрвеня 1920 года чырвоная конніца Сямёна Будзённага прарвала польскую абарону і прымусіла палякаў адступаць. 7-я эскадрылля імя Тадэвуша Касцюшкі была вымушана перадыслакавацца ў Жытомір, а пазней — у Львоў.

26 ліпеня ў раёне Броды, Луцк, Дубно быў збіты самалёт капітана Мэрыяна Купера. Сам пілот быў змешчаны ў лагер для ваеннапалонных, дзе знаходзіўся 9 месяцаў. Там з ім сустракаўся Ісаак Бабель. Пасля няўдалай спробы ўцёкаў амерыканца накіравалі на будоўлю чыгункі пад Маскву. Аднак адтуль ён усё ж здолеў збегчы і праз Латвію і Літву дабраўся да Польшчы. Юзаф Пілсудскі асабіста прыняў уцекача і ўзнагародзіў яго Крыжам «Віртуці Мілітары». Вярнуўшыся ў ЗША, ён стаў адным з заснавальнікаў «Pan American Airways», а пазней звязаў сваё жыццё з кіно і стаў рэжысёрам знакамітага «Кінг-Конга» (1933 год).

У жорсткіх сутычках і баях 7-я эскадрылля несла страты. У раёне Луцка быў паранены Сэдрык Фонт ле Рой. 15 ліпеня каля вёскі Звяроўцы былі збітыя і загінулі капітан Артур Кэлі і назіральнік, паручнік Станіслаў Скажынскі. Справа ў тым, што бальшавікі прыстасаваліся да тактыкі вядзення бою на нізкіх высотах, якой карысталіся амерыканскія пілоты. Будзёнаўцы заманьвалі амерыканцаў на спецыяльна прыгатаваныя засады, дзе кулямёты ва ўпор расстрэльвалі самалёты. У адну з такіх засад патрапіў і сам Сэдрык Фонт ле Рой, аднак здолеў пасадзіць моцна пашкоджаны самалёт на сваім аэрадроме.

У жніўні 1920 года склад 7-й эскадрыллі папоўнілі пілоты: паручнік Айлс Мэйтлэнд, паручнік Джон Спікс і капітан Джон МакКэлам. 16 жніўня 1920 года кавалерыі Будзённага ўдалося зноў прарваць польскую абарону і падыйсці да Львова на адлегласць 40 кіламетраў. Камандзір эскадрыллі Сэдрык Фонт ле Рой прыняў рашэнне атакаваць чырвоных адзінкавымі самалётамі.

У адным з данясённяў Сямён Будзённы пісаў, што *«палякі выкарыстоўваюць у барацьбе з кавалерыяй самалёты. Нашы войскі з-за гэтага нясуць вялікі страты»*. Падчас баёў за Львоў амерыканцы ажыццявілі 190 баявых вылетаў і скінулі на пазіцыі бальшавікоў каля 10 тон бомб. На пачатку верасня «касцюшкаўцы» атакавалі бальшавіцкую кавалерыю пад Хрубешовам. Усяго на працягу 1920 года пілоты 7-й эскадрыллі імя Касцюшкі выканалі 402 баявых вылеты.

Вясной 1921 года ў Львове адбыліся ўрачыстыя праводзіны амерыканцаў, якія скончылі сваю службу ў Войску Польскім. Усе яны былі ўзнагароджаны Крыжамі «Віртуці Мілітары» і Крыжамі мужных. У Львове была створана брацкая магіла амерыканскіх пілотаў, што загінулі падчас вайны. На магіле быў збудаваны манумент. Помнік перажыў Другую сусветную вайну, аднак у 1971 годзе разам з іншымі польскімі пахаваннямі на Могілках абаронцаў Львова быў знішчаны савецкімі ўладамі. Аднавілі помнік толькі ў 2005 годзе.

# Таямніца польскага палону

Падчас польска-бальшавіцкай вайны на тэрыторыі Беларусі, у Брэсцкай і Бабруйскай крэпасцях, польскія ўлады стварылі лагеры для ўтрымання палонных чырвонаармейцаў.

Голад і хваробы, што панавалі ў іх, а таксама жорсткае стаўленне адміністрацыі рабілі сваю справу. У жніўні і верасні 1919 года дзве моцныя эпідэміі дызентэрыі і сыпнога тыфу практычна спустошылі лагер у Брэсцкай крэпасці. У пачатку жніўня быў пастаўлены рэкорд смяротнасці, калі ў адзін дзень ад дызентэрыі памерлі 180 чалавек.

Вось што гаварылася ў дакладзе ўпаўнаважаных камітэта Чырвонага Крыжа па выніках іх візіту ў лагер у Брэсцкай крэпасці: «*Ад каравульных памяшканняў, таксама, як і ад былых стайняў, у якіх размешчаны ваеннапалонныя, зыходзіць страшэнны пах. Палонныя зябка ціснуцца вакол імправізаванай печкі, дзе гараць некалькі паленцаў, — адзіны спосаб абагравання. Ноччу, хаваючыся ад першых халадоў, яны цеснымі радамі ўкладваюцца групамі па 300 чалавек у дрэнна асветленых бараках, на дошках, без матрацаў і коўдраў*».

Упаўнаважаныя прыйшлі да высновы, што з-за сумеснага цеснага пражывання здаровых ваеннапалонных і заразных хворых, недастатковасці харчавання, пра што сведчылі шматлікія выпадкі знясілення, ацёкаў, голаду, на працягу трох месяцаў знаходжання ў крэпасці, лагер у Брэст-Літоў-

ску ў вельмі хуткім часе можа ператварыцца ў некропаль. І сапраўды, смяротнасць з 7 верасня па 7 кастрычніка склала: ад дызентэрыі — 675 (1242 хворых), ад сыпнога тыфу — 125 (614 хворых), ад зваротнага тыфу — 40 (1117 хворых), ад знясілення — 284 (1192 хворых), за ўсё — 1124 (4165 хворых).

Не менш страшныя падзеі адбываліся і ў Бабруйску. У канцы жніўня 1919 года пасля жорсткіх баёў з ужываннем танкаў палякі авалодалі горадам і крэпасцю Бабруйск. Велізарная цытадэль на Бярэзіне ўжо не ўяўляла якога-небудзь важнага стратэгічнага значэння. Па сутнасці гэта быў вялікі склад ваеннага рыштунку і боепрыпасаў.

У кастрычніку 1919 года бальшавіцкае камандаванне падрыхтавала план наступлення 16-й арміі на Бабруйск. 71-ы і 72-гі пяхотныя палкі Чырвонай Арміі вялі кровапралітныя баі з палякамі на рацэ Бярэзіна і пад вёскай Пясочная. Планавалася, што да 18 кастрычніка 1919 года 71-ы полк пераправіцца праз раку і выб'е палякаў з горада.

Але план бальшавіцкага наступу стаў вядомы польскаму камандаванню. На месцах магчымых пераправаў праз раку часткі Войска Польскага зладзілі засады. Калі чырвонаармейцы пачалі пераправаляцца, іх з усіх бакоў пачалі абстрэльваць з кулямётаў і гармат. Акрамя гэтага, палякі здолелі зайсці ў тыл бальшавіцкай 8-й пяхотнай дывізіі і акружылі яе. 19 кастрычніка 1919 года 71-ы чырвонаармейскі пяхотны полк быў канчаткова разбіты, а большасць яго салдат апынулася ў польскім палоне.

Звернемся да ўспамінаў камандзіра аднаго з аддзяленняў разбітага палка Міхаіла Караля: «*Калі я прыйшоў у прытомнасць, то ўбачыў шмат сваіх аднапалчан, у тым ліку і камандзіра нашага батальёна, чырвонага афіцэра таварыша Малініна. Усе мы былі распранутыя дагала. На чырвонаармейцах нават не было ніжніх кашуль, толькі кальсоны. Спалі мы на голай цэментнай падлозе. Шкла ў вокнах казэмата не было. Яны былі выбітыя і заставаліся толькі жалезныя краты. Кармілі нас адзін раз на суткі. У асноўным паілі «кавай» (так адміністрацыя лагера называла памыі, якія разлівалі ў кацялкі.* — І. М.*). Спаць мы кладліся кучай, каб абаграваць целамі адзін аднаго*».

Праз некалькі дзён у каземат прыйшоў польскі афіцэр у суправаджэнні падначаленых і загадаў палонным пастроіцца ля сцяны. Ён прапанаваў вязням уступіць у добраахвотніцкія фарміраванні для барацьбы з бальшавікамі, але жадаючых не знайшлося. Палкоўнік раззлаваўся. Палякі накінуліся на палонных і сталі іх збіваць прыкладамі вінтовак.

Рэгулярна ахова крэпасці выбірала сабе са зняволеных ахвяру і тут жа на вачах іншых палонных да смерці збівала яе дубовымі палкамі. Вельмі хутка сталі з'яўляцца вар'яты. Яны накідваліся на сваіх братоў па няшчасці і душылі іх, мабыць, думаючы, што гэта палякі. Зрэшты, сярод польскіх вайскоўцаў знаходзіліся і такія, якія спачувалі вязням, давалі ім ежу, перадавалі іх запіскі на волю.

У адзін з дзён ваеннапалонныя чырвонаармейцы вырашылі падняць паўстанне. Аднойчы ў крэпасць прывезлі снарады. Чыгуначная станцыя Бярэзіна знаходзілася побач з казармамі цытадэлі. Разгружаць эшалон павінны былі палонныя. Як толькі чырвонаармейцаў вывелі з казематаў, яны накінуліся на ахову. Але што маглі зрабіць знясіленыя людзі супраць узброеных салдат... Вельмі хутка пляц стаў пакрывацца целамі застрэленых і заколатых штыкамі палонных. Некаторым чырвонаармейцам усё ж удалося выбегчы праз уязную браму і схавацца. Сярод іх быў і Міхаіл Кароль.

Захаваліся і іншыя ўспаміны пра лагер у Бабруйску. Напрыклад, камандзір аднаго з партызанскіх атрадаў М. А. Ляўкоў у сваім данясенні камандаванню Чырвонай Арміі 30 студзеня 1920 года пісаў, што ў крэпасці амаль кожны дзень памірае па 40–50 ваеннапалонных ад тыфу, недаядання і нечалавечых умоў утрымання.

У некаторых казематах былі зроблены нары. У іншых палонныя вымушаны былі спаць на каменнай падлозе. Мёртвых вязняў з казармаў не выносілі да тых часоў, пакуль не былі падрыхтаваныя месцы для брацкіх магіл. Мёртвыя ляжалі разам з жывымі. Як адзначае беларускі гісторык А. Ненадавец, пасля паўстання ў крэпасці польская адміністрацыя вырашыла тых палонных, якія яшчэ заставаліся ў жывых, вывезці ў Французскае Конга і прадаць у якасці ра-

боў. Толькі ў 1934 годзе некалькім былым ваеннапалонным атрымалася вярнуцца на радзіму, у Бабруйск.

Мала хто ведае, што перад адыходам з Бабруйска палякі замініравалі частку крапасных будынкаў і месца, дзе знаходзіўся лагер для палонных чырвонаармейцаў. Аб гэтым у сваіх успамінах пісаў урач М. Хазанаў, які падчас польскай акупацыі горада працаваў у Бабруйскім санітарным атрадзе.

Аб падзеях, якія адбываліся ў крэпасці ў 1919–1920 гадах, да сённяшняга дня нагадваюць брацкія магілы ў крэпасці. У 1927 годзе на месцы пахавання замучаных у лагеры чырвонаармейцаў быў пастаўлены помнік.

## Трагедыя бальшавіцкага палону

Паводле савецкіх і польскіх дадзеных, у бальшавіцкі палон падчас вайны 1920 года трапіла ад 30 да 50 тысяч польскіх вайскоўцаў. Лёс значнай колькасці гэтых людзей да сённяшняга дня не вядомы.

Дзясяткі тысяч польскіх вайскоўцаў былі размешчаны ў спецыяльных лагерах на тэрыторыі Расіі. Дакладна вядома, што, у адпаведнасці з дамовай паміж Польшчай, Расіяй і Украінай аб рэпатрыяцыі і абмене ваеннапалоннымі, бальшавікі павінны былі перадаць Польшчы 40 тысяч салдат і афіцэраў Войска Польскага, якія знаходзіліся ў савецкіх лагерах, аднак у выніку ў Польшчу прыехалі 25,5 тысячы былых ваеннапалонных польскіх грамадзян.

У лік польскіх вязняў бальшавіцкіх канцлагераў уваходзілі і жаўнеры 5-й дывізіі польскіх стралкоў, сфарміраванай у Сібіры з былых жаўнераў аўстра-венгерскай арміі перыяду Першай сусветнай вайны. Частка з гэтых салдат трапіла ў рукі бальшавікоў у баях, іншыя здаліся чырвонаармейцам ля Краснаярска (прыкладна 8–10 тысяч чалавек).

Да ліку «польскіх» ваеннапалонных трэба далучыць і былых жаўнераў войска Станіслава Булак-Балаховіча, пятлюраўцаў і прадстаўнікоў іншых антысавецкіх вайсковых фармацыяў, якія змагаліся супраць Саветаў на баку Польшчы і якіх бальшавікі адносілі да «жаўнераў панскай Польшчы».

У Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі захоўваецца дакумент, у якім адзначаецца, што ў Тамбоўскім лагеры для ваеннапалонных знаходзіліся «балахоўцы», якіх адміністрацыя лагеру адносіла да польскіх ваеннапалонных. Гэты факт дае нам падставы сцвярджаць, што сярод ваеннапалонных польскіх вайскоўцаў маглі быць і ўраджэнцы нашай краіны.

Узятыя ў палон на Заходнім фронце польскія вайскоўцы часцей за ўсё накіроўваліся ў разведаддзел дывізіі на допыт, а адтуль — у асаблівы аддзел для рэгістрацыі. Пазней іх адпраўлялі ў канцэнтрацыйныя лагеры для ваеннапалонных. На тэрыторыі савецкай Расіі знаходзілася каля 40 канцлагераў для палонных палякаў. Найбольш вядомыя з іх Раждзественскі (Масква), Петраградскі, Растоўскі, Самарскі, Саратаўскі, Краснаярскі, Харкаўскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Смаленскі, Яраслаўскі.

Умовы ўтрымання там былі жудасныя. Галоўнай праблемай для польскіх ваеннапалонных быў голад, які ахапіў усю Расію. Гэта прымушала шматлікіх польскіх грамадзян паддавацца бальшавіцкай агітацыі і ўступаць у кампартыю і польскую Чырвоную Армію. Напрыклад, у красавіку–ліпені 1921 года ў пункце абмену ваеннапалоннымі ў Баранавічах польскай дзяржаўнай паліцыяй былі арыштаваныя 1 афіцэр, а таксама 71 падафіцэр і шараговы Войска Польскага, якія паддаліся ўгаворам бальшавікоў і сталі камуністамі.

Старыя баракі, адсутнасць цёплай вопраткі, антысанітарныя ўмовы — усё гэта спрыяла распаўсюджванню эпідэмічных захворванняў, якія масава знішчалі вязняў. У Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы захоўваецца справаздача наконт умоў, у якіх знаходзіліся жаўнеры ўзгаданай вышэй 5-й Сібірскай дывізіі.

У гэтым дакуменце сцвярджалася: «*Узятыя ў палон былі размешчаны ў Іркуцку. Тыфам хварэюць 30–40 % палонных, з якіх 20 % паміраюць. Ад тыфу памерла ад 700 да 1000 чалавек. Голад і холад правакуюць эпідэміі*».

А вось што расказваў афіцэр той жа 5-й дывізіі Антоній Глугевіч, якому ўдалося збегчы з бальшавіцкага палону: «*Нас распранулі і забралі амаль усе асабістыя рэчы. У адным*

*невялікім памяшканні знаходзіліся нары. Тут размяшчалася 180 чалавек. Прыбіральні не чысцілі. Стаяў смурод. Кожны дзень нас адпраўлялі на цяжкія працы пад моцнай аховай. Быў голад. Людзі часта паміралі падчас працы».*

Іншы жаўнер Сібірскай дывізіі Станіслаў Багдановіч так апісваў тыя падзеі: *«Нас павялі на склад, дзе ляжалі... трупы. Мы павінны былі іх складваць на сані. Целы ляжалі паўсюдна. Трэба было па трупах лезці наверх. Некалькі палонных залезлі туды і пачалі скідваць на нас мёртвыя целы. Часамі станавілася жудасна, трупы чапляліся адзін за другога рукамі, нагамі, як быццам бы не жадалі пакідаць гэты склад».*

Па меркаванні польскіх даследчыкаў, у савецкім палоне памерла і было забіта каля 5 тысяч жаўнераў і афіцэраў.

Не лепшай сітуацыя была і ў іншых канцлагерах для польскіх вайскоўцаў. Капрал Станіслаў Славінскі трапіў у палон пад Ігуменам і быў накіраваны спачатку ў распараджэння штабу 16-й бальшавіцкай арміі ў Магілёў, а пазней у лагер у Яраслаўль. *«Там (у Яраслаўлі) два канцэнтрацыйныя лагеры. № 1 знаходзіцца ў Спаскім манастыры. У ім знаходзяцца 1300 палонных, у тым ліку 300 афіцэраў арміі Калчака, № 2 размешчаны таксама ў былой царкве, і там 700 вязняў. Санітарныя ўмовы і харчаванне былі жахлівыя, у адным малым пакоі размяшчалася некалькі дзясяткаў чалавек. Вопратку не выдавалі і не змянялі. Палонных выкарыстоўвалі на цяжкіх працах. Два разы на тыдзень адбываліся мітынгі, дзе палякаў «апрацоўвалі» і заклікалі ўступаць у кампартыю»,* — успамінаў былы палонны.

Сяржант польскага войска Юзаф Анткевіч трапіў у савецкі палон ля мястэчка Пліса ў Беларусі. *«Пасля таго, як трапілі ў палон, мы пешшу ішлі да Віцебска. Там нас аддзялілі ад афіцэраў і падафіцэраў і пад аховай адправілі ў Смаленск, а адтуль у Яраслаўль. У лагеры было каля 2000 палонных. Кармілі нас кепска. Палонных выкарыстоўвалі для нашэння цяжкіх грузаў на караблі, якія плавалі па Волзе. Бальшавікі ладзілі мітынгі і заклікалі польскіх жаўнераў уступаць у Чырвоную Армію. Тыя, хто пажадаў уступіць у бальшавіцкае войска, пазней атрымлівалі пропуск у горад»,* — так апісваў тыя падзеі Анткевіч.

Польскі бок спрабаваў ратаваць сваіх палонных. Напрыклад, у лістападзе 1920 года ў Мінск прыбыла дэлегацыя, якая павінна была дапамагчы хворым палонным. У справаздачы камісіі адзначалася, што большасць людзей хварэла не адной, а некалькімі хваробамі, сярод якіх былі дызентэрыя і брушны ці сыпны тыф. Дэлегацыя прывезла ежу і адзенне. Падчас знаходжання ў Мінску польская камісія ўдзельнічала ў пахаванні памерлых жаўнераў на каталіцкіх могілках Мінска. Пасля заключэння мірнай дамовы польскія дэлегацыі рабілі інспекцыйныя паездкі і ў іншыя лагеры, у тым ліку ў Маскве, Туле, Тамбове. Камісіі адзначалі, што там былі значныя праблемы з харчаваннем, а таксама з інфекцыйнымі захворваннямі.

Польскія даследчыкі пазначаюць, што амаль 20 тысяч палонных жаўнераў Войска Польскага страцілі жыццё на месцы, дзе трапілі ў палон. Найперш знішчалі афіцэраў. Варта хаця б прыгадаць трагічны лёс давідгарадоцкага ардыната, ад'ютанта Юзафа Пілсудскага Станіслава Радзівіла, які трапіў у бальшавіцкі палон пад Кіевам і быў па-зверску забіты.

Радавы 30-га палку пяхоты Юзаф Ёнскі аказаўся ў руках бальшавікоў у жніўні 1920 года пад Хрубешовам. «*У палон тады,* — успамінаў былы ваеннапалонны, — *трапілі 800 чалавек. Афіцэраў адразу пасеклі шаблямі, а нас, жаўнераў, павезлі ў Бердычаў*». Жыхар мястэчка Сарны Уладзімір Волант быў арыштаваны «надзвычайкай» за контррэвалюцыйную дзейнасць. «*Разам са мной сядзелі два польскія афіцэры, адзін з якіх паходзіў з Мінска. 13 верасня 1920 года яны былі расстраляныя толькі за тое, што былі афіцэрамі*», — расказваў Уладзімір.

Сярод найбольш жахлівых пакаранняў было закопванне жыўцом. Пры гэтым чырвонаармейцы засыпалі зямлёй палонных так, каб была бачна рука ці нага ахвяры. Гэты знак даваў катам магчымасць зразумець, ці жывая яшчэ іх ахвяра. Любілі бальшавікі саджаць сваіх ворагаў, у тым ліку і жаўнераў Войска Польскага, на кол.

Гаворачы сёння пра трагедыю палонных чырвонаармейцаў, загінулых у польскіх лагерах, варта параўноўваць

гэты гістарычны сюжэт не з Катынскай трагедыяй 1940 года, а з лёсам польскіх салдат і афіцэраў, якія апынуліся ў бальшавіцкіх канцлагерах у 1919–1921 гадах. І ў адрозненне ад ахвяраў Стшалкава, Тухолі, Катыні і Меднага, на месцах іх смерці няма помнікаў і мемарыяльных дошак.

## Інкубатар для рэвалюцыі

Падчас польска-савецкай вайны 1920 года на тэрыторыі Беларусі бальшавікі стваралі войска з палонных палякаў. Гэтыя падраздзяленні павінны былі адыграць вырашальную ролю ў саветызацыі Польшчы. Польская Чырвоная Армія павінна была стаць ядром войска новай камуністычнай Польшчы.

Паводле дадзеных Аператыўнага ўпраўлення палявога штаба Заходняга фронту Чырвонай Арміі, на лістапад 1919 года ў руках бальшавікоў знаходзілася каля 1400 салдат і афіцэраў Войска Польскага. У сваю чаргу, на працягу 1920 года ў савецкім палоне апынулася ўжо каля 20 тысяч палякаў. Усяго ж у палоне падчас польска-бальшавіцкай вайны апынулася каля 46 тысяч вайскоўцаў Войска Польскага.

Большая частка гэтых людзей была накіравана ў лагеры для ваеннапалонных. Там іх узмоцнена апрацоўвалі, пры гэтым афіцэраў і ўнтэр-афіцэраў аддзялялі ад шараговых. Асноўную стаўку бальшавікі рабілі на салдат, як на былых рабочых і сялян.

У Расійскім Дзяржаўным вайсковым архіве захоўваецца загад камандуючага войскамі Заходняга фронту Міхаіла Тухачэўскага № 1812, аддадзены ім 15 жніўня 1920 года ў Мінску. У адпаведнасці з гэтым дакументам, войскам фронту прадпісвалася неадкладна пачаць фарміраванне І Польскай Чырвонай Арміі. У загадзе, у прыватнасці, прадугледжвалася стварэнне палявога камандавання польскага войска, запаснога стралковага палка і стралковай дывізіі па штатах, прынятых у Чырвонай Арміі. Да фармавання новых частак загадвалася прыцягнуць асобаў польскага паходжання,

адкамандзіраваных са штабоў, упраўленняў, устаноў Заходняга фронту.

Начальніку забеспячэння прадпісвалася прыняць усе меры для дастаўкі польскай арміі ўсяго неабходнага, у тым ліку і ўзбраення. Акрамя гэтага, адмысловы аддзел УЧК заняўся пошукам кандыдатур сярод польскіх ваеннапалонных на камандзірскія пасады ў новую армію. У Смаленску ў гэты час фармаваліся польскія аб'яднаныя камандныя курсы з аддзяленнем пяхоты, артылерыі, кавалерыі і інжынерных войскаў.

Туды і накіроўваліся палонныя салдаты Войска Польскага, якія знаходзіліся ў бальшавіцкіх лагерах. 4 жніўня 1920 года УЧК загадала кіраўніцтву лагераў польскіх ваеннапалонных у Яраслаўлі, Кастраме, Іванава-Вазнясенску, Ніжнім Ноўгарадзе і Разані правесці працу з «польскім кантынгентам» па пошуку кандыдатаў для навучання на курсах каманднага складу *«для барацьбы з польскай шляхтай за савецкую ўладу»*. Пасля, у лістападзе 1920 года, польскія курсы былі пераведзены ў Маскву і аб'ядналіся з Першымі Маскоўскімі каманднымі курсамі.

Пра тое, як у лагерах для польскіх ваеннапалонных ішла праца па пошуку навабранцаў у І Польскую Чырвоную Армію, мы можам прачытаць у паказаннях былых польскіх ваеннапалонных, якія захоўваюцца ў Цэнтральным ваенным архіве Польшчы.

Так, шараговы Антоній Пал успамінаў, што бальшавікі *«актыўна заклікалі ваеннапалонных палякаў уступаць у Чырвоную Армію, абяцаючы ім пры гэтым добрае абмундзіраванне і харчаванне. Чырвоныя агітатары казалі пра сем польскіх палкоў, створаных у Чырвонай Арміі»*. Агітацыя прыносіла вынікі. У лагеры, у якім утрымліваўся Пал, адразу 60 палякаў запісаліся добраахвотнікамі.

Іншы польскі ваеннапалонны, капрал Станіслаў Славінскі, які знаходзіўся ў лагеры ў Яраслаўлі, успамінаў, што кожны тыдзень для былых вайскоўцаў Войска Польскага арганізоўвалі мітынгі, на якіх выступалі члены Польскага рэвалюцыйнага камітэта (далей Польрэўкама), якія заклікалі ўступаць у бальшавіцкую польскую армію. Славінскі так-

сама падкрэсліваў, што ў структуры Чырвонай Арміі былі створаны курсы польскіх чырвоных камандзіраў, на якія Польрэўкам адбіраў людзей з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй і «добрым» сацыяльным паходжаннем. «*Сярод палонных 56 чалавек заявілі пра сваё жаданне паступіць на гэтыя курсы. Бальшавікі сабралі гэтых людзей і ва ўрачыстай абстаноўцы, з аркестрам, адправілі ў Маскву*», — успамінаў Славінскі.

Камандуючым І Польскай Чырвонай Арміяй прызначаўся начальнік 2-й стралковай дывізіі Раман Лонгва. Ён нарадзіўся ў Варшаве ў 1891 годзе. Пасля вучобы ў гімназіі Раман Войцехавіч захапіўся рэвалюцыйнай дзейнасцю, за што маладому паляку цэлы год давялося адсядзець у царскай турме. Затым была ваенная вучэльня і служба ў 66-м Бутырскім палку ў званні штабс-капітана. Пасля рэвалюцыі ў кастрычніку 1917 года Раман Лонгва камандаваў ваенным аддзелам польскага камісарыята Наркамата па справах нацыянальнасцяў РСФСР.

Падчас Грамадзянскай вайны ў Расіі ваяваў супраць войскаў генералаў Краснова і Дзянікіна, камандаваў Заходняй (55-й) пяхотнай, а затым 2-й Тульскай дывізіяй на Заходнім фронце. У ліпені 1920-га войскі пад камандаваннем Лонгвы выбілі часткі 14-й Вялікапольскай дывізіі Войска Польскага з раёна Бабруйска, а ў баях пад Брэст-Літоўскам захапілі бронецягнік.

Камдзіва адклікалі з фронту і накіравалі ў тыл — у Бабруйск, дзе даручылі стварэнне новай арміі. Менавіта ў горадзе на Бярэзіне быў размешчаны штаб 1-й польскай Чырвонай Арміі. Бальшавікі разлічвалі, што палякі са створаных імі частак стануць своеасаблівым інкубатарам падрыўных элементаў, якія знутры будуць руйнаваць асновы «панскай Польшчы». Член Рэвалюцыйнага ваеннага савета (далей РВС) Заходняга фронту Іосіф Уншліхт у адным з загадаў пісаў, што «*ў выпадку міру з Польшчай дадзеная армія дала б кадры будучых рэвалюцыйных сіл і стала б цэнтрам, вакол якога фармаваліся б сілы для будучага паўстання*».

У іншым бальшавіцкім дакуменце адзначалася, што «*ў выпадку міру польскія ваеннапалонныя, набраныя ў чырвоныя*

*часткі, за выключэннем камуністаў, могуць па ўласным жаданні ці застацца ў частках, ці з'ехаць на радзіму. Прабыўшы ў чырвоных войсках, падвергнутыя ўзмоцненай палітычнай апрацоўцы, яны, натуральна, стануць у Польшчы элементам, калі не свядома камуністычным, то, па меншай меры, узмацняць і паглыбляць рэвалюцыйны настрой сярод мас».*

14 верасня 1920 года быў выдадзены чарговы загад аб фарміраванні «чырвоных польскіх частак». У гэтым дакуменце рабілася стаўка на фарсіраванне падрыхтоўкі камандных кадраў для новых фарміраванняў.

Акрамя гэтага, прадпісвалася арганізаваць фарміраванне арміі *«шляхам вярбоўкі добраахвотнікаў з палонных палякаў»*, а таксама асобаў польскага паходжання, што служылі ў Чырвонай Арміі РСФСР. Нічога не нагадвае? Такім жа шляхам пайшло савецкае кіраўніцтва, калі ў 1943 годзе фармавала польскую армію ў СССР. Этнічных палякаў не хапала. Усе, хто мог, у тым ліку і шматлікія беларусы, былыя грамадзяне II Рэчы Паспалітай, сышлі з Андэрсам. Таму падчас Другой сусветнай вайны ў Польскую Чырвоную Армію залічалі ўсіх, хто хоць неяк быў звязаны з Польшчай.

Вернемся ў 1920 год. Ва ўжо згаданым загадзе ад 14 верасня адзначалася, што каманднай мовай новай арміі павінна была стаць польская, а вайскоўцы павінны былі атрымаць *«асаблівы галаўны ўбор з чырвонай зоркай»*. На жаль, у дакуменце не ўдакладнялася, пра што ідзе гаворка. Можна дапусціць, што бальшавікі дазволілі палякам насіць іх «фуражэркі» (пілоткі) з прымацаванай да іх чырвонай зоркай.

Адным з навабранцаў Польскай Чырвонай Арміі быў ураджэнец вёскі Усякава, Ігуменскага павета, Мінскай губерні Станіслаў Іванавіч Бабіцкі. У снежні 1969 года Станіслаў уступіў у перапіску з Галоўным палітычным упраўленнем Савецкай Арміі і ваенна-марскога флоту з мэтай атрымаць дакумент, які пацвярджае яго службу ў Чырвонай Арміі падчас польска-савецкай вайны. Адказ з Масквы не прымусіў сябе чакаць. Аказалася, што ў жніўні 1919 года Станіслаў Бабіцкі быў вайскоўцам 5-га батальёна, 1-га запаснога палка. Праз

год ён быў пераведзены ва Упраўленне начальніка сувязі 1-й польскай арміі ў якасці тэлефаніста 1-га разраду. Неўзабаве ураджэнец Ігуменшчыны быў накіраваны ў 1-ы Запасны стралковы полк I Польскай Чырвонай Арміі Заходняга Фронту. Аднак праслужыў там Бабіцкі нядоўга. Камандаванне накіравала здольнага тэлефаніста на Аб'яднаныя курсы чырвоных камандзіраў у Маскву.

Як вядома, Варшаўская бітва 1920 года скончылася не на карысць бальшавікоў, і фронт паступова адкаціўся на ўсход. Усё гэта ўнесла свае карэктывы ў працэс фарміравання Польскай Чырвонай Арміі. 16 верасня 1920 года член РВС Заходняга фронту Іосіф Уншліхт накіраваў у Бабруйск сакрэтную тэлеграму, у якой загадаў прыпыніць вярбоўку польскіх палонных у новую армію.

На пачатку кастрычніка таго ж года РВС унёс змены ў загад ад 14 верасня, прадпісваючы спыніць фарміраванне I Польскай Чырвонай Арміі. Пры гэтым бальшавікі ўсё яшчэ спадзяваліся на падрыхтоўку давераных кадраў, таму ў дакуменце пазначалася неабходнасць ажыццяўляць уліко-ва-мабілізацыйную працу ў дачыненні да ўсіх вайскоўцаў, якія валодаюць польскай мовай, а таксама працягваць падрыхтоўку малодшага каманднага складу. Нарэшце 20 лістапада 1920 года бальшавікі прынялі рашэнне расфармаваць Польскую Чырвоную Армію. Асабісты склад і інвентар прадпісвалася перадаць у распараджэнне Усерасійскага галоўнага штаба Чырвонай Арміі.

Так скончылася гісторыя бальшавіцкага польскага легіёна. 18 сакавіка 1921 года ў Рызе паміж савецкай Расіяй і Польшчай быў падпісаны мірны дагавор, які пакінуў за палякамі значную частку тэрыторыі Беларусі і Украіны.

Пасля заканчэння польска-савецкай вайны пачаўся працэс абмену палоннымі. Былыя вайскоўцы Войска Польскага, якія на працягу 1920-х гадоў вярталіся з СССР у Польшчу, траплялі пад нагляд Дзяржаўнай паліцыі. У Варшаве ведалі, што, знаходзячыся ў СССР, гэтыя няшчасныя апынуліся пад вялікім уплывам бальшавіцкай ідэалогіі. Не выключалася і магчымасць вярбоўкі польскіх ваеннапалонных савецкімі адмысловымі органамі.

Камандарм Польскай Чырвонай Арміі Раман Войцэхавіч Лонгва зрабіў кар'еру ў цэнтральным апараце Наркамата абароны СССР. Аднак у маі 1937 года быў арыштаваны і ў лютым 1938-га па прысуду Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда за ўдзел у ваеннай змове расстраляны. Як і многія ахвяры рэпрэсій, Раман Лонгва быў рэабілітаваны ў 1956 годзе.

## 1938 год. Трагедыя палякаў у БССР

Пік напружанасці ў адносінах бальшавіцкіх улад і савецкіх грамадзян польскага паходжання прыйшоўся на канец 1930-х гадоў.

На думку шматлікіх даследчыкаў, «нацыянальныя аперацыі», якія НКУС праводзіў у 1937–1938 гадах, былі звязаны з пачуццём надыходзячай вайны і злучаным з гэтым жаданнем савецкага кіраўніцтва знішчыць міфічную «пятую калону» ў краіне. У сувязі з гэтым найбольшую варожасць выклікалі менавіта асобы «польскага паходжання». Акрамя таго, савецкія ўлады імкнуліся ўстанавіць кантроль над усімі прыватнымі, не санкцыянаванымі дзяржавай кантактамі сваіх грамадзян з замежнымі краінамі. Менавіта з 1937–1938 гадоў у галовы звычайных савецкіх грамадзян пачало ўкараняцца разуменне небяспекі ўсялякіх кантактаў з замежжам.

Паводле перапісу насельніцтва 1937 года, на тэрыторыі СССР пражывала 636 220 палякаў, з якіх у УССР — 417 613, у БССР — 119 881, у РСФСР — 92 078 чалавек. У Савецкім Саюзе былі створаны польскія аўтаномныя раёны імя Ю. Мархлеўскага на Украіне і імя Ф. Дзяржынскага ў савецкай Беларусі. Дарэчы, апошні з цэнтрам у Койданава (цяпер Дзяржынск) з'явіўся ў Мінскай вобласці ў 1932 годзе і быў своеасаблівай «савецкай Польшчай» на мяжы з «панскай дзяржавай», створанай Ю. Пілсудскім. На тэрыторыі польскіх раёнаў дзейнічалі школы, выдаваліся польскамоўныя часопісы, газеты і кнігі. Аднак спачатку ў 1935 годзе быў ліквідаваны польскі раён у УССР, а праз тры гады такі ж лёс

напаткаў і раён з цэнтрам у Койданава. Па меркаванні польскіх даследчыкаў, гэты крок быў часткай «польскай аперацыі» НКУС.

У жніўні 1937 года ўсе мясцовыя органы ўнутраных спраў атрымалі загад № 00485, а крыху пазней — закрыты ліст з назвай «Аб фашысцка-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паражэнчай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай разведкі ў СССР». Аўтары апошняга дакумента спрабавалі абгрунтаваць неабходнасць правядзення рэпрэсій супраць савецкіх грамадзян польскага паходжання тым, што большасць з гэтых людзей з'яўляюцца агентамі польскіх разведорганаў. Яны нібыта стварылі мноства шпіёнска-дыверсійных груп, дзейнасць якіх накіраваная на дэстабілізацыю сітуацыі ў СССР.

У загадзе № 00485 у прыватнасці вызначаліся катэгорыі асоб, якія павінны былі быць арыштаваны. Сярод іх вылучаліся чальцы Польскай вайсковай арганізацыі (на самай справе яна спыніла сваю дзейнасць яшчэ ў 1921 годзе); былыя салдаты і афіцэры Войска Польскага, што трапілі ў бальшавіцкі палон падчас савецка-польскай вайны; палітэмігранты; былыя чальцы польскіх палітычных партый; актыўная частка мясцовых нацыяналістычных і антысавецкіх элементаў польскіх раёнаў; перабежчыкі з Польшчы, незалежна ад часу пераходу іх на тэрыторыю СССР.

Акрамя гэтага, мясцовыя органы НКУС адразу пачалі арыштоўваць асоб, якія ўваходзілі ў катэгорыю «консульскіх сувязяў» — савецкіх грамадзян, што мелі кантакты з прадстаўнікамі польскіх дыпламатычных устаноў. Нагадаю, у сталіцы савецкай Беларусі Мінску з 1924 года дзейнічала Генеральнае консульства Польшчы. Будынак дыпламатычнай установы знаходзіўся на вул. Савецкай, 84 (былой Захар'еўскай). У кастрычніку 1937 года нарком Яжоў загадаў арыштаваць усіх савецкіх грамадзян, звязаных з дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі Германіі, Японіі, Італіі і асабліва Польшчы.

У архіве КДБ Беларусі сярод іншых захоўваецца следчая справа Ваўжынца Іванавіча Радзішэўскага. Лёс гэтага чалавека заслугоўвае нашай увагі, таму што яскрава дэманструе

тое, праз што даводзілася прайсці «асобам польскага паходжання» ў Саўдэпіі.

Нарадзіўся Ваўжынец Радзішэўскі ў 1895 годзе на Віцебшчыне ў вёсцы Бушанка. Як і кожны беларускі селянін, ён займаўся земляробствам, а калі пачалася Першая сусветная вайна, паступіў на службу ў Рускую імператарскую армію, дзе служыў у 285-м пяхотным палку ў Нарве. Кастрычніцкія падзеі 1917 года аказалі ўплыў на геапалітычныя змяненні на мапе Еўропы, з якой зніклі Расійская, Нямецкая і Аўстра-Венгерская імперыі. Ім на змену прыйшлі новыя незалежныя дзяржавы, адной з якіх была Польшча. Хутка пачалася савецка-польская вайна. Фронт рухаўся на ўсход. Ваўжынец Радзішэўскі ўступіў у Войска Польскае і ўдзельнічаў у баях супраць Чырвонай Арміі. Пасля Рыжскай мірнай дамовы ён застаўся на тэрыторыі Беларусі, якая адышла да Польшчы, а яго жонка з дзецьмі — у Савецкай Расіі, на Полаччыне.

У 1923 годзе Радзішэўскі вырашыў адмовіцца ад польскага грамадзянства і нелегальна вярнуўся ў БССР. На мяжы чырвоныя памежнікі яго затрымалі, але хутка адпусцілі. Радзішэўскі вярнуўся да звыклай сялянскай працы. Хутка яго ўласная гаспадарка дасягнула даваенных паказчыкаў. Аднак праз 7 гадоў, у красавіку 1930-га, АДПУ арыштавала селяніна. Радзішэўскага абвінавацілі ў тым, што падчас савецка-польскай вайны ён быў агентам польскай разведкі і паведамляў палякам пра перасоўванні частак Чырвонай Арміі. Абвінавачвалі Ваўжынца Іванавіча і ў тым, што ён ваяваў на баку Польшчы ў атрадах С. Булак-Балаховіча. Нарэшце, Радзішэўскаму інкрымінавалася тое, што ён займаўся кантрабандай: «хадзіў» у Польшчу і хаваў у сябе кантрабандыстаў, якія прыходзілі з таго боку.

Сапраўды, у тыя няпростыя гады многія жыхары памежных з Польшчай беларускіх абласцей займаліся кантрабандай. Гэтаму спрыяла галеча, якая панавала ў Савецкай Беларусі. Дакладна вядома і тое, што Ваўжынец быў у польскім войску. Абвінавачанняў хапіла, каб Радзішэўскага асудзілі на зняволенне ў ГУЛАГу. Аднак праз некалькі гадоў яму дазволілі вярнуцца ў БССР, у Аршанскі раён. Нарэшце, напры-

канцы 1937 года Радзішэўскага арыштавалі ў апошні раз. НКУС інкрымінаваў Ваўжынцу Іванавічу тое, што «*ён у 1935 годзе перадаў польскаму консулу ў Мінску шпіёнскія дадзеныя аб дыслакацыі і колькасці частак Чырвонай Арміі ў Оршы*». Ніхто нават на задаваўся пытаннем, адкуль Радзішэўскі мог атрымаць сакрэтную вайсковую інфармацыю. Акрамя гэтага Ваўжынца Іванавіча абвінавацілі ў тым, што ва «*Ушацкім памежным раёне ён стварыў дыверсійна-паўстанчую групу*». Гэта тыповая фармулёўка, узятая са згаданага вышэй ліста наркома Яжова. У абвінаваўчым заключэнні было пазначана: «*польскі шпіён-дыверсант*».

20 лютага 1938 года Ваўжынца Радзішэўскага расстралялі ў Мінску. Пра месца яго пахавання да сённяшняга дня нічога не вядома. У лістападзе 1959 года Вайсковы трыбунал Беларускай вайсковай акругі пасмяротна рэабілітаваў гэтага чалавека. У дакуменце, які атрымалі блізкія, было пазначана, што «*справа спынена за недаказанасцю абвінавачання*».

Такіх судовых спраў супраць «польскіх шпіёнаў», «балахоўцаў», «кантрабандыстаў», «дыверсантаў» у 1937–1938 гадах у БССР былі тысячы. Усяго ў ходзе «польскай аперацыі» за перыяд з 25 жніўня 1937 года да 15 лістапада 1938-га ў БССР было асуджана 19 931 чалавек, з якіх 17 772 расстраляныя.

## Геній польскай выведкі з Віленшчыны

Сапраўдным геніем польскай выведкі ў гады Другой сусветнай вайны быў ураджэнец Віленшчыны Міхал Рыбікоўскі. За свае баявыя заслугі ён быў двойчы ўзнагароджаны Крыжам «Віртуці Мілітары». А памёр герой у Канадзе.

Рыбікоўскі нарадзіўся ў 1900 годзе ў мястэчку Раканы, што на шляху з Вільні ў Ашмяны. У маладосці Міхал актыўна ўдзельнічаў у харцэрскім руху. Пасля паступіў на службу ў толькі што створанае Войска Польскае і прымаў удзел у польска-бальшавіцкай вайне ў складзе 85-га пяхотнага

палка. За гераізм падчас баявых дзеянняў Рыбікоўскі быў узнагароджаны Крыжам «Віртуці Мілітары».

У 1920-х гадах ён скончыў школу падхарунжых. У 1933 годзе атрымаў вышэйшую вайсковую адукацыю ў Варшаве і быў накіраваны ў Другі (выведвальны) аддзел польскага Генеральнага штабу, у падраздзяленне, якое займалася выведкай супраць Германіі. У якасці агента Рыбікоўскаму давялося папрацаваць ў вольным горадзе Гданьску, Кёнігсбергу і Коўне. У Коўна Рыбікоўскаму ўдалося наладзіць добрыя стасункі з прадстаўнікамі японскай дыпламатычнай выведкі, якая дзейнічала ў прыбалтыйскай краіне.

Узровень польска-японскіх дыпламатычных і вайсковых кантактаў у 1920–1930-х гадах быў даволі высокі. Яшчэ падчас руска-японскай вайны 1904–1905 гадоў Юзаф Пілсудскі прапанаваў Японіі стварэнне польскага вайсковага легіёна для барацьбы з Расійскай імперыяй. Пазней супрацоўніцтва дзвюх краін атрымала новы імпульс.

У 1921–1922 гадах японская выведка перахапіла тайныя савецкія пасланні, аднак расшыфраваць іх не змагла і накіравала атрыманую інфармацыю японскаму вайсковаму аташэ ў Варшаве. Праз тыдзень палякі расшыфравалі савецкую дэпешу. У 1923 годзе ў Токіа быў накіраваны капітан Войска Польскага Ян Кавалеўскі, які правеў спецыяльны курс крыптаграфіі для японскіх вайскоўцаў. Пазней у Польшчу былі накіраваны групы японскіх афіцэраў выведкі, якія прайшлі гадавую стажыроўку ў Другім аддзеле польскага Генштабу.

У 1930-х гадах вайсковае супрацоўніцтва Польшчы і Японіі працягвалася. Так, у 1936 годзе ў Харбіне была створана тайная пляцоўка польскай выведкі «Мандарын» пад кіраўніцтвам падпалкоўніка Чэслава Паўловіча. Гэтаму падраздзяленню ўдалося сабраць вельмі карысную інфармацыю пра стан Чырвонай Арміі на Далёкім Усходзе і ў Еўрапейскай частцы СССР. Акрамя гэтага, паспяхова дзейнічаў і вайсковы аташэ Польшчы ў Токіа. Асабліва шмат інфармацыі наконт магчымасцяў і падрыхтоўкі Чырвонай Арміі палякам удалося сабраць падчас савецка-японскіх узброеных канфліктаў на возеры Хасан у 1938 годзе і ля ракі Халхін-Гол увосень 1939 года.

У верасні 1939 года, ведаючы пра Пакт Рыбентропа–Молатава, японцы разумелі, што Германія стала фармальным хаўруснікам галоўнага на той час ворага Японіі. Таму ўрад краіны вырашыў тайна працягваць супрацоўніцтва з палякамі. У Бухарэсце адбылася сустрэча высокапастаўленых афіцэраў польскай выведкі з японскім вайсковым аташэ ў Польшчы Масао Уэда, на якой японцы прапанавалі палякам працяг супрацоўніцтва. Прычым зараз японцаў цікавіла інфармацыя не толькі пра патэнцыял Савецкага Саюза, але і нацысцкай Германіі.

Надышоў зорны час маёра Міхала Рыбікоўскага. Пасля вераснёўскай кампаніі ён эвакуіраваўся ў Францыю, аднак хутка вярнуўся да прафесійнай дзейнасці.

Прыехаўшы ў Рыгу, ён праз польскага вайсковага аташэ, палкоўніка Фелікса Бжасквінскага, усталяваў кантакт з японскім вайсковым аташэ ў Латвіі палкоўнікам Хірошы Анушы. Акрамя гэтага маёр Рыбікоўскі курыраваў дзейнасць польскай выведкі ў Літве.

Яго даверанай асобай у Коўне быў капітан Альфонс Якубянец. У пачатку 1930-х гадоў ён служыў у 5-м пяхотным палку ў Вільне, а з 1935 года Якубянец быў афіцэрам экспазітуры Другога аддзелу Генштаба Войска Польскага ў Гродна і займаўся падрыхтоўкай і адпраўкай польскіх агентаў ва Усходнюю Прусію. Дапамагаў Якубянцу ў Коўна паручнік Лешак Дашкевіч. Абодва вайскоўцы мелі добры кантакт з японскім консулам у Коўне Чыўнэ Сігіхара.

Пасля далучэння Літвы да СССР японец адыграў вялікую ролю ў ратаванні польскіх грамадзян габрэйскага паходжання, якім выдаваў візы сваёй краіны для выезду з Савецкага Саюза. Ўратаваў ён і польскіх выведнікаў, выдаўшы ім японскія дыпламатычныя пашпарты.

Пасля таго, як Літва стала савецкай, Міхал Рыбікоўскі быў вымушаны пакінуць гэту краіну. Яму ўдалося выехаць у Стакгольм. У сталіцы Швецыі польскі выведнік уступіў у кантакт з японскім вайсковым аташэ, палкоўнікам Маката Анадэра, выдаўшы сябе за рускага эмігранта з Манчжурыі Івана Пятрова (Рыбікоўскі дасканала валодаў рускай мовай).

Японцу спадабаўся спрытны «рускі», тым больш, што Анадэра доўгі час працаваў у секцыі па вывучэнні СССР пры Генеральным штабе японскіх войскаў і цікавіўся ўсім, што было звязана з савецкай тэматыкай. Хутка Рыбікоўскі стаў асабістым перакладчыкам японскага вайсковага аташэ.

Маёр Войска Польскага пачаў перадаваць японцам інфармацыю, якую ён атрымліваў ад польскіх агентаў не толькі ў Еўропе і акупаванай Польшчы, але і ў Савецкім Саюзе, а Маката Анадэра, у сваю чаргу, дзяліўся з Рыбікоўскім інфармацыяй пра стан прамысловасці Трэцяга Рэйху. Больш таго, японскі аташэ неаднаразова браў свайго перакладчыка на сустрэчы з шэфам Абвера Вільгельмам Канарысам.

У гэты ж час Альфонс Якубянец і Лешак Дашкевіч, дзякуючы пратэкцыі японцаў, атрымалі працу ў консульстве Манджоў-Го ў Берліне і Кёнігсбергу, а таксама новыя дакументы. Капітан Якубянец стаў рускім эмігрантам Ігарам Кунцэвічам, а паручнік Дашкевіч — Мікалаем Блахіным. Пасля таго, як савецкія ўлады зачынілі Консульства Японіі ў Коўне, Чыўнэ Сігіхара пераехаў спачатку ў Прагу, а пазней у Кёнігсберг. Неўзабаве яго сакратаром стаў паручнік Дашкевіч, які ў сакавіку 1941 года перадаў заходнім хаўруснікам сакрэтную інфармацыю пра тое, што Гітлер рыхтуе напад на Югаславію.

Аднак дзейнасць польскіх шпіёнаў у Трэцім Рэйху ўсё ж была выкрытая. Ігар Кунцэвіч (ён жа Альфонс Якубянец) завёў раман з замужняй супрацоўніцай консульства Манчжоў-Го. Яе ашуканы муж сабраў інфармацыю на «рускага» і перадаў яе ў гестапа. Якубянец быў арыштаваны. Пасля катаванняў, яго павесілі ў лагеры Закцэнхаўзэн (па іншай інфармацыі, забілі ў берлінскай турме Моабіт).

Японцы паспрабавалі ўратаваць паручніка Дашкевіча. 20 ліпеня 1941 года з японскай амбасады ў Берліне ў Кёнігсберг была адпраўлена дэпеша, у якой паведамлялася пра арышт капітана Якубянца. Консул Чыўнэ Сігіхара загадаў схаваць Лешака Дашкевіча на канспіратыўнай кватэры, а ў жніўні 1941 года Дашкевіча тайна вывезлі ў Стамбул.

Але Міхал Рыбікоўскі працягваў даволі эфектыўна працаваць у Стакгольме. Яму ўдалося сабраць шмат важнай вайсковай інфармацыі, што мела дачыненне да германа-япон-

скага вайсковага супрацоўніцтва. Акрамя гэтага, Рыбікоўскі стварыў эфектыўную шпіёнскую сетку ў Швецыі, якая дзейнічала на карысць хаўруснікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Маёр Войска Польскага сабраў падрабязную інфармацыю наконт патэнцыялу японскай арміі.

У 1944 годзе Абвер напаў на след Рыбікоўскага. Швецыя выслала Міхала ў Вялікабрытанію. Ён паступіў на службу ў II польскі корпус у Італіі і ўдзельнічаў у баявых дзеяннях супраць нацыстаў. За поспехі ў шпіёнскай дзейнасці Міхалу Рыбікоўскаму было прысвоена званне палкоўніка, і ён быў узнагароджаны другім Крыжам «Віртуці Мілітары».

Пасля вайны Міхал Рыбікоўскі пераехаў у Канаду, дзе жыў да самой смерці ў 1991 годзе.

## Трагедыя суперагента «Жмудзіна»

У студзені 1953 года ў засценках Міністэрства грамадскай бяспекі ПНР быў пакараны таленавіты разведчык Баляслаў Кантрым. Лёс гэтага чалавека быў цесна звязана з Беларуссю і Расіяй.

Нарадзіўся Баляслаў Уладзіслававіч Кантрым 27 жніўня 1898 года ў маёнтку Затурцы на Валыні ў сям'і шляхцічаў з Вялікага Княства Літоўскага. Прадзед будучага «генія дыверсіі» Казімір быў сакратаром Віленскага ўніверсітэта, удзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гадоў на тэрыторыі «гістарычнай Літвы». Дзед Баляслава быў паўстанцам ў 1863–1864 гадоў, за што паплаціўся ссылкай на пасяленне ў Вятку. Баляслаў на ўсё жыццё запомніў словы дзеда: «Ваеннаму мастацтву трэба вучыцца ў ворага».

Бацька Кантрыма быў кадравым вайскоўцам, палкоўнікам 11-га яе Вялікасці Гаспадарыні Імператрыцы Марыі Фёдараўны Чугуеўскага ўланскага палка Рускай імператарскай арміі, і памёр незадоўга да пачатку Першай сусветнай вайны. У 11 гадоў Баляслаў Кантрым паступіў у школу кадэтаў у Кіеве, а затым у 1909 годзе працягнуў вучобу ў кадэцкім корпусе ў Яраслаўлі. У сакавіку 1915 года ён добраахвотна

паступіў на службу ў рускую армію. Пасля заканчэння Школы малодшых афіцэраў у Саратаве паляка прызначылі камандзірам узвода 250-га пяхотнага палка. Удзельнічаючы ў баявых дзеяннях у Карпатах, Кантрым камандаваў разведротай 660-га пяхотнага палка. За выдатную службу Баляславу Уладзіслававічу было прысвоена званне паручнік, а таксама ўручаны ордэны: Ганны 4 ступені, Станіслава 3 ступені, а таксама Георгіеўскі крыж 4 ступені.

У студзені 1918 года Баляслаў перайшоў на службу ў 5-ы ўланскі полк 2-га польскага корпуса, раскватараваны на Украіне. Аднак неўзабаве гэтая частка была раззброеная немцамі пад Каневам, а асабісты склад узяты ў палон. Ужо праз некалькі дзён Кантрыму ўдалося збегчы ў Кіеў, адкуль неўзабаве ён адправіўся ў Мурманск. У кастрычніку ў Вятцы, пры спробе забраць сваякоў, Баляслаў быў арыштаваны бальшавікамі. Яны паставілі Кантрыма перад выбарам: смерць у лагеры для ваеннапалонных або «барацьба за светлыя ідэалы сусветнай рэвалюцыі».

Баляслаў выбраў другое і аказаўся на савецка-фінскім фронце. Маладога і таленавітага камандзіра хутка прыкмецілі і паставілі камандаваць 82-м пяхотным палком Чырвонай Арміі. У снежні 1921 года Баляслаў стаў камандзірам 28-й стралковай брыгады і кавалерам трох (!) ордэнаў баявога «Чырвонага сцяга». Хутка камбрыга накіравалі на вучобу ў Акадэмію генеральнага штаба ў Маскву.

Здавалася, што перад маладым афіцэрам адкрыліся вялікія перспектывы, але ў лютым 1922 года савецкі афіцэр усталёўвае кантакт з ваенным аташэ Пасольства II Рэчы Паспалітай у Маскве палкоўнікам Рамуальдам Валікоўскім. Апошні таксама пачынаў сваю ваенную службу ў Рускай імператарскай арміі, ваяваў на франтах Першай сусветнай вайны, быў афіцэрам Першага польскага корпуса.

Агент «Камбрыг» перадае сваім суайчыннікам важныя звесткі аб дыслакацыі частак Чырвонай Арміі. Аднак, адчуўшы пагрозу выкрыцця, таемна адправіў за мяжу сваю маці, жонку Ію Мікалаеўну, двухгадовага сына Уладзіслава, а затым, інсцэніраваўшы смерць у снежні 1922 года, і сам перайшоў савецка-польскую мяжу.

Польскія ўлады не рабілі праверак высокапастаўленаму бальшавіцкаму афіцэру. Баляславу Кантрыму прысвоілі званне паручнік і накіравалі на службу спачатку ў памежную ахову, а пасля яе ліквідацыі ў Дзяржаўную паліцыю. Неўзабаве новаспечаны аспірант (званне ў польскай паліцыі, роўнае лейтэнанту) атрымаў прызначэнне ў заходнебеларускія Рубяжэвічы ў Стаўбцоўскім павеце. Варта адзначыць, што ў той час у задачу паліцыі ўваходзіла ахова дзяржаўнай мяжы. Нягледзячы на тое, што савецка-польская вайна скончылася, мір у Заходняй Беларусі так і не наступіў. Бальшавіцкія дыверсанты, якія дзейнічалі па лініі актыўнай разведкі, пастаянна ажыццяўлялі напады на польскія дзяржаўныя ўстановы, паліцэйскія ўчасткі, размешчаныя на памежных тэрыторыях.

У адзін з дзён бальшавікі выкралі афіцэра, які служыў разам з Кантрымам у Рубяжэвічах. Праз сваіх людзей на савецкай тэрыторыі Баляслаў даведаўся, што яго падначалены знаходзіцца ў турме ў Мінску. Не доўга думаючы, паручнік сабраў групу добраахвотнікаў і разам з імі перайшоў савецка-польскую мяжу. Група без шуму абяззброіла савецкі памежны нарад і адвялі палонных на польскую тэрыторыю. Затым Кантрым звязаўся з Мінскам і паведаміў бальшавікам, што «*пры спробе пераходу мяжы былі затрыманыя супрацоўнікі савецкай памежнай аховы*».

Размову з сумежным бокам дзёрзкі камандзір паліцэйскага ўчастка ў Рубяжэвічах скончыў прапановай аб абмене свайго афіцэра на чырвонаармейцаў. Бальшавікі ўпіраліся, але ў выніку пры пасярэдніцтве Пасольства Швейцарыі палонны паліцэйскі вярнуўся на Радзіму. У сваю чаргу, былі адпушчаны і савецкія памежнікі.

У міжваеннае дваццацігоддзе Баляслаў Кантрым зрабіў выдатную кар'еру ў Дзяржаўнай паліцыі II Рэчы Паспалітай. Пасля Рубяжэвічаў ён служыў у Баранавічах, а затым, пасля вучобы на 6-месячных курсах для паліцэйскіх (1926–1927), працаваў намеснікам павятовага каменданта паліцыі ў Шчучыне і Навагрудку, а з 1932 года — у Брэсце.

У 1934 годзе Кантрым быў намеснікам начальніка следчага аддзела ваяводскай камендатуры паліцыі ў Любліне.

На пачатку 1939 года Баляслаў Уладзіслававіч зноў вярнуўся ў Заходнюю Беларусь і ў званні камісара заняў пасаду начальніка следчага аддзелу ваяводскай камендатуры паліцыі ў Вільні.

Падчас службы ў паліцыі ў жніўні 1937 года Кантрым у якасці афіцэра рэзерву Войска Польскага ўдзельнічаў у вайсковых зборах. Пасля гэтага ў яго асабістай справе з'явіўся запіс: «*Дадзены афіцэр валодае добрымі аналітычнымі якасцямі. Выдатна выконвае свае абавязкі. Выдатна арыентуецца ў баявых умовах. Мае халодную кроў. Валодае імгненнай рэакцыяй. Энергічны і ўпэўнены ў сабе. Рэкамендаваны да выкарыстання на камандных пасадах*».

Пасля пачатку Другой сусветнай вайны Баляслаў працягваў службу ў Вільні. Атрымаўшы загад аб эвакуацыі 19 верасня 1939 года, камісар паліцыі паспрабаваў нелегальна перайсці мяжу з Літвой, але быў затрыманы літоўскімі памежнікамі і накіраваны ў лагер для інтэрнаваных асобаў, размешчаны пад Коўна. Аднак ужо ў кастрычніку Кантрым збег і, апынуўшыся ў Францыі, уступіў у адроджанае там Войска Польскае. 29 снежня 1939 года ў званні паручніка ён уступіў у 2-ю пяхотную дывізію, аднак ужо ў сакавіку Кантрыма перавялі ў 1-ю брыгаду Падхалянскіх стралкоў. Разам з гэтым падраздзяленнем былы паліцэйскі прымаў удзел у баях з нацыстамі пад Нарвікам.

За гераізм і мужнасць Баляслаў Уладзіслававіч двойчы ўзнагароджаны польскім Крыжам мужных і французскім «Ваенным крыжам». Пасля нападу Германіі на Францыю Кантрым удзельнічаў у абарончых баях з нацыстамі, а затым эвакуяваўся ў Тулузу. Са жніўня 1940 года ён працаваў кіраўніком пашпартна-візавага аддзела Польскага консульства, а ў кастрычніку таго ж года разам з групай польскіх жаўнераў нелегальна перасек французска-іспанскую мяжу і праз Гібралтар дабраўся да Вялікабрытаніі.

У студзені 1941 года Баляслаў Кантрым паступіў на службу ў 1-ы батальён Падхалянскіх стралкоў. Там ён прайшоў паветрана-дэсантную падрыхтоўку, пазнаёміўся з найноўшымі на той момант узорамі сродкаў сувязі, атрымаў навыкі вядзення партызанскай вайны. Разам з ім займаліся

і іншыя салдаты Войска Польскага. Гэтыя спецыяльна падрыхтаваныя агенты атрымалі назву «ціхацемныя».

У ноч з 1 на 2 верасня 1942 года «Жмудзін» (такі псеўданім атрымаў Баляслаў Кантрым) дэсантаваўся на тэрыторыі Польшчы. Крыху раней яму было прысвоена званне капітана. У студзені 1943 года па распараджэнні галоўнакамандуючага Арміі Краёвай генерала Стэфана Грот-Равецкага Кантрым распрацаваў план нападу на нямецкую турму ў Пінску. Выканаўцам дадзенай акцыі быў іншы «ціхацемны», былы паручнік дзяржаўнай паліцыі Ян Піўнік «Пануры».

Справа ў тым, што напярэдадні ў гэтым палескім горадзе ў рукі гестапа патрапілі камендант Трэцяга ўчастка АК капітан Альфрэд Пачкоўскі (псеўданім «Ваня») і яшчэ два польскіх падпольшчыка. У акцыі па вызваленні арыштаваных удзельнічалі як мясцовыя польскія партызаны, так і дыверсанты, якія прыехалі з Варшавы. Людзі «Панурага» каля двух тыдняў вывучалі падыходы да турмы, сістэму аховы, час змены вартавых.

18 студзеня 1943 года акаўцы рэалізавалі свой план. Пераапранутыя ў форму СС байцы польскага супраціву знішчылі ахоўнікаў. Падчас нападу быў забіты і начальнік турмы Гелінгер. Захопленыя нацыстамі байцы Арміі Краёвай былі вызвалены, праўда, у адплату за напад на турму акупацыйныя ўлады ўзялі некалькі дзясяткаў закладнікаў з ліку мясцовай польскай інтэлігенцыі і ўсіх іх расстралялі.

У сакавіку 1943 года Баляслаў Кантрым узначаліў дыверсійны аддзел Брэсцкай акругі АК, а ў ліпені быў пераведзены ў Варшаву ў распараджэнне падпольнага Дзяржаўнага корпуса бяспекі (паліцыі) і ўзначаліў следчы аддзел дадзенай службы.

Таксама «Жмудзін» стварыў спецаддзел па знішчэнні калабарацыяністаў і агентаў гестапа. Да жніўня 1943 года людзі Кантрыма правялі 25 паспяховых акцый. Адной з найбольш гучных з іх быў захоп на вуліцы Хмельнай у Варшаве браневіка «Шэўрале», які перавозіў сакрэтныя дакументы гестапа. Восенню 1943 года група «Жмудзіна» рыхтавалася да нападу на турму «Павяк» у польскай сталіцы, але ў апошні момант аперацыю згарнулі.

Падчас Варшаўскага паўстання Кантрым камандаваў участкам абароны паўстанцаў у раёне вуліц Каралеўскай, Крэдытовай і Плошчы Малахоўскага. Гэта адна з нешматлікіх пазіцый паўстанцаў, супраціў якой нацыстам так і не ўдалося зламаць. Падчас баёў «Жмудзін» быў чатыры разы паранены. За гераізм і мужнасць яму было прысвоена званне маёра. 4 жніўня 1944 года былы віленскі паліцэйскі кіраваў штурмам так званай «PAST-a», будынка, у якім да вайны размяшчалася «Польскае акцыянернае тэлефоннае таварыства». У завяршальнай фазе паўстання «ціхацемны» камандаваў 3-м батальёнам 36-га пяхотнага палка акадэмічнага легіёну 28-й дывізіі АК ім. Стэфана Акшэі.

27 жніўня Кантрыма ўзнагародзілі трэцім па ліку Крыжам мужных, а 15 верасня — Крыжам «Віртуці Мілітары» 5 ступені.

Пасля паразы Варшаўскага паўстання 2 кастрычніка 1944 года Кантрым апынуўся ў нямецкім палоне. Нацысты не ведалі, што ў іх руках знаходзіцца адзін з кіраўнікоў польскага падполля. Перад тым, як здацца ў палон, Баляслаў атрымаў падробленыя дакументы на імя шараговага. Кантрым утрымліваўся ў розных лагерах для ваеннапалонных, у тым ліку ў Ламсдорфе і Сандбостэль. У красавіку 1945 года дасведчанаму дыверсанту ўдалося збегчы і ўступіць у 1-ю польскую танкавую дывізію пад камандаваннем генерала Станіслава Мачка.

Да канца ваенных дзеянняў у Еўропе Кантрым служыў камандзірам пяхотнай роты, а затым намеснікам камандзіра 9-га батальёна Фландрыйскіх стралкоў. За час службы ў Польскіх узброеных сілах на Захадзе Баляслаў быў узнагароджаны Баявым дэсантным знакам, Брытанскім ваенным медалём (двойчы), Ганаровай узнагародай за раненні. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны былы «ціхацемны» прыняў рашэнне выехаць у Польшчу. Чаму? У адной з гутарак з сынам ён сказаў: «*Польшчу стварала не эміграцыя, і нам трэба вярнуцца туды, дзе нашы карані*».

Пасля вяртання ў ПНР Кантрым прайшоў праверку ў спецыяльных органах і ўладкаваўся на працу на адно з прамысловых прадпрыемстваў. 16 красавіка 1948 года ён атрымаў

службовае жыллё ў Варшаве. Важную ролю ў «рэпатрыяцыі» былога «суперагента лонданскага ўрада» адыгаў родны брат Баляслава — генерал Народнага Войска Польскага Канстанцін Кантрым. Увесь час пасля таямнічай «смерці» брата Канстанцін жыў у СССР, дaслужыўся ў Чырвонай Арміі да генеральскага звання, а пасля таго, як у Савецкім Саюзе ў 1943 годзе была створана «армія Берлінга», быў пераведзены на службу ў польскія часткі, якія ваявалі на ўсходнім фронце.

Менавіта Канстанцін Кантрым і паведаміў родным Баляслава аб яго арышце ў кастрычніку 1948 года. Неўзабаве пасля гэтага генерала НВП адклікалі ў Маскву, дзе той памёр у шпіталі пры таямнічых абставінах.

Пасля арышту «Жмудзіна» родныя амаль чатыры гады нічога не ведалі пра яго лёс. Першыя лісты ад арыштаванага жонка атрымала толькі ў 1952 годзе. Былога паліцэйскага абвінавачвалі ў «злачынствах», учыненых ім падчас службы ў Дзяржаўнай паліцыі буржуазнай Польшчы. Таксама супрацоўнікі Міністэрства грамадскай бяспекі ПНР патрабавалі ад Кантрыма здаць байцоў і камандзіраў Арміі Краёвай.

9 кастрычніка 1952 года Вярхоўны суд ПНР зацвердзіў прысуд ваяводскага суда ў Варшаве, які прыгаварыў Баляслава Кантрыма «*за антыдзяржаўную дзейнасць*» да смяротнага пакарання. 2 студзеня 1953 года «Жмудзіна» павесілі. Але ўжо праз 4 гады, 3 снежня 1957 года, пасмяротна рэабілітавалі. У пастанове, у прыватнасці, адзначалася, што «*за час службы ў Дзяржаўнай паліцыі ў 1923–1939 гг. Кантрым не здзяйсняў тых злачынстваў, якія яму інкрымінаваліся*». Таксама былі знятыя абвінавачванні ў антыдзяржаўнай дзейнасці падчас Другой сусветнай вайны.

У незалежнай Польшчы імем Кантрыма назвалі сквер у Варшаве, на будынку штаб-кватэры паліцыі Варшавы была ўсталявана памятная дошка ў яго гонар. Месца пахавання «ціхацемнага» не вядома. На варшаўскіх вайсковых могілках у Павонзках устаноўлена яго сімвалічная магіла. У 2011 годзе польскае тэлебачанне паказала спектакль, які распавядаў пра жыццё «суперагента».

Да сённяшняга дня гісторыкі спрачаюцца аб тым, кім жа на самай справе быў Баляслаў Кантрым. На думку адных

даследчыкаў, гэта быў старанна законспіраваны савецкі агент, якога ў 1952 годзе вывезлі ў СССР. На карысць гэтай версіі кажа і той факт, што пасля ўцёкаў брата Канстанцін Кантрым не толькі не быў рэпрэсаваны, але і дaслужыўся да генерала. Зрэшты, большасць гісторыкаў лічыць, што «Жмудзін» быў сапраўдным патрыётам Польшчы, які не шкадуючы свайго жыцця змагаўся за яе незалежнасць.

## Споведзь савецкага партызана

Кузьма Жарэбін нарадзіўся ў сакавіку 1916 года ў сялянскай сям'і. Ужо пры савецкай уладзе ён атрымаў сярэднюю адукацыю і ў 1937 годзе быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. А праз два гады, у верасні 1939 года, СССР пайшоў «вызваляць братоў беларусаў і ўкраінцаў». У савецкай ды айчыннай гістарыяграфіі прынята лічыць, што той паход быў бяскроўны і міратворчы.

Але не ўсё так проста. У кастрычніку 1939 года Кузьма Андрэевіч напісаў ліст да дому, у якім, паміж іншага, былі і такія словы: «*Даражэнькія, я жывы. [...] Мы зараз у былой Польшчы. Вайна скончылася*». Вось так чырвонаармеец акрэсліваў тыя падзеі, называючы ўсё сваімі імёнамі. Ужо праз некалькі месяцаў Жарэбін апынуўся ў іншай «гарачай кропцы»: Савецкі Саюз напаў на Фінляндыю. Чырвонаармеец ваяваў у асобным батальёне паветранага назірання, апавяшчэння і сувязі.

Пасля завяршэння баявых дзеянняў на Карэльскім перашыйку Кузьма вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, у горад Глыбокае. У службовай характарыстыцы на ўдзельніка дзвюх, на той момант, войнаў адзначалася: «*У верасні 1940 года Райкам камсамола накіраваў Кузьму Андрэевіча Жарэбіна па камсамольскай пуцёўцы на працу ў органы дзяржбяспекі*». Праз месяц Кузьма паступіў на вучобу на гадавыя курсы сярэдніх камандзіраў НКУС у Гродна.

Чэкісцкая адукацыя скончылася 18 чэрвеня 1941 года. Вось як апісваў падзеі таго дня сам нкусавец: «*У 20 гадзін*

*нас пастроілі ў двары школы. Перад шыхтом выйшлі начальнік школы палкоўнік Восіпаў, камісар палкоўнік Баташоў і аб'явілі, што зараз мы — сярэднія камандзіры НКУС. Пасля гэтага нас абмундзіравалі і строем павялі на вакзал. Нашая рота па прызначэнні трапіла ў горад Аўгустаў, Беластоцкай вобласці БССР. Узначальваў наш аддзел завуч школы, старшы лейтэнант Наркамату ўнутраных спраў Кулікоўскі і камандзір роты, старшы лейтэнант Каротчанка. Мы прыбылі на месца прызначэння ў 3 гадзіны 30 хвілін ночы. Перад намі паставілі задачу эвакуіраваць усё насельніцтва памежнай паласы. Працавалі мы да 22 чэрвеня 1941 года. З задачай мы справіліся. 4 эшалоны эвакуіравалі ў тыл Расіі».*

Зараз мы дакладна ведаем, што ў гэты перыяд НКУС арганізаваў чацвёртую хвалю дэпартацый насельніцтва Заходняй Беларусі. У адпаведнасці са спецыяльнымі дырэктывамі Наркамата ўнутраных спраў СССР, з лютага 1940 года і да пачатку Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі заходніх абласцей БССР адбылося некалькі хваль вывазаў мясцовага насельніцтва, былых грамадзян II Рэчы Паспалітай.

Апошняя распачалася ў канцы мая на тэрыторыі Заходняй Украіны і скончылася 19–22 чэрвеня 1941 года на Віленшчыне, Гродзеншчыне і Беласточчыне. У выніку гэтай дэпартацыі шмат тысяч ні ў чым не вінаватых людзей былі вывезеныя ў Казахстанскую ССР, а таксама ў Алтайскі і Краснаярскі край РСФСР. Значная колькасць з гэтых няшчасных памерла ў дарозе ці загінула пад бомбамі нямецкай авіяцыі, якая пасля нападу Гітлера на СССР панавала ў беларускім небе.

У 4.20 раніцы 22 чэрвеня 1941 года нямецкія штурмавыя групы атакавалі савецкую памежную заставу, на якой знаходзіліся і нкусаўцы з Гродна. Бой працягваўся да 12 гадзін дня, а пазней тыя, хто застаўся ў жывых, пачалі арганізавана адыходзіць на ўсход. Гэта, дарэчы, абвяргае міф пра тое, што ў першыя дні вайны амаль усе савецкія памежнікі на савецка-нямецкай мяжы загінулі на заставах.

4–5 ліпеня 1941 года Кузьма Жарэбін знаходзіўся ўжо ў вёсцы Саковічы ў 30 кіламетраў ад Мінска. Беларускія сяляне, якія памяталі савецкія рэпрэсіі, не доўга чакаючы,

выдалі нкусаўцаў немцам. Чэкістаў змясцілі ў лагер для савецкіх ваеннапалонных у Мінску, з якога Жарэбіну ўдалося збегчы ў сакавіку 1942 года. У лесе ён знайшоў каля 15 чалавек, якія дакладна не ведалі, што рабіць. Паўсюдна былі нямецкія і паліцэйскія гарнізоны, а мясцовыя жыхары не любілі галодных, абарваных і ўзброеных людзей з лесу.

У адным з дакладаў Цэнтральнага штабу партызанскага руху зімой 1942/43 года аб паводзінах савецкіх партызан у Беларусі гаварылася: «*Паколькі яны не ваююць, яны ператвараюцца ў дадатковы цяжар для сялян і настройваюць сялянства супраць усіх партызан у цэлым. Калі няма немцаў, то партызаны беспераашкодна ўваходзяць у вёску, забіраюць кароў, авечак, хлеб і іншыя прадукты. Але як толькі з'яўляецца карны атрад, партызаны бягуць, не аказваючы супраціву*».

А вось як сітуацыю 1942 года апісваў адзін з савецкіх партызанаў: «*Партызаны, галоўным чынам, палонныя і акружэнцы, узброеныя за кошт лясоў і мясцовага насельніцтва. Апеpуючы, у сваёй большасці, маленькімі групамі ў 20–40 чалавек, нядрэнна, асабліва вясной, білі немцаў. Але гэта была голая стыхія, гэта была помста палоннага за ўсё тое, што ён бачыў і адчуў у немцаў. Цяпер жа яны амаль усе бяздзейнічаюць. Няма боепрыпасаў, яны на 100 % адарваныя ад савецкай рэчаіснасці. Атрад (група) атрымлівае ад камандавання адпаведную вёску-дзве, выязджае ноччу, і забірае ў кожнай хаце ўсё, што знойдзе: сала, масла, смятану, хлеб і іншыя прадукты. Адсюль сяляне ўсё пагалоўна хаваюць. Нярэдкія выпадкі, калі разам з прадуктамі партызаны абшукваюць шафы, скрыні і бяруць вопратку і боты і нават прадметы раскошы: адэкалоны, гадзіннікі і іншыя рэчы. Забіраюць коней для адвозу прадуктаў, абяцаючы іх вярнуць, але фактычна рэдка іх вяртаюць. Усё гэта робіцца без уліку сацыяльнага і эканамічнага становішча сялян*».

Хутка нкусавец Жарэбін накіраваў чалавека ў Мінск для ўсталявання сувязі з падполлем. Замест гэтага пасыльны прывёў са сталіцы некалькі ваеннапалонных, якім удалося збегчы з лагеру. У жніўні 1942 года дзейнасць савецкіх партызан пад камандаваннем ураджэнца Курскай губерні прымусіла мясцовых жыхароў звярнуцца да нямецкіх аку-

пацыйных улад з просьбай аб выратаванні. Хутка немцы атачылі партызанскі атрад. У выніку бою, які, па прызнанні Жарэбіна, працягваўся каля пяці гадзін, загінула шмат партызан, аднак канчаткова знішчыць атрад не ўдалося.

Рэшткі атрада адышлі ў бок Баранавіцкай вобласці і злучыліся з атрадам імя Будзённага Сталінскай партызанскай брыгады. Партызаны Жарэбіна ў гэты час удзельнічалі ў баявых дзеяннях з падраздзяленнямі польскай Арміі Краёвай. Дарэчы, з мая 1943 да ліпеня 1944 года на тэрыторыі адной толькі Баранавіцкай вобласці паміж атрадамі АК і савецкімі партызанамі адбылося не менш за 230 боесутыкненняў.

Акрамя камандавання атрадам імя Пархоменкі (партызанскай брыгады імя Іосіфа Сталіна), лейтэнант НКУС выконвае абавязкі і ўпаўнаважанага асобага аддзелу. У ліпені 1944 года партызанам пад яго камандаваннем прыйшлося ўдзельнічаць у баях супраць адступаючых з Беларусі нямецкіх войскаў. У адным з іх было знішчана 60 жаўнераў вермахта і каля 300 узята ў палон.

Пасля вайны Кузьма Жарэбін працаваў на тэлеграфе ў Барысаве і займаў пасаду прапагандыста ў мясцовых органах камуністычнай партыі. Памёр ён у 1993 годзе.

## План «Вострая Брама»: вызваліць Вільню

У канцы чэрвеня 1944 года савецкія войскі пачалі аперацыю «Баграціён». Неўзабаве першыя чырвонаармейскія часткі падышлі да былой «рыжскай мяжы». Гэта вельмі непакоіла польскі эмігранцкі ўрад у Лондане. Палякі вельмі хацелі бачыць сваю краіну ў межах да верасня 1939 года.

14 лютага 1942 года загадам тагачаснага польскага галоўнакамандуючага генерала Ул. Сікорскага Саюз узброенай барацьбы быў перайменаваны ў Армію Краёвую (далей АК), атрады якой актыўна дзейнічалі не толькі на этнічных польскіх тэрыторыях, але і ў Заходняй Беларусі.

Трэба адразу падкрэсліць, што ў складзе АК было шмат беларусаў-каталікоў, якія часцей змагаліся не за якую-небудзь палітычную ідэю, а за сваю зямлю.

У лістападзе 1943 года ўсе акругі АК атрымалі загад галоўнага каменданта генерала Тадэўша Камароўскага аб пачатку так званай акцыі «Навальніца». У адпаведнасці з ім польскія партызанскія фарміраванні павінны былі праводзіць дыверсіі на камунікацыях нямецкіх войскаў. Як адзначае беларускі даследчык Я. Сямашка, палітычнай мэтай «Навальніцы» быў захоп кантролю над важнейшымі ваенна-стратэгічнымі, прамысловымі, адміністрацыйнымі і культурнымі цэнтрамі краіны, яшчэ да таго, як іх вызваліць ад немцаў Савецкая Армія.

Галоўным адміністратыўным цэнтрам паўночна-ўсходніх крэсаў была старажытная Вільня. Камандаванне АК разумела, што вызваленне гэтага гораду з-пад нямецкай акупацыі іх часткамі давала польскаму ўраду ў Лондане дадатковы козыр у спрэчцы са Сталінам. Больш таго, у польскіх партызан на Заходняй Беларусі быў досвед захопу добра ўмацаванага населенага пункта.

У чэрвені 1943 года акаўцы правялі ўдалую аперацыю па авалоданню Івянцом. Нямецкі гарнізон у горадзе складаўся з роты жандармерыі, батальёна беларускай паліцыі, гаспадарчай роты і некалькіх рот нямецкіх пілотаў, якія знаходзіліся на адпачынку. У азначаны час акаўцы атакавалі будынак жандармерыі і казармы. Адначасова былі перакрыты дарогі на Ракаў і Стоўбцы. Падчас бою на бок акаўцаў перайшлі беларускія паліцэйскія, што значна ўзмацніла сілы атакуючых. Немцы даволі ўпарта абараняліся ў будынках старых казарм. Неўзабаве на дапамогу палякам прыйшлі і... савецкія партызаны. Бой працягваўся 18 гадзін. У выніку нямецкі гарнізон быў знішчаны, а горад у нямецкім тылу быў вызвалены ад акупантаў.

Нягледзячы нават на гэтую і іншыя перамогі, камандаванне АК разумела, што атака на Вільню — гэта зусім іншы маштаб баявых дзеянняў. 26 мая 1944 года генерал Камароўскі загадам 996/I прызначыў камандуючым Навагрудскай і Віленскай акругамі АК падпалкоўніка Аляксандр Кры-

жаноўскага (псеўданім «Воўк»). Ён і прадставіў 12 чэрвеня 1944 года ў варшаўскай штаб-кватэры АК план пад кодавай назвай «Вострая брама».

У адпаведнасці з ім нямецкі гарнізон у Вільні павінны былі атакаваць 5 палявых груповак польскіх партызан. Першапачаткова дату правядзення акцыі прывязалі да дня, калі часткі Чырвонай Арміі дойдуць да Смаргоні і Сол. Аднак пазней камандаванне АК прызначыла пачатак аперацыі «Вострая Брама» на ноч з 7 на 8 ліпеня 1944 года. Адначасова з правядзеннем атакі на Вільню іншым атрадам АК быў адданы загад правядзення дыверсій супраць нямецкіх войскаў у раёне Ашмян, Баранавічаў, Слоніма, Ліды, Юрацішак. 4 ліпеня 1944 года часткі 3-га Беларускага фронту перайшлі лінію мяжы, існаваўшай да 1939 года.

Тады кіраўніцтву АК стала зразумела, што Чырвоная Армія падыдзе да Вільні раней, чым гэта падавалася палякам. Штаб АК прыняў рашэнне распачаць атаку на нямецкі гарнізон Вільні на суткі раней. На жаль, пра перанос часу аперацыі не былі своечасова праінфармаваныя камендант Віленскага гарадскога гарнізона АК «Людвік», камандзір паўночнага злучэння «Венгельны», камандзір 6-й брыгады «Конар». Частка польскіх камандзіраў, адчуваючы небяспеку прамога сутыкнення з савецкімі войскамі, у апошні момант адмовілася ад удзелу ў «Вострай браме». У выніку з запланаваных 10 тысяч жаўнераў пад Вільняй АК змагла выкарыстаць толькі 6 тысяч, якім супрацьстаяла, па розных падліках, каля 17 тысяч немцаў.

У 2 гадзіны ночы акаўцы пайшлі ў атаку на добра ўмацаваныя пазіцыі гітлераўцаў. Галоўную задачу выконвалі падраздзяленні пад камандаваннем маёра А. Аляхновіча і маёра Ч. Дэмбіцкага. У раёнах Грыбішкі, Гуры, Віленская калонія наступаючых затрымаў шчыльны кулямётны агонь з нямецкіх дотаў. Хутка польскія жаўнеры пачалі сустракаць першыя савецкія вайсковыя аддзелы. Так, капітан Б. Загурны са сваімі людзьмі дапамог наступленню савецкай 97-й Віцебскай пяхотнай дывізіі. Першая брыгада Віленскай акругі АК наступала сумесна з байцамі 277-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі.

Дарэчы, камандзір гэтай дывізіі генерал-маёр Белкін-Гладышаў выдаў польскаму падраздзяленню падзяку, у якой, у прыватнасці, адзначалася, што «*польскія салдаты змагаліся за авалоданне Вільняй мужна, і брыгада заслугоўвае права карыстацца ўсімі неабходнымі прывілеямі*».

Акаўскія падпольшчыкі ў Вільні ўласнымі сродкамі захапілі правябярэжную частку горада і сумесна з савецкімі падраздзяленнямі атакавалі левы бераг. Найбольш жорсткія баі адбыліся на вуліцы Субоч. Там знаходзіўся нямецкі бункер і некалькі зенітак. Цаной жыцця дзясяткаў савецкіх і польскіх салдат праз два дні ўдалося знішчыць фашысцкі гарнізон. Усяго ў баях з немцамі падчас аперацыі «Вострая брама» загінула 500 жаўнераў Арміі Краёвай, яшчэ каля 1000 было паранена.

З 9 ліпеня ў правабярэжнай частцы горада дзейнічала польская камендатура. У сваю чаргу, левы бераг Віліі знаходзіўся пад юрысдыкцыяй савецкага камандавання. 13 ліпеня падхарунжы Е. Енч і капрал А. Рыхтер паднялі на вежы Гедыміна польскі сцяг. У гэты ж дзень аддзелы АК пад Краўчунамі ўступілі ў бой з адступаючымі з Вільні часткамі нямецкіх войскаў і разбілі іх. У палон было ўзята каля 1000 гітлераўцаў, якіх палякі перадалі Чырвонай Арміі.

Пасля вызвалення Вільні савецкае камандаванне пачало перамовы з падпалкоўнікам Крыжаноўскім аб разбраенні польскіх частак і стварэнні асобнага польскага корпусу. У гэты час польскія аддзелы пачалі акружацца падраздзяленнямі НКУС. У расійскім гістарычным архіве захоўваецца даклад Л. Берыі Сталіну адносна польскіх фарміраванняў у Вільні. У дакуменце наркам падкрэсліваў: «*Наяўнасць польскага войска дэзарыентуе мясцовае насельніцтва. Многія думаюць, што гэта польская армія Берлінга. [...] 16 ліпеня ў раён Вільні намі перакідваецца адна дывізія ўнутраных войскаў НКУС і 4 памежатрады*».

14 ліпеня 1944 года Крыжаноўскі быў запрошаны на сустрэчу з камандаваннем 3-га Беларускага фронту. Польскі афіцэр быў у добрым настроі, калегам ён паўтараў фразу: «*Бачыце, што не змаглі зрабіць палітыкі на зялёным сукне,*

*зробім мы, салдаты*». Аднак 17 ліпеня ў штабе Івана Чарняхоўскага польскі падпалкоўнік быў арыштаваны і змешчаны спачатку ў віленскую турму, а потым перавезены ў маскоўскую Лубянку.

Далейшы лёс Крыжаноўскага нагадвае шпіёнскі дэтэктыў. Знаходзячыся ў лагеры ў Гразёўцу, ён здзейсніў удалы пабег і вярнуўся ў Вільню, дзе спрабаваў схавацца ў польскім консульстве. Там яго зноў арыштавалі, вярнулі ў Бутырку, аднак хутка адпусцілі ў Польшчу. Праз год Крыжаноўскага арыштавала польская палітычная паліцыя UB. Падпалкоўніка абвінавацілі ў акцыях супраць савецкіх партызан на Віленшчыне. У 1951 годзе ён памёр ад сухотаў у турэмным шпіталі.

Пасля арышту кіраўніцтва Віленскай і Навагрудскай акруг АК атрады польскіх партызан спрабавалі ўратавацца ад НКУС у Рудніцкай пушчы, аднак шмат з іх трапіла ў акружэнне. Усяго ў руках савецкіх спецорганаў аказалася некалькі тысяч акаўцаў. Шмат хто з іх будзе сасланы на працу ў Варкуту. Некаторыя жаўнеры і афіцэры ўступілі ў народнае Войска Польскае і працягнулі змаганне з нацыстамі ў шэрагах 1-й арміі ВП. Так скончылася дзёрзкая і гераічная аперацыя «Вострая брама».

## Яны не захацелі быць паслухмянымі рабамі

Паўстанне ў Варшаўскім гета было адным з найбольш моцных узброеных выступаў грамадзян супраць нацыстаў. Даведзеныя да адчаю людзі замест таго, каб паслухмяна ісці на бойню, выбралі загінуць як салдаты са зброяй у руках.

Да пачатку Другой сусветнай вайны габрэйскае насельніцтва Варшавы складала, па розных падліках, каля 400 тысяч чалавек, прычым большая частка, каля 300 тысяч, жыла ў так званым габрэйскім квартале. У тым жа раёне Варшавы жылі і каля 80 тысяч палякаў. Прадстаўнікі габрэйскай

інтэлігенцыі жылі ў іншых раёнах польскай сталіцы. Неўзабаве пасля акупацыі Польшчы па загаду губернатара Ханса Франка палякі, якія пражывалі на тэрыторыі будучага гета, былі адселеныя, а іх месца занялі габрэі з іншых раёнаў Варшавы.

У студзені 1940 года пачалося будаўніцтва муроў, якія аддзялялі гета ад горада. Мяжа габрэйскага квартала праходзіла па вуліцах Велькай, Багно, Пляц Гжыбоўскі, Зімна, Пляц Банковы, Огруд Красіньскіх, Канвікторска, Стаўкі і г. д. Больш за 400 тысяч чалавек аказаліся адрэзанымі ад знешняга свету. Тэрыторыя гета была падзеленая на тры часткі: першая — рамесная, у другой знаходзілася вялікая фабрыка, што вырабляла шчоткі і пэндзлі, а ў трэцяй знаходзіліся прамысловыя прадпрыемствы і адміністрацыя.

У гета быў створаны «Юдэнрат» (Габрэйскі савет), які складаўся з 24 сябраў, прызначаных нацысцкімі ўладамі з ліку багатых і вядомых варшаўскіх габрэяў. Сядзіба гэтай арганізацыі знаходзілася на вуліцы Гжыбоўскай, 26/28, там, дзе да вайны была Управа габрэйскай гміны. У функцыі «Юдэнрата» ўваходзіла камплектаванне «працоўных батальёнаў» і арганізацыя адпраўкі габрэяў у Трэблінку — бліжэйшы да Варшавы лагер масавага знішчэння. Была яшчэ адна рэч, якую сябры «Юдэнрата» рабілі ўжо выключна па ўласнай ініцыятыве: гета літаральна кішэла правакатарамі, ад якіх гестапа атрымлівала інфармацыю аб узнікненні падпольных арганізацый, закупцы зброі і месцах яе захоўвання, аб таемных месцах выхаду з гета ў горад.

Германская ваенная прамысловасць, што набірала ўсё большы размах, вельмі хутка адчула недахоп у кваліфікаванай рабочай сіле. У той жа час, згодна з рапартамі гестапа, *«40 працэнтаў з паўмільёна габрэяў, што знаходзіліся ў гета, — былі рамеснікамі высокай кваліфікацыі»*. Гаворка ішла пра краўцоў, цесляроў і г. д. Немцы выкарыстоўвалі гэтую бясплатную працоўную сілу.

Гета было перанаселенае. На адзін квадратны кіламетр прыходзілася каля 150 тысяч жыхароў. З пачатку існавання гета і да лета 1942 года ад голаду і хвароб там памерлі каля 100 тысяч чалавек. У кастрычніку 1941 года Ханс Франк вы-

даў загад расстрэльваць на месцы кожнага габрэя, які трапіць у рукі нямецкіх уладаў па-за межамі гета. А таксама кожнага паляка, які будзе ратаваць ці хаваць габрэя.

Неўзабаве рэйхсфюрэр Гімлер аддаў загад «ачысціць Варшаўскае гета». Першая дэпартацыя ў Трэблінку адбылася ў ліпені 1942 года. Каб падмануць габрэяў, нацысты развешвалі на тэрыторыі гета ўлёткі, у якіх інфармавалі, што вываз людзей ажыццяўляецца дзеля таго, каб палепшыць іх жыллёвы стан. Спачатку вывозілі старых і дзяцей, а потым узяліся і за іншых. Да сакавіка 1943 года ў гета засталося каля 55 тысяч чалавек.

Жыхары гета хутка зразумелі, што нацысты адпраўляюць габрэйскае насельніцтва на смерць, таму сярод прадстаўнікоў розных падпольных арганізацый, якія дзейнічалі на тэрыторыі гета, стаў выспяваць план узброенага выступу супраць нацыстаў. Большасць сучасных еўрапейскіх гісторыкаў падкрэслівае, што, у адрозненне ад палякаў, якія ўзнялі ў 1944 годзе Варшаўскае паўстанне і якія пры акрэсленых абставінах мелі шансы на перамогу, габрэйскае ўзброенае выступленне было асуджана на правал. Аднак сэнс паўстання ў гета заключаўся ў дэманстрацыі мужнасці людзей, якія кінулі выклік смерці.

Дарэчы, спробы ўзброенага выступу супраць нацыстаў рыхтаваліся і ў гета, размешчаных на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Напрыклад, лідары моладзевых сіяніцкіх падпольных арганізацый Віленскага гета ў 1942 годзе звярнуліся да габрэяў з заклікам, у якім былі словы: «*Гітлер плануе знішчыць усіх еўрапейскіх габрэяў. Мы не быдла, якое вядуць на бойню. Трэба змагацца. Лепей загінуць у баі*». Тое ж самае адбывалася і ў Беластоцкім гета. І калі ў Вільні ўзброенага выступу так і не адбылося, то ў Беластоку ў лютым 1943 года габрэі ажыццявілі напад на аддзелы СС. Некаторым паўстанцам удалося прабіцца ў лясы і далучыцца да польскіх партызан. Узброеныя выступленні габрэяў адбываліся таксама ў гета ў Брэсце, Браславе, Нясвіжы і Кобрыне.

Што ж тычыцца Варшаўскага гета, то галоўную ролю ў падрыхтоўцы паўстання там адыграў «Габрэйскі вайсковы

саюз» (ГВС). Варта падкрэсліць, што рыхтаваліся да паўстання і пракамуністычныя падпольныя групы, але ў 1942 годзе большасць з іх была ліквідавана гестапа. У сваю чаргу, ГВС перад пачаткам паўстання ў красавіку 1943 года меў на тэрыторыі гета каля пяцісот падрыхтаваных і ўзброеных байцоў. Армія Краёва накіравала ў гета 4 ручныя кулямёты, 15 аўтаматаў, 50 пісталетаў, 300 гранат. Акрамя гэтага, жыхары гета куплялі зброю ў варшавян. На тэрыторыі гета дзейнічала і іншая падпольная структура — «Габрэйская баявая арганізацыя» (ГБА), у складзе якой было таксама каля 500 сяброў. ГВС передало ГБА частку зброі і амуніцыі. Тэрыторыя гета была падзелена на дзве баявыя акругі.

19 красавіка 1943 года нямецкія часткі пры падтрымцы бронетэхнікі, а таксама дапаможных украінскіх і латышскіх падраздзяленняў накіраваліся ў Варшаўскае гета. На гэты дзень была прызначана канчатковая ліквідацыя гета і вываз яго насельніцтва ў лагеры смерці. Але як толькі першыя часткі СС увайшлі на тэрыторыю габрэйскага раёна, на іх пасыпаўся град куль. Вось як тыя падзеі апісваў брыгадэфюрэр СС Юрген Штроп: «*З усіх вокнаў і падвалаў стралялі так моцна, што цяжка было падняць галаву, каб заўважыць, адкуль вядзецца стральба. Узарваўся бранявік. Гранаты і бутэлькі з запальнай сумессю затрымлівалі рух. У некаторых месцах мы былі вымушаны ўжываць зенітную гармату. [...] Сярод паўстанцаў былі не толькі мужчыны, але і жанчыны*».

Хутка на адным з дамоў на вуліцы Мураноўскай былі вывешаны бела-блакітны і бела-чырвоны сцягі. Габрэйскіх паўстанцаў падтрымалі байцы Арміі Краёвай пад камандаваннем маёра Хенрыка Іваньскага. Але што маглі зрабіць слаба ўзброеныя жыхары гета супраць рэгулярнага войска...

8 мая 1943 года немцы захапілі штаб-кватэру ГБА. У ноч з 13 на 14 мая ў небе над Варшавай паказаліся савецкія бамбардзіроўшчыкі, якія скінулі бомбы на казармы войск СС. Падчас бамбардзіроўкі частка паўстанцаў прарвалася з гета. 16 мая нацысты афіцыйна абвясцілі аб заканчэнні акцыі па знішчэнню Варшаўскага гета. Аднак малыя атрады

паўстанцаў змагаліся ў развалінах да ліпеня. Усяго ў баявых дзеяннях загінула каля тысячы абаронцаў гета. Яшчэ 5 тысяч згарэлі ў агні. Немцы, па розных падліках, страцілі некалькі дзясяткаў забітымі і параненымі.

Адзін з удзельнікаў паўстання Арыя Вільнэр пісаў: *«Мы не збіраемся ратаваць сябе. З нас ніхто не выжыве. Мы хочам ўратаваць гонар народа».* Да гэтага цяжка нешта дадаць. Памяць пра тыя падзеі павінна жыць у стагоддзях.

## Лёс салдата Мушынскага

Яўген Мушынскі — самы малады салдат 1-й дывізіі пяхоты Народнага Войска Польскага імя Тадэвуша Касцюшкі. Лёс гэтага чалавека варты экранізацыі ў мастацкім кіно. Лагер смерці, Варшаўскае паўстанне, палітычныя рэпрэсіі.

Нарадзіўся Яўген 23 мая 1935 года ў мястэчку Варшава, якое знаходзіцца ў ЗША (штат Індзіяна). Яго бацька быў навукоўцам і займаўся вывучэннем эміграцыйных працэсаў пасля Першай сусветнай вайны з Еўропы ў Злучаныя Штаты. Дарэчы, як адзначыў у размове сам спадар Яўген, яго хрысцілі ў касцёле Графства Касцюшкі (ёсць у ЗША такое). Напрыканцы 1938 года разам з бацькамі Яўген прыехаў у Кёнігсберг (Усходняя Прусія), дзе сям'я мела буйныя зямельныя ўладанні.

Хутка за грамадзянамі ЗША пачало сачыць гестапа. У кастрычніку 1941 года Мушынскія былі арыштаваныя і хутка пакараныя за «дзяржаўную здраду». Яўген да канца вайны не ведаў пра сумны лёс сваіх бацькоў. Хлопца накіравалі ў адзін з цэнтраў «Лебенсборн» у Бад-Польцын. Перад гэтым ён прайшоў медыцынскі агляд, пры якім нацысцкія ўрачы дакладна вывучылі яго антрапаметрычныя дадзеныя.

У цэнтрах «Лебенсборн» было шмат дзяцей з акупаваных Польшчы і Савецкага Саюзу. Іх выхоўвалі ў германскім духу, прымушаючы забыць сваіх блізкіх.

*«Нямецкую мову я ведаў добра, таму мая германізацыя заключалася ў выхаванні ў мяне адданасці фюрэру, нацысцкай партыі і Рэйху»,* — адзначае спадар Мушынскі.

Хлопец двойчы спрабаваў збегчы, аднак яго лавілі і накіроўвалі ў канцэнтрацыйны лагер Аўшвіц (Асвенцым).

«*Гэта быў іншы свет. Эсэсаўцы здзекаваліся з вязняў, білі іх кіямі. Ночы былі найбольш цяжкім часам, бо менавіта тады шматлікія вязні вар'яцелі*», — расказвае спадар Мушынскі.

Найбольш жудаснай была сустрэча з доктарам Ёзафам Менгеле. Знешне гэты злачынца здаваўся вельмі прыемнай асобай. Дарыў дзецям цукеркі і цацкі, а пазней здзекаваўся з іх. Аднойчы ён сшыў спінамі дзвюх малалетніх ахвяр, каб даследаваць, ці магчыма такім чынам зрабіць сіямскіх блізнят. На самім Яўгене тэставалі дзейнасць новай вакцыны ад тыфу. Пазней хлопец працаваў на адной з фабрык канцэрну «ІГ Фарбен».

У траўні 1944 года Мушынскі быў вызвалены з лагеру. У прыватнай размове палкоўнік прызнаўся, што да сённяшняга дня дакладна не ведае, што паўплывала на рашэнне аб яго вызваленні.

«*Дакладна ведаю, што невядомыя людзі некалькі разоў звярталіся да кіраўніцтва фабрыкі, дзе я працаваў, з просьбай дазволіць мне пакінуць гэтае месца*», — адзначае спадар Яўген.

Магчыма, у справу ўмяшаліся знаёмыя бацькоў Мушынскага. Не выключана, што ад смерці ў газавай камеры хлопца ўратавала тое, што ён нарадзіўся ў ЗША. Вайна падыходзіла да заканчэння, і нацысты шукалі патрэбныя кантакты для ратавання сваіх жыццяў.

Як бы тое ні было, хутка Яўген аказаўся ў Варшаве, а праз некалькі месяцаў пачалося паўстанне. 9-гадовы хлопец стаў сувязным Арміі Краёвай і меў псеўданім «Жук». «*Падчас знаходжання ў лагеры я «прызвычаіўся» да выгляду мёртвых цел. Але тут было ўсё па-іншаму. Былі забітыя. Аднак пасля выбуху людзей разрывала на кавалкі і іх вантробы ляжалі на барыкадах. Сітуацыя ўскладнялася тым, што пад сонцам ўсё гэта пачынала псавацца. Да гэтага дадаваўся смурод падпаленых цел, які я памятаў яшчэ з часоў побыту ў Аўшвіцы*», — успамінае палкоўнік Мушынскі.

Яўген, які вельмі добра валодаў нямецкай мовай, удзельнічаў у допытах салдат вермахта, узятых паўстанцамі

ў палон. Падчас адной з найбольш моцных атак немцаў на Стары горад хлопец... знішчыў нямецкі танк. Хлопцу ўдалося незаўважна падабрацца да «тыгра» і кінуць ў яго «Koктэйль Молатава». 14 жніўня 1944 года за гэты гераічны ўчынак Яўген Мушынскі быў узнагароджаны Крыжам мужных.

Напрыканцы паўстання Яўген разам з іншымі байцамі АК паспрабаваў уратавацца і пераплыў Віслу. На ўсходнім берагу ракі яго сустрэлі салдаты 1-й дывізіі Народнага Войска Польскага імя Тадэвуша Касцюшкі. Хутка былы паўстанец стаў салдатам 3-га пяхотнага палку «касцюшкаўскай» дывізіі.

У студзені–лютым 1945 года дывізія брала ўдзел у баях на Паморскім валу. *«Да нас тады дайшла жудасная навіна. Латышскія фарміраванні СС жыўцом спалілі 35 палонных польскіх жаўнераў з 3-га палку. Жаўнеры-касцюшкаўцы жадалі адпомсціць ворагу за гэта. Нягледзячы на супраціў нацыстаў, нашы часткі хутка ішлі наперад. Я асабіста прымаў удзел у баі за вёску Петцнік. Падчас допыту палонных немцаў я заўважыў, што гэта ўжо не тыя бравыя эсэсманы, якіх я бачыў у Аўшвіцы. Яны ўсяго баяліся і жадалі любым коштам уратаваць свае жыццё»,* — расказвае Мушынскі. Паступова Яўген стаў сваістым талісманам 3-га палку. Яго шанавалі і шараговыя і афіцэры.

У канцы красавіка 1945 года дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі ўдзельнічала ў баях з нямецкімі войскамі ў Шарлотэнбургу. Узброены вінтоўкай Мосіна з аптычным прыцэлам, Мушынскі разам з дарослымі жаўнерамі прымаў удзел у штурме Берліна. 2 мая 1945 года 3-ці польскі пяхотны полк ля Брандэнбургскай брамы спалучыўся з часткамі 8-й савецкай гвардзейскай дывізіі.

Падчас баёў у Берліне капрал Яўген Мушынскі не аднойчы твар у твар сустракаўся з такімі ж, як і ён, дзецьмі — салдатамі вермахту, членамі «Гітлерюгенд». *«У Ціргартэне я параніў аднаго такога. Гэта быў зусім малады хлопец. Я падышоў да яго, трымаючы ППШ перад сабой, а ён раптам заплакаў і крычыць: «Не забівай мяне!» Я не збіраўся ў яго страляць. Праз хвілінку да яго падышлі нашы санітары і пачалі апрацоўваць рану. Хлопцы з «Гітлерюгенд» былі*

*сапраўднымі фанатыкамі. Схаваўшыся ў каналізацыі, ірвах, яны стралялі нам у спіны. Менавіта з-за такіх смаркачоў загінула шмат жаўнераў-касцюшкаўцаў. Гэтыя салдаты прайшлі ўсю вайну і загінулі ад рук дзяцей»*, — расказвае палкоўнік.

Пасля заканчэння баявых дзеянняў Яўгену Мушынскаму прызначылі апекуна. Ім стаў польскі паручнік Station Станіслаў Адамчук, які, нягледзячы на свой малады ўзрост (вайскоўцу было каля 35 гадоў) паспеў паслужыць яшчэ ў даваенным Войску Польскім. У 1948 годзе гэты чалавек быў арыштаваны супрацоўнікамі Міністэрства бяспекі — польскага аналага савецкага НКУС. Разам з апекуном быў арыштаваны і Яўген.

*«Я не разумеў, што адбываецца. Незадоўга да арышту мяне ўзнагародзілі медалём «Заслужаны на поле бітвы». Узнагароду ўручыў камандзір дывізіі. І тут такое»*, — кажа палкоўнік Мушынскі. Хлопца білі, дапытвалі наконт яго апекуна, пыталі, з якой «лясной бандай» яны супрацоўнічалі. Галоўным абвінавачваннем была служба ў Арміі Краёвай падчас Варшаўскага паўстання.

Жах следства працягваўся амаль два гады. Аднойчы Яўгену ўдалося перадаць праз ахоўніка ліст, адрасаваны савецкім афіцэрам, з якімі падчас вайны ён разам удзельнічаў у выведцы. 19 снежня 1948 года Мушынскага выклікалі з камеры з рэчамі і паінфармавалі, што ён вызвалены. На развітанне, адзін з афіцэраў падышоў да хлопца і ціха сказаў: «Не пішыце больш скаргаў у Маскву».

*«А ведаеце, тыя савецкія афіцэры, якія мне дапамаглі, былі беларусамі. Адзін хіба з-пад Мінска. Яны мне на развітанне сказалі: «Яўген, трымай адрас, калі будуць у цябе нейкія праблемы, напішы». Вось я і напісаў. І беларусы мяне выратавалі»*, — усміхаецца палкоўнік.

Пазней Яўген скончыў школу, універсітэт. У Войску Польскім ён даслужыўся да звання палкоўніка, абараніў дысертацыю ў галіне псіхіятрыі. Зараз спадар Мушынскі актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю, выступае з лекцыямі перад моладдзю.

# Спецслужбы Берута супраць памежнікаў

У канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў спецыяльныя органы камуністычнай Польшчы падверглі рэпрэсіям былых супрацоўнікаў выведкі ІІ Рэчы Паспалітай. Асаблівую ўвагу выклікалі афіцэры і жаўнеры Корпусу аховы памежжа (КАП).

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны Польшча апынулася ў сферы геапалітычных інтарэсаў СССР. Новая вертыкаль польскай улады, на чале якой Сталін паставіў Баляслава Берута, а з ёй — і апарат бяспекі (Міністэрства грамадскай бяспекі і Галоўнае ўпраўленне інфармацыі Войска Польскага) былі сфарміраваныя на вобраз і падабенства савецкіх. Больш таго, супрацоўнікі НКУС, а пазней МДБ курыравалі дзейнасць сваіх польскіх калег. У сваю чаргу, галоўнымі ворагамі «народнай улады» станавіліся не толькі байцы польскай падпольнай Арміі Краёвай, але і тыя, хто так ці інакш быў звязаны з даваеннымі структурамі польскай улады, і, безумоўна, супрацоўнікі розных вайсковых службаў.

Асаблівая ўвага надавалася былым польскім памежнікам са Стражы памежнай (ажыццяўлялі ахову мяжы ІІ Рэчы Паспалітай на Захадзе краіны) і «капістаў» (пільнавалі польскія рубяжы на Усходзе). Інтарэс да гэтых структур тлумачыўся яшчэ і тым, што гэтыя службы былі цесна звязаны з даваенным ІІ аддзелам Галоўнага штабу Войска Польскага, ці, працей кажучы, з выведкай. Да таго ж улічвалася, што КАП у міжваеннае дваццацігоддзе праводзіў актыўныя выведвальныя дзеянні супраць СССР і змагаўся супраць савецкіх дыверсантаў на сваёй тэрыторыі. Нарэшце, пад увагу бралася магчымая сувязь «буржуазных» вайскоўцаў з выведкамі заходніх краін, што ва ўмовах «халоднай вайны» адыгрывала важную ролю.

Спецыяльныя органы камуністычнай Польшчы пачалі збіраць інфармацыю аб кожным былым памежніку, што знаходзіўся на тэрыторыі Польшчы. Асабліва скрупулёзна даследавалася мінулае дзеючых вайскоўцах памежных войскаў, а таксама салдат і афіцэраў польскай арміі.

У студзені 1948 года справы ўсіх, хто служыў у памежных структурах, былі згрупаваныя ў Аддзеле па распрацоўцы былых службоўцаў «Двуйкі» і асоб, якія вярталіся з-за мяжы і так ці інакш былі ў кантакце з органамі даваеннай польскай выведкі.

У сакавіку 1952 года кіраўнік органу польскай вайсковай контрвыведкі Галоўнага ўпраўлення інфармацыі Войска Польскага Дзмітры Вазнясенскі выдаў загад аб размеркаванні ўсяго кантынгенту выяўленых асоб, якія супрацоўнічалі з даваеннымі спецыяльнымі службамі, па трох катэгорыях. Першая — тыя, хто прызнаўся ў супрацоўніцтве з «буржуазнымі» органамі бяспекі. Другая — тыя, хто не прызнаўся, але супраць каго былі абвінаваўчыя матэрыялы. Трэцяя — былыя супрацоўнікі «Двуйкі», якія не прызналіся ў супрацоўніцтве і адносна якіх не было сведчанняў супрацы.

Афіцэраў дзеючага войска, што раней служылі ў КАП, звальнялі альбо пераводзілі на менш значныя пасады. Асабліва гэта тычылася Войскаў аховы памежжа — новай структуры, створанай восенню 1945 года. «Былых» шукалі і ў іншых вайсковых структурах. Так, у маі 1952 года да кіраўніка Акружнога аддзелу інфармацыі № IV палкоўніка Мікалая Дыянава прыйшла заява з прапановай аб звальненні з 40-га пяхотнага палка маёра Хенрыка Вавжыновіча. З дакументу вынікала, што афіцэр у 1930-х гадах служыў у батальёне КАП «Няменчын», а пазней нёс службу ў кулямётным узводзе палку КАП «Вільня», і нават карыстаўся з сакрэтнага фонду польскай «Двуйкі» ў горадзе на Віліі. Былога памежніка таксама абвінавачвалі ў тым, што пасля вярбоўкі камуністычнымі спецслужбамі ён «кепска выконваў свае абавязкі».

Памежнікамі займалася спецыяльная персанальная камісія. З 1949 года яе працай кіраваў падпалкоўнік Ігнацы Кракус з Галоўнага інспектарату аховы памежжа. У адным з дакументаў, падрыхтаваных гэтай структурай у верасні 1950 года, сярод іншых згадваўся капітан Раман Бабінскі, які ў 1930-х гадах быў камандзірам памежнай роты «Колкі» 17-га батальёну КАП «Давыд-Гарадок», а затым служыў у брыгадзе КАП «Палессе». Пасля вайны ён перайшоў у памежную

службу ўжо ў Народным Войску Польскім і, зразумела, не мог не прыцягнуць увагу.

У выніку дзейнасці спецыяльнай камісіі ў перыяд з чэрвеня 1949 па красавік 1950 года з шэрагаў Войска аховы памежжа было выдалена 326 афіцэраў, 68 падафіцэраў (з якіх 25 з'яўляліся былымі супрацоўнікамі КАП і Дзяржаўнай паліцыі). Частка з гэтых людзей павінна была быць арыштавана Галоўным упраўленнем інфармацыі Войска Польскага.

У жніўні 1949 года на стол віцэ-міністра грамадскай бяспекі генерала Рамана Рамкоўскага лягла сакрэтная даведка намесніка кіраўніка Галоўнага ўпраўлення інфармацыі Войска Польскага палкоўніка Анатоля Фейгіна з пералікам былых супрацоўнікаў спецыяльных органаў. У спісе між іншых фігуравала прозвішча кіраўніка аддзелу прамысловасці і гандлю ПНР Караля Левандоўскага, які ў далёкім 1933 годзе быў камандзірам узводу батальёну КАП «Валожын». Падчас вайны «капіст» з Заходняй Беларусі ваяваў у польскай арміі на Захадзе, а ў 1947 годзе вярнуўся на радзіму і трапіў у поле зроку камуністычных спецслужбаў.

Здараліся таксама выпадкі, калі былых памежнікаў вербавалі і прымушалі да супрацоўніцтва. Тут варта прывесці прыклад былога афіцэра КАП палкоўніка Ваўжынца Шульца. Ад рэпрэсій яго ўратавала тое, што з 1940 года ён супрацоўнічаў з НКУС. У паваеннай Польшчы былога памежніка выкарыстоўвалі для збору інфармацыі пра саслужыўцаў. Падобны лёс быў і ў ураджэнца Вільні старшага сяржанта Юзафа Рымкевіча, які ў 1930-х гадах праходзіў службу ў 77-м пяхотным палку ў Лідзе, служыў у КАП на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а ў жніўні 1939 года быў пераведзены ў Асавец. Камуністычныя спецслужбы завербавалі яго ў 1947 годзе і, як вынікала са справаздачы, працай ягонай былі задаволеныя.

У перыяд з 1949 па 1955 гады польскае Міністэрства грамадскай бяспекі праводзіла аперацыю пад назвай «Таргавіца», скіраваную на пошук супрацоўнікаў даваеннай выведкі з мэтай выяўлення іх магчымых сувязей з брытанскай «інтэліджэнс сэрвіс». Пры гэтым кожнага былога супрацоўніка Другога аддзелу Галоўнага штабу Войска Польскага грэбліва называлі «двоечнікам». У адным з дакументаў

камуністычных спецслужбаў адзначалася, што *«былыя агенты «Двуйкі» з'яўляюцца рэакцыянерамі, якія варожа ставяцца да існуючай у Польшчы ўлады і, заняўшы пасады ў дзяржаўных і вайсковых органах, могуць праводзіць варожую працу»*.

Як бачым, фармулёўкі быццам бы ўзятыя з дакументаў савецкага НКУС узору сярэдзіны 1930-х гадоў. Асаблівую ўвагу спецслужбы Берута надавалі выкрыццю тых былых супрацоўнікаў «Двуйкі» і КАП, якія дзейнічалі на «ўсходнім напрамку» — займаліся выведкай супраць СССР або служылі ва ўсходніх ваяводствах II Рэчы Паспалітай (у тым ліку Віленскім, Навагрудскім і Палескім).

Падчас правядзення аперацыі «Таргавіца» Міністэрства грамадскай бяспекі ПНР падрыхтавала спецыяльнае выданне «Гісторыя і структура Другога аддзелу», у якім апісваліся ўсе этапы стварэння і дзейнасці польскай даваеннай выведкі, у тым ліку структур КАП у Заходняй Беларусі. Супрацоўнікі МГБ ПНР у Беластоку даволі падрабязна апісалі выведвальную дзейнасць пляцоўкі КАП у Гродна/Сувалках.

У 1951 годзе ў распрацоўцы было 74 былых супрацоўнікі КАП, большасць з якіх да вайны працавала ў выведвальнай Пляцоўцы № 1 у горадзе над Нёманам. Да гэтага варта дадаць, што для выяўлення «буржуазных» памежнікаў камуністычныя спецслужбы карысталіся альбомам, створаным гестапа падчас нямецкай акупацыі Польшчы, у якім былі змешчаны 1200 здымкаў агентаў даваеннай польскай выведкі і спецыяльных структур, у тым ліку і КАП.

Пасля смерці Сталіна і развянчання культу асобы аперацыя «Таргавіца», і ўвогуле дзейнасць польскіх камуністычных спецслужбаў у дачыненні да былых супрацоўнікаў даваенных памежных структур II Рэчы Паспалітай, паступова пачала згортвацца. Аднак яшчэ да канца 1960-х гадоў у распрацоўцы знаходзілася больш за 200 былых афіцэраў і падафіцэраў Корпусу аховы памежжа.

У жніўні 1969 года Трэцім дэпартаментам МУС ПНР была падрыхтавана справаздача, у якой адзначалася, што *«былыя супрацоўнікі «Двуйкі» і КАП не ўяўляюць небяспекі для камуністычнай улады»*. На той момант большасць з былых памежнікаў была ўжо састарэлымі пенсіянерамі.

# Пекла на навагоднім балі

4 студзеня 1946 года ў Мінску адбылося паседжанне Бюро ЦК КП(б)Б. Сярод прысутных быў кіраўнік кампартыі Беларусі Панцеляймон Панамарэнка, начальнік рэспубліканскага НКДБ Лаўрэнцій Цанава, наркам НКУС Беларусі Сяргей Бельчанка і яшчэ 13 адказных супрацоўнікаў. На пасяджэнні абмяркоўвалася пытанне аб масавай гібелі людзей на пажары, які адбыўся напярэдадні ў сталічным клубе дзяржбяспекі.

У канцы снежня 1945-га ў ацалелым падчас вайны і акупацыі будынку на Плошчы Свабоды ў Мінску актыўна рыхтаваліся да навагодняга свята. Была ўсталявана вялікая елка, упрыгожаная гірляндамі і ватай. Але свята ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня правесці не ўдалося. Банальна адсутнічала электрычнасць. Святло абяцалі даць толькі 3 студзеня. На гэты дзень і быў прызначаны баль-маскарад.

Квіткі на баль размяркоўваў гаркам камсамола і іх атрымлівалі выдатнікі вучобы, актывісты, ну і, вядома, дзеці высокапастаўленых чыноўнікаў БССР. Зрэшты, былі і тыя, каму квіток дастаўся, так бы мовіць, па знаёмстве. Лілія Чыжык, выжыўшая ў той трагедыі, успамінала, што запрашальны яна атрымала ад сяброўкі Люсі Рабцэвіч, з якой разам дзяўчына вучылася на першым курсе медінстытута. Бацька Рабцэвіч быў Героем Савецкага Саюза і камендантам Клуба НКДБ. Вось ён і пастараўся, каб дачка пайшла на баль у добрай кампаніі.

У дзень мерапрыемства ўваход у клуб быў строга па запрашальных квітках. Справа ў тым, што ў суседнім крыле будынка працавала камісія па расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых. Падчас акупацыі ў гэтым доме знаходзілася гестапа, увесь архіў якога пасля вызвалення Мінска ў ліпені 1944 года дастаўся савецкім спецыяльным органам. Менавіта з гэтымі нацысцкімі дакументамі і працавалі супрацоўнікі савецкай камісіі. Уваход у гэтую частку будынку быў зачынены і знаходзіўся пад узмоцненай аховай (пасля гэты факт згуляе фатальную ролю

для многіх тых, хто прыйшоў на баль). Акрамя гэтага, у падвале будынка знаходзіліся камеры, у якіх утрымліваліся палонныя немцы, якія знаходзіліся пад следствам.

Перад галоўнай залай на трэцім паверсе быў пакой казак. Гасцей сустракалі Дзед Мароз, Снягурка, зайцы, вавёркі. Усё рабілася дзеля таго, каб моладзь адпачыла ад страшных будняў вайны. Вельмі многае з упрыгожванняў было зроблена з лёгкаўзгаральных матэрыялаў: паперы і ваты. Дый на шматлікіх запрошаных былі маскарадныя касцюмы, зробленыя з марлі і паперы. Усяго ў клубе сабралася больш за 500 чалавек.

У зале іграў духавы аркестр, моладзь танцавала. І вось наступіў доўгачаканы момант, калі на навагодняй ёлцы павінна была запаліцца гірлянда. І яна запалілася. У прамым сэнсе. Ваенны аркестр граў «Стомленае сонца», моладзь была захоплена танцам, і ўспрыняла пранізлівы крык «Пажар!» як чарговы навагодні жарт. Але неўзабаве полымя перакінулася на вялікую постаць Дзеда Мароза, набітую ватай і на іншыя прадметы. Праз некалькі хвілін гарэла ўжо ўсё вакол.

Госці кінуліся да лесвіцы, якая вяла на вуліцу, але і там быў агонь. Відавочцы затым успаміналі, што пажар пачаўся менавіта ў пакоі казак, які быў перад галоўнай залай. Прабіцца праз гэты ахоплены агнём пакой да выратавальнага выхаду было немагчыма, а лесвіца паміж паверхамі была перакрытая зачыненымі жалезнымі дзвярыма.

Адной з тых, хто цудам выжыў у тым пекле, была мінчанка Цыцылія Іонічава. Паводле яе ўспамінаў, першымі да ахопленага агнём клубу НКДБ пад'ехалі не пажарныя, а вайскоўцы і сталі выцягваць скрыні з нацысцкім архівам. Дзяўчына кінулася да дзяжурнага і ўзмалілася аб тым, каб салдаты адкрылі дзверы на лесвіцу. Але ў адказ баец адказаў, што не мае права гэтага рабіць, бо лесвіца звязана з суседнім крылом і салдатам загадана ахоўваць архіў.

Усё памяшканне завалакло з'едлівым жоўтым дымам. Усвядоміўшы, што выйсця няма, мужчыны сталі выбіваць вокны. Выбраўшыся з акна, людзі заўважылі, што ніжні паверх таксама гарыць. Па ўспамінах відавочцаў пашанца-

вала тым, хто скакаў пазней. Яны прызямляліся на трупы, якія ляжалі на зямлі, што змякчыла ўдар. Адна з выжыўшых Алена Дземідовіч ўспаміналала, што з падвала даносіліся жудасныя крыкі па-нямецку. Гэта крычалі арыштаваныя немцы. Алена вырашылася выскачыць з акна. Побач з ёй на ногі прызямлілася іншая дзяўчына і ў яе са скуры выскачылі косткі. На балконе спрабаваў уратавацца ваенны. Ззаду яго было полымя, наперадзе вышыня. Афіцэр глядзеў уніз і бачыў, як разбіваюцца людзі. Праз секунду ён дастаў пісталет з кабуры... Неўзабаве абваліліся перакрыцця трэцяга паверху.

Некаторыя людзі змаглі выратавацца, прабіўшыся праз завалены смеццем чорны ход. Дзверы там былі не зачыненыя. Лілія Чыжык, тая самая, для якой квіток на баль дастаў камендант Клуба НКДБ, уратавалася, выскачыўшы з будынка. Дзяўчыне пашанцавала, і яна не разбілася. Апынуўшыся на вуліцы, яна шукала Люсю Рабцэвіч, але сяброўка не ўратавалася. Пасля таго, як пажар будзе патушаны, на папялішчы бацька знойдзе толькі бранзалет дачкі.

Раніцай на Плошчы Свабоды сталі збірацца людзі. Яны спрабавалі знайсці дзяцей, якіх зберагглі падчас нацысцкай акупацыі, і якія загінулі ўжо ў мірны час. Абгарэлыя целы і рэшткі загінулых выносілі са спаленага будынку і ўкладвалі ўздоўж дарогі. Загінулых было вельмі шмат. Іх складалі ў два рады. Побач хадзілі звар'яцелыя ад бяды людзі і спрабавалі апазнаць па парэштках адзення і абутку сваіх дзяцей.

У тую жудасную ноч у агні загінула некалькі соцень маладых хлопцаў і дзяўчат. 4 студзеня 1946 года ў Мінску адбылося экстраннае пасяджэнне бюро ЦК КП(б)Б, на якім пажар у Клубе НКДБ у Мінску *«аціанілі як «НЗ», якое мае палітычны характар»*. У выніку, сакратару гаркама Горыну і сакратару ЦК ЛКСМБ Зімяніну абвясцілі вымову, а сакратара гаркама па прапагандзе Малочку знялі з пасады.

Дырэктара клуба асудзілі на 6 гадоў турэмнага зняволення, а каменданта Рабцэвіча, хоць і арыштавалі, але неўзабаве выпусцілі. Дачка гэтага чалавека згарэла жыўцом, і таму ўлады палічылі, што ён заплаціў «за халатнасць» спаўна. Адмысловай камісіі было загадана ў самыя кароткія

тэрміны расследаваць усе акалічнасці пажару, выдаць пацярпелым неабходную колькасць абутку і тканіны на аднаўленне гардэроба, а сем'ям загінулых выплаціць аднаразовую дапамогу.

Дакладная колькасць загінулых у тым пажары не ўстаноўлена да сённяшняга дня. Тых, хто разбіўся пры падзенні або памёр ад апёкаў, хавалі ў адзіночных магілах. А ў брацкай магіле на Вайсковых могілках пахавалі дзве вялікія цынкавыя труны з парэшткамі тых, хто згарэў у пажары.

У гэтай страшнай гісторыі да сённяшняга дня шмат не яснага. Чаму адбыўся гэты страшны пажар? Ці стала прычынай трагедыі звычайная халатнасць, або за пажарам нехта стаяў?! Адной з найбольш верагодных версій з'яўляецца наўмысны падпал. Як я ўжо згадваў, у суседнім з клубам крыле будынка знаходзіўся архіў гестапа, у якім, у тым ліку знаходзіліся асабістыя справы агентаў, інфарматараў і памагатых акупантаў. Не ўсе калабаранты і памагатыя нацыстаў збеглі з немцамі на захад. Некаторыя з іх засталіся ў вызваленай Беларусі. Яны ведалі, што будзе, калі праўда з нацысцкага архіва стане вядомая савецкім спецыяльным органам.

Дарэчы, не выключана, што арганізатарам гэтага тэракту дапамагаў нехта ў форме вайскоўца савецкай арміі. Напрыклад, пасля пажару бясследна знік чырвонаармеец Леанід Васільчыкаў, які іграў у аркестры Беларускай вайсковай акругі. Хутчэй за ўсё, ён стаў адной з ахвяр пажару, але цалкам магчыма, што гэты чалавек і быў тым самым тайным падпальшчыкам. На карысць падпалу кажуць і іншыя факты. Напрыклад, тое, што было дзве крыніцы ўзгарання. Нарэшце, у тую трагічную ноч частка пажарных машын раз'ехалася па ілжывых выкліках, і пажар на Плошчы Свабоды тушыць не было каму.

Такім чынам, 3 студзеня 1946 года застанецца адной з найбольш трагічных старонак у гісторыі Мінска і Беларусі.

# Забытая вайна ў беларускім Палессі

Гісторыя дзейнасці атрадаў Украінскіх нацыяналістаў (АУН — УПА) на тэрыторыі Заходняй Украіны падрабязна даследавана на постсавецкай прасторы. Стаўленне да гэтых ваенізаваных фарміраванняў неадназначнае. Ва Украіне іх называюць змагарамі за незалежнасць, у Польшчы — бандытамі і злачынцамі, у Расіі — фашысцкімі «прыхваснямі». Архіўныя дакументы сведчаць, што атрады ўкраінскіх нацыяналістаў з канца 1930-х і да сярэдзіны 1950-х гадоў актыўна дзейнічалі на тэрыторыі паўднёвых абласцей Беларусі.

Украінцы пачалі ствараць свае палітычныя і вайсковыя структуры на Брэстчыне і Піншчыне яшчэ ў 1930-х, калі ўвесь палескі рэгіён знаходзіўся ў складзе адной дзяржавы — ІІ Рэчы Паспалітай. Пасля далучэння Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да СССР у верасні 1939 года ўкраінскія арганізацыі працягвалі актыўна дзейнічаць на тэрыторыі паўднёва-заходніх абласцей БССР. Савецкія рэпрэсіўныя органы займаліся ў асноўным «польскім кантынгентам», таму ўкраінскія нацыяналісты атрымалі некаторы карт-бланш. Дарэчы, у 1940 годзе на тэрыторыі Брэсцкай вобласці дзейнічала 60 украінскіх школ.

У час Вялікай Айчыннай вайны паўднёвыя раёны Беларусі, акупаваныя нацыстамі, былі ўключаныя ў рэйхкамісарыят «Украіна», што справакавала ўсплёск актыўнасці аунаўцаў на беларускай тэрыторыі. Напрыклад, у адной з разведзводак НКУС БССР за жнівень 1941 года, у прыватнасці, адзначалася, што *«украінскія нацыяналісты сумесна з нямецкімі акупантамі праводзілі сярод насельніцтва Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці контррэвалюцыйную агітацыю за самасційную Украіну»*.

У 1941 годзе адзін з лідараў украінскіх нацыяналістаў і кіраўнік «Палескай сечы» Тарас Баравец (Тарас Бульба) прысвоіў сваім ваенізаваным фармаванням назву — Украінская паўстанцкая армія (УПА). У жніўні таго ж 1941-га атрады УПА (каля 10 тысяч) сумесна з падраздзяленнямі Беларускай Самаахovы (БСА) (5 тысяч) правялі «зачыстку» Палесся

ад «акружэнцаў». Тады ў палескіх балотах адбывалася па сутнасці грамадзянская вайна, у якой немцы часцяком былі толькі назіральнікамі. Пад Мазыром украінскія і беларускія фарміраванні злучыліся, утварыўшы своеасаблівы «крывавы палескі кацёл».

Да моманту вызвалення БССР ад нацысцкай акупацыі ў 1944 года на поўнач ад Буга дзейнічалі значныя сілы АУН, аб'яднаныя Брэсцкім акруговым провадам пад кодавай назвай «Крычаўскі». У 1948 годзе гэтую структуру перайменавалі ў Беларускі акруговы провад «Ніва», які да 1952-га аб'ядноўваў 3 надраённыя провады: Брэсцкі, Кобрынскі і Пінскі. Акрамя тэрытарыяльных звёнаў АУН на тэрыторыі Брэсцкай, Пінскай і Палескай абласцей БССР у 1944 годзе знаходзіліся падпарадкаваныя ім узброеныя фарміраванні УПА. Усяго да лета 1944 года на тэрыторыі Беларусі фарміраванні АУН — УПА налічвалі прыкладна 12–14 тысяч чалавек. У адной толькі Брэсцкай вобласці ў 1944 годзе дзейнічала 120 невялікіх атрадаў АУН — УПА (па 7–10 чалавек у кожным).

Пасля вызвалення Беларусі ўкраінскія партызаны зрабілі стаўку на ваенныя аперацыі супраць частак савецкай арміі, унутраных войскаў, тэрытарыяльных органаў НКУС і НКДБ, савецкага партактыву. Найбольш інтэнсіўна на тэрыторыі БССР дзейнічалі атрады Дворкі, Ярмака, Канапелькі, Артэмчука, Юшчыка, Саўчука і інш. Атрады УПА актыўна займаліся распаўсюджваннем улётак і розных заклікаў да насельніцтва. На думку некаторых беларускіх даследчыкаў, агітацыйныя матэрыялы друкаваліся ў Пінску. Дарэчы, улёткі распаўсюджваліся не толькі ў вёсках, але і ў гарадах, напрыклад, Іванава і Драгічыне. Тэксты заклікаў у асноўным друкаваліся на ўкраінскай мове, але сустракаліся ўлёткі і на рускай.

Барацьба з украінскім нацыяналістычным падполлем на беларускай тэрыторыі расцягнулася практычна на 10 гадоў. У перыяд з 1944 па 1946 гады УПА здзейсніла на тэрыторыі Савецкай Беларусі 2384 дыверсіі і тэракты, у выніку якіх загінула 1012 чалавек. Адной з гучных акцый, праведзеных украінскімі нацыяналістамі, быў падрыў у Пінску гарадскога клуба, у якім праходзіў партыйны сход. У выніку гэтага

тэракту загінула значная колькасць савецкіх вайскоўцаў, партработнікаў і грамадзянскіх асоб. У сакавіку 1949 года атрад УПА сумесна з падраздзяленнямі беларускіх нацыяналістаў здзейсніў напад на будынкі дзяржустаноў у Гайнаўцы. Некаторыя ўкраінскія атрады даходзілі нават да Навагрудка. Сакратары райкамаў адпраўлялі ў Мінск просьбы аб узмацненні вайсковых гарнізонаў у гарадах і мястэчках, матывуючы гэта небяспекай нападу на іх арганізаваных і добра падрыхтаваных украінскіх нацыяналістаў.

У савецкі час пра гэта не прынята было пісаць, але немалаважным фактарам у дзейнасці УПА на тэрыторыі заходніх абласцей БССР была падтрымка гэтых фарміраванняў з боку мясцовага насельніцтва. Многія даследчыкі падкрэсліваюць, што без спачування з боку насельніцтва ўкраінскія атрады не змаглі б эфектыўна функцыянаваць на працягу 10 гадоў. Да таго ж падраздзяленні УПА папаўняліся не толькі асобамі ўкраінскай нацыянальнасці, але і беларусамі, якія ратаваліся ў лясах ад мабілізацыі ў савецкую армію.

Для барацьбы з украінскімі нацыяналістамі на тэрыторыі БССР савецкія органы ўжывалі «чэкісцка-вайсковыя» аперацыі. Напрыклад, у ходзе спецаперацыі, што доўжылася з 15 студзеня па 20 лютага 1945 года, былі праведзены ператрусы 48 799 падворкаў, прачасаны 12 тысяч квадратных кіламетраў лясоў і балот, у выніку чаго было разгромлена 33 узброеныя групы, забіта 98 і арыштавана 3808 чалавек. Усяго з ліпеня 1944 па лістапад 1945 года НКУС БССР знішчыў 3320 украінскіх нацыяналістаў. Акрамя гэтага, было затрымана і арыштавана 97 607 чалавек, сярод якіх былі як баевікі, так і грамадзянскія асобы. Апошніх, часцей за ўсё, цэлымі сем'ямі вывозілі ў Сібір. Так, савецкая ўлада спрабавала пазбавіць украінскіх паўстанцаў падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва. Эфектыўнымі былі аперацыі па стварэнні ілжэантысавецкіх атрадаў і груп. Напрыклад, у 1945 годзе невялікая ілжэаунаўская група, створаная НКУС БССР у Пінскім раёне, увайшла ў давер і знішчыла два буйныя атрады УПА пад кіраўніцтвам Трэчуна і Грэчкі.

У красавіку 1947 года ў Іванаўскім раёне Пінскай вобласці НКУС знішчыў штаб Пінскага надраённага провада АУН,

пры гэтым было арыштавана 160 удзельнікаў нацыяналістычнага падполля. У траўні–чэрвені 1948 года ў Маларыцкім раёне Брэсцкай вобласці спецгрупай НКДБ быў ліквідаваны буйны атрад УПА. У тым жа 1948 годзе ў Жабінкаўскім раёне Брэсцкай вобласці аператыўна-вайсковая група НКУС БССР знішчыла Брэсцкі надраённы провад АУН. У чэрвені 1949-га быў ліквідаваны штаб Кобрынскага надраённага провада АУН.

Пры гэтым падчас аперацыі былі забіты надраённы праваднік Шах, праваднік па Кобрынскім раёне Ярмак (дарэчы, былы камандзір савецкага партызанскага атрада, які перайшоў на бок нацыяналістаў), праваднік па Дзівінскім раёне Дварко, кіраўнік жаночай секцыі акруговага провада Аксана, а таксама сувязны з Львова. Па ўспамінах мясцовых жыхароў, хутар, на якім праходзіла нарада кіраўнікоў штаба надраённага провада, быў аточаны падраздзяленнямі ўнутраных войскаў. Бой працягваўся некалькі гадзін. Затым хата была падпаленая, і кіраўнікі УПА, якія знаходзіліся там, загінулі ў агні. Апошняя ўкраінская партызанская група была ліквідаваная ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці ў 1952 года.

Вось некаторыя факты з гісторыі дзейнасці падраздзяленняў АУН — УПА на тэрыторыі паўднёвых абласцей БССР у 1930–1950 гадах. Варта адзначыць, што пры вывучэнні тых падзей нельга дапускаць аднабаковыя ацэнкі. Асноўнай мэтай барацьбы байцоў АУН — УПА было стварэнне незалежнай украінскай дзяржавы. Дзеля гэтага нацыяналісты не спыняліся ні перад чым. Іх ахвярамі на тэрыторыі БССР часам станавіліся не толькі савецкія вайскоўцы, супрацоўнікі НКУС або дзяржслужачыя, але і мірныя жыхары.

З іншага боку, многія беларускія сяляне часта падтрымлівалі байцоў Украінскай паўстанцкай арміі ў іх антыфашысцкай і антысавецкай барацьбе. Такая падтрымка УПА з боку беларусаў тлумачылася тым, што занадта жорстка праходзіла саветызацыя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У любым выпадку, эпізоды той невядомай палескай вайны заслугоўваюць глыбокага і ўсебаковага вывучэння і асэнсавання.

# Забойца з Дамачава

У 1999 годзе брытанскія газеты стракацелі інфармацыяй пра гучны судовы працэс над былым нацысцкім злачынцам з Беларусі Андрэем Саванюком. Неўзабаве ў Брэст для збору неабходнай для следства інфармацыі адправіліся агенты Скотланд-Ярда. Брытанцы цесна супрацоўнічалі з беларускай пракуратурай.

Нарадзіўся Андрэй Саванюк 7 сакавіка 1921 года ў маленькім курортным мястэчку Дамачава, Палескага ваяводства II Рэчы Паспалітай. Хлопец рос без бацькі, маці была прачкай. Андрэй займаўся нарыхтоўкай дроў, падпрацоўваў у хатах багатых габрэяў. У верасні 1939 года Заходняя Беларусь стала савецкай. Але ўжо праз два гады на змену бальшавікам прыйшлі нацысты, якія адразу ж узяліся за арганізацыю мясцовай паліцыі парадку.

20-гадовы Саванюк адным з першых запісаўся ў паліцаі. Яму вельмі хацелася ўлады. А яшчэ ён хацеў помсціць за сваё жабрацкае дзяцінства. Апрануўшы новенькі сіні мундзір былой польскай паліцыі, Саванюк стаў верным служкам нацыстаў. І хутка мясцовае беларускае насельніцтва ўсвядоміла, што побач з імі жыў сапраўдны звер.

1 лістапада 1941 года немцы стварылі ў раёне Дамачава габрэйскае гета, у якое сагналі каля трох тысяч чалавек з усёй акругі. Мясцовыя жыхары спрабавалі патрапіць туды, каб выменяць прадукты на рэчы. Адным з тых, хто часта лазіў праз калючы дрот, быў Аляксандр Баглай. Аднойчы яго злавіў «Андруша» (так Саванюка, які паспеў стаць камендантам паліцыі, называлі мясцовыя жыхары). Паліцэйскі прывёў Баглая ў пастарунак і сказаў: «Пойдзеш на пясок». На пясчаны ўзгорак за пасёлкам паліцыя вадзіла людзей на расстрэл.

Але хлопцу пашанцавала. Паліцыянты толькі загадалі затрыманаму беларусу выкапаць ямы для двух габрэйскіх мужчын і жанчыны, якіх неўзабаве прывялі да месца экзекуцыі. Няшчасным загадалі распрануцца дагала. Жанчына адмовілася зняць адзенне, тады яе пачалі збіваць. Усе трое былі забіты. «Андруша» абмацаў вопратку пакараных

і, нічога не знайшоўшы, шпурнуў яе Баглаю. «*Яшчэ раз злаўлю ў гета, будзеш ляжаць побач з гэтымі*», — прыгразіў Саванюк.

Іншы сведка, Іван Сцепанюк, успамінаў, што аднойчы паліцэйскія на чале з Саванюком злавілі некалькі габрэяў, якія пазбеглі адпраўкі ў гета. Іх таксама расстралялі за пасёлкам.

20 верасня 1942 года ўсім габрэям, якія знаходзіліся ў Дамачаўскім гета, было загадана ўзяць з сабой самае неабходнае і сабрацца на цэнтральнай плошчы пасёлка. Потым усіх іх пагналі «на пясок». Па розных дадзеных, тады было знішчана каля 3 тысяч чалавек. Актыўны ўдзел у экзекуцыі прымаў і камендант паліцыі Саванюк.

Але некаторым габрэям удалося збегчы. Адным з тых, хто ўратаваўся тады, быў Бэн-Зіён Блюштайн. Паводле яго ўспамінаў, Саванюк арганізаваў аблаву на ўратаваўшыхся габрэяў. На вачах Блюштайна, які хаваўся на гарышчы закінутага дома, «Андруша» закалоў штыком 80-гадовага габрэя і расстраляў з пісталета некалькі дзяцей.

У 1943 годзе на Дамачава здзейснілі налёт савецкія партызаны. Падчас бою была забітая жонка Саванюка Ганна Маслава, але сам ён ацалеў. Улетку 1944 года, калі савецкія войскі набліжаліся да Брэста, разам са сваёй другой жонкай Нінай паліцай збег на Захад і ўступіў у 30-ю дывізію СС. Гэта фарміраванне паспела крыху паваяваць на захадзе. Аднак салдаты з 30-й дывізіі пры любым зручным выпадку імкнуліся здавацца ў палон амерыканцам. Менавіта гэта зрабіў і Андрэй Саванюк. Аднойчы, убачыўшы амерыканскі патруль, былы паліцэйскі з Дамачава выкінуў вінтоўку і рушыў у бок янкі.

«German», — паклікалі яго амерыканскія салдаты. «Nie, ja Polak, jestem z Polski», — закрычаў Саванюк па-польску. Да «Андрушы» падышоў амерыканскі салдат і загаварыў з ім на польскай мове, правяраючы, ці не хлусіць той. Гады жыцця ў «панскай» Польшчы дазволілі Саванюку авалодаць гэтай мовай, якая, як аказалася, выратавала яму жыццё.

Неўзабаве Саванюка адправілі ў месца дыслакацыі польскай арміі генерала Андэрса. Хутка «Андруша» быў залічаны ў 10-ы полк 2-га польскага корпуса. Пасля вайны

былы паліцай з Дамачава прадбачліва адмовіўся ад вяртання ў сацыялістычную Польшчу і з'ехаў на Туманны Альбіён. Некаторы час ён знаходзіўся ў лагеры для польскіх вайскоўцаў у Шатландыі, а ў 1946 годзе атрымаў права застацца ў Вялікабрытаніі.

На Туманным Альбіёне Андрэй стаў Энтані. Спачатку былы паліцай жыў на Поўдні Англіі, а ў 1954 годзе пераехаў у Лондан, дзе ўладкаваўся білетным кантралёрам на Брытанскай жалезнай дарозе. У Вялікабрытаніі ён яшчэ двойчы быў жанаты.

Аднак на радзіме пра Саванюка не забыліся. У 1946 годзе КДБ СССР пачаў расследаванне злачынстваў нацыстаў у Дамачава і выйшаў на след у тым ліку Саванюка, якога аб'явілі ва ўсесаюзны вышук.

Супрацоўнікі КДБ ездзілі па Брэстчыне, збіраючы інфармацыю аб сваяках злачынца. Праца па справе № 1065 не спынялася ні на хвіліну. У руках чэкістаў апынуўся нейкі Казлоўскі, былы паліцай, які служыў разам з Саванюком. Той прызнаўся, што бачыў свайго былога начальніка ў Егіпце ў форме польскага вайскоўцы. Па словах Казлоўскага, пасля гэтага Саванюк выехаў у Шатландыю. Праверыць гэтую версію было не магчыма.

У 1959 годзе Саванюк адправіў ліст разам з пасылкай свайму малодшаму брату Мікалаю. Карэспандэнцыя была перахоплена КДБ, і хутка савецкія спецорганы дакладна ведалі, што «Андруша» хаваецца ў Вялікабрытаніі. У 1981 годзе ў рукі КДБ патрапіў ліст іншага ўраджэнца Брэстчыны па прозвішчы Андрасюк, у якім той пісаў сваёй сястры, што ў Лондане выпадкова сутыкнуўся тварам у твар з Саванюком.

Праз пяць гадоў, у 1986 годзе, КДБ СССР перадаў брытанцам спіс ваенных злачынцаў перыяду Другой сусветнай вайны, якіх шукалі савецкія ўлады. Аднак у тэксце дакумента прозвішча паліцая з Дамачава было напісана ў англійскай транскрыпцыі «Savoniuk», а злачынец выкарыстаў польскае напісанне свайго прозвішча «Sawoniuk», да таго ж у КДБ шукалі Андрэя Саванюка, а ў Лондане, як мы памятаем, жыў ужо Энтані Саванюк.

Усё ж праз 10 гадоў брытанская паліцыя выйшла на след нацысцкага злачынца. Падчасператрусу ў доме Саванюка ў 1996 годзе былі выяўлены польскія дакументы, выдадзеныя ў арміі Андэрса на імя Андрэя Саванюка.

Першы ў гісторыі брытанскага правасуддзя судовы працэс над нацысцкім злачынцам адбыўся ў 1999 годзе. Яго асвятлялі ўсе брытанскія СМІ. Збіраючы доказы па гэтай справе, афіцэры Скотланд-Ярда наведалі Беларусь, Галандыю, Расію, Ізраіль. У Лондан на працэс ездзілі Аляксандр Баглай, Іван Сцепанюк, Бэн-Зіён Блюштайн і многія іншыя сведкі злачынстваў Андрэя Саванюка.

У красавіку 1999 года Брытанскі суд прызнаў былога паліцая з Дамачава вінаватым у 18 забойствах, а таксама ва ўдзеле ў знішчэнні габрэяў і прысудзіў Андрэя Саванюка да двух пажыццёвых тэрмінаў. 78-гадовы (на той момант) Саванюк быў змешчаны ў турму ў Норыджы, дзе і памёр 6 лістапада 2005 года.

# Хто паляваў на савецкіх афіцэраў у Бабруйску?

Заканчэнне Айчыннай вайны суправаджалася ўсплёскам злачыннасці. Пасля сталінскай амністыі на волю з лагераў выйшлі тысячы крымінальнікаў. Таксама ў розныя банды сцякаліся былыя паліцаі і дэзерціраў. Не стаў выключэннем і Бабруйск.

Яшчэ ў чэрвені 1944 года на стол Сталіну лёг даклад Берыі, у якім, у прыватнасці, паведамлялася, што ў Бабруйску ў лютым 1944-га быў створаны «Саюз барацьбы супраць бальшавізму» (СБСБ). У яго задачы ўваходзіла барацьба з партызанамі, арганізацыя ўзброеных атрадаў, стварэнне так званых «абарончых вёсак», вядзенне агітацыйнай і прапагандысцкай працы.

У Маскве, безумоўна, ведалі, што на чале СБСБ стаяў заўзяты антыкамуніст Міхаіл Актан (сапраўднае прозвішча Натко). Гэта быў былы салдат РККА, які восенню 1941-га

перайшоў на бок немцаў. Служыў у 612-й роце прапаганды пры 2-й нямецкай танкавай арміі. У 1942 годзе быў завербаваны СД у якасці агента. Пазней стаў рэдактарам нацысцкай газеты «Речь». У ліпені 1943-га выехаў з рэдакцыяй у Бабруйск.

Кіраўнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху Панцеляймон Панамарэнка ацэньваў дзейнасць Міхаіла Актана як вельмі небяспечную ў ідэалагічным плане. Па дадзеных ЦШПР, Актан узначальваў Бабруйскае абласное аддзяленне СБСБ, якое па сваёй сутнасці адыгрывала ролю фактычнага Цэнтральнага камітэта гэтай пранацысцкіх арганізацыі.

Дзякуючы Актану-Натко СБСБ стаў радыкальна антысеміцкай арганізацыяй і разгарнуў актыўную прапагандысцкую дзейнасць. Эмблемай «Саюза барацьбы супраць бальшавізму» быў абраны Георгій Перамоганосец і Георгіеўскі крыж. Буйной акцыяй СБСБ стала адкрыццё дзіцячага прытулку на 700 дзяцей. 1 красавіка 1944 года было абвешчана пра стварэнне «добраахвотніцкіх ахоўных дружын», у якія пад уплывам прапаганды досыць актыўна ўступалі байцы і камандзіры раскватараваных у раёне Бабруйска ўсходніх батальёнаў. 5 мая 1944 года на зборы прапагандыстаў «народных дружын СБСБ» Міхаіл Актан выступіў з праграмнай прамовай.

Усю гэтую калабарацыйную валтузню давялося спешна згарнуць пасля распачатай летам 1944-га савецкай наступальнай аперацыі «Баграціён». 29 чэрвеня 1944 года быў вызвалены Бабруйск. Некаторым рускім нацыяналістам удалося збегчы на захад. Па адной інфармацыі, Актан-Натко быў схоплены чырвонаармейцамі ў вызваленым Бабруйску і расстраляны. Па другой, яму ўсё ж удалося ўратавацца. Большасць сяброў СБСБ падалася ў лясы.

У жніўні 1945-га ў Бабруйску адбыўся ўрачысты парад савецкіх войскаў. Здавалася, што гора пакінула гэтыя мясціны назаўсёды. Але хутка з Бабруйска ў Мінск паляцелі паведамленні аб частых нападах на афіцэраў і вайскоўцаў савецкай арміі. Невядомыя злачынцы высочвалі вайскоўцаў і, па-зверску расправіўшыся з імі, забіралі іх ваенную форму, асабістыя рэчы, дакументы і ўзнагароды. У МДБ меркавалі,

што ім давядзецца сустрэць актыўны супраціў розных антысавецкіх элементаў на захадзе Беларусі, але мала хто думаў, што і на ўсходзе рэспублікі будзе неспакойна.

У кастрычніку 1946 года са службовым заданнем у Бабруйск быў накіраваны франтавік, капітан-артылерыст, намеснік начальніка артылерыйскага складу № 3452 у Баранавічах Аляксандр Прэз. Гэты чалавек пачаў вайсковую службу яшчэ задоўга да вайны на артылерыйскім палігоне ў Крупках. У 1938 годзе ён цудам пазбег арышту па даносе аб «утойванні кулацкага паходжання». У чэрвені 1941 года Аляксандр Іосіфавіч удзельнічаў у эвакуацыі палігона. Потым было адступленне. Узімку 1941-га браў удзел у абароне Масквы, за што быў узнагароджаны двума ордэнамі «Чырвонай Зоркі» і медалём «За абарону Масквы». У баях ва Усходняй Прусіі ў 1944 годзе быў паранены. Вайну скончыў у Кёнігсбергу.

У кастрычніцкія дні 1946 года капітан Прэз прыбыў у Бабруйск разам з салдатам суправаджэння. Горад быў практычна ўвесь разбураны. На начлег вайскоўцы спыніліся ў адным з ацалелых прыватных дамоў. На наступны дзень, выканаўшы заданне камандавання, капітан адпусціў байца, а сам зайшоў у афіцэрскую сталовую.

Бліжэй да вечара салдат, занепакоены адсутнасцю афіцэра, забіў трывогу. Цела капітана Прэза знайшлі ў руінах аднаго з бабруйскіх дамоў. Следства паказала, што афіцэр быў забіты стрэлам у твар. Нападаючыя забралі форму, асабістыя і службовыя дакументы, грошы і ўзнагароды.

Жонка забітага Ніна Пятроўна Герасько пасля ўспамінала, што следчы ваеннай пракуратуры, які займаўся справай аб забойстве капітана Аляксандра Прэза, паведаміў ёй, што гэта быў ужо не першы выпадак нападу на савецкіх афіцэраў у Бабруйску. За некалькі гадзін да трагедыі капітана бачылі ў сталовай у кампаніі невядомага малодшага афіцэра.

Інфармацыя аб дзейнасці арганізаванай банды з былых паліцаяў пад Бабруйскам не на жарт насцярожыла савецкія спецыяльныя органы. З Масквы ў Мінск прыйшоў загад аб пачатку высылкі з Бабруйскай вобласці (такая існавала ў пе-

рыяд з 1944 па 1954 гады) сем'яў тых, хто ў час вайны служыў немцам. Не забыліся і пра ўдзельнікаў «Саюза барацьбы супраць бальшавізму», якіх, паводле інфармацыі МДБ, было нямала ў бабруйскіх лясах. Міністр унутраных спраў БССР Сяргей Бельчанка крычаў на сваіх падначаленых: «*У Заходняй Беларусі ёсць умовы для існавання бандфармаванняў, асабліва нацыяналістычнага кшталту. А тут узброеная банда дзейнічае ў былым партызанскім раёне. Даю вам пару дзён для прыняцця рашэння аб спосабах ліквідацыі гэтых бандытаў*».

Былі здагадкі, што банда на самай справе з'яўлялася створаным немцамі атрадам для правядзення арганізаваных дыверсій у тыле савецкіх войскаў. А гэта азначала, што міліцыі і вайскоўцам супрацьстаялі не звычайныя крымінальнікі, а добра падрыхтаваныя дыверсанты.

Падчас аперацыі па дэпартацыі сем'яў былых паліцаяў у рукі МДБ БССР трапіў сваяк аднаго з кіраўнікоў банды. Гэтага чалавека ўдалося завербаваць і накіраваць у лес з заданнем вывесці МДБ на бандытаў. Прыкрыццём для «крата» была легенда пра тое, што ён збег ад міліцыі падчас аперацыі па высылцы. Неўзабаве агент апынуўся ў атрадзе бабруйскіх «лясных братоў».

У выніку агент «Сваяк» навёў супрацоўнікаў савецкіх спецыяльных органаў на тайны прытулак бандытаў. Бой з імі быў жорсткі. Пасля следчы ваеннай пракуратуры раскажа жонцы капітана Прэза, што кіраўнікі банды адстрэльваліся да апошняга патрона. Ім удалося параніць некалькіх салдатаў унутраных войскаў, але ў выніку ўсе яны былі знішчаны. Пры бандытах былі знойдзены дакументы на імя забітых імі савецкіх афіцэраў, дый апранутыя злачынцы былі ў афіцэрскую форму, знятую, па ўсёй бачнасці, з іх ахвяр.

Цела капітана Аляксандра Іосіфавіча Прэза даставілі ў Баранавічы і пахавалі ў брацкай магіле ў цэнтры горада. Пасля камандзіроўкі з Бабруйска Прэз павінен быў атрымаць маёрскія пагоны. Прадстаўленне на прысваенне чарговага звання ўжо ляжала ў штабе.

# Гісторыя міліцыянера Георгія Дзям'янава

Георгій Фядотавіч Дзям'янаў, міліцыянер-франтавік, адзін з тых, хто ўдзельнічаў у барацьбе супраць «лясных братоў» на Бабруйшчыне.

Нарадзіўся Георгій Дзям'янаў у 1924 годзе ў вёсцы Бярэзнякі, Варонежскай вобласці ў сям'і сялян. Пасля заканчэння школы ў 1939 годзе працаваў ён на суднарамонтным заводзе ў Марыупалі. Калі амаль адразу пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз завод эвакуявалі на Усход, Дзям'янаў вярнуўся ў родную вёску і працаваў у калгасе. У адзін з дзён 1942 года Георгій пайшоў да ваенкома і дабіўся залічэння ў Чырвоную Армію. Увечары таго ж дня навабранцаў пагрузілі ў эшалоны і накіравалі на фронт.

На нейкай станцыі Арлоўскай вобласці цягнік спыніўся, і камандзір эшалона загадаў разгружацца. «*Я быў залічаны ў 1-ю гвардзейскую стралковую дывізію Паўднёва-Заходняга фронту, якой камандаваў генерал-лейтэнант Іван Русіянаў. Гэта вайсковая частка паўстала на базе 100-й дывізіі, якая з 26 па 30 чэрвеня 1941 года змагалася з нямецкімі войскамі на подступах да Мінску. Большасць байцоў і камандзіраў 1-й гвардзейскай былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі*», — пісаў ва ўспамінах Дзям'янаў.

Ужо на наступны дзень маладыя салдаты прынялі прысягу і былі размеркаваныя па ротах. Георгій трапіў у 2-гі ўзвод 5-й роты 7-га стралковага палка. «*На ўзвод тады прыходзілася два аўтаматчыкі, адзін кулямётчык, а астатнія атрымлівалі вінтоўкі Мосіна і СВТ. У чэрвені 1942 года полк, у якім я служыў, быў перакінуты пад Курск*», — успамінаў Дзям'янаў. Там пачалася Варонежска-Варашылаўградская аперацыя.

Георгій Фядотавіч узгадваў: «*Баі былі жорсткімі. На гэтым участку фронту немцы супраць нас увялі ў бой значную колькасць бронетэхнікі. Населеныя пункты пераходзілі з рук у рукі. З танкамі змагаліся, як і ў 1941-м, з дапамогай «кактэйляў Молатава».*

11 ліпеня 1942 года Дзем'янаў удзельнічаў у баях за Белы Калодзеж, дзе полк, у якім ён ваяваў, атрымаў загад выбіць ворага з населенага пункта. У той дзень Георгій быў цяжка паранены, куля выбіла вока. Побач з сяржантам ляжаў і паранены ў нагу палітрук роты. Не доўга думаючы, Дзям'янаў закінуў лейтэнанта на сябе і выцягнуў з поля бою. Пазней абодвух накіравалі ў вайсковы шпіталь № 1648 у Пензе, дзе хірургі зрабілі Дзям'янаву складаную аперацыю. Пасля выпіскі варонежскага хлопца прызналі не годным да страявой і камісавалі.

Дзям'янаў пайшоў працаваць на шахту № 6 пасёлка Вузлавая, Маскоўскай вобласці. Аднак ужо праз паўгода Георгій нечакана атрымаў позву з ваенкамата і хутка адправіўся ў распараджэнне НКУС на пасаду ўчастковага-ўпаўнаважанага. «*Значная колькасць супрацоўнікаў міліцыі знаходзілася на фронце, і асабісты склад органаў міліцыі папаўнялі за кошт былых параненых франтавікоў*», — адзначаў у сваіх успамінах Георгій Дзям'янаў. Праз 5 месяцаў яго накіравалі ў Маскву. У сталіцу тады прыехала некалькі соцень міліцыянераў з перыферыі. З імі правялі інструктаж і агучылі загад, у якім адзначалася, што ўсе яны накіроўваюцца ў вызваленыя з-пад нямецкай акупацыі раёны БССР. Так Дзям'янаў трапіў у Магілёўскую вобласць.

Сітуацыя там была вельмі складанай. Фронт быў зусім блізка. Міліцыянерам прыходзілася адшукваць дэзерціраў. Так, у вёсцы Пачэпы Георгій Фядотавіч затрымаў трох узброеных уцекачоў з Чырвонай Арміі. А пасля правядзення аперацыі «Баграціён» міліцыю выкарыстоўвалі для пошуку нямецкіх салдат і афіцэраў, якія хаваліся ў лясах.

30 чэрвеня 1944 года Дзям'янава адправілі ў Клічаўскі раён. «*Разам са мной прыехалі начальнік раённага аддзела НКУС старшы лейтэнант Фількін, оперупаўнаважаны лейтэнант Ларыёнаў і яшчэ 8 участковых-упаўнаважаных. Хутка склад клічаўскай міліцыі папоўніўся за кошт былых партызанаў. Мяне накіравалі на ўчастак Бацэвічы–Усохі–Заполле. Гэта быў адзін з найбольш цяжкіх раёнаў*», — пісаў Георгій Фядотавіч.

Падчас акупацыі шмат жыхароў Клічаўшчыны пайшлі служыць у паліцыю. Некаторыя з іх удзельнічалі ў карных аперацыях. Было шмат і тых, хто працаваў у акупацыйнай адміністрацыі. Сітуацыя ўскладнялася і тым, што падчас акупацыі ў Бабруйску знаходзілася вялікая колькасць рускіх батальёнаў, вайсковых частак, створаных нацыстамі дзеля барацьбы супраць савецкіх войск. Пасля вызвалення гэтых тэрыторый значная колькасць уласаўцаў падалася ў лясы. Ад Саветаў таксама хаваліся і звычайныя сяляне, якія былі супраць калектывізацыі.

Амаль адразу пасля вызвалення гэтых тэрыторый ад немцаў савецкія ўлады пачалі вяртацца да калгаснай сістэмы. Так, Клічаўскі райвыканкам прыняў рашэнне сілай канфіскоўваць быдла, сельскагаспадарчыя прылады працы і насенне ў тых, хто адмаўляўся ўсё гэта перадаць у калгас. Для выканання гэтага распараджэння выкарыстоўваліся ўчастковыя міліцыянеры. Нарэшце, варта падкрэсліць, што ў клічаўскіх лясах у гады вайны была савецкая партызанская зона. Там захаваліся зямлянкі, бліндажы і іншая неабходная дляляснога жыцця інфраструктура. Такім чынам, на Клічаўшчыне была сацыяльная база і спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення антысавецкіх фарміраванняў.

У 1944 годзе вакол былога супрацоўніка нацысцкай адміністрацыі Аляксандра Аношкі сабралася некалькі дзясяткаў былых паліцаяў, уласаўцаў і іншых незадаволеных савецкай уладай. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, падчас вайны гэты чалавек адказваў за адпраўку беларускай моладзі ў Германію. Акрамя гэтага, Аношка здаў гестапа некалькі сямей партызанаў. Намеснікам Аношкі быў былы паліцэйскі Іван Шэх (па мянушцы Жук). Іх атрад дзейнічаў у Клічаўскім, Кіраўскім, Бярэзінскім, Асіповіцкім, Быхаўскім раёнах.

Першая сустрэча ўпаўнаважанага Дзям'янава з клічаўскімі «ляснымі братамі» адбылася ля вёскі Орлін. Выйшаўшы з будынку сельсавету, міліцыянер накіраваўся да хаты, дзе жыла сям'я былога паліцэйскага. Аднак нечакана з лесу паказаліся ўзброеныя людзі, і адзін з іх пачаў страляць з аўтамата. Дзям'янаў быў лёгка паранены ў нагу. Былы франтавік

тут жа схапіў свой ППШ і агнём у адказ не дазволіў нападаўшым наблізіцца да сябе.

Наогул, госці з лесу распачалі сапраўднае паляванне на супрацоўнікаў савецкага дзяржапарату, былых партызан і іх сямейнікаў. Жонка Дзям'янава Ганна Кірылаўна разам з толькі што народжанай дачкой вымушана была амаль кожны дзень змяняць месца начлегу, таму што заставацца на адным месцы было рызыкоўна. Аднойчы «лясныя браты» паспрабавалі нават падпаліць вёску, калі даведаліся, што ў ёй знаходзяцца міліцыянеры, што прыехалі з Бабруйску.

*«Для барацьбы з «ляснымі братамі» была створана адмысловая аператыўная група на чале з кіраўніком аддзелу барацьбы з бандытызмам МУС БССР палкоўнікам Аляксеем Гранскім. У аперацыі, акрамя супрацоўнікаў МДБ і міліцыі, прымалі ўдзел і падраздзяленні савецкай арміі. Быў распрацаваны план па ўкараненні ў банду агента, які павінен быў прывесці «лясных братоў» у засаду міліцыі. У рукі МУС трапіў былы настаўнік па прозвішчы Тоўсцік, які падчас нямецкай акупацыі быў старастам адной з вёсак. Аказалася, што гэты чалавек з'яўляецца сваяком няўлоўнага Аляксандра Аношкі», — успамінаў Дзям'янаў. Тоўсціка прымусілі пайсці на супрацу з МУС і хутка адправілі ў атрад. Былы настаўнік праз спецыяльныя схованкі пакідаў дадзеныя для міліцыі. «Я асабіста некалькі разоў хадзіў на сустрэчу з Тоўсцікам», —* пісаў Дзям'янаў.

Нарэшце ў маі 1948 года міліцыі ўдалося арганізаваць пастку для Аношкі, у якую той і трапіў. Аношку і некалькі яго сяброў удалося ўзяць жывымі. Іншых знішчылі ў зямлянках. Прысуд для Аношкі і яго паплечнікаў быў аднолькавым: 25 гадоў зняволення.

За праведзеную супраць клічаўскіх «лясных братоў» аперацыю Георгій Фядотавіч Дзям'янаў быў узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. У верасні 1949 года Клічаўскі ваенком палкоўнік Магераў адправіў камандаванню Беларускай вайсковай акругі прадстаўленне на лейтэнанта міліцыі Дзям'янава з хадайніцтвам аб узнагароджанні Ордэнам Айчыннай вайны другой ступені. Аднак пазней міліцыянеру ўручылі Ордэн Чырвонай Зоркі.

У 1960 годзе Георгій Фядотавіч па стану здароўя быў адпраўлены на пенсію. Цяжкае раненне ў вока і ваенныя выпрабаванні ўсё часцей нагадвалі пра сябе, і ў 1978 годзе Дзям'янава не стала.

# Халоднае лета 1953-га

27 сакавіка 1953 года, у адпаведнасці з указам савецкіх уладаў, з лагераў і калоній было вызвалена каля 1,2 мільёна чалавек. Гэта амністыя справакавала ўсплёск злачыннасці ў СССР.

У сакавіку 1953-га міністр унутраных спраў СССР Лаўрэнцій Берыя накіраваў Маленкову сакрэтную запіску, у якой, у прыватнасці, адзначалася, што *«ўтрыманне вялікай колькасці зняволеных у лагерах, турмах і калоніях не выклікана дзяржаўнай неабходнасцю»*.

Берыя адзначаў, што з 2,5 мільёна вязняў ГУЛАГу толькі 220 тысяч чалавек з'яўляюцца асабліва небяспечнымі дзяржаўнымі злачынцамі. Акрамя гэтага, міністр падкрэсліваў, што *«імклівы рост колькасці зняволеных выкліканы тым, што ў 1947 годзе былі прынятыя ўказы аб узмацненні крымінальнай адказнасці за крадзяжы»*. У выніку да 1 студзеня 1953 года ў лагерах апынулася 1 241 919 злодзеяў і раскрадальнікаў дзяржаўнай маёмасці, як у асабліва буйных, так і ў асабліва дробных памерах. У апошнім выпадку гаворка ішла аб даведзеных да адчаю савецкіх грамадзянах, асуджаных па так званых артыкулах «аб каласках».

У месцах зняволення знаходзілася каля паўмільёна жанчын, з якіх 6286 цяжарных і 35 505 з дзецьмі ва ўзросце да двух гадоў. Акрамя гэтага, зняволенымі ГУЛАГу былі 238 000 пажылых людзей, а таксама 31 181 непаўналетні.

У выніку, Берыя прапанаваў удвая скараціць тэрмін пакарання асуджаным больш чым на 5 гадоў, вызваліць жанчын, якія маюць дзяцей да 10 гадоў, цяжарных жанчын, непаўналетніх (да 18 гадоў), пажылых і цяжка хворых людзей. З указа быў выкраслены абзац: *«Не прымяняць амністыю да*

*ваенных злачынцаў з ліку былых ваеннапалонных».* У выніку гэтага магчымасць выйсці на свабоду атрымалі многія былыя «лясныя браты» з Прыбалтыкі, Украіны і Беларусі.

Амністыя не распаўсюджвалася на асабліва небяспечных дзяржаўных злачынцаў, асуджаных за бандытызм, наўмыснае забойства, контррэвалюцыйныя злачынствы і за крадзяжы сацыялістычнай маёмасці ў асабліва буйных памерах. Асуджаныя па палітычным 58-м артыкуле таксама пад амністыю не падпадалі.

27 сакавіка праект указа быў аднагалосна ўхвалены на пасяджэнні Прэзідыума ЦК КПСС і хутка ўступіў у сілу. На волю меркавалася выпусціць 1 203 421 чалавека, а таксама спыніць следчыя справы ў дачыненні да 401 120 грамадзян.

Адным з «птушанят Берыі» (так называлі, па аналогіі з адпушчанымі ў часы Керынскага, вызваленых па амністыі 1953-га) быў ураджэнец Пастаўскага раёна, Маладзечанскай вобласці БССР Вацлаў Палюлян. У жніўні 1948 года Народны суд Пастаўскага раёна прысудзіў 28-гадовага жыхара вёскі Рамашковічы да 10 гадоў пазбаўлення волі за дапамогу ў здзяйсненні забойства. Хутчэй за ўсё, хлопец нейкім чынам быў звязаны з польскім падполлем, якое дзейнічала на Пастаўшчыне.

Вацлаў Палюлян атрымаў максімальныя 10 гадоў пазбаўлення волі, з якіх ён адсядзеў толькі палову. У даведцы 8-БС, выдадзенай Палюляну 24 ліпеня 1953 года, у прыватнасці, адзначалася, што асуджаны «*адбываў пакаранне ў месцах зняволення МУС па ліпень 1953 года, пасля адбыцця тэрміну з ужываннем указа ад 27 сакавіка 1953 года вызвалены і вяртаецца да абранага месца жыхарства, а менавіта ў Маладзечанскую вобласць, Пастаўскі раён, горад Паставы*». Лагернае кіраўніцтва забяспечыла Палюляна білетам і адправіла дадому.

14 красавіка 1953 года Берыя і Молатаў прапанавалі вызваліць усіх замежнікаў, што падпадалі пад амністыю. У выніку савецкія спецорганы перагледзелі судовыя прысуды ў дачыненні да 41 551 замежнага грамадзяніна, у тым ліку 18 393 ваеннапалонных. Датэрмінова з месцаў зняволення было вызвалена 16 574 замежніка.

Разам са звычайнымі грамадзянамі ў 1953 годзе на волю выйшлі і крымінальнікі. Крымінагенная абстаноўка ў Савецкім Саюзе ўскладнілася да крытычнага ўзроўню. Міліцыя не спраўлялася з разгулам злачыннасці.

Былы супрацоўнік Міністэрства юстыцыі СССР Надзея Куршава ўзгадвала, што ў чэрвені 1953 года сталіца Бурат-Мангольскай ССР Улан-Удэ стала сапраўднай «гарачай кропкай». Горад з'яўляўся фактычна перавалачным цэнтрам, дзе сыходзіліся ўсе шляхі з Калымы і Магадана і, што самае страшнае, з Унутранай Манголіі. Гэта была не савецкая і не мангольская тэрыторыя, а адмысловы раён Кітая, у якім на пачатку 1950-х знаходзілася некалькі лагераў, дзе ўтрымліваліся забойцы, асабліва небяспечныя рэцыдывісты і рабаўнікі. Частка гэтых людзей выйшла на свабоду ўлетку 1953 года. Для большасці з іх чыгуначны вузел Улан-Удэ быў першым горадам на іх шляху.

У другой палове чэрвеня пачаўся беспрэцэдэнтны рост злачыннасці ў горадзе. Усе дзяржаўныя ўстановы былі пераведзены на казарменнае становішча. У Міністэрстве юстыцыі ў кабінетах былі ўсталяваныя раскладанкі, на якіх спалі супрацоўнікі. Вокны першага паверха былі закладзеныя мяшкамі з пяском, і ўстаноўлены кулямёты. Будынак пастаянна ахоўвалі аўтаматчыкі. Некалькі самых небяспечных дзён Міністэрства юстыцыі жыло практычна ў аблозе.

Ва Улан-Удэ пачаліся масавыя забойствы грамадзян. Міліцыя не спраўлялася з такім усплёскам злачыннасці: калі супрацоўнікі і хадзілі ў форме, то толькі групамі і са зброяй. Па раніцах на вуліцах збіралі трупы абрабаваных і забітых ноччу.

Адзінае, што маглі зрабіць улады, — гэта заклікаць грамадзян па радыётрансляцыі не выходзіць на вуліцу, забарыкадаваць дзверы і вокны. Дапамагала гэта мала. Крымінальнікі разрабавалі ўсе крамы, рэстараны і іншыя прадпрыемствы грамадскага харчавання. Становішча было крытычным.

І партыйныя арганізацыі, і мясцовая ўлада, і міліцыя, і вайскоўцы апынуліся непадрыхтаванымі да фактычнага захопу горада бандытамі. Ва Улан-Удэ былі перакінутыя рэгулярныя часткі савецкай арміі з Чыты, іншых гарадоў

і рэгіёнаў. Дзеянне ўказа аб непрымяненні смяротнага пакарання да злачынцаў было фактычна прыпынена, і некалькі дзён у горадзе ні днём, ні ноччу не змаўкала аўтаматная і кулямётная стральба. Бандытаў расстрэльвалі на вуліцах без суда і следства.

Падобныя падзеі адбываліся тады і пад Казанню. У адну з начэй ліпеня 1953 года курсантаў ваеннага вучылішча паднялі па трывозе, выдалі зброю, боепрыпасы і даставілі на паўстанак, размешчаны побач з горадам. Як аказалася, там спыніўся грузавы цягнік, у якім было больш за тысячу амніставаных крымінальнікаў. Адчуўшы свабоду, тыя вырваліся з таварных вагонаў і разбегліся па пасёлку, здзяйсняючы масавыя рабаванні, разбоі, згвалтаванні, забойствы.

Вайскоўцы і курсанты разам з міліцыянерамі атачылі пасёлак і загналі амніставаных у вагоны. Некаторых расстралялі пры аказанні супраціву. Былі ахвяры і сярод вайскоўцаў. Такія выпадкі адбываліся практычна па ўсёй краіне. У сувязі з сітуацыяй 2 ліпеня 1953 года Прэзідыум ЦК КПСС ухваліў праект Указа «Аб непрымяненні амністыі да асоб, асуджаных за разбой і злодзеяў-рэцыдывістаў».

Сёння большасць даследчыкаў падкрэслівае, што амністыя 1953 года, нягледзячы на ўсе негатыўныя яе наступствы, усё ж мела свае пазітыўныя бакі, перш за ўсё таму, што яна стала выратаваннем для многіх тысяч бязвінна асуджаных савецкіх грамадзян.

А што ж Вацлаў Палюлян? Праз пяць месяцаў пасля вызвалення з лагеру, 18 снежня 1953 года, на падставе выдадзенай у лагеры даведкі 8-БС ён атрымаў савецкі пашпарт. Дарэчы, у новым дакуменце жыхар тагачаснай Маладзечанскай вобласці БССР на ўсялякі выпадак запісаўся беларусам.

# Змест

З кагорты свабодных ........ 5
Ад аўтара ........ 7

ЧАСТКА 1. За польскім часам...
Юзаф Пілсудскі і Беларусь. Нешаблонны погляд ........ 11
Неабвешчаная вайна 1920-х гадоў у Заходняй Беларусі ........ 15
Напад на Стоўбцы ........ 18
Мяжа была пад Мінскам ........ 20
Коласава. Мястэчка на мяжы цывілізацый ........ 24
Забытая місія Корпусу аховы памежжа ........ 28
Закладнікі пашпартызацыі ........ 32
Дзе трымалі грошы жыхары Заходняй Беларусі ........ 37
У пошуках шчасця ........ 40
Футбол на «крэсах» ........ 44
«Нясвіжская казка» Альбрэхта Радзівіла ........ 48
Мінскі сябар Пілсудскага ........ 51
Палескі Джэймс Бонд ........ 56
Будаўніцтва 1920-х на «крэсах» ........ 61
Заходнебеларускі фэшн ........ 64
«Нёман». Гісторыя матацыкла ........ 68
Польскае радыё ў Заходняй Беларусі ........ 72
Шляхецкі маёнтак у люстэрку часу ........ 75
Таямніцы Белавежскага Бельведэра ........ 79
З гісторыі Пінскай гімназіі ........ 83
Дзённік «філосафа» Рыбалтоўскага ........ 89
Гісторыя каваля, які стаў «капаўцам» ........ 92
Салдат дзвюх армій ........ 96
Золата гаспадароў Баркоўшыны ........ 100
Лёс беларускага селяніна ........ 103
Вялікія камбінатары Заходняй Беларусі ........ 107
Заходнебеларуская мафія ........ 110
«Боні і Клайд» з «крэсаў» ........ 114

Мамзэлі і сутэнёры міжваеннай Польшчы ..... 118
Кантрабанда ..... 122
Трагічны лёс рарытэтаў ..... 127
Паўстанне Каліноўскага — нагода для гонару ..... 131
Польскія каланіяльныя мары ..... 135
Як з беларусаў рабілі палякаў ..... 139

ЧАСТКА 2. Час выпрабаванняў
«Лом» — дыверсійная аперацыя польскай выведкі ..... 149
Манеўры, якія затрымалі вайну ..... 153
План «W». Абараніць «крэсы» ..... 157
Бітва пад Млавай ..... 161
Верасень 1939-га. Забытая абарона Брэсцкай крэпасці ..... 164
Кобрын. Невядомая абарона 1939-га ..... 173
Гераізм асуджаных ..... 180
Кодзеўцы. Кавалерысты супраць танкаў ..... 184
Вытычна. Апошні бой памежнікаў ..... 188
Вялікія дні малога флоту ..... 191
Прыгоды падводнай лодкі «Арол» ..... 196
Трагедыя сцяга з «Пагоняй» ..... 199
Паляванне на крылатых «Ласёў» ..... 202
«Чырвоныя Зоркі» над Заходняй Беларуссю ..... 208
Крэпасці, якіх баяўся Сталін ..... 215

ЧАСТКА 3. Немагчыма забыць
Забойствы жыхароў Заходняй Беларусі
у верасні 1939 года ..... 221
Нясвіжскія трагедыі ..... 225
НКУС супраць Радзівілаў ..... 231
Гісторыя Януша Радзівіла ..... 234
Трагедыя апошніх гаспадароў Ружан ..... 238
Галоўны ляснічы Рэчы Паспалітай ..... 243
Катынь. Беларускі спіс ..... 247
Трагедыя ў Пяціхатках ..... 256
«Арганізуйце ў маім маёнтку калгас» ..... 261
Падзяляй і пануй ..... 264
Куды зніклі грошы Банка Польскага
ў Заходняй Беларусі? ..... 270
Паляванне на архіў «Двуйкі» ..... 276
Рыжская мяжа як зона загароды ..... 280
1941 год: дэпартацыя пад бомбамі ..... 284
Таямніца савецкага «замежнага легіёну» ..... 288
Сібірская Галгофа салдатаў генерала Андэрса ..... 296

Марш смерці ........ 301
Выехаць нельга застацца ........ 304

ЧАСТКА 4. Невядомыя старонкі беларускай мінуўшчыны
1812 год. Выбар генерала Касцюшкі ........ 311
Флора — каханне Адама ........ 315
«Мяняю ваша каханне на жыццё гэтых дурных «палякаў» ........ 318
Пад знакам «Віціса» ........ 322
Забыты корпус забытага генерала ........ 326
Польска-французскі бліцкрыг пад Бабруйскам ........ 336
Янкі супраць конніцы Будзённага ........ 340
Таямніца польскага палону ........ 344
Трагедыя бальшавіцкага палону ........ 347
Інкубатар для рэвалюцыі ........ 351
1938 год. Трагедыя палякаў у БССР ........ 356
Геній польскай выведкі з Віленшчыны ........ 359
Трагедыя суперагента «Жмудзіна» ........ 363
Споведзь савецкага партызана ........ 370
План «Вострая Брама»: вызваліць Вільню ........ 373
Яны не захацелі быць паслухмянымі рабамі ........ 377
Лёс салдата Мушынскага ........ 381
Спецслужбы Берута супраць памежнікаў ........ 385
Пекла на навагоднім балі ........ 389
Забытая вайна ў беларускім Палессі ........ 393
Забойца з Дамачава ........ 397
Хто паляваў на савецкіх афіцэраў у Бабруйску? ........ 400
Гісторыя міліцыянера Георгія Дзям'янава ........ 404
Халоднае лета 1953-га ........ 408

*Навукова-папулярнае выданне*

*Мельнікаў Ігар*

**Заходнебеларуская Атлантыда**
**1921–1941 гг.**

2-е выданне, дапрацаванае

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар *Аксана Колб*
Карэктар *Святлана Цітова*
Вёрстка *Вольга Антонава*
Дызайн *Вольга Антонава*

Фотаздымкі з калекцыі аўтара
і з сямейнага альбома Д. Няміра-Канецкай

Падпісана ў друк 06.04.2015.
Фармат 84x108 1/32. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Myriad Pro. Ум. друк. арк. 22,47. Ул.-выд. арк. 19,76.
Наклад 500 ас. Заказ № 673.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства «Галіяфы».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі,
выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ 03.10.2013 г. за № 1/48.
Вул. Валгаградская, 4А, 26, 220023, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru.
www.galiafy.by

Друк УП «Прамбытсэрвіс».
Пасведчанне №2/73 от 19.03.14.
г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 14, оф. 203.

Ігар Вячаслававіч Мельнікаў нарадзіўся ў красавіку 1980 года ў Бабруйску. Кандыдат гістарычных навук (Беларусь), магістр Варшаўскага ўніверсітэта (Польшча). Аўтар больш за 100 навуковых і публіцыстычных артыкулаў у айчынных і замежных выданнях. Спецыялізуецца па вайсковай гісторыі XX стагоддзя.




ISBN 9789857021758
9 789857 021758



ВЫДАВЕЦТВА
ГАЛІЯФЫ